# Алесь САВІЦКІ

## Выбраныя творы ў двух тамах

ТОМ 1

**ЖАНЧЫНА**
Раман

**КЕДРЫ ГЛЯДЗЯЦЬ НА МОРА**
Аповесць



МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1985

Бел 2
С 13

**Савіцкі А.**

С 13 Выбраныя творы: У 2-х т. Т. 1. Жанчына: раман; Кедры глядзяць на мора: аповесць. [Прадм. І. Шамякіна].— Мн.: Маст. літ., 1985.— 472 с., 1 л. партр.

У пер.: 2 р. 20 к.

У рамане «Жанчына» і аповесці «Кедры глядзяць на мора», якая, дарэчы, з'явілася ў выніку паездак пісьменніка на будаўніцтва Брацкай ГЭС, аўтар узнімае шэраг маральна-этычных праблем, малюе нетрадыцыйны вобраз нашага сучасніка, чалавека актыўнай грамадзянскай пазіцыі.

С $\frac{4702120200-009}{М\ 302(05)-85}$ 124—85

**ББК 84Бел7**
**Бел2**

© Прадмова. Афармленне. Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1985.

# АД БЕРАГОЎ ДЗВІНЫ

У пасляваеннай беларускай прозе творы Алеся Савіцкага займаюць сваё асобнае адметнае месца. Са старонак яго кніг перад чытачом паўстаюць людзі, якія вызначаюцца гуманна-актыўным стаўленнем да жыцця, моцныя духам, загартаваныя, бескампрамісныя і адданыя сваёй справе.

Вельмі пастаянны пісьменнік і ў геаграфічнай «прапісцы» сваіх герояў. У раманах, аповесцях і апавяданнях падзеі разгортваюцца ў азёрна-лясным кутку Беларусі, на маляўнічым падзвінні. Выключэннем, здаецца, з'яўляецца толькі аповесць «Кедры глядзяць на мора». Аднак жа галоўны герой яе Пятрусь Каваль адсюль, з прыдзвінскага краю, і яму, маладому шафёру, які працуе на будаўніцтве Брацкай ГЭС, часцей ад усяго прыходзіць у сны родная Дзвіна, ля якой ён нарадзіўся і правёў сваё маленства, і ён тут, на беразе славутай Ангары, ля Падунскіх парогаў чуе пошум дзвінскай хвалі.

Гэтую акалічнасць сам пісьменнік у сваіх аўтабіяграфічных нататках «Сінія хвалі Дзвіны» тлумачыць наступным чынам: «Дзвіна прайшла праз усё маё жыццё. Дзіцячыя гульні, першае каханне, першы боль, першая крыўда, першая, свядомая ўжо, нянавісць, першы партызанскі бой — усё пачыналася там. З акна школьнага будынка, дзе я пачынаў вучыцца, быў відзён толькі крайчык Дзвіны, якраз у тым месцы, дзе сінеў полацкі бор. Тады ён здаваўся аграмадным, неабдымным, і мне ўсё карцела прайсці яго ўвесь, зазірнуць за зялёны зубчык лесу, убачыць, што там, у той далечы за павароткам ракі...»

У той зваблівай далечы быў пачатак нялёгкай і складанай жыццёвай дарогі, менавіта там, за тым павароткам ракі, у сасновым бары, дзе пралегла чыгунка на Полацк, зімой сорак другога года семнаццацігадовы падрыўнік партызанскага атрада «Смерць фашызму» Алесь Савіцкі быў паранены. Потым ён будзе паранены другі раз, праз год, і яшчэ трэці раз, у сорак чацвёртым, ужо салдатам трэцяга Сталінградскага танкавага корпуса ў цяжкіх баях пад Шаўляем. Але менавіта там, у бары па левы бок Дзвіны, пачалося спасціжэнне адной з найвялікшых мудрасцей жыццёвых: чалавек нараджаецца для жыцця, і ў ім, у жыцці, чалавек павінен быць мужным.

Шмат пазней, пасля вайны ўжо, Алесь Савіцкі, вярнуўшыся пасля дэмабілізацыі з Берліна ў свой родны Полацк, гэтую выснову паставіць у эпіграф рамана «Жанчына»:

«Чалавек павінен быць мужным.

Мужным у горы — тады гора робіцца меншае.

Мужным у бядзе — тады бяда ніколі не возьме верх над чалавекам.

Мужным у радасці — тады чалавек не забудзе падзяліцца радасцю з сваім сябрам.

Толькі мужны дасягае мэты. Толькі яму адкрыта вялікая асалода змагання і перамогі».

І ў гэтым рамане, і асабліва ў аповесці «Пасля паводкі» пісьменнік імкнецца да філасофскага даследавання мужнасці чалавека як не проста формы паводзін ці пэўнай якасці характару, але, галоўным чынам, як якасці сацыяльнай, якая бярэ вытокі ў разуменні чалавекам асабістай адказнасці перад сваім народам, перад сваёй Бацькаўшчынаю.

Высокія духоўныя памкненні галоўнага героя гэтай аповесці Васіля Лоўгача, які жыве ў невялічкім горадзе, што стаіць на беразе Дзвіны,— Лоўгач працуе радавым рабочым, а потым узначальвае зелянгас — грунтуюцца на ўсведамленні таго, што чалавек не можа быць па-сапраўднаму шчаслівы ў сваім уласным, няхай сабе нават вельмі ўтульным дамку. Даўняя мара яго партызанскага сябра — бачыць вуліцы і плошчы роднага горада ў зяляніне прыгожых дрэў, яркіх кветак — робіцца сэнсам жыцця Лоўгача. З гэтай марою гінулі ў змаганні з ворагам мужныя народныя мсціўцы, і яе ажыццяўляюць жывыя, тыя, хто прыйшоў на папялішчы вызваленага ад фашысцкай погані горада. Пісьменнік стварае ў аповесці запамінальныя вобразы людзей, чыёй стараннай працаю расцвілі ружы ў прыдзвінскіх парках, узняліся на беразе Дзвіны маладыя клёны і бярозы, паўсталі на былых папялішчах новыя светлыя гмахі.

Эстафету гэтай самаадданай працы потым прыме ў аповесці «Самы высокі паверх» — у 1972 годзе гэтая аповесць і іншыя творы А. Савіцкага аб моладзі адзначаны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі — пакаленне маладых будаўнікоў. Іх праца, сумленная і шчырая, запатрабуе гэткай жа, калі не большай, мужнасці, запатрабуе таму, што побач з тым светлым, што стваралі працавітыя рабочыя рукі, гнездавалася за высокімі і шчыльнымі парканамі скнарніцтва і чэрствасць, пагарда да людзей, мяшчанскі побыт. Яшчэ ў тыя гады, першыя гады аднаўлення на зруйнаванай вайной зямлі, пісьменнік выявіў шкодны для грамадства тып людзей бездухоўных, прыстасаванцаў, якія здольны разбурыць у чалавеку ўсё святое дзеля свае ўласнае выгоды. Спажывецкія адносіны да

жыцця яднаюць Марфу і Сцяпана з аповесці «Пасля паводкі», Чумака з аповесці «Кедры глядзяць на мора», Віктара Зубка з аповесці «Самы высокі паверх» у даволі распаўсюджанае ў наш час племя абывацеляў, што моліцца аднаму богу — капейцы ў сваёй уласнай кішэні, уласнай выгодзе, дзеля якой яно, гэтае племя, аніколі анічога анікому не саступіць. Але яно, гэтае племя, хоць часцяком нават і наступае, паводзіць сябе ваяўніча, спекулюючы высокімі словамі і паняццямі, будучыні ў нашым грамадстве не мае, яно асуджана таму, што супрацьстаіць яму — і гэта даволі пераканаўча А. Савіцкі паказвае ў сваіх лепшых творах — мужнасць будаўнікоў сапраўднага чалавечага шчасця. «І цяпер дакладна ведаю,— гаворыць адзін з галоўных герояў аповесці «Самы высокі паверх» Лявон Бугрым,— што ў нашым будзённым жыцці, у нашай паўсядзённай працы заўжды трэба быць шчырым і мужным. Інакш нельга. Калі ты быў шчыры і мужны ў дробязі сёння — заўтра ты будзеш шчыры і мужны ў вялікім. Сёння ты не збаяўся, смела выступіў супраць няпраўды і бруду, сказаў смела тое, што думаў, і мужна бараніў свае думкі — заўтра за гэта ўдвая больш будзеш паважаць сябе і ўтрая больш будуць паважаць цябе людзі. Сёння ты дапамог сябру ці зусім незнаёмаму чалавеку — заўтра адчуеш, што гатовы на высокі і мужны подзвіг. Сёння ты скінуў з дарогі камень, што замінаў людзям ісці, заўтра табе захочацца будаваць новую трасу».

Пісьменніку шчасціла на сустрэчы з гэткімі шчырымі і мужнымі працаўнікамі. Ён сустракаў іх у лясах Расоншчыны і Асвейшчыны, дзе працавалі лесарубы падзвіння, нарыхтоўваючы драўніну для новабудоўляў і Беларусі і іншых гарадоў краіны, гутарыў з імі на палях Ветрыншчыны, дзе засявалі мірным зернем аблогу яго былыя партызанскія паплечнікі. Потым, памяняўшы карэспандэнцкае пасведчанне супрацоўніка абласной газеты ў Полацку на білет студэнта Маскоўскага літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага і затым аспіранта, скалясіў нямала дарог ля Амура і Байкала, па пыльных стэпах Хакасіі і Мінусінска і быў захоплены незвычайнай прыгажосцю далёкіх мясцін, веліччу таго, што стварылі і ствараюць на савецкай зямлі рукі сумленных і шчырых працаўнікоў. Не выпадкова таму ў пераважнай большасці твораў пісьменніка ў першы перыяд яго творчасці галоўным героем быў чалавек працы, яго нялёгкія пошукі і змаганне за сапраўднае і вялікае чалавечае шчасце. У 1980 годзе дакументальная аповесць А. Савіцкага «След пракладае першы» — кніга пра Героя Сацыялістычнай Працы сталявара Мінскага аўтазавода Дзмітрыя Барашкіна — на Усесаюзным конкурсе на лепшы твор мастацкай прозы аб сучасным рабочым класе была адзначана прэміяй ВЦСПС і Саюза пісьменнікаў СССР.

На першы погляд, можа, і дзіўна, што чалавек, які на свае

уласныя вочы бачыў усё тое жахлівае, што тоіць у сабе кароткае слова вайна, які прайшоў шлях ад берагоў Дзвіны да Берліна і пакінуў свой аўтограф на рэйхстагу, амаль два дзесяцігоддзі не пісаў пра тыя векапомныя дні. Калі быць абсалютна дакладным, дык адзін твор усё-ткі быў ім напісаны — апавяданне «Зялёнае поле», якое змешчана ў зборніку апавяданняў «Белы гарлачык», што выйшаў з друку ў 1965 годзе. Але зноў жа, не аб баях гэты твор, а пра тое, што адбываецца на лапіне калгаснага поля. Поле гэтае ля Дзвіны, па той бок ракі — гравійка, па якой адступаюць гітлераўцы. Франтавая кананада ўжо грыміць зусім блізка, а тут, на полі, камандзір падрыўной групы Антон Стрыжок засявае пры святле ветаха толькі што ўзараную раллю, засявае ніву, якая паліта крывёю была неаднойчы, а цяпер будзе каласіцца пад мірным ужо небам. Скончана праца, і вынікі яе больш важкія за тую сотню куль, якую Антон мог кінуць у ноч, туды, на дарогу, па якой пруцца ў сваё логава акупанты: гэтая праца дасць жыццё мірнаму дню, дасць хлеб людзям. І баявому падрыўніку, які ўпарціўся гэтае працы напачатку, хоць і ведаў, што гэта не прыхамаць камандзіра партызанскага атрада, а строгі загад райкома партыі, раптоўна адкрываецца вялікая сутнасць зробленага ім і яго сябрамі тут, на полі, пад самым носам у ворага. Вось ён сядзіць на ўскрайку ўробленага поля, чуе пах поту і нечакана дзівіцца, што гэты едкі пах ідзе ад яго ўласнай кашулі. Нейкі час Антон сядзіць, не мяняючы паставы, здзіўлены і ўражаны не гэтым адкрыццём, а тым, што ўбачылася яму ў цьмянай прасторы ночы, калі ён павярнуўся. У дрогкім месячыкавым святле, што было разліта наўкола па зямлі, трава на ўзмежку выдавала зялёнай, бліскучай, дымнай, і Антону на нейкі міг уявілася, што там, за ўзмежкам, за тымі лазнякамі, дзе ён нядаўна сыпаў зерне, няма чорнай раллі, а дрыжыць у белавата-сінім мроіве знаёмая далеч зялёнага зарачанскага поля, таго поля, аб якім ён спяваў у лесе ля вогнішча:

Зялёнае поле...
Зялёнае поле!
Зялёнае поле,
Чаго ж ты шуміш?

Тэма Вялікай Айчыннай вайны, тэма гераізму савецкага народа ў гады барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы трывала ўваходзіць у творчасць А. Савіцкага пасля выхаду ў свет першага рамана аб вайне «Верай і праўдай». Сам пісьменнік гэтак тлумачыць той факт, што не адразу падступіўся да гэтай складанай і адказнай тэмы. «Пісаць, седзячы далёка ад тых месц, дзе ляжаць партызанскія сцежкі, цяжка. Але, убачыўшы іх, зірнуўшы на тыя лясы, на тую зямлю, дзе кожная выспачка паліта партызанскай крывёю, дзе ў кожным

бары вечным сном спяць народныя мсціўцы, я не магу быць спакойны, вочы засціла смуга, і даўняя туга цісне сэрца. Спрабаваў сесці і пісаць. Мроіліся, стаялі перад вачыма, як жывыя, і тыя людзі, і тыя турботныя дні, і стукала ў скронях кроў, нібыта зноў лез з аўтаматам па лясных завалах да чыгункі...»

Пераадолеўшы гэты псіхалагічны — зусім натуральны бар'ер! — падагуліўшы ўласны вопыт, усё тое, што было ўбачана і перажыта ў дні вайны, пісьменнік у 1983 годзе завяршыў працу над трылогіяй пра адну з самых яркіх і цяжкіх старонак у гісторыі нашай дзяржавы. Трылогія складаецца з раманаў «Верай і праўдай», «Літасці не чакай», «Памерці заўсёды паспееш». У цэнтры трылогіі — сям'я старога рабочага-палачаніна Елісея Крупні, даволі тыповая для нашага грамадства сям'я, і чытач знаёміцца з ёю таксама ў даволі тыповай з'яве даваеннага жыцця: у бацькоўскім доме, на сямейнай урачыстасці — ваенную Акадэмію Елісееў Ягор скончыў! — сабраліся амаль усе. Захар — дырэктар школы, Пахом — майстар на ліцейна-механічным заводзе, Ціхан — сакратар абкома. У братоў ёсць свае сем'і, у старога Елісея і жонкі шмат унукаў. І кожнага з іх не абміне вайна. І кожны з іх будзе мужна бараніць родную зямлю ад чужынцаў. Пісьменнік вядзе сваіх герояў ад першага дня вайны да партызанскага парада на вызваленай зямлі, на прыдзвінскай лугавіне ля Полацка, паказвае патрыятызм і масавы гераізм, бязмежную адданасць савецкага чалавека Камуністычнай партыі, яго непахісную любоў да сацыялістычнай Радзімы. У трылогіі, на маю думку, асабліва выразна праяўляецца творчая манера Алеся Савіцкага, якая, на жаль, нашай крытыкай яшчэ ўдумліва і з павагаю не прааналізавана. Раскрываючы псіхалогію ўчынкаў сваіх герояў, абумоўленасць іх паводзін у складаных, часам экстрэмальных, умовах, пісьменнік з поспехам выкарыстоўвае публіцыстычныя фарбы, не баючыся нават і крута загусціць іх.

Крыху інакш у плане грунтоўнай псіхалагічнай распрацоўкі характару героя пабудаваны раман «Зямля не раскажа», таксама прысвечаны трывожным і хвалюючым дням мінулай вайны. Адразу ж, з першых дзён вайны, Рэната Мажэйка, галоўная гераіня рамана,— той актыўны змагар, якімі былі большасць беларускіх жанчын. У яе няма зброі, не будзе баявой зброі ўвогуле ў руках. У яе душы ёсць іншая зброя — мужнасць і веліч чалавечага духу,— якая ў гадзіну ваеннага выпрабавання, выяўляецца, важыць не менш за тую зброю, што пасылае смерць. Баявую зброю возьмуць у рукі яе дзеці, яна, без зброі, будзе супрацьстаяць бязлітаснаму напору абставін: сваім жыццём яна ратуе жыццё сваіх дзяцей, жыццё партызан. Вобраз Рэнаты Мажэйка — гэта вобраз зямлі нашай, што не скарылася, вобраз мужнага і высакароднага сэрца,

гарт якога аказаўся больш трывалы за сталь фашысцкай зброі. У самы апошні момант свайго жыцця Рэната Мажэйка, простая жанчына, маці, глядзіць на родную Дзвіну і вымаўляе словы, якія можа зразумець толькі той, каму яна, гэтая рака, належыць. Гэтая рака люляла дзяцей Рэнаты, і яна не можа ёй здрадзіць.

Вобраз Дзвны, які праходзіць амаль праз усе творы А. Савіцкага, вобраз метафарычны, абагулены, гэта вобраз ракі жыцця, якая мае шмат паваротках самых незвычайных, мае свае водмелі, каменныя і пясчаныя перакаты, мае глыбіні, якія жывяцца не толькі гонкай плынню, але і чыстымі крыніцамі, што ціха і празрыста плюскочуць скрозь на берагах пад попельнымі лазнякамі.

Хочацца ад душы пажадаць пісьменніку добрага плёну ў мастацкім даследаванні глыбіняў народнага жыцця, што па-новаму, буйна квітнее ў гарадах і вёсках прыдзвінскага краю, па берагах ракі, якая гэткая блізкая яго пісьменніцкаму сэрцу.

ІВАН ШАМЯКІН

# ЖАНЧЫНА

**Р А М А Н**

Чалавек павінен быць мужным.
Мужным у горы. Тады гора робіцца меншае.
Мужным у бядзе. Тады бяда ніколі не возьме верх над чалавекам.
Мужным у радасці. Тады чалавек не забудзе падзяліцца радасцю з сваім сябрам.
Толькі мужны дасягае мэты.
Толькі яму адкрыта вялікая асалода змагання і перамогі.
Пра гэта і напісана кніга.

*Аўтар*

## *Частка першая*

### 1

Я стаяла на парозе.

І менавіта тут, пры выхадзе з цэху, калі змена была здадзена і ў кішэні ляжалі грошы за месяц адпачынку, калі дзверы былі адчынены і заставалася зрабіць адзін крок да лесвіцы, я зразумела ясна, як ніколі, што буду сумаваць без гэтага таямніча-вясёлага міргання зялёных вочак дазатараў, без шахцення вентылятараў, без гэтых аранжавых водсветаў, што блытаюцца ў тонкім павуцінні шкляных ніцей.

А можа, усё толькі мроілася?

Не, гэта праўда. Я ведала, што кожны дзень буду думаць пра свой завод, сумаваць па ім, але ў сэрцы не было ні трывогі, ні тугі, а мацнела радасць: мне хацелася бегчы дамоў, хутчэй абняць Міхася, сабраць чамаданы і ехаць да бацькі на вёску... Хацелася бегчы, а я ўсё стаяла і глядзела на зладжаную работу апаратараў, на бліскучыя бакі электрапечаў, на бабіны, што парабіліся тоўстыя ад шкляной пражы, на выгнутыя раструбы вентылятараў. Гэта мой цэх. Маё жыццё. Мая радасць.

У вестыбюлі сядзеў вахцёр Чарняўскі. Ён мелькам зірнуў на мяне. Мы здароўкаліся, калі я прыходзіла на

завод, звычайна і завучана развітваліся пасля змены. А сёння мне карцела сказаць яму нешта асаблівае, каб словы былі крыху сумныя. А яны, гэтыя словы, проці волі маёй атрымаліся нейкія непатуральна вясёлыя.

— Бывайце здаровы, Кандрат Рамапавіч. Цяпер мы з вамі доўга не пабачымся!.. Еду!

— Адпачываць?

— Не. У інстытут. На сесію!

— Жадаю поспехаў. Памятай: Стэфу Шукан на завод без дыплома не пушчу!..

Смешны ён, гэты Чарняўскі! Дыплом... Вельмі ж далёка да таго дыплома — еду на першую сесію. Першую! Яе можна і не лічыць. А колькі яшчэ застаецца... Дзівачка. Збіраюся на першую сесію, а ўжо думаю аб тым, што будзе праз пяць год...

А хто, уласна кажучы, можа ведаць, што адбудзецца за гэты час? Тут адзін год... За адзін год мінае столькі, што не пералічыш. Год назад я была вольная, як птушка! А цяпер — замужняя жанчына. У мяне ёсць муж. Мой Міхась — самы прыгожы, самы лепшы, самы разумны чалавек на зямлі. І самы ўпарты. Тое ж самае ён кажа і пра мяне. Я думаю, што гэта не зусім дакладна... Але, калі ён гэтак думае і ўпэўнены,— няхай!..

— Пачакай, Стэфа!

Паспешлівы вокліч спыніў мяне на тратуары ля маладых таполяў. Па бліскучых прыступках заводскага ганка да мяне бегла Ніна Барысава.

— Крычыш ёй, крычыш...

— А што такое?

— Журко мяне сустрэў. Шукан ты бачыла, пытае. Кажу, бачыла. А ён мне загадаў: пашукай, калі ласка, а як знойдзеш — сюды вядзі...

— Пад канвоем?

— А чаго ты сярдуеш?

Ніна пакрыўджана звяла тонкія маляваныя бровы. Яе бровы заўжды здзіўляюць мяне. У Ніны светлыя валасы, шэрыя вочы і мяккі белы твар. Аднойчы я сказала Ніне, што падфарбоўваць бровы ёй не трэба, і за гэта мы тады ледзьве не пасварыліся.

— Дык чаго ты сярдуеш? — перапытала Ніна.

— Я радуюся...

У мяне выспявала жаданне палаяцца і з Нінай, і з Журко, і з усім светам. Асабліва з Журко. Што гэта за парадак! Выправіўся чалавек у адпачынак, і раптам яму

загадваюць — з дарогі ўжо! — ісці ў камітэт камсамола, вяртацца, невядома навошта. Не, я не змоўчу і ўсё скажу ў вочы. Усё Віктару выкажу шчыра. Падумаеш, начальства якое! Нейкі месяц як абралі ў камітэт, і ён ужо загадвае!..

Я вярнулася на завод, узляцела па лесвіцы на другі паверх — у камітэт камсамола. Віктар Журко сядзеў ля стала і нешта пісаў.

— Клікаў?

— Ага,— спакойна адказаў ён, мелькам зірнуўшы на мяне.— Тут просьба да цябе. Чакай адну хвільку. Дапішу... Гэтак... Ну пасядзі, калі хочаш...

Журко пісаў. Жоўтая вучнёўская ручка ў яго тоўстых моцных пальцах здавалася вельмі танюткай. Тонкія губы ад старання скдаліся ў бутон. Прамы нос пібыта абводзіў кожную літару.

— Ну вось... Стаўлю кропку. Ты калі едзеш?

— Заўтра. Сёння збяруся, а ранкам паеду.

— Гэта ў Баравічы. А на Мінск?

— У канцы месяца.

— У Прыдзвінск не заедзеш?

— Не, прама адтуль.

— Во! Таму і ганцоў ва ўсе бакі разаслаў, бо ведаў. Хачу табе даручэнне даць...

— Прыдумаў! Адкуль мне там час твае даручэнні выконваць?

— Ты не крычы. Вуліцу Кірава ў Мінску ведаеш?

— Ведаю.

— І добра. Калі ўвойдзеш у яе,— магазінчык. Маленькі, яго не кожны і знойдзе. Летась там былі лыжкі...

— Якія лыжкі?

— Ну блешні. Блешня гэтак завецца — лыжка. Бліскучая. Белая. І форма лыжкі, толькі без тронка. Лепшую на судака не знойдзеш!..

Я глядзела ў зеленавата-блакітныя вочы Журко, і жаданне аблаяць яго знікала. Не, нельга злаваць на гэтага дзівака! Як толькі пачынаецца гаворка пра тое, што мае нават ускоснае дачыненне да рыбальства, у Журко адразу большаюць, быццам святлеюць вочы і на твар кладзецца цень зусім не тутэйшага жыцця.

— Добра, Віктар, зайду. Прывязу табе лыжкі. Слухай, а можа, разам і відэльцаў накупляць?

— А што? У мяне сапраўды блешня з відэльца была. Яна смяецца! Праўду кажу. Узяў я тронак — ён бліс-

кучы і мядзяны,— кручок прымайстраваў. Дваццаць шчупакоў выцягнуў...

Я паднесла да яго губ узняты палец:

— Віця, дзьмухні!

Ён дзьмухнуў і махнуў рукою:

— З табою не пагаворыш. А ў магазінчык — вельмі прашу цябе — зайдзі абавязкова. Я ім лісты паслаў. Маўчаць. Ты запытайся, чаму?

— Гляджу я, што добрага старшыню секцыі абралі заводскія рыбакі. А можа, гэта толькі табе шчупакі не даюць спакою?

— Ты вось жартуеш. А ў Маскве спаборніцтвы аматараў праводзяцца. У газетах пішуць. Блага гэта?.. Вось табе і шчупакі! Але, здаецца, і ў нас зрушыцца. Хадасевіч на нашым баку!

— Наш парторг у секцыю запісаўся?

— А ты што думала!

— Ну, Віктар, тады і мяне пішы. Я буду таксама шчупакоў цягаць на відэлец твой.

— Няма ўжо той блешанькі, Стэфачка. На Турцы ўвосень пасадзіў яшчэ летась...

— А я проста абыдуся. Смажаных буду. З патэльні.

Мы абое зарагаталі. Жарты жартамі, а магазін у Мінску я не абміну. Я зусім не злавала на Віктара.

— Ты малайчына,— сказаў Журко.— Ведаў. Таму і паклікаў...

— Можна чырванець ад тваіх кампліментаў?

— Сапраўдных я табе яшчэ не казаў.

— Не ганарлівая: пачакаю...

— У Баравічы адна едзеш?

У яго запытанні было нешта недагаворана. Я чакала. Ён маўчаў, і мне прыйшлося адказаць.

— З Міхасём.

— Прывітанне яму перадай.

— Другі месяц перадаю. Табе ж усё цяжка зайсці.

— Калі? Ніводнай мінуткі вольнай няма. Але абяцаю: як прыедзеш, зайду.

— З віншаваннямі?

— А можа, табе спачуванні спатрэбяцца.

— Лепей і не прыходзь тады! Бывай, Віктар!..

Я зноў ляцела па лесвіцы да прахадной. Насустрач мне ўзнімаўся Павел Сцяпанавіч Хадасевіч. Ён ціха і павольна, нібыта ў нейкай задуме, стаўляў ногі на прыступкі, і мне раптам зрабілася непамысна, калі я зірнула

на яго сівую «прафесарскую» галаву. Аблічча гэтага сталага, вельмі сціплага чалавека з сівымі валасамі і вельмі маладжавым тварам быццам закрэсліла маю насмешлівасць: сапраўды, чаму я рагатала над словамі Журко?..

Ніна ўсё яшчэ чакала мяне на вуліцы. Побач з ёю стаяў Сяргей Баўтрукоў — наладчык з другой змены. Убачыўшы, што я іду да Ніны, ён таропка развітаўся і пайшоў. Баўтрукоў мне чамусьці вельмі не падабаецца.

— Ты чаго з ім? — непрыветна запытала я Ніну.

— Галава ў хлопца, павінна я табе сказаць. Другую рацыяналізацыю дае...

— А першая дзе? Пашумелі, пашумелі і — кінулі. А ён у рацыяналізатарах ходзіць.

— Зноў ты на яго! Чаго цябе Журко клікаў? Даручэнне даў? Ты глядзі! Гэта ён любіць... У начальніка вялікага гуляць.

— Дарма... Зусім дарма гэтак аб ім думаеш.

— Ды нічога я не думаю. Кажу проста табе.

— Тым больш!

— Нешта ты сёння не ў гуморы.

— Я люблю казаць аб людзях праўду.

— Шчаслівая ты!

Мяне здзівіла не зайздрасць, што адкрыта прагучала ў яе голасе, а змрочны і засяроджаны пагляд Ніны: калі яна аб нечым задумаецца, дык ніжняя губа ў яе падціскаецца і выцягваецца шнурочкам.

Я прыгадала ёй:

— Другі раз ты робіш гэтае адкрыццё.

— Другі? Не памятаю... А першы?

— На маім вяселлі.

— Яно гэтак і ёсць. Муж кахае. На заводзе паважаюць. Цяпер у інстытут едзеш. Станоўчы герой, як пішуць крытыкі.

— Недалюбліваеш ты іх.

— Наадварот, не чытаю.

— А ніводнай канферэнцыі чытачоў, здаецца, не прапусціла.

— Канферэнцыі люблю. Там можна вельмі цікавае пачуць. Памятаеш апошнюю канферэнцыю? У лютым. Ну, як жа гэта... Руды такі хлопец першым выступаў, пра месца чалавека на зямлі казаў. Памятаеш?.. Я неяк яго сустрэла, пазнаёміліся. Разумны хлопец. Смелы...

Чорныя Ніліны броўкі выгнуліся, вочы зрабіліся, як

старое волава, голас узвіўся фальцэтам. З Нінай мне заўжды весела.

— А мяне ў якую графу паставіш?

— Табе я зайздрошчу. Удачлівая ты нейкая. На завод прыйшла — праз два месяцы памочнікам аператара стала. А мяне год амаль у падносчыцах марынаваў. А вячэрняя? У дзевяты паступіла, а за дзесяты здала. А я свой атэстат тры гады амаль носам выбівала. Ці новы асартымент. Ды я да тваіх працэнтаў памру, а не даскачу.

— І даскочыш. І пераскочыш!

— Наўрад. Ёсць людзі, якім шанцуе ў жыцці. З самага малку ў іх усё ладам ідзе. І работа, і сям'я. Усё, адным словам. Няпраўда, скажаш? Кажуць, што, калі вочы ў чалавека чорныя,— шчаслівы. А ты чарнавокая.

Спрачацца з Нінаю цяжка, бо яна прызнае правільнымі толькі свае доказы. Але пра вочы — гэтую прыкмету шчасця — яна ніколі раней не казала. Якая наіўнасць!

— У мяне вочы спачатку светлыя былі,— сказала я, схаваўшы ўсмешку.— Па вечарах я на неба часта глядзела. І вось, калі ласка, пачарнелі...

— Ты ўсё жартуеш?

— З цябе прыклад бяру. Толькі не зайздрошчу, а шкадую. Паеду і на наваселлі ў цябе не пагуляю, у гэтай нешчаслівай!..

— Якое чорту наваселле.

Ніна сказала гэта без радасці, злосна, і я не магла зразумець яе. Колькі яна пісала заяў, колькі камісій праверала іх! Урэшце даюць кватэру. Што ж цяпер?

— Не падабаецца кватэра? — асцярожна запытала я.

— Іван не хоча. Не мелі кватэры — хоць сёння збіраемся і ідзём. Цяпер кватэра ёсць — заўпарціўся: там цяжка з дзіцем будзе, а тут — бацькі глядзяць, пачакаем, бацькі нам бяды не зычаць. Ягоныя бацькі, вядома. Гэткі шчодры ён зрабіўся: аддадзім кватэру людзям. А я, павер мне, Стэфачка, гэтую кватэру зубамі выдзірала... І не магу я ў іх больш жыць. Не магу. Мне тая хата іхняя — як труна ўсё роўна...

Пра свае сямейныя клопаты Ніна казала мне неаднойчы. Не ведаю, хто з іх там вінаваты: Ніна, Іван ці яго бацькі. Паводле Ніных слоў, вінаваты бацькі, і я часам з гэтым пагаджаюся. Ніна нічога не тоіць ад мяне. І за гэта я асуджаю яе. На мой погляд, не ўсё з свайго

сямейнага жыцця можна казаць нават свайму лепшаму сябру. Ва ўсякім разе, асабіста я ніколі не раскажу.

Словы Ніны ўсхвалявалі мяне, і я раптам сказала тое, чаго раней нікому не казала і ад чаго стала вельмі сорамна:

— А мой жа таксама хоча хату ставіць...

— Няўжо? — адразу падхапілася Ніна.— І ты згаджаешся?

— Не. Я супраць. Раманюк яго ўсё падбівае. Гэта яго дзядзька. Праўда, няродны. Ён у кацельнай на піўзаводзе працуе...

— І ты не можаш таго Раманюка турнуць?

— Як? Мы ж на кватэры ў яго. У Андрэя Піліпавіча ўчастак вялікі, вось ён і баіцца, каб не адрэзалі. Хоча нам кавалак аддаць. Сваякі ўсё ж...

Ніна нават прыпынілася. У вачах — спалох і трывога.

— Скрытная ты,— папракнула яна мяне і таропка дадала: — Што хочаш рабі, толькі не будуй хату. Я нагледзелася на гэтых уласнікаў. Жыццё яны нам зглумілі з Іванам. Родныя бацькі, а да сына — роўна звяры. І што яны ад нас хочуць — не ведаю. Цяжка мне з імі змагацца. А Іван не хоча. Душа ў яго мяккая.

— Іван цябе кахае!

Мае словы — я бачыла гэта — не супакоілі Ніну. Мы стаялі на аўтобусным прыпынку. Праваркатаў адзін аўтобус... Другі... Ніна села толькі ў пяты. З прыступак ужо крыкнула мне:

— Пішы! Чуеш?..

За пыльным шклом мільганула яе галава. Я памахала рукою. Ніна ж нават не глядзела ў мой бок.

Гаворка з Нінай устрывожыла мяне. Я крыху ведаю Івана: гэта вельмі сумленны і добры чалавек. Чаго ж ён, бачачы, што з бацькамі няма ладу, трымаецца за тую хату?..

Я абвінавачвала Івана, не разумела яго пазіцыі і раптам злавіла сябе на думцы: пра іншае ж думаю, пра тое здзіўленне, што выклікалі ў Ніны мае словы пра хату. Нават не здзівілася яна, а спалохалася і вельмі рашуча і катэгарычна паставілася да Міхасёвай задумы. Відаць, мне трэба пагаварыць з Іванам. Хаця не, з Іванам павінен пагаварыць Міхась. Ён ведае Івана лепш, чым я. Але што тут паможа Міхась? Мне самой трэба шмат у чым пераконваць яго...

За лістотай таполяў, што раслі па-над дзвінскім узбя-

рэжжам, выбліснула палоска вады. Перавозчык быў на гэтым беразе. Я пабегла ўніз па драўляных сходках. Дошкі рыпелі. Зыркі бляск вады калоў вочы. Я намагалася глядзець толькі на сходкі, але насуперак жаданню бачыла крайчык берагавой касы, тоўсты сярпасты нос чоўна і ленаватыя тонкія хвалі, што паціху ўспаўзалі на жоўты пясок.

Як добра сядзець на вузкім трохкутнічку кармы! Апусціш руку за борт, і тады адразу ў тыльны бок далоні мякка, як носам цяляці, торкаецца цёплая хваля; вада буркатліва пазваньвае між пальцаў, і тонкая празрыстая стужка паўзе па далоні ўверх.

За тоўстымі шатамі вязаў, што стаяць на беразе, выплыў белы заводскі гмах. Кожны раз, калі я еду дахаты ці ранкам чакаю перавозчыка, я гляджу на яго ад ракі. Які аграмадны наш завод! І прыгожы. Я ведаю ў ім, здаецца, кожнае акно. Вунь вокны нашага цэха. А калі адтуль глядзіш на раку, усё на ёй здаецца такім маленькім...

Човен з разгону торкнуўся ў бераг, пад днішчам загуркала каменне.

— Станцыя Беразай. Каму трэба і нятрэба, вылязай! — завучана абвясціў перавозчык.

Я кінула грошы яму на далонь і скочыла на бераг.

## 2

Хата Раманюка стаіць крыху воддаль ад вуліцы, у канцы шырокага завулка. Завулачак ціхі, скрозь пазарастаў травою. Але трава нізкая, быццам зрэзана нажом ля самай зямлі, густа засеяна шэрымі гусінымі катахамі. Раманюк выганяе гусей у правулак, нават зрабіў для іх копанку.

Суседзі не любяць Раманюкоў. Спачатку, паверыўшы гаспадыні, я думала тое ж, што яна казала мне,— зайздросцяць. Хаты на завулку старыя, збудаваныя яшчэ да вайны, а сяліба Раманюка новая, з габляванага і пафарбаванага бярвення. Вельмі хутка я зразумела, што памылілася: Раманюкоў не любяць за сквапнасць. У Раманюка другая жонка, Тацяна Маркаўна. Гэта маленькая тоўсценькая жанчына. Сын Раманюка ад першай жонкі — Анатоль — ажаніўся і з бацькамі не жыве. У хаце пра яго чамусьці не гавораць. За ўвесь час, што мы жывём у іх, Анатоль прыходзіў толькі аднойчы і то без жонкі.

Жывуць Раманюкі ў дастатку, але над кожнай капей-

кай трасуцца. У мінулым годзе гаспадыня двойчы ездзіла ў Мурманск — вазіла на продаж раннія яблыкі. Нам яна схлусіла, што едзе да сястры.

Гусей у Раманюка дзевятнаццаць. Кормяць іх хлебам, а потым выганяюць за браму. Аднойчы я сказала, што гусі выскублі ўсю траву і наш правулак стаў вельмі непрыгожы.

— Затое гусяцінка на талерачцы прыгожая,— адразу ж узвінціўся Андрэй Піліпавіч.— За брамай у нас — ніва цэлая. Карову можна пасвіць.

— І ў садзе травы хапае.

— Тая трава на сеннічок запланавана,— як малой растлумачыў мне Раманюк.— І заказ адзін чалавек на сянцо даў. Травічку высушыць — не тое, што крытыку наводзіць. Цяжэй.

— Ім каб прыгожа толькі. А кішкі марш хай трубяць,— з'едліва сказала гаспадыня. Яна кінула замешваць сечку з бацвіння і, выціраючы аб край чыгуна белыя распараныя пальцы, скоса паглядзела на мяне.

Міхась змоўчаў тады, але крыху пазней, калі мы засталіся адны, ён папярэдзіў мяне:

— Ты не сварыся з імі.

— Крывіць душою загадаеш? Не, сваю думку я хаваць не буду!

— Ах, я зусім не пра тое. Старыя людзі... Кожны сваю натуру мае... Паважаць іх трэба. Кажуць ён ці яна — няхай сабе кажуць. Змоўч лепш.

Як лёгка раіць!..

Я падышла да хаты пад ляное крэканне гусей. Тоўсты, руды ад гліны гусак вылез з копанкі, засіпеў, паводзячы выгінастай шыяй нізка ля зямлі. Я штурхнула яго нагой: рассіпеўся тут яшчэ!

За плотам стаяў Міхась. Ён не бачыў мяне. І, абапіраючыся рукамі на тоўсты сук, паціху гайдаў вішню. Я любавалася ім. Які ён мажны і прыгожы ў гэтай новай кашулі. І добра, што я не паслухала яго і купіла гэтую кашулю. А ён яшчэ ўпарціўся.

Міхась з кімсьці размаўляў.

— Усё ж паслухай, паслухай! — настойваў ён.— Ну ці можна скокнуць на месяц? Але ж і варыць кацялок у некаторых! Гэтак прыдумаюць. Дык што б ты адказала?

— Прашу цябе, адчапіся!..

Які знаёмы голас! З кім гэта ён гаворыць?

— І калі не адчаплюся?

— Цягні ваду. Бачыш, пустыя суды стаяць.

— А ўсё ж, як думаеш — можна скокнуць?

— Адчапіся!..

Гэта ж Галя! І як я не пазнала яе? Яна кватаравала тут, у Раманюкоў, да нас. Перад Новым годам Галя атрымала кватэру ў новым доме, але часта наведвае былых гаспадароў.

Маё з'яўленне крыху збянтэжыла Міхася. Ён схапіў суды і рагатнуў:

— Го-го! Што ж ты позніўся, мая залаценькая? Цэлую гадзіну пільную...

Твар Міхася бліскучы, быццам змазаны алеем. Я нічога не адказала яму, а толькі павіталася з Галяй.

— А мы тут гуркі ладкуем,— сказала яна.— Я прыйшла, а цёця Таня папрасіла лехі папалоць...

— А сама яна што, хворая?

— Не, цыбулю некуды панесла...

Мяне заўжды здзіўляла Галіна пакорлівасць. Таццяну Маркаўну яна звала неяк па-дзіцячаму ласкава — цёця, і кожны раз, калі прыходзіла, не сядзела без работы: то падлогу мыла, то поркалася ў садзе ці рабіла яшчэ што па гаспадарцы. Можа, гэта ішло ад шчырасці душы — не ведаю, але кожны раз, бачачы, як улягае ў работу Галя, мне рабілася шкада яе і неяк непамысна. Раманюкі бессаромна карысталіся яе дабратою. Праўда, увосень яны давалі ёй крыху садавіны ці гародніны. Неяк я сустрэла Галю, калі яна несла ў газеце гуркі. Было нешта сарамлівае і спішанае ў яе паставе, быццам Галя нечага баялася.

Міхась прыцягнуў ваду. Мне было сорамна стаяць і глядзець, як працуе Галя. Я ўзяла палівачку. Дзіўна! Сама апынулася ў ролі таго чалавека, паводзіны якога асуджала.

Я палівала гуркі і лаяла Раманюкоў. Лаяла за Галю, за Міхася, які цягаў ваду, лаяла сябе, што ўвязалася ў гэты занятак. Планавалі ж сёння пайсці ў кіно. А замест гэтага мы ўсе ўтраіх працавалі на гародзе Раманюка.

Калі мы скончылі паліўку, у сад прыйшоў Андрэй Піліпавіч. Ён паглядзеў на чорныя чыстыя лехі, і твар яго аж папырэў ад шчырай здаволенасці.

— Во, гэта работнічкі! Пакуль я падворак падмёў, яны тут усё ўпарадкавалі. Ну, скажы — не малайцы?

Мне цяжка было слухаць яго, хацелася аблаяць, пакрыўдзіць.

— Уласнікі праклятыя! — ціха прамовіла я, калі мы ўваходзілі ў хату.

Міхасю гэта не падабалася. Ён неахайна кінуў пінжак на крэсла:

— Ужо завялася. Цябе не зразумееш. Чаго да людзей чэпішся? Ну скажы ты на ласку!

— Гэта ты першы чэпішся і вельмі неразумна жартуеш. Чаго ты прывязаўся да дзяўчыны?

Злавалася на Раманюкоў, асуджала іх, а лаяла Міхася. Што гэта са мною?

— Галя? Дзяўчына? Ох-хох-хох! Тры месяцы ўдавіцаю шпацыруе твая дзяўчына. Кінуў яе Пецька. Не жывуць разам.

— І адкуль ты толькі ўсё ведаеш?

Міхась схапіў мяне ў абдоймы:

— Слухаю. Гэта ж вельмі важна — слухаць...

— І піць,— дадала я. Ад яго пахла гарэлкаю.— Пабачыш, наклічаш ты сабе бяды. Кончыцца маё цярпенне.

— І што ж тады пачнецца?

— Міхась, Міхась... Гляджу я на цябе...

— Ты лепей сюды зірні, залаценькая. Ну, што скажаш?

Ён адшмаргнуў фіранку. Ля сцяны драўлянай прыбудовачкі гарбаціўся доўгі штабель цэглы. У вачах Міхася, скіраваных туды, іскрыўся вясёлы бляск. Не, відаць, я зусім мала ведала натуру свайго мужа. Вось ужо і цэгла з'явілася, і тое, чаго гэтак не хочацца мне, пачынае ўладарна ламацца ў наша жыццё.

— Скажы, ты гэта напраўду?

— А пра што ўсю зіму талкуем?

— Мы больш жартавалі. Ва ўсякім разе мне здавалася, што гэта толькі планы.

— Цяпер гэта рэальнасць. Пачатак, але — рэальны!

— Ты проста робіш мне насуперак. На тваім каб было?

— Так. На маім. А чаго таіцца? Надакучыла па чужых кутках бадзяцца ды кватарантам жыць!

Ён глядзеў на цэглу і гаварыў рэзка, адрывіста. Мяне здзівіла не ўпартая рашучасць, што гучала ў яго голасе, а шырокія зморшчыкі на лобе. Міхась звёў бровы, і зморшчыкі, як барозны, ляглі над імі.

— Я даўно табе кажу: станем на чаргу як людзі. І атрымаем. Прыйдзе чарга — атрымаем пакой.

— Калі на Задзвінні рак засвішча! Не, Стэфа! Збудуем самі і зажывём па-людску. Грошы завядуцца...

— Ты зноў пра грошы!

— Добра, маўчу,— ён прыціснуў руку да грудзей і заплюшчыў вочы.— Грошы — перажытак. Мяшчанства. Бачыш, як лёгка Міхась паддаецца выхаванню.

— Навошта гэтае скамароства?

Не рыпнуўшы нават, адчыніліся дзверы. На парозе з'явіўся Андрэй Піліпавіч. Сказаў з непадробленым здзіўленнем:

— Ого! Вы ўдваіх тут. А я думаў, што Стэфа ў садзе. Бярыце крэслы і — да нас. Пасядзім ля чарчыны, пагаворым...

Ісці я адмовілася. Ведала, нядобра раблю, што ўвесь час стаўлюся да Раманюка нядобразычліва. Але кожны раз, калі я бачыла гэты дробны, пабіты рабаціннем твар, вузкія мангольскія вочы, у маёй памяці ўсплывалі худзенькія рукі Галі, якія сціскалі газетны згортак з гуркамі, і я не магла, не ў стане была пабароць непрыязнасць.

— Ты, Стэфачка, ужо і мужыка аблаяць паспела? А мы, чэсна кажучы, і не пілі зусім. Шафёру пачастунак паставілі. Што там было? Паўлітэрка на трох... А чалавек і прывёз цэглу і разгрузіў. Ну, то пацвердзі, Міхал!.. Чаго ж ты?

Міхась незадаволена хмыкнуў. Я перапыніла яго і не дала нічога сказаць.

— Я вам шчыра скажу, Андрэй Піліпавіч, што нядобра гэта...

— А што — я і не ведаю. Хо-хо! Во каб цяпер Рыгор Несцеравіч глянуў на дачку. Ласкавая ў мяне Стэфа, ён усё казаў. Ласкавая...

Хцівы смяшок Раманюка раззлаваў мяне больш, чымся словы. Усё ў маім нутры сціснулася.

— А тое нядобра, што спойваеце вы Міхася. Але я не дазволю вам гэтага. Чуеце?

— Не дазваляй, не дазваляй, Стэфачка. І мая гэтак раней насядала: тыхі-быхі. А куды ад жыцця схаваешся? Што ж будзе, калі мы папасядзем па сваіх катухах кожны? Гэтак сяброўства на зямлі звядзецца начыста.

— Вось дык сяброўства. На гарэлцы!

— Колькі там тае гарэлкі? Хадзем, Міхале!

Які хітры робіцца Раманюк, калі хоча дамагчыся свайго. Ён ведае, што Міхасю падабаецца яго скарочанае

імя — у гэтым ён, мабыць, бачыць павагу да сябе. Раманюк яшчэ раз паўтарыў. Гэта ўзбунтавала мяне.

— Міхась нікуды не пойдзе!

З твару Раманюка знікла падробленая прастадушнасць: ён зверавата паглядзеў на мяне, выразна хмыкнуў і выйшаў.

З саду даляцеў голас Галі: яна крычала на сабаку, які ўспароўся на грады.

— Дамаглася,— з міралюбным дакорам адзначыў Міхась.— Выпхнула дзядзьку...

— Я праўду яму сказала!

— Пакрыўдзіла ты яго, вось што. Яны гэтулькі нам добрага зрабілі...

— Яны робяць нам толькі благое.

— Не заўважаў.

— А я бачу. Пазаўчора ты дапамагаў яму рамантаваць седала ў куратніку. Учора акопваў яблынькі. Сёння паліваў грады. І гэтак цягнецца кожны вечар. Ты ж месяц не быў у бібліятэцы!

— Адмовіцца, значыць, калі папросіць чалавек?

— Які чалавек? Калі трэба рабіць нешта людзям, я пайду першая і пацягну цябе. А тут — уласнік. Ты яблынькі акопваеш, а яны яблычкі ў Мурманск возяць. І ты сам патроху робішся ўласнікам...

— Навошта гэткае ганьбаванне? Андрэй Піліпавіч заўсёды ўдзячны мне, што ні зраблю...

— Ого! Дармовы парабак. За глыток гарэлкі. А дні лятуць, Міхаська! Мы маладыя з табой. Нам трэба вучыцца. Шмат вучыцца. Шмат чытаць. А яны крадуць твой час. Наш час!..

Якія слабыя мае словы! Яны не пераконвалі Міхася, я бачыла гэта па яго паблажлівай усмешцы, па весела прыжмураных вачах. У сэрцы бунтавалася злосць на Раманюка. Каб я магла перадаць яе Міхасю! Я бачыла, што ўласніцтва засмоктвала яго, клопат пра яблынькі, гуркі, лапінкі бульбы не дае яму ніводнай вольнай мінуткі. І цяпер гэтая цэгла... Навошта ўсё гэта? Нам трэба вучыцца. Нам трэба ісці наперад і наперад...

Міхась падышоў да мяне, паклаў рукі на галаву; яго пальцы ціха перабіралі валасы ля самага майго вуха; пасмы суха шахцелі. Нябачны агняны струмень пацёк з яго пальцаў у маё сэрца.

— Якія мы дурныя, Міхаська!

— Чаму гэта «мы»?

— А таму, што ты многа не разумееш яшчэ ў жыцці.

— Цяпер у Стэфы Шукан вучыцца буду...

— Навошта ў яе? Ёсць інстытуты. Універсітэты.

— А ў мяне адвёртачка ёсць. З ёй не прападу. Шчэ некаторым разумным фору дам...

Жаўтаватыя, як спелыя жалуды, вочы Міхася пацямнелі. Дарма я ўзялася папракаць яго яшчэ і гэтым. Ён не можа спакойна выслухваць пра інстытут — змрачнее, злуецца. Міхась любіць сваю работу электраманцёра і не збіраецца яе кідаць. Напладзілася грамацеяў, звычайна кажа ён, калі я заводжу гаворку пра інстытут, што і працаваць няма каму.

— Усміхніся, Міхаська!

— Дужа мне весела...

— Адпачынак жа! Разумееш?

Я толькі цяпер успомніла пра гэта. Успомніла, што сёння вольны вечар, што мы можам пайсці пагуляць, што нам трэба скласці чамаданы. А заўтра!.. Заўтра мы будзем у бацькі. З чаго мы пачнём? З рэчкі і печкуроў. Так, мы гэта і зробім. Пойдзем на раку, пад самы лес, наловім рыбы, раскладзём вогнішча. Маленькае і ўтульнае. Я буду кухмарыць. Потым Міхась будзе ляжаць, курыць і глядзець на дрыготкае полымя вогнішча. У Міхася тады бываюць добрыя летуценныя вочы... Будзе гарэць вогнішча. А я буду чытаць. Уголас...

Міхась слухаў мяне, моршчыўся, але твар яго святлеў. Ён раптам схапіў мяне на рукі. Зарагатаў.

— Чортавы бабы! Нейкую ўладу вы над намі маеце. Скуль яна ў вас?

— Хочаш ведаць?

— Ну, ну!

— Нахіліся бліжэй. Яшчэ. У вушка шапну...

Ён даверліва нахіліў галаву. З усяе моцы я пацалавала яго ў вуха. Ён зноў падкінуў мяне, і я ўпала на яго дужыя рукі, войкнуўшы ад жаху і радасці.

Міхась, харошы мой! Мой Міхась!..

## 3

Як хутка ляціць час!

Здаецца, учора прыехалі мы да майго бацькі, а сёння ўжо дзесятае. Яшчэ два тыдні — і мне трэба ехаць у Мінск.

Сесія не палохала мяне і не трывожыла: я была ўпэўнена, што добра здам экзамены. Турбавала мяне іншае. Як будзе Міхась без мяне цэлы месяц? Калі шчыра прызнацца — я баялася пакінуць яго, бо ведала, што ён, калі ў яго будуць грошы, не зможа адмовіць сваім прыяцелям ні ў чым. А гэта значыць, што будзе гарэлка, будуць гулянкі.

Нешта трэба было зрабіць. Але што? Дамовіцца з Таццянай Маркаўнай і пакінуць ім грошы. Пакрыўдзіш яго. І, апроч усяго, прасіць Раманюкоў?.. Ніколі. А што ж тады зрабіць?

Я думала пра гэта часта. Думала ў хаце, калі чакала Міхася з лясгаса — ён пайшоў туды выпісваць квіток на дровы; думала па дарозе з лесу — мы надумалі нарыхтаваць бацьку палiва на зіму і выпісалі ў лясгасе сасновых вершалінак.

Міхась быў засяроджаны і пануры: у лесе ён пасварыўся з аб'ездчыкам. Аб'ездчык прагнаў нас з дзялянкі. Ён лаяўся і крычаў, што аштрафуе нас, бо нам выпісана два кубаметры, а нарыхтавалі мы ўдвая больш. Гэта здзівіла мяне, бо Міхась сказаў, што выпісана чатыры кубаметры.

Мы далёка адышлі ад лесу, а Міхась усё ніяк не мог супакоіцца. Я сказала:

— Ты ўсё яшчэ злуеш?

— Бяды мне той... Але ты думаеш, чаго ён на мяне насеў? У руку каб сунулі...

— Не ведаеш зусім чалавека і адразу — бірку яму. Нельга так да людзей...

— Наіўная ты, Стэфка, далібог. Ты ведаеш, як тут робіцца? Паўтара кубаметра жардзінак выпіша на дровы, а гэткі сасняк цярэбіць — ого! Хату можна скласці!

— Не дае яна, бачу, табе спакою. Вырашана ж усё!

— Між іншым, бацька мяне падтрымлівае. Мы з ім заўчора памазгавалі. Падтрымлівае.

— А чаму мне — ні слоўца? Нейкая змова за маёй спіною.

— Пачакай... Нехта ідзе!

Насустрач нам шыбаваў дарогаю Юхімка Халецкі. Я здалёк пазнала яго рудую капу валасоў. З Юхімкам мы сябравалі некалі, яшчэ ў школьныя гады.

— Іш, пыліць,— сказаў Міхась.— Як згаварыліся з ім сустрэцца. А можа, ты і гаварыла, дый дамовілася?

— Учора,— таксама жартам адказала я.

Юхімка не спыніўся ля нас, пашыбаваў далей; за рамянём у яго блішчала сякера.

— Што там у лесе? — кінуў ён на хаду.

— А мы на рацэ былі,— нечакана сказаў Міхась.

— А я ў лес спяшаюся.

— Бяжы, бяжы!

Чаму Міхась схлусіў яму? Раздражнёнасць я зразумела: ён заўжды гэтак размаўляе з маімі колішнімі сябрамі. Але мана?

— Навошта ты сказаў чалавеку няпраўду? Можа, што трэба яму даведацца...

— Яшчэ што! Кожнаму стрэчнаму скажы: адкуль ды куды? Сам дойдзе і што трэба — даведаецца...

І тады адразу прыходзіць да мяне разгадка. Сорам! Вось што ёсць у гэтай наўмыснай грубаватасці Міхася. Ён прыехаў на вёску ў капелюшы, гэткі важны. І раптам — дровы. Вось чаму ён схаваў пілу і сякеру ў лесе! І разам з гэтай здагадкай прыходзіць адказ на пытанне, што ўвесь час турбуе мяне. Цяпер я ведаю, што мне трэба зрабіць, калі я паеду! Я вазьму ў Міхася цвёрдае мужчынскае слова не піць гарэлкі.

Я адварочваюся, каб схаваць свой радасны твар. Юхімка ўжо далёка, ля самага лесу; з яго пляча злятае кароткі, як маланка, бляск сякеры.

— Нешта павесялела ты адразу.

— Павесялела,— згадзілася я.

— Ад чаго, можа, скажаш?

— Скажу... Ой, Міхаська, глядзі, які прыгожы!

На сіні званочак за дарогай сеў мятлік — карычневы, з белымі крапкамі на крыльцах. Я памкнулася злавіць яго. Міхась затрымаў мяне:

— Не дурніся, кажу... Не малая!

— О-ё-ёёё! Які дарослы знайшоўся. Вы толькі зірніце на гэтага вялікага. І сур'ёзнага. Не хочаш памагчы — сама злаўлю!

Я пераскочыла канаву — мятлік спалохаўся, адляцеў крыху і зноў сеў. У траве была вада. Але я нічога не заўважала і бачыла толькі пышную грыву конскага шчаўя, на якім сядзеў мятлік. Падкрадалася асцярожна, выставіўшы наперад руку. Ён быў блізка ўжо зусім, я бачыла нават сінія крайчыкі яго трапяткіх крыльцаў. Яшчэ толькі адзін крок! Нага правалілася ў нейкую калдобіну, і я ледзьве не бразнулася на дол. Мятлік пырхнуў і паляцеў.

— Сыпні солі на хвост, паляўнічая! Чуеш? Варочайся!

Я прыкусіла губу. Як я не люблю гэты пагрозліва-насмешлівы тон! Варта толькі пачуць яго мне, і ўсё ў душы пратэстуе, мне хочацца рабіць усё насуперак, не пагаджацца.

— Не дурэй, Стэфка. Часу няма. І ногі змочыш. Чуеш, што я табе кажу?..

У маіх туфліках даўно чаўкала гразь. Мятлік пырхаў ужо далёка, у канцы лугавіны. Я бачыла марнасць свае задумы, але смех Міхася падсцёбваў мяне, і я ўжо не магла адступаць. Няхай гэта дзіцячая ўпартасць. Няхай!.. Але гэта ва ўсякім выпадку лепш, чымся вось так, як ён, папярэдзіць — калі спахапіўся! — і спакойна стаяць на дарозе, назіраць і рагатаць яшчэ. І няхай рагоча! А я не буду стаяць, я буду бегчы полем, пабягу далёка, вунь аж да таго бярэзніку, за той чорна-сіні гай і яшчэ далей, і буду бегчы аж да тае пары, пакуль не зраблю тое, што надумала. Упартасць, тая зусім неразумная ўпартасць, з-за якой гэтак багата было непрыемнасцей у дзяцінстве, захліснула мяне.

За лугавінай пачынаўся чорны клін ворыва. Ускрай яго раслі нізкарослыя бярозкі, адну з іх выдраў трактар, прыгнуў. Жоўтае карэнне начыста абмылі дажджы. Я спынілася. Некуды ж сюды паляцеў мятлік... Вось ён! Затаіўшы дыханне, я сцягнула з галавы хусцінку. Ага! Ёсць!

— Міхаська! Бяжы сюды!..

За бярозамі, у бары, адгукнулася рэха. Прысеўшы на кукішкі, я чакала Міхася. Праз шоўк хусцінкі адчуваліся ў далонях мітуслівыя мяккія ўдары крыльцаў мятліка. Як жа ён напалохаўся, дурненькі. Ды выпушчу я цябе, выпушчу. Пачакай крышачку!..

Міхась набліжаўся павольна: тупаў ля разораў, шукаў сушэйшыя мясціны. Мне і смешна было і крыху шкада яго. Ды што ён там выглядае? Канаўку пераскочыць не можа?

Міхась разагнаўся, пырскі веерам паляцелі з-пад ног. Ого! Яшчэ крыху — і ён паставіць добры рэкорд.

— Ну і пагулянку знайшла, дурніца!

Як рэзка мяняецца ў яго настрой. Зусім нядаўна ён рагатаў на дарозе, бяскрыўдна кпіў, а цяпер набычыўся і твар яго насупіўся ад раздражнёнасці.

— Зірні, які прыгожы. Ты толькі зірні!

— Да д'ябла! Пагулянкі ёй усюль!..

Ён схапіў мятліка, шкуматнуў яго і кінуў на дол. Потым прыгнуўся, атрос заляпаныя граззю штаны. Ля ног яго, у разоры, біўся на абарваных крыльцах мятлік. Злосна апшчэрыўшыся, Міхась прыстукнуў яго абцасам.

— Хадзем!

Я стаяла і не магла крануцца з месца. Сінія палоскі кашулі на яго спіне зліліся ў адно, спіна быццам растала, і я бачыла толькі поле — сіняе і роўнае поле. Потым яно знікла, і зноў з'явіўся твар Міхася.

— Хадзем жа!..

Ён пачакаў, пакуль я падышла, і зноў рушыў далей — маўклівы, засяроджана-злосны. Я ніяк не магла зразумець ні яго злосці, ні таго, што адбылося. Я бачыла, як усё часцей уздрыгвалі крайчыкі мужавых губ, як сутаргава ўзлятаюць і ападаюць бровы. І мне рабілася не так балюча.

— Узарвешся,— з іроніяй прамовіла я.

— Смешна. Праўда?

— Крыўдна. Навошта ты гэтак?..

— І яна яшчэ пытае? Ды зірні ты збоку на сябе. Ні сур'ёзнасці, ні стрыманасці. Захацела — пырх! — палящела!

— А што я зрабіла благое?

— Мятлік бабе спатрэбіўся. Ловіць. Скажы каму — са смеху ляжа. І дзень ляжаць будзе...

— Ты думаеш?

— Ведаю! Патрэбен ёй той мятлік, як пятая лапа сабаку. Каб яго трасца... Вось як штаны заляпаў. Не адмыеш цяпер.

— Дзядуля ты сівабароды! Бурчыць толькі, бурчыць...

Радасці — узнёслай, па-дзіцячаму бяздумнай — ужо не было. Вядома, глупства — бегчы за мятлікам. Але што ж тут злачыннага? Пажартаваць хацела і мятліка злавіла. Які Міхась злосны. Раздражнёны. І крыху смешны... Хоча, каб усё сур'ёзна было, спаважна. Нейкая неразумная пыхлівасць!

— А ты, як дзіцятка горкае,— сказаў ён з ранейшай раздражнёнасцю.— Табе толькі вецер вушамі ганяць. А пра жыццё няхай Міхась адзін думае.

— А ты не думай. На тое адпачынак!

— Ты сюды не гуляць прыехала.

— Міхась, мы пасварымся!

— Даўно варта было,— са змрочнай злараднасцю

пагадзіўся ён.— Няўжо ты не бачыш, што не сабе стараюся. Б'юся, як тая рыбіна аб лёд...

— І мятлікаў душыш?

— Ой, Стэфка, наклічаш ты бяды. Твае словы кажу!

— Ты крычыш на мяне, як аб'ездчык.

Твар Міхася адразу змяніўся: раздражнёнасць саступіла месца заклапочанасці. Сціснутым кулаком ён крануў пераноссе.

— Не кажы ты мне лепей пра яго,— Міхась гвазнуў кулаком сябе па грудзях.— Во ён дзе сядзіць, той бадзяга: у сэрцы. Я ж не казаў табе, як у лясгасе было. Папрасіў дроў. Дык усе ў адзін голас: няма, няма, не адпускаем. Дэфіцыт. А папрасіў лесніка — калі ласка. Бяры — толькі грошыкі падай. Вязі!

— Чакай. Я ж сама бачыла квіток! З лясгаса.

— Квіток правільны. Ды толькі на ім два кубаметры. Таму і не паказаў...

— Трэба тэрмінова пайсці і даплаціць.

— Знайшлі дурняў. Усе так робяць.

— А як жа будзе?

Мне робіцца страшна. Я зірнула на Міхася, быццам упершыню ўбачыла яго. Не, няўжо ён можа пайсці на нейкае круцельства?

— А проста,— сказаў ён, прыплюшчыўшы вочы.— Дзіўная ты, Стэфка, ці вельмі ўжо зусім праставатая. Зірні ў наш завулак у Прыдзвінску. За апошні год усе суседзі Раманюка паравое ацяпленне ў хаты паправодзілі. А скуль усё гэта, калі ў магазінах ніякіх прылад няма? З неба? Не, даражэнькая. Шматкватэрны побач будуецца. Адтуль і плыло ўсё. І трубачкі. І радыятары. І кранчыкі. І цэменцік. І цвічкі. І дошчачкі.

— Цябе паслухаць — усе зладзеі вакол.

— Зладзеі не зладзеі, а галаву на плячах людзі маюць. І ў лясгасе гэта. Ведаю.

— Калі некаторы і круціць, дык ты не павінен на яго глядзець. Мне гэта не патрэбна...

— І я не сабе стараюся. Дровы — бацьку. Слупкі — Раманюку.

— Якія слупкі?

— Тыя, што пілавалі ў лесе. Бацька іх Раманюку сплавіць.

— Хай паспрабуе!

— А што? Яму паможаш — ён цябе ў бядзе не пакіне.

— Ён цягне нас туды.

— Тым, што хату абяцае памагчы паставіць?

— Колькі я табе буду казаць: не патрэбна яна нам!

Зноў гэтая хата... Адзін напамінак пра яе бунтуе маю душу. Сама таго не заўважаючы, я пачала гаварыць раздражнёна.

— Табе што? — заэпачыў Міхась спакойна.— Пасля завода — у бібліятэку. Адтуль прыбегла — на ложак. А колькі на мой карак? Далібог, кіну ўсё к чортавай матары!

— Не лайся.

— Напраўду кажу: кіну! — у яго вачах мільгануў гнеў.— Ты гатова толькі вецер вушамі ганяць. А мне надакучыла на дзядзькавым карку сядзець! Хачу, каб у мяне свой куток быў. Сябры прыйшлі — калі ласка: сабраліся, пасядзелі. Ну і чарчына. Блага?

Кола замкнулася. Кожны раз нашы спрэчкі аб хаце — з чаго б яны ні ўсчаліся — прыходзяць да гэтага пытання, і Міхась выкідвае свой, на яго думку, неабвержны доказ. Я добра ведаю: Міхась стаіць на няправільным шляху. Але як давесці яму гэта? Спрачацца? Я стамілася ўжо ад гэтых спрэчак. Махнуць на ўсё рукою? Не, нельга адступаць ад сваёй мэты. Пачні будаваць хату — бывай інстытут! На гэта я не магу пайсці і не пайду.

Што ж тады застаецца?

Адно: пераканаць Міхася. Так, трэба пераканаць Міхася. Але для гэтага патрэбны не словы, патрэбна нешта іншае, больш важнае, больш унушальнае, чымся маё слабае пярэчанне. Трэба адарваць Міхася ад Раманюка, выцягнуць яго з той уласніцкай багны...

— Чаго маўчыш?

Я скаланулася ад яго нечаканага пытання. Змоўчала, нічога не адказала. Міхась сказаў:

— Усё думаеш. Ну, думай. Думай. Можа, мятліка дзе ўбачыш...

Ён пачаў насвістваць, потым, угледзеўшыся ў блізкую ўжо вуліцу пасёлка, адразу павесялеў:

— Ого! Таксі ля хаты. Хто ж там прыпыліў? Раманюк, здаецца, прыкаціў...

Раманюк? Толькі яго не хапала тут! Навошта ён апынуўся ля бацькавай хаты? Быццам нейкі злы лёс звязвае нас з ім.

Нечаканы прыезд Раманюка збянтэжыў мяне і вельмі ўзрадаваў Міхася. Ён не хаваў гэтага. І ад таго, што яго

ўзрадаваў чалавек, якога я амаль што ненавідзела, крыўда на мужа пабольшала.

— А ты і зарадаваўся. Гарэлачку пачуў!

— І яна будзе. Пабачыш. Сам бацька загадае. Пабачыш.

Міхась не памыліўся. Бацька ўвогуле радаваўся, калі прыязджалі госці, а тут ён адразу падабрэў яшчэ больш, гаворка яго зрабілася жвавай і хуткай. Калі Раманюк і Міхась сустрэліся, бацька не даў нават прывітацца ім як след і загадаў мне:

— Дачушка, Надзейцы памажы. Калі ёй там адной управіцца! А Піліпавіч здарожыўся. Яму ад нашае гаворкі салодка не будзе...

Надзея — мая старэйшая сястра. Калі нас паставіць побач,— ніхто не скажа, што мы родныя сёстры. У мяне валасы чорныя і крыху кучаравыя, а ў яе — зусім светлыя. У мяне прамы матчын нос, а ў сястры — бацькаў: кірпаты, з маленькай бародаўкай. Аднолькавыя ў нас толькі губы, і рукі вельмі падобны.

Вячэру з Надзеяй мы нарыхтавалі хутка. Зрэдку я паглядала ў акно на мужчын, што сядзелі ў глыбіні саду за маленькім столікам ля разгалістай яблыні. Бацька нешта імпэтна гаварыў, размахваючы рукамі.

— Чаго яны там спрачаюцца? Не ведаеш, Надзейка?

Надзея прыслухалася.

— Бацька скардзіцца зноў,— сказала яна.— Абвінавачваюць яго на лесаскладзе. Адпусціў людзям сасновыя цурбачкі на дровы — гнілі ж у яры. А нехта ананімку ў раён напісаў, што ён дзераўіну добрую і дошкі сплавіў.

— А чаму ж ён мне нічога не казаў?

— Турбаваць не хоча. Камісія працуе. Ён чакае...

Надзея месціла талеркі на стале.

— Больш паўлітэркі я на стол не пастаўлю,— сказала яна.— Ты як думаеш?

— На маю волю — кропелькі б не дала гэтаму жлуктачу. Іш, прыкаціў на таксі. І як ён адважыўся таксі ўзяць, жмэнда. Відаць, нешта вельмі пільнае...

Надзея ўздыхнула:

— У чужым воку і саломку відаць. А ён сваяк наш. Нельга гэтак пра яго...

— А калі сваяк, дык і змоўчваць усё? Не, я так не магу. І сваякам буду казаць праўду ў вочы...

— Толькі не тут. І не цяпер. Пакліч іх!

Мужчыны дружна ўзняліся з-за століка і пашыбавалі дахаты. Бацька ішоў наперадзе.

За вячэрай, зусім неспадзявана, узнікла гаворка, якую чуць мне зусім не хацелася. Пачаў яе бацька.

— А Міхась, аказваецца, цягун,— сказаў ён.— Калі што ўхапіў,— воўк з зубоў не выдзера. Учэпісты. Я спакойны: хату ён паставіць. Калі што трэба, Андрэй Піліпавіч, думаецца, сваіх слоў назад не возьме — дапаможа таксама.

Раманюк аж прыўзняўся, ускінуў рукі:

— Няма і гаворкі! Суседзямі жыць — любата адна. За суседа добрага што хочаш аддасі. А тут — сваякі! Ды любата! Ну, Міхале, скажы, стане хата?

Нібыта хто падштурхнуў мяне: больш зручнага моманту адкінуць намер Міхася, відаць, цяжка было б знайсці. Пакрыўдзіцца Міхась — няхай. Але я скажу. І бацька тут. І Надзея. І Раманюк няхай яшчэ раз паслухае.

— Хата нам не патрэбна. Не будзем мы яе будаваць. І вы, Андрэй Піліпавіч, на гэта майго мужа не падбухторвайце!

Бацька па чарзе, але моўчкі агледзеў усіх, паціснуў плячыма.

— Як гэта разумець? — запытаў ён, звяртаючыся толькі да Міхася.

Міхась наліў сабе кубак піва, выпіў, сагнутым у крук пальцам правай рукі абцёр губы.

— А што мне? Сілы ўжо не стае з ёю змагацца. Ну, збудую, скажам. Дык што, пугаю мне Стэфку ў тую хату гнаць?

— А жыць як? Трэба ж на лепшае гарнуцца. Калі што — прадасцё хату...

У бацькавым голасе была разгубленасць. Ён, відаць, толькі цяпер зразумеў, што маё пярэчанне выпашанае, прадуманае, што з мужам тут у нас згоды няма і не было. Мабыць, ён не чакаў, што размова возьме гэткі кірунак, і быў не падрыхтаваны да яе.

— Кватэру мы атрымаем,— паспешліва запэўніла я бацьку.— На заводзе можна было даўно атрымаць, каб падалі заяву. А ўласная хата?.. Яна нам не патрэбна. Я — вучуся. Налета Міхась пойдзе, можа, у інстытут. Я даўно кажу яму пра гэта... Тады адкуль у нас час будзе на гаспадарку? Зусім не будзе...

— І гэта праўда,— сказала Надзея.— Вучыцца ім трэба.

Раманюк скоса паглядзеў на яе. Крэкнуў у кулак.

— Няхай, няхай. Як паспытаюць гэтае камунальнае радасці, адразу і розум з'явіцца. Спахопяцца. Але позненька, даражэнькія, як той казаў.

— Не малыя яны,— зноў сказала Надзея.— Самі ведаюць, як жыць. І няхай. Не нам іх за ручку вадзіць...

Як я дзякавала Надзейцы ў той момант! Яе словы надалі мне сілы. Я адчула ў словах Надзеі не простае жаданне пярэчыць Раманюку, а нешта большае, падобнае на непрыязнасць да яго і прызнанне таго, што мая пазіцыя правільная. Цяпер у мяне была паплечніца. Я ўжо не адна. Я разумела, што вытокі гэтай радасці ляжаць за межамі слоў Надзеі, што яна грунтуецца на зусім нечаканай і, можа, канчатковай згодзе Міхася адмовіцца ад хаты, але была гатова прызнаць, што толькі ўмяшанне Надзеі змяніла ўсю справу. Я сказала сабе: трэба шчыра пагаварыць з Надзейкай, падзякаваць ёй. Прыгадаліся ўсе дні, што мы жылі тут, і мне зрабілася непамысна: я трымалася з ёю неяк суха і абыякава. Да сённяшняга дня нас яднал толькі хатнія справы, і мы ніколі не раіліся, не гаварылі сардэчна.

Пасля вячэры бацька вадзіў Раманюка па садзе, паказваў яму яблыні — пахваліўся сваім уласным гатункам. Яблыкі тыя не вельмі смачныя, але бацька з гонарам паказвае іх кожнаму.

Зірнуўшы ў акно, я ўбачыла Раманюка. Ён пачціва — як гэта лоўка ў яго атрымліваецца! — слухаў бацьку. Дзіўна часам складаюцца чалавечыя адносіны! Робіць табе чалавек толькі добрае, а душа да яго не горнецца. Дзякаваць яму трэба, а ён — чужы табе.

— Відаць, не ад шчырага сэрца тыя даброшчы,— заўважыла Надзея.— Андрэя Піліпавіча я ведаю...

— Ты так думаеш?

— Тут і думаць няма чаго. Галя ж прыходзіць да іх?

— Не часта, перад ад'ездам гуркі палоць прыходзіла.

— А што яна пра тваю хату думае?

— Не гаварылі з ёю мы пра гэта. Ой, Надзейка, каб ты ведала, якая гэта радасць, што Міхаська ўрэшце махнуў рукою на хату!

— Ён пакрыўдзіўся на цябе.

— Няўжо?

— А ты не бачыла? Набычыўся і засеў у пакоі. Ідзі, ідзі да яго. Я тут сама ўпраўлюся...

— Во яшчэ! Пачакае!

— Ідзі, кажу табе!..

Міхась чуў, што я ўвайшла ў пакой, але не ўзняўся, не павярнуў галавы і ўсё сядзеў пры акне, паклаўшы локці на падаконне. Было яшчэ светла, і далягляд ірдзеў скрозь галіны старой грушы — груша расла ля хаты, насупраць акна. Міхась да нечага прыслухоўваўся.

Я падышла да акна і стала побач.

— Што ты слухаеш?

— Недзе вячорка грыміць.

Я прыслухалася. Гармонік пілікаў, здаецца, у Залессі. Я сказала гэта Міхасю. Ён хмыкнуў:

— Юхімка Халецкі, нябось, свой круціць.

— У яго парваўся.

— Усё, аднак, ведаеш. Цалаваў ён цябе, прызнайся?

— І не сорамна табе?

— Рута пахне,— ён пацягнуў носам.— І чаборам, здаецца. А ты і закіпела. Пажартаваць нельга.

— Гэтым не жартуюць.

Міхась шумна, быццам пасля цяжкай работы, уздыхнуў:

— А я сяджу тут і думаю...

— Ты злуеш на мяне?

Я паклала яму на плечы рукі.

— Крыху,— сказаў ён.— Неяк не па-людску ў нас з табою атрымліваецца. Збіралі мы грошы, збіралі на хату...

— Яны табе яшчэ спатрэбяцца.

— У рэстаран ты мяне ўсё роўна не пусціш.

— Я пушчу цябе ў інстытут!

— Усё гэта, залаценькая мая, фантазія.

— Не, Міхаська, не фантазія. Ведаеш, што мне зараз прыгадалася?

— Вочы Раманюка. О-ох, і ўз'еўся ж ён на цябе. Толькі маўчыць, не гаворыць.

— Зусім другое, Міхась. Завод прыгадаўся. Памятаю, прыехалі сюды, а я тыдзень электрапечы чула, як гудуць яны. Пра што задумаюся, а дазатары — шчоўк, шчоўк. А цяпер прайшло. А твая электрастанцыя? Ты пра яе ні разу і не ўспомніў тут...

— Я малюся, што збег адтуль на месяц.

— Ты проста не любіш яе.

— Гэта не жонка. Дазваляецца. А чаго ты пра завод пачала?

— Сказала пра інстытут і прыгадала свой цэх. Большасць апаратараў у нас вучыцца.

— Акадэмікі там у вас працуюць. А дай катораму выключацель паставіць — ён і лапачкі дагары. Не зможа!

Зноў набліжалася вядомае мне кола. Яно палохала мяне: новых спрэчак мне не хацелася.

— А як гармонік заліваецца! Можа, успомнім мінулае, Міхаська? Колькі цяпер? У-уу, толькі дзевяць...

— А на маіх і палавіны няма. Гнюсная штампоўка. Можа, твае барахляць?..

— Гэтага не было яшчэ...

Я пакратала пальцамі абадок свайго гадзінніка. Ён быў куплены на мае ўласныя грошы. Пашанцавала: мінутка ў мінутку ідзе. Колькі радасці было ў мяне тады! Мне нясцерпна захацелася, каб тую радасць адчуў і Міхась. Адчуў цяпер! Зараз жа!

— Заплюшч вочы,— загадала я.

Ён жмурыў вочы, вейкі яго крыху дрыжалі. Я заўважыла гэта.

— Не падглядай. Чуеш?

Быццам нельга адчуць, што табе надзяваюць на руку гадзіннік! Але мне хацелася менавіта гэтак зрабіць: няхай адкрые вочы і ўбачыць.

— Усё. Можаш глядзець!

Стрэлкі на маленькім цыферблаце слаба паблісквалі.

— Навошта ты яго мне начапіла?

— Цяпер ён твой!

Міхась узяўся за раменьчык. Я схапіла яго руку.

— Гэта мой падарунак. І ты не маеш права яго не ўзяць. Пакрыўдзіш...

— Але навошта ён мне?

— Каб ты ніколі не забываў мяне. Зірнеш — успомніш адразу. І не прыпазніўся на вакзал, калі я прыеду з сесіі. Ці, можа, забудзеш мяне за гэты месяц?..

Мне зрабілася горача ў яго цяжкіх абдымках. І дзіва нейкае. Калі я купіла гадзіннік — колькі марыла, пакуль тое збылося,— была радасць. Але тады не было таго адчування, што цяпер, калі гэтага гадзінніка няма на маёй руцэ. Тады я лічыла сябе шчаслівай. А цяпер?.. Не, відаць, гэта і ёсць самае каштоўнае ў жыцці — мець клопат не пра сябе асабіста, а дбаць аб другім чалавеку і разумець, што ты яму патрэбен.

Праз барвовае і бліскучае лісце грушы біў у вочы агняны прамень. Пахла рута, і пах яе быў змешаны з салодкім водарам чабору.

На руцэ Міхася чыкаў мой гадзіннік. Блізка. Вельмі блізка. Над самым маім вухам.

А можа, усё гэта і ёсць сапраўднае шчасце?..

## 4

Студэнтка другога курса!

У Мінску, у гаманлівым інстытуцкім натоўпе, сапраўдная радасць гэтай падзеі гублялася, неяк мізарнела: кожнага займаў аднолькавы клопат — кнігі, лекцыі, экзамены. І я была там такая ж студэнтка, як і сотні другіх.

І толькі ў вагоне цягніка, што ішоў на Прыдзвінск, гэтая падзея набыла канкрэтныя формы, увасобілася ў вялікае, нязнанае раней ганарлівае пачуццё. Мне карцела кожнаму расказаць пра сваю радасць, хацелася, каб цягнік хутчэй ляцеў наперад.

Я ведала, Міхась не чакае мяне — у апошнім лісце абяцала прыехаць у нядзелю. А сёння серада. У самых драбніцах выспяваў план. Неспадзеўкі ўвайду ў пакой, сумна стану ля парога і скажу, што зрэзалася па ўсіх прадметах і таму прыйшлося ехаць дадому раней.

Гэтак думалася мне ў вагоне, а калі я ўбачыла знаёмую хату,— забылася на ўсё адразу. Знаёмая асфальтаваная сцежка за брамай здалася мне вузкай і кароткай. Непазнавальна змяніўся сад — усё ў ім быццам чужое. Дрэвы закупчасціліся. І яблык многа...

Узорную лістоту ясеня суха трос вецер. Я ішла дахаты праз шапаценне лісцін, па светлых плямах, што мітусіліся на выбоістым асфальце сцежкі.

Я нікога не напаткала ў садзе. Хата сустрэла мяне цішынёй і запусценнем. Непрыбраны стол. Брудныя талеркі. Іржавая рыба ў кансервавых банках. Моцны пах табакі.

— Міхась! — ціха паклікала я.— Міхась!..

Ніхто не адказаў. Я адчыніла дзверы ў свой пакой і спалохана адхіснулася: на ложку ляжаў — я не адразу пазнала яго! — Міхась. Ён спаў. Спаў у пінжаку, не зняўшы ботаў, смешна прыціснуўшыся лбом да сцяны.

Хворы?.. Я спалохана прысела на ложак, адкінула валасы, што звісалі на вочы. Ён заварушыўся і, не расплюшчыўшы вачэй, штурхануў маю руку:

— Пайшоў да д'ябла. Не хачу больш!

П'яны! Толькі цяпер неяк дужа балюча ўразіў непарадак, што панаваў у пакоі: расцёрты нагамі карабок запалак, шматкі паперы, недакуркі, бруд. У роце зрабілася гор-

ка. Было крыўдна. Спяшалася, ляцела, быццам на крылах, каб прынесці Міхасю сваю радасць. А яна, тая радасць, аказваецца, зусім непатрэбна яму.

— Міхась, уставай!

Ён заварушыўся, яшчэ больш упурыў голаў у падушкі. Я тузанула яго за плечы. Міхась нешта мармытнуў, плюснуў разы са тры павекамі, прыўзняўся і сеў. У яго мутных вачах плыло здзіўленне.

— Ху-уу! Стэфа?.. Вось дык навіна. Не чакаў!

— Бачу.

— Напраўду. У нядзелю ж, пісала.

Я не хацела спрачацца з ім, не хацела папракаць, не магла нават гаварыць: усё стаілася ва мне, як памерла. Усе тыя добрыя словы, што я шаптала ноччу ў вагоне, разляцеліся; яны не проста зніклі, а адрываліся ад мяне, як адвальваюцца тоўстыя гліняныя пласты ад падмытай берагавіны, і я амаль фізічна адчувала боль, быццам адвальваліся кавалкі майго цела. У дні экзаменаў мяне нешта ўвесь час трывожыла — я думала пра хатнія справы. Але ў мяне была ўпэўненасць — Міхась стрымае слова. Я верыла яму. Цяпер гэтай веры ва мне не было.

— Ты не верыш, бачу. А я табе шчыра кажу: у нядзелю рыхтаваўся цябе сустрэць. А сёння хлопцы прыкацілі. Андрэй Піліпавіч — слупкі яму прывезлі — і частаваў...

— Міха-аал! Дзе ж ты тамачка?

Голас Раманюка абудзіў у душы злосць. Ніколі не думала, што гэтае пачуццё можа быць гэтакае вялікае, усеабдымнае і страшнае. Яно выціснула з душы і рэшткі радасці, і думкі пра інстытут, і нават крыўду на Міхася. Я ўзнялася насустрач Раманюку нечакана для яго і гэтак імкліва, што ён аслупянеў. Твар яго перакасіла грымаса здзіўлення.

— Прыехала! Ты бачыш, Міхале, ці не? Ну, то скажы мне, чыя праўда? Як снег на галаву. Віншаваць цябе з чым? З поспехам, вядома ж...

— Вашы віншаванні мне непатрэбны. Каго ішлі віншаваць, таго і віншуйце. Уставай, Міхась, цябе пахмяляцца клічуць...

Раманюк нібы не слухаў мяне і не чуў маіх слоў; хітрая, знаёмая мне ўжо ўсмешка кранула яго губы, успаўзла на шчокі і трывала асела ў вачніцах, нібыта заблыталася ў дрогкіх рудых веях.

— Ганарыцца, Міхале, такой жонкай трэба. Малайчына ў цябе жонка. А-аах, малайчына.

Міхась прыклыпаў да дзвярэй, прыхіліўся плячом да вушака — роўна стаяць было яму цяжка.

— Значыцца, парадачак! А я — напалохаўся. Дай, Стэфачка, павіншую. Вось як!..

Ён пацалаваў мяне. Раманюк бурна вітаў гэта:

— Правільна, Міхал! Гэткую жонку на руках трэба насіць!

— А я што, супраць? — Міхась хацеў узняць мяне.— Во, як мы можам!..

— Як табе не сорамна! Ідзі!..

Я адштурхнула яго і зачыніла дзверы. Слёзы душылі мяне. Ці ж думала я, што маё свята будзе гэтак бязлітасна збэшчана, абліта граззю?.. Колькі радаснага і светлага было звязана з гэтым днём! Колькі я лётала па Мінску: падбірала падарунак Міхасю... Мне думалася, што, калі я прыеду дахаты, мы будзем у пакоі адны. З намі будуць радасць і кветкі. У вагоне я нават думала пра гэта: здагадаецца Міхась паставіць кветкі на стол ці не. Пагадала на пальцах. Выходзіла — і двойчы нават — здагадаецца!.. І замест усяго гэтага — п'яныя віншаванні, бруд, тое, што я ненавіджу...

Дзверы тарганулі мяне ў плечы. Хто гэта? Міхась. Ён увайшоў, стаў побач і, ківаючы галавою, папрасіў:

— Можа б, ты дапамагла нам?

Як яму не сорамна яшчэ прасіць мяне!

— Адны не ўправіцеся?

Ён зірнуў на мяне міралюбна.

— Ты благога не думай. Пасядзім, чарку за твой поспех пусцім. Цёткі ж няма. Якраз пасля твайго і яна зматалася — нешта ў Мурманск павезла. Адны мы з дзядзькам гаруем...

— Міха-ааале! — п'яна, як песню, зацягнуў Раманюк.

Цяпер я ведала, што мне трэба рабіць. Ніводнага дня больш у гэтай хаце! Нам абаім нельга тут заставацца!.. Чаму гэтак запознена прыйшло да мяне рашэнне? Я ж ведала даўно, што нічога добрага нас не чакае тут. Ведала і — маладушна цярпела. Хаця не, не маладушша гэта было, а надзея. Так, надзея. Я спадзявалася, што змагу ахаваць Міхася ад гарэлкі, ад усяго таго, чым жывуць Раманюкі. Яго цвёрдае абяцанне перад маім ад'ездам супакоіла і абнадзеіла мяне. І гэта была памылка. Усё добрае, што я вырошчвала ў Міхасёвай душы цэлы год, Раманюк разбурыў за адзін месяц.

— Дапамагчы павінен ты мне,— сказала я. Рашэнне было прынята канчатковае і рашучае.

— Што рабіцьмем?

— Складаць рэчы. Жыць мы тут не будзем. Пойдзем!

— Куды? У арэшнік па жалуды?

— На першы час і да цёткі можна.

— Чакаюць нас там! У саміх пяцёра душ на два катухі.

— Адну ноч — нічога. А заўтра знойдзем кватэру!

— Ха-ха-ха! Ну, гладка завучылася баба!

— Міха-але! — зноў падаў голас Раманюк.

— Іду! Ну кажу ж табе — іду! І вось не адчэпіцца, пакуль не прыйдзем. Хадзем!

— Я сказала табе!

— А-аах! Яна — сказала!

Міхась з усяе моцы бразнуў дзвярыма. Я засталася ў пакоі адна. Здранцвенне было кароткае. У нейкім вясёлым запале я кідала ў чамаданы свае рэчы. Кідала і здзіўлялася: адкуль гэткае мноства рэчаў?.. Глядзела на падушкі, на паліто, на малюнкі ў залачоным багеце, на люстэрка, крэсла, стол — усяго многа. І ўпершыню падумала: я раблю немагчымае. Але назад дарогі не было. Калі я адступлю сёння, не пераканаю Міхася пайсці адсюль, дык больш ніколі не ўдасца мне зрабіць гэта.

У пакой увайшоў Міхась. Вельмі спакойна — а чаго каштавала гэта мне! — я папрасіла яго закрыць чамаданы. Няхай ён ладкуе іх, звяжа пасцель, а я тым часам пашукаю якой машыны. Другі раз варочацца сюды мы не будзем!..

Нейкі час ён глядзеў на мяне, на чамаданы, на адчыненыя дзверцы шафы. Потым спакойна выцягнуў з кішэні пачак папярос, закурыў і пстрычкаю адкінуў запалку ў куток.

— Хутка, аднак, сабралася. Калі ж гэта ты паспела?

— Я больш не застануся тут ані мінуткі!

Міхась нахіліўся, і я ўбачыла, як хутка чырванеюць яго вушы і шыя. Адным узмахам ён закінуў чамадан на шафу, другі нагою запхнуў пад ложак, некаторы час углядаўся ў мой твар. Папяроса сціснута, аж збялелі губы, ноздры пачырванелі, а голас — спакойны. Як падабаўся мне гэты рашучы твар! Міхась, што ж гэта мы робім?..

— Ну, вось і я папрацаваў,— сказаў ён.— Гэтага, думаю, хопіць на сёння.

— Міхась, я прашу цябе, пойдзем.

— І я табе не загадваю, хадзем вячэраць. Ты тут ладна напрацавалася. Гэткія чамаданы напакавала — ледзьве ўзняў!..

І гэтая іранічная пасмешлівасць, відаць, і была тая кропля, пасля якое маё цярпенне скончылася. Стрымліваючы сябе, я надзела жакецік. Голас здрадліва дрыжаў.

— Што ж, прыйдзецца ісці адной.

Міхась спыніў мяне ля парога, груба сціснуў плячо:

— Я табе зараз гэтак пайду... Дзесятаму закажаш!

— Гэтым ты мяне не затрымаеш. Пусці!

Чырвоны туман заслаў мне вочы. Удар Міхася зваліў мяне на ложак: здалося, што галаву рассеклі напалам. Быццам у сне, пачула жудасную злосную лаянку Міхася і бразгат дзвярэй. Потым усё сціхла, і толькі аднекуль з высі роўна сыпаўся прыгожы несціханы звон...

Я ўзнялася, села і сціснула галаву рукамі. Звон узняўся разам са мною: ён біўся пад маімі далонямі, нібыта мятлік, якога я злавіла тады ў полі. Мне ніколі, ніколі ў жыцці гэтак не балела галава. Я асцярожна перавяла пальцы з ілба на нос, пакратала вочы і шыю. Боль увайшоў у маё цела, а звон крыху паслабеў.

Дзверы ў пакоі былі замкнёны. Я націснула на іх плячом — яны не паддаліся. За акном гаўкнуў сабака. Белы ветразь цюлі гайдаўся, нібыта клікаў, махаў рукою нехта з саду. Там, за гэтым ветразем, здавалася мне, ёсць збавенне ад болю і крыўды...

Я скочыла на кветнікі, не азірнуўшыся, пабегла да брамы. Куды я бегла,— не ведала. Навошта? Я зусім не думала над гэтым. Боль гнаў мяне. Я адчувала, што за маёй спіною не проста хата, а нешта страшэннае, дзікае, неверагоднае, ад чаго мне трэба ўцякаць. Мне здавалася, што варта адбегчыся ад гэтых нізкаватых яблынь, сысці з выбоістай сцежкі, як усё зробіцца ясным, сцішыцца боль і я змагу роўна і спакойна дыхаць. Хутчэй адсюль! Хутчэй!..

Я выбегла ў правулак. Гусак засіпеў на мяне, але не выпаўз з гразкай калдобіны і толькі разявіў дзюбу, цягнуў да мяне шыю і сіпеў.

Крэкалі гусі. З адчыненага акна далятаў патрабавальны жаночы голас: «Колькі разоў гаворана табе? Ты што, маленькая? Пастаў конаўку на месца. Чуеш, Волька?» Гэта суседка крычала на сваю малую дачку. За рэдкай штыкетнай агароджаю, як святочныя сцяжкі, матляліся на вяроўцы жоўтыя і блакітныя дзіцячыя штонікі.

І ад гэтай будзённшчыны, ад таго, што нікому няма аніякага клопату і спагадлівасці да мае бяды, мне зрабілася страшна.

— Стэфа! Пачакай, Стэфа!

Мяне клікаў Міхась. Я чула за спіной яго таропкія крокі і паскорыла хаду.

Міхась дагнаў мяне толькі на вуліцы.

— Даруй, Стэфа. Не хацеў я гэтага...

Я чула Міхасёвы словы, але сам Міхась быў нібыта далёка, гэтак далёка, што пачуць мой адказ ён не мог. Міхась ішоў побач, як цень, але яго словы абміналі мяне, як нежывую, і я не гаварыла з ім. Я маўчала.

Мы даўно павярнулі ўжо з люднай вуліцы і ішлі нейкім правулкам, па-над крутым рачным касагорам, што густа парос быльнягом. Вада ў рацэ была рудая. На беразе мітусіліся хлапчукі — абстрэльвалі каменнем бляшанку з кансервы. Каменне падала густа, бляшанка падскоквала на хвалях, нахілялася, чэрпала ваду, але ўпарта не хацела ісці на дно.

Я сачыла за ёю і раўнадушна слухала вясёлую дзіцячую гаману. У душы была пустэча. Усё тое, што я перажыла за гэты дзень — радасць чакання стрэчы з Міхасём, горыч яго апошніх слоў, злосць на Раманюка, страшэнны фізічны боль,— усё гэта быццам знікла, адышлося ад мяне. І сам Міхась, хоць ён і ішоў побач, быў дужа далёка. Я бачыла яго твар нібыта праз нейкую тканіну — нейкі белы, дужа белы твар; кроплі поту на лбе сядзелі густа, як пасля дажджу, але былі дробныя і толькі на скронях блішчалі буйна, як слязінкі. Няўжо мы гэтак хутка ішлі, што ён стаміўся?..

Пад касагорам ваяўніча закрычалі дзеці. Я прыпынілася і зноў зірнула ўніз. Бляшанкі на вадзе ўжо не было.

— Патанула...

— Хто патануў? — адразу запытаў Міхась.

— Бляшанка. Хлапчукі каменнем закідалі...

Міхась плюнуў, дзіка, як тады ў хаце, вылаяўся.

— Сур'ёзнае дзела ў нас, а яна — бляшанку ў вадзе шукае. Ой, гора маё...

Я прыгнулася ад яго слоў, быццам кінулі мне на плечы непамерна цяжкі мех; твар Міхася апынуўся зусім блізка, і я ўжо бачыла толькі частку яго — старанна паголеную сінявату шчаку і маленькую вузкую драпінку на ёй; кропля поту сунулася на гэтую драпінку, і яна расплылася ў нейкім тумане. Я падняла руку да грудзей —

мне было цяжка дыхаць: пад далоняй глуха вухкала сэрца. «Туў!» «Туў!» «Туў!»

Міхась змрочна параіў:

— Можа, досыць камедыю выломваць? Зайшлі далёка... Чуеш? Хадзем дахаты...

Толькі тут, на касагоры, я зразумела ўсю глыбіню свае бяды. Яна паўстала перада мною нічым не прыкрытая, бязлітасная, і я не палохалася ўжо, а здзіўлялася. Чаму я была гэткая наіўная і сляпая? Каму верыла?.. На што спадзявалася?.. Я паспрабавала супакоіць сябе, знайсці нейкае тлумачэнне таму, што адбылося, але гэтае жаданне знікла, спавітае тугой.

А можа, усё тое саснілася мне? Не, глупства. Усё — праўда. І Міхась. І сустрэча. І яго словы. І боль. І крыўда ў сэрцы. І нічога не саснілася. І няма патрэбы шукаць нейкія апраўданні. Усё — праўда.

І гэтую праўду сэрца не хацела прымаць.

Я зрабіла крок, пахіснулася; твар Міхася адразу расплыўся, быццам схаваўся ў шэрані.

— Куды? Звар'яцела! — ён схапіў мяне за плечы.— Касагор жа!..

Цяпер я зноў добра бачыла Міхася, углядалася ў спалоханыя чужыя вочы і здзіўлялася: шмат чаго невядомага раней было ў яго на твары. Ён не вытрываў, адвярнуўся, быццам нешта разглядаючы ў густым сплящэнні быльнягу над касагорам.

— Адпусці плячо! Баліць...

Ён паслухмяна зняў руку, нічога не сказаў, але пайшоў з другога боку, адціскаючы мяне ад касагора.

Правулачак хутка скончыўся, і мы зноў апынуліся на люднай вуліцы, зусім блізка ад вакзала. Па бруку з грукатам ляцеў самазвал, у яго кузаве на жоўтым пяску сядзелі дзяўчаты ў расхлістаных брызентавых спяцоўках. Дзяўчаты спявалі, і адна з іх падміргнула нам. Пыльны вецер мякка шухнуў у твар. Я прыплюшчыла на імгненне вочы, і тады зноў усё знікла вакол, быццам правалілася ў нябыт, і засталася толькі адна песня; яна турбавала, клікала ў нейкі вельмі далёкі, зусім нерэальны і ў той жа час таямніча-прывабны свет. Якія шчаслівыя дзяўчаты на машыне! Спяваюць — і гора не ведаюць. Каб можна было апынуцца побач з імі, ехаць!

Міхась узяў мяне за руку, спыніў.

— Досыць, Стэфка. Прашу, не буду больш. У трэці раз прашу, даруй. Ну...

— Ніколі! Ніколі ў жыцці!

Я не верыла яму і ведала — ніколі не паверу больш. Словы мае выплылі раптоўна, нібыта гаварыла іх не я, а нейкі другі чалавек, што жыў у маёй душы, але я яго не ведала. Міхася мае словы нікольні не ўразілі і не здзівілі.

— Не я, калі хочаш ведаць, і вінаваты. Сама пачала ўсё. Тых-бых, як Раманюк кажа. Але і ў мяне нораў ёсць: да трох разоў прашу!..— Міхась скрывіў губы і пацiснуў плячыма.— І не гэта ў сямейным жыцці бывае. А жывуць жа.

— А я — не буду! Я не хачу гэтак жыць! Не хачу!

Я адчувала, як паўзе на гэты пратэст зусім іншае пачуццё — нянавісць і злосць. Нянавісць да Міхася. Злосць — да сябе. Навошта я стаю тут і спрабую яму нешта давесці?.. Нічога я не давяду. А таго, што было, ніколі не змагу забыць.

— Ненавіджу я цябе. Ненавіджу! Адыдзі!..

Мне хацелася крычаць, хацелася ўдарыць Міхася. Мая нянавісць была такая вялікая, што я сама спалохалася свайго гневу. Каб стрымаць сябе, я адвярнулася ад Міхася. Адвярнулася і ў той жа час адчула, што ўжо не стаю на месцы, а іду. Кожны крок не балюча, а неяк радасна біў у сэрца.

Слабасці і разгубленасці не было.

Сказана тое, што мне хацелася.

Парвана тое, што перашкаджала мне ісці.

Радасць была кароткая, як маланка: мільганула, напалохала, і зноў стала цёмна. Навошта я раблю гэта? Мне нельга ісці ад яго! Я ж кахаю гэтага чалавека. А злосць — гэта часовае, гэта міжвольнае, гэта хутка павінна прайсці!..

Ногі нібыта самі краталіся; я ўжо не магла загадаць сабе нешта рабіць, а толькі прыслухоўвалася да сваіх крокаў і яшчэ да нечага, што хвалявала і слаба палохала. «Ён зараз пакліча мяне. Няхай пакліча. Ён павінен паклікаць мяне!»

Я чакала, што ён пакліча, і ўсё ж ішла — ногі былі мне непадуладны; усё ў душы напружылася да апошняга, як струна, якую варта кранудь, каб яна брынькнула і зляцела з грыфа; мне здавалася, што я зрабілася танюткай, кволай і нават ад слабага дотыку магу рассыпацца; я баялася гэтага і ўсё ж хацела, каб ён дакрануўся да мяне; я чакала яго слоў, а ногі вялі мяне ўсё далей і далей,

і кожны крок адчуваўся ўжо ва ўсім целе; адчуванне гэта не было завалочана смугою, а зрабілася падуладным мне, і я зразумела, што гора прыйшло да мяне не раптоўна, а сядзіць у душы даўно, быццам высечанае з цяжкага каменя, што асеў у глыбіні сэрца.

## 5

Шкляное павуцінне бясконца лілося з фільераў пад тонкі струмень замаслівацеля. Эмульсія сцірала гэтую празрыстасць, і на бабіну ішла ўжо бліскучая фіялетавая нітка.

Да маёй печы — другі раз ужо за гэты ранак! — падышла начальнік змены Фаіна Усцінаўна Ашур.

— Добра ідзе печ?

— Добра.

— Алесь глядзеў дазатары?

— Глядзеў.

— Вось бачыш...

А што «бачыш» — не сказала, узяла бабіну са століка, моўчкі абгледзела яе і пайшла. Смешна крыху. Фаіна Усцінаўна ведала, што печ працуе, што наладчык Алесь Тумілін праверыў дазатары.

І ўсё ж падышла, быццам баялася, што тут, ля маёй печы, нешта можа здарыцца.

Крыху счакаўшы, прыйшла ад сваёй печы Ніна Барысава. Толькі ёй адной расказала я, што мы разышліся з Міхасём. Гэта яшчэ больш зблізіла мяне з Нінай, але сёння я адчула ў нашых адносінах, дакладней, у маіх адносінах да Ніны, халадок: мне здалося, што яна некаму прагаварылася.

— Ты нікому пра мяне не казала?

— Што я, маленькая? — пакрыўдзілася Ніна.— А з чаго ты запытала? Нешта прыкмеціла?..

— Ашур на мяне неяк дзіўна паглядае. Быццам баіцца за мяне.

— Ды яна заўжды гэткая...

У цэху было горача. Глуха гулі вентылятары, але пах машыннага масла і разагрэтага металу ўстойліва вісеў ля электрапечаў. Жоўтыя кафліны пад нагамі няўлоўна трымцелі; гэтае трымценне нараджалася ў электрапечах, змешвалася са сталёвым грукатам станкоў, што ляцеў праз адкрыты прасценак цэха размоткі, і бліскучая ад шклянога пылу падлога ўсмоктвала яго, як губка ваду.

— Магчыма, твая праўда. Я раблюся вельмі падазронай.

— Кінь ты сабе клопат прыдумляць,— параіла Ніна.— Пасля змены мы пагаворым...

Яна па-змоўніцку падміргнула мне і адышла. А я адчула сябе крыху вальней. Мне перашкаджала ўсё: і Ніна, і цётка, у якой я прыстала на першым часе пасля сваркі з Міхасём, і яе дзеці, і яе муж, які сустрэў мяне вельмі няветліва, і кожнае слова сяброўак па рабоце адразу насцярожвала мяне.

Нязменным заставаўся толькі цэх. Чорныя каробкі электрапечаў — гэтае пачуццё з'явілася яшчэ ад першага разу — па-ранейшаму здаваліся мне жывымі істотамі. Жывым здавалася і павуцінне шкляных ніцей: у іх заўжды дрыжаў і пераліваўся агняны бляск. Я разумела і добра ведала, што складанага тут нічога няма, што проста шкляныя шарыкі плавяцца ад электратоку і расплаўленае шкло выцякае праз тонкія дзірачкі фільера і робіцца ад эмульсіі эластычным і гнуткім, але цяпер тыя складаныя працэсы, што адбываліся ў чэраве печаў, знаходзілі дзіўны адбітак у душы.

Вось ужо трэці дзень жыла са мною мелодыя ніколі раней нязнанай песні. Песні пра станочак. Я пачула яе на другі дзень, калі пачала жыць у цёткі,— у суседзяў былі госці, і ўвесь вечар грымела радыёла. «Станочек мой, станочек! О чем поешь? Куда ушел дружочек — ты не поймешь». Гэта — прыпеў. Ён узнікаў у сэрцы адразу ж, ледзьве я ўваходзіла ў цэх, і мне здавалася, што мелодыя жыве ў сярэдзіне печы, там, дзе клекатала за чорнымі сценкамі расплаўленае шкло; мелодыя быццам выплывала па тонкіх ніцях з чэрава печы, блыталася ў шкляным павуцінні, намотвалася на бабіну, жыла ў пукатых скрутках жаўтавата-фіялетавай пражы.

Гэтая песня і я — непадзельныя. Яна гучала ў маёй душы, калі я размаўляла з начальнікам змены, калі гаварыла з Нінай, калі мяняла бабіны, калі глядзела на падносчыцу Ганну Тураву, што прынесла з цэха размоткі пустыя шпулькі.

— Ты нешта сумная зрабілася,— заўважыла яна.— І з твару счарнела. Не захварэла, думаю. Спытала ў Нінкі — здаровая, кажа...

Песня гучала ў душы. Яна нараджала ў сэрцы салодкую тугу, і гэтай тугой я адгарадзіла сябе ад усіх.

— Баранава ў вас за прафесара. Правільны дыягназ паставіла: не хварэла. І зусім я здаровая.

На маленькі круглы твар Туравай набег цень, ледзьве ўлоўна варухнуліся бровы. Я бачыла: яна пакрыўдзілася. І няхай! Няўжо я павінна крычаць, каб чулі ўсе, што мы пасварыліся і разышліся з мужам? Так... Відаць, не трэба было нікому мне казаць пра тое. Нават Нінцы. Маўчаць! Толькі маўчаць!.. Калі і нават сапраўды хворая — каму які клопат?

— Дарма ты гэтак думаеш,— сказала Турава.— Разам працуем, таму і запытала...

— А бабіны ляжаць. Самі яны ў цэх не палятуць!

Турава хуценька пакідала бабіны на касету.

— Бягу, бягу. Толькі ты не злуйся, калі што. Злосць, Стэфачка, дзелу благі дарадчык.

Яна заспяшалася ў цэх размоткі. За калонай, дзе працавалі мантажнікі з брыгады Журко,— манціравалі кранштэйны падвеснай аўтаматычнай лініі,— Турава спатыкнулася і ледзьве не павалілася. Я чула, як яна са злосцю лаяла іх.

— Панастаўлялі драбязы рознай. А прайсці?

— Ножкамі, цётачка, пакуль што. Ножкамі. Лінію паставім — вас на пенсію пусцім.

— Язык свой на пенсію пастаў,— адрэзала Турава дарадчыку з мантажнікаў.— Дзе ваш брыгадзір?

Аднекуль з'явіўся Журко, пагразіў пальцам мантажнікам. Турава накінулася на яго і доўга не магла супакоіцца. Урэшце яна пайшла ў размотачны цэх. Журко падбег да мяне.

— Чаго твая падносчыца грыміць? — запытаў.

— Бедненькія. Перапалохаліся.

Лоб у Журко быў перапэцканы нечым чорным. Я выцягнула з кішэні люстэрка, паднесла яго Віктару:

— На коміне сядзеў?

— Чорт. Гэта мазут.

— Лоб пратрэш, досыць. Чыста, кажу табе.

— Пакуль лінію не паставім, тут чыста не будзе.

— Ці дажывём мы да той лініі? Ваша брыгада стараецца, як мокрае гарыць.

Нібыта нейкі юрлівы нячысцік пасяліўся ў маёй душы. Я падазравала Ніну, сказала грубасць Туравай, з'едліва гаварыла з Журко — усё было не так, як мне хацелася; было адно жаданне — усіх абвінавачваць.

— Што твой Міхась парабляе?

Пытанне было нечаканае: упершыню пасля нашай спрэчкі з Міхасём у мяне пыталіся пра яго.

— А навошта ён табе?

— Хачу пагаварыць з ім. Нам патрэбны добрыя электрыкі. Ты перадай, няхай пазвоніць ці зойдзе. Даруй, бегчы трэба...

Журко клікалі мантажнікі — гэта выратавала мяне. Я адчувала, што варта яму яшчэ спытаць у мяне што-небудзь — і я не вытрываю, закрычу на Віктара ці кінуся бегчы. Чаму я не сказала яму праўды? Баялася? Не, Віктар добры сябар. Тады чаму мне было цяжка сказаць яму тое, што ёсць, тое, што я думаю і чаго хачу?..

Да заканчэння змены я думала над гутаркай з Віктарам. Прыгадвала інтанацыю яго голасу, уважны і быццам крыху вінаваты пагляд. Відаць, ён знарок запытаўся ў мяне пра Міхася. Так, бо ведае ўсё... А я хлусіла, паводзіла сябе, як дзяўчынка, як малое дзіця. Віктар, напэўна, бачыў і маю разгубленасць, і чырвань на шчоках, і тое, як уздрыганулі ад яго пытання мае губы...

Змену мы здалі ў дванаццаць. Я затрымалася крыху ў цэху. Ніна настойліва не адыходзіла ад мяне. Пераапраналіся пасля работы мы разам.

— Памажы,— папрасіла Ніна і працягнула мне рукі.— Такі нязручны халат. Сама аніяк матузкі не адвяжу. Хто іх і шые толькі. Па руках бы!..

— А што лепшае прыдумаеш?

— Камбінезончык хаця б. Там і каўнярок людскі. І кішэньчыкі.

— Мне халат больш падабаецца.

— Даруй, але з табою нешта здарылася. Нейкі дух супярэчлівасці засеў у табе.— Ніна павесіла халат на дзверцы шафкі і паабяцала: — Заўтра я буду яго выцярэбліваць. Не ведаю, як ты, а я паеду на вёску і прыязджаю зусім другім чалавекам, калі пабачу, што там робіцца. Паглядзім заўтра, якую там кукурузу выгнала!

— Я заўтра нікуды не паеду.

— Не дурыся. Цябе запісалі.

— Не паеду... Чэсна кажу, не хочацца.

Ніна апранулася, моўчкі прычасалася і толькі потым зазначыла:

— Зайдзі хоць у мясцком. Ханюціна каго другога пашле.

— Зайду.

Мы выйшлі на лесвіцу. Ніна спачувальна ўздыхнула:

— Дрэвы бачыш, а лесу не заўважаеш...

— Не разумею.

— А чаго тут не разумець? Круцішся ты вакол свае бяды, як кацянё за сваім хвастом. Ну пасварыліся. Што з таго? Усё жыццё наперадзе. Ды я на таго гада плюнула б, ды яшчэ нагою прытупнула б.

— Мне здаецца, занадта тупаеш. І ўсё — вакол мяне.

— Магу не тупаць.

— Я скажу табе дзякуй...

— Ты гэта сур'ёзна?

— Так! Так! Мне надакучыла гэтае апякунства, гэтыя павучэнні. Можаце вы хоць на адзін дзень пакінуць мяне спакойнай? Проста не заўважаць?

Ні здзіўлення ў Нініных вачах, ні папроку. Яна павярнулася і пайшла ўніз. Я не затрымлівала яе і ніколькі не шкадавала. За гэтыя некалькі дзён мне надакучылі яе парады. І якое права яна мае лаяць Міхася? Я маю гэтае права. Толькі я адна!..

З такім благім настроем і ўвайшла я ў кабінет старшыні мясцкома. Ханюціна некуды спяшалася. Накінуўшы на белую кофту карычневы жакецік, што вісеў да гэтага на спінцы крэсла, яна сказала:

— Пяты чалавек прыходзіць. Заўтра ехаць, а яны — у дуду трубяць. Што ж, паедзе адна Ханюціна!

Яна бокам нахілілася да стала, уссунула акуляры на тоўсты нос, прыгледзелася да мяне.

— У якой ты брыгадзе? Так... Правільна, у першай. Ударную камсамольскую склалі, і — на табе. А чаго, уласна кажучы, не едзеш?

— Не магу!

— Здзіўляючая аднастайнасць. Нібыта згаварыліся, усе ў адно слова — не магу. Ды калі мы сарвём мерапрыемства,— заўтра ўсіх на бюро!

— А пры чым тут бюро?

— І гэта гаворыць камсамолка!..

Так, камсамолка. Але я не магу заўтра ехаць. Чаму? Я не ведаю. І не кватэра, якую я збіраюся заўтра шукаць, каб пайсці ад цёткі, гэтаму прычына. Я сама не ведаю яе, гэтую прычыну, а толькі здагадваюся, што звязана яна з Міхасём. Можа, я чакаю, што заўтра нядзеля і ён прыйдзе? Я не хачу яго бачыць. А можа, гэта няпраўда?..

— І гэта кажа камсамолка,— паўтарыла Ханюціна і паклала спіс ударнай брыгады на стос нейкіх папер.— Пе-

радам гэтую справу Журко. Няхай камітэт разбіраецца. Сабатаж нейкі.

У душы варухнулася варожасць да гэтай жанчыны. Яе словы ўрываліся ў мае думкі, але не перашкаджалі ім. Не, я не памылілася: бачыць Міхася я не хацела. Я ведала цяпер пэўна, што заўтра ён прыйдзе да цёткі. І добра. Няхай паскача. А мяне — не будзе!..

Зларадпасць прымірыла мяне з Ханюцінай. Мне было смешна глядзець, як яна злуецца.

— Не трэба нічога перадаваць Журко. Я перадумала. Еду!

— І правільна робіш. Між іншым, я ўсіх пераканала. Пяць ноль — у карысць мясцкома.

Усмешка зламала хімічную пунсовасць губ Ханюцінай. Нават праз акуляры я бачыла яе іранічную ўсмешку пераможцы.

Я павольна, вельмі павольна ішла па лесвіцы да прахадной. Ад нядаўняй мае зларадпасці не засталося і следу. Хто яшчэ прыходзіў у кабінет Ханюцінай апроч мяне? Няўжо і іх прывяла сюды падобная прычына?..

## 6

З калгаса мы ехалі ў горад на адвячорку. На пачатку дарогі, як і ўранку, спявалі на ўсіх трох машынах. Але перад горадам песня ехала толькі з намі: на дзвюх апошніх машынах прымоўклі.

Ніна зірнула на дарогу, дзе ў купчастых грывах пылу паўзлі заводскія грузавікі, прыслухалася.

— Наша перамагла,— паведаміла яна.— Точна. Маўчаць, галубочкі. Давайце яшчэ адну. Якую возьмем?

— Пра Бранскі лес.

— Спявалі. Лепш «Бацьку-Нёмана».

— Хахлацкіх не спявалі «Распрагайце, хлопцы, коней».

— У нас тут толькі дзяўчаты — не пойдзе.

— Ціха! — уладарна загадала Ніна.— Гэта ж мы да «паясоў» не дабраліся. Дружна толькі схапіце.— Яна перадыхнула.— «Ад родных ніў, ад роднай хаты...»

Якая прыгожая Ніна, калі спявае! Шчокі ружавеюць, шэрыя вочы робяцца бліскучымі, яны нібыта свецяцца знутры.

Чаму мяне хвалюе гэтая песня? Памятаю, па вечарах яе спявала мне маці. Я шмат чула песень потым, але гэтая засталася, а многія забыліся. Ёсць шмат добрых пе-

сень. Іх спяваюць год, два, а потым яны нібыта старэюць. А гэтая песня пра далёкі прыгон, пра часы, якія мы ведаем толькі па кнігах, жыве і будзе, відаць, жыць яшчэ доўга.

Мы скончылі песню якраз у той момант, калі машына мінула лес. Паабапал дарогі ляжаў скошаны луг. Удалечыні, за нізкім хмызняком, што шнурам апаясаў лугавіну, бялелі гмахі Прыдзвінска. Промні сонца, схаванага лесам, яшчэ ляжалі на вежах царкоўных муроў.

— Зводдалі ён прыгожы, горад,— зазначыла Ніна.

— А зблізку благі?

— Ханюцінская дальнабачнасць у тваім пытанні. Скуль ты ўзяла, што зблізку ён мне не падабаецца?

— Ой, Ніна, глядзі!

Нізкі стажок сена горбіўся ўскрай вузкай лугавіны, што пачалася за шнурам альхоўніку. На ім, як стары капялюш, сядзела блакітна-белае і круглае, як сподачак, воблачка туману. Край лугавіны тануў у рэдкай вечаровай сінечы-смузе, і за ёю жаўцела хата з белым шыферным дахам.

Я глядзела на гэты стажок, на хату, што, відаць, належала дарожнаму майстру, і ціхі, празрысты, як гэтая прылесная сінеча-смуга, клаўся на сэрца спакой. Як добра, што я паехала ў калгас! Як добра, што за гэты дзень мы памірыліся з Нінай!

Стаміліся мы здарава. У калгасе не адразу знайшлі нам работу — кукуруза была ўжо засіласавана, і нас накіравалі на дальнія лугі стагаваць позняе сена. Я бачыла новых людзей, пазнаёмілася з маладой настаўніцай, якая толькі сёлета скончыла інстытут і прыехала працаваць у наш падшэфны калгас.

Чорны, як цыган, і высокі, як жардзіна, брыгадзір паляводчай брыгады заганяў нас работаю. Сам ён працаваў, як вол, і мы стараліся не паддацца. А яму ўсё было мала, ён часта паглядаў на белыя хмары, зверавата крычаў на нас і ўсё падганяў, падганяў.

Калі стагі былі завершаны, ён ацёр бруднай, як зямля, кепкай твар і закрычаў, зарагатаўшы:

— Охо-хо! Дзе ж той дождж? А-аа! Ты цяперачка нас не возьмеш! Дзякую вам, дзеўкі. Каюся, бо думаў: ну, лапшу мне прыслалі. Ажно нічога, заводскія, можаце!..

Ён схапіў маленькую і тоўсценькую Вольку — ткачыху з размотачнага — і ўскінуў яе на воз з сенам. Загадаў:

— Адпачываць, дзеўкі. А я тым часам вам гарэлачкі падкіну. Хочаце гарэлачкі?

Ён хутка вярнуўся і прывёз нам бітон халоднага малака. Мы пілі яго з асалодай, і кожны з нас прызнаўся, што гэткага смачнага малака не даводзілася піць ніколі раней...

На машыне, якая ішла за намі следам, заспявалі «Падмаскоўныя вечары». Ніна прыхілілася да мяне. Вецер біў нас па тварах халаднаватымі пахамі пылу, свежага сена. Ззаду даганяла нас песня, і машына несла нас наперад, быццам пракладвала песні дарогу.

У сэрцы быў спакой. Я думала пра тое, што Ніна — мой сапраўдны сябар,— як яна ўзрадавалася, калі ўбачыла мяне ранкам! — думала пра калгаснага брыгадзіра, думала пра тое, што добрае, сардэчнае людзі часта хаваюць глыбока ўнутры.

Думала і пра Міхася, але ён быў далёка, не з намі, і таму думкі аб ім існавалі асобна ад усяго, што бачыла і перажыла я сёння за дзень.

У горадзе нас з Нінай высадзілі ля аўтобуснага прыпынку. Яшчэ было не позна. Якраз падышоў наш аўтобус, мы ўвайшлі ў яго ўслед за жанчынай, якая цягнула перад сабою палаплены мех. Кандуктарка была наперадзе, і мы, не чакаючы яе і не ўзяўшы білеты, селі на апошнім сядзенні.

— Дзяўчаткі, ваш білецік? Хочаце прадам? Свой. За ўсмешачку!

Хлопец у клятчастай кашулі нахабна паставіў на нас свае зеленаватыя вочы. Я хацела адказаць яму як след, але Ніна прыціснула маю нагу, параіла:

— Не чапай. На падпітку ён.

Падышла кандуктарка. Мы ўзялі білеты.

— А мае не схацелі ўзяць,— зноў пачаў хлопец п'янавата.— Ганарлівыя. Але ты, чарнявая, дарэмна не кіпяціся: я шэрыя вочы люблю. Ах, вочкі шэрыя. Ах, вочкі шэрыя...

Жанчына, што садзілася перад намі ў аўтобус, папрасіла кандуктарку:

— Высадзіце вы яго, калі ласка. Чаго ён да дзяўчат чэпіцца. І малады гэткі, а ўжо — жлукціць.

Кандуктарка стомлена махнула рукой. Хлопец запусціў руку за дужку сядзення, абмацаў палаплены мех.

— Ого! Цяжкі! За мех жа, цётачка, не заплаціла? Не. Не плаціла. Вось гэтак яно і ідзе: аднаго абараняеш, а сама наперад.

— І табе не сорамна? — сказала жанчына.

— Ша! Бабуля! Дай з шэравокай пагаварыць...

Знаёмы чырвоны туман завалакваў мне вочы. Я ўскочыла і бачыла ў аўтобусе толькі хлопца ў клятчастай кашулі.

— Хто вам даў права?

Ён смяяўся мне прама ў твар:

— Осо-то-то! Чарнавокая, нельга так: у мяне — нервы.

Туман у вачах знік. Я бачыла цяпер усіх, бачыла цікаўныя пагляды, чула спачувальныя словы і ведала, што зараз нешта адбудзецца.

— Хто вам даў права? — зноў запытала я.— Права здзекавацца над старою жанчынай? Яна ж маці вам! Спыніце аўтобус, таварыш кандуктар. Мы высадзім гэтага грубіяна!

Аўтобус спыніўся. Хлопец засоўгаўся на сядзенні, зірнуў у акно, потым нехаця ўзняўся.

— Давай, давай, не затрымлівайся,— сказала кандуктарка.— Гэта я з табою не магла справіцца.

Пасажыры нястройна загаманілі.

— Іш, малойчык!

— І яшчэ пасміхаецца.

— А ўсё таму, што мы ўсё ў вокны пазіралі...

Прыгнуўшыся, хлопец валюхастай хадою дабрыў да дзвярэй і скочыў на тратуар.

— Рызыкоўна гэта,— сказала мне Ніна, калі даехалі да свайго прыпынку і выйшлі з аўтобуса.— Я думала — ударыць. Баюся я вельмі п'яных.

— А я іх ненавіджу. І не баюся. Гэта ён смелы, бо маўчаць усе. Бачыла, як пакаціўся, калі пасажыры ўзняліся?

— Усё ж такі трэба асцерагацца...

Ніна праводзіла мяне да дома, дзе жыла цётка. Нізка над дахам навісала неба, вокны на ўсіх трох паверхах былі асветлены.

— Дома твае?

— Відаць...

— Я чула: у інтэрнаце ёсць месцы.

— Дык што з таго? Мне туды ўсё роўна не ісці.

— Чаму? Хаця... Ты як з цёткай, ладзіш?

— Людзі яны памяркоўныя. Толькі цеснавата. У іх дзеці...

— Ты ўсё ж падумай.

— Добра. Бывай...

У пад'ездзе я азірнулася. Ніна ўсё яшчэ стаяла на тым жа месцы і развітальна памахала мне рукою.

Цётка жыве на трэцім паверсе. На дзвярах кватэры шыльда: «Сымон Пятровіч Луткін». Надпіс прыгожы, закручасты, на бліскучай планцы. Сымон Пятровіч — муж маёй цёткі. Ён працуе цырульнікам у гарадской лазні.

Дзверы адчыніла мне цётка. Пляснула ў далоні, ледзьве зірнула на мяне:

— Скажы, як цябе не лаяць? Што ні рабіла — не змагла затрымаць. Ты бачыш, прывёз.

Два чамаданы ў калідоры, і на іх — вялізны хатуль. Мая коўдра. Мае чамаданы. Значыць, Міхась быў тут.

— Абедалі разам,— сказала мне цётка, ідучы ўслед за мною ад дзвярэй.— Усё нічога было. А як сказала яму, што ён павінен у цябе прабачэння прасіць,— на сцяну палез. Ты ж мужчына, кажу. Ён — на мяне. Сымон яму пальцам пагразіў — ён яго за грудзі. Ледзьве не пабіліся. Дзеці перапалохаліся, а ён крычыць: «Я вам пакажу прабачэнне. Яна сама прыпаўзе. А вы тут адна хеўра, сям'ю мне разбіваеце». Скажы, Стэфачка, ці ж мы вінаватыя? Я вам раіла. Я аднаго хачу: каб было добра. Ці ж я вам вораг? Ды жывіце, як хочаце...

Мне было сорамна. Сорамна не за сябе, а за Міхася, за тое, што ён прыходзіў сюды і лаяўся.

— Што ён казаў яшчэ?

— Крычаў больш. Усё табе пагражаў: «Ну, я ж ёй пакажу!» Яшчэ сказаў, што ў горадзе жыць не будзе. Паедзе.

— Як жа ён без свайго Раманюка пражыве?

— Паедзе, Стэфачка, паедзе. Гэта — точна. Я білет бачыла. У сераду, здаецца. У Мінск паедзе. Двойчы білет паказваў.

— Няхай едзе.

— Ты падумай, Стэфачка. Зламаць жыццё лёгка, а потым складзі яго. Паспрабуй...

Яна доўга яшчэ гаварыла са мною, прыгадвала сваё жыццё, раіла быць асцярожнай. Я слухала яе, а думала пра сваё. Я ведала: ніхто мне не можа памагчы. І яшчэ я ведала: Міхась ніколькі не змяніўся, ён проста не хоча разумець таго, што адбылося паміж намі. Смешна: ён чакае, што я пабягу, буду прасіць прабачэння. Ніколі гэтага не будзе!

І галоўнае не ў тым, хто з нас павінен прасіць прабачэння. Тое, што Міхась ударыў мяне і я пайшла ад яго,— не пачатак, а завяршэнне нашае вялікае нязгоды. Я не

хачу хлусні. Не хачу п'янак. Не хачу раманюкоўскага скнарніцтва. Я хачу сумленнага, разумнага жыцця. Міхась не хоча быць паплечнікам у гэтым змаганні? Не хоча. І ніякае прабачэнне тут не паможа.

Да світання я не спала. Потым прыдрамала крыху і прачнулася. Абудзіў мяне нейкі дзіўны штуршок унутры. Я адразу здагадалася, што гэта. Яшчэ ў Мінску, на экзаменах, я пераканалася канчаткова: у мяне будзе дзіця.

Я ляжала ціха і чакала. Ніякіх штуршкоў пад сэрцам больш не было, але я адчувала, што ў маім целе адбываюцца таямнічыя і трывожныя змены.

Блеклая шэрань таілася за брудным акном кухні, мерна цвынькалі аб ракавіну буйныя кроплі вады, што выцякала з нядбала прыкручанага крана.

Чаму менавіта тут, на кухні, на чужой кухні, прыйшло тое радаснае і вялікае, чым ганарыцца кожная жанчына?

Чаму?..

## 7

Першае, што я ўбачыла,— гэта кудлаты сабака. Апусціўшы лабатую вушастую галаву, ён рынуўся насустрач мне адразу, ледзь я адчыніла вузкія, зробленыя ў шырозных варотах, веснічкі і ўзышла на брукаваны, чыста падмецены дворык; жаласліва візгатнула колца на мядзянай драціне. Сабака не дабег да мяне — драціна адкінула яго назад. Ланцуг, напяты струною, грозна гудзеў.

Мяне здзівіла яго натапыраная, нейкая чырвона-шэрая поўсць; ля шыі поўсць кучаравілася, нібыта прыпаленая агнём, а ля хваста рабілася цямнейшай, клалася вакол брудных цьмяных праплешын, быццам сабака лысеў ад хваста.

— У-уух, які ж ты страшны, касмацік!

Сабака хрыпла загаўкаў, выскаляючы жоўтыя іклы.

— Нашто дражніце сабачку? Навошта дражніце?

Жаночы голас быў непрыветны. Толькі цяпер я заўважыла за нізкім штакетнікам, што аддзяляў дворык ад саду, жанчыну ў белай кофтачцы і такой жа хусцінцы на галаве. Яна стаяла ля цыбатай мальвы, і ад бэзавых званочкаў кладся на белую тканіну кофтачкі слабы ружовы водсвет. Паміж штакецінамі тырчалі вострыя, як штыхі, зялёныя хвасты касачоў. Мальвы былі высокія, і жанчына ля іх здавалася вельмі нізенькай, нібыта стаяла на каленях.

У злосным гаўканні шалеў сабака.

— Кажу, не дражні! Чуеш? — патрабавальна сказала жанчына.

— Ну, сціхні, сціхні, касмацік. Запытаю толькі. Ганусевічы тут жывуць?

— Тут,— адказала жанчына.

— Валянціна Мікітаўна?

— Так, гэта я Валянціна Мікітаўна. А па якой вы справе? Ці не з гарсавета?

— Не. Я шукаю пакойчык. Мне казалі, што ў вас ёсць...

У сініх вачах жанчыны прамільгнула насцярожанасць. Учэпістай і чорнай ад зямлі рукой яна адкінула веснічкі і нібыта выкацілася на падворак. Жанчына сапраўды была невысокага росту; ногі тоўстыя, спаласаваныя чорнымі пісягамі — відаць, жанчына нешта рабіла ў гародчыку.

— Пакойчык? Пакойчык ёсць. Але ж... Ціха, Аўсюк! Марш у будку!

Голас у жанчыны быў грубы і злосны, але я ўздыхнула з палёгкаю. Можа, урэшце скончацца мае блуканні і дарэмныя пошукі.

Гаспадыня падышла да рукамыйніка, што быў прымацаваны на слупку ля тэраскі, мыла рукі і ўважліва вывучала мяне.

— Гэта, мабыць, цябе Мяскатава да мяне прыслала. Такая высокая жанчына... Ну, ну... Яна. Усё жаніхоў дачцэ шукае. Дый які ж там пакой? Катух. Во ў мяне для цябе тое, што трэба. Увакурат. Адна будзеш жыць?

— Адна. Як бачыце — адна.

— А хто вас ведае. Суседка пусціла летась аднаго. Казаў — халасты. А пажыў крыху — ажно дзве жонкі прыпыліла. Па-ацеха! Я шчыра кажу: мне сямейных не трэба. Не магу, калі дзіцёнак верашчыць — нервы.

Гаспадыня павяла мяне на кухню. Запытала:

— Працуеш дзе?

Я адказала.

— Бачыш! На добрым месцы працуеш, а прытулку няма. Гаруюць людзі з жытлом. Па пяць гадоў кватэры чакаюць, у буданах жывучы. Ну, вось... Гэта і ёсць кухня. Палац. Праўда? Тут і есці будзеш. Тут чыста. Я парадак люблю. А цёплы дзень, калі ласка,— на тэрасе. І мыем там, каб мокрасці ў хаце не было...

І толькі паказаўшы і кухню, і тэрасу, і нават сцежку да студні, яна падвяла мяне да вузкіх белых дзвярэй. Адчыніла.

— Вось што маеш. Палац!

Жалезны ложак з пагнутай бакавінай, але чысты, пафарбаваны ў зялёна-атрутны колер. Пры акне жоўты столік. Адно крэсла збоч ложка, другое — ля акна і заслана газетаю. Сапраўды, гэта якраз тое, што мне хацелася знайсці. Мне вельмі спадабаўся гэты маленькі і ўтульны пакойчык.

— Ну! Я ведаю, што кажу! — ахвотна адгукнулася гаспадыня і адразу неяк афіцыйна запытала: — Дакумент які ёсць? Пашпарт, напрыклад. Пакажы...

Яна перагортвала старонкі, свідруючы вачыма кожны запіс. Ад гэтага рабілася няёмка.

— Пашпарт у парадку. Але як будзем з прапіскаю? Нам цяпер забаронена. Трэба дакумент з завода. Раней быў у мяне знаёмы ў аддзяленні. З ім можна было дамовіцца. Харошы чалавек такі быў: папросіш што і насустрач ідзе — адразу ўладкуе...

— Паперку завод дасць. Я заўтра ж вам яе і прынясу.

— Чакай... А гэта што?.. А кажаш — адна!.. Вось жа штампік стаіць... Э-эээ, не. Я хлусні не выношу.

— Мы разышліся. Ён паехаў у другі горад.

— Паехаў — прыехаў. Доўга гэта цяпер?

Мне здалося, што яна асуджае Міхася і разам з тым сцвярджае: прыехаць з другога горада ён зможа.

— Я буду жыць адна. Не палохайцеся.

— А чаго мне палохацца? У сваёй хаце палохацца! Я проста па шчырасці кажу... Адна наўрад ці пражывеш. Якое гэта жыццё — адна. Але падабаешся ты мне. Жыві!

— А ўмовы якія?

— Звычайныя.

Гаспадыня паляпала рукою бакавіну ложка, потым падышла да акна і адсунула доўгую фіранку. Сказала:

— Ты спачатку зірні сюды. Святло. Прастора. І ўвесь горад ноччу відзён. А гэта і геранька. Калі хочаш — можаш выносіць. Толькі не раю, бо цвіце амаль поўны год. Во бутоны якія.

— Усё ж такі трэба адразу дамовіцца. Скажыце, якая плата.

— А колькі табе не шкада за гэткі палац?

Спачатку падазронасць. Потым лісліваець. Затым гэтая наіўная велікадушнасць. Я была ў замяшанні.

— Ну... Нават не ведаю. Рублёў дзесяць, можа...

— Дваццаць пяць,— адрэзала гаспадыня.

— За гэтую каморку?

— І табе не сорамна? Дзе ж ты знойдзеш лепшае? Сама ж казала: увесь горад абышла.

Яна перабольшвала: я сказала — усю вуліцу. Хацелася паправіць яе, але я перадумала. Навошта?

— Усё ж такі дарагавата, як ні кажыце...

— За светлы асобны пакой? Ты атрымаеш ключ — і гаспадыня, можа, большая за мяне: хочаш — лётай, хочаш — гасцей прымай. Да раніцы. Маладая. Чаго табе сумаваць?..

Сашчапіўшы рукі на жываце, яна чакала. Пальцы ўвесь час варушыліся, церліся адзін аб другі; з тоўстага зялёнага пярсцёнка злятаў зыркі бляск.

— Начных гасцей я не люблю...

— Бачыш, адразу няправільна зразумела,— спахапілася гаспадыня.— Я люблю, калі госці... Мой лайдак, як напоркаецца ў садзе, дык адразу — хыр-ррр. А я пагаварыць люблю...

Добразычлівасць была робленая, але гэта чамусьці выклікала не абурэнне, а спачуванне. Дарагаваты пакой, вядома. Але ліха з ім. Зарплата атрымана, грошы ёсць. Хопіць і за кватэру заплаціць і на пражытак аддаць. А куток добры. Ціха тут і спакойна. Чаго шукаць яшчэ? І дзе?.. Я пагадзілася.

— І правільна зрабіла,— пахваліла мяне гаспадыня.— Дык што ж, як даўней гандляры казалі, па руках, а грошыкі — на бочку. І ў мяне гэткі парадак. Плату за месяц наперад бяру.

Яе словы не здзівілі мяне, быццам я даўно ведала, што менавіта гэтак, а не інакш трэба рабіць. Я дастала з сумкі грошы.

Пальцы гаспадыні спрытна лічылі храбусткія паперкі, голас палагаднеў, і з твару знікла недаверлівасць.

— Можна, канешне, і ў канцы месяца, але, ведаеце, я ўжо не магу, каб не сказаць шчыра: люблю парадак... Летась у мяне кватаранты стаялі — за два месяцы наперад аддадуць. А што? Выгадна. Заплаціў і жывві. А вось у суседкі былі, дык паехалі і грошыкі разам з імі за поўны месячык скруціліся. Не, пачакай, што ж гэта я кажу,— яна падставіла два пальцы да губ і задумалася: — Канешне, як жа гэта я! Поўных паўтара. Во, як было. А ў мяне, дзякуй богу, не было, шанцуе на кватарантаў. І ты, бачу

адразу, чалавек далікатны. А далікатнасць, яе адразу і відаць. Чакай, зараз і пасцелю табе прынясу.

Гаспадыня выйшла і хутка зноў вярнулася, несучы нейкі тоўсты нязграбны хатуль. Сказала:

— Во, маеш сеннічок. Купляныя, ведаеш, не люблю, бо вата мазутай смярдзіць. А тут — сянцо! — яна нагнулася, торкнула носам у сяннік.— Такі дух! Панюхай. Ды не саромся ты. У мяне — проста ўсё. Па-людску. Не тое што ў некаторых, дзе з чалавека скуру злупяць. А што дадуць? Нічога. А тут — родная табе хата...

— Добра! Дзякую...

У той жа дзень я перавезла свае рэчы ад цёткі. Гаспадыня зноў не адыходзіла ад мяне ні на хвілінку, аглядала кожную дробязь, раіла, дзе паставіць чамаданы, дзе павесіць паліто. Як дрэнна была замаскавана гэтая цікаўнасць! Але што было сказаць? Я толькі дзякавала і адчула вольна сябе толькі тады, калі засталася ў пакойчыку адна.

Гаспадыня зачыніла дзверы і быццам адгарадзіла пакой ад усяго астатняга свету. Я зняможана апусцілася на ложак. Ад стомы гулі ногі. Нейкі ўжо вельмі калгатны дзень. З шасці да дванаццаці адстаяла ля электрапечаў. А колькі выхадзіла па вуліцах, пакуль знайшла гэты прытулак! Вядома, дарагавата. Але што зробіш? Крэслы трэба будзе купіць. І ложак... Ой, колькі гэтага «трэба». Лепш і не думаць пра ўсё...

Я зварухнулася, падкладаючы сагнутую руку пад галаў. Нешта дзынкнула пад сеннікам. Тонкі ржавы звон крыху развесяліў. Аказваецца, не гэтак ужо і страшны чорт, як яго малююць! Пакой у мяне ёсць. Ёсць і праца. А гэта — самае галоўнае. Крыху счакаўшы, асвойтаўшыся, можна будзе ўзяцца за вучобу па-сапраўднаму. У адзін год можна будзе здаць экзамены за два курсы. А чаму не? Можна. Вядома, можна!..

Я знарок планавала сваё жыццё на будучае, каб не думаць пра Міхася, не думаць пра тое, што наперадзе мяне чакае вельмі многа турбот. Я думала пра інстытут, пра Мінск, прыгадвала экзамены, новых сваіх сябровак, прыгадвала, як спрачаліся мы, блукаючы па вячэрніх вуліцах Мінска.

Сон змарыў мяне, я засынала ўжо, і вячэрні Мінск, які выклікаў пры першым спатканні з ім нешта падобнае на разгубленасць, з'явіўся раптам у безлічы агнёў. Шасталі колы машын. Спяшаліся людзі, і я ішла разам з

усімі, асвечаная белым святлом. У садзіку, ля тэатра, ліхтары хаваліся за галіны старых клёнаў, і лістота на дрэвах здавалася надта зялёнай і бліскучай, быццам пафарбаваная. І такія ж дрэвы былі за шырокімі каменнымі прыступкамі, што вялі ўніз, да моста цераз раку. За ракой пачынаўся парк. Водбліскі ліхтароў, нібыта жывыя, гайдаліся ў чорнай вадзе. І на твары Міхася былі такія ж — трапяткія і лёгкія — плямы. Ён стаяў, прыхіліўшыся да балясак, і я, зірнуўшы на яго, здзівілася, чаму ён стаіць на мосце.

— Што ты парабляеш тут? — гэта запытала я.

— Чакаю цябе.

— Адкуль жа ты ведаеш, што я прыехала?

— Дамовіліся ж: збудую хату — ты прыедзеш. А я і хату збудаваў, і грошы ў мяне яшчэ засталіся. Во, колькі іх у мяне!..

Невядома адкуль у Міхасёвых руках з'явіліся тоўстыя пачкі грошай; ён лічыў іх дрыготкімі, з пярсцёнкамі на кожным пальцы, рукамі; ён усміхаўся, але ўвесь час калаціўся, і нават губы ўздрыгвалі, як ад холаду; ён смяяўся бязгучна, і я чула толькі храбусценне грошай.

Жах сціснуў мне сэрца; я пачала адыходзіць назад і зрабіла толькі некалькі крокаў, як мост праламаўся і чорная рака схавала Міхася; потым ён вынырнуў, і побач з ім на выгінастай чорнай хвалі ўзнялася цыбатая аранжавая мальва. На ёй сядзеў мятлік. Ад берагу, хаваючыся ў цень ад мальвы, падкрадаўся да Міхася аграмадны руды сабака. Я хацела крычаць, каб папярэдзіць Міхася, але словы заселі ў горле, і я адчувала, як яны цяжка пухнуць там.

— Я табе зараз мятліка злаўлю,— сказаў Міхась.— Толькі ты прабачэння папрасі. Чуеш?..

Міхась зноў бязгучна засмяяўся, хацеў схапіць мятліка, але мальва зламалася, мятлік некуды знік, і на ваду пасыпаліся аранжавыя пялёсткі. І тады адразу неба перакрэсліла агністая маланка, і ў страшэнным грукаце знікла ўсё — і Міхась, і мальва, і чорная вада, па якой, як па зямлі, краўся руды сабака. Застаўся толькі цьмяны квадрат.

Спалохана і трывожна глядзела я на гэты квадрат; ён раптам азарыўся яркім блакітным святлом, і я ўбачыла прыгнутыя ветрам яблыні ў садзе, чорную браму, убачыла ручаістыя пісягі на шыбах і здагадалася, што квадрат гэты — акно.

Вокамгненна, як і ўзнікла, усё правалілася ў чорную прорву ночы, і тады адразу я зразумела, што ўсё папярэдняе мне саснілася. Балела сагнутая і прыціснутая галавою рука. Запознена, быццам раздзіраючы столь, аселі на хату грымоты.

Я падбегла да акна і адчыніла фортку. Вецер адразу вырваў яе з рук і з рэзкім трэскам бразнуў аб сцяну. Дождж хвастаў па зямлі, па сценах хаты, біў частым россыпам у шыбы, і яны глуха трымцелі. Я падставіла твар ветру і, адчуваючы на шчоках удары вадзяных кропель, прагна ўдыхала свежае начное паветра.

— Здурнела? — пачуўся ў мяне за спіной спалоханы голас гаспадыні.— Зачыні!

— Дождж ідзе.

— Фортку зачыні, дурніца! А мая ж ты долечка, што ж гэта робіцца. Зараз жа!

— Ды не бойцеся вы! Нічога не будзе...

— Смелая дужа,— яна крыху паспакайнела, калі я зачыніла фортку.— Гэткая маланка. І скразняк. Па скразняку — маланка ў хату...

— Ды што вы! Маланку ўбачыш — нічога ўжо не здарыцца. Святло ж хутчэй ляціць...

— Вось яна і ляціць. Калі ж у нас тое было? Перуны, як гарох...

Гаспадыня не падыходзіла да акна, баязліва ціснулася да печы. Якія дзіўныя перакананні шчэ жывуць у людзей. Шчымлівая трывога адхлынула.

— Глядзі ж не адчыняй,— папрасіла гаспадыня выходзячы.

— Пераціхае!..

— А дождж? Калі фортка адчынена — вада ў падруб цячэ.

— Добра. Не буду...

Фортка быццам аддаліла павальніцу, і яна грымела цяпер цішэй і самотней; дождж паменшаў, але быў па-ранейшаму гучны і лапаткі. Размова з гаспадыняй адразу забылася: у памяці, насуперак жаданню, круціліся малюнкі пядаўняга сну.

— Глупства,— уголас сказала я сама сабе.— І думаць пра тое кінь! Яшчэ чаго!

У гэтым загадзе не было пэўнасці, быццам я нечага баялася. Я ўслухоўвалася ў таямнічы голас сэрца, не хацела прызнавацца, што баюся невядомасці, будучае свае адзіноты. Не, гэта — проста слабасць. Звычайная слабасць.

Яе трэба перамагчы. Гэта яшчэ не самае горшае, што можа здарыцца наперадзе. А што ж атрымаецца, калі я адразу пачынаю церці вочы?.. Наперадзе ёсць мэта. Трэба ўсё адкінуць і ісці да яе. Нельга быць слабай і бязвольнай. Слабыя людзі заўжды гінуць на паўдарозе і ніколі не дасягаюць мэты. А мне трэба абавязкова дайсці, бо калі не дайду, звалюся, той жа Міхась скажа... А пры чым тут Міхась?.. Яго няма. Ён не мае ніякага дачынення да майго жыцця. Не мае!

Я не хацела і ўсё ж такі думала пра Міхася. Прыгадаўся адзін кінафільм, які мы глядзелі разам з Міхасём незадоўга да таго дня, як паехалі ў Баравічы. Ці там глядзелі?.. Не памятаю. І назвы нават не памятаю, але тое, што ўбачыла на экране, засела ў памяці. І не так яно, як наша спрэчка з Міхасём. У фільме маладая жанчына пасварылася з мужам. Разышліся. Яна засталася адна, пайшла працаваць на завод, стала добрай працаўніцай. Яе паважаюць. Сустрэўся вельмі добры чалавек, і яна пакахала яго. Я сказала тады Міхасю: гэта — фальш. І цяпер пераконана яшчэ больш, што не памылілася тады. У мяне ёсць праца, якую я люблю. Вельмі люблю. Ёсць пакой. Ёсць усё, каб працаваць і жыць спакойна, без хвалявання і тугі. Я адкінула сваё каханне. А ўспаміны жывуць, жывуць увесь час, і мне цяжка змагацца з імі. Я не магу пазбавіцца ад іх. Што трэба зрабіць, каб яны не прыходзілі ніколі, каб тое, што было, закрэсліць раз і назаўжды?..

Так, загадаць сабе адкінуць прэч сваё каханне — гэта яшчэ не азначае, што ты знішчыла яго, перамагла. А навошта перамагаць яго? Няўжо кахаць благое гэта вельмі нядобра? Не ведаю...

Пакрыўджанае самалюбства, зняважанае каханне маё і яшчэ нейкае супярэчлівае пачуццё да Міхася мроіліся ў глыбі душы; я крыўдавала ўжо больш на тое, што гэтыя пачуцці жывуць, чымся на самога Міхася. Тады я яшчэ не разумела, што кожнае намаганне згасіць успаміны аб мінулым зыходзіць з жадання абараніць каханне, ажывіць яго. Аніводнага разу я не запытала ў сябе, нашто яно мне, пераконвала сябе ў абыякавасці, поўным нежаданні варочацца да мінулага і з жахам заўважала, што каханне да Міхася — самае лепшае з таго, што было ў маім жыцці.

## 8

У пачатку кастрычніка я паехала да бацькі. Наша змена зноў пачала працаваць у начны час. Мне гэта вельмі падабалася: ад змены да змены два дні вольныя. Якраз дастаткова, каб нагасцяваць у бацькі, тым больш што цягнік туды адпраўляецца з Прыдзвінска а палове першай. А змену мы канчаем а дванаццатай гадзіне.

Да станцыі я дабегла — адразу ж з завода — за дваццаць хвілін.

Пад тахканне вагонных колаў я задрамала і абудзілася, калі поезд падыходзіў да незнаёмага прыстанцыйнага будынка. У купэ, насупраць мяне, сядзеў малады, каротка падстрыжаны сержант з нейкім бліскучым значком на гімнасцёрцы. На століках ляжалі вялізныя чырванабокія яблыкі.

— Дзе гэта мы едзем? — запытала я, павярнуўшыся да акна, і пачырванела.

— Гэта Угляны.

— І я ўвесь час спала? — Мне было трохі няёмка.

— Ды яшчэ як! Спадарожніка праспалі. Ай-яй-яй! Разумееце? Лётае ён! Выскачу тут. Можа, што новае пачую. Прабілі космас, а радыё ў вагоне няма! Вось вам жывы парадокс!..

Поезд ціха падпаўзаў да станцыі. Сержант выбег з купэ. Я бачыла праз акно, як ён спыніўся ля газетнага кіёска, потым падбег да купкі людзей, што стаялі ля станцыйнага будынка, нешта распытваў ці казаў, патрасаючы ўзнятай рукою.

Навіна, што сказаў мне сержант, была дзіўная і незразумелая. Спадарожнік Зямлі? Гэта ж нешта незвычайнае. І як ён лётае? Як яго запусцілі туды? І хто? Мы?..

Поезд зноў крануўся. Прыбег сержант, сеў на ранейшае месца, рыўком адшпіліў верхнія гузікі гімнасцёркі. Сказаў з жалем:

— Толькі падумаць, спазніўся. Скончылі перадаваць. Перад самым носам. Прайшоў над Вашынгтонам. Разумееце? Рускі спадарожнік над Амерыкай! Во ўцерлі носіка амерыканцам!..

— А я спала. Дараваць сабе не магу...

— Ну дык што з таго? Мільёны людзей, можа, тады спалі. Затое цяпер няма на зямлі, відаць, ніводнага чалавека, хто б спаў. Каму сказаць! Жылі, працавалі, а побач з намі таксама раслі, працавалі, жылі людзі, якія зрабілі

ракету і паслалі спадарожнік у космас! Хто яны? Якія! Я гатовы сёння жывым ім паставіць помнік. Кожнаму... Частуйцеся! Харошыя яблыкі. Можа, і спадарожнік гэткі ж — чырвоны...

Сержант падсунуў мне яблыкі. Я падзякавала. Ён настойваў:

— Потым падзякуеце. Спачатку пакаштуйце. Ды бярыце. Пасля начной змены яблычак не пашкодзіць.

Я пацiснула плячыма. Адкуль ён ведае, што я працавала ў начную змену?

— Пыл,— сказаў сержант.— Пыл на рукавах, на плячах, на галаве нават. Бліскучы шкляны пыл. Карацей кажучы, парушаеце правілы бяспекі. Трэба мець спецвопратку для работы.

— Яна ніяк не ўратоўвае. І халаты ў нас ёсць, а пыл — усюды. Нас і праўда адразу пазнаеш: блішчым! Нам гэта не страшна.

— Цяпер чалавека ўвогуле нічога не павінна палохаць, бо зямля цяпер не адна. У яе ёсць маленькі добры прыяцель. Вы возьмеце яблык ці трэба прасіць вас на каленях?

Сержант глядзеў на мяне і апетытна хрумстаў яблык. Маленькія карыя вочы былі добразычлівыя. Я ўзяла яблык.

На кожнай станцыі сержант вылятаў з вагона: распытваў, што перадавалі пра спадарожнік. Я ўжо ведала імя і прозвішча сержанта — Раман Чураба, ведала, што ён быў на заводзе, што хутка дэмабілізуецца. Я расказвала яму пра завод шмат, ён слухаў уважліва, і гэта мяне радавала.

Час ляцеў неўпрыкмет — набліжалася мая станцыя. Раман Чураба выйшаў услед за мною ў тамбур, уголас прачытаў назву на франтоне драўлянага станцыйнага будынка. Спытаў:

— Доўга тут стаіць?

— Хвілінку адну.

— Тады да сустрэчы. На завод я прыйду. Абавязкова. Чакайце!

— Буду сядзець ды ў акенца глядзець.

— Праўду кажу, не жартую!

Я саскочыла на перон. Поезд пайшоў далей. Сержант памахаў мне рукою. Дзіўны ён крыху чалавек, гэты Раман. Мяне не ведае, ніколі не сустракаў раней, а ледзь не ўсё сваё жыццё расказаў.

З станцыйнага буфета вываліліся хлопцы. Адзін, высокі, без шапкі, што ішоў пасярэдзіне, па ўвесь расцяг ірвануў гармонік.

На М-урамска-ай даро-ооозе
стая-яялі тры-ыы сасны...

Хлопцы спявалі нястройна, надрывіста. Песня абудзіла трывогу — няясную і далёкую. Я прыпынілася ля веснічак станцыйнай агароджы, азірнулася: вагоны ўжо схаваліся за ялінкамі пасадкі. Трывога расла і нечакана ўдарыла мяне ў сэрца: «Пра мяне спяваюць!..»

Я ішла і думала, што гэта толькі пачатак, што ўсё яшчэ наперадзе: і папрокі бацькі, і асуджэнне Надзеі, і спачувальныя погляды суседак. Як за нейкі паратунак, я схапілася за вясёлыя жарты сержанта і азірнулася яшчэ раз. Грывасты дым вісеў над лесам — цягнік ішоў далёка, і нават грукату колаў ужо не чуваць было.

Вуліцу, што пачыналася за прыстанцыйным садком, я пазнала не адразу: вузкія і гразкія каляіны завалены каменнем і гурбамі рудога пяску. Недзе за высознымі дубамі ўсё яшчэ пілікаў гармонік. Так, мне не ўцячы, не схавацца ад гэтай крыклівай песні. Я пакрочыла цішэй. Мне раптам здалося, што ўсе ў пасёлку ведаюць пра мяне, што за вокнамі стаіліся цікаўныя вочы, ад якіх нічога не ўтоіш...

Ля бацькавай хаты мяне апанаваў одум. Што я скажу бацьку? Ці зразумее ён мяне? А можа, увогуле мне не трэба нічога расказваць, а проста маўчаць і слухаць? Не, відаць, на гэта я няздатная...

Бацька сядзеў за веснічкамі на вузкай лавачцы і глядзеў перад сабою ў адну кропку. Няголеныя худыя шчокі запалі, рэзка акрэсліўшы востры нос,— бацька выглядаў стомлена, нібыта пасля доўгай і цяжкай хваробы; стары кажух, ускінуты наапашку, вісеў на яго плячах, як на калку. Бацька нібыта не бачыў мяне.

— Татка!

Ён узняў галаў, прыгледзеўся і адразу ўскочыў; кажух зваліўся на дол.

— Стэфачка! Прыехала-такі...

Якое мяккае і цёплае бацькава плячо. Мне хацелася заплакаць, і, каб стрымаць сябе, я з надробленай бесклапотнасцю дадала:

— А ты і не заўважыў, як я падышла!

Бацька закашляўся.

— Ды ўсё сяджу дый думаю. Не можа ж быць, каб пісямцо не прыслала. Ажно сама...

Абкураная цыбатая люлька ў бацькавай руцэ знаёма пахла дымам. І ўсё вакол было знаёмае, роднае і блізкае сэрцу.

— Усё збіралася. А тут выпала мажлівасць. І вось — як спадарожнік зляцела. Чулі тут у вас?

— Чулі. У канторы ўсе сабраліся і слухалі. Ноччу, казалі, відаць яго...

— Гэта не ў нас, татка.

— І няхай. Прыйдзе час — пакажуць. У нас тут клопату хапае. Гэта ж калі я цябе бачыў?.. Два месяцы, здаецца, не прыязджала. Не, больш...

Сівыя валасы на бацькавай галаве быццам парадзелі, і бліщчастая пляма лысіны як бы пабольшала. Я не знімала рукі з яго пляча і баялася зазірнуць у вочы, разумеючы, што, зрабіўшы гэта, не змагу хлусіць і наўрад ці ўтаю праўду. Я ўсё чакала, што вось зараз бацька запытае пра наша жыццё з Міхасём.

На лесаскладзе тахкаў паравы рухавік; у агародчыку пападвоканню цвілі вяргіні. Нешта не дагаворвае бацька. Можа, ведае ўсё?.. Не, наўрад ці... Хаця, ад яго вока цяжка што ўтаіць.

— А што ў цябе з работаю? — я наўмысна пераводзіла гаворку на другое, каб абдумаць, што казаць мне далей.— Скончылі тваю праверку?

— Пакуль што не.

— І доўга яшчэ?

— Заўтра, казалі, скончаць.

Бацька не ўзняў галаву і ўсё глядзеў у адну кропку, але цяпер ужо не на дол перад сабою, а на восеньскую дарогу, што цьмянай стужкай рассекла пасёлак і хавалася за павароткам ля ручая.

— А не скончаць — плюнь ты на гэта. Работы ён сабе не знойдзе.

— Няма ў нашым пасёлку,— сказаў бацька.

— Ну, смешна...

Зусім не тое хацелася мне сказаць. Чамусьці прыгадаўся вясёлы сержант, які ехаў са мною ў купэ: думкі аб ім не давалі мне спыніцца на чымсьці пэўным, з чаго можна было б пачаць гаворку пра тое, што адбылося ў мяне ў Прыдзвінску.

— Ей смешна,— сказаў бацька.— А куды ўсе едуць? У Прыдзвінск.

— Праўда, аб'яў у горадзе поўна: усюды — давай рабочых. І тыя патрэбны, і тыя — толькі пра гэта ўсё аб'явы. У нас жа другую чаргу пачынаюць... Татка! А чаму я Надзеі не бачу?

— Паехала ў Прыдзвінск. Цётка нейкі вар'яцкі ліст прыслала.

— А што за ліст гэткі?

— Патроху аб усім ёсць. І пра цябе крыху. Напісана, адным словам...

Бацька прыпаліў люльку, разы са тры чмыхнуў, запытаў, разглядаючы зарудзелыя ад табакі пальцы:

— І што, дачка, там у вас закруцілася?

— Наадварот — раскруцілася, калі хочаш ведаць. Мы разышліся. Вось і ўсё...

Чаму я адразу не падумала пра цётку? Ды яна ж даўно раструбіла ўсім, каму толькі магла. Пры чым, уласна кажучы, тут цётка? Яна паведаміла праўду, тое, што здарылася на самай справе...

— Значыцца, ты ведаеш усё?

— Нічога я не ведаю. Кажу, што ліст незразумелы. Надзея прачытала — ашалапуцеў я гладка. Ну, думаю, нарабіла дзеўка.

— Нічога я не нарабіла. Мы розныя з ім людзі. Вось і ўсё...

— Ты гэта добра ведаеш?

— Так.

— А як цяпер жыць будзеш?

— Як людзі. Працаваць буду. Вучыцца. Ты адно, татка, не хвалюйся за мяне. Я сабе дарогу праб'ю. Сваю дарогу!

Бацька курыў, плюшчыў вочы ад сіняга дыму, і мне здалося, што ён знарок хавае ад мяне свой твар. Ні адзінага папроку! Відаць, пакуль я збіралася і ехала сюды, бацька зміры́ўся з тым, што адбылося.

— Журко там страчаеш? — неспадзявана запытаў бацька.

— Не вельмі. Але — сустракаю.

— Віктар чалавек сур'ёзны.

— Яго цяпер у камітэт абралі.

— Бачыш. Ён можа параіць і памагчы, калі што...

— Мне дапамога не трэба. Сама не слабая!

— Дык добра, калі так. Але сяброў разумных не цурайся. Віктар з тых.

— Даўно ты яго падхвальваеш. І чаго? Самы звычайны хлопец.

Я памкнулася ўзняцца, бацька пацягнуў мяне за руку.

— А ты сядай, сядай! — загадаў ён.— Пра галоўнае хачу сказаць.

— Галоўнае?

— Так, бо галоўнага і баюся. Зварушыла сваё жыццё, а вучоба? Гэта дзела тонкае. Сёння не прачытала, заўтра не напісала, а паслязаўтра — рукой махнула...

— Я не махну.

— А ўсё ж такі...

— Я табе абяцаю: скончу!

— Во! Гэта па-мойму! — ён стукнуў кулаком па калену.— Калі хочаш — даўно кажу! — хату прададзім, толькі вучыся.

— Дык я ж вучуся. І працую. І сказала табе, што інстытут скончу.

— Малайчына. І гэтага кірунку не кідай. Маці наша марыла, каб ты з адукацыяй была...

— Я не маленькая, татка...

— Бачу, дачка, бачу. А таго не прыкмячаю, што здарожылася ты, а я, пень стары, чмыхаю тут!

Бацька ўзняўся, выбіў люльку. Я пайшла следам. У сэрцы была ласкавая ціхамірнасць. Як лёгка ісці, калі наперадзе крочыць чалавек, якому ты верыш ва ўсім, які ніколі не здрадзіць. З такім чалавекам нельга гуляць у хованкі. А я пачала гэтую гульню, бо інакш і нельга сказаць пра мой учынак. Першая я не адважылася сказаць пра Міхася. Утаіла і тое, што буду маткаю. Чаму я зрабіла гэта? Збаялася бацькі? Не, тут нешта іншае... Бацька, вядома, не будзе крычаць, змоўчыць, але ён не зразумее мяне. І тут, мабыць, прычына... Каб была жывая маці... Ёй можна было сказаць, бо з ёй увогуле лёгка гаварылася пра ўсё. А прыйсці яшчэ з адным сваім горам і сумненнем да бацькі?.. Цяжка гэта...

За сталом бацька быў асабліва вясёлы, жартаваў і ўсё падкладаў мне з патэльні блінцы.

— Ты еш паболей, — раіў ён.— Паболей. Рабочы чалавек павінен мець сілу.

— На ноч гледзячы, многа есці шкодна.

— Гэта па кніжках тваіх. А я дык і не засну, пакуль у жываце гудзе. Паесці трэба. Ты потым кладзіся адпачываць. А я да суседа падскочу. На ноч шнуры па самоў стаўляць будзем.

— Ты ўсё са сваімі шнурамі?

— Калі пашчасціць — дык і з юшкаю...

Прыбраўшы стол, я пайшла да студні. Не спыніўшыся на станцыі, ляцеў цягнік, рассыпаючы па ночы жалезныляскат колаў. У канцы пасёлка заіграў гармонік і нехта зацягнуў тую ж песню, што спявалі хлопцы на станцыі. Яна не ўстрывожыла мяне і нават не выклікала горычы ў душы.

Вада ў вядры была чорная, бліскучая, і зоркі зіхацелі ў ёй змрочна, быццам схаваныя на дне. Зірнула на неба. Няўжо сапраўды спадарожнік можа праляцець над намі?.. Раман казаў, што арбіта ў спадарожніка ляжыць у другіх месцах. Цікава, хто там жыве? Хто тыя людзі, што бачаць яго?..

Пакратала вядро. Зоркі ўглыбі ажылі, быццам усплылі на паверхню і пабольшалі.

## 9

Ранак быў сонечны. Маладыя герані чырванелі за фіранкамі, у садзе сярод пажоўклай лістоты пунсавелі спецыяльна пакінутыя да марозаў познія яблыкі. Усё раней-шае вакол мяне, знаёмае. Але адчуванне нечага нязвыклага жыве ў душы.

Прыбралася, памылася, зварыла бульбы, а бацькі ўсё не было. Урэшце ён з'явіўся, кінуў шнуры на дрывотню і прынёс у хату вузкае бляшанае вядзерца з рыбаю. Сказаў весела:

— Чысці і смаж!

— Бульба стыне, татка. Ого! Табе напраўду пашанцавала. Поўнае вядзерца амаль. І ўсё самы?

— Не, дачка. Гэта ментузы. Самоў, праклятых, няма. Дык што, не хочаш смажыць?

— На абед, татка.

— Як хочаш. І праўду — часу няма чакаць...

Бацька паснедаў, спехам апрануў пінжак і ад парога ўжо сказаў закурваючы:

— Пойдзеш куды?

— Мусіць, да Валі.

— Тады ключ пад цурбачок пакладзі...

Валя — мая сяброўка. Мы разам скончылі школу. Я паехала на завод. Валя засталася, працуе тут бібліятэкаркай Дома культуры. Яна таксама вучыцца завочна, але не ў Мінску, а ў Ленінградзе.

Мы сустрэліся з ей так радасна, быццам не бачыліся вельмі даўно. Смяяліся, гаварылі пра спадарожнік, хваліліся, як здавалі сесію. Дзіўна, амаль у кожнай з нас былі аднолькавыя выпадкі на экзаменах, аднолькава патрабавальныя прафесары. Потым, вельмі асцярожна, Валя запытала ў мяне пра адносіны з Міхасём. Я пакрыўдзілася:

— Хто табе наплёў?

Не ведаю, што было ў маім позірку, але Валіны вочы адразу зрабіліся далёкія і чужыя.

— Юхімка казаў. Смешны ён, дагэтуль цябе кахае. Ён і казаў. А што, няпраўда гэта? Я дык не паверыла, чэснае слова.

— Ну, праўда! Дык чаго ж гэткая цікаўнасць да Стэфы ва ўсіх! Гэта маё ўласнае жыццё!

— Між іншым, я Юхімку адразу абсекла. Не пляці, кажу, чаго не ведаеш!

Змрочная насцярожанасць знікла з Валінага твару; у яе вачах, апроч ранейшай прыязнасці, было звычайнае жаночае спачуванне.

— У жыцці рознае бывае...

Яна сказала гэта спакойна, дзелавіта, быццам ведала больш за мяне.

Якая я дзівачка! Думала зрабіць таямніцу з таго, што, пэўна, ведае кожны ў пасёлку!..

Высокія стосы кніг ляжалі пад вокнамі на падлозе, на крэслах, на стале быў вольны толькі крайчык.

— Так. Яшчэ не паспела параскладаць,— сказала Валя.— Хочаш глядзець?.. А паслязаўтра да нас пісьменнікі на сустрэчу прыедуць. З Мінска.

— Як летась?

— Не, цяпер прыедуць. Згода афіцыйная. Прыйдзеш? А можа, і ты выступіш? У цябе заўжды добра атрымлівалася. Я нават прасіць цябе буду.

— А ты замест мяне паедзеш — папрацуеш?

— Праўда ж. Табе ехаць трэба, а я і забылася. Мы яшчэ з табою сустрэнемся?

— Я прыйду яшчэ...

У бібліятэку гаманліваю чародкаю ўбеглі дзеці. Я развіталася з Валяй.

На ганку Дома культуры мяне пільнаваў Юхімка Халецкі. Ён сядзеў крыху згорбіўшыся, паставіўшы вострыя локці на калені. Убачыў мяне, адразу нібыта што падкінула яго. Юхімка быў у новым сінім плашчы. Я пажартавала:

— Ты што, у космас сабраўся?
— Хмарыць неба. Плашч і ўскінуў.
— Не, Юхімка. У плашчы ў космас нельга.
— Ты ўсё жартуеш? — Мы сышлі па прыступках, і ён ішоў крыху ззаду, быццам баяўся ступіць побач, і трымаў напагатове крыху адстаўленую руку.— А я сур'ёзна хачу пагаварыць...
Голас Юхімкі быў сумны, і мне не хацелася ўжо, як спачатку, калі толькі ўбачыла яго, нагрубіць, сказаць яму што-небудзь крыўднае. Юхімка нічога благога мне не зрабіў. Але тое, што сказала мне Валя, адразу правяло паміж намі мяжу.
— Ты ўсё ж адкажы, навошта новы плашч надзеў?
Я запытала з ранейшай іроніяй. Юхімка ішоў крыху наўзбоч і ззаду, быццам я ўцякала ад яго і ён намагаўся дагнаць мяне.
— Хмарыць неба — таму і надзеў. А тут бачу — ты ідзеш. Бег за табою, а ты — у клуб. Тады я сеў і сяджу.
— Ты ж ідзеш!
— Жартуеш, а мне трэба сур'ёзна пагаварыць.
— Добра. Давай...
Юхімка зрабіў некалькі рашучых крокаў і апынуўся наперадзе; твар яго пачырванеў, і тоўстая, надвая рассечаная, як у зайца, губа, якую ён аблізнуў языком, заблішчала.
— Стэфа... Выходзь за мяне замуж. Прашу. На ўсё пагаджуся...
Яго словы гучалі неяк паасобку, нібыта ў што загорнутыя. І мяне больш здзівіла іх вымаўленне, чым тое, што ён хацеў сказаць. А потым зрабілася смешна.
— Я замужам, Юхімка. Ты ж добра ведаеш!
— Няпраўду ты гаворыш. Я ведаю...
Юхімка зноў аблізнуў губу. Яго пацешная звычка — як часта кпілі мы над ёю ў школе! — раззлавала. Але мне па-ранейшаму не хацелася абражаць яго.
— А калі ў мяне дзеці?
Юхімкавы вочы пакруглелі, але ён тут жа ўсміхнуўся:
— Ты ўсё жартуеш, а я праўду кажу. І нават калі дзіця. Яно мне не пашкодзіць, я дзяцей люблю. І не такі Юхімка, што пастраляе-пастраляе ды ў комін — дымам...
— Хто гэта — «дымам»?
— Ды Міхась твой. Ты не ведаеш — людзей папытай. Ён жа ў Віцебску гульма гуляе. І прыжаніўся. Бацька мой прыехаў адтуль. Казаў...

Густа-сіняе, як новы Юхімкаў плашч, і бліскучае неба раптам знікла. Я спалохана матнула галавой. Не, нікуды не знікла неба, а вісіць яно над зямлёй сінявае і чыстае, толькі на даляглядзе, збоч лесу, грувасцяцца белыя хмары. Што надумалася! Куды можа знікнуць неба? Нікуды! І нікуды не знікнуць брудныя плёткі. Якая наіўнасць была думаць, нібыта абыдуць яны мяне бокам, не закрануць, што ніхто, апроч мяне, не будзе ведаць пра тое бруднае і непрыгожае, што адкінула я прэч! Адкінула, але не знішчыла, бо нельга знішчыць тое, што адбылося ў Прыдзвінску. Як мала прайшло часу, а ў Баравічах ужо ўсё вядома, нават больш, чым ведаю я сама.

— Твой бацька плёткі розныя збірае, а ты іх цягаеш пад сваім новым плашчыкам!

Сказала гэта з ярасцю, і Юхімка адступіў ад мяне.

— Я сур'ёзна хацеў... Стэфа. Сур'ёзна...

За дарогай у густой кляновай лістоце, што пазлятала з дрэваў, біліся вераб'і. Чыркалі, круціліся, узляталі на галіны. Пад плотам, у прагным чаканні, прыліп да зямлі худы рабы кот. А можа, Юхімка што яшчэ сур'ёзна хацеў пагаварыць са мной?.. Можа, ён шчыры хлопец?..

— А ты сумняваешся? — паспешліва запытаў Юхімка, зашпільваючы плашч. Вочы ў яго былі палахлівыя.

— Нават і не думаю.

— Ты не разумееш мяне. А я вось стрэну цябе — сэрца быццам на кавалкі дзярэ хто. Як жыць без цябе — не ведаю.

— Як у казцы пражывеш.

— Не, Стэфа, не змагу...

Ён — не зможа! А чаму я магу? Чаму я магу пакутаваць, магу выслухваць розныя, зусім не патрэбныя мне спачуванні, магу жыць, калі вакол мяне, як у чорным віры, круцяцца брудныя плёткі?

— Віжун ты пракляты! Усё выведаў, усё выгледзеў і з'явіўся. Як груган, каб сабе што ўварваць. Як ты можаш? Як ты можаш, Юхімка, гаварыць гэтак са мною?..

Я выплёсквала ў твар разгубленага Юхімкі ўсё тое, што накіпела ў душы за апошнія дні, што хацела сказаць Міхасю і чамусьці не змагла, што перашкаджала мне жыць. Я быццам захлынулася ад гэтых пачуццяў, гэтых гарачых нястрыманых слоў.

— Несправядліва ты гаворыш...

— Магчыма. А што, дзякаваць табе?

— Лепш свайму Міхасю падзякуй,— у голасе Юхімкі

прагучала раздражнёнасць. Вочы яго звузіліся.— Мне няма за што!..

Юхімка адразу зрабіўся маім ворагам. Гэтая яго раздражнёнасць і крыўдная іронія начыста скасавалі ўсё добрае, што я адчувала да яго спачатку, калі мы толькі сустрэліся ля Дома культуры.

— Ты Міхася не чапай! Чуеш? І словы благія аб ім забудзь. Калі хочаш, каб горшага табе не было.

— Ужо забыўся. Клянуся.

— Памятай!

Юхімка стаяў, нібыта слуп. Я абышла яго і хутка пашыбавала вуліцаю.

— Стэфа! — паклікаў ён.

Я не азірнулася. Юхімка ўжо не існаваў для мяне: злосць на яго клекатала ў маім сэрцы. Чаму кожнаму дазволена падыходзіць і распытваць мяне? Дазволена Валі... Дазволена Юхімку... Колькі яшчэ будзе гэткіх роспытаў?..

Спрэчка з Юхімкам бязлітасна знішчыла маю веру ў тое, што мне ўдасца схаваць сваю бяду, схаваць сваё гора ад людзей. Цяжка мне прыйдзецца. Але што б там ні здарылася, я ні ад кога не прыму спачуванняў, не прыму паслуг, не прыму парад...

У той час мяне здзіўляла толькі адно: чаму не пакрыўдзіўся Юхімка? А можа, ён сапраўды кахае? Можа, сапраўднае каханне зусім не ў тым, каб зрабіць нешта прыгожае для чалавека каханага, а здольнасць і ўменне прыняць ад яго самае горкае, крыўднае, магчыма, нават несправядлівае? Відаць, так... Кахаюць толькі мужныя. Слабыя просяць літасці і дапамогі!..

Прыйшоўшы дамоў, я ўзялася кухмарыць. Зварыла боршч, напякла аладак, падсмажыла ментузоў у чорных сухарах — гэтак заўжды прасіў маму бацька. На стол паслала чысты абрус. Яблыкі ў саламянай пляцёнцы абклала дулямі і паставіла на сярэдзіну стала — гэтак рабіла маці. Мне вельмі хацелася дагадзіць бацьку.

Бацькі доўга не было. Урэшце ён з'явіўся. Увайшоў у пакой і адразу заўважыў і чысты абрус, і яблыкі, і накроеныя лусты ў хлебніцы. Выцягнуў з кішэні паўлітэрку, паставіў збоч хлебніцы і толькі потым пахваліў мяне:

— Спраўная ты ў мяне гаспадыня, дачухна. Зараз мы і прыезд твой, і спадарожніка, і свята адзначым, як людзі добрыя робяць.

Я паглядзела на яго з асуджэннем. Папрасіла:

— Схавай, татка, атруту гэтую.

Бацька вясёла пацёр рукі, паляпаў мяне па плячах. Запытаў не сярдуючы:

— Думаеш, што напароўся стары недзе? Не, дачка! Свята! Куды ні возьмеш — свята. Спадарожнік — факт. Але ты яшчэ не ведаеш! Хто бацьку твайго сёння паклікаў? Дырэктар паклікаў. Прабачце, Рыгор Несцеравіч, кажа, дапушчана памылка. Праверылі ўсё. І ананімшчыка нават знайшлі. Па почырку, хоць і быў падроблены...

— І ты дагэтуль маўчаў!

— Чаму? А гэта! — ён паказаў рукою на бутэльку.— Хачу сказаць — не даеш.— Нядобра ўсміхнуўся.— Ананімку ведаеш хто наляпаў? Стары Халецкі. Усе за галаву схапіліся. А я тады яшчэ казаў, што ягоная гэта работка.

— Юхімкаў бацька?

— Чортаў ён бацька. Камісія доказы дала. Ты яшчэ гэтага ругана не ведаеш!

Мне цяжка было паверыць. Сустрэча з Юхімкам раптоўна павярнулася да мяне сваім патаемным бокам, і я адразу знайшла сувязь паміж тым, што сказаў мой бацька, і тым, што гаварыў Юхімка. Няўжо Юхімка вёў са мною нейкую гульню? Няўжо там не было шчырасці?.. Але ж гэта страшна. Мне згадаліся звужаныя ад ярасці вочы Юхімкі. Я нават азірнулася — мне здалося, што нехта глядзіць на мяне з кутка хаты, што бяда ўвайшла ў хату і стаілася, пільнуючы свой час.

— Няўжо чалавек можа зрабіць гэта? Сусед жа...

— Які ён чалавек! Груган! Але цяпер яму крыльцы падсякуць. Ну, сядай, дачка. Чую, рыбка пахне...

— Я падсмажыла, як ты любіш.

— Малайчына. Пад яе мы зараз і чарчыну пусцім. Дзеля такога выпадку. А табе — вішнёвачку зробім.

Ён прынёс пузатую вінарку, дзе ў цёмнай густой наліўцы плавалі ягады, урачыста паставіў яе на стол і прамовіў:

— Ладны ў нас запасец. Табе гарэлкі ледзь-ледзь улію. Крышачку. Давай кілішак.

— Не трэба мне.

— Ну, як хочаш. А наліць — налію. Ну, за спадарожнік і за праўду. Яна заўжды наверх лезе. Ну, едзем!

Ён абярнуў свой келіх у рот, зморшчыўся, пакруціў галавой і ўзяў пальцамі кавалак рыбіны.

— А ты?

— Не прымушай.

— Правільна. Адзін раз сказала — і назаўжды,— ён

наліў сабе яшчэ келіх.— У нашай хаце гэтак вядзецца: за праўду і чэспасць стой да апошняга. Які на мяне бруд узвялі. А я на сваім стаю: не вінаваты. А колькі ўгаворвалі: прызнайся, чаго табе. Ну памыліўся, з кім не бывае? Даруем. А я ім — дулю ў нос. За праўду я пад сякеру стану. І стану! Бо калі няма ў чалавеку праўды — пусты ён. І не чалавек,— лазіна. Тая — з аднаго боку на другі! А чалавек як дуб павінен стаяць!

— Дуб няхай стаіць, татка, а ты — паболей еш! — я падсунула яму талерку з баршчом.

— А я кажу — дуб! Дзед твой ля станцыі дубы саджаў — людзі з яго смяяліся: здурнеў Несцер. А цяпер — не вырвеш! Памяць. На стагоддзі! А тыя, што смяяліся? Няма іх!..

Мне прыгадаліся дубы на станцыі — высокія, з зялёнымі кучомкамі лісця ўлетку; вясной на іх гнездавалі гракі, а ўвосень пад дубамі было поўна жалудоў і мы лёталі збіраць іх, а потым пяклі ў прыску. Няўжо тыя дубы пасадзіў мой дзед? Невядома, чаму бацька раней не казаў мне пра гэта. А можа, ён лічыў, што гэта ўсім вядома?.. Мабыць, гэтак яно і было...

— Ты зусім не ясі, татка! Гаворыш толькі.

— Скажаш! Тры рыбінкі куды паплылі? З'еў і агурочкам закусіў. Цяпер аладкі пойдуць. Ты ж маю норму ведаеш: пяць — не менш!

— Спачатку — боршч...

Ён зачэрпнуў поўную лыжку баршчу, крыху патрымаў яе, разглядаючы чырвоныя памідоры. Сказаў:

— Гэтак маці даўней варыла. Памідоры — цалюткія. І абавязкова — сала старое. Ад яго — пах і смак асаблівы. Ну, то за гэты боршч і наліем.

Ён сказаў гэта дзелавіта і сур'ёзна. Пярэчыць яму не хацелася. Спыніць яго, калі паліта чарка, мне ніколі не ўдавалася.

— А скажы ты гэта, дачка, чаму Віктар носу ў Баравічы не паказвае?

— Ён у падшэфным калгасе цяпер. Паехалі на два тыдні. З завода. Шэфы мы...

— Шэфства — справа добрая. Але калі яны ў цяньку сядзець будуць, а шэфы за іх працаваць, то тады я супроць такога шэфства. І яшчэ — ананімшчыкаў прыцісnуць. Раз подпісу няма — баіцца чалавек ці няпраўду кажа. А навошта баязліўца пад абарону браць? Чэсны чалавек — абараняй яго. Во як трэба, дачка! Ёсць тут у нас што?

Я хацела прыняць бутэльку.

— Не руш! Хай стаіць. П'яны, думаеш? Ну, то скажы!

— Кажу, хопіць. Гэта я ведаю.

— Ты ўсё ведаеш? Усё. Але ў мяне пытайся. І не хітруй,— ён пагразіў мне пальцам і зноў паставіў бутэльку на сярэдзіну стала.— Твая чарка дзе? Усё сохне! Нядобра.

— Сказала ж. Не буду!

Ён спахмурнеў.

— Усё наўпярок мне. А калі цяпер сумесна пасядзім? Калі?

І гэта кароткае «калі» выклікала спачуванне да бацькавай слабасці: перада мною сядзеў адзінокі чалавек. Я сама перажыла горыч адзіноты і разумела бацьку. Але я не магла пагадзіцца з тым, што ён робіць, і, адчуваючы да яго пяшчоту, асуджала і яго і сябе. Чаму я дазволіла яму напіцца? Пасля другой чаркі мне трэба было схаваць бутэльку.

Сціснутым кулаком бацька цёр пераноссе — ён заўжды рабіў гэтак, калі быў нечым усхваляваны ці нездаволены,— доўга не адрываў руку ад галавы, і, калі ўрэшце паклаў яе на стол, пераноссе і ніжняя частка лба запунсавелі; вочы яго пачырванелі, вейкі часта-часта міргалі, быццам ён збіраўся заплакаць.

— Досыць! — ён нечакана з сілаю ўдарыў кулаком па стале, талеркі падскочылі.— Твая праўда: на сёння хопіць гарэлкі.

— Правільна. Я вельмі рада.

— А-аа,— ён махнуў рукою.— Дробязі. Бывае момант — патрэбна чарка. Патрэбна, дачка, патрэбна. Стары дурань я, стары дурань! Бачыў жа Міхася наскрозь. Бачыў і маўчаў, не папярэдзіў цябе, стары дурань. Дараваць сабе не магу. Вось што!

Ён зноў бразнуў кулаком аб стол і пацягнуўся па бутэльку. Я затрымала яго руку. Папракнула:

— Ты сам сказаў — досыць!

— Перадумаў. Ага. Мог жа чалавек перадумаць?

— Усё роўна. Больш я табе не дазволю!

— Як гэта не дазволіш?

— А вось гэтак!

Я схапіла бутэльку, бацька хацеў затрымаць маю руку, але не паспеў і цяжка асеў на крэсла, аслабела махнуў рукою:

— Праўда. Досыць. Галава трашчыць. Паляжу...

Ён узняўся і, хістаючыся, моўчкі паклыпаў да ложка; падышоў, пастаяў крыху і паваліўся на падушку; амаль адразу ж захроп.

Я глядзела на бацьку, і цяжкі боль асядаў у душы; мне паволі адкрывалася нешта незвычайнае, цяжкае, да чаго я не была падрыхтавана і аб чым не думала. Маё гора, аказваецца, сцебанула бацьку больш, чым мяне. За словамі запозненага бацькавага шкадавання я ўбачыла непамерную тугу і адчай. Памерла маці. Разбіўся пры аварыі машыны Стась — Надзейчын муж. Цяпер новае гора прынесла малодшая дачка...

У бацькі быў адкрыты рот, сліна выцекла на падушку. У маёй душы спачуванне паволі саступала месца глухому і гнеўнаму пратэсту. Гэты пратэст быў яшчэ неасэнсаваны як след, але чым больш я стаяла і ўглядалася ў бацькаў твар, тым усё ясней пачынала разумець, што гэты пратэст ідзе строга па аднаму рэчышчу, што ён накіраваны супраць чалавека, які спіць вось на гэтым ложку.

Зусім неспадзеўкі я паставіла сябе на месца мамы, ажывіла ў памяці сваркі, што даўней узнікалі ў нашай хаце з-за гарэлкі, і з жахам адкрыла сапраўдную прычыну таго, што маці да часу састарэла і памерла; я абвінавачвала бацьку вельмі строга, як не рабіла гэтага раней; я ненавідзела яго і за смерць мамы, і за сваё няўдалае асабістае жыццё, і нават за тое, што ён гэтак моцна і непрыгожа пахрапвае.

Сівыя бацькавы валасы рэдкай грыўкаю апалі на лоб. Бедны ты мой татка! Я ненавідзела яго і адчувала спагаду да другога чалавека ў ім: той, другі чалавек, быў варты жалю. Чаму гэтак хутка ссівеў бацька? Кажуць, што можна ссівець за адну ноч ад пакут і жаху. А можа, і я ўжо сівею?..

Я зірнула ў люстэрка і жахнулася, убачыўшы ў ім свой адбітак. Гэта быў не мой твар! Сэрца не хацела прымаць за праўду попельныя валасы, што віліся над шэрым ілбом, блеклыя шчокі і зацягнутыя смугою вочы. Не, не! Я зусім не такая!..

Далонь лягла на халоднае шкло і сцерла лёгкую пару, што асела на ім, і тады ў люстэрку з'явіўся сапраўдны адбітак. Я гладзіла свае густыя чорныя пасмы, і валасы сцякалі па пальцах і ўзнімаліся пышнай грывай. Не, я не старая яшчэ!

Зрабілася смешна за гэты кароткі жах. Яшчэ ўсё наперадзе. І слабасці не павінна быць. Толькі слабы чалавек

шукае паратунак у гарэлцы. А мне гарэлка непатрэбна. Я пайду наперад, буду працаваць, буду жыць і змагацца за тое, каб побач са мной не было гэтай страшэннай атруты, не было хлусні, подласці, здрады.

Бацька цяжка, з прыдыхам, хроп на ложку; мне здалося, што ён можа памерці, але думка пра тое была зусім неверагоднай, і я баялася не таго, што гэта можа здарыцца, а таго, што тады застануся адна; мяне палохала адзінота, якая тады прыйшла б, і я гатова была ўцякаць куды-небудзь з хаты, каб ратавацца, але не магла зрабіць ніводнага кроку.

## 10

На падворку мяне стрэла цішыня. Мядзяная драціна абвісла і пацямнела; сабачы будан быў пусты.

— А дзе ж наш касмацік? — запытала я ў гаспадыні, калі ўвайшла на тэрасу.

Гаспадыня была ў чорным плацці; такая ж хустка наўкос закрывала лоб. Твар патаўсцелы, быццам апухлы.

— Зглумілі Аўсючка, паганцы...— яна затрасла галавою і дадала са слязьмі: — Такі сабачка быў! Місачку, было, нальеш яму — сыты. Місачка — у жменьку возьмеш, а ён абчысціць яе і лётае, лётае... Поўны дзень гаўкае, ажно драціна звініць...

— Шкада сабаку. А што з ім?

— Атруцілі. І ведаю нават хто. Касцюковы ваўчаняты гэта зрабілі. Во ўжо дзе басота расце! Аднаго неяк мой Аўсючок у яблыках злавіў. Дык яны за тое. Але ж і я ім не дарую! Салодка ім не будзе...

Быццам што ўспомніўшы, гаспадыня сярдзіта запытала:

— Табе хто адчыніў?

— Ніхто.

— А як жа ты трапіла?

— Не прычынена было. Націснула — і ўвайшла.

— Гэта ж мой лайдак не зачыніў. Колькі разоў казала: прычыняй браму. Ну, я ж яму пакажу!..

Распытваць пра сабаку я не хацела — у душы, прызнацца, я была рада, што яго няма: часта па начах ён брахаў пад маім акном і не даваў мне спаць.

— Ага... Вунь ён ідзе,— сказала гаспадыня з прытоенай злараднасцю.— Трахі-ім!

— Ну, чаго табе?

— А таго, што поўны дзень табе трублю: зачыняй браму, зачыняй браму...

— І трубі сабе. Брама не разваліцца. А-аа... Стэфа прыехала. Пахваліся, што там у Баравічах добрага.

— Усё ранейшае. Толькі размінуліся з сястрою. Я туды паехала, а яна сюды. Была, можа, тут?

— Прыходзіла.

— Удваіх прыходзілі,— удакладніла гаспадыня.— Яшчэ цётка твая была. Крыкастая баба, відаць. Але... Куды, Трахім, гэтак рана?

— Нічога не рана. Якраз...

— Тады і я з вамі. Хвілінку. Разам пойдзем. Я на завод хачу раней прыйсці...

Гаспадар пачакаў, пакуль я занесла сумку на кухню. Мы разам выйшлі за браму.

— Прычыні! — даляцела з тэрасы.

Трахім усміхнуўся, але нічога не сказаў. Мы ішлі моўчкі і хутка развіталіся з ім: я паехала на завод аўтобусам. У аўтобусе месца сесці не было, і я стаяла, прыціснутая да парэнчаў ля ўваходу, і думала не пра завод, а пра тое, што паведаміла мне гаспадыня. Дзіўна, але чаму гэтак многа агульнага ў яе з жонкаю Раманюка: аднолькавая сквапнасць, аднолькавыя грубаватыя і пагардлівыя адносіны да мужа. Праўда, Трахіма не параўнаеш з Раманюком. Трахім працуе на чыгунцы, вельмі добра ставіцца да мяне. Мы шмат пра што гаворым з ім. Асабліва любіць слухаць ён мае апавяданні пра электрапечы. Мы нават дамовіліся, што калі-небудзь я пакажу яму наш завод. А сёння Трахім здзівіў мяне: дайшлі да аўтобуснага прыпынку, і ён амаль нічога не сказаў. Можа, яму было няёмка, што жонка пры мне яго аблаяла? Мажліва...

Я хутка прыехала на завод, але трапіла ў цэх не адразу. У калідоры другога паверха мяне сустрэў Журко. Ён стаяў пры адчыненых дзвярах камітэта камсамола і чакаў, пакуль я падыду.

— Во. На лаўца і звер бяжыць. Ведаеш, па кроках цябе пазнаў. Чую — ідзеш...

— А я па вачах: хлусіш!

— Гэта мне маці ў маленстве казала, калі шкоды нараблю: а зірні, мой даражэнькі, мне ў вочы. Праўда, Стэфачка, ты мне — во! — ён правёў пальцам па горле.— Памятаю, малявала няблага...

— Як Рэпін!

— Гэта мне і трэба.

— А мая змена?

— Пачнецца праз сорак хвілін, ведаю. Ты зойдзеш, аднак, ці не? — Віктар узяў мяне за руку і пацягнуў у пакой.— Толькі ты адна на гэтым свеце можаш уратаваць мяне. Зірні!

На стале ляжалі вялізныя аркушы паперы, тырчалі пэндзлікі ў паўлітровай шклянцы з чырвона-бруднай вадой; квадрацікі фарбы ляжалі грудкай на газеце, стракатай ад мазкоў.

— Ты чакаеш ад мяне нешта вялікае?

— Спачатку — аб'явы. А потым ты раскажаш мне пра навіны. Думаю, ты нямала прывезла іх з Баравічаў. Ці можна і гэтак: паехаць і нічога не сказаць... Тэкст? Калі ласка. Фарба? Колькі хочаш. Вада. Пэндзлі...

— А творчая абстаноўка?

— Зараз,— ён схапіў крэсла і сунуў яго ножку за ручку дзвярэй.— Вось табе і абстаноўка. Хочаш — радыё выключу. Толькі малюй хутчэй.

— Відаць, аб'ява пра пажар?

— Горш. Наш камсамольскі бог паабяцаў шыбеніцу, калі я ў тэрмін не павешу аб'явы. Заўтра ж нядзельнік, саджаем дрэвы.

— Дзе мы будзем?

— Побач. Закладваем парк моладзі ля Дзвіны. Абяцаю: два дрэвы пасаджу ў твой гонар. Як дар за тваю ахвоту дапамагаць мне.

— Пры гэткай ахвоце,— я паказала вачыма на дзверы.— Стукаюць. Адчыні.

— Пачакаюць. Я тут цяпер начальства. Васечку паклікалі ў гарком. Прыйдзе не скора...

Даўно не было ў маіх руках пэндзліка. Я малявала ахвотна і гаварыла пра навіны, што прывезла з Баравіч. Віктар слухаў уважна і глядзеў на мае рукі. Папера ажывала — роўныя і прыгожыя літары станавіліся на аркушах. Не, яшчэ не развучылася я маляваць. А даўно, вельмі даўно не брала пэндзаль у рукі. Віктар, крыху адышоўшыся ад стала, разглядаў аб'явы і пахваліў:

— Выдатна. Тры дрэвы абяцаю! І два эскімо ў прыдачу. Згода? Прычым магу і сёння...

— Нічога. Пачакаю да свята.

— Жарты — жартамі. Але дзякую, Стэфачка... Выратавала. Дапамагла, як сапраўдны сябар.

— А гэта лішне. Папрасіў — зрабіла.

— Я ведаў — не адмовішся...

Нічога адметнага, незвычайнага ў словах Журко не было: падзякаваў. Сказаў, што верыў у маю дапамогу. І ўсё. Простыя, звычайныя словы. А мне ад іх было хораша і светла на душы. Хацелася рабіць нешта яшчэ, рабіць тое, што патрэбна не табе, а другім... А можа, гэта толькі ад таго, што я прыйшла на завод?..

Дзесяць крокаў па калідоры. Столькі ж прыступак па лесвіцы. І вось ён, мой цэх! Добры дзень, мая праца!

Ад чорных каробак электрапечаў ішла спакойная ўнушальная гарачыня. Гэта ж проста цудоўна, што я пайшла працаваць менавіта сюды, да гэтых цікавых і разумных машын. Хаця, скажам, чым блага ў ткацкім цэху? Не, мой цэх нельга параўнаць ні з чым, бо гэта самае лепшае, незаменнае. Калі ўваходзіш сюды, турботы свайго асабістага жыцця аддаляюцца. Яны не прападаюць, яны жывуць, але басавіты гуд электрапечаў быццам адмятае драбніцы надзённшчыны, і яны мізарнеюць, трацяць вастрыню і сілу.

Да пачатку маёй змены было пятнаццаць хвілін, але Люда і Ніна стаялі ўжо ля століка і пра нешта гаварылі з Данілюком — тэхнолагам цэха. Я не паспела падысці да іх — Данілюк павёў іх у канец цэха.

Да століка падкаціла сваю цялежку Турава, пачала згружаць касеты. Бурклівa заўважыла:

— Гэта ёй не так, тое не гэтак...

— Каму гэта, Ганна Якаўлеўна?

— Ды Нінка твая ўсё ў хамут б'е. Ціха было — працавалася добра. А цяпер Данілюк не адыходзіцца — не прысядзеш. А ты дзе ж гэтак выпацкалася? Фарбавала што?

— Малявала. Аб'явы пісала ў камітэце.

— Ладна плацяць?

— А я без грошай.

— Паддалася, значыцца. Угаварылі.

— Ніхто не ўгаворваў. Папрасілі.

— А на прадпрыемствах за гэта — грошы. І не абыякія. Фонд у прафсаюза ёсць. Спецыяльны.

Грошы... Грошы... Пра іх казаў Міхась, і мы з ім сварыліся. Пра іх кажа Турава, і я таксама не магу раўнадушна слухаць яе; мяне раздражняе яе сквапнасць, хочацца пярэчыць ёй. Але я маўчу. Я ведаю, што Турава сквапная толькі на грошы, ва ўсім астатнім — памяркоўная і можа памагчы, калі надарыцца выпадак. А да грошай не раўнадушная. І не хавае ад нас, што кожную капейку кладзе на ашчадкніжку. Унук у арміі. Ён скора павінен дэмабілізавацца, і Турава хоча збудаваць яму хату. Мы

гэта ведаем і нязлосна завём Тураву — крыху ласкава нават — ашчадкніжка. Паміж сабою, вядома.

Прыйшла Ніна, і разам з ёю мы прынялі печы ў нашага зменшчыка Аляксея Драбіна. Драбін адных год з Нінай, але высокі — галава Ніны яму да пляча. Крыху пасля мы зрабілі кантрольны замер пражы, і Ніна заспяшалася ў заўком. Паабяцала:

— Я хутка, калі не затрымаюся. Упраўляйся. І навошта я Ханюцінай спатрэбілася, ты чула што?

— Не ведаю. А па якой справе?

— Загадалі зайсці, і ўсё.

— Не хвалюйся. Прыйдзеш — скажуць. Можа, дадуць ордэн.

— І вымову па загаду. Я бягу...

Турава, як толькі я засталася ля печаў адна, не адыходзіла ад мяне. Яна прысела на столік, паставіла нагу на цялежку і сачыла за мною. Дзве бабіны я зняла добра, а трэцюю ніяк не магла заправіць. Я старалася рабіць усё спакойна і ад таго яшчэ больш хвалявалася, не магла супакоіцца. Пража не слухала мяне: тонкія валокны кладліся няроўна, ірваліся, зляталі з бабіны, эмульсія залівала рукі. Што трэба рабіць у такіх выпадках?.. Чорт яго ведае... І гэтая быццам знарок села тут і цікуе...

Я разумела, што злую дарэмна, што трэба не хвалявацца, а спакойна падумаць; і ад таго, што не магла зрабіць гэтага, наўмысна здзеклівым здаваўся зялёны посвет дазатара, а гарачыня печы — нясцерпнай. Лоб і шыя спацелі.

— Нітку няроўна кладзеш,— заўважыла Люда, якая праходзіла з пражай да кантрольнай вагі. — Адна выпадзе — усе астатнія касмацяцца...

— Ды бачу сама. Бачу!

І сапраўды прыкмеціла гэта, ачысціла бабіну і лоўка звяла валокны з фільера ў адну ніць.

— Гарачая ты дзеўка,— сказала Турава. Яна па-ранейшаму сядзела і не спяшалася ў цэх размоткі.— Даўно прыглядаюся. Рупная, але і гарачая вельмі. Таму і спяшаешся раней за бацьку ў пекла. А навошта? Цябе там і без гэтага дачакаюцца...

Цяпер я не хвалявалася; новая бабіна з першага разу лёгка села на валік; ніці сабраліся ў адзін прыгожы пук.

— Так што не бядуй, дзеўка,— зноў пачала сваю гаворку Турава.— Не бядуй і вучыся. Работа харошая. Ду-

маю, як толькі мой Толік з арміі прыйдзе,— сюды яго прывяду.

— А калі ён не пойдзе?

— Чаму ж гэта? Наш завод па ўсёй краіне ведаюць. І ён абяцаў: адслужу сваё, да цябе, бабуля, прыеду...

Пра ўнука Туравай ведае ўвесь цэх. Яна гаворыць пра яго кожны дзень, гаворыць усім, без стомы. Гаворыць яна пра ўсе навіны цэха — яны прыходзяць да яе, быццам прыцягнутыя магнітам.

— Навіну чула? — пытаецца Турава.— Мне Мурашка перадала.

Самае лепшае ў такім выпадку — не распытваць Тураву, моўчкі чакаць, і тады яна ўсё сама раскажа. Сапраўды, цікава, што ж магла расказаць ёй Мурашка — даўняя сяброўка Туравай.

— Дык хочаш ты паслухаць? А што, я не бачу? Хочаш. Таму і скажу. Карэспандэнт тут поўнае ранне акалачваўся. Нядаўна пайшоў да начальніка цэха.

— Ды што з таго?

— Ого! А хто добрае пра нас што казаў? Ніхто. Як загад — нас памянуць. А тут возьме і кнігу складзе. Вокам не міргнеш — героі ўсе!

— Камедыі.

— Няхай. Людзі пасмяюцца.

— Ад маёй камедыі толькі плакаць...

— І няхай,— упарта стаяла на сваім Турава.— Што ж, увесь час чалавеку рагатаць? Жывот забаліць. А паплачаш, яно і лягчэй.

— Я лепей смяяцца згодна.

— Маладая, дык і смейся. Пад старасць яшчэ наплачашся. Гэта ж каб мне ножкі маладыя, хіба не падбегла б я ў лес, да тых парубшчыкаў? Гэткія грошы ўзялі, і як у ваду! Каб жа адну сасонку спусцілі. Паслухай, Стэфа, чула, што твой бацька на лясным складзе працуе. Можа, мне з ім як пагаварыць?

— Ён лесам не гандлюе.

— А чаго ты кіпіш? Чаго? Няйначай, мужык перастаў абнімаць. У бабы ад гэтага злосць...

Быццам у туман схаваўся твар Туравай. Імгненне — і зноў былі перада мною гэтыя маленькія, з жоўтымі зрэнкамі вочы і глыбокія, як бы выразаныя нажом, маршчыны ля пухлага порыстага носа. Яшчэ б хвілінку, яшчэ б зусім кароткае імгненне — я б магла...

Турава ўскочыла — ад крайніх печаў ішла начальнік змены. І гэта выратавала падносчыцу, бо, каб яна не ўскочыла і не адышла ад мяне, не ведаю, што б я зрабіла...

## 11

Перад Кастрычніцкім святам я працавала ў апошняй змене, прыйшла дамоў позна, адразу ж лягла спаць і прачнулася, калі за сцяною на ўсю моц грымеў дынамік — у Маскве заканчвалася дэманстрацыя. Я апранулася і выйшла на кухню.

Гаспадыня павіншавала мяне са святам.

— Пасядзіш, можа, з намі,— прапанавала яна і, нават не чакаючы, што я адкажу, дадала: — Вядома, табе сумна будзе — стар'ё адно ў мяне збіраецца. З маладой кампаніяй не параўнаеш. Але святкануць ёсць чым: і выпіць і закусіць. Глядзі...

— Не, дзякую. Нашы заводскія збіраюцца. Буду з імі...

І гэта была хлусня. Я адмовілася ад нашага вечара. А як запрашалі мяне і Люда, і Ніна, і Віктар. Алесь Тумілін, здаецца, нават моцна пакрыўдзіўся, калі я адмовілася. Тады мне хацелася сесці ў свой пакой і сядзець, нікога не бачыць, нічога не чуць. Цяпер заставацца ў хаце я таксама не магла. Святочная мітусня — да гаспадыні прыйшлі дзве жанчыны памагаць — прыгнятала мяне. Упершыню ў жыцці мяне вітала са святам туга. Упершыню ў жыцці мне няма куды ісці. Як недарэчы гэтае свята!.. Мяне раздражнялі пахі смажанага мяса, заклапочанасць гаспадыні, яе хлуслівае, разлічанае на адмову, запрашэнне, раздражняў нават святочны гарнітур Трахіма. Хацелася спакою. Хацелася цішыні. Хацелася, каб свята ўвогуле не было.

З паўдня да вечара я блукала па святочных вуліцах горада. Яны былі паўпустыя — з вуліц і плошчаў свята перакінулася цяпер у хаты, падсела да сталоў.

На газонах, сярод зялёных яшчэ лісцін астраў трапяталіся абрыўкі каляровых стужак; ускрай вуліц грувасціліся скамечаныя паперкі ад цукерак, як знак святочнай шчодрасці. Парывісты вецер гучна ляскатаў сцягамі, і здавалася, менавіта ад гэтых сутаргавых пошчакаў злятаюць з таполяў шырокія і агністыя лісціны.

На рагу вуліцы я ўбачыла Туміліна і Люду Свяцікую. Тумілін нешта хутка-хутка гаварыў Людзе, але яна слухала яго няўважліва, глядзела ўбок і першай заўважыла

мяне. У сваім белым і кароценькім — апошняя мода! — паліто Люда здавалася побач з мажным шыракаплечым Тумліным танюткай і кволай.

— Зірні, Алесь! — сказала яна.

— О-ло-ло! Цяпер Стэфа ад нас нікуды не ўцячэ. І ніякія адгаворачкі ёй не памогуць. За мной, па два і — шагам марш!

— Са святам, Людачка.

— Мяне яна не віншуе. Прынцыпова, відаць...

— Найлепшыя пажаданні, Алесь!

Я пацiснула яго руку. Далонь у Туміліна была грубая — быццам пальчатка. І шархоткая.

Ні адгаворкі, ні просьбы, ні ўяўная сярдзітасць, з якой я ўдарыла Алеся па руцэ,— нічога не памагло: яны ўпарта цягнулі мяне на святочны вечар. Сказаць па шчырасці, мне хацелася цяпер ужо ісці туды, нават не на вечар, а проста быць побач з сябрамі.

— Толькі вы мяне там не кідайце адну,— папрасіла я здаючыся.

— Будзем, як нязломная восьᅳ разам. Рым — Берлін — Токіо. Разам.

— Гэтая вось даўно зламалася. Не слухай яго, Стэфа. Ён жа зусім не ведае гісторыі!

— Адвяргаеце вось? Тады заключым пакт!

— Час пактаў мінае. Далоў пакты. Няхай жыве сяброўства!— крыкнула Люда.

Адзінота знікла. Былі сябры. Было свята. І хлопанне чырвоных сцягоў было падобна на водгук урачыстага салюта.

Заводскі клуб сустрэў нас агнямі ілюмінацыі і музыкай.

— Паглядзім, чым нас пачастуе ткацкі,— сказаў Тумілін.— Транспарант мне падабаецца. Бачыце? «Падпарадкоўвайся арганізатарам, слухай, што табе загадаюць, і ты будзеш вясёлы і жыццярадасны». Паглядзім, ці зробяць яны нас гэткімі...

Ён здаў нашы паліто гардэробшчыкам — хлопцам з чырвонымі нарукаўнікамі. З такімі ж нарукаўнікамі хлопцы спынілі нас ля ўваходу. Алесь паказаў два білеты, сказаў, што трэці ён знойдзе і пакажа пазней.

— Вашы прозвішчы? — запыталі ў нас.

— Цэх электрапечаў. Нас запрашалі.

Хлопцы паказалі на транспарант, што вісеў над гардэробам і які Тумілін толькі што прачытаў нам. Люда на-

звала нашы прозвішчы. Хлопцы выдалі нам жэтончыкі з чырвонай паперы. У мяне і ў Люды была лічба «5», на Алесевым білецiку стаяла «4».

— Гэта нумары пакояў. Вам трэба зайсці туды.

Мы ўзняліся на другі паверх. Гамана. Смех. Ніводнага сумнага твару. Мы з Людай увайшлі ў пяты пакой.

Увайшлі і спыніліся. Ці сюды нам трэба?.. Столікі ля сцяны. На іх папяросы. Цыгарэты. Запалкі. Нейкія кніжачкі. І, як у гардэробе, шырокі транспарант, толькі крыху меншы. «Што курыць той, з кім вы прыйшлі на гэты вечар? Купіце яму гэты пачак і патрабуйце, каб ён прачытаў кніжачку, якую вы атрымаеце бясплатна».

— А калі ён не курыць? — спытала я.

— Ёсць стол даведак,— адказала мне дзяўчына ў белым фартушку.— Вунь, калі ласка, у куточку...

— Тумілін курыць «Нёман»,— падказала мне Люда.

Мы купілі два пачкі. Дзяўчына ў белым фартушку ўручыла нам тонкія кніжачкі ў тры лісточкі: «Нікацін — яд».

Мы выбеглі ў калідор.

— Эх, забыліся на стол даведак,— спахапілася Люда.

— Навошта. Алесь ужо ідзе...

Тумілін нёс нам асляпляльную ўсмешку. У ім, здавалася, смяялася ўсё: вочы, губы, шчокі, нават кароткі светлы «вожык» на галаве.

— Што ў вас?

— Мы прынеслі табе папяросы. І брашурку. Ты абавязкова прачытаеш яе. Мы далі слова.

— А папяросы якія? Ну, тады можна. Мой любімы «Нёман». А ведаеце, што было ў нас? Уваходжу — ляжаць цукеркі. Розныя. А маеш права купіць толькі тры. Заданне: пакажы свой густ, калі ты выбіраеш святочны падарунак. За лепшы густ — прэмія. Я купіў вось...

Тумілін расшчаміў пальцы. На далоні ляжалі тры цукеркі «Мішка на поўначы».

— Гэта самыя лепшыя. Праўда, прэмію не далі...

— А хто ж табе дасць? — з вясёлым смехам запытала Люда.— Трэба было ўзяць адзін грыльяж, адзін марцыпанчык і яшчэ карамельку. А ты — «Мішак» нагроб...

— Хлопцы гэтак бралі.

— Ах, хлопцы! — Люда безнадзейна махнула рукою.— Мядзведзі вы, толькі не на поўначы. Бяры за гэта яшчэ адну брашурку. Будзеш чытаць яе нам, як прыгожы раман. Пакуль не вывучыш!..

Мы ішлі ля балюстрады, а ўнізе, на першым паверсе, грымеў аркестр. Пачыналіся танцы. Ля адчыненых дзвярэй вуглавога пакоя хлопец размахваў сінімі білецікамі.

— Безграшовая латарэя. Купляйце білеты безграшовай латарэі!

— А за што купляць? — жартаўліва запытаў Тумілін.— За прыгожыя вочы?

— Ініцыятыва і жаданне. Толькі ініцыятыва і жаданне!

Білеты латарэі атрымліваў той, хто даваў згоду выступіць у святочным канцэрце. Сольныя спевы — адзін білет. Мастацкае чытанне — два білеты.

— А мастацкі свіст? — запытаў Тумілін.— У мяне мастацкі свіст. Салавей. Шпак. Сініца.

— Як спевы,— сказаў хлопец з білетамі.— За кожную птушку па білету...

— Тады мне яшчэ два. Дам сароку і пеўня!..

Гэта быў да незвычайнасці дзіўны і цікавы вечар. Выступленне Туміліна мела нечаканы поспех. Ён купіў яшчэ пяць білетаў. Потым, калі мы правяралі іх — гэта рабілася тут жа ў зале,— выйгрыш выпаў на адзін білет. Гэты білет быў у мяне. Выйгрыш быў смешны — пачак аўсяных хлапоў. Мы рагаталі.

— Малайцы ткачыхі,— сказала Люда.— Колькі выдумкі — добрай, разумнай і вясёлай. Без шаблону. А то як звычайна? Даклад. Мастацкія чытанні. Усё загадзя ведаеш.

— У мяне наадварот — сушыць,— сказаў Тумілін.— Харошы вечар, але сухі.

Люда абурылася.

— Вам, мядзведзям, толькі гарэлку. Як вечар — буфет штурмуюць. Не, малайцы ткачыхі. Яны і тут паказалі прыклад. І столікі арганізавалі як след...

— Буфет ёсць? — Тумілін аблізаў губы.— А чаму я яго не заўважыў? Людачка! Вядзі нас туды. Трэба хоць зірнуць, якія там пастаўлены бутэлькі...

— І табе не сорамна?

— Праўду кажу, Люда. У горле ўсё перасохла.

Весялосць была і ў буфеце, але тут яна крыху сцішылася, быццам зморалася. На століках — фруктовая вада, яблыкі ў вазах, цукеркі.

— Значыць, мы можам зрабіць добры вечар. Зрабіць так, каб радавалася душа,— сказала Люда.— Можам. І яшчэ як можам! Маўчыш, Алесь?

— А чаго ты ўвесь вечар нападаеш толькі на мяне аднаго? Тут і начальства ёсць. Ідзі і скажы...

— І скажу. Вось будзе сход на заводзе, і скажу!..

Люда не дагаварыла; сінеча ў яе вачах прапала, і яны зрабіліся шэрыя. Яна нервова прыгладзіла валасы над вухам. Шапнула мне:

— Баўтрукоў ідзе. Чуе маё сэрца, што нешта будзе...

— Змоўнічаеце? — запытаў Тумілін.— Не, давайце ўслых, бо мы ўтраіх. Ёсць гэткі закон...

Баўтрукоў спыніўся ля нашага століка. Люда сядзела ля праходу, і ён паклаў руку на спінку яе крэсла. Строгі чорны касцюм і ідэальна белая кашуля з танюткім гальштукам. Крыху пачырванелы тонкі нос. Стомленыя і бліскучыя, як яшма, вочы.

— Святочныя віншаванні кампаніі,— сказаў Баўтрукоў.— Са святам, Людок! Казала, нікуды не пайду. А тут —сядзіш. Як гэта разумець?

— Як хочаш разумей. Толькі не чапіся,— параіў Тумілін.— Выпіў? Ну і добра. І ніхто табе нічога не кажа...

— А ты на свята за дваіх узяўся? Нядобра гэтак, Алесь. Нядобра!..

— Ідзі адсюль, Сяргей,— папрасіла Люда.

— Праўда, Баўтрукоў. Табе дабра зычаць,— сказаў Тумілін.— Ну выпіў крыху. Ніхто нічога не гаворыць. Але не чапіся. Навошта?

— Люда мая дзяўчына,— адсек Баўтрукоў.— У нас ёсць шмат размоў, якія мы не паспелі скончыць. Праўда, Людок?

Адной рукой Баўтрукоў узяў Люду за валасы, павярнуў тварам да сябе, а другою сціснуў яе падбародак.

— Ты чаго маўчыш? Можа, я кажу няпраўду?

Люда сядзела ўнурыўшыся. Пальцы яе нервова скублі батыст насоўкі. Яна з мальбою зірнула на мяне. Я не паспела нічога сказаць, як Тумілін ускочыў і схапіў Баўтрукова за грудзі. Ён лёгка, вельмі лёгка, як здалося мне, скалануў Баўтрукова, і той выгнуўся, узмахнуў рукамі і бразнуўся на суседні столік. Тонка, як крык, дзынкнула ваза. Яблыкі і бутэлькі пакаціліся па падлозе.

Баўтрукоў хутка, як кот, ускочыў на ногі. Твар у яго быў чырвоны. Ён злосна, неяк пахабна смяяўся.

— Біцца хочаш? А я біцца з табою не буду. Не збіраюся нават. Не чакай. Свята. І за гэта ты ўдвая адкажаш!

Два хлопцы ў чырвоных нарукаўніках падбеглі да Туміліна. Ён паслухмяна ўзняўся, пайшоў наперадзе іх.

— Я зараз прыйду,— паабяцаў ён.

— Пабачым,— праз зубы працадзіў Баўтрукоў.— Ты прыйдзеш адтуль без камсамольскага білета...

На нас глядзелі ўсе. Мне было непамысна, сорамна і крыўдна. А Люда быццам нічога не заўважала. Яна цягнула мяне з буфета, паўтараючы:

— Хадзем туды! Трэба расказаць, як усё было.

— Без нас разбяруцца.

— Не разбяруцца. Ты яшчэ не ведаеш гэтага...

— А чаго ён прычапіўся?

— Ён помсціць мне. Вясной мы ездзілі з ім па Дзвіне. Ведаеш, чаго ён хацеў?.. І вось з таго дня па пятах ходзіць: ні з кім сябраваць не дазваляе...

На падбародку Люды чырванелі сляды пальцаў Баўтрукова, твар яе быў бледны, а ў голасе гучала нянавісць.

Як мала, аказваецца, ведала я Люду. На заводзе нашы печы былі амаль побач, а між намі ляжала цэлае жыццё. Мы працавалі разам, бачыліся штодня, а ў кожнай быў свой лёс, сваё гора, свае радасці. Радасці мы не хавалі, а гора намагаліся чым-небудзь прыкрыць, саромеліся яго, і таму цяпер, выцягнутае з цёмнага закутка, яно непрыемна ўдарыла і мяне і Люду.

## 12

Першы — без адзінага прымаразку — зазімак у той год быў дужа ранні. Яшчэ там-сям віселі ў садах жаўтабокія антонаўкі, шамацелі па-над Дзвіною барвістым лісцем клёны і густа зелянела тонкая атава на прыдзвінскай лугавіне, а з неба — нечакана і густа — упаў снег.

Ён пайшоў ноччу, ранкам сцішыўся, праглянула сонца, а потым зноў неба зацягнула шэрань, і апоўдні, калі мы з Журко ехалі на завод, з хмарнай высі зноў спорна сыпануў снег. Белыя вохлапы асядалі на стрэхі, заляплялі парканы і сцены дамоў, дрэвы ад снегу рабіліся тоўстыя, быццам абкручаныя ватай.

З Віктарам мы сустрэліся на аўтобусным прыпынку. Пасажыраў у аўтобусе было мала, і я пацягнула Віктара на задняе сядзенне. Журко ўзяў білеты і аддаў мне.

— А ты не бачыш, адзін з іх шчаслівы. Цягні!

— Кінь... Гульня гэта.

— Няхай. Цягні!..

Журко не выцягнуў «шчаслівага», ён застаўся ў мяне, гэты вузкі кавалачак паперы з лічбамі ў сярэдзіне: сто пятнаццаць злева і сто пятнаццаць справа.

— Усё, Віктар. Шчасце вось дзе. Я трымаю ў руцэ.

— Тройчы плюнь пад ногі, каб не ўцякло!

— Не чула, але...— я тройчы варухнула губамі.

— Цяпер можаш спаць спакойна. Ніхто да шчасця твайго не падступіцца, ніякае ліха не кране...

— Але можна праспаць!

— Не. І ад гэтага гарантыя...

— Ну, Віктар, дзякуй. З табой у дарозе мне так пашэнціла.

— Болей трэба ездзіць...

Мы смяяліся. Кожны з нас разумеў, што ўсё гэта — гульня. Можа, ад гэтай гульні, можа, яшчэ ад жартаў Віктара, на душы было ўсцешна. А можа, усё гэта толькі ад таго, што побач быў Віктар?

Віктар урэшце прымоўк, утуліў голаў у плечы, і мне здалося, што яго змарыў сон. Праз адтуліну ў дзвярах прабіваўся сцюдзёны струмень. Я падкурчыла ногі.

— Заварыў гэты Тумілін кашу,— раптам сказаў Віктар.— Круценькую. А хто яе есці будзе — не ведаю...

— Усяму камітэту хопіць. Падлівайце масла. Кажуць, кашу маслам не сапсуеш...

— Падліваеш ты масла. Але, на жаль, не ў кашу!

— У агонь!

— Не благое прызнанне, а таго не прыкмячаеш, што пазіцыя твая тут не так што і правільная...

Мы пачыналі тую ж самую спрэчку, што адбылася ў нас з Віктарам пасля пасяджэння камітэта камсамола. Туміліну на тым пасяджэнні далі вымову. Тумілін не пагадзіўся з гэтым і напісаў скаргу на імя сакратара гаркома...

— Пазіцыя... Пазіцыя... Апазіцыя яшчэ скажаш. Проста правільна Алесь зрабіў.

— Не,— рашуча сказаў Журко і пыхнуў пад нос, быццам здзьмухваючы што.— Мог выказаць сваю нязгоду і на камітэце. А то стаіць, шамкае нешта. А тут патрэбна пазіцыя, і яе трэба выказаць.

— Чаго ж выказваць, калі вы Хадасевічу па ўсёй форме данеслі: меры прыняты. Тумілін пакараны. Рахунак буфета аплачаны.

— Настойваў на гэтым Васечка. Ты ж ведаеш...

— Ах, праўда, вы ж перад сваім сакратаром на лапках. А Тумілін прынцыповы. Яму не пакаранне важна...
— А што яму важна?
— Ён хоча справядлівасці. Ён супраць двудушнасці.
— Якой двудушнасці?
— А простай. Твой Баўтрукоў...
— Чаму гэта — «мой»?
— Няхай проста Баўтрукоў. Але ж камітэт даў яму грамату. За што? За тое, што ён узлезе на трыбуну і пачынае: «У абстаноўцы незвычайнага працоўнага ўздыму наша брыгада сустракае вялікую і слаўную гадавіну...»
Журко зарагатаў.
— Здорава, Стэфа. Табе трэба на сцэну!
— А куды яго? Куды гэтую «правільную» прамову па любому выпадку? Ты заўважаеш, яна падыходзіць да кожнага свята, да кожнага дня. І нічога не трэба мяняць. А за гэтымі словамі, гладзенькімі, як яйка,— дэмагогія. Кар'ерызм. Прыстасаванне. Ні кропелькі сардэчнага агню.
— Гэта вельмі рэзка, але...
— Апалітычна, ты скажаш?
— Чаму? Скажу, што правільна. Але ёсць парадак.
— Яго трэба ламаць, такі парадак!
— Стэфа! Наш прыпынак!
Мы выскачылі з аўтобуса. Я ледзьве не павалілася — Віктар паспеў схапіць мяне пад руку. Аўтобус пакаціў далей. У цьмяных калюжынах вады бясследна знікалі снегавыя вохлапы.
— Але Баўтрукоў няблага працуе,— разважліва прамовіў Журко.— Нават добра. А мы звычайна бачым толькі гэта. Нас гэта асляпляе.
— Ён працуе толькі дзеля грошай. Толькі дзеля іх. А на ўсё астатняе яму напляваць.
— У цябе ёсць факты?
— Ён сам казаў гэта.
— А ёсць сведкі?
— Ну, а калі іх няма? Гэта мяняе што-небудзь?
— Нічога, вядома. Слухай, Стэфа, ты павінна сёння абавязкова выступіць на сходзе. Выступіш?
Я змоўчала, і ён зноў запытаў:
— Выступіш?
— Я хачу ў цябе спытаць...
— Калі ласка!
— Скажы, ці мае чалавек права крытыкаваць другіх,

калі ў яго ёсць адчуванне, што ён сам, асабіста сам, жыве не зусім так, як трэба?

— Каго ты маеш на ўвазе?

— Пытанне чыста тэарэтычнае.

— Ты нешта хаваеш ад мяне,— з жалем зазначыў Журко.— І я не магу ўцяміць... Хаця, можа, і заслужыў. Толькі бачу: раней ты была не такая...— ён памаўчаў, шукаючы патрэбнае слова.— Рэзкая...

— Ад кахання, відаць. Мяне яно зрабіла рэзкай, цябе — мяккім і вельмі ўжо афіцыйным...

Нехта быццам падказваў мне: не тое ты гаворыш, Стэфа. Няўжо не бачыш, што папрокі Журко справядлівыя? Ты лічыла яго сваім лепшым сябрам, а цяпер больш, чымся ад каго, хаваеш сваю бяду. Той жа голас падказваў мне: Віктар ведае, што я таю ад яго, але тактоўна не пачынае гаварыць першы. Усё гэта нараджала пачуццё няпэўнасці, і яна, гэтая няпэўнасць, адгароджвала мяне ад добрага сябра.

Віктар ускінуў руку, зірнуў на гадзіннік.

— Бачыш,— сказаў ён.— Не хопіць часу, каб усё табе расказаць. Давай пасля сходу...

— Хочаш паставіць мяне на правільную лінію?

— Абавязкова.

— Якая ўпэўненасць. Відаць, вартая пераймання.

— Ніхто, на жаль, не хоча яе пераймаць. Нават Каця,— нечакана прызнаўся Журко.— Усё строга з ёй стараюся, каб ніякай слабасці не паказаць... Мне здаецца, што, калі яна ўбачыць яе, нешта знікне паміж намі добрае. А што знікне — не ведаю. Павага?..

— Прыдумляеш ты ўсё, Віктар, шчыра табе скажу.

— Раюся, Стэфа. З кім мне больш пагаварыць?..

Я была ўдзячна Віктару. Удзячна за гэтае прызнанне і за тое, што ён гаварыў са мною шчыра, як у даўнія гады, удзячна нават за яго крыху смешную афіцыйнасць. І недзе з гэтым пачуццём — зусім побач! — гнездавала злосць на сябе. Што гэта робіцца са мною... Адкуль гэта недаверлівасць і дзікаватасць? Проста сорамна... Віктар гаворыць па-сяброўску, раіцца, я хаваюся, нечага баюся і нечага наўмыснага шукаю ў кожнай дробязі...

Пасля золі і восеньскай слоты вуліцы халаднаватая цішыня клубнай залы здалася мне святочнай. Людская гамана лунала над крэсламі. Мы разышліся з Віктарам: ён пайшоў да Хадасевіча, які стаяў ля сцэны, мяне паклікала Люда Свяціцкая.

— Кіруймася вунь туды, у куточак,— Люда паказала рукой на незанятыя крэслы.

— Не ўжо. Калі прыйшлі,— па кутках сядзець не будзем. Пайшлі наперад!

Я пацягнула яе бліжэй да сцэны. У праходзе нас затрымала Фаіна Усцінаўна.

— Сядайце тут,— яна кіўнула галавой на крэслы побач.— Ого! Проста свята: Стэфа прыйшла на сход.

Тумілін, які падышоў да нас, пажартаваў:

— Вынік маёй выхаваўчай работы, Фаіна Усцінаўна.

— Тваю работу, мой дарагі, я крытыкаваць яшчэ буду. На трэцім камплекце печы зноў не ў парадку.

— Якая? І хто скардзіцца?

— Вось, зірніце на яго! — Фаіна Усцінаўна кінула хуткі погляд на мяне.— Яму абавязкова, каб хто-небудзь паскардзіўся. Сама бачыла: дазатары трэба адрэгуляваць.

— Не толькі,— сказаў Тумілін.— Увесь камплект трэба ставіць на прафілактыку. Ды запытайцеся ў Стэфы! Гэта ж іх печы!

— На Стэфу ківаеш. А сваё меркаванне?

— Я выказаў вам яго!

Незалежнасць Туміліна ўзрадавала мяне. Я ўслухоўвалася ў людскую гаману залы, краем вока бачыла даўгаваты, з вострым падбародкам, твар Фаіны Усцінаўны і па інтанацыі яе голасу здагадвалася, што начальнік змены ставіцца да Туміліна прыязна.

Да стала, што стаяў на сцэне і быў засланы чырвонай тканінай, падышоў Васечка. Басавіта адкашляўся, паправіў карычневы гальштук. Дзяўчаты нашага цэха, калі гаварылі пра сакратара камітэта паміж сабою, змянялі націск у яго прозвішчы — атрымлівалася гуллівае: Васечка. Ён хутка даведаўся пра гэта і аднойчы, адчытаўшы як след Ніну Барысаву за спазненне на камітэт, раздражнёна заўважыў: «Я Вам не Васечка, памятайце!» З таго дня гэтае жартоўнае прозвішча замацавалася за ім канчаткова.

Я прыгадала той выпадак і зірнула на Ніну — яна таксама была ў прэзідыуме. Чорны халат, на якім ляжаў белы каўнярок, рабіў яе твар незвычайна маладым і зусім дзіцячым, і Ніна была не падобна на тую дзяўчыну, з якой я працавала ля электрапечаў. Побач з ёй сядзеў Віктар. Ён не горбіўся, не апускаў галаў, як Васечка, і пільна ўглядаўся ў залу, быццам нечага шукаў па крэслах; я злавіла яго погляд, і мне здалося, што Віктар таямніча, не-

заўважна ад усіх, усміхнуўся мне, і гэтая змоўніцкая ўсмешка, у якой была нейкая патаемная сувязь паміж намі, устрывожыла.

Старшынёй абралі Ніну. Заслухалі Туміліна і Баўтрукова. Потым адразу слова папрасіў Журко. Я толькі зірнула, як ён ішоў да трыбуны, і адразу ж адчула тую ж трывогу, што прыйшла да мяне на пачатку сходу.

— Хачу ўнесці некаторую яснасць,— сказаў ён і смела паглядзеў у залу.— Пастанову — даць Туміліну вымову — камітэт прыняў неаднагалосна. Супраць быў я. Вы можаце запытаць, чаму? Таму, што я лічу: выпадак на святочным вечары — не персанальная справа Туміліна. Я пераканаўся яшчэ раз у гэтым сёння, калі гаварыў з адной камсамолкай. Яна назвала Баўтрукова двурушнікам.

— Прозвішча! Давай прозвішча!

Журко, крыху павагаўшыся, назваў маё імя.

— Няхай тут скажа! — патрабавалі ў зале.— Без адваката.

— Яна скажа! — паабяцаў Журко.— Пачакайце крыху...

Яго вочы знайшлі мяне. Я чырванела. Чырванела пад яго позіркам па-здрадніцку і бездапаможна. Дзеравіна я сукаватая! Як жа я ў аўтобусе і ідучы дарогаю не заўважыла іроніі ў яго словах, у яго меркаваннях, у гэтым любімым выразе Васечкі «паставіць на правільную лінію».

Журко перадыхнуў. У зале стаяла цішыня. Замест чырвані на твар Журко набегла бялявая смуга хвалявання, і вочы нібыта пабольшалі.

— І я вось што скажу. Давядзіся мне быць на месцы Туміліна — я б таксама зрабіў тое ж!

— Біўся б!

— Абараняў бы! Абараняў бы чалавека. Чаму мы лічым вінаватым таго, хто абараняецца, а не таго, хто прымушае абараняцца?

— Актыўны абаронца,— падаў рэпліку ўсё той жа голас.

— Так. Актыўны. А што ж, які-небудзь нягоднік будзе размахваць перад тваім носам кулакамі, а ты стой і чакай, пакуль ён табе ў вуха дасць. Позна тады абараняцца. А цяпер, як кажуць дакладчыкі, пяройдзем да фактаў. Баўтрукоў няблага працуе. Прыгожа выступае на сходах...

— На ўсіх!

— Можа, і не на ўсіх,— спакойна адкінуў рэпліку

Журко.— Але часта. І вось пасля гэтых прамоў, крыху адышоўшыся ад завода, ён высмейвае тое, што казаў, высмейвае сваю работу, нашы парадкі, вядзе цынічныя размовы пра дзяўчыну, з якой працуе ў адным калектыве. Як загадаеце назваць гэтага чалавека? Ну, хто там крычаў «актыўны абаронца», «актыўны абаронца»? Адкажы! Так... Маўчанне. Тады я паўтару Стэфіны словы: двурушнік. Вось як!

— Паклёп! Таварышы, гэта ж паклёп! — хрыпла закрычаў Баўтрукоў.

Ніна, прыўзняўшыся за сталом, пастукала алоўкам:

— Чакай, Сяргей. Табе слова на давалі!.. Выступае Віктар...

— А ў мяне ўсё.

— Во, цяпер можаш казаць,— дазволіла Баўтрукову Ніна.— Выходзь сюды, да трыбуны...

Баўтрукоў не ішоў, а амаль бег да сцэны, суха шоргаючы рукавамі спартыўнага пінжака з карычневага хрому. Галава крыху прыгнулася, кулакі сціснуты — ажно пальцы збялелі. Ён дабег да трыбуны, павярнуўся, і тады тое няўлоўнае, слаба акрэсленае, што было ў сціснутых кулаках, праступіла адразу на яго тонкіх губах. Гэта была ярасць.

— Я думаю...— сказаў Баўтрукоў і пераможным паглядам акінуў залу.— Я думаю, што ўсе, хто тут ёсць, хоць трохі, але ведаюць з геаметрыі спосаб доказу тэарэм, які завецца спосабам ад адваротнага. Я дазволю ўжыць яго, зраблю дапушчэнне: Баўтрукоў не ёсць двурушнік. Што тады застаецца? Двурушнік ёсць Тумілін.

Зала загаманіла.

— Чакайце, чакайце! — Баўтрукоў, папярэджваючы, замахаў сагнутай рукою.— Як і Журко, я пераходжу ад тэорыі да фактаў. Пачнём з пытанняў. Ці мае чалавек маральнае права абвінаваціць, назваць двурушнікам другога, калі ён сам жыве несумленна, жыве падманам, жыве і хавае сваё жыццё ад усіх?..

— Давай, Сяргей, канкрэтна! — патрабавала Ніна і зноў пастукала алоўкам па чарніліцы, каб супакоіць гаману.— Прыводзь факты. Канкрэтныя...

— Зараз будуць. Гэтыя штучкі-мучкі пра абарону Журко лоўка прыдумаў для прастачкоў. А я яму не прастачок. І таму хачу запытацца ў Шукан — яна першай навесіла мне бірку двурушніка — адкрыта, чаму пры жывым мужы ты пагульваеш з Тумілінымі Што гэта? Платанічнае

каханне ці звычайная брудненькая гісторыйка, у якой ёсць і палюбоўнік і здрадніца-жонка?..

Ніна ўскочыла, кінула аловак на стол.

— Гэтак нельга, Баўтрукоў! Такія пытанні нельга ставіць, і Стэфа не будзе на іх адказваць!

— Чаму? Я адкажу...

Ніна спалохана глядзела на мяне. А я ўжо не магла маўчаць. Я бачыла Віктаравы вочы і адчувала нязнаную раней віну і перад ім, і перад тымі, хто сядзеў у гэтай зале. Некалі я абвінавачвала Міхася і рабіла гэта з чыстым сумленнем, з гарачай, можа, не зусім апраўданай нянавісцю. Абвінавачвала адна, сам-насам. Цяпер мне трэба было адкрыта нешта сказаць людзям. Я жыла разам з імі, працавала і таіла ў душы няпраўду пра сваё жыццё. І тут не трэба абвінавачваць Баўтрукова. Няхай бачаць і Віктар, і Ніна, бачаць усе, што ў мяне хапае мужнасці глядзець людзям у вочы і казаць ім праўду. Толькі праўду. Вельмі горкую і крыўдную, але праўду.

— З Тумініным мы добрыя сябры. Гэткіх сяброў у мяне на заводзе нямала,— голас мой не дрыжаў, хоць гаварыць мне было цяжка, але чамусьці не сорамна.— А пра Міхася, майго мужа, Баўтрукоў сказаў праўду. Мы разышліся. Вось і ўсё... І яшчэ я магу сказаць, каб Баўтрукову не трэба было збіраць плёткі. У мяне будзе дзіця...

— Ад каго ж? — з усмешкаю кінуў Баўтрукоў.

Нехта галасна войкнуў, і тады адразу вір галасоў зламаў цішыню.

— Як не сорамна! Гнаць Баўтрукова!

— Няхай скажа! Гавары, Сярожа!

— Далоў! Далоў з трыбуны! Будзе ён тут...

Фаіна Усцінаўна кранула мяне за руку.

— Сядай, Стэфа...

Я села, і тады прыйшло тое страшнае, чаго я баялася,— раўнадушша і абыякавасць. Мяне не цікавіла цяпер нічога. Бязлітаснае, цынічнае пытанне Баўтрукова ўдарыла мяне, як пярун; яно спаліла маю волю, і я не магла ўжо нічога сказаць. І палкія словы прамоўцаў, і ўзбуджаны твар Ніны, і спачувальны шэпт Люды — усё гэта быццам аддалілася, схавалася пад тонкай празрыстай тканінай; па адзін бок яе быў сход, а па другі — я сама, адна, з горыччу сваіх думак, з сваім, нікому не зразумелым горам і шчымлівай трывогай роздуму.

Калі сход скончыўся і мы ішлі па лесвіцы ўніз, Журко сказаў мне, каб я пачакала яго: ён хацеў ісці разам. Я кіў-

нула, але не адчувала ні жадання чакаць, ні асаблівай радасці ад таго, што мы пойдзем разам. Нейкая грань лягла паміж намі, няўлоўная мяжа, якую — я добра ведала гэта — цяжка, ды і не трэба перастунаць.

Мяне выратавала Ніна. Яна падбегла, схапіла мяне за плечы, крыкнула Журко:

— Бывай, Віктар. Нам няма часу!..

Журко развітаўся з намі.

— Думаеш, я прагаварылася? — гарачым пошапкам запытала Ніна, як толькі мы выйшлі з вестыбюля.— Нікому ні слоўца. І адкуль ён усё ведае? Які нягоднік. Я б яму вочы бессаромныя павыдзірала. А яны — вымову.

— Не трэба аб ім. Ён зрабіў мне добрую паслугу...

— Табе? Не разумею... Дабро можа зрабіць людзям толькі той, у каго чыстыя рукі і душа чыстая...

— Якая напышлівасць. Усё бывае прасцей...

— Наадварот. Складаней у тысячу разоў. Зірні на Баўтрукова...

— Не трэба аб ім!

Я сказала гэта рэзка і патрабавальна. Утрапенне прайшло. Цяпер я зноў магла змагацца.

— Даруй мне,— папрасіла Ніна.— Але я не разумею, адкуль гэтае непрацiўленне злу. Чаго ты маўчала? Адразу — хоп. Села. І замірылася.

Не, дарагая Ніна, я не замірылася. Я толькі атрымала ўрок. Добры, павучальны. І сёння, больш чым калі, я пераканана, што чалавек павінен жыць прыгожа і добра. Ён мае на гэта права. Чэснае слова — мае! І гэтая прыгажосць павінна быць у адносінах да працы, да сяброў, да ўсяго слаўнага, што ёсць на зямлі. А побач, як вартавы, павінна стаяць нянавісць да такіх, як Баўтрукоў. Ён проста ўдарыў мяне ў самае балючае месца, ударыў забароненым прыёмам; гэтага ўдару я не чакала. І гэта — урок. Але з такімі, як Баўтрукоў, я не зміруся ніколі, ніколі ў жыцці! Нават мёртвая! І нянавісць мая будзе жорсткая, бязлітасная. Нянавісць да бруду, падману, мяшчанскага дабрабыту ў сваім гняздзечку...

Парывісты сіверны вецер гайдаў дрэвы прысад, наледзянелыя галіны звінелі; пад нагамі хліпка, як дрыгва, чаўкаў крыху падмёрзлы снег; распырскваючы рудое месіва, праімчаў аўтобус.

— Паедзем?

— Лепш пешкі,— адказала Ніна.— Пры хадзе мне лепш думаецца. І я хачу слухаць...

— І ў мяне такое жаданне. Я даўно не бачыла твайго Івана. Як вы цяпер? Раскажы...

— А добра, ведаеш,— вочы Ніны нібы струменілі мяккае шэрае святло.— Іван часта пра цябе пытае. «Анёльскія вочы — гэта ён табе такую мянушку даў — чаму не прыходзяць?» І праўда, раз зайшла — больш і носа не паказваеш...

— Іван не шкадуе, што ад бацькоў пайшлі?

— Ну, скажаш! Змяніўся ён здорава. Вось зараз прыходжу і не пазнаю яго, быццам новы, не той, што быў учора. І гэтак штодня. Я стараюся, каб усё лепшае для яго зрабіць. Ён для мяне — таксама. Ведаеш, што ён цяпер мне гаворыць? «Трэба берагчы адно аднаго...» І я стараюся. Сёння мне хочацца быць лепшай, чым учора. І ў працы гэтак, і ў вучобе. Я жыву цяпер і з радасцю чакаю кожны новы дзень!..

Так, Ніне лёгка было казаць гэта. У яе было каханне. А ў мяне было толькі мінулае, у мяне былі толькі ўспаміны, боль, туга і нянавісць. Яна казала мне тое, што я даўно ведала. Галоўнае ж не кахаць, а рабіць нешта для кахання. Кахаць — гэта адкрываць у каханым чалавеку кожны дзень нешта новае, прыгожае, нязнанае раней. А што магу адкрыць я ў сваім мінулым?.. Дзеля каго?..

Патрабавальны, незвычайна моцны штуршок усярэдзіне прымусіў мяне спыніцца. Цяпер ён зарадзіўся не пад сэрцам, як у першыя разы, а ніжэй, і боль ад яго трымаўся даўжэй, чым тады. Я разгубілася, схавала ўсмешку ад Ніны. Той, хто павінен хутка прыйсці на гэты свет і здзівіць і ўзрадаваць мяне, гаварыў са мною на сваёй мове. Гэтую мову разумела толькі я. Разумела і не хацела казаць нават Ніне пра тое...

Увечары, ладкуючы пасцель, я ціхенька заспявала. Раней я ведала, што ў мяне будзе дзіця, але думкі пра яго не спыняліся ні на чым канкрэтным. Цяпер абстрактнасць знікла, саступіўшы месца пэўным клопатам, і я сама падзівілася той ціхамірнай яснасці, што адразу знайшла месца ў душы. Хутка я буду не адна! Удваіх! Знікнуць адзінота і трывожныя непатрэбныя думкі. Пашыць што — я магу. А калыску можна нават і не купляць. Ложак у мяне шырокі... Не, калыску трэба набыць. А паставіць яе можна ля століка. Праўда, крыху дзьме ад акна. Лепш ложак крыху пасунуць...

Мне захацелася зрабіць гэта зараз жа, не адкладваючы, і я шчыра ўзялася за работу. Колцы ножак пра-

нізліва візгатнулі. У пакой, не пастукаўшы, увайшла гаспадыня.

— Чаго ты гэта ладкуеш проці ночы?

— Ад акна дзьме. Хачу ложак пасунуць...

— Ты глядзі, глядзі, што нарабіла! — яе вочы апалілі мяне сінім агнём.— О, пісягі якія! На самым цёплым месцы стаяў. І няхай стаіць!

Гаспадыня прыўзняла і асцярожна паставіла ложак на ранейшае месца, прысела, паплявала на палец і ўзялася заціраць палоскі, што пакінулі на падлозе апоркі ложка. Параіла:

— Калі што трэба — скажы. А то адна соўгае. Нашто пуп рваць?

Спачатку я разгубілася, адчула сябе непамысна. І толькі пазней, калі засталася адна, падумала аб гаспадыні нядобра. На падлозе стылі бліскучыя, нібыта снегам пасыпаныя, белыя пісягі ад колцаў. Яны нібыта перакрэслілі маленькі і прыгожы свет, які пачаў складацца ў маёй душы; гэты свет нарадзіўся зусім нядаўна, і мне было прыемна, весела і радасна з ім, я адчувала сябе незалежным чалавекам, бо мела ўжо ясны клопат — не толькі пра сябе адну.

У душы не згасала прыкрасць. Памятаю, гэтак жа крычала на мяне жонка Раманюка, калі я мыла вясной акно і крыху пашкрабала нажом аканіцу; яна таксама, як цяпер гаспадыня, пальцам заціpала шкрабінку, і ў яе гэтак жа злосна паблісквалі вочы. Якое дзіўнае падабенства! Няўжо ў кожнага ўласніка адны і тыя ж сродкі аховы, адны і тыя ж кіпцюры, што вылазяць адразу, ледзь толькі зачапі тое, што належыць яму?

У хаце Раманюка разбурылася мая сям'я. Няўжо ў гэтай хаце здарыцца яшчэ нешта, напаткае мяне новая бяда?

Не! Гэтага не павінна быць!

## 13

Ранкам я прачнулася, але абудзіў мяне не маліновы бляск халоднай зары ў акне, а тупы боль у правым плячы. Я павярнулася. Пальцы намацалі нешта тонкае і цвёрдае. Аловак?..

На доле, ля ложка, ляжала адкрытая кніга. І яшчэ нешта было ў пакоі не так, як заўжды. Ах, вось што! Лямпачка! Гэта ж я заснула ўчора з падручнікам. І спала, не згасіўшы святло.

Я пацягнулася, потым асцярожна паклала рукі на пакруглелы жывот і крыху паляжала нерухома, услухоўваючыся ў яго жыццё. «Сёння мы добра з табою спалі,— сказала я пошапкам, пачынаючы гаворку, што вяла цяпер, абудзіўшыся, кожны ранак. Гэтая размова была для мяне, як паветра.— І ты не трывожыў маму і не стукаў ножкамі. Ты ўжо так спраўна робіш гэта, а сёння проста малайчына. Цяпер мы што зробім? Будзем уставаць, прыбірацца. І твая мама пойдзе на завод. Ты ведаеш, што ў нас сёння? Ага, не ведаеш. А ў мамы сёння экзамен. Чуеш?»

Слабы штуршок быў мне адказам. І ад таго, што дзіця жыло і падавала патаемныя сігналы, і ад таго, што завіруха, шалеўшая ноччу, сунялася і шыбы малінава свяціліся ад сонца, і ад таго, што сёння трэба здаваць на заводзе тэхмінімум, да якога я добра падрыхтавалася, у целе было шмат бадзёрасці і сілы. Я паспрабавала ўявіць сабе кабінецік начальніка цэха, дзе будзе засядаць камісія, падумала, пра што могуць запытацца. Спакой, які жыў ва мне, даў зразумець, што гэты экзамен не галоўнае, што ён ужо нічога не заменіць, і самае важнае — гэта не тэхмінімум, а тое, што ёсць завод, ёсць цэх, дзе працуюць Журко, Люда, Ніна, Тумілін, дзе ёсць электрапечы, што ёсць ЁН, з якім звязана цяпер усё: і мае надзеі, і мае клопаты, і мой лёс.

Выбраўшыся з хаты — быў яшчэ вольны час,— я не паехала на аўтобусе, як гэта рабіла позначыся, а пайшла пешкі, наўпрост, цераз раку. Завея закідала сцежку зусім, і ісці было цяжка, але я ішла ўцалік, не адчуваючы стомы. Відаць, вось гэтак ішлі адкрывальнікі-землепраходцы. Ішлі, і іх чакала наперадзе невядомасць. А мяне чакаў завод. Я ведала, што там, наперадзе, ніякіх новых земляў няма, а ёсць круты берагавы ўзвал, які, пэўна, гладка залізала завея і адолець яго будзе цяжка, але зманлівая прага адкрыццяў не прападала, і я ішла, адчуваючы разгарачоным тварам пругкасць сцюдзёнага ветру.

Адолеўшы ўзвал, азірнулася. Вецер ледзь не садраў з галавы пуховы шалік, я шчыльней заціснула яго пад каўнер паліто і толькі тады адчула, што спацела ад хуткае хады. На аснежанай стужцы ракі ляжаў мой не зусім роўны слядпік: удалечыні, дзе цьмяна бліщчалі снегавыя гурбы супрацьлеглага берагу, варушыліся чорныя постаці — людзі ішлі па маёй сцежцы...

Ля завода мы сустрэліся з Нінай.

— З лазні? — запытала яна.

— На Дзвіне парылася. Сцежку гладка завеяла. Ледзь прабілася.

— А мы ноччу хадзілі на лыжах. Каб жа ты веда-ала! Завея! А мы — уніз. Жы-ых! Рот адкрыеш, а крычаць нельга. Цудоўна!

— Далёка дзе былі?

Ніна адчыніла дзверы, прапусціла мяне наперад і адказала ўжо на лесвіцы, калі мы павіталіся з вахцёрам і мінулі вестыбюль:

— Далёка. Да Лысай гары дабраліся. Усё Віктар прыдумаў. Ох, лётае ён на лыжах! Аніводнага разу не паваліўся. А мой Іван з Лысай і не з'ехаў. За кожным разам — бух у гурбу. І рагоча. А як пайшлі па роўнаму — усіх абставіў. А ты што рабіла ўчора?

— Чытала. Да поўначы.

— Хвалюешся?

— Нават не ведаю.

— Ах, калі і ёсць што — адкінь,— параіла Ніна.— Галоўнае — гавары паболей. Я, напрыклад, нічуць за цябе не хвалююся.

— Ну тады мне і трывожыцца няма чаго. Можна адразу абмываць новага апаратара.

— Не. Не будзем!

— Думаеш, правалюся?

— І думкі такой няма,— шэрыя вочы Ніны глядзелі на мяне з хітрынкай, і ў голасе была добрая таварыская прыязнасць.— Хачу адразу за дваіх: і за апаратара і за вучня. Але ж у цябе і не прыкметна зусім.

— Ты скажаш!

— Праўда. Ну пакруглела крыху. І ўсё. Во табе, трымай! — Ніна нешта сунула мне ў кішэню.

— Што гэта?

— Маўчы. Талісман. Бачыш, Ашур кліча.

У дзвярах кабінета начальніка цэха стаяла Фаіна Усцінаўна. Колькі разоў забягала я сюды па розных справах! А цяпер увайшла з хваляваннем, быццам ніколі не была ў гэтым маленькім пакойчыку, што адгарадзіўся ад цэха тонкай драўлянай перагародкай.

За сталом сядзеў інжынер па кадрах Якавец, побач з ім — начальнік цэха Зотаў. Да іх, зачыніўшы дзверы, падсела Фаіна Усцінаўна.

— Пачнём, таварышы,— сказаў Якавец.— Думаю, што няма патрэбы шкалярнічаць. Паслухаем спачатку началь-

ніка змены — няхай яна атэстуе апаратара, а потым, па ходзе гаворкі, што-кольвек запытаем. Згода?

— Так, Генадзь Пятровіч,— адказала Фаіна Усцінаўна.

Яна гаварыла пра мяне вельмі мала. У асноўным хваліла. Якавец двойчы перапыніў яе пытаннямі да мяне. Я адказала. Першы раз ён пацікавіўся, чаму пры пераходзе на новы асартымент — пяцісоты нумар валакна — было шмат браку. Другое пытанне было па тэхніцы бяспекі. Я не блыталася, адказвала хутка і дакладна.

— Зачыніце дзверы, Барысава! — нечакана строга загадаў начальнік.— А што яна тут робіць, Фаіна Усцінаўна?

— За Стэфу хвалюецца, Яўген Раманавіч.

— Ну-ну,— сказаў Зотаў.

Я разглядала жоўтыя чаравікі начальніка цэха, стаптаныя, з круглымі латкамі ля шырокіх квадратных мыскоў. Латкі былі крыху цямнейшыя за чаравікі. Гледзячы на іх, неспадзеўкі, без усякай сувязі, мне падумалася, што Ніна прыйшла на завод толькі дзеля мяне гэтак рана і цяпер хвалюецца і чакае. Рука неяк міжвольна апусцілася ў кішэню і намацала там шкляны шарык. Шарык быў з маленькай шурпацінкай, і пальцы добра адчувалі яе на гладкай паверхні. Шчымлівая спазма сціснула горла. Я зірнула на змораны твар начальніка цэха. Абеленыя скроні. Худы, з гарбінкаю, нос. Зотаў быццам жмурыў зеленавата-карыя вочы, і я, злавіўшы яго позірк, здзівілася, прыгадаўшы, што ніколі не бачыла ўсмешкі на гэтым твары.

— У мяне няма пытанняў,— Фаіна Усцінаўна паглядзела на Якаўца і павярнулася да начальніка цэха.— А ў вас, Яўген Раманавіч?

— Магу толькі віншаваць,— голас Зотава быў вясёлы, а твар па-ранейшаму хмурыўся.— Шукан малайчына. Апаратар добры. І яшчэ магу сказаць дзякуй Генадзію Пятровічу. Ён прымаў яе на завод! Памятаеце, Генадзь Пятровіч?

Я бачыла: Якавец не памятае гэта. Але ён не прызнаўся і сказаў, быццам не чуў пытання:

— Расце змена маладая. Гвардыя. Не шкадуеце, што сталі да электрапечаў?

— Ніколькі. Усё жыццё маё тут...

— Ну, ну! — перапыніў мяне Якавец.— Не трэба гэтай патэтыкі. Завод ёсць завод. А тое, што любяць яго — вель-

мі добра, і мне чуць прыемна. З радасцю віншую вас!.. Віншую!

За сцяной звінелі станкі размоткі. Я выйшла з маленькага кабінецiка, і гэты звонкі металёвы гуд напоўніў мяне ўсю. Нячутна каціла цялежку падносчыца бабін. Дзелавіта завіхаліся ля аўтаматычнай лініі мантажнікі. Чырвона-аранжавае святло дрыжала на чорных бакавінах электрапечаў. Усё ў цэху было ранейшым і ў той жа час інакшым. Нешта змянілася і ў душы. Тое, што ранкам здавалася палахлівым і трывожным, цяпер было да смешнага простае і будзённае, але ад гэтай простай будзённасці ў душы нарадзілася святочная ўрачыстасць. Мне хацелася схаваць яе ад усіх.

— Ну, што яны з цябе зрабілі?

Ніна адразу кінулася да мяне, затармасіла, а я ішла як ачмурэлая. Трэба было нешта сказаць, а я ўсё глядзела на яе і, здаецца, дуракавата ўсміхалася. Ад электрапечаў бегла да мяне Люда Свяціцкая.

— Анямела ты, ці што? — Ніна злёгку тузанула мяне.— Пытаюся — маўчыць. Зірні, Людка, кім яна стала з радасці!

— Аператарам,— урэшце сказала я.

— Ты бачыш, яна ўжо загаворваецца!

— Ад шчасця дзіўнага круцілася галованька! — праспявала Люда і, усё яшчэ смеючыся, запытала: — Чаму парушаецца граматыка? Аператар — гэта што? Назоўнік. А пасля яго якая часціна мовы ставіцца ў сказе? Аператара якога?

— Шчаслівага!

Люда адмоўна крутнула галавою.

— Цудоўнага. Выдатнага. Бліскучага...

— Няўдзячнага,— рашуча перапыніла Ніціны практыкаванні Люда.— Няўдзячнага. І гэтую ганьбу можа змыць толькі шампанскае.

— Абмеркавана. Пастаноўлена. Пераносіцца на другі дзень.

— Як, без мяне?

— Усё, Людка! Хоць адзін раз, але прыпазнілася,— сказала Ніна.— Пастанавілі — трэба ёй сказаць, каб не памерла з крыўды, праўда, Стэфа? — адзначыць разам і нараджэнне аператара і яго памочніка. Слаўнага памочніка.

— А хто цяпер памочнікам?

— Стэфа, ёй можна растлумачыць?..

— Мамачка! Родная! — Люда пляснула сябе далоняй па галаве.— Чаму гэтак мала лупцавалі мяне ў дзяцінстве!

— Ты бачыш, Стэфа! У Люды з'явілася яшчэ адна звіліна. Разумнее чалавек!..

Яны жартавалі, смяяліся, а мне хацелася есці. Вельмі, проста неяк невыносна. Я ім гэтак і сказала: не снедала, хачу есці.

— Добры сняданак! — выгукнула Люда.— На першую гадзіну павярнула! Паколькі Стэфа, нават не пад'еўшы, дамаглася поспеху і хоча есці — яна павінна накарміць нас абедам. Правільна я разважаю, таварыш Барысава?

— Мясцком збіраецца а палове першай. Адпраўляйцеся без мяне. Гарэлку не піць. Посуд не біць!

— Мы гэтак і зробім, праўда? Толькі не думай, што Стэфа павядзе мяне на другі паверх.

На другім паверсе ў нас сталоўка. Люда патрабавала катэгарычна: дзень сёння для мяне святочны, і абедаць трэба там, дзе звычайна абедаюць у такіх выпадках. Я не пратэставала, з майго боку было толькі адно патрабаванне: бліжэй і хутчэй.

Люда павяла мяне па нейкіх завулках, двойчы мы перасякалі двары і ўрэшце апынуліся ля нізкай дашчанай будыніны, непадалёк ад станцыі. Гэта была чыгуначная сталоўка.

Мы селі ля акна, завешанага фіранкаю.

— Я вельмі люблю абедаць тут,— сказала Люда.— Сядзіш, а за акном гудуць цягнікі. Быццам некуды едзеш. Ну, дык будзем раскошвацца?

— Зазірнём у меню...

— Дарэмны клопат. Я ведаю на памяць. Возьмем вось што. Боршч беларускі. Фірменнае блюда. А на другое — бараніну.

— Я лепей вазьму рыбу.

— Тут трэба глядзець у меню. Ці ёсць жа яна? Ага, вось ён, мой даўні прыяцель. Сазан смажаны.

— Я нічога б не мела і супраць вугорыча.

— Сціплае жаданне. Лягчэй атрымаць у іх надсмажанага чорта ў палосачку, чымся нашага дзвінскага ўгорыча.

— Тады замест вугорыча бяром селядзец.

— Прымаецца. І яшчэ — яблычны кампот.

Да нас падышла афіцыянтка і хутка ўзяла заказ.

— А перад усім гэтым,— з падробленай сур'ёзнасцю

папрасіла Люда.— Нам па дзвесце пяцьдзесят грамаў. Сапраўднай. Беленькай... Мінеральнай вады.

— Ёсць «Нарзан».

— Падыходзіць. Бутэлечку.

Афіцыянтка адышлася.

— Можа, сапраўды хочаш чаго? — нясмела прапанавала я Людзе.— Вазьмі. Я ўвогуле... Не магу...

— А мне прапануеш! Ненавіджу гарэлку. Каб маё права... Пугай сцябала б кожнага п'янага. Пры народзе. На плошчы!..

— А некаторыя сцвярджаюць: гарэлка дае чалавеку радасць.

— Дала яна радасці майму брату. Трэці год у турме. А колькі слёз маці? Можа, вады ў Дзвіне няма гэтулькі...

За сценамі дашчаніка грукацеў цягнік, і шыбы ледзь улоўна трымцелі. Было прыцемна ў зальчыку, хоць пад столлю свяціла люстра; ад яе святла твар Люды выглядаў стомленым, быццам у хворай.

Я ўпершыню пачула, што ў Люды ёсць брат, які нешта зрабіў благое і трапіў у турму, мяне напалохала і расчуліла яе даверлівасць, захацелася быць гэтак жа шчырай і сардэчнай.

— У мяне бацька дужа да гэтага зелля хінецца,— сказала я.— Праз тое і мама да часу памерла... Праўда, цяпер ён мне слова даў кінуць... Толькі надзеі мала.

— Без маткі табе будзе з малым цяжка.

— Ведаю. Апроч усяго, вучобы шкада. Прыйдзецца кідаць, бо як ты з малым управішся...

— Вучобу? Ні ў якім разе не кідай!

— А малое?

— Яслі. Ад завода даведку возьмеш. Заводскія ж яслі ёсць.

— Усё роўна цяжка. Пра яслі мне і Віктар казаў... А я ўсё нечага чакаю...

— Ты яго добра ведаеш? Віктара...

— У школе разам вучыліся.

— Гэта я чула...

Мы паабедалі, але не ішлі і ўсё сядзелі. Было цёпла, утульна, добра. Грукацелі за акном колы. Сапраўды, быццам едзеш...

— Ведаеш, Стэфа, што я хачу сказаць? — раптам пачала Люда.— Толькі абяцай, што смяяцца не будзеш... Не будзеш?.. Ну, добра. Веру табе... Мне Віктар падабаецца. І нават больш... Здаецца, кахаю яго...

— Віктара? Нашага Віктара? Ён жа кахае Кацю. Кацю Дробат, з размотачнага!

— Ведаю, і гэта ведаю, Стэфачка. Толькі ты маўчы пра гэта. Чуеш? Нікому!

— А як жа ён?

— Пры чым тут ён? Каханне маё.

Перада мною адкрывалася таямніца чужога жыцця. Як мне паставіцца да гэтага, што сказаць?.. Людзе я паверыла адразу. Тое, што яна сказала мне, сэрца ўспрымала як самую чыстую праўду, праўду, якой трэба даражыць. Некалі вось так я адкрыла сваё гора Ніне, адкрыла, хоць і абяцала сабе, што ні з кім не буду гаварыць пра Міхася.

— А як жа ты будзеш цяпер?..

— Не ведаю. Можа, што прыдумаю... Відаць, паеду куды-небудзь... Скажы, а ты пра свайго думаеш? Даруй толькі... Калі не хочаш — не кажы.

— Думаю.

— А што будзеш рабіць, калі сустрэнеш ці прыйдзе ён?

— Ён не прыйдзе!..

Мне неяк адразу зрабілася цесна ў гэтым цьмяным зальчыку сталоўкі. Мы выйшлі на вуліцу. Неба было шэрае, няветлівае. Дзьмуў вецер. Да станцыі набліжаўся цягнік. Зямля глуха гудзела.

Мы развіталіся з Людай на плошчы. Шчырае прызнанне Люды адчыніла перада мною як бы новы свет, куды, ведаючы яго існаванне, я не хацела заглядваць, абмежаваўшы тое, што было звязана з каханнем, толькі сваімі пакутамі. Я думала, што маё ўласнае гора самае большае, што яно не ведае межаў, і я не спрабавала нават параўноўваць яго з пачуццямі другіх людзей, але тут раптам мне здалося, што я ведаю нешта такое, чаго не ведала раней, чаго не хапала мне, каб папярэдзіць гора, якое разбурыла нашую сям'ю.

Зноў у душы быў Міхась.

Я думала аб ім усю змену. Думала пасля, ідучы люднай вечаровай вуліцай. Успаміны захапілі мяне, устрывожылі сэрца. Мне здавалася, што менавіта на гэтай вуліцы, якая вядзе ад завода да цэнтральнай плошчы, адбудзецца сустрэча з Міхасём, сустрэча, якой я прагла і якой баялася. Я трывожна ўглядалася ў прахожых, памылялася, бачыла незнаёмыя твары і адчувала не расчараванне, а лёгкае непаразуменне ад таго, што перада мною з'явіўся не той, каго хацела бачыць, і ўсё ішла шпарчэй, і ўсё

паскарала хаду. Я стамілася ўжо, але з ранейшай прагнасцю аглядала стрэчных, і ранейшае жаданне пабачыць Міхася не знікала.

З машыны, што спынілася ўскрай тратуара, выйшла жанчына ў цёмным паліто, адамкнула сінюю паштовую скрынку на сцяне дома і падставіла пад яе вузкі брызентавы мех. Мне захацелася напісаць Міхасю. Я павінна калі не стрэцца, дык пакласці свае думкі на паперу; яны прыгняталі мяне, не давалі спакойна дыхаць. Не, наша спрэчка не скончана! Ніхто яшчэ не перамог.

А куды пісаць? Гэтае пытанне ўзнікла ў мяне толькі на пошце, калі я села да стала. Міхась знік, і дакладна ніхто не ведае, дзе ён зараз. З кутка канверта глядзеў на мяне белы гмах. Побач з ім стаялі стромкія, як свечы, дрэвы, а за імі — ненатуральна сіняе мора. Я паспрабавала ўявіць сабе гэты незнаёмы горад, на імгненне закрыла вочы, і ў памяці адразу выплыла вельмі знаёмае-знаёмае: звілістая, сціснутая вербалозамі, рачулка, чорная вада ў глыбокім віры, белыя гарлачыкі ля берагоў і старая бацькава хата. Чаму я спачатку не падумала пра бацьку? Чаму сёння, у такі значны для мяне дзень, я не імкнулася як найхутчэй паведаміць пра свой поспех на заводзе бацьку, якога мая вестка вельмі ўзрадуе, а думаю толькі пра другога чалавека, таго, хто даў мне гэтулькі трывогі і гора?..

Я дзёўбнула чарпіліцу ручкай і толькі тады заўважыла, што невядома ад каго затуліла далонню чысты аркуш паперы, на якім няма яшчэ ніводнай літары. Побач сядзела дзяўчына ў зялёным паліто. Каўнер хаваў палавіну твару, і я бачыла толькі невідушчыя, скіраваныя ў прастору попельныя вочы. Перад дзяўчынаю ляжала недапісаная паштоўка.

## 14

Змена здавалася бясконцай. Я ўсё часцей і часцей пазірала на гадзіннік. Залачоныя стрэлкі рухаліся марудна, нібыта наўмысна. Узмакрэла ад поту шыя, правае вока, быццам што трапіла туды, непрыемна свярбела. Я сунула руку ў кішэньчык халата, выцягнула люстэрка і зазірнула ў яго.

Цяжарнасць рабіла сваё. Пакруглеў нос, карычневыя плямы селі ля верхняй губы, грудзям цесна было пад старой кофтачкай. Усе ў цэху ведалі пра маю цяжарнасць,

а я ўсё роўна намагалася ўтаіць яе. У мяне быў спецыяльны бандаж, які цяпер, ідучы на работу, я шнуравала моцна, да змогі.

Сёння, мабыць, я перастаралася: тонкія бандажныя планкі сціснулі рэбры, дыхаць стала цяжка. Я абаперлася рукою на столік, дзе ляжалі бабіны з пражай, і са здзіўленнем глядзела на печы. Агністае святло аддалілася, тонкае павуцінне шкляных ніцей, пагойдваючыся, некуды паплыло.

Да мяне падбегла Ніна.

— Ты што, Стэфа?

— Ногі. Стаяць не магу...

— Ты ж белая зусім. Можа, вады?

— Сесці... Пасядзець хочацца!!!

— Трымайся за мяне,— Ніна паклала маю руку сабе на плячо.— У канторку пойдзем. Там цішэй...

У пакойчыку начальніка цэха сядзела Фаіна Усцінаўна. Яна ўбачыла нас і ўскочыла з-за стала.

— Аварыя?

— Не, Стэфа Шукан захварэла.

— Вады. Вады дайце!

Я адмоўна пакруціла галавой, паказала рукой на левы бок.

— Тут мне ціснe чагосьці. А вады не трэба...

Фаіна Усцінаўна загадала Ніне зачыніць дзверы, расшпіліла на мне халат. Ружаваты пояс бандажа прывёў яе ў шаленства.

— З глузду з'ехала! — закрычала яна на мяне і шмарганула матузкі.— У прыгажуні ўсё пнешся? Каб талія танчэйшая была. А таго не разумееш, што дзіця зглуміць нядоўга...

Адразу стала лёгка дыхаць, слабасць знікла. Я засаромелася.

— Прайшло ўсё. Гэта бывае са мною. Магу ісці.

— Дамоў пойдзеш! Зараз жа! — загадала Фаіна Усцінаўна.— І каб заўтра мне даведка ад гінеколага ляжала вось тут. Свяціцкая няхай печы прымае. Ды я сама скажу. Пакліч, Ніна, калі ласка, Тураву. Няхай дамоў адвядзе.

— Не трэба, я змену скончу.

— Я не паўтараю загад другі раз. Ты што, забылася?

— Не спрачайся,— параіла Ніна.— Пасядзі, я зараз Тураву паклічу...

Хутка прыйшла Турава. Ніна праводзіла нас да дзвярэй. Паабяцала мне:

— Заўтра раніцой забягу.

— Заўтра і будзе заўтрашняе,— перапыніла Турава Ніну.— А цяпер не замінай. Нам ісці трэба!..

Па дарозе Турава не маўчала аніводнай хвілінкі: лаяла Ніну, лаяла начальніка цэха, які быццам знарок паставіў яе да самых апошніх печаў, а маладых падносчыцдзяўчат — побач з размотачным цэхам, чамусьці хваліла Фаіну Усцінаўну і перад самай хатай ужо сказала нечакана:

— На Марылю ты дарма пакрыўдзілася. Навошта? Калі да чалавека з усмешкаю, з ласкаю — ён табе сэрца адкрые. А не тое што...

— Якую Марылю?

— Яна быццам не ведае. Пра аператара, Марыю Мурашку гавару!

Папрок Туравай не вельмі здзівіў мяне. Я прыгадала вытворчую нараду, што адбылася адразу ж пасля свята, і быццам уяве ўбачыла выцягнуты падбародак Мурашкі, вузкія губы, сціснутыя грымасай асуджэння і ад гэтага як бы запаўшы ў рот.

— А мы з ёй і не спрачаліся.

— А пяцісотку калі ўводзілі? Што тады было?..

А тады было вось што. На вытворчай нарадзе начальнік змены сказала, што мы пераходзім на новы асартымент, зачытала новыя нормы выпрацоўкі і запытала, ці здужаем мы. Усе маўчалі, і Фаіна Усцінаўна звярнулася да мяне — я сядзела бліжэй да яе:

— Можа, ты скажаш, Стэфа, многа гэта ці мала?

Я тады падумала: а чым цяжкі гэты новы асартымент? Ды нічым. Кожны з нас дае па сто дваццаць працэнтаў. Гэта па вазе тыя ж кілаграмы, што трэба даць па новаму асартыменту. Чаго тут не здужаць?..

— Лоўкая якая! — адразу накінулася на мяне Марыля Мурашка.— Лёгка табе казаць. Праз тыдзень у дэкрэт пойдзеш, а нам тут гніся над новай пражай. Расцэнка ж тая. Чаму яе не павысілі?

Я сказала, што на пяцідзесятку расцэнка павінна быць большая. Але Мурашка не дала гаварыць. Хто нормы павысіць? Адкуль гэта мне вядома?..

— Цішэй, таварышы, цішэй,— папрасіла Фаіна Усцінаўна.— Растлумачу яшчэ раз адносна расцэнак. Слухайце толькі ўважней...

Пасля нарады Мурашка падышла да мяне і папрасіла:

— Ты не злуйся. Мы не па першым заводзе працуем

і ведаем, як гэта з новымі расцэнкамі водзіцца. Пакуль асвоім — нам капейкі толькі пойдуць.

Я змоўчала тады. Мурашка, падціснуўшы губы, адышлася. Цяпер Турава быццам хадайнічала за яе. Мне гэта не падабалася.

— Ды нічога крыўднага я не казала. Я не спрачалася. Толькі сказала, што думала.

— А яна? — запытала Турава пакрыўджана.— Таксама ад сэрца казала. Ты маладая, не ведаеш. А калі дзеткі бобам пасыплюцца, ды падбярэцца іх чацвёра, ды ад мужыка не просьбы, а грозьбы — куды кінешся? Будзеш за кожную капейку біцца.

— У Мурашкі чацвёра? Яна ж зусім маладая!

— Маладая ды ўдалая!..

Мы падышлі ўжо да хаты, дзе я кватаравала. Вокны былі ярка асветлены. Звычайна па вечарах, калі я варочалася, гарэў агонь толькі ў адным акне, бліжэйшым да саду — гаспадары вячэралі і сядзелі большасцю на кухні. Цяпер ружовае святло лілося цераз пяцёра акон, і на падворку было светла; доўгія промні кладіся на снег, блыталіся ў срабрыстым галлі груш, і дрэвы здаваліся тонкімі, быццам прасвечваліся.

— Спраўна жывуць,— зазначыла Турава.

— Госці, відаць, прыехалі. Яны — удваіх.

— Колькі плаціш?

— Дваццаць пяць.

— Ого-го! Ну і ўрвіцелі! Хапуны! — Турава злосна і брыдка вылаялася.— Удваіх на гэткую хату? І так лупяць з чалавека!.. Вось пачакай, сваю налета пастаўлю — да мяне пяройдзеш. Капейкі не вазьму.

— Дзякую. Пачакаю...

— Праўду ёй кажы, а яна — смяецца. Дойдзеш цяпер?..

— Дзякую. Прайшлася крыху — адразу лягчэй.

— То і кажы здароўю дзякуй. А мне чаго? Бывай...

Я ўвайшла на падворак. Акно майго пакоя цёмнай плямай вызначалася на сцяне. Снег мілагучна парыпваў пад нагамі, і ад гэтага рыпення, здавалася, лёгка трымцяць рэдкія снегавыя блістаўкі; яны ўзнікалі ў промнях святла раптоўна, а потым ціха і асцярожна клаліся на дол. Я ўзмахнула рукою, спрабуючы злавіць блістаўку; яна крутанулася, адскочыла і доўга вісела ў паветры, нібыта зачапіўшыся за яркі прамень.

Ісці ў хату не хацелася. Я стаяла на падворку і дума-

ла пра Марылю Мурашку. Мне рабілася сорамна за тую нараду; не падумала як след і пакрыўдзіла чалавека. Але ж я нічога тады не ведала пра яе. А Турава? Што я ведаю пра яе? Жартоўную мянушку. Вось і ўсё. А гэтая жанчына, якую мы дабрадушна высмейвалі за яе сквапнасць да грошай, раптам кажа мне, што возьме мяне жыць да сябе. Што гэта, жарт? Наўрад... І гэтая яе натуральная, непадробленая нянавісць да людзей, якіх яна, па сутнасці, не ведае...

Рыпнулі дзверы, шырокі сноп святла нібыта выштурхнуў чалавека на ганак, ад грузных крокаў вохнулі намёрзлыя прыступкі.

Завіруха гу-удзе. За-авіру-ууха!
А ў хаце маёй за-ааваруха!..

Вясёлы зухаваты голас узляцеў і апаў: чалавек, сышоўшы з ганка на падворак, убачыў мяне.

— Хм! Тут хто?

— Я...

— Апошняя літара алфавіту. А па голасе чую — жанчына.

— І дастаткова.

— А цяпер ведаю: колкая. Як шаршатка. А шаршаткай што робяць? Мяхі шыюць. Чула?

— Не.

— Пачуеш яшчэ. А ўсё ж адкуль ты? Стой! — нечакана загадаў ён.

— Стаю.

— Не ў гэтым сэнсе. Ведаю, ты — Стэфа.

— Дык што з таго?

— Кватаруеш у гэтай хаце. Працуеш на шкловалакне. Бачыш, усю біяграфію ведаю.

— Знаўца. Нічога не скажаш.

— Я не знаўца. Я Гаранька.

— І толькі,— я чакала, адразу здагадаўшыся, што гэта — сын гаспадыні. Пра яго казалі ў хаце часта.

— І толькі. А калі мала — чашы ў хату. Дарагія майму сэрцу сваякі раскажуць усё астатняе.

Гаранька пахіснуўся, драўляны парканчык застагнаў пад яго грузным целам.

— Асцярожна, паваліцеся,— я падтрымала яго.

— С-сам... Стаю на зямлі цвёрда. Цвёр-рда!

— Якое ж цвёрда, калі парканчык стогне.

— Няхай пастогне. Трахім новы паставіць...

— Усё ж такі лепш не ламаць.

— А я кажу — цвёрда. С-стаю!

П'яная фанабэрыя хлопца рассмяшыла мяне.

— Стой сабе, стой!

У хаце, ледзьве адчыніўшы дзверы з сенцаў, я нос у нос сутыкнулася з гаспадыняй.

— То ж гэта ты, Стэфачка. А Гараньку ці ты бачыла дзе?

— На двары ён. Курыць...

— Ай-яй-яй! Доўга захварэць? Трахім, чуеш. Трахім! Кажушок занясі хлопчыку.

— Яшчэ чаго ўздумаеш,— азваўся на кухні Трахім.

Распранаючыся ў сваім пакоі, я чула, як гаспадыня выбегла з хаты, але амаль адразу вярнулася і паскардзілася мужу:

— Не ўзяў. Ой, баюся я за хлопчыка. Баюся...

— Цёпла на вуліцы.

— Добрае цёпла. Табе, у хаце седзячы. А хлопчык у адным пінжаку. Занясі кажушок, Трахімка. Можа, ён цябе паслухае. Прашу ж...

— Закачанее — у хату прыйдзе. Нічога з ім не здарыцца.

На кухні зноў пачыналася звычайная размова; голас гаспадыні загадваў, мякчэў, потым зноў з малітоўнасці збіваўся на пагрозы.

— Ы-ыых! Бервяно ты, бервяно,— у плаксівым голасе гаспадыні нечакана прагучала нешта новае, не чутае мною раней.— Што табе скажаш? Мала ты маіх нерваў з'еў? З-за тваёй ласкі хлопчык на чыгунку ўпёрся. І трубіць цяпер на тых рэйках. Калее...

— Працуе ён,— весела ўдакладніў Трахім.

Гаспадыню быццам укалоў хто.

— Замоўч! — грозна патрабавала яна.— Хто яго на чыгунку падбіў? Ты падбіў, мазутнік няшчасны. Сам у мазуце поркаешся і хлопчыка на тое сагнуў. А мне не гэта трэба. Каб мяне слухалі, у інстытуце Гаранька сядзеў бы цяпер.

— У інстытуце не сядзяць.

— Няўжо ж! Стойма стаяць!

— Вучацца.

— О-оох, гэткі ты ўжо вучоны. Во-ох, дзетка ты ж мая, Гараня!..

У хату, грукаючы ботамі, ваваліўся Гаранька, хваліў мароз, вечар і нечага рагатаў. Я ціха прычыніла дзверы,

галасы на кухні пацішэлі, нібыта аддаліліся. У пакоі было вельмі душна. Я адчыніла фортку.

За брамай, на высокім слупе, вісеў электрычны ліхтар, абкружаны бэзавай вясёлкай. Яго белае святло змешвалася з промнямі, што падалі ў сад з акна, правальвалася ў бліпчасты снег, і ён ружавеў, нібыта падпалены ад зямлі, з глыбі снегавой навеі; гайдалася драціна — відаць, Гаранька зачапіў яе,— і па ёй, як жывы, бег ад варот да хаты зыркі тонкі бляск; зіхатліва паблісквабочы, выплывалі з зорнай высі сняжынкі, лёгкія, нячутныя, і асядалі на кансервавыя бляшанкі, што былі ўздзеты на штакеціны.

У пакой, не пастукаўшы, увайшоў Гаранька.

— Камандзіраваны запрасіць цябе на вячэру. Загадана прасіць. І каб асабліва не бавіцца...

Яго вочы не проста аглядалі, а неяк прыдзірліва абмацвалі мяне з галавы да ног. Гэта раззлавала.

— А пастукаць у дзверы вам не сказалі?

— І нават тут! — ён безнадзейна махнуў рукою.— І нават тут мараль. І адкуль усе вы павыдзіраліся такія чыстыя, прыгожыя і разумныя! Хоць сёння ў камунізм. А куды тых, што памыляюцца ды брудненькія? Будзем вешаць і тапіць!

— Каму патрэбна ваша гэта... фатыгоўства?

На кухні клікалі Гараньку.

— Чуеш? — ён крутнуў плячом у бок дзвярэй.— І там маралісты. Светлая надзея чалавецтва!..

Гаранька раззлаваў мяне. Замест таго каб адпачыць, спакойна паляжаць і пачытаць нешта ці проста падумаць, я павінна выслухваць нейкую лухту. Навошта мне гэта?

— Злуешся? — даверліва запытаўся Гаранька.— Бачу, злуешся. І старыя на мяне нешта ўз'еліся. За старое, відаць, засердавалі. І выпіў сёння,— Гаранька выпусціў на адстаўленую далонь тоўсты струмень дыму.— А табе няма чаго. Бяды вялікай — не пастукаў. Наступным разам грукаць буду. Толькі слухай!..

— Цябе клічуць.

— Абоіх клічуць. Пайшлі!

Вячэраць мне не хацелася. Але размова з Гаранькам зацікавіла мяне, і я ведала, што ад гэтай цікаўнасці мне не будзе сёння спакою.

На кухні, за сталом, я добра разгледзела Гараньку. Ён быў адных, відаць, год са мною. Матчынага ў ім амаль што нічога не было, копія бацькі: такая ж рудая чупрына,

той жа нос і як бы неахайна акрэсленая лінія тоўстых губ. Нават седзячы, ён на галаву быў вышэй за сваю маці.

— Чым вось госця цяпер частаваць? — Гаранька па чарзе абвёў усіх маленькімі вачыма, глыбока схаванымі ў вачніцах, і спыніў дакорлівы позірк на чупрыне бацькі.— У мяне інтуіцыя на гэта. Адчуваў, таму і настойваў... А ты адно гудзеў: не трэба, не трэба!..

— Як дэпоўцы яго збяруцца, дык удзержу няма,— уставіла гаспадыня.— І словы іншыя. І бутэлькі лятуць. А табе, бачыш...

Гаранька іранічна абараняў бацьку.

— Не, яны не шкадуюць,— сказаў ён, і ў яго голасе прагучала насмешлівасць.— Праўда, баця? У гэтай хаце Гараньку ніколі не шкадавалі. Нічога. Апроч паўлітэркі «Маскоўскае»...

— А сёння забараніў. Бо ты прыцёгся, вочы пазаліваўшы. А ты як чалавек прыходзь і сядай — сам палячу... Ты бачыла, Стэфа, гэткага арла? — кпліва дадаў Трахім.— Ледзьве ногі стаўляе, а яшчэ скардзіцца, што стол без вінаркі. Пі чай!

— А што я раблю? Баць, родненькі! Здароўе ўсіх!..

Гаранька прыўзняў шклянку і пачаў піць чай гучнымі глыткамі, шыя яго выцягнулася, і пад чырвонай скурай выгнуўся востры кадык. На ўчэпістых моцных пальцах кучаравіліся рэдкія рудыя валасы.

— Цяпер і закусіць можна. Толькі чаго? Вяндлінкі? А можа, рыбку? Бадай што так...

Паставіўшы пустую шклянку на стол, Гаранька непрыкмет падміргнуў мне, і ад таго неяк сутаргава варухнуўся кручкаваты, з маленькай бародаўкай нос.

— Не блазні і ад чалавека адчапіся,— папрасіў Трахім і ўзяў з маіх рук талерку.— Я табе, Стэфа, яшчэ капусткі пакладу. Ты не звяртай увагі: рабочаму чалавеку спачатку трэба пад'есці. І ты сваё глядзі...

— Правільна,— сказаў Гаранька.— Свядомаму рабочаму таксама патрэбен харч...

За нязграбнымі жартамі Гаранькі хавалася нешта большае, чымся простае блазенства, а ў дабрадушлівай стрыманасці Трахіма не было спачування; ранейшая насцярожанасць, што агарнула мяне на падворку, не праходзіла. Пранозліва, але не строга Трахім паглядзеў на Гараньку, потым зірнуў на мяне, і я адчула, што паміж мною і ім існуе нейкая маленькая змова супраць таго, што робіцца ў хаце, змова, аб якой, апроч нас, ніхто не ведае.

Я паглядзела на рукі гэтага маўклівага і негаваркога чалавека — маршчыністыя, з чорнымі, як у шахцёра, крапелькамі вугалю пад скурай — і падумала, што гэтыя рукі робяць шмат маёй працы. Заўжды, калі я хацела пайсці да студні, вёдры аказваліся поўныя. Печ заўсёды, калі я прыходзіла з завода, была добра напалена, а ранкам сцежка да вуліцы расчышчана. Ранкам і ўвечары на пліце стаяў гарачы чайнік. І цяпер гэтая вячэра...

Я была ўжо гатова прызнаць несправядлівасць свае халаднаватасці да гаспадароў, і тады ў памяці ўсплылі злосныя словы Туравай, што былі сказаны зусім нядаўна. Кароткая гэта даверлівасць напалохала мяне. Няхай яны добрыя людзі, але чаму мне аніводнага разу не ўдалося шчыра пагаварыць з гаспадарамі аб сваім жыцці?.. Паміж мною і імі ляжала мяжа. Гэты светлы пакой, поўны цеплыні і дастатку, гэтыя вясёлыя і нічым не засмучаныя людзі, якія не ведаюць горкай тугі адзіноты, былі мне чужыя. Чужым мне быў кожны, хто радаваўся: я адчувала тады скруху і няпэўнасць. Хутчэй бы ў свой пакой! Я ўзнялася і падзякавала гаспадарам.

— Не-е, Стэфанія! — усхапіўся з крэсла Гаранька.— А танцаваць? Трэба і гэта!..

— Адчапіся ад чалавека, Гараня. Стэфа з работы прыйшла.

— Ну, павесяляцца няхай,— запярэчыла гаспадыня мужу.— Навошта ж радыёла сохне. Купілі і стаіць! Рассохнецца стоячы.

— Склеім,— хмурна паабяцаў Трахім і ўзняўся; бразнуў слясак у сенцах — Трахім выйшаў з хаты.

— Як хмара, наш баця сёння! — Гаранька шмаргануў кветку, што стаяла ў вазончыку на акне.— І грыміць. І грыміць...

— А ты маўчы, калі ён гаворыць! Не трыбушы вазончык, не трыбушы вазончык! Каму гэта гаворыцца?..

— Зяляніва ёй шкада!

Насвістваючы, Гаранька пайшоў з кухні.

— А ці ж можна ў хаце свістаць? — кінула яму ўслед маці.— Не свішчы, каму кажу?

— Грошай, баішся, у хаце не будзе? Няхай не вядуцца.

— Гараня, прашу цябе, не свішчы!

— Кінуў. Чуеш?

Як непрыемна быць сведкаю чужое сямейнае сваркі! Ты не маеш права вінаваціць. Ты можаш толькі слухаць:

і тое, з чым ты не згодзен, і тое, што табе непрыемна. Толькі слухаць.

Нават апынуўшыся ў сваім пакоі, я адчувала непамыснасць ад таго, што я пачула на кухні. Адкрытая кніга ляжала на коўдры, але я не магла ні чытаць, ні разважаць. Я проста ляжала, заплюшчыўшы вочы, і намагалася заснуць.

Смелы бразгат у філёнку дзвярэй быў неспадзёўкай і ўстрывожыў мяне. Я не паспела нічога сказаць, Гаранька адчыніў дзверы і ўвайшоў у пакой. Ён намагаўся ісці падкрэслена роўна, як ходзяць усе п'яныя людзі, а ад таго яго хада была насцярожаная, муштраваная; у яго вачах, расквечаных прыхаванай усмешкай, я не заўважыла вінаватасці.

— Гэтак звечара і адразу бай-бай?

— Я чытаю.

— О-о! Блок! — ён бесцырымонна ўзяў з коўдры кнігу і сеў на ложак.— «О доблестях, о подвигах, о славе я забывал на горестной земле...» Глупства. Забываюць толькі ў вершах. А напраўду? «Летели дни, крутясь проклятым роем... Вино и страсть терзали жизнь мою...» Вось што ёсць у сапраўднасці. А Блока я таксама люблю... І не толькі Блока...

Гаранька чытаў, і я слухала і бачыла, што за гэтым чытаннем ён пнецца схаваць іншыя жаданні, і гэта было не самае дзіўнае. Дзіўна было тое, што я, добра разумеючы, навошта ён прыйшоў, не магла пасунуцца да сцяны і не магла ні забараніць чытаць, ні загадаць перасесці з ложка на крэсла, і баялася нават зварухнуцца; дакладней, гэта была не баязлівасць, а нешта іншае, што ўзнікла раптоўна і што жыло побач з жаданнем зараз жа прагнаць Гараньку з пакоя.

— Ах, як гэта паэтычна! — выгукнуў ён, дачытаўшы верш.— Маладая працаўніца чытае нанач Блока. Культура!

— Сядай на крэсла, калі ласка,— тое, што скавала маю рашучасць, знікла; насмешлівы тон Гаранькі надаў мне смеласці.— І не чапай Блока.

Ён паслухмяна перасеў з ложка на крэсла, кінуў кнігу на стол. Уздыхнуў:

— Як згаварыліся! Мой сябрук з мастапоезда тое ж кажа: не чапай! А сам на памяць «Салаўіны сад» шпарыць. Рамантык!

— А ты, відаць, чалавек практычны.

— Такая ўжо работка, ліха яе бяры, кладзём рэйкі толькі на зямлю. Але ж і рамантыкі хапае: сёння — тут, заўтра — там. Ну, паварожым? Як даўней некалі, на радках. Давай, таварыш Блок, гавары нам...

Гаранька разгарнуў кніжку, адлічыў дзесяць радкоў.

— «Всё на земле умрет — и мать, и младость. Жена изменит, и покинет друг...» Во што чакае нас, Стэфанька, наперадзе. І цябе. І мяне. А там — пыл. Галоўнае — жыць. Кахаць! Каханне раптоўнае, з першага погляду. Гэта ж цуд! Бунінскі цуд! Ты чытала ў яго «Сонечны ўдар»?.. Фі-ііць, ты-ты-ты... Удар, здаецца мне, быў!..

Гаранька налёг грудзямі на бакавіну ложка, пачаў углядацца ў мяне падазрона і насцярожана. Я глыбей зашылася пад коўдру. Коўдра неяк дужа гарбацілася на маім жываце.

— Прашу цябе, Гаранька, дай мне спакойна адпачыць.

— Выганяеце, мадонна?

— Прашу, Гаранька.

— Шаршатка ты,— ён узняўся, стаў збоч ложка; у яго вачах была насмешлівасць, якую ён не хацеў нават схаваць, а губы скрывіла грымаса разгубленасці.— Як жа гэта я адразу не прыкмеціў. Вяду ёй пра рамантыку!..

— Ідзі адсюль. Зараз жа!

— Ён быў ці-ту-ляр-ны саветнік... Эх ты, мадонна!

— Ты чуў?

— Яна генер-ррала дачка!

Гаранька, бразнуўшы, заспяваў, нагой штурхнуў дзверы. Нешта з грукатам павалілася на кухні. Гаранька спяваў на поўны голас.

— У цябе розум ёсць? — сказаў Трахім сыну.— Як мядзведзь па бочках. Людзі спяць.

— Ніхто не спіць.

— Стэфа адпачывае.

— Няхай адпачывае. Ёй цяпер доўга прыйдзецца,— у голасе Гаранькі прагучала злосная гуллівасць.— Са спадарожнічкам...

Гаранька не зусім шчыльна прычыніў дзверы, і мне было чутно кожнае слова. Ён здагадаўся — я гэта бачыла. Але няўжо ён скажа пра тое, аб чым я нікому яшчэ ў хаце не казала? Абапёршыся на локаць, слухала. Няўжо перадасць?

— Ой жа, і балбатун ты,— зазначыў Трахім.

— А вы што, сляпыя? Ці вочы вам хто пазаліваў? Зараджоная дзеўка. Як мае быць зараджоная. Ракета!

— Ідзі ты лепей спаць, ракетчык,— уедліва параіў Трахім.

— Ды што мне? А вось як выпаліць вам гэтая ракета спадарожніка, ды ён на ўсю хату: куга ды куга! Тады паспіцё!

— Пра што ты, Гараня? — запыталася гаспадыня.

— Пра тое, што ёсць у праекце. Дзіцёнка Стэфа чакае!

— Ай-яй-яй! — ціха залямантавала гаспадыня.— І знаку не было. Хаця... Адкуль жа?

Гаранька зарагатаў.

— З ветру. Цяпер чакайце ўнука. А мо вы ўнучку хочаце?

Некаторы час на кухні было ціха. Потым гаспадыня з трывогай адзначыла:

— Схітравала. Маладая, а вазьмі ж ты яе! І каб слоўца ўвосень! А-яя-яй!

— Чаго гаравацъ? Пялёнкі шыйце!

— Ты! Смаркач! — грымнуў Трахім на сына.— Марш спаць! І ты таксама мне глядзі,— з нечаканай злосцю дадаў Трахім.— Другі раз кажу: толькі зачапіце Стэфу. Я вам дам рады! Абаім. Што благога яна вам зрабіла?

Гамана на кухні спачатку напалохала: было жаданне выбегчы туды і крыкнуць нешта крыўднае, патрабаваць, каб ніхто не ўмешваўся ў маё жыццё, але потым, учуўшы, як рашуча абараняе мяне Трахім, паспакайнела. Навошта? Гэта нічога не зменіць. Ды і што, уласна кажучы, трэба мяняць? Нічога благога я не рабіла. Адразу не сказала гаспадыні пра дзіця?.. А чаму я павінна казаць кожнаму ўсё пра сваё жыццё?.. Мне патрэбен быў пакой? Я знайшла яго. Гаспадыні патрэбны былі грошы? Яна атрымлівае іх. Ніякіх скаргаў тут не павінна быць... Непрыемна другое — сама размова...

У левым баку жывата я адчула пругкія штуршкі — моцныя, як ніколі, і настойлівыя. «Ты чаго растрывожыўся, родненькі мой? Можа, горача табе?.. Тады мы коўдру скінем... Супакойся. Зараз мама будзе чытаць...»

Я гаварыла з ІМ. Гамана ў суседнім пакоі нікольні не палохала цяпер мяне; я адчувала абыякавасць да таго, што адбывалася на кухні, быццам іспавала ўсё тое недзе дужа далёка, за межамі разумнага. Другі клопат, другая адказнасць была ў сэрцы. Я хутка буду маткаю. Так, маткаю! Раней я была адна і абараняла толькі сябе. Аднойчы,

пасля размовы з гаспадыняй — я перасоўвала тады ложак, і яна прыйшла — гэтае пачуццё завітала ў маё сэрца. Цяпер яно пасталела. Так, я не адна. І я не маю права абараняць толькі сябе. Цяпер я павінна абараняць і ЯГО!..

Ранкам я не сустрэлася і не гаварыла з Гаранькам, а толькі ўбачыла яго праз акно. Гаранька стаяў на падворку і гаварыў з бацькам, потым, нібыта ўспомніўшы што пільнае, пацiснуў яму руку і рупна пашыбаваў на вуліцу; ён ішоў, унурыўшы галаў, і я падумала, што Гаранька, мабыць, уцякае, не жадаючы сустрэцца са мною.

Прыбраўшы пакой, я выйшла на кухню. Цішыня панавала ў хаце. Грубка не палена. На сярэдзіне стала стаяў чайнік. Я пакратала яго рукамі — чайнік быў халодны.

## 15

У нядзелю я хадзіла на рынак, стамілася і ледзьве дабрыла дахаты. Распранупца не паспела: у пакой зайшла гаспадыня.

— А ў нас без цябе бяда,— адразу ж паведаміла яна і стала ля печы.— Яно не чакаеш, скуль бяда грымне. Ці сустрэла ты іх? Толькі ж пайшлі...

— Не. Нікога я не сустракала на падворку.

— Інспектары былі. Думаю, стрэла, таму і кажу...

Мне здалося, што я даўно чакаю гэтай размовы. І ўсё ж тон яе, сама гаворка пра нейкіх інспектараў была непрыемнай: за гэтым нешта хавалася іншае.

— Якія інспектары? — запытала я.

— З пажаркі,— ахвотна адказала гаспадыня.— Удвох былі. Як каршакі наляцелі. Не паліць! — адзін крычыць. Другі раве: аштрафую. А дома нікагуські — адна. Пацягнулі мяне на гарышча. Дык што ж ты думаеш? Пасівела, відаць. Агонь са шчылін — пых! Усё пых! Загадалі не паліць. Во села цяпер дый думаю, як? І табе таксама... Бруд... Спюжа. Мая ж ты долечка. Лепей я і не мела б гэтага доміка. Сядзела б у кватэрцы — чысценька табе, цёпленька. А тут — гора адно...

Як жа я адразу не здагадалася! Каго можна было сустрэць з пажаркі, калі інспектары тыя — міф, выдумка. Гэта пачатак зусім іншай гаворкі, дзеля якой і прыйшла да мяне гаспадыня. Ясна, мне трэба шукаць кватэры...

— Даруй ужо,— сказала гаспадыня.— Яно б можна было і пачакаць, але калі пыхне ўся хата? Куды выскачыш? І шкада, бо з табою мы жылі няблага. Мне даўно

зайздросцяць: у цябе, Мікітаўна, кажуць, заўжды кватаранты добрыя, культурныя. Што праўда, дык праўда. А можа, гэтак нам дамовіцца: пасля рамонту — ты зноў да нас...

У яе голасе — вінаватасць, вінаватасць штучная, несапраўдная. Было нешта агіднае ў гэтай нахабнай ліслівасці.

— Я падшукаю сабе кватэру. Нават, можа, сёння...

— І што б табе тут параіць? — гаспадыня калупнула пабелку печы, прыставіла палец да губ.— Можа, да Казючыхі калі?.. Хаця, яна ж толькі вайсковым здае і нежанатым. Летась у яе капітан жыў. Во ўжо ім па сэрцы быў!.. Паехаў і ўвесь посуд пакінуў... Ну... Што ж табе параіць?..

Яна рабіла выгляд, што думае сур'ёзна, грунтоўна, ківала галавою, але ў кожнай рысачцы яе твару прабівалася прытоеная радасць. Яе словы цяпер не абуралі, мне хацелася хоць чым-небудзь дапячы гэтай сквапнай і хцівай жанчыне.

— Не турбуйцеся дарэмна,— сказала я.— Кватэра ў мяне ёсць.

— Далёка дзе?

— Блізка. У сваіх. З завода.

— Вось ужо гэтага б не параіла,— гаспадыня ішла ўслед за мной да дзвярэй.— Не параіла б. Далей ад сваіх трэба трымацца. Калі хочаш жыць спакойна,— далей трымайся. Ага... Навошта каб кожны заглядаў у твой гарод?

Кіруючыся да дзвярэй, я яшчэ не ведала, куды пайду, што буду рабіць. Але застацца тут, слухаць гэтую неверагодную мешаніну ліслівасці, хлусні і падробленай ласкавасці я ўжо не магла. Слясак бразнуў за маёй спіною.

Замглёнае неба, што нізка асела над горадам, сеяла рэдкую снегавую пацяруху; стоўчаны нагамі снег ляжаў на тратуарах, і ногі западалі ў яго, як у сыпкі жвір. Ісці было цяжка. Я паціху брыла вуліцаю. Куды спяшацца?.. Наперадзе амаль поўны дзень. Потым будзе ноч. За ёй зноў пачнецца дзень... Я пайду на завод... Убачу Віктара... Віктара? Чаму менавіта яго?.. Чаму, я не ведала. Але гэтае імя ўжо было ў сэрцы, і я хацела бачыць Віктара. Раптэнне прыйшло знячэўку, і я паскорыла хаду. Віктар!.. Ён можа памагчы мне! Прыгадаліся бацькавы словы, прыгадалася, як настойліва хваліў яго бацька. Так, Віктар і ёсць той адзіны чалавек, які можа неяк памагчы мне, выкіраваць на правільны шлях. Ён першы, пра каго я паду-

мала на вуліцы. І ў гэтым ёсць нейкі знак. Але ці не занадта я назаляю яму?..

Гэтая думка не паспела выкрышталізавацца як след: я падышла да інтэрнацкага будынка. З пад'езда выбег Віктар Журко, з чамаданам у руцэ.

— Калі Магамет не ідзе да гары,— ён прыпыніўся, убачыўшы мяне.— Далёка куды?

— Гара ідзе да Магамета!

— А Магамет сабраўся пераязджаць. У новую кватэру. Сваю! Уласную!..

— Праўда? Ты ж казаў, што праз тыдзень.

— Учора далі ордэр. У цябе ёсць час? Хадзем, усё пабачыш. Чакай, ты ж нешта ішла ў інтэрнат.

— Не, проста ішла, і ўсё.

— Тады хадзем!..

Мы ішлі па тратуары, я маўчала, увесь час гаварыў Віктар. Ён жартаваў і быў заняты толькі сваім клопатам, сваёй кватэрай. Я не магла, проста не мела права казаць яму пра сваю бяду першай. Павінен жа ён запытаць мяне пра што-небудзь.

— Бачыш як? — весела казаў ён.— На новую кватэру едзе нежанаты хлопец. Новы факт у мастацтве. Звычайна пераезд даюць у кіно пышна. Радасныя ўсмешкі. Радасныя твары. Абавязкова машына і мэбля. А вось праўда нежанатага перасялення. Мокры ад поту. Няма аркестра. Няма машыны... Хаця, магчыма, тут памылка. Машыны стаяць. Гэта прыехалі сямейныя...

Ля новага, з белай цэглы, чатырохпавярховага гмаха стаялі дзве машыны з мэбляй, розным хатнім нажыткам. Мы абышлі іх, і Віктар павёў мяне на другі паверх. Адчыніў дзверы і абвясціў урачыста:

— Адзін пакой. Адна кухня. Адзін гаспадар.

— Няма толькі гаспадыні. Я думаю, што ты паклічаш мяне, калі яна знойдзецца?

— Стэфачка! Табе не прыйдзецца доўга чакаць!..

Ён быў узбуджаны, усхваляваны. Ён, здаецца, нічога не заўважаў, апроч свае радасці. Не, я сапраўды не магла лезці да яго са сваімі клопатамі.

— Так,— сказала я.— У цябе ёсць цяпер свой дом. Ёсць дах над галавой. Як ты не хочаш, а інтэрнат ёсць інтэрнат.

Віктар пацёр далоняй шчокі, потым пакратаў зялёны радыятар, схаваны ў нішы пад акном.

— Так,— сказаў ён.— Дах над галавой. І няхай гэта

гучыць як голы практыцызм, але ў нейкім сэнсе — гэта грунт, аснова жыцця. Прыгадай гісторыю. Што рабіў першабытны чалавек, калі пайшоў дождж? Ён пабег хавацца пад дрэва. Чалавек ляскатаў зубамі, і, можа, ад холаду, а можа, ад радасці, што паспеў схавацца, ён выгукнуў: д-д... дах. І гэта, магчыма, з'явілася назвай таго, што было ў яго над галавою. Потым чалавек зрабіў будан, навучыўся будаваць драўляныя, цагляныя і каменныя гмахі і ўсё роўна клаў наверсе дах. І гэта была ўжо не толькі практычная неабходнасць, але і сімвал: я чалавек. Я стварыў нешта і кідаю выклік прыродзе. Паміж мною, чалавекам, і небам ёсць толькі дах!

Цяпер я добра ведала, што не толькі не маю права нешта казаць Віктару, але і не скажу, бо сказаць, гэта значыць зрабіць ускосны папрок яму: маўляў, ты маеш кватэру, ты радуешся, а мяне выкінулі на вуліцу, выкінулі як сабаку.

— Дах ёсць,— сказала я, намагаючыся быць вясёлай.— Але ж пад ім зусім пуста.

— Не адразу Масква будавалася! Дай час! Зараз я бягу па мэблю. Думаю паглядзець, што ёсць у продажы. Можа ты хочаш пайсці са мною?

— Даруй, Віктар, не магу. Да Ніны спяшаюся...

Я не збіралася ісці да Ніны. Я сказала першае, што мне прыйшло ў галаву. Сказала, бо нешта трэба было сказаць.

Мы развіталіся з Віктарам на плошчы. Я перасекла яе і ўвайшла ў пад'езд дома, дзе жыла Ніна Барысава.

— Во гэта госць! — узрадавалася Ніна.— А Іван мой сёння працуе. Дык што ж ты стаіш ля парога? Распранайся хутчэй! Я збіраюся абедаць, і ты пабачыш, чым я цябе накармлю! Пасля абеду мы зробім заяву, што ў выніку нашых гаворак адносіны паміж намі палепшыліся. Павер мне, пасля мачанкі, якою я цябе пачастую, ты будзеш радаснай сто гадоў!..

Мачанка сапраўды была смачная, з добра падсмажаным мясам і мяккімі белымі блінцамі. Мы абедалі на кухні. Кухня была маленькая, амаль такая ж, як у новай кватэры Журко, але з густам прыбраная і ад таго вельмі ўтульная.

— Ты ведаеш, што такое дах? — запытала я ў Ніны.

— Дах? У красвордзе абавязкова напішуць: верхняя частка хаты.

— Гэта не для красворда. Грунт. Аснова — вось што значыць простае слова «дах». І мне яго трэба знайсці.

— Ты пасварылася са сваімі?

— Печка вінавата. Гаспадыня хоча рамантаваць.

— Зімой?

— Як бачыш. Ды гэта ўсё прыдумка. Ніякага рамонту не будзе. Проста баіцца дзіцячага крыку. Не хоча кватарантаў з дзецьмі. Хоць ты ў вір галавой...

— Лухту вярзеш. Адразу што якое — нос на квінту. Не пазнаю цябе, дапраўды...

— Цяпер ты мне параіш быць мужнай.

— Я цябе такой лічу!..

Горкая іронія адчулася мне ў гэтых словах. Ніна заўжды лічыла мяне нейкай гераіняй, мужным чалавекам, якому нічога не страшна. А я ўсяго-наўсяго простая жанчына. Звычайная. І не маю даху над галавою, які павінен быць у кожнага чалавека.

— Пайшлі! — Ніна рашуча ўзнялася.— Возьмем твае рэчы, і будзеш жыць у мяне.

— А далей што?

— Будзе відаць.

На нас, калі мы ішлі па вуліцы, звярталі ўвагу. Ніна гаварыла гучна, не зважаючы на дапытлівыя погляды прахожых.

— Я з імі пагавару! — шматзначна абяцала яна, і яе злосць пачынала палохаць мяне.— Развітаюся, каб папомнілі, праклятыя ўласнікі. Як я іх ненавіджу!..

— У мяне да іх любоў.

— Не, Стэфа, тут жартаваць не выходзіць. Тут патрэбна нянавісць. Як я ненавіджу сваіх былых гаспадароў!.. Колькі часу прайшло, а як убачу браму з бліскучай бляхай, дзе напісана: «Асцярожна, злы сабака!» — быццам хто хапае за горла. Трэба нішчыць гэта, руйнаваць, паліць агнём!..

— Пачакай, Ніна,— жартуючы, папрасіла я.— Дай хоць мой чамадан узяць, а потым — палі, калі ласка...

— Сёння мы ненавідзім, а прыйдзе час і будзем смяяцца. Хутка над словам «домаўласнік» будзем па-сапраўднаму рагатаць. А нашы дзеці забудуць яго ці будуць шукаць у слоўніках...

— Цішэй. Нас сустракае сам гаспадар.

— Ого. Адразу і след замятаюць,— сказала Ніна, гледзячы на Трахіма, які стаяў з мяцёлкаю ў руках ля адчыненай брамы.

— Дарма. Трахім чалавек душэўны...

— Залатое сэрца. Бачыць яго не хачу!

Трахім сустрэў нас ветлівай усмешкай.

— Даўно ж не было. Даўно,— сказаў ён Ніне, павітаўшыся.— Нешта ж і носа не паказваеш!..

Ніна не адказала на яго прывітанне.

— Толькі не бавіцца,— сказала яна мне, быццам побач з намі не было нікога.— Адразу і назад!

— А паздароўкацца са мною варта,— насмешліва заўважыў Трахім.— Непрыгожа атрымліваецца. Непрыгожа!..

— Непрыгожа? — перапытала Ніна.

— Так, не ведаю толькі, як гэта на густ цяперашняй моладзі. Можа, яно і не гэтак...

Трахім узмахнуў мяцёлкай; камякі снегу мякка застукалі па дошках брамы. Ніна ступіла на яго, нібыта збіралася біцца.

— Вы моладзь не чапайце! Не чапайце! — папрасіла яна і нават прытупнула нагой.— І аб прыгажосці памаўчыце. Я не павіталася — непрыгожа. А чалавека выгнаць з хаты... Як сабаку! На мароз... Гэта як, прыгожа? Так?.. Дваццаць пяць рублёў за каморку паршывую здзіралі, а цяпер на мароз, на вуліцу? Гэта як, прыгожа, спекулянты вы праклятыя! Ды што тут гаварыць з імі, Стэфачка! Ці ж гэта людзі!

— Хто гоніць? — Трахім патрабавальна прыстукнуў тронкам мяцёлкі.— Каго? Ну, што памоўклі абое?

Ён змрочна паглядзеў на хату, ледзьве не вылаяўся.

— Мая, пэўна, нешта начмурыла. Што яна табе казала, Стэфа?

— Печка дыміць. Збіраецеся рамантаваць.

— Але ж прыдумала. Ну, скажы каму. Дыміць!..

— Без агню,— з'едліва ўставіла Ніна.

— А табе памаўчаць варта,— абарваў яе Трахім.— І разабрацца, што да чаго. Скажы, Стэфа, а дваццаць пяць рублёў адкуль? Ты што, плаціла іх маёй?

— Гэтак дамовіліся. Я і плаціла.

Трахім сціснуў рукой тронак і разы са два шмаргануў мяцёлкай па сцежцы.

— Ну ты скажы. Чыста ж мяла, як мяцёлка гэта. А я, дурань, слухаю... Што ж ты маўчала, Стэфа?

— А што ёй, сварку ў чужой хаце пачынаць?

— У чужо-ой,— перадражніў Ніну Трахім.— Няма ў нас чужых хат. На чыёй зямлі стаяць? Уся зямля наша! Савецкая. А яна мне — чужа-ая! Э-эх, героі! — ён з размаху ўвагнаў мяцёлку ў гурбу.— Чакайце мяне тут. Хадзя, хадземце, дапаможаце...

Насцеж расчыніўшы дзверы драўлянай прыбудовачкі, дзе ляжалі дровы, Трахім набраў поўны ахапак сухіх паленцаў. Зачыніў прыбудовачку і загадаў нам ісці ў хату.

Гаспадыня адразу адчула нядобрае ў сціснутых вуснах мужа. Замітусілася. Кінулася да Ніны, быццам невыказна ўзрадавалася, што ўбачыла яе.

— О-ох, Нінка да нас! І даўно ж не заходзіла. Пахваліся ж цяпер. Ну пахваліся, як і што ў цябе. І даўно ж не заходзіла. Трахімка, калі ж гэта Ніна ў нас была?.. Даўно была...

Трахім, сапучы, клаў дровы ў печ. Потым ён здзёр з паленцаў белыя скруткі бяросты і падпаліў дровы. Прычыніўшы дзверцы, ён глядзеў на языкатае полымя, што хутка загуло ў печы, і пра нешта думаў. Ён быццам не заўважаў ні Ніны, ні мяне, ні жонкі, якая ўжо апранулася і ціхенька шыбавала да дзвярэй, але, калі яна ўзялася за клямку, строга паклікаў:

— Валянціна!

Гаспадыня здрыганулася і замерла.

— Па крупкі я, Трахімка. Зараз прыйду. Вокам не міргнеш — тут буду...

— Варочайся! — загадаў Трахім.— Пастаў кашолку на месца і ідзі сюды!

— Ну, паставіла. Ну, прыйшла,— яна паціху адыходзіла ад дзвярэй, але кашолку па-ранейшаму трымала ў руках.— Во ўжо яму пільніца. Чаго табе?..

— Дыміць?

— А вой жа ты вой! А я думаю, навошта ён мяне цягне!

— Дыміць, пытаюся? — у голасе Трахіма загучаў метал.

— Праўда. Не дыміць,— здзіўлена прызналася гаспадыня.— Залатыя рукі ў цябе, Трахімка. А я ўчора дровы паклала, ажно страшна. На гарышчы асабліва. Інспектары паказалі — млосна стала...

— Значыцца, не дыміць печка? — перапытаў Трахім і выставіў крэсла на сярэдзіну кухні.— Тады распранайся і сядай.

— Спазнюся. Пазачыняюць усё. Няма з чаго і абед будзе...

— А я кажу, с-сядай!

— Ну, сяду... Ну, сяду, калі ўжо табе гэтак хочацца. А далей што? Спектакль нейкі... Чысты спектакль.

— Памыляешся. Суд будзе!

— Суд? Ху-ху-ху! І каго ж гэта надумаўся ты судзіць? Ці ж не мяне, часам?

— Здагадалася, аднак. А ты, Стэфа, за стол. І Ніна няхай сядзе таксама...

— Я сяду, сяду,— сказала гаспадыня, напалоханая паглядам мужа; яна села на крэсла, не здымаючы паліто, а толькі адшпіліўшы верхні гузік.— З ахвотаю сяду, каб на пацеху табе было... Няхай людцы паглядзяць, як над старою жанчынай можна здзекавацца...

— Няхай паглядзяць,— сказаў Трахім. Ён кінуў акурак у печ і сеў ля мяне за стол.— Колькі ты лупіла са Стэфы за кватэру?

— Ну, спектакль. Чысты спектакль!

— Колькі, пытаюся? — голас Трахіма стаў стражэй.

— Ды не аб грошах гаворка ішла, Трахімка. Я Стэфе кажу, дыміць печка, перарабляць прыйдзецца, бо інспектары з пажаркі прыходзілі. А калі тое будзе, і не казаў ніхто. А Стэфа і кажа, што надшукала пакой сабе. У знаёмых, з завода. Ну, Стэфачка, не дай схлусіць. Казала? Ну, спытай яе, Трахімка. А да мяне...

— Колькі?! — гаркнуў Трахім і з усяе моцы пляснуў далоняй сабе па калену.— Дваццаць пяць рублёў? За маёй спіною? Так?.. І мне, машыністу, якога ўсе на чыгунцы ведаюць і паважаюць, каб тыцкалі ў нос: жонка твая спекулянтка. Га? У маёй хаце?.. Мала грошай табе? — Ён ускочыў, скрывіў губы і падробленым жаночым голасам прасіпеў: — Пу-устуе пакойчык. Нашто яму пуставаць, калі людцы гару-уюць...— І зноў сваім густым і па-ранейшаму злосным: — На горы людскім багацець уздумала, скнара чортава...

— Аддам я ёй грошы. Няхай возьме!..

— А куды ж ты дзенешся? Аддасі, безумоўна! Гэтакі прысуд будзе: грошы вернеш, бо ўзяты яны незаконна. І яшчэ... Стэфа будзе плаціць па дзяржаўнаму кошту за кожны метар жылля, якое ў нас займае. Усё. Кропка на гэтым. Прысуд канчатковы. А цяпер бяры кашолку і бяжы, куды збіралася...

— Я пайду... Пайду,— з'едліва паабяцала гаспадыня.— Я ж табе наладжу цяпер абед. Забачыш!

Трахім моўчкі счакаў, пакуль выйшла жонка, потым закурыў і сказаў не нам, а некуды ў прастору:

— Вось гэтак! — і дадаў яшчэ раз, і твар яго быў нечага заклапочаны і невясёлы.— Вось гэтак...

Ён выйшаў на ганак і доўга стаяў там, потым сыпоў

і ўзяўся месці чыстую сцежку да студні. Твар яго па-ранейшаму быў засяроджаны і хмурны.

— А ён мне падабаецца,— сказала Ніна, гледзячы ў акно на Трахіма, які пакрысе сунуўся да студні.

— Сорамна неяк.

— Адкінь ты гэты непатрэбны пурытанізм. Ах, я ва ўсім вінаватая... Далёка гэтак зайсці можна.

Я зайздросціла рашучасці Ніны. Няўжо яна ніколі не ведае ніякіх сумненняў? Няўжо ўсё жыццё заўжды ясна перад ёю, і яна не вагаецца ў сваіх рашэннях, думках і пачуццях?.. Я пакратала шчокі — яны палалі агнём; дотык халодных пальцаў быў прыемны.

— Нядобра... Быццам у брудзе пакачалася...

— Сямейка,— працягнула Ніна.— Муж ёсць. Жонка ёсць. А сям'і няма. У кожнага сваё жыццё... Яна маніць і ўсміхаецца. Якое сэрца трэба мець?

— Ды звычайнае ў яе сэрца. І вось што дзіўна: людзям з гэтакім сэрцам часта шанцуе ў жыцці.

Ніна зморшчылася, быццам твар яе працяў знутры нейкі боль; яна ўжо не ўглядалася праз акно на падворак, і ў яе вачах зноў была дабрадушнасць.

— Некалі гэтак гаварыў мой Іван. Але я не верыла тады і яшчэ больш не веру цяпер. Я змагалася за яго сэрца, скрабла яго, шліфавала, як шліфуюць каструбаваты няроўны мармур...

— Сэрца ўнутры. Што з яго саскрабеш — у чалавеку і застанецца. Усё там будзе.

— Не, Стэфа. Не ўсё ранейшым застанецца ў сэрцы тваёй гаспадыні пасля сённяшняга...

— Не ведаю. Але ў мяне нейкая дзіўная натура. Раніцой я ненавідзела яе, гэтую жанчыну. А цяпер шкада.

— Гэткіх людзей я не шкадую. І ты з імі павінна быць стражэй.

— Доўга я тут не буду, відаць. Пайду ў дэкрэт і забяруся на бацькаву сялібу. Там добра...

— А я на тваім месцы падумала б. Адной, вядома, цяжка. Але ж ёсць яслі. І на мяне можаш разлічваць...

Калі Ніна побач, усё проста і зразумела. Я злавіла сябе на думцы, што з іроніяй параўноўваю нашы адносіны; быў час — яна зайздросціла мне і я падтрымлівала яе; цяпер мы памяняліся месцамі, і ўжо мне патрэбна падтрымка, і ўжо я сама захапляюся мужнасцю Ніны. А можа, яна проста гаворыць усё гэта толькі для таго, каб падтры-

маць мяне?.. Не... Але чаму Ніна ніколі не пыталася пра маё асабістае жыццё, пра тое, што яшчэ не закрэслена і не адкінута ў нябыт?.. Сапраўды, чаму яна ніколі не запытала больш у мяне пра Міхася?..

— Ён не варты гэтага,— хутка адказала Ніна.

— А мне часам хочацца пабачыць яго. Я думаю, што ён змяніўся, што ён зразумеў...

— Калі зразумее, прыедзе!

— Ты не ведаеш яго натуры.

— Пры чым тут натура? А галава на што чалавеку дадзена? Ёсць галава, ёсць розум — няхай думае!..

У маім сэрцы, пад тоўшчай крыўды і старога болю, варухнулася пачуццё, якое я гнала ад сябе апошні час. Яно жыло і — цяпер я добра пачынала разумець гэта — будзе жыць доўга. Чаму менавіта тут, у Трахімавай хаце, на разварушаным і нетрывалым побыце, у час, зусім не прыдатны для добрых разваг, з'явілася гэтае перакананне?.. Можа, проста таму, што мне цяпер цяжка, што горыч адзіноты вельмі балючая, хоць і стаіць побач Ніна і ўсё здаецца мне простым і зразумелым. Не, не ўсё проста ў жыцці кожнага з нас. Вось жыў Трахім і, мабыць, думаў, што ў хаце парадак, якім ён можа ганарыцца. А гэтага парадку не было, была няпраўда, і ён нічога не ведаў пра яе.

У маім жыцці таксама не было парадку. Быў час, я загадала сабе не думаць пра Міхася. І ўсё было забыта. Але існавалі думкі пра тое, жыў Міхась, і была я, яго жонка, і са мною ёсць цяпер яго, Міхасёва, дзіця, якога я павінна берагчы. Дзіўная Ніна! У яе ўсё гэтак проста. І я чамусьці веру ёй. Але Ніна не можа быць са мною ўвесь час. Яна пойдзе,— і я застануся адна. Выходзіць, толькі я адна магу і маю права вызначыць тое, што павінна рабіць, як жыць далей. Мне б цяпер крышачку Нінінай рашучасці, яе здольнасці ўспрымаць усё крытычна. З гумарам.

— Ну, вайна скончылася,— сказала Ніна.— Перамога атрымана, і мы можам рушыць зноў да мяне.

— Я застануся тут...

— Ва ўсякім разе, правядзь хоць крышачку...

— Страшна адной выходзіць?

— Проста хачу, каб ты падыхала свежым паветрам...

Сцежка да брамы была яшчэ раз старанна падмецена. Трахім стаяў ля студні і нечага глядзеў на засыпаныя снегам яблыні.

— Пачакай крыху,— Ніна пацiснула мне руку, і я здагадалася: яна хоча нешта сказаць Трахіму.

Мы падышлі да яго разам. Мне было сорамна глядзець у вочы Трахіму, калі Ніна прасіла ў яго прабачэння, і я ўзрадавалася, адчуўшы яго насмешлівыя словы:

— Што было, тое сплыло. Далёка выправіліся?

— Не. Правяду Ніну і вярнуся.

— Ну-ну... Ідзі.

Да самай брамы я адчувала на сваёй спіне Трахімаў позірк; карцела ўбачыць яго вочы, і я азірнулася. Ён не глядзеў на нас і старанна шараваў зусім чыстую сцежку да студні.

Яшчэ адна старонка людскіх адносін адкрывалася мне, і я чамусьці падумала, што жыццё падобна на мора, па якім плывеш і, як нязнаныя раней астравы, адкрываеш новых людзей. Сказала пра гэта Ніне.

— Ты не пісала вершаў? — спытала яна.

— Ніколі.

— Паспрабуй!

— Вершаў у душы няма. А вось быццам гучыць мелодыя нейкая. Незнаёмая...

— Значыцца, ты кампазітар.

— Не трэба жартаваць. Ад радасці ў мяне можа разарвацца сэрца.

— Тады, бясспрэчна, талент. Прычым вялікі! Бо ўсе таленавітыя людзі гінуць гэтак жа незвычайна. Як Гайдн, напрыклад. Бомба разбурыла яго сад. Ён вельмі любіў кветкі. Зірнуў і — памёр. Сэрца...

Трывожная і радасная мелодыя па-ранейшаму жыла ў душы. Так, відаць, жыццёвыя нягоды нішто, калі ёсць у цябе сябар. Харошы. Сапраўдны.

## 16

Бацькаў ліст прыйшоў у суботу, калі да ад'езду было ўсё падрыхтавана і заставалася толькі скласці ў чамадан памытую і адпрасаваную бялізну. Знаёмыя няроўныя радкі абудзілі ў душы вінаватасць: я доўга маўчала і нават не адказала на апошні бацькаў ліст, бо сабралася ўжо ў дарогу і мелася ехаць у Баравічы. Бацька ведаў, што я збіраюся да яго, і цяпер, у гэтым лісце, прасіў, каб абавязкова паведаміла дзень ад'езду: ён прыедзе і дапаможа выбрацца. Тое ж было і ў прыпісачцы, зробленай у канцы аркуша круглым жаночым почыркам,— пісала сястра.

Маленькая прыпісачка Надзейкі больш, чымся доўгі ліст бацькі, пераканала, што я раблю правільна, надумаўшы ехаць на час дэкрэтнага адпачынку ў Баравічы: тут, у Трахімавай хаце, будзе цяжка і жыць і чакаць таго незвычайнага, жахлівага і радаснага дня. Толькі цяпер, калі ў руках быў бацькаў ліст, я зразумела, што жах, які на першым часе ўтрымліваў мяне ад паездкі ў Баравічы — як я пакажуся там на людзі! — прыдуманы, што за ім хаваецца зусім іншае. Мяне палохаў раддом. Жах перад ім існаваў у кожным маім занятку, відаць, мяне палохаў не сам гэты дзень, а толькі думкі аб ім.

Прачытаўшы ліст, я прынесла вядро вады і ўзялася мыць падлогу: мне не хацелася пакідаць пакой непрыбраны. Каб працерці ад пылу запечак, я прыўзнялася, усунула туды насуха выкручаную анучку, але не паспела нават крануць там рукою: тупы боль прабіў паясніцу. Боль быў такі моцны, што я сагнулася, прыпала плячом да печы і нейкі час не варушылася. Крыху счакаўшы, я дабрыла да крэсла і скурчылася на ім: ва ўсім целе была нямогласць. Боль узнік зноў, але цяпер ён пачаўся ніжэй паясніцы і трымаўся доўга, і ад яго дрыжалі на руках пальцы. У роце зрабілася горка — язык быў сухі і шурпаты. Нейкі час я сядзела ў гэтай паставе, змярцвелая і трывожная, ні аб чым не думаючы; я ўсё яшчэ сціскала анучку ў руцэ і ўслухоўвалася ў тое таямнічае, што падышло гэтак раптоўна.

Скрып дзвярэй нібыта абудзіў мяне. Я глядзела на Трахіма, чула, што ён пытаў пра станцыю, дабрацца да якой абяцаў памагчы мне, і не магла варухнуцца, а толькі сказала, сарамліва і слаба ўсміхнуўшыся:

— Зараз мы пойдзем... Пачакайце хвілінку...

Мой твар, відаць, вельмі напалохаў яго. Трахім стрымгалоў, нават нічога не сказаўшы мне, кінуўся ў калідор.

— Валянціна! Дзе ты там? Чуеш? Бягом сюды!..

Гаспадыня прыбегла, замітусілася, схапіла анучку, што ляжала ля маіх ног, кінула яе ў вядро:

— Што прыдумала, га? Ды няхай бы і стаяла сабе падлога так. А то дык нарабіла сабе парадку...

— Проста час, відаць, прыйшоў.

— Пацярпі ўжо крыху. Пацярпі. Трахім зараз машыну прыгоніць, пабег жа. А тут баліць?

Гаспадыня лёгка пацiснула ўнізе жывата, і мяне здзівіла не тое, што яна рабіла, а яе рукі: было нешта нязвыклае ў іх, новае, і толькі крыху пасля я здагадалася, што

зніклі пярсцёнкі і замест іх на пальцах засталіся цьмяныя абадочкі.

За акном пачуўся кароткі рэзкі сігнал аўтамашыны, жоўты прамень паласнуў шыбы, у сенцах затупалі крокі.

— Ну, як мы? Паспелі? — прагучаў ад парога незнаёмы жаночы голас, і я па ражку белага халата, які вытыркнуўся з-пад паліто, здагадалася, што гэта прыехала ўрач.— Чаго ж вы, даражэнькая, на ноч глядзячы?.. Але нічога. Яно і лацвей нават: ноч не паспіш, а ранкам яго ўжо карміць будзем. Даўно пачалося?

У пакоі адразу запахла бальніцай, і гэты пах быў новы, але ён не трывожыў і зусім не хваляваў. У жанчыны — яна ўзялася памагаць мне апранущца і сабраць рэчы — былі жаўтаватыя, мабыць, ад ёду пальцы і на адным з іх пабліскваў маленькі смарагд. Я адказвала на яе пытанні, а думала чамусьці пра рукі гаспадыні: чаму яна зняла пярсцёнкі?..

Абапіраючыся на Трахіма, я дайшла да машыны, што стаяла непадалёк ад брамы. Матор працаваў; ад слабага трымцення металу, што перадалося пальцам, калі я ўзялася за ручку дзверцаў, ад разгубленага твару Трахіма, які нібыта сціснуўся, ад насунутае на левае вуха касматай шапкі, ад згорбленай постаці гаспадыні, якая выбегла ўслед за ўсімі, у маёй душы ўзнялося нязнанае раней хваляванне: гэта была і не радасць, і не трывога, і нават не жах, а нешта большае, быццам пачуцці гэтыя зліліся ў адно.

— А вы навошта выбеглі? — жанчына, злуючыся крыху, накрычала на гаспадароў.— Каб потым і вас усіх у бальніцу?

— Нічога з намі не зробіцца,— сказаў Трахім, памагаючы мне садзіцца ў машыну.

Зароў матор. Святло з акон гайданулася ў дрэвах, постаці Трахіма і гаспадыні быццам адскочылі назад. Шкло адразу напацела, і святло ў садзе, і сама хата з яркімі плямамі акон сцямнела, быццам завалочаная туманам; калі я, працёршы пальчаткай шкло, угледзелася зноў, знаёмую хату закрылі нейкія цьмяныя абрысы.

Болю ўжо не было, але тое незразумелае пачуццё, што прыйшло нядаўна, калі я садзілася ў машыну, не праходзіла; ад яго неяк палахліва адасобілася радасць нязнанага, вельмі вялікага і значнага, што чакала мяне наперадзе і што павінна было хутка адбыцца.

## 17

Дачка! У мяне нарадзілася дачка! Мяне прывезлі ў палату, дзе былі ўжо тры парадзіхі. Мой ложак стаяў ля сцяны, насупраць акна. Я ляжала нерухома і глядзела на ніжнія, замазаныя белай фарбаю шыбы, адчуваючы толькі боль і вялікую, усепаглынаючую пустэчу ўнутры.

Віншавальныя словы дакторкі, чырвоны гарласты камяк, які я дала гэтаму свету, нават сама пустэча, што напоўніла цяпер усё нутро, былі як бы адасоблены ад майго розуму; рэальна існаваў толькі патрабавальны дзіцячы крык. Ён гучаў у маіх вушах, і мне здавалася, што гэты крык коціцца па агняных промнях сонца, якія скоса падалі на верхнія шыбы і залацілі шкло; ад гэтага бляску і крыку пустэча ва мне паціху змяншалася, нібыта напаўнялася трапяткім, але халодным полымем.

Пасля кароткай дрымоты, калі я расплюшчыла вочы, не было ўжо залатога бляску ў акне. Чорныя шыбы цьмяна паблісквалі, свяціліся лямпы на тумбачках, і на шырокай, як стол, калясцы ў пакой увозілі нованароджаных.

На твары ў сястры быў квадрацік з марлі. Гэткі ж квадрацік павязалі і мне, і толькі потым далі дзіця. Я разглядала яго, не адчуваючы ні радасці, ні хвалявання, ні трывогі. Маленькі носік. Чырвоныя плямы замест броваў. Тоўстыя і скрыўленыя ад плачу губкі. Зусім не падобнае на Міхася! І на мяне ж таксама не падобна!

Няўмела, бянтэжачыся, я ўзялася яго карміць. Разы са два яно кранула роцікам грудзі і зайшлося ў прарэзлівым крыку. Адкінуўшыся на локаць, я совала яму сухі карычневы сасок у крыклівы рот і адчувала, як ад напружання дрыжыць рука, сагнутая ў локці.

— Пальцамі паспрабуйце паціскаць,— параіла мне з суседняга ложка жанчына.— У мяне такое ж было. А як паціскала, малако і пайшло...

Растрывожаная і напалоханая дзіцячым крыкам, я да болю націрала грудзі, але сасок па-ранейшаму быў сухі. На вочы набеглі слёзы. Затуманеным зрокам я бачыла, як сястра паклала на каляску белыя згорткі, як вывозіла іх з пакоя, і тады нешта быццам апала ў душы. Смага душыла мяне. Я выпіла ўзапар тры шклянкі вады, але не супакоілася, не адагнала смагу і, адкінуўшыся на падушку, лягла і бяздумна, абыякава глядзела на чорныя бліскучыя шыбы.

На ночы двойчы прывозілі дзяцей да парадзіх. Малака ў мяне не было. І не было больш слёз: я ўжо не магла

плакаць. Парады і спачуванні суседак не адагналі адчай, а толькі стамілі мяне.

На світанні, нібыта праваліўшыся ў бездань, я на кароткі час заснула. Саснілася Дзвіна. Доўгія выгінастыя плыты плылі па сярэдзіне чорнай ракі, і я прайшла да іх па грэбнях хваль; варта было мне ступіць на плыт, як хвалі суняліся адразу, з'явілася сонца і паверхня ракі заблішчала. Было горача, я распранулася, як на пляжы, і легла на шырокае бярозавае бервяно. У дрыготкай сіняй далечы стаялі над вадой аграмадныя чорныя камяні; нейкая вялізная белая птушка, падобная на чайку, ляцела наперадзе плытоў, і плыты сунуліся ўслед за ёй, і камяні расступаліся, даючы ёй дарогу; птушка ўсё ляцела і ляцела, але крылы яе былі нерухомыя, быццам зробленыя з белай бляхі; сонца нясцерпна біла ў вочы; я чэрпала прыгаршчамі ваду, вылівала сабе на грудзі і ад радасці смяялася...

Абудзіў мяне дзіцячы крык. Адкрыла вочы, але не адразу размежавала тое, што перажыла, і тое, што ўбачыла. У палаце стаяла шырокая, як стол, калыска, і сястра клала на ложкі дзяцей. Вокны ў пакоі былі цёмныя, але відаць было неба і рэдкія хмаркі, ружаватыя ўжо ад ранішняга сонца. Я чула яшчэ плёскат дзвінскіх хваль, але адчувала, што грудзі ў мяне мокрыя не ад вады, што гэта цячэ малако, і ляжала ўзрадаваная, спалоханая, баючыся нават варухнуцца.

Сястра падала мне дачку. Дзіця прагна схапіла роцікам сасок, залíты малаком. Я неадрыўна глядзела на тварык дачкі, а дачка глядзела на мяне невыразнымі, але адразу паспакайнелымі вачаняткамі. Першы раз на жыцці гэтак блізка бачыла я вочы дзіцяці. Свайго дзіцяці! У сэрцы былі пяшчота і гонар; нешта незвычайнае, хвалюючае і ўрачыстае адбывалася ва мне. Толькі цяпер прыйшло да мяне разуменне ўсёй велічы таго, што адбылося. Я дала жыццё новаму чалавеку! Нарадзіла чалавека! Вось яна ляжыць, маленькая і неразумная істота, але гэта ўжо новы, будучы чалавек, і я — маці яго, бо я нарадзіла і вывела яго ў свет; і ён, гэты чалавек, не можа існаваць без мяне, бо я павінна пакарміць яго...

А потым пабеглі дні, незвычайныя, поўныя пязнанай раней радасці і яшчэ большай трывогі. Ганарлівае пачуццё ўладарна захапляла мяне, калі дачка ляжала на маіх руках, і знікала, калі я заставалася адна: тады прыходзілі думкі пра Міхася. Я спрабавала ўявіць сабе, дзе ён, што парабляе, як паставіцца да дачкі, калі даведаецца пра яе

нараджэнне. А што гэта можа змяніць?.. Можа! Нешта павінна змяніцца. Але што — я не ведала і баялася, каб у палаце не ўзяліся распытваць пра майго мужа. Не ведаю чаму, але пра тое ніхто не пачынаў гаворку. І дзіўна, ад гэтага не рабілася лягчэй. Маладыя бацькі гадзінамі мерзлі пад вокнамі, чакаючы, каб у час кармлення зірнуць на сваіх дзяцей, смяяліся, міргалі. Апроч звычайных слоў, ішла праз шыбы яшчэ іншая — маўклівая і таямнічая — размова, ад якой чырванелі твары матак і радасным бляскам запальваліся вочы. Гэта была мова кахання.

У гэткія гадзіны мне здавалася: з'явіся за акном Міхась — і я дарую яму ўсё. Але яго не было, затое рэгулярна, праз дзень, прыходзіў Трахім, прыносіў пячэнне, зробленае, мабыць, гаспадыняй, і яблыкі. Я частавала імі суседак, але адчувала, што ад мяне чакаюць не гэтага: усе ў палаце расказалі пра свае сем'і, пра сваіх мужоў, і толькі адна я маўчала.

Аднойчы, калі на гурбе пад акном з'явіўся Трахім, я паказала яму дачку. Трахім нешта гукаў, але я не зразумела яго слоў, тады ён высока ўзняў палец і другой рукою пакруціў над ім — Трахім высока ацэньваў маю дачку.

— Гэта дзядуля наш,— сказала я, каб усе чулі ў палаце.— Ну, усміхніся дзеду! А бацькі нашага няма. Далёка ён паехаў! Далёка! І таткі ў нас няма...

Толькі сказаўшы гэта, я здагадалася, навошта сказала тыя словы — гэта была спроба схавацца за імі, схаваць ад усіх сваю слабасць, разгубленасць і трывогу. Я ненавідзела сябе за іх, лаяла. Але словы былі сказаны, і яны сталі шчытом паміж мною і ўсімі, хто быў у палаце...

Праз тыдзень пасля таго дня мяне выпісалі. Быў ранак. Напярэдадні я папрасіла Трахіма прынесці патрэбныя рэчы. Ён прыйшоў разам з жонкай і заказаў нават таксі. Калі я выйшла ў прыёмны пакой, ён узяў з рук сястры дзіця, адхінуў ражок прасцінкі і радасна сказаў:

— Ого! Якія мы вялікія і важныя!..

Гаспадыня таксама падышла, нават пацалавала мяне і стала за мужавай спіной, быццам тое, чым гэтак шчыра захапляўся Трахім, зусім яе не датычылася: у вачах была не цікаўнасць, а нейкая прытоеная вінаватасць, якой, відаць, яна сама саромелася.

Дахаты мы прыехалі хутка. На падворку Трахім, быццам згадаўшы што, прыпыніўся.

— Чакай, а якое ж імя яму дасі? Ці не прыдумала?

— Пакуль што не,— ухілілася я ад прамога адказу. Дагэтуль не ведаю, чаму тады я не сказала Трахіму, што надумала звацъ дачку Марынкаю.

— Хм!.. Яму дык і не ўсё роўна! — хмыкнула гаспадыня.— І чаго ты толькі пнешся паўсюль? Чужое дзіця. Можа, Стэфа параіцца хоча.

— З кім?

— З бацькам...

І невядома было, пра каго яна казала: ці пра майго бацьку, ці пра бацьку той, што ляжала на Трахімавых руках і, ні пра што не думаючы, ні пра што не клапоцячыся, спакойна спала.

Трахіму было няёмка — я бачыла гэта! — ад слоў жонкі; ён заспяшаўся ў хату.

— А дзеўчыне месцейка падрыхтавана ўжо! — урачыста абвясціў ён і кіўнуў галавою на куток, дзе стаяла жалезная, нядаўна пафарбаваная калыска.— Гаранька некалі ў ёй спаў. У гэтай жа... Тваёй велікаватая будзе. Але з вялікай не выкінецца...

Я не адразу заўважыла калыску, калі ўвайшла ў пакой. Пахла фарба. Было чамусьці сорамна.

— Даваенная калыска,— зазначыла гаспадыня.

Трахім хораша ўсміхнуўся:

— Хата згарэла, а калыска засталася. На папялішчы і стаяла. Во ў якой будзе спаць малая! Смелая вырасце!..

Словы ўдзячнасці... Ці ж могуць яны ўвабраць у сябе ўсё тое, што бывае ў чалавечай душы, у яго сэрцы, у думках... Іх было шмат, гэтых слоў, але ўсе яны здаваліся мне вельмі сцёртыя, старыя. А новых у мяне не было, я не магла іх прыдумаць і толькі моўчкі глядзела на калыску і кратала тонкія, крыху ліпучыя ад фарбы парэнчыкі.

## 18

Мы сустрэліся з Раманюком неспадзеўкі. Я выйшла з аптэкі, а ён борздзенька трухаў мне насустрач — ні абысці, ні размінуцца на вузкім тратуары нельга.

— Стэфа? Точна, Стэфа! — задаволена выгукнуў ён і працягнуў руку здароўкацца.— Добрага дня, Стэфачка! А ў нас з жонкаю ранкам пра цябе гаворка ішла...

Яго вочы прыдзірліва абмацвалі мяне. Раптам, нібыта ўгледзеўшы што ў маім абліччы, ён дакорліва паківаў галавою:

— Ці ж гэта добра? Ніводнага разу не прыйшла.
— Збіралася, Андрэй Піліпавіч. Даўно збіралася...
— Гэтак, відаць, збіралася. Мабыць, як твой напісаць. Зрэшты, прыслаў пісямцо, дык адгаворваецца: збіраўся, маўляў, збіраўся. А доўга тут сабрацца? Далёка жывём? Не скажаш. Ці чужыя мы вам? Не, Стэфачка, не чужыя... Што вы з Міхасём не падзялілі — не мы табе суддзя. А нам з жонкай крыўдна. Благога мы вам не зычылі...
— Ведаю...
— А што ты ведаеш? Нічога ты не ведаеш. Спрачалася, лаялася. А каму тое трэба было? Дзе вы маглі б жыць, там другі цяпер хату лепіць. І якую камяніцу кладзе! Дай ты бог...
— На вашым участку?
— Што ад яго засталося? Палавіну адкроілі. Гэтакае месца! Цэнтар горада амаль... Ды што вам, дурням маладым! Магла ваша хата стаць. І казаў жа, дапамагу!
— Не трэба пра тое, Андрэй Піліпавіч!
Мая катэгарычнасць здзівіла яго, але ён прыняў яе і, крыху счакаўшы, запытаў:
— Усё там працуеш, на шкловалакне?
— Там...
Я чакала, зараз ён запытае мяне пра дачку. Але Раманюк сказаў не тое, што я чакала:
— Цікавая гэта штука — шкловалакно. Памятаю, Галька — у нас тады яшчэ жыла — пайшла на завод. А потым два дні за вушы трымалася. Грыміць, казала...
— Відаць, яна ў ткацкім была. Ды з непрывычкі... Там сапраўды станкі, як кулямёты. А ў нашым электрапечы. Спакойна.
— Каму сказаць...— Раманюк быццам прыгадваў што, на яго твары з'явілася задуменнасць.— У старым нашым Прыдзвінску — электрапечы. Калі я твае гады меў, самым буйным прадпрыемствам тут была абпальня. Печ, у якой абпальвалі вапну. А мы, хлапчукі, гаварылі ўрачыста — завод! За кожныя пяць пудоў вапняку — а яго трэба было выцягнуць з Дзвіны — Драбкін плаціў нам адну капейку. Што зробіш, дзеці ідуць далей, чым бацькі. Ножкі маладзейшыя...
— Дыялектыка, Андрэй Піліпавіч. (Няўжо ён нічога не ведае пра дачку?..)
— Не хочаш ты мяне слухаць. Смяешся. Ды бачу я, бачу... І часу няма пастаяць... Усё ж прыходзь, калі час знойдзеш.

— Дзякую. Пастараюся...

Мы развіталіся. Кароткая гэтая стрэча ўсхвалявала, я быццам паблукала на папялішчы, дзе згарэла нешта дарагое і блізкае. Чаму Раманюк не запытаў мяне пра дачку?.. Я была перакапана, што ён ведае пра яе. Прыгадала яго словы пра ліст ад Міхася. Значыць, Міхась піша яму! Што піша? І дзе ён?.. Ах, мне гэта ўсё роўна!..

Я хлусіла сабе: у душы не было абыякавасці, там білася прытоеная зларадпасць. Пішы, пішы... Ты думаеш, што я пабягу за табою, буду прасіць?.. Не, не будзе гэтага! Ніколі!..

А побач жыло іншае. Міхась — піша. Ён піша сюды, у Прыдзвінск. Значыцца, нешта цягне яго сюды. І няпраўду мне сказаў Раманюк, не ўсё сказаў! Піша Міхась і, пэўна, пытаецца пра мяне. Можа, і не вельмі многа, але ж хоць адно слоўца ёсць там пра мяне!..

Я павярнула, каб скараціць шлях, у сквер. На клумбах завіхаліся з граблямі жанчыны — зграбалі леташняе лісце. На лавачцы сядзеў мужчына ў расшпіленым светлым паліто, трымаў капялюш у руках. З бакавой алеі бегла дзяўчынка.

— Тата! Тата! Я жука знайшла!..

— Гэта не жук,— сказаў лагодна мужчына.— Гэта «божая кароўка»...

— А каму яна дае малако?

— Нікому,— засмяяўся мужчына.— Затое яна вельмі разумная. Пакладзі яе на далонь. Ага, вось гэтак... А цяпер трэба сказаць: «Божая кароўка, ці будзе заўтра пагодка? Калі будзе — ты ляці, а не будзе — не ляці». Паўтарай цяпер сама...

Па вуліцы за скверам грукацелі машыны. Гаманілі жанчыны, што працавалі на клумбах. Узвіўся радасны дзіцячы галасочак: «Паляцела! Татачка, паляцела!..»

Стары боль ажываў ва мне. Нейкі шчымлівы, але салодкі боль. Прыгадаўся вечаровы луг, злоўлены мятлік... І кожны раз, як і цяпер, я заўважала, што гэтыя ўспаміны сатканы з журботы, крыўды і тугі. Цяпер туга была асабліва моцная; подых другога жыцця, што ішло побач, апаліў мяне. Няўжо маёй Марынцы ніколі не суджана бегчы і гэтак ласкава крычаць: «Татачка, паляцела...»

А побач з гэтымі ўспамінамі і болем, быццам навісаючы над усім, быў голас Раманюка. Я ішла і чула яго голас увесь час, я бачыла яго твар, яго вочы, хітравата прыжмураныя...

Я прыбегла дахаты, быццам хто гнаў мяне, нечага баялася за Марынку. Адчыніла дзверы і адразу пачула на кухні вясёлы смех гаспадыні і знаёмы, крыху прастуджаны голас. Бацька?.. Так, гэта ён! Але калі ж ён паспеў прыехаць? На хвілінку нейкую ж выбегла з хаты.

Не распранаючыся, зазірнула на кухню і, уражаная, спынілася. Ад печы да акна, як хмара, сіні дым. Маленькі кухонны столік застаўлены талеркамі і бутэлькамі. Так, тут святкавалі грунтоўна.

Гаспадыня ўбачыла мяне першай.

— Ах, Стэфачка! Урэшце і ты. А яе чакаюць, а яе чакаюць! — гаспадыня ўскочыла.— Во які госць да нас завітаў. Цяпер ты ўжо сама тут кіруй. А я — пайшла!..

— Трэба пасядзець! Трэба,— сказаў бацька.— Утрох, цяпер за маю ўнучку! Без гэтага ніхто адсюль не пойдзе!..

Гаспадыня выпіла, затрасла рукамі:

— Ні ў якім разе болей. Ні ў якім разе болей. Вы гаварыце тут. Гаварыце, калі ласка. Ну, я пайшла!..

Яна знарок, каб чуць нашу гаворку, не прычыніла дзверы з кухні. Я пацягнула бацьку ў свой пакой.

— Калі ж ты прыехаў, татка?

— А мне што? Па-партызанску дзейнічаю. Ліст атрымаў і адразу сабе каманду: у ружжо! І бачыш — тут. Думаў, што ты ў бальніцы. Ажно Марынку хутка замуж аддаваць.

— Ты яе бачыў? Харошая дзяўчынка, праўда?

Мы падышлі з ім да калыскі. Бацькаў твар пасвятлеў, але пад вачыма стала многа маршчынак. А можа, мне гэта толькі здалося?

— Слаўная,— урэшце пагадзіўся бацька.— Нос — твой. Лоб — таксама. Толькі вось вочы яшчэ не бачыў: спіць і спіць.

— Якое там. Ноччу вельмі блага спала. Цяпер адсыпаецца. А між іншым, усе кажуць — мой партрэт.

— Гэта на добрае. Няхай шчаслівая будзе...

Нячутна адчыніўшы дзверы, у пакой, у паліто ўжо, зазірнула гаспадыня.

— Што ж гэта вы тут, прабачце мне, гармідар павялі,— ціха папракнула яна нас.— Дзіця ж спіць. Кліч, Стэфа, бацьку на кухню.

— А вы далёка?

— У магазін трэба падскочыць. Заўтра ж мой у рэйс ідзе...

Я праводзіла гаспадыню да дзвярэй, вярнулася на

кухню; у нейкай строгай задуме бацька стаяў ля стала, курыў і вывучальна аглядаў бутэлькі.

— Гаспадынька твая... Жо-ох, баба! Палец у рот не кладзі... З Трахімам таксама пагаварыў. Гэта, скажу табе, чалавек! З розумам. Шкада, спяшаўся на работу, мала пагаварылі...

— Будзе час, нагаворыцеся...

Змочаныя гурковым расолам недакуркі на талерцы пахлі востра і непрыемна. І ад усяе гэтае неахайнасці, ад крыху п'янаватай бацькавай гаворкі ў душы расло пачуццё жаласлівасці і прыкрасці. Цяжка бацьку. Але чаму ён не можа абысціся без гарэлкі?

Бацька адразу заўважыў маю незадаволенасць.

— Нешта ж ты не зарадавалася майму прыезду,— памяркоўна зазначыў ён.— Зноў нешта не падабаецца...

— Так. Не падабаецца гарэлка.

— Ад яе бяды меней, чым ад хлусні.

— Няпраўда!

— Разумная ты дужа зрабілася тут,— бацька раптам зазлаваў.— Ад твайго вялікага розуму ўсё і ідзе. Я сяджу ў хаце, чытаю лісты і радуюся: чалавекам жыве Стэфа!

— Гэта праўда.

— Ха, праўда! Праўда твая ў калысцы ляжыць. Ты мне лепей скажы, дзе той валацуга? Я пагавару з ім...

— Не трэба, татка. Ты ж ведаеш, разышліся мы з Міхасём... І прашу цябе, не будзем гаварыць пра тое...

Ранейшая ўпэўненасць зноў прыйшла да мяне. Хопіць! Я нічога не хачу нават чуць пра Міхася! І нікому — нават бацьку! — не дазволю ўмешвацца ў маё асабістае жыццё...

— Ты цягніком дабіраўся? — запытала я, падкрэсліваючы гэтым, што не хачу і не буду працягваць гаворку пра Міхася.

— Цягніком,— крыху счакаўшы, адказаў бацька.— Быццам гэта ёй важна. А таго не разумееш ты...

— Усё я добра разумею!

Бацька жмурыў вочы, строга ўглядаючыся ў мой твар; неспадзявана сказаў прачулена і шчыра:

— Узрадавала ты мяне, дачка. Шчыра скажу табе, узрадавала.

— Сапраўды, не разумею. Чым, татка?

— Тым, што не плачаш. І не сагнулася. Крыху строга я на цябе павёў, а ты вунь як на мяне палезла!

— Ой, татка, татка! Лепш я цябе частаваць буду...

Я засмяялася, пачала прыбіраць стол. Бацька перапыніў мяне:

— Не чапай тут. Няхай стаіць. І кілбасы я табе прывёз і вяндлінкі. Пакаштуеш...

— Скажы, татка, чаму ў нас гэтак? Госць у хату — гарэлачку на стол адразу.

— Яно і не гарэлка зусім. Каньяк!

— Усё роўна. Нялюдскі парадак.

— Да нас ён прыдуманы, без нас яго і зарыюць. А за ўнучку сваю павінен я чарчыну пусціць ці не? І за цябе вып'ю. З ахвотаю, бо ўзрадавала ты мяне. Еду сюды дый сабе думаю. Плача, думаю, Стэфка ў тры ручаі. Ажно — хвігу! Смяецца. Калі сэрца баліць, нікому яго не паказвай. Правільна робіш... Цяпер каб табе інстытут як адолець — спакойна мне паміраць...

— Не, татка, мы з табой яшчэ доўга жыць павінны. І будзем!

— Малая ў цябе дагледжана,— сказаў ён, не звяртаючы ўвагі на мае словы; ён гаварыў сваё, і яго нельга было перапыняць.— Пакойчык чысты. Узрадавала гэта мяне. А з людзямі ты можаш ладзіць. Ведаю. Гаспадыня цябе вельмі хваліла...

Я глядзела на яго рукі, што адкаркоўвалі бутэльку, ведала, што піць не буду, і не магла пярэчыць бацьку; сваёй шчырасцю ён абудзіў у маёй душы ўспамін пра даўно прайшоўшае, пра тыя гады, калі на кожнае бацькава запытанне я адказвала толькі чыстую праўду. А цяпер? Не, нельга мне адкрыцца перад ім ва ўсім, бо мая праўда прынясе бацьку толькі гора. Я магу расказаць яму пра тое, як гаспадыня выганяла мяне з хаты, расказаць пра тугу, ад якой баліць сэрца, пра горыч адзіноты, пра ўсё тое, што я перажыла ў бальніцы... Але нашто яму гэтая праўда? Ён верыць, дачка выбілася на добры шлях, правільны кірунак знайшла ў жыцці... І гэта сапраўды. Гэта і ёсць тая праўда, дзеля якой цяпер я жыву...

Бацька наліў мне віна. Я адставіла келіх:

— Не, татка, нельга мне. І не хачу!

— Кагор гэта. Можна. На донцы ж зусім. Ну, а я ў апошні раз узнімаю сёння. Болей не дакрануся.

— Неяк ты мне пра тое ўжо казаў.

— А слова даў? Не, не даваў такога абяцанку. А цяпер — даю. Пакуль інстытут не скончыш — не дакрануся.

Ён урачыста закаркаваў бутэльку і паставіў яе на стол.

— Бачыш? Во і ўсё! Ты — дыплом на стол, а я — гэтую трасцу адкаркую. Ну, за тое і ўзнімаю!

Ён выпіў, крактануў і пачаў закусваць. Я таксама адважылася — узняла свой келіх. Мне трэба было выпіць. Я бачыла, бацька гаворыць усур'ёз.

— А як ты з гаспадыняй жывеш? — запытаў ён.— Нічога, што дзіця?..

— Ладзім.

— Можа, табе большы пакойчык пашукаць?

— Навошта? Тут улетку няблага.

— А можа, табе грошы патрэбны?

— Ну, прыдумаў. Гэтак хутка ты мне і манную кашу прапануеш. І чаго ты мяне ўсё распытваеш? А сам? А пра сваё жыццё — каб табе слоўца. Мне ж таксама цікава...

— Няма чаго і казаць. Грабуся патрохі...

Ён паклаў падбародак на далонь пастаўленай локцем на калена рукі і пра нешта засяроджана думаў, стукаючы пальцам па выгаленай шчацэ. Люлька дыміла, і бацька жмурыў вочы, як бы хаваючы іх ад мяне.

— Вось чаму гэтак? — запытаў ён.— Дарослая ты, а мне — усё дзяўчо быццам. І клопат увесь час адзін, каб не пакрыўдзілі...

— Ды хто ж мяне пакрыўдзіць?

— Памятаю летась — перадалі мне — Халецкі казаў, быццам ты тут па рэстаранах швэндаешся... Веры словам тым, брахні ягонай, я не даваў...

Значыць, вось хто возіць у Баравічы розныя навіны! Але чаму я ніколі не сустракалася з ім у горадзе?.. Мне цяжка было стрымаць сябе, і я сказала са злосцю:

— Стары ён пляткар.

— І малады не лепшы. Гэткіх і асцерагайся. Аблююць граззю — не адмыешся...

— На плётках жыццё не пражывеш.

— Жывуць жа некаторыя.

— Гэта не жыццё. Лепей памерці, чымся гэтак жыць.

— Усе памром. Нікуды не дзенемся...

Ён не проста сказаў, а быццам паскардзіўся, і ў голасе прагучала туга. Я напалохалася — бацька ўсё часцей пачаў казаць аб смерці,— узялася жартаваць. Ён як бы не заўважаў мяне, не чуў, а толькі сядзеў, думаў, і на яго губах то з'яўлялася, то знікала іранічная ўсмешка.

— Гаворку ты нейкую заводзіш зусім не да месца,— папракнула я бацьку.— І не стары ты зусім, татка! Ну, давай узніміся! Ну, давай жа, давай!..

— Пачакай жа, Стэфа.
— Не, не!
Ён грузна ўзняўся; я абшчапіла яго за плечы, тузала, смяялася, спрабуючы пакруціць на месцы.
— Не, дачка, не. З мяне танцор, ведаеш, благі. Чакай жа, чакай! Мне там пляменнікі дыхнуць не даюць, а ты тут узялася...
— Падраслі, мабыць. Даўно ж я іх не бачыла. Скажы, а пенсію Надзейка атрымлівае цяпер?
— Пакуль што не. Малая, кажуць, выслуга ў яго была. А дзе яе ўзяць, калі чалавек не дажыў свайго. Нейкую паперку шукаюць, бюракраты.
— Разбяруцца...
— Але ж час ідзе!.. Ну, а жэўжыкі слаўныя. Збіраўся сюды — абодва ўчапіліся. Куды, пытаюцца. Кажу, у горад паеду. А які горад? Заводы ў ім ёсць?.. Загадалі: прывязі машыну. Каб сама ехала, з маторчыкам. Прыйдзецца купляць, што зробіш!.. Харошыя жэўжыкі!..
Усмешка сагнала хмурнасць з яго твару, бацька стаў бокам да акна, адсунуў фіранку, пачаў углядацца праз шыбы. А я глядзела на яго плечы, на каструбаватыя пальцы, што былі сашчэплены за спіною,— яны ляжалі спакойна і нерухома, быццам каротка адсечанае карэнне.
— Мала чалавеку трэба, каб супакоіць. Зусім мала,— урэшце сказаў ён.— Пагаварыў з табою, і адлягло. Табе я болей, чымся сабе, веру... Рознае, ведаеш, казалі. А мне крыўдна вельмі гэта чуць. Бацька ж, не хто-небудзь...
Ён гаварыў разважліва, быццам намагаўся пераканаць невядомага чалавека, што стаяў за акном і маўкліва слухаў яго. Я прыпала да бацькавых плеч, прыціснулася, як у даўнія гады маленства.
— Скажы, татка, а што казалі?
— Сама разумееш, што могуць плесці на жанчыну, калі яна адна жыве. Ды яшчэ ў горадзе.
— І ўсё ж, кажы мне праўду?
— Праўду? Яна цяжкая. Не кожны ўзніме яе.
— Я вытрываю...
— Казалі, за тыя рэстараны і мужык кінуў і жыць не схацеў разам. Ад таго, маўляў, і пайшло ў сям'і...
— На чужы раток не накінеш платок.
— Усё ж ты пасцеражыся. Прашу. А калі што якое — плюнь. Ды вось гэтак! Вось гэтак! — бацька злосна пашараваў падэшвай.— Чэсны чалавек у душу да цябе не па-

лезе. А паспрабуе каторы — дай па мордзе. Няпраўда, ацхне!..

Я прадбачыла гэтую размову, але цяпер, калі яна пачалася і бацька гаварыў тое, пра што я думала, яго словы прынеслі расчараванне і крыўду. Няўжо гэткі маленькі свет! Кожны твой крок ведаюць у Баравічах, самае сардэчнае, схаванае ад усіх, даўно абгаворана, заплямлена. Крыўда расла ў душы, але гэтая крыўда не датычылася бацькі, а была скіравана на нешта іншае, чаго я сама яшчэ добра не ведала, а толькі думала пра тое, думала вельмі даўно і ненавідзела.

Бацьку я была ўдзячна. Удзячна за тое, што ён не папракнуў мяне, за тое, што ён, пачуўшы нагаворы, першы кінуўся на дапамогу і абараняў мяне. Я была ўдзячна яму, але не хацела прымаць ні яго дапамогі, ні спачуванняў. Бацька ведаў маю натуру. А я ведала яго. У вонкавай строгасці я адчувала ноткі пяшчотнай клапатлівасці, спагады, і гэта вар'явала мяне. Да д'ябла дапамогу! Да д'ябла плёткі. Я сціскала кулакі і ў той жа час разумела, што мой шал ідзе не ад поўнай шчырасці, што я хітрую з сабою, спрабую ў нечым ашукаць сябе.

— Цяжка бывае, татка,— раптоўна прызналася я бацьку. Прызналася, хоць і не хацела рабіць гэта, словы ішлі ад сэрца.— Пагляджу часам на сябе ды думаю: гаротнае ў цябе жыццё, Стэфка!

— А скуль яно павінна быць лёгкім? Падумай! Рабочы чалавек ты, а яму жыць — не гуляць...

— Я ведаю, але на душы часам бывае вельмі цяжка. Хоць ты тапіся тады бяжы...

Першая скарга на цяжкасці. І каму? Бацьку! Маладая, поўная сілы, я шукала падтрымкі ў чалавека, якому сама павінна быць добрай надзеяй і апірышчам у жыцці. Гэта ж не ён мне, а я яму павінна і абавязана памагаць ва ўсім. Дзіва нейкае! Толькі ж што я ў думках адвяргала нават спагаду, не дапамогу, а толькі намёк на яе...

Бацька па-ранейшаму глядзеў на падворак. Вось ён стаіць, дарагі і блізкі мне чалавек, а я спрабую адшукаць нейкія падставы, каб выказаць яму недавер, нейк адгарадзіць ад сябе... Дзеля чаго я гэта раблю?.. Трэба давяраць яму. І з той прычыны, што бацька быў тут, што ён любіў мяне і быў гатовы абараняць мяне, як малое дзіця, у маім сэрцы з вялікай сілаю забуяла ціхая і спакойная пяшчотнасць да бацькі.

— Навошта маркоціцца, татка. І не зачэсвай ты валасы на гэты бок. Во як трэба! Прыгажэй!..

Я направіла яму валасы, ён строга адвёў маю руку.

— Колькі разоў табе гаворана... І-іiэх, дзіцятка ты горкае. Дзіцятка. Вось што...

— Падрасту — паразумнею!

— Ужо ж! Чаму я не навучыў,— ой, хутка людзі навучаць!

Бацькаў клопат здаваўся наіўным, непатрэбным. Залішне, зусім залішне трывожыцца ён пра мой лёс. Зусім дарэмна! Але ад таго, што гэтая трывога за мяне жыла ў сэрцы другога чалавека, я адчувала сябе больш упэўненай і смелай. Мая маленькая ўласная слабасць згубіла цяпер сваю значнасць; яна, як халодная вада, што лінулі на гарачае жалеза, выпарылася, адляцела парай. А жалеза набыло гарт.

Не, татка. Я не дзіця! Я дарослы чалавек і ведаю, чаго хачу ад будучыні. Сваё жыццё трэба прайсці добрым шляхам. Трэба зрабіць нешта вялікае і патрэбнае людзям. Без гэтага жыць нельга!..

## 19

Я спала цяпер па-ваўчынаму — трывожна і насцярожана. Шалёнае галёканне гракоў на клёнах у суседнім садзе, перазвон малаткоў, што лупілі жалезныя блінцы па даху нядаўна збудаванага гмаха, сігналы аўтамашын і ўсе іншыя гукі абміналі мяне: сэрца, як радыёпрыёмнік, што пастаўлены на нейкую адну пэўную станцыю, было глухое да ўсяго іншага і прымала толькі голас дачкі, нават самы слабы.

Яна толькі павярнула галоўку, невыразна вякнула, нават не абудзілася, а я вокамгненна страпянулася, ускочыла, як па трывозе, гатовая захінуць малое дзіця ад любое бяды. Марынка спала, склаўшы банцікам губкі; у сне яна мармытнула нешта, і гэта абудзіла мяне. Я пасядзела на ложку, супакоілася і зноў лягла, трымаючы руку на краі калыскі, што стаяла ля майго ложка. Сну ўжо, аднак, не было, ён знік разам з трывогай, пакінуўшы ва ўсім целе бадзёрасць і сілу. Я асцярожна пацягнулася і ціхенька злезла з ложка.

Шырокая штора нібы ўздрыгвала ад хрыпатага галёкання гракоў. Расчэсваючы валасы, я добра бачыла праз рэдкі ўзор цюлю ўсё тое, што робіцца за акном. Трахім

працаваў у садзе з рыдлёўкай. Непадалёк ад яго пахаджваў ля яблыні з крывою садоўніцкаю пілкай мой бацька. Ля кустоў агрэсту, у кутку саду, за студняй, поркалася гаспадыня, відаць, нешта саджала на лехах.

— Спіць яна? — запытаў бацька, калі я выйшла на падворак.

— Спіць.

Памыўшыся, я выцірала твар ручніком і глядзела на старыя клёны. Ля разбухшых, быццам пастаўленых адно на адно, гнёздаў біліся гракі; чорнае пер'е, выдранае дзюбамі, круцілася ў паветры і павольна падала на дол.

— Ноччу быццам і не чуваць Марынкі было,— сказаў бацька.

— Нават не прачыналася. Баюся, каб не захварэла...

— Мрояцца табе хваробы тыя. З чаго ёй хварэць?

Бацька павесіў пілку на штакеціну і, таропка, але асцярожна стаўляючы боты на брукаваны падворак, падаўся, нібыта падкрадаючыся, да хаты. Паклаўшы рукі на падваконне, ён некаторы час углядаўся ў дзяўчынку; бацькавы бровы зварухнуліся, зморшчыкі пабеглі ад носа на шчокі, і ён, апусціўшы штору, зрабіў мне пальцам знак — асцярожна!

— Спіць! — задаволена паведаміў бацька.— Здаровенькая дзяўчынка — таму і спіць. Гайсаць ёй па садзе яшчэ рана вата.

Бацька — ён збіраўся ісці ў горад — пачаў мыць рукі. Я стаяла побач, трымала ручнік і зноў сказала, што гэткі доўгі і моцны сон Марынкі мяне трывожыць. Бацька не схацеў нават слухаць мяне.

— Спаць, галоўнае, малой трэба. Во, калі крыху выб'ецца ў сілу, тады ёй падавай другое. Тады хадзіць...

— Пакуль з ёй лёгка,— сказала я.

— Падрасце, яшчэ лягчэй будзе.

— Калі тое свята!

— І не заўважыш нават.

— Так. Час бяжыць. Як згадаю, ажно страшна робіцца: тыдзень які — і адпачынак канчаецца...

— Паменей падлічвай. І журыся паменей. Бацька благога табе не параіць.

Гэта быў знаёмы папрок. Бацька, відаць, усё яшчэ не дараваў мне, што я не прыехала ў Баравічы зімою і адразу не паведаміла, што ў мяне дачка, а толькі потым, калі выйшла з бальніцы. Бацька прасіў паехаць у Баравічы з дзіцем. Я адмовілася. Чаму? Цяжка нават сказаць. Некалі

мяне палохала цяжарнасць, але палохала не толькі тое таямнічае, што адбылося ўнутры, глыбока пад сэрцам, а пагарда, якую я чакала ўбачыць па тварах людзей, палохала крыўдная праўда будучыні. Гэтыя жахі знiклі яшчэ ў раддоме і цяпер былі ўжо ўспамiнам пра нешта смешнае і несапраўднае. Я прывыкла да свайго пакойчыка. Мяне ніхто не турбаваў. Побач была дачка. Нечаканая пачцівасць Трахiма, гэтая нязграбная калыска, якую ён паставіў у мой пакой, пакуль я была ў бальніцы, змянілі мае адносіны да гаспадароў.

Бацька выцер рукі і ўскінуў ручнік на мядзяную драціну, што па-ранейшаму была нацягнута ад сабачага будана да брамы. Я прынесла бацьку гаспадарчую сумку.

— Бавіцца я не буду,— паабяцаў ён.— Рыхтуй снядана к, а я мігам. Бульбы купляць?

— Так. І малако ж, глядзі, не забудзь!

Я праводзіла бацьку да брамы і вярнулася. Ля яблыні па-ранейшаму рупна завіхаўся Трахім — раўнаваў вастраверхія піраміды смецця. Шалелі на клёнах гракі. Над старымі дрэвамі сінела празрыстая далеч неба, поўная загадкавасці і хараства. Дзіўная гэта рэч — жыццё. Яно можа быць цікавым і прывабным незалежна ад твайго настрою, ад тваіх жаданняў.

— Слаўны ранак які,— сказала я, падышоўшы да Трахіма.— А бочкі вы навошта паналівалі?..

— Яно ж гэтак заўжды: зацвітуць сады — марозы ціснуць.

— А вада што, уратуе?

— Крыху адцягне холад. Я з марозам сёлета ваяваць буду. Як запалю вогнішчы — усё цяплей яблынькам. Няпраўда, адолею! А восень падыдзе — паўнюткі сад. Марынку частаваць буду. Яна за іх увосень возьмецца.

— Доўга чакаць...

— Усё роўна. Вясной не папрацуеш — восенню не возьмеш яблычка.

Восень?.. Восень далёка. Яна была гэткая ж недасяжная — далёкая, як сінеча неба, што адбівалася ў спакойнай бліскучай вадзе бочак. Цяпер, калі буяла вакол вясна, мне не хацелася думаць пра непагодлівыя дні, і амаль немагчыма было ўявіць сабе Марынку з яблыкам у руках. Вялізны, чырванабокі яблык у гэткіх маленькіх ручанятках! Гэта далёка, вельмі далёка яшчэ!..

Трахім узяўся пілаваць сухі камель вішняку. Пілка спрытна лётала ў яго руках, і з густых бліскучых зубчыкаў

ляцеў смаляна-пахкі жоўты пыл. Гаспадыня па-ранейшаму поркалася ля кустоў агрэсту, але галава яе была павернута ў мой бок, і я разумела, што яна ўсё заўважае і прыслухоўваецца да нашае гаворкі. Урэшце гаспадыня ўзнялася і падышла.

— Якія сакрэты тут? — запытала яна, атрэсваючы спадніцу.— Дабіла, Трахімка, агрэст. Поўна ягад сёлета павінна быць. Поўна... Марынка ўсё спіць?

— Спіць,— адказала я.— Ёй клопату няма.

— Праўда, які клопат малой,— уздыхнула гаспадыня.— А ты, матачка, круцішся, як той скурат на агні. А вырасце? Малыя дзеткі — малыя бедкі, як гаворыцца. А вырастуць дзеткі, прыйдуць вялікія бедкі...

— Бярыся ты за моркву,— параіў Трахім.

— Не, напраўду. Вось сядзела за студняй ды падумала. Гараньку гадавалі, гадавалі. А дзе ён цяпер?.. Галаву стлуміў і паляцеў. А мы адны засталіся. Як сіла ёсць, дык кратаешся. А потым...

— Моркву, кажу, бярыся саджаць!

— А потым хто табе дасць тую сілу? — запытала гаспадыня, не звяртаючы ўвагі на мужавы словы.— Нідзе не возьмеш, ім усё аддасі, а ці ж падзякуюць яны?.. Во, суседку нашу сынок аддзячыў. А ўжо чаго яму не хапала? Як сырок у масле катаўся, можа, нат цар таго не меў. А вырас — у банду пайшоў. Ля станцыі пільнавалі людзей і рабавалі. А цяпер восем гадочкаў мае. Вось і гадуй тых дзетак...

— Моркву, кажу!

— Буду саджаць, буду,— спахапілася гаспадыня, адчуўшы ў мужавых словах небяспечны гарт.— Буду саджаць. Ці не паможаш, Стэфачка? Даруй, што прашу...

— Ёсць ёй занятак. Ёсць,— за мяне адказаў Трахім.— Не бядуй...

— Чаму? Я з ахвотаю, пакуль Марынка спіць...

Трахім перапыніў мяне:

— Прачнецца Марынка — сюды яе нясі. А цяпер бацьку сустрэнь. Вось твой занятак...

За маёй спіной бразнула брама: прыйшоў бацька. Сумка ў яго руках была добра напакавана і закрыта газетамі. Мы ўвайшлі на тэрасу. Бацька ўзяўся выцягваць з сумкі пакункі.

— Мяса вось гэта. Масла. Селядзец яшчэ...

— А гэта?

— Думаеш, сабе ўзяў? — бацька пакратаў пальцамі белае рыльца бутэлькі.— Калі госць які, на тое...

— Абяцаў жа мне!

— Абяцаў табе, што адзін не буду. А калі пад тваім наглядам, можна, здаецца...

— Не, татуня, цябе, відаць, не выправіш. А гэта што?

У маленькім кішэньчыку сумкі ляжалі мае грошы — бацька не чапаў іх. Няўжо ён здагадваецца, што яны ў мяне апошнія? А калі і не? Усё роўна! Я не змагу і не звярнуся за дапамогай да яго. Гэта ж смешна будзе. Дарослая дачка, сваё дзіця гадуе, на бацькавым карку сядзіць. Не! На два тыдні нам хопіць на пражытак, а там я пайду на завод.

— Мы пасварымся,— я хацела сказаць гэта строга, але строгасці не атрымалася.— Прасіла ж цябе — грошы адсюль браць!

— А мне без іх даюць.

— Ты знарок крыўдзіш мяне.

— Ну, забыўся я на тыя грошы.

— А ўчора?

— І ўчора таксама.

— Так што ведай: заўтра будзеш сядзець у хаце. Сама пайду...

— Будзе дзень — будзе сонца, як той казаў. Чакай, плача Марынка, здаецца. Не, спіць. Аднак зазірну я...

Бацька казаў гэта знарок, каб спыніць спрэчку, але я ўсё ж паддалася яго штучнай устрывожанасці, пайшла за ім. Спакойны тварык Марынкі супакоіў мяне, жаданне сварыцца з бацькам прапала, і я, зноў апынуўшыся на тэрасе, сказала з памяркоўнай іроніяй:

— Аднаго баюся, каб натурай у свайго дзядулю не пайшла. Што рабіць тады?..

— Радавацца. У нашай хаце народ усё ўпарты быў.

— Няхай яна лепей настойлівай будзе, а не ўпартай.

— Падрасце — пабачым. А цяпер за сняданак возьмемся. Бульба ад вячэры засталася?.. Вось ты яе мне і падсмаж...

— Я свежай згатую.

— Калі хочаш — сабе. А мне тую на патэльню кладзі.

Тонкія скрылікі бульбы злятал з нажа ў гарачы тлушч, цвірчэлі, курыліся парай. Густ бацькі — быў час — здзіўляў мяне, але потым, разы са два пакаштаваўшы звараную звечара ў шалупінні і ранкам падсмажаную

бульбу, я зразумела яе смак. І вельмі мала часу — а як гэта важна, калі спяшаешся,— займае гэткі сняданак.

Пакуль смажылася бульба, я паспела памыць пялёнкі, паставіла на стол талеркі. Потым пакроіла хлеб і паклікала бацьку снедаць. Ён увайшоў на тэрасу, паставіў крэсла да стала, але не сеў і пачаў здзіўлена паглядаць на падворак.

— Ю-юўўў! Нейкая дэлегацыя да нас шыбуе!

Па сцежцы ішлі да хаты трое: Фаіна Усцінаўна, Віктар Журко і нейкая надта знаёмая жанчына. Прыгледзелася ўважней і войкнула. Гэта ж Каця Дробат! Я кінулася ім насустрач. Фаіна Усцінаўна апярэдзіла ўсіх, першай абняла мяне і пацалавала. На мае вочы набеглі слёзы. Мне было і радасна, і сорамна, і непамысна ад гэтых нечаканых гасцей. Сышоў з тэрасы бацька, паздароўкаўся з усімі, а я ўсё паўтарала, што не чакала нікога, што вельмі ўзрадавана.

— Ты пачакай,— патрабаваў Журко.— Апраўданні потым. Спачатку віншаванні. Як гэта робіцца, Стэфа?

Ён чакаў ад мяне парады, і гэта рассмяшыла ўсіх; падкрэсленая афіцыйнасць, якую я адчула, калі называла бацьку імя Фаіны Усцінаўны, прапала.

— Ой, чэснае слова, не чакала вас!

— А мы чакалі, чакалі,— сказаў Журко.— Маўчыць Стэфа, як пад зямлю схавалася. Пачалі шукаць. Спачатку паехалі ў Баравічы...

— Туды ездзілі?

— Адзін толькі я. Адтуль пра ўсё і даведаліся,— сказаў Журко.

Мне хацелася бачыць сваіх сяброў у горкія дні адзіноты, калі я ляжала ў раддоме, хацелася стрэцца пазней, калі гэтая горыч прайшла і да мяне прыехаў бацька. І вось яны прыйшлі, а я не была падрыхтавана да гэтай нечаканай стрэчы, і тое, што паведаміў мне Журко, вельмі збянтэжыла. Ён ездзіў у Баравічы толькі для таго, каб даведацца!.. А ў мяне не знайшлося часіны напісаць простую паштоўку сваім сябрам!..

— Ніна! — гукнула Каця.— Бяжы сюды, Ніна!

Ніна Барысава стаяла ля брамы. Я не заўважыла, калі яна з'явілася там. Чаго ж яна затрымалася і не ідзе? Сабакі няма даўно, толькі драціна і подпіс на браме. Ніна ж ведае гэта!

— Я вартую машыну,— сур'ёзна сказала Ніна...— Каб не сцягнулі. Можа, яе на падворак увагнаць?

— А чаму ж не? Давайце адчынім браму. Татка, памажы.

— Не трэба. Машына універсальная і пройдзе ў любыя дзверы,— сказаў Журко, і я пачула ў яго голасе прыхаваны смех.

Віктар апярэдзіў мяне, падбег да брамы і моцна стукнуў кулаком па фарбаваных дошках.

— Адчыніся, Сезам!

— Чакай жа, Віктар, зараз бацька адчыніць...

Брама адчынілася. За ёй на траве стаяла блакітная дзіцячая каляска, пад ледэрынавым парасонам ляжаў вялізны букет чырвоных цюльпанаў.

— Таварыш Шукан! — Віктар па-вайсковаму, але з жартоўнай сур'ёзнасцю прыўзняў руку.— Дазвольце ўручыць вам новую машыну маркі «Марынка». Машына набыта на сродкі, сабраныя апаратарамі другой змены цэха электрапечаў Прыдзвінскага завода шкловалакна. Музыка — марш! Тум-туру-рум!..

Я бачыла Віктара неяк цьмяна, быццам ён адышоў некуды далёка і схаваўся за рэдкай сеткай блакітнага дажджу. Але чаму дождж блакітны? Ці чырвоны?.. Не, ніякага дажджу няма. Проста бліпічыць новая каляска, чырванеюць цюльпаны, міргаюць мае вейкі, і таму цяжка глядзець... А якія цюльпаны! Дзе яны растуць, гэткія прыгожыя!..

— Ой, Марынка мая плача! — схамянулася я, пачуўшы голас дачкі.— Бягу. Прачнулася!

— Гэта ж гракі крычаць,— сказаў Віктар.

— Не, не. Яна!

Я набегла ў хату. Марынка ціха, не на поўны голас, плакала ў калысцы. Я перапавіла яе, памыла тварык і ўзялася карміць. Ля хаты гаманілі, і мне добра было чуваць усё, што там гаварылі.

— Фармаліст ты,— нечага папракнула Ніна Віктара.

— Аказваецца,— у тон ёй адказаў Віктар,— апроч мяне, ёсць яшчэ высакародныя людзі.

—А ты што думаў? — запытала Каця. Пачуўся мяккі пошчак далоні.

— Правільна,— ухваліла Ніна.— Тут трэба вучыць крыху інакш, чым гэта робяць у нашым камсамольскім камітэце.

— Намёк? — пакрыўдзіўся Віктар.

— Хопіць ужо! — загадала Фаіна Усціпаўна.— Дайце мне цюльпаны. А каляску пастаўце на тэрасу...

Фаіна Усцінаўна з букетам у руках увайшла ў пакой. Я карміла Марынку.

— Твой партрэт, Стэфа.

— А мне кажуць, што не падобна зусім.

— Не, не... Ну, вось зараз ім пакажы. Яны ж чакаюць.

— Спярша накармлю. Як паела а шостай, то дагэтуль. Вы трошкі грамчэй гаварыце. Яна калі ссе — нічога не чуе... А цюльпаны дзе вы знайшлі гэткія цудоўныя?

— Віктар з Нінай прыдбалі. Не гавораць.

— Дзякуй вам, Фаіна Усцінаўна, за ўсё. І навошта вы каляску яшчэ стараліся...

— Хадасевічу дзякуй скажы. Ён гэта заўкомаўцаў прыціснуў.

— А ён адкуль мяне ведае?

— Памятаеш, у цэх прыходзіў, калі кранштэйны аўтаматычнай лініі зламаліся? Ты яму новы асартымент паказвала. Ён такі: аднойчы пагаворыць — доўга памятае...

— Калі тое было! Ён і забыўся даўно...

— Можа. Толькі цяпер да яго Віктар хадзіў, скардзіўся на заўком наш. І адразу ўсё знайшлося...

Мы гаварылі, як змову вялі, пошапкам. Я не магла прыгадаць таго дня, калі прыходзіў да нас у цэх сакратар парткома. Я чула словы Фаіны Усцінаўны, адказвала ёй, а думала зусім пра іншае. У мяне госці. Дарагія. Жаданыя. Мне трэба іх частаваць. Але чым?.. Учарашняй бульбай? Трэба тэрмінова паслаць бацьку. Няхай бяжыць, няхай нешта купляе...

— Тут цэлая гісторыя, увогуле,— дадала Фаіна Усцінаўна.

— Гісторыя? (Можа, толькі бацька сам там здагадаецца і пойдзе ў краму...)

— І яшчэ якая! Віктар яе і распачаў. Прыехаў і адразу да мяне. Дзе Шукан? Пайшла ў адпачынак, кажу. Я ж ведаю, ты ў Баравічы збіралася, да бацькоў. А ён смяецца: тут, у Прыдзвінску, кажа, яна. Даўно дачку нарадзіла. Я спалохалася. Сорамна, нічога пра сваіх людзей не ведаю! А ён рагоча. Пайшлі да Ханюцінай, кажа.

— У заўком? (Не, бацька яшчэ тут. Як жа яму сказаць, каб ніхто не пачуў?.. І ён яшчэ рагоча!..)

— Так, у заўком. Дапамогу, кажа, выцерабіць трэба. Ханюціна — сцяною: фонды ўсе. Хадзем, грыміць Журко, да Хадасевіча! Пайшлі. Усё знайшлося, ведаеш... Бач, яна зноў спіць!

— А гэта заўжды. Паесць і спіць, бо зморыцца.

— І добра. Гора менш. Добра, калі дзіця спіць! Хадзем! Трэба ж ім паказаць абавязкова!..

Мы выйшлі на тэрасу. Гаворка там адразу змоўкла. Журко ўзяўся за ражок прасцінкі, паглядзеў на Марынку. Ён сказаў тое ж, што казала Фаіна Усцінаўна:

— Партрэт Стэфы. Праўда, крыху зменшаны.

— Ш-шшш... І тут ён не можа сур'ёзна! — Каця адцягнула Віктара і асцярожна, з урачыстай сур'ёзнасцю ў вачах, глядзела на Марынку.

— А цяпер — усе ў сад! — патрабаваў Віктар.— Забірайце каляску і ў сад. Гэта ўжо ўзгоднена. А мы, мужчыны, тут гаспадары. Калі будзе трэба, вас паклічам...

Каляску вывезлі ў сад і паставілі пад грушай.

— Тут будзе добра,— заўважыла Каця.— І сад харошы. Я люблю, калі цвітуць вішні. Тут ёсць вішні? Так, вунь яны. Хараша... Толькі гракі... аглохнуць можна. Як ты іх трываеш, Стэфа?

— Прывыкла. Яны хутка палятуць адсюль.

— Куды? — здзівілася Каця.

— На поле. Падгадуюць маладых і палятуць усе разам...

— Нас клічуць,— сказала Фаіна Усцінаўна.

Я хацела застацца ў садзе. Ніна рашуча запярэчыла:

— Нам усё з тэрасы чутно будзе. І відно!..

На тэрасе гаспадарыў Журко.

— У гэтыя крэслы, Валянціна Мікітаўна. Тут гаспадар,— казаў ён, паспяваючы адразу рабіць усё: і перастаўляць крэслы, і жартаваць, і папраўляць на стале талеркі.— А тут дзядуля Марынчын. Пярэчанняў няма? І не можа быць...

Я зірнула на стол і з палёгкай уздыхнула. На талерках ляжаў сыр, ружаватыя пласты вяндліны, дзве залацістыя вэнджаныя рыбіны і побач з імі доўгі, абкладзены белымі колцамі цыбулі, селядзец. У цэнтры месцілася патэльня з бульбай. Усе нашы прыпасы выглядалі на вузкім кухонным століку ўнушальна і самавіта. І як да месца прыйшлася тут бацькава паўлітэрка!

— Ну, што ж, паселі? — весела запытаў Журко.— Тады прымаю асабістыя заяўкі на бульбу. Пад маім кіраўніцтвам смажылася. Фірменнае блюда!

— А на рыбу?

— Заяўкі не прымаюцца. Толькі на бульбу. Ліміт!

— Ай-ай! — спахапілася гаспадыня.— Гэта ж я капустку не паставіла! І думала ж!..

Яна выбегла з тэрасы і хутка прынесла вялізную місу белай, з ружовымі колцамі морквы, капусты.

— Таварышы! — войкнуў Журко.— Даю першую заяўку на капусту.

Каця, смеючыся, пацягнула яго за рукаў:

— Аціхні!

— Не магу! Не магу быць раўнадушны, калі бачу капустку. Белую. З ружовымі колцамі. З россыпам кмену. Але галоўнае не гэта. Мой тост за будучую касманаўтку Марыну!

— Ты ж казаў аператара?

— Я перадумаў,— з падробленай сур'ёзнасцю сказаў Журко.— Няхай яна ляціць на Марс. Стэфа, ты пусціш яе на Марс?

— З Віктарам, Стэфачка, не пускай,— кінула жарт Ніна.— Гэты да дабра не давядзе!..

Усміхнуўся нават Трахім і нешта сказаў, нахіліўшыся, майму бацьку. Было хораша і весела на гэтай маленькай і цеснаватай тэрасе. Ніякаватасць мая знікла. На нейкі час мне здалося, што мы сядзім у Баравічах, у бацькавай хаце, што да нас прыйшлі госці і я шчодра частую іх.

— Вы чулі? — запытаў Журко.— Усё! Гэткую абразу сцярпець?.. Не магу. Грамадска-застольную дзейнасць я перадаю Ніне. Бачыце, па чыіх касцях прайшла яна да ўлады?

Ніна смяялася:

— Ты узурпатар, Віктар. А мы — народ. А народ рана ці позна, ды бярэ ўладу ў свае рукі. Праўда, Каця?

— А ён не ведае? Трэба даць яму падручнік гісторыі за пяты клас. Няхай вучыць!..

Журко безнадзейна махнуў рукою і пачаў нешта ажыўлена абмяркоўваць з бацькам; Трахім далучыўся да іх.

Ніна сядзела насупраць мяне, час ад часу я адчувала на сабе яе вывучальны позірк. Не вытрывала, запытала:

— Што, змянілася я дужа?

— Наадварот, папрыгажэла. Але не думай, што гэта цябе ўратуе: усё роўна лаяць буду.

— Пачынай цяпер!

— Трэба было б. Ды ахвоты няма.

— Адкладзем тады. Скажы, што на заводзе?

— Жывём. Працуем. Пусцілі аўтаматычную лінію.

— А што цяпер Турава парабляе?
— На пенсіі. Пазаўчора сустрэліся. Ледзьве пазнала яе. Счарнела ўся...
— Хварэе?
— Якое там! Уласніцкі клопат заеў! Праўда, ёй на карысць пайшоў — патапела. Жвавая такая зрабілася, ведаеш. Запрашала на паваселле...
— Гэтак хутка збудавалася?
— Дзіва што! Там такая брыгада асела! Цесляры, як дубы. Ушасцёх!
— З будтрэста?
— Дзе там! Урвіцелі нейкія. Ну, што табе яшчэ напляткарыць? Журко ажанілі. Ды, пэўна, гэта ведаеш...
— Праўда? Ой, а я і не павіншавала.
— Камсамольскае вяселле было. Прыгожа. Зайздросна нават.
— Ты ўсё яшчэ не кінула?
— Чаго не кінула?
— Зайздросціць!
— Не, Стэфачка, не кінула. Гэта, мабыць, у мяне ў крыві...
Каця размаўляла з маім бацькам, дабрадушна падсмейвалася з Віктара, а я, гледзячы на яе вясёлы, шчаслівы твар, прыгадала раптам зімовы дзень, чыгуначную сталоўку і паспешлівае прызнанне Люды.
— Скажы, а Свяцiцкая як жыве?
Маё пытанне здзівіла Ніну.
— Люда? Яна даўно не працуе ў нас.
— Не працуе?
— Так. Зволілася і паехала. Пасварылася з Тумілiным, аблаяла яго невядома завошта і паехала. Куды?.. Нават не сказала нікому...
Нібыта ўяве стаялі перада мною сумныя Людзіны вочы. Толькі я адна ведала сапраўдную прычыну яе ад'езду, ведала і не магла, не мела права сказаць пра тое нават Ніне.
Якія дзіўныя шляхі кахання! Люда кахала Віктара, і яе няма тут. Каця падсмейваецца з Віктара, трымаецца з ім сухавата, а ён яе муж. Я параўноўвала — ведаючы, што раблю нядобра,— Кацю з Людай. Маленькія невыразныя вочы. Доўгі нос на круглаватым твары. Ускудлачаныя чорныя валасы. Не, вельмі невыгоднае параўнанне з пышнымі каштанавымі пасмамі і шэра-сінімі вачыма Люды. Эх, Віктар, Віктар!..

Праз гаману нечакана даляцела да мяне гаворка, што вяла гаспадыня з Фаінай Усцінаўнай.

— А начальства куды глядзела? — ціха запытала гаспадыня.

— У начальства свой клопат ёсць.

— А гэты чый?.. Дзіцёнка прыстроіў і шмыг-пыг. Ды скажыце мне, каторы там! Я ж яму...

— Не думаю, каб была нейкая карысць з гэткага ўмяшання. Асабістае жыццё — справа надзвычай тонкая...

— Яно і відаць. Тонка ўсё вашыя заводскія робяць. А дзе тонка — там і рвецца...

Словы гаспадыні насцярожылі мяне: у іх не было шчырасці. Я адразу здагадалася, што яна не абараняе мяне, а проста хоча даведацца пра тое, аб чым я маўчала раней і маўчу цяпер. Я спалохалася. Але мяне спалохала не дапытлівасць гаспадыні, якую я адчувала даўно, а зусім іншае. Мне здалося, што ўсе тыя словы — добрыя і ветлівыя словы, што былі сказаны тут, на гэтай тэрасе,— падман, толькі спроба схаваць сапраўднае, тое, пра што думае кожны, але ўслых не гаворыць. А можа, усё гэта ідзе ад мае падазронасці? Не, не... На тэрасе кожны ведае, што ў Марынкі бацькі няма. Ведае і маўчыць!..

Фаіна Усцінаўна прыкмеціла маю разгубленасць і, відаць, здагадалася, як цяжка мне ўсміхацца і быць вясёлай. Яна першай узнялася.

— Ну, дзяўчаткі, пагасцявалі, і досыць. Даруйце, гаспадары, а нам і час ужо. Дзякуем вам за ўсё.

Мы ўзняліся з-за стала, але пайшлі яшчэ не адразу: гаворка ішла і на тэрасе, і на прыступках, дзе Віктар нешта пачціва даводзіў гаспадару. Мне здалося, што Марынка заплакала. Я выбегла ў сад. Фаіна Усцінаўна ішла следам.

— Спіць?

— Так. У садочку яна любіць,— адказала я.

— Ты яе паболей у садзе трымай. Дзецям гэта карысна,— сказала яна і нечакана дадала: — Цябе Чураба шукаў. Пазаўчора да мяне прыходзіў.

— Не ведаю такога. Адкуль ён?

— Працуе на будаўніцтве другой чаргі. Прарабам. Нядаўна дэмабілізавалі. Нават у сержанцкіх пагонах яшчэ...

— Во, цяпер ведаю. Гэта Раман, знаёмы мой адзін...

У галлі дрэў прачнуўся вецер; зялёныя, але зусім малюпасенькія, з попельнымі акрайчыкамі, лісціны грушы зварухнуліся і заблішчалі на сонцы — здавалася, што дрэва задрыжала ад холаду. Я прыгадала паездку ў Бара-

вічы, сустрэчу з вясёлым сяржантам. Значыцца, ён усё ж такі прыйшоў на завод!..

— Адпачынак твой канчаецца,— не то запытваючы, не то адзначаючы гэты факт, сказала Фаіна Усцінаўна.

— Так... Мільгануў, і няма.

— Затое ёсць дачка!

— Так... Марынка ў мяне харошая. З галавы толькі адно не ідзе: прыйду ў цэх, а малое куды? Нават не ведаю...

— Мне здаецца, што з гаспадыняй можна дамовіцца.

— Не хочацца прасіць яе.

— А яслі? Чаму ты не гаворыш пра іх?

— Гэткую малыху? Не, у яслі, пакуль не падрасце, не хачу.

— Дарэмна. Заводскія яслі добрыя. І блізка вельмі. І зручна.

— Не, няхай крыху падрасце. Потым...

— Глядзі сама. Галоўнае — не бядуй. Выйсце заўжды бывае.

— А я і не бядую. Толькі сорамна крыху! Госці прыйшлі, а я жабрачка быццам. Пачаставаць па-людску не змагла...

Ведала, непатрэбнае, лішняе кажу. Так, несправядліва паставілася я да сваіх сяброў. Гэтак шчыра смяяліся ўсе, гэткая добрая размова ішла ў нас на тэрасе.

— Ой, ты ж не так усё гаворыш! — Фаіна Усцінаўна нават адступіла ад мяне на крок.— Усё цудоўна было. І рыхтуешся — не заўсёды гэтак атрымаецца... Мы ж не гарэлку ішлі піць. А ты пра сорам нейкі гаворыш. Лухта! Абманваць чалавека, красці, нягоднікам быць — вось гэта і сорам і ганьба.І пакінь ты, калі ласка, пра рознае глупства думаць. Табе вунь аб чым клопат! Дзяўчына расце. Аб ёй і думай. А заўтра на завод падбяжы. Нам прэміроўка за той квартал выйшла. У цябе як з грашыма?

— Ёсць пакуль што.

— І бюлетэнь дагэтуль не здала! Заўтра ж прынось! І на гэтым мы і развітаемся... Віктар! Збірай усіх!..

Я праводзіла іх да брамы, стаяла і глядзела, як ідуць па вуліцы мае госці. Як я была ўдзячна ім за тое, што яны прыйшлі да мяне. Так, у мяне ёсць сапраўдныя сябры. А сваю адзіноту я прыдумала... Не, мабыць, гэта адзінае, што застанецца назаўжды; гэта тое, чаго ніхто не можа змяніць. Ні сябры, ні я сама. Так, так... Нават я сама!..

І чамусьці менавіта тут, калі ўсё вакол поўнілася со-

нечным бляскам, калі далоні мае не астылі ад поціскаў сяброўскіх рук, з гэткай яснасцю адкрылася мне нярадасная мая будучыня, тое, у чым нават сабе не хацела прызнавацца. Так, відаць, ніколі я не змагу і не буду смяяцца гэтак шчыра і бесклапотна, як смяяліся зусім нядаўна — толькі што! — мае сябры. Яны пайшлі, а я засталася. І гэтак будзе заўжды. Я ўсё роўна застануся адна, і дзе б ні прыйшлося мне быць, пра што ні прыйшлося думаць, мае думкі будуць увесь час заняты маёю ўласнай адзінотай. Я разумела гэта. Я ведала, што, калі нават змагу перасіліць сябе, адкіну тыя думкі, усё роўна застанецца тое, чаго адкінуць немагчыма. Марынка! Дзяўчынка, у якой няма бацькі. Мае сябры былі тактоўныя і не запыталі, дзе ён. Затое запытала гаспадыня. Запытала знарок. Фаіна Усцінаўна не адказала ёй. І мела на гэта права. Ёсць і ў мяне гэткае права — права маўчаць. Але прыйдзе час, і яго ў мяне не будзе. Марынка вырасце і захоча ведаць усё пра свайго бацьку, яна запытаецца пра яго ў мяне, сваёй маці, і мне прыйдзецца адказваць, бо ў яе, дачкі, будзе святое права ведаць усё. А што я скажу ёй тады?.. Памылілася? Пакахала благога чалавека?.. Дачка не паверыць мне. Дзеці ніколі не вераць, што іх бацькі благія, бо ў дзіцячых сэрцах жыве чыстая вера ў сілу бацькоў... У сілу?.. Так! У маім уяўленні бацька заўжды быў самы дужы, самы смелы, самы лепшы. І гэтак жа будзе лічыць дачка. І тады вінаватай буду я, бо заўжды лягчэй вінаваціць таго, хто побач, а не таго, хто далёка. Так, відаць, у гэтым і ёсць тая праўда, якой шукае маё сэрца. Мая памылка не ў тым, што я пакахала, а ў тым, што не змагла адваяваць сваё каханне, адстаяць, абараніць сваё шчасце!..

Гэтыя думкі жылі ва мне і хвалявалі ўвесь дзень, і я, занятая імі, не заўважала ні буркатлівасці гаспадыні, ні насцярожаных позіркаў бацькі — усё праходзіла перада мною, нібыта ў нейкім сне. Я спрабавала чытаць, але радкі праплывалі перад вачыма, абмінаючы розум, нічога не пакідаючы ў сэрцы.

Увечары я выкупала Марынку ў драўляных начоўках, якія бацька спецыяльна прывёз у мяху з Баравіч. Яна не плакала, боўтала ножкамі, і пырскі ляцелі ва ўсе бакі. Гэта вельмі расчуліла бацьку.

— Смялей, Марынка, лупцуй! — раіў ён, смеючыся.— Жыццё смелых любіць. Мы яшчэ ў Дзвіне пакупаемся!..

— Ваду любіць. Колькі купаю — аніводнага разу, каб заплакала.

— Жанчына сур'ёзная расце. Таму...

Не плакала Марынка і потым, калі выцiралі яе, закручвалі ў пялёнкі, і вельмі хутка заснула. Я торкала сасок ёй у губкі, заліла ружовыя шчокі малаком — Марынка спала. Яна не прачнулася нават, калі выцірала ёй тварык прасціною і клала ў калыску.

— Ужо згамапілася? — здзіўлена запытаў бацька, убачыўшы мяне на тэрасе.

— Спіць. Потым пакармлю, як прачнецца...

Я выйшла ў сад па каляску і спынілася, зноў растрывожаная ўспамінамі; але цяпер тыя думкі, што ўдзень вярэдзілі нутро, былі сцішаныя, быццам спавітыя шэранню. Вакол усё нібыта драмала, завалочанае вечаровай смугою. У галлі старых клёнаў, умошчваючыся на ноч, з прыцішанай заклапочанасцю галёкалі гракі. На бліскучых нікеляваных ручках каляскі ляжаў незвычайны барвовы водсвет — водбліск вечаровай зары быў змешаны з адбіткамі ружовых пялёнак, што віселі на шнуры ў садзе.

Сонца сплыло на захад — вялікае і агнянае. Заўтра раніцой яно зноў узыдзе над зямлёю. Я чамусьці падумала пра гэтую няўмольную паслядоўнасць і неспадзеўкі адчула, што ў душы няма трывогі, няма бязладных думак. Калі хочаш пабачыць сонца, трэба чакаць дня. Вось што трэба рабіць мне. Трэба чакаць! Так, чакаць. Міхась прыйдзе!

Не можа не прыйсці чалавек, калі яго хто-небудзь вельмі чакае. Ён павінен прыйсці!

А Міхася мы будзем чакаць удзвюх.

## 20

З чырвона-белых ад гарачыні фільераў бясконца плыло тонкае бліскучае павуцінне. Думкі быццам асядалі на ім, блыталіся. Я глядзела на патаўсцелую нітку, што намотвалася на шырокае кола бабіны, а думала зусім не пра заводскія справы. Як там у хаце? Як Марынка, маленькая мая дачушка?..

Была дома — цягнула сюды, на завод. Стала ля электрапечаў — мяне з яшчэ большаю сілай цягне дамоў, хочацца кінуць усё і бегчы туды, узяць на рукі дачку, глядзець на яе, дакранацца рукамі... Я магу глядзець на яе доўга-доўга. Проста сядзець і глядзець, як яна спіць, як шморгае носікам і варушыць губкамі...

— Каторая гадзіна, Стэфа?

Волька Лемеш — мая вучаніца — падышла і стала побач. Я не адразу адказала ёй: у думках я ўсё яшчэ была там.

— Дзесяць роўна. Яшчэ дзве засталося. Ідзі ўзваж!..

— Добра. Давай...

Яна ўзяла ў мяне бабіну, лёгка падкінула яе на руках і пайшла да кантрольных прыбораў.

Зладжана гулі электрапечы. Шчоўкалі дазатары, і па выгнутых кольчатых трубках скочваліся бліскучыя шкляныя шарыкі. Хутка прыйшла Волька, паведаміла, надзяваючы бабіну на касету:

— Цюцелька ў цюцельку!

— Налаўчылася. Не баішся цяпер?

— Не баюся.

— Бачыш, на сваім настояла.

— Заўпарцілася,— сарамлівая ўсмешка выгнула тонкую лінію Вольчыных губ і засвяцілася ў вялікіх цёмнашэрых вачах.— Калі ўжо што надумала, самой страшна робіцца. Памятаеш, як сюды прасілася з размоткі? Аж да самога дырэктара прабілася. І Хадасевічу ад мяне спакою не было. Цяпер мне б тэхмінімум адолець...

— На выдатна здасі.

— Не, яшчэ ранавата. Пачакаю...

Прыгожым, дакладным рухам Волька начапіла касету на кручок аўтаматычнай лініі; касеты, як вялізныя дулі, павалі праплывалі над намі.

Волька падабаецца мне. Падабаецца даўно, з таго самага першага дня, як толькі стала маёй вучаніцай. Я бачыла яе дапытлівасць і памагала ва ўсім. На першым часе Волька баялася ўключаць вымяральныя прыборы. Яна не хавала гэтага і адразу ж шчыра прызналася, што ёй лягчэй змену адстаяць, чым правесці кантрольнае ўзважванне. Я памагала ёй, а цяпер яна робіць усё самастойна і робіць гэтак лоўка, што можна пазайздросціць.

Так, жыццё імкліва ляцела наперад. Зусім нядаўна грукацелі па цэху цялежкі падносчыц, а цяпер іх замяніла аўтаматычная лінія, і няма нават прафесіі падносчыцы. Учора Журко казаў мне, што праз год на заводзе ўкараніцца комплексная аўтаматызацыя працэсу выцягвання валакна. У канцы цэха, бліжэй да размотачнага аддзялення, пачынаецца мантаж дыспетчарскай.

— Ты не позніцся? — запытала Волька.

— Яшчэ дзесяць хвілін.

— Бяжы. Адна ўпраўлюся.

— Яны ўсё роўна нічога не вырашаюць. Гаспадыня яе глядзіць.

— Табе пашанцавала, бо за дзецьмі ніхто не хоча глядзець — лепей ідуць працаваць. І правільна. Мне, напрыклад, скажы з малым сядзець — ніколі не пагаджуся. А сядзяць жа некаторыя. Маладыя...

Вось гэткая мая Волька. Можа пажартаваць, пасмяяцца, і тут жа ўмудроная жыццёвым вопытам практычная разважлівасць. Я не сердавала на яе і не спрачалася з ёю. Навошта? Яна нічога не разумее, не ведае, што гэта значыць — дачка!..

Пасля змены я не ішла, а нібыта ляцела да аўтобуснага прыпынку. Аўтобус толькі што спыніўся, пасажыраў было шмат, але я неяк уціснулася. Дзверы завішчалі, гэцнулі за спіною, і ўсё засталося там, на вуліцы: і гаворка з Волькай, і гуд электрапечаў, і клопат пра бабіны, і жыццё цэха. Была толькі адна думка — Марынка! Я думала толькі пра яе; і чым бліжэй была хата, тым трывожней рабілася на душы. І гэты яшчэ аўтобус! Чаго ён цягнецца, бы хворы!..

Марынка яшчэ спала, калі я прыбегла дахаты, і гэта адразу супакоіла мяне. Няхай спіць. Нават і добра, што яна яшчэ не прачынаецца. Мне трэба нешта згатаваць паесці і зрабіць тое-сёе ў пакоі: спяшалася на змену, не паспела. Ды і пялёнак цэлая капа!

— Як Марынка сябе паводзіла? — было маё першае пытанне.

— Мне з ёй клопату мала,— паведаміла гаспадыня, узнімаючыся з прыступак ганка.— Поўную бутэлечку выпіла. Праўда, мокранькая была. Дала ёй усё сухое. Пагуляла яна крыху, ручкамі пабоўтала і заснула. Харошае дзяўчо!..

Я вынесла начоўкі на тэрасу і ўзялася мыць пялёнкі. Сэрца поўніў гонар: Марынка расце паслухмяная. Я заўважыла, варта каму-небудзь сказаць нешта добрае пра маю дачку — і ў мяне адразу расце прыязнасць да гэтага чалавека. Ведаю, не зусім правільна гэта. Ведаю і нічога не магу зрабіць.

Марынка?.. Так, прачнулася!.. Я кінула ў начоўкі недамытыя пялёнкі, страсанула ад мыльнае пены рукі і, спешна выціраючы іх, пабегла ў пакой.

— Плача! — гукнула з саду гаспадыня.— Марынка плача!

— Чую! Чую! Есці яна хоча. Забавілася я тут, а час ужо...

Апынуўшыся на руках, Марынка адразу сцішылася, разглядаючы мяне. Я перапавіла яе, узялася карміць. Яна адразу прыпала да грудзей, пачала прагна ссаць.

— Згаладалася? Во як табе без мамы. Ну, еш, еш! Не адбяру...

Марынка зрэдку плёхкала вейкамі і здзіўлена, даверліва глядзела на мяне, жмурыла вочкі, быццам падглядала за мной. Як тут не ўсміхнуцца, калі ты бачыш гэтыя хітраватыя вачаняткі!..

— Што, сарамна? — як у дарослай запытала я.— А хто гэта ў пялёнкі напрудзіў? Ды плакаў яшчэ?.. Плакаць не трэба. Вось зараз ты паясі, потым я пялёнкі памыю, абед згатую, і тады пойдзем гуляць. Далёка. На раку. І галубкоў пабачым, а цяпер паляжы. Вось табе і забаўка...

Я ўладкавала Марынку ў калысцы, кранула рукой стракатую цацку, што боўталася на нітачцы.

— Глядзі, які папугай прыгожы. Праўда, галубкі лепшыя, бо жывыя. Так што калі ты ціха паляжыш, а я спраўлюся, дык мы іх пабачым... А калі мама не памые кашулькі, у чым на раку ехаць? Таму ляжы ціхенька...

— Ньдзя,— зусім нечакана вякнула Марынка.

Гэта быў зусім неасэнсаваны гук, і яго нельга было ніяк звязаць з маім пытаннем. Але ж гэта першае слова! Яно ўзрушыла мяне незвычайна, выклікала такую хвалю пяшчотнасці, што я ледзь не задушыла Марынку. Мне хацелася крычаць на ўвесь свет, што мая дачка сказала першае слова, што яна пачынае ўжо гаварыць!..

Я выбегла на тэрасу і разгубілася. Гаспадыня, схіліўшыся над начоўкамі, дамывала пялёнкі.

— Навошта ж вы... Не трэба!.. У вас свайго клопату поўна...

— Мой клопат ёй! Не пасохне ён, як Трахімка кажа.

— Усё ж няёмка мне нават. Давайце я сама...

— Не чапай, кажу! Не чапай! — рашуча запярэчыла гаспадыня, калі я памкнулася стаць ля начовак.— Гэткая навіна мне! Твая хоць мала ліе. А мой Уладусь праз кожную гадзіну струмень даваў. І крычаў. Во ўжо крыкун быў. На рукі возьмеш — маўчыць. Пакладзеш — ратунку няма. Нібыта адкрычаць сваё спяшаўся. І адкрычаў, бедачок, зямельку недзе парыць...

Я не пазнавала гаспадыню — быццам не тая жанчына стаяла ля начовак. Яе нечаканая клапатлівасць і шчырае

прызнанне ашаламілі мяне. У яе быў яшчэ сын? Яна ж ніколі не казала пра яго? А Трахім? І ён маўчаў!

— Уладусь, прабачце, хто вам?

— Сын ён нам. У сорак другім у зямельку лёг. А дзе той куточак — ніхто і не ведае...

— Як жа гэта? Нехта ж павінен ведаць... Людзі...

— Людзі! — вусны гаспадыні перакасіла грымаса болю.— Людзі! Яны ж майго Уладуся і звялі з тропу. У фашысцкія паслугачы і запісалі яго тыя людзі. А які з яго паслугач? Дзіця! Ён жа зусім слабенькі ў мяне быў. У школу даўней збіраецца, а я ўслед іду — пачастунак нясу. Як аддам на пераменцы і супакоюся: сыты хлопчык. Праз тое ў нас з Трахімам і сваркі кіпелі. Ён яго ўсё ў строгасці хацеў... А ў мяне ад тае ягонае строгасці сэрца балела. Ды што, зрэшты, паробіш? У кожнага свая долечка...

— А як жа... Ён што? На фронце загінуў?

— Не, тут. Недзе пад горадам. Прыйшлі фашысты, яго ў паліцыю за фурмана ўзялі. Нехта па злосці шапарнуў, што ён з конямі можа ўпраўляцца. Таму і паставілі. Колькі галасіла я. Ён жа тых коней горш агню баяўся. Білі яго, катавалі — усё не верылі. А як паехалі яны на партызанаў пад Банонь, дык і не вярнуўся Уладусь. На міне парвала. А ты мне — людзі, кажаш. Каб не людзі тыя, хто б такога дзіцёнка ў фурманы звалок?

Нечаканае прызнанне гаспадыні ўсхвалявала, абудзіла ў маёй душы дваістае пачуццё: карцела паспачуваць і ў той жа час — пярэчыць, давесці, што на ўсіх людзей нельга зляваць. Але жаданне спрачацца хутка прапала. Яно знікла адразу ж пры адной толькі думцы аб тым, што перажыла гэтая жанчына, пры думцы аб невядомым мне чалавеку, чый трагічны лёс быў да гэтага дня тайнай для мяне і вялікім горам для гаспадароў гэтай хаты. І ўсё ж такі я не магла змаўчаць.

— Ну, не ўсе благія,— сказала я.— Харошых людзей больш.

— А мне як што завадзіла: мала добрага я ад людзей бачыла. Што і зраблю — усё не так, усё абгавораць. Я ім вінна быццам. А што?

Па яе голасе адчувалася, што яна звяртаецца зусім не да мяне, а гаворыць з кімсьці другім, быццам нешта даводзіць: на яе твары была ўсё тая ж горкая ўсмешка.

— Нічога я не вінна,— строга адказала сама сабе гаспадыня.— Ты вось паслухай. Пасля вайны Гараньку сабе

ўзялі, за сыпа ўзялі. Каму б там рупіла? Дык жа ўвесь правулак крыкам лёгся: уладу, маўляў, улашчыць надумаліся! Гэта быццам я мінулага забаялася з Трахімам. А яго тады яшчэ і не было дома. І пайшла я на тое для таго, што сэрца балела, ды і горка ў хаце адной. А хто гэта зразумеў? Нават Трахім не адразу зразумеў. Ён мне што казаў? Тое ж самае: трымай Гараньку ў строгасці. А якая строгасць да хлопчыка, калі ён слабы зусім? Я ўжо і так, і гэтак, і ўдвая... А мой адно трубіць: сапсуеш хлопца, сапсуеш! А чым? Тым, што клопат пра яго ў сэрцы? Ці гэты спектакль з судом наладзіў. Ці ж мне тыя грошы патрэбны? Колькі майго жыцця засталося?.. Гараньку ўсё стараюся... Усё пра яго мой клопат, пра яго... Вось ты — маладая, разумная — скажы мне, старой дурніцы... Блага раблю?

Гаспадыня патрабавала немагчымага. Яе пытанне збянтэжыла мяне больш, чымся нечаканая і трывожная споведзь збалелай душы. Што я магла адказаць гэтай жанчыне?.. Што магла параіць?..

— Н-не ведаю нават... На чыгунцы, здаецца, нядрэнна зарабляюць...

Гаспадыня вылаялася.

— Хай яна гарам пойдзе, тая чыгунка! Яна ў мяне Гараньку забрала. А ці ж ёсць такі закон — ад старых бацькоў сына адбіраць? Няма такога закону. Добра — ты жывеш у хаце, а калі пойдзеш, а Трахім у рэйс выправіцца? Хто вадзіцы падасць, калі што надарыцца?.. Не ўжо, як прыедзе — на парог ляжма лягу, не адпушчу. Што, яму тут цесна? Цішыня. Спакой. А ён гэта любіць. Даўней, як у школу хадзіў, дзе грымнеш — ён адразу: «Бабуля, цішэй: сплю я!» Жартаўнік. Але на пальчыках ужо хадзіла. А Трахім знарок грукаў... Ну, вось і пялёнкі твае... Ускінь на драціну, няхай сохнуць...

Гаспадыня ажывілася; на яе твары ўжо не было горкай усмешкі, дробныя кроплі поту, быццам яна плакала, аселі на шчоках, але вочы былі сухія, строгія і голас няветлівы і халодны. І менавіта голас неспадзеўкі адкрыў мне хітрыя захады гаспадыні. Дык вось у чым прычына нечаканай споведзі. Нічога не змянілася ў нашых адносінах, усё засталося ранейшае: і варожасць, і непрыязнасць, і хлуслівасць. Падробленай шчырасцю гаспадыня вымагае тое, чаго не дасягнула падманам і хлуснёй. Яна не прымірылася і помсціць мне цяпер за тое, што я жыву ў хаце, што я бачыла яе разгубленасць і слабасць тады, на кухні,

калі Трахім прымусіў сесці на крэсла і ў прысутнасці мяне і Ніны наладзіў суровы допыт.

І ўсё ж я не крыўдавала. Цяпер, пасля таго, што я пачула, мне цяжка было вінаваціць гаспадыню за мінулае, за яе адносіны да мяне. Прыгадваць мінулае мне не хацелася. Навошта? Гаранька прыедзе, і мне трэба будзе некуды перабірацца. Не вельмі ўжо і вялікае гора. Яго не параўнаеш з тым, што адбылося пад гэтым дахам даўным-даўно, у той час, калі Прыдзвінск быў вызвалены... У сем'ях сустракалі бацькоў і сыноў з перамогай... А старыя?.. Што сказаў ёй Трахім, калі вярнуўся дахаты з войска?.. Што думаў ён тады? І цяпер?.. А гаспадыня?.. Можа, толькі па дурноце сваёй піхнула яна свайго сына на шлях здрады і потым неаднойчы раскаялася?..

Лёс гэтай жанчыны раптам павярнуўся да мяне новай, нязнанай раней гранню, і водгук даўняга чалавечага гора балюча сцебануў па сэрцу; яно сціснулася ад нейкага нядобрага прадчування.

## 21

На маляўнічым беразе Дзвіны я знайшла крынічку, абкладзеную гладкімі пярэстымі каменьчыкамі. На дне яе віравала вада і круціўся, нібыта кіпеў, белы жвір. Вада была халодная, смачная і моцна пахла чаборам.

Напіўшыся, я выцягнула з каляскі, дзе спала Марынка, газеты. Чытаць — я ўвогуле не магу чытаць ні газет, ні кніг ля Дзвіны — мне не хацелася. Патрымала газеты, паглядзела загалоўкі і паклала ў каляску. Я думала пра Марынку, і гэтыя думкі вялі за сабой трывогі. Ці правільна я раблю, што не шукаю Міхася? Не, відаць, няправільна. Мне нельга проста чакаць!.. Трэба змагацца!

Змагацца за сваё каханне, за сваю праўду, за Міхася, за тое, каб ён пабачыў Марынку, каб ён зразумеў, што праўда не на яго баку, што каханне нельга адкінуць так, як зрабіў гэта ён... Змагацца? Так!.. Але як?

Промні сонца, што прабіліся праз рэдкія хмары, ападалі на раку скоса, і ад вады на прырэчныя камяні, на попельна-шэрыя пясчаныя ўзвалы клаўся жаўтавата-чырвоны, амаль празрысты водсвет. На ўзвалах, як маленькія сонцы, праменна зззяла бітае шкло; трапяткі бляск яго нібыта прабіваў навылет мяккі водсвет застылай плыні, падаў на залачоную ваду, і яна ўспыхвала вогненны-

мі плямамі, хістка зіхацела і ледзь-ледзь улоўна гайдалася ля пясчанай берагавой касы.

Ад ракі павяваў сухі вецер. Шамацела лісце маладых тапалевых пасадак; высока ў небе мільгалі стрыжы. У сонечным бляску плыў па рацэ човен; трэнькала гітара, і дзяўчаты спявалі прыгожа і наладна; іх галасы адплывалі і заміралі, нібыта правальваючыся ў зіхатлівы бляск ракі.

Песня з чоўна ўстрывожыла мяне і пакінула ў душы смутак. Каб можна і мне было гэтак сесці ў човен і плыць. Плыць доўга, доўга. А вакол сонца. Блакіт неба. І ціхамірны плёскат вады. Калі-небудзь, як толькі падрасце Марынка, мы возьмем човен, накідаем у карму свежай травы і паплывём уніз па Дзвіне. Марынка сядзе веславаць, а я буду ляжаць на траве, нічога не думаць і спяваць. І мы будзем плыць і плыць, і будзе вакол вада, зманлівая далеч прасторы і блакітны прасцяг, прабіты, як стрэламі, лётам чорных стрыжоў...

За спіной зарыпеў песок, нехта падышоў і спыніўся. На блакітны верх каляскі ўпаў цень. Я павярнула галаву. Раман?.. Чаго ён тут?

Раман Чураба сеў з другога боку каляскі.

— Адразу цябе пазнаў. Зда-алёк пазнаў...

Я замахала на яго газецінай:

— Цішэй, калі ласка! Марынка ж спіць!..

— Няхай на Дзвіну глядзіць лепей. Праўда, тут раскоша такая. А я, між іншым, да цябе заходзіў. Твая магера сказала, што на Дзвіну сабралася ты. А потым — як адсекла: ні слоўца! І размаўляць не схацела. Ваяўнічая жанчына!..

— Не ведаеш нічога, а гаворыш!

— А што я павінен ведаць?

Раман глядзеў на мяне даверліва і шчыра. Дзіўна нават. Мы мала гаварылі з ім пасля той сустрэчы ў вагоне, а я ведала пра яго амаль што ўсё, быццам выраслі ў адной сям'і. Раман не хаваў ад мяне сваіх думак, нічога не ўтойваў. Гэтая шчырасць падабалася мне і разам з тым палохала.

— У яе быў сын. А ў вайну — загінуў.

— І што з таго? Гэткіх сем'яў у нас шмат. Лічы, з кожнай сям'і вайна некага вырвала.

— Тут не тое. Разумееш, я толькі на тым тыдні даведалася... Даўно жыву ў іх, і яны маўчалі. Абое... У іх сын быў у паліцыі за фурмана. І яго забілі...

— Я скрытных людзей не люблю... Калі ты папраўдзе жывеш, чэсна — чаго табе таіцца?

Ён прысеў на кукішкі, пакратаў колцы каляскі рукою, пацокаў языком і адзначыў:

— Выдатная каляска. Сюды сігнал яшчэ. А што? Магу паставіць. Будзе ехаць, а ён — ту-ууу...

— Бачыш, Марынка прачынаецца. Мы збяжым ад цябе...

Я штурханула каляску і пайшла ўсцяж берагу. Раман некаторы час маўкліва сунуўся следам, а потым папрасіў:

— Дазволь я павязу...

— Не, не!..

— А чаго ты пакрыўдзілася? Чакай, шпак жа гэта! Глядзі!

На прыбярэжным жвіры нерухомым камячком ляжаў шэры шпак. Хваля, відаць, выкінула яго на бераг даўно: пер'е зляпілася, крыльцы замыла пяском. Раман схіліўся над птушкай.

— Малады шпачок. Сёлетні,— сказаў ён, кратаючы яго рукамі.— Відаць, у раку зваліўся. А можа, падбіў хто?.. У старога дык дзюбка цямнейшая. Хутка ў вырай ім...

— А гэты застаўся.

— Так... А некуды ж ляцеў... Давай пахаваем яго.

Раман прыцягнуў з узвала ржавую жалезіну і хутка выкалупаў яміну. Абстукаў яе рукамі.

— Вось і гатова.

— Пачакай.

Я адарвала шырокую, як хустку, лісціну дзядоўніку — шпак на ёй быццам змізарнеў і зменшыўся — і ўзялася памагаць Раману раўнаваць ямінку. Мокры жвір астуджваў пальцы.

Мне згадалася восеньскае поле за бацькавай хатай і шэры, як бы дымны, след над ім — гэтак многа лётала ў полі шпакоў. Звычайна на ранку, перад вырaем, старыя шпакі прылятaлі з маладымі да шпакоўні, што вісела сярод гнуткіх галін старое бярозы ля хаты,— прылятaлі развітацца з роднымі мясцінамі. Трэба ж сюды варочацца налета!..

— Мы паставім яму помнік,— сур'ёзна сказаў Раман, кладучы выглянцаваны хвалямі камень на жоўты пясчаны пагорачак.— І кветак трэба было б. Але дзе ты іх знойдзеш? — ён угледзеў прыбітую да берагу лазіну, падняў яе і ўторкнуў тонкі пруток побач з каменем.— Няхай расце!..

— Прыжывецца, думаеш? — запытала я.

— Павінна...

Цень самоты лёг на твар Рамана; ён глядзеў на пясчаны пагорак і нешта прыгадваў. Бровы яго варушыліся, і адбітак далёкай, схаванай вельмі глыбока ўсмешкі дрыжаў на губах — усмешкі горкай і як бы пакутнай.

— Некалі вось гэтак хавалі людзей. У сорак другім. У сорак трэцім. Асабліва ўлетку сорак чацвёртага... Фашысты блакіравалі партызанскі край — набліжаўся фронт.

— Ты быў у партызанах?

— Не. Але добра памятаю. Мы жылі на Асвейшчыне...

Ён зірнуў на мяне са строгай увагаю, і я ўпершыню ўбачыла, што вочы ў яго не карыя, а цёмна-сінія.

Прачнулася Марынка, я нахілілася над ёю, папраўіла падушачку, Марынка ўсміхнулася мне. Я ўзняла галаву і адчула, што чырванею, чырванею бездапаможна, невядома з якое прычыны. Раман па-ранейшаму глядзеў на свежы пясчаны грудок, і мне здалося, што гэты чалавек даўно ведае пра мяне ўсё, таксама як і я ведаю яго жыццё. Мне здалося, што ён знарок шукае стрэч са мною і знарок гаворыць зусім пра іншае, каб адцягнуць маю ўвагу ад нечага галоўнага і нешта схаваць ад мяне.

— Трэба ісці хутчэй,— сказала я.

— Дазволь мне каляску. Не бойся, я буду асцярожненька...

— Не, не... Я сама. Бач, як бліпічыць вада?

— Гэта ад сонца.

— Я люблю глядзець на сонца, калі яно стаіць над лесам. Быццам сядзіць на вершалінах...

— А я наадварот. Люблю, калі сонца ўзыходзіць. Аднойчы яно ўратавала мне жыццё.

— Сонца?

— Так...

Мы павольна крочылі ўсцяж берагу. Я саступіла Раману сцежку, але ён нібыта не заўважыў яе і ішоў бліжэй да вады, і белая пясчаная стужка ўвесь час ляжала паміж намі.

— Кажуць часам, што было — то сплыло. А я ў гэта не веру. Усё роўна знак застаецца...

— Ты пачаў казаць пра сонца,— напомніла я.

— Сонца было потым. А спачатку была ноч. Жнівеньская ноч сорак трэцяга. Мы ўцякалі з вёскі... Дакладней, не зусім ноч, перад світаннем. Фашысты наляцелі на вёску, і ўсе ўцякалі. На ўзлессі мне куля сюды — цюк! Пава-

ліўся. Забіты, думаю. І не баліць нідзе, а горача толькі. Ведаю, што пабеглі ўсе, а я ляжу і не магу ні крыкнуць, ні паклікаць. Ляжу. Малы ж зусім быў — напалохаўся, і куля быццам аглушыла. Ляжу. Бярэзнік вакол. Густы. Цёмны. Што рабіць? Паўзу. Чую, недзе далёка гамана людская. І паўзу. Сілы ані кропелькі, а ўсё паўзу і паўзу. Вельмі балела нага, але я думаў не аб ёй, а пра сонца, каб светла было. І гэтак жа мне сонца пабачыць захацелася, жытнёвы пах поля пачуць, што потым ужо, можа, ніколі гэтак і не было. І я поўз. Поўз да сонца. Крайчык лесу быў крыху святлейшы, і я ведаў: там сонца. Поўз да яго, і мне рабілася не так страшна. Лета спякотнае, усе балацінкі ў лесе павысыхалі. Ведаеш, як пахне падсохлая дрыгва? Кменам. Сапраўдным кменам. І я хацеў есці і піць. Поўз і думаў: там, дзе сонца, ёсць хлеб, і ад яго ў лесе гэтакі моцны водар. Ведаў, што маню сябе, а ўсё поўз і поўз і верыў у свой уласны падман. А можа, гэта і не было падманам? Я загадаў: паўзі да сонца! І я дапоўз! Памятаю, туман над полем. І сонца. Вялізнае, рудое, ледзь-ледзь яно на небакрай узнялося. А поле — жытнёвае. Ад яго хлебам пахла. Сапраўдным. А можа, гэта і ад вёскі — не ведаю. Было поле. Было сонца. І пах хлеба...

Белая пясчаная сцежка скончылася, яна ўжо не ляжала паміж намі, і гэта ўразіла мяне. Я прыпынілася.

— Чаго ты? — запытаўся Раман.

— Сцежка... Згубілася сцежка...

— Мы ж стаім на ёй!

— Была белая. Пясчаная. А тут трава. І калдобіны. Я чую, што каляска цяжка ідзе...

— Зараз яна пойдзе лёгка. Трымайся, Марынка!..

Ён лёгка падняў каляску і панёс яе на ўзвал берагу, дзе была роўная дарога. Я спалохалася, і каб Марынка не выкацілася, таксама падтрымлівала каляску рукой.

— Вось... Тут добра ехаць,— сказаў Раман, асцярожна стаўляючы каляску на дол.— Куды цяпер?..

— Мы паедзем дамоў.

— Я праводжу цябе.

— Навошта? Не трэба.

— Чаму ты не хочаш? Ты ж адна, я ведаю...

Маё прадчуванне спраўджвалася: ён казаў тое, што я чакала, але чаго баялася і не хацела ад яго чуць. Навошта? Навошта ён пачаў гэтую гаворку?..

— Я прыйду ўвечары,— упарта дадаў Раман.

Мы абое глядзелі на катэр, што ляцеў па Дзвіне, раскід-

ваючы ў бакі белыя шлейфы ўзбунтаванай вады. Раманава ўпартасць перайшла да мяне. Так, я таксама павінна быць цвёрдай і настойлівай.

— Не трэба! Я не хачу!

— Чаму?.. Не на благое ж... Шчыра кажу...

Яму было цяжка казаць. І, відаць, ад таго, што я бачыла гэта, і ад таго, што ў Раманавым голасе не было ўжо бесклапотнасці, а чулася сталая развага і сур'ёзнасць, з маіх вуснаў — зусім для мяне нечакана — зляцелі крыўдлівыя для Рамана словы. Я амаль выкрыкнула яму ў твар:

— Як маладзіца без мужа, дык адразу і прыйсці можна. Так? У-уу... Усе вы на адзін капыл... Усе! Абы прыйсці вам!..

— Бывай,— ціха праказаў Раман і пайшоў ад мяне.

— Як праўду пачуеце, адразу ходу!

Мае словы насціглі яго, ён уздрыгнуў, але не спыніўся і пакрочыў далей.

А ў сэрцы было зусім іншае.

Я хацела спыніць Рамана, хацела гаварыць з ім, слухаць яго. Але словы былі сказаны — непатрэбныя, злосныя словы,— і яны прыцiснулі тое добрае, што было ў душы. Я бачыла ўпарта ўзнятую галаву Рамана і разумела, што пакрыўдзіла яго зусім дарэмна, што ён зразумеў усё па-свойму і ніколі, відаць, не даруе і не забудзе маіх слоў.

## *Частка другая*

### 1

Сухмень пёк зямлю.

Ад спякоты не было ратунку, і нават на пароме, ля самай вады, вецер быў сухі і гарачы, як з печы. Я села ля борта катэра і пасадзіла Марынку на калені. Марынка з цікавасцю глядзела на пасажыраў, на хвалі, што выгінастаю стужкай беглі за кармою. На хвалях вагаліся плоскія, як жоўтыя талеркі, адбіткі сонца. Абрудзелыя берагавыя схілы заслалі звялыя палыны.

На гарадскіх вуліцах спякота была зусім нясцерпная. Я зайшла ў майстэрню, здала ў рамонт туфлікі і хутчэй выбегла адтуль — у маленькім пакойчыку гэтак моцна пахла гумай і варам, што цяжка было дыхаць.

Сіняя скрыня марожаніцы здалася мне выратаваннем. Я стала ў чаргу і палезла ў сумачку па грошы. Нехта крануў мяне за плечы.

— А вы што тут робіце, грамадзяначка?

Хто гэта? Я павярнулася. Перада мною стаяла Волька Лемеш. Вось дык сустрэча. А яна тут што робіць?

— Не бачыш? Ратуюся ад спякоты. Вось і табе ўзяла. І Марынка пакаштуе. Дамо ёй?

— Не, не! Толькі паперку, няхай пагуляе.

— Ай, ты яе не прывучаеш да жыццёвых цяжкасцей. Бяры, Марынка! Цёця, бачыш, якая добрая.

— Волька, не трэба ёй!

— А ты і спалохалася! Ды не дам я ёй. Няхай толькі пагуляе. Хадзем да цёці, Марынка!

— Пахвалі сябе, пахвалі. Далёка куды выправілася?

— Па хлеб. І замяніла, бачыш жа сама, марожаным. Давай пасядзім крыху на скверыку...

— Можна. І Марынка адпачне. Але во як з табою яна пасябравала.

— Дзеці харошых людзей адразу бачаць.

— Ах, каб Марынка ўмела гаварыць! Яна б табе патлумачыла...

Мы зайшлі ў скверык і селі на рабрыстую лавачку ў засені вяза. Недзе зусім нізка над намі ў абвялай лістоце гудзеў чмель. Волька сказала, што па хлеб яе паслала Ганна Якаўлеўна. Я запытала, як жыве Турава.

— Не скажу,— адказала Волька.— Зайсці не можаш?

— Збяруся як-небудзь...

— З мінулага года збіраешся. А Ганна Якаўлеўна крыўдзіцца.

— Яна мае рацыю. Я, відаць, дарма тады адмовілася і не перайшла да яе...

— І ты яшчэ сумняваешся? Я табе сто разоў казала гэта. І дагэтуль не разумею, чаму?

— А я і сама не ведаю...

І гэта была праўда. У мінулым годзе нешта з тыдзень пасля нашай размовы з Раманам на беразе Дзвіны Турава прапанавала мне перабрацца да яе — хата была гатова. Сама не ведаючы з якое прычыны, я адмовілася тады і не пайшла жыць у новую хату Туравай.

Па пальцы цякло разагрэтае марожанае. Я выцягнула рукі, каб не запляміць сукенку. Белыя кроплі апалі на дол ускрай глыбокай шчыліны, што наўскос перасякала дарожку скверыка і хавалася ў шэрай ад пылу траве пад дрэвамі.

— Сухмень,— сказала Волька.— Пагарыць хлеб на палях...

— Дажджы павінны быць.

— На гэтым тыдні не будзе. Чула па радыё. А што, тая дзюба цябе зноў поркае?..

— Не, да іх хутка сын прыязджае. Ну, ён там жыў, дзе я. Вось чаму...

— Адна там хеўра. Што сын, што тая...

— Не. Яны цяпер да мяне добра ставяцца. Як сваякі.

— Ха! Пень гарэў — воўк адно месца пагрэў. Каб Марынка не чула, сказала б я табе. Сваякі знайшліся! А ты ведаеш, што Ганна Якаўлеўна і цяпер табе пакой трымае. Нікому не здала!

— Мне?

— А каму ж яшчэ! Ты адмовілася тады, а яна пакой зачыніла, і ўсё. Стэфа, кажа, прыйдзе. Я ёй абяцала пакой...

— Яна цяпер дома?

— Кажу ж табе, па хлеб выправіла. А я, бачыш, што раблю? Марожанае ем і дзіця забаўляю. Пайшлі да нас!

— Другім разам, можа.

— Не. Сёння. Ды што там угаворваць цябе. Пайшлі! Няхай Марынка нам скажа. Пойдзем да цёткі Ганны, Марынка? Разам са мною?..

Марынка заківала галоўкаю. Волька зарагатала:

— Разумніца. Гэтак і трэба! Што ты цяпер скажаш?

— Добра, зойдзем. Толькі бавіцца няма калі...

— Табе і памерці часу не хопіць. Бачыш! Наш аўтобус!..

Мы праехалі два прыпынкі і на трэцім сышлі. Я ведала, дзе жыве Турава, але Волька вяла мяне нейкай новай дарогаю. Мы мінулі адзін правулак, перасеклі другі і вузкай сцежкай падышлі да вугла рэдкай і нізкай штакетнай агароджы. Волька адчыніла веснічкі.

Я была тут толькі адзін раз, летась, і цяпер з хваляваннем і прыглушаным сорамам глядзела на маленькі, але зграбны і светлы домік. Блакітныя рамы, блакітныя дзверы ў хаце. І такога ж колеру веснічкі. Шырокія кветнікі абкружаны белым каменнем.

Турава шчыра ўзрадавалася, калі ўбачыла мяне. А Марынку яна не ведала, як песціць.

— Ах, золатка ты маё! Ну, ці пойдзеш жа да бабулі? О-оох, дзяўчынка крэпенькая...

— Гэта я іх прыцягнула.

— Сціхні,— адмахнулася Турава ад Волькі.— Цябе толькі па смерць пасылаць. Пайшла, як вадой заліло. Дзе ты швэндаешся?

— Стэфу шукала.

— Ад яе, Стэфачка, праўды не дачакаешся. Зараз абедаць будзем, і ты сама ўсё раскажаш...

— Стэфа па справе прыйшла, Ганна Якаўлеўна. Ёй патрэбен пакойчык. Вось я і думаю...

— Яна думае! Але ці ж тое ты думаеш, што трэба? — з папрокам сказала Турава. Сэрца ў мяне замерла, няўжо яна памятае крыўду? — Па-твойму выходзіць, што і паесці не трэба. І-іэх. Вы! Хто ж гаворку пра справы да абеду пачынае. Спачатку ўлашчыць гаспадыню трэба, а потым ужо...

Цяпер я ведала — Турава не крыўдзіцца. Але яна не зважала на мае пярэчанні, загадала несці з паграбка малако, сама ўзялася карміць Марынку і толькі потым паклікала нас абедаць.

На абед быў халаднік, смажаная бульба і чырвоныя, залітыя смятанай, памідоры. Я згаладалася і ела з ахвотаю. Асабліва мне падабаўся кісель з рэвеню, які мы пілі пасля абеду,— халодны, празрыста-ружаваты.

— Навучу варыць,— паабяцала Турава.— Яго і Марынцы даваць трэба. Малыя любяць...

— Ой, мне Марынку напаіць чым — гора адно. Лягчэй самой вядро выпіць. На малако і глядзець не хоча...

— З малымі строгасць патрэбна,— сказала Турава.—

А не так, як некаторыя: «Ах, мая родненькая! Ах, мая мілая...» Сказалі піць — пі!

— Можа, тады Стэфе заўтра да нас і перабірацца, Ганна Якаўлеўна?..

— Сціхні. Усё вам гэтак: няхай і ўбок, абы скок. Падлогу пафарбаваць трэба. І рамы. Толькі вось дзе цяпер чалавека схопіш?..

— А мы самі ўсю работу зробім,— прапанавала Волька.— І часу мала зойме...

— Яны зробяць! Майстры знайшліся!

Турава сердавала, а мне хацелася кінуцца да яе і абняць. Якая яна слаўная жанчына! І Волька малайчына. Вядома, мы ўсё зробім самі. Вялікая работа — пафарбаваць! Дапраўды. Няўжо тут больш работы, чым у Баравіцкай школе? Тады адных парт колькі было. І нічога, пафарбавалі, наша брыгада нават і грамату мела. Тады мы былі школьнікі. А тут — адзін пакойчык...

— Ну, калі хочаце — бярыцеся,— усё яшчэ няпэўна сказала Турава.— Фарбу я вам дам. Пэндзлі таксама. Падсохне — пяройдзеш.

— Даруйце, а ўмовы?

— Якія яшчэ табе ўмовы. Ваду сама будзеш цягаць. І ўсё такое...

— Я аб плаце хацела...

— Якая там плата! Казала табе, што як пабудую хату — прыходзь і жыві. Мне твая дзесятка не патрэбна. Кватэру атрымаеш — на наваселле запросіш...

— Неяк... Няёмка нават... Давайце ўсё ж дамовімся, і я буду плаціць...

— Будзеш, вядома. Дровы купляць трэба. І за святло плаціць...

Волька шчыра засмяялася:

— Прагадаеце, Ганна Якаўлеўна! Не пойдзе Стэфка за вашага ўнука.

— Балбатуха ты. Не слухай яе, Стэфа!

— А ёй чаго баяцца? Ён толькі праз паўтара года адслужыць. А тут, можа, яшчэ вайна якая гадоў на пяць...

Турава спахмурнела, маршчынкі ля яе носа паглыбелі; яна неяк быццам пастарэла адразу. Волька, спахапіўшыся, папрасіла:

— Даруйце, Ганна Якаўлеўна...

— Калі ты хочаш за гэта ўзяцца? — запытала ў мяне Турава, быццам у пакоі мы былі толькі з ёй удваіх.

— Магу і зараз. Змена ў мяне заўтра.

— І добра. Адклад не ідзе ў лад, як гаворыцца. Зараз пакажу, што ў мяне ёсць...

Турава выйшла з пакоя, на кухні нешта забразгала.

— Яна нечага пакрыўдзілася,— сказала я.

— Пра вайну чуць нічога не можа. У яе муж і два сыны з вайны не вярнуліся.

— А чаго ж ты?

— Сама не ведаю, як вылецела.

— Няёмка мне. А яшчэ Марынка калі тут будзе... Малой жа не загадаеш ціхенька сядзець.

— Цётка Ганна цішыні не любіць. Паўгадзінкі не пройдзе, як пра ўсё забудзе. А Марынку тваю яна любіць. Увесь час пра яе ўспаміна...

— Усё роўна няёмка.

— Дзяцінства, прычым непатрэбнае, шчыра кажу...

— Ты не смейся, Волька. Я сапраўды баюся, калі ўсё добра ў мяне. Потым абавязкова нешта благое прыйдзе...

— Гэткіх законаў я не прызнаю. Для мяне закон — мэта. Добрая мэта. І калі я іду да яе, мяне нішто не спыніць. А мэта ў нас добрая. Мы пакой пафарбуем, і цётка Ганна будзе задаволена...

На падворку пачуўся голас Туравай. Яна клікала нас.

— Вось што ў мяне ёсць,— сказала яна, выцягваючы са старога чамадана банкі з фарбаю.— Вохры, праўда, мнагавата, але гэта нічога. Светлая падлога таксама няблага. Падабаецца гэты колер? А ты як думаеш, Волька?

— Цудоўны колер. Проста цудоўны,— сказала Волька і кранула маю руку.— Вам мы даручаем Марынку. А самі — за работку. А пэндзлі? Ага, яны тут. Да вечара мы гару звернем!..

Пах фарбы ўсхваляваў мяне. Прыгадалася школа ў Баравічах, парты, якія мы аднойчы фарбавалі ўлетку. Далёкія, хоць і вельмі прыемныя і прыгожыя ўспаміны зацінаілі ўжо зусім новыя думкі — пра Тураву, пра Вольку, пра маё цяперашняе жыццё. Побач са мною былі шчырыя, чулыя людзі.

Бліскучая паласа фарбаванае падлогі шырэла. Пэндзаль мякка і лёгка залізваў драпінкі на дошках. І ўсё-такі мімволі да мяне зноў прыйшла думка, што апошні час нягоды пачалі абмінаць мяне. Жыццё зноў радавала, але ў гэтай радасці было нешта трывожнае.

## 2

За няпоўную гадзіну, што мінула ад пачатку змены, Ніна Барысава двойчы падыходзіла да мяне. У трэці, з абыякавым выразам на твары, паведаміла:

— Мой Іван учора ліст атрымаў.

— Ліст?

— Але, ад Міхася.

Міргнула зялёнае вочка дазатара. Я глядзела на яго і нейкі час не бачыла нічога, апроч гэтага шкельца, што азарылася зялёным, як у сігнальным ліхтарыку таксі, святлом. Тысячы разоў я бачыла яго, але цяпер за ім хавалася нешта загадкавае, таямнічы сэнс якога я ніяк не магла знайсці і зразумець.

— Ад Міхася, кажу, Іван ліст атрымаў,— паўтарыла Ніна.

— Дык што з таго?

— Аб табе там ёсць. Папытай, гэта ён майму піша, што Стэфка парабляе. Ці гуляе з кім... Відаць, не забыў.

— А я забылася.

— Не паверу.

— Чаго ты прывязалася, Нінка, да мяне? «Не паверу, не паверу...» Не патрэбен мне ні твой ліст, ні Міхась!..

Рукі мае дрыжалі, вочы засцілаў чырвоны туман. Я сапраўды гэтак думала, як казала Ніне, і каб у тую хвіліну з'явіўся перада мною Міхась, з маіх губ, пэўна б, зляцелі яшчэ горшыя словы. Але ў душы не было спакою: я разумела, што ашукваю сябе. Мне хацелася пачытаць той ліст. Я памятала мінулае, крыўда жыла, але было ва мне і другое жаданне — пабачыць Міхася, паказаць, што я не загінула без яго, што жыву не горш за людзей. Няхай пабачыць мяне, няхай пабачыць зводдалі і дачку, і ўсё тое, што я маю. Гэткая злараднасць жыла ва мне.

Ніна больш не падыходзіла да мяне. Крыху счакаўшы, яна прайшла ля маёй печы, але толькі зірнула, і то не на мяне, а некуды ўбок. Вярнулася з цэха размоткі Волька, таямнічым шэптам паведаміла:

— Пісьменнік там!

— Дзе гэта?

— Ходзіць па цэху. Хадасевіч яго водзіць, паказвае ўсё. Мабыць, і да нас прыйдуць.

— Няхай прыходзяць. Не памром.

— Сухар ты, Стэфа! А калі здымаць будуць? Што, у гэтай мне на картку станавіцца? — Волька скубанула заму-

соленыя рукавы чырвонай кофтачкі і дадала амаль праз плач: — І думала ж сёння новую надзець...

— Злётай дамоў.

— Ах, табе што! А тут — пісьменнікі. Бачыш, ідуць!..

Невядомы чалавек, які ішоў побач з парторгам завода, напалохаў мяне. Я чытала шмат кніг. Адны мне падабаліся, другія выклікалі пачуццё нездаволенасці, але ў душы заўжды жыла сарамлівая пачцівасць да чалавека, які стварыў кнігу. Пабачыць зблізку такога чалавека мне не даводзілася, але ў маім уяўленні даўно і трывала склаўся пэўны вобраз: сівая галава, змрочны і ўдумлівы, чымсьці адметны ад усіх іншых, позірк. І абавязкова акуляры. Тое ж, што я ўбачыла, і здзівіла і напалохала: зводдалі пісьменнік быў падобны крышачку на Міхася.

Яны спыніліся побач са мною, Хадасевіч нешта тлумачыў госцю. З канторы начальніка цэха спяшалася Фаіна Усцінаўна. Яшчэ раз зірнуўшы на сівую галаву парторга завода, я зусім нечакана падумала, што Хадасевіча хутчэй можна назваць пісьменнікам, чымся гэтага чалавека, які стаяў побач з ім: простая шэрая кепачка, кудлатыя і светлыя, быццам выпаленыя сонцам, бровы.

— А хто працуе на гэтай печы?..

Голас мяккі, пявучы. Хадасевіч сумеўся.

— На гэтай?.. На гэтай печы?.. Якую змену вы маеце на ўвазе?

— Гэтую, вядома.

— Стэфа Шукан,— сказала Фаіна Усцінаўна. Яна падышла і стала побач з Хадасевічам.— А ў першай змене працуе Уварава...

— Начальнік змены,— пазнаёміў іх Хадасевіч.

— Вельмі прыемна. А мы тут без вас у цэху гаспадарым. Стэфа Шукан, вы кажаце?..

— Так... У яе самыя лепшыя паказчыкі па дзённай выпрацоўцы за мінулы тыдзень. Амаль дваццаць кілаграмаў пражы. Апроч таго, самы малады апаратар маёй змены.

— Самы малады? — запытаў пісьменнік.— Гэта вельмі цікава...

— У першай змене мы маем і лепшыя паказчыкі,— сказаў Хадасевіч.— Там працуе першая на заводзе брыгада камуністычнай працы.

— А ў другой змене іх няма? — не то пытаючыся, не то сцвярджаючы сказаў пісьменнік.

— Так, пакуль што няма...

— Тут я і прыпынюся.

— Вас пачакаць?

— Не. Я потым зайду ў партком...

Хадасевіч непрыкметна кіўнуў начальніку змены, і яны адышліся.

— Давайце знаёміцца цяпер да канца. Андрэй Лабан маё прозвішча. Карэспандэнт абласной газеты. Збіраюся напісаць нарыс пра завод...

Ён паціснуў мне руку і, усё яшчэ не выпускаючы яе з свае моцнае і шырокае далоні, разважліва працягваў:

— Шукан? Хм... У Залессі — ля Палаты гэта — няма вашых родзічаў? Там ёсць у мяне адзін знаёмы камбайнер. Анатоль Шукан. Толькі на вас ён не падобны...

— Там няма маіх родзічаў.

— Гэта, зрэшты, і не так важна. Праўда?

— Не ведаю. А ваша мне прозвішча таксама знаёма.

— Яно вельмі распаўсюджана!

— Не сказаць. Я, напрыклад, сустрэла яго на вокладцы. Гэта ж ваша кніга пра лесазавод?

— Пра людзей лесазавода?

— Так. Пра Лявона Бугрыма...

— Цяпер бачу — чыталі. І, думаецца мне, лаялі аўтара.

— Не вельмі... Кніга мне падабаецца. Нават з сваёй сяброўкай я паспрачалася. Волька даводзіла: не магу пагадзіцца, не магу пагадзіцца, чаму Зіна даравала Лявону. Прычым, сама — памірае. Памірае і нічога не сцвярджае ні сваім жыццём, ні сваёй смерцю. Тут і я з ёю згодна: чалавек, калі ён сапраўдны чалавек, павінен нешта сцвярджаць у жыцці...

— А Зіна якраз і сцвярджае. Сцвярджае сваё права кахаць!

— Але ж яна адмоўны герой!

— Не! Я пісаў не аб станоўчых і адмоўных героях, а пра людзей. Харошых людзей, на маю думку. І Зіна, мне здаецца, харошы чалавек. І Бугрым таксама... Усе яны, пасвойму, канечне, харошыя людзі. А маленькі Сярожа — нешчаслівы. І бачыце, у чым складанасць? Усе яны — харошыя людзі, а маленькі яшчэ чалавек ужо нешчаслівы...

Мігнула і згасла зялёнае вочка дазатара; няясны водсвет прамільгнуў у сініх вачах Лабана.

— Мы яшчэ пра гэта пагаворым. Пазнаёмце мяне са сваёй сяброўкай, і, калі ў вас знойдзецца час,— паспрачаемся. Хоць гэта мая першая кніжка, але я не здамся. Паспрачаемся. Згода?

— Ахвотна,— адказала я, сама дзівуючыся са свае смеласці.

— Скажыце, а цяжка стаць aпeрaтaрaм?

— Каму як... Мне гэтая навука далася лёгка.

— Значыцца, і я адолею. Хачу папрацаваць які тыдзень на заводзе. Ну, скажам, вучнем апeрaтaрa. Возьмеце?

— Як гэта?

— Звычайна. Буду працаваць. У вас былі вучні?

— Так. Волька Лемеш. Яна пачала працаваць самастойна.

— Вось і цудоўна. А цяпер будзе вучань. Упарты вучань. Толькі не цырымоньцеся са мною. Строга, калі што не ў лад пойдзе...

Спачатку мне здавалася, што Лабан прыглядзіцца, папрацуе крыху і пойдзе. Але мінула адна гадзіна, другая, а ён і не думаў ісці з цэха. Яго ўпартасць цяпер ужо не здзіўляла, як на першым часе, а раздражняла. Волька паспела разнесці па цэху чутку, што «Шукан пісьменніка вучыць на апeрaтaрa», і я ўвесь час адчувала на сабе цікаўныя позіркі сяброўак. Волька ж вельмі часта падыходзіла да нашага століка, дзе стаялі касеты з бабінамі, знарок затрымлівалася ля іх і адкрыта падміргвала мне, паціскала плячыма.

Лабан не заўважаў нічога. А можа, ён толькі рабіў выгляд, што нічога не хоча заўважаць? Не, ён сапраўды гэтак улёг у работу, што нават не глядзеў па баках; ён спацеў, выпацкаў рукавы кашулі, але не адыходзіў ад печы і ўпарта рабіў тое, што я паказвала яму.

— Затраўка кропель — гэтак завецца аперацыя? Бачыце, у вас ніці лёгка сабраліся ў адзін пук. А што атрымліваецца ў мяне?

— Плача печ!

— Як вы кажаце?

— Плача. Заўважаеце, як застылі ніці? Быццам кропелькі слёз.

— Печ плача,— паўтарыў ён мае словы.— Добра гэта. Вельмі добра...

— Наадварот, вельмі дрэнна!

— Я кажу, што гэта трапны выраз. Алегорыя. Слёзы і застылыя кроплі. І крыўда, калі рабочы ўбачыць іх... Паспрабуем яшчэ раз...

Ён падчапіў тонкім стрыжнем празрыстыя валаконцы, на канцы якіх віселі, як слязінкі, кроплі астыўшага шкла, і не кінуў, а асцярожна пацягнуў іх, быццам баючыся, што

яны могуць пабіцца. У гэтым руху была ўжо нейкая дакладнасць, спрактыкаванасць і лёгкасць. Я згадала першыя дні майго вучнёўства ля электрапечаў, і ў сэрцы пакрысе пачала з'яўляцца павага да гэтага настойлівага і ўпартага чалавека.

— А ў вас няблага атрымліваецца,— сказала я з адабрэннем, злуючыся на сваю нядаўнюю раздражнёнасць.— Зноў пашанцавала мне. Маю ўпартага вучня.

— Чаму «зноў»?

— А Волька Лемеш? Яна такая настойлівая — жах проста. Ёй многія зайздросцяць.

— Гэта не цікава. Трэба, каб табе самому зайздросцілі!..

Неўпрыкмет я зусім забылася на тое, што побач са мною працуе чалавек, які зусім нядаўна палохаў мяне. Ніякай непамыснасці не ўзнікала. Мы размаўлялі, жартавалі і нават спрачаліся.

— Зачараванае кола,— сказала я.— Гэта ўжо падобна на вядомы жарт: хочаш быць шчаслівы — будзь ім!

— А вы паспрабуйце!

— Прабавала...

— І што ж атрымалася?

Я маўчала.

— Дык што ж атрымалася?..

І адразу знікла роўнасць: я раптам убачыла тое вялікае, што ляжала паміж мною, простым апаратарам, і ім, пісьменнікам, супрацоўнікам абласной газеты, і ўбачыла зблізку, з малой зусім адлегласці, свае паводзіны. Мае ўласныя жарты здаліся непатрэбнымі, нікчэмнымі, і я зразумела, што Лабан, як разумны чалавек, памяркоўна ставіўся да мае смеласці. Ён вывучаў работу цэха і ўсё тое, што было ў ім: і электрапечы, і нават я сама была толькі аб'ектам даследавання. Сваім пытаннем Лабан як бы падкрэсліў гэта і скасаваў маю даверлівасць. Чужы чалавек спрабаваў зазірнуць у жыццё майго сэрца, у мой уласны свет, і я адразу набычылася, абараняючы сваё права не паказваць яго нікому.

Лабан, відаць, здагадаўся, чаму я не адказала яму — ва ўсякім разе, мабыць, зразумеў, што на гэтае пытанне ён не атрымае адказу,— і нічога больш не пытаў. Ён узяў з маіх рук важкую бабіну і асцярожна паклаў на стол.

— Не паб'ецца,— мне ўсё яшчэ не хацелася злаваць пасапраўднаму, Лабан са сваёю настойлівасцю выклікаў у мяне спагадлівасць.

— Так... Я ведаю. І ніяк не магу прывыкнуць, у душы ўвесь час жыве нейкі страх — павага. Шкло... Гэта нешта тонкае, хрупкае, тое, што можа пабіцца. І раптам — тканіна: не разбіць, не зламаць...

— Каб можна было зрабіць чалавеку такое сэрца.

— Сэрца? А навошта?

— Спакойна жылося б. Ні трывогі табе, ні клопату.

— Не-ее! Гэтага я, уласна я, не хачу! Вы разумееце, што здарыцца тады? Знікне шчасце. Знікне каханне і вялікія цуды, на якія здольна закаханае сэрца. Не, я — за жывое! Яно можа і хвалявацца і радавацца, можа бедаваць, калі напаткае гора. І можа быць добрым і шчырым, мяккім і пяшчотным...

Насцярожанасць знікала, я ўжо не крыўдавала на Лабана: сваімі словамі ён нібыта зняў з мае душы цяжар, адказаў на вельмі складаныя і цяжкія пытанні, што жылі ва мне, прыгняталі і палохалі, не давалі мажлівасці размаўляць з ім, як з роўным.

— Паспрабуем яшчэ раз. Спачатку трэба сабраць ніці ў адзін пук. А потым рэзка, але не вельмі моцна, пацягнуць уніз...

Ён гаварыў і трымаў напагатове тонкі стрыжань, і я, злавіўшы яго добры позірк, не стрымала ўсмешкі. Так, гэты чалавек не адступіцца, не адыдзе ад электрапечаў, пакуль не дасягне таго, што надумаў. І гэтая думка канчаткова прымірыла мяне з ім.

Так... Гэтак і трэба, мабыць, рабіць заўжды, калі ты ідзеш да нейкае вялікае мэты.

## 3

Гаспадыня ўляцела да мяне ў пакой імкліва, быццам хто ўвапхнуў яе, і стала насупраць ложка. Ікнуўшы, яна ацерла далоняй губы. З рукі зляцеў бляск пярсцёнка. Спатнелы лоб і шчокі гаспадыні блішчалі.

— Крыўдзіш нас,— сказала яна.— Крыўдзіш. Не хочаш піць — не пі! Ніхто не прымушае. Але прыйдзі, павагу людзям выкажы. І з'ясі што-небудзь. Дзякуй богу, ёсць што... Скарэеш, адна седзячы...

За сцяной іравала людская гамана, падлога трымцела ад частага грукату ботаў — весяліліся Гаранькавы сябры, спраўлялі яго прыезд.

Гаранька прыехаў днём, калі мяне не было, і мы сустрэліся ўвечары, калі я прыйшла з завода. Ён настойліва клі-

каў мяне вячэраць. Я адмовілася. Цяпер — другі ўжо раз — запрашала сама гаспадыня.

— Дзякуй, не пайду!

— Як сабе хочаш. Думала, па-людску з табою развітаемся. Ну, што было? Мала ў каго бывае? Жыццё, яно гэткім не бывае, як цвічок, роўненькае. А ты — гонар свой адразу. Ну, але глядзі...

Гаспадыня пастаяла яшчэ, прыставіўшы палец да вуснаў, потым пайшла і ля парога ўжо, прачыніўшы дзверы, спынілася.

— Весела там. Чуеш? Ах, ладна тупаюць хлопцы. Ну, падумала?..

— Дзякую. Не пайду.

Грукнулі дзверы. Гамана за сцяною крыху сцішылася, нехта пачаў спяваць. Знаёмае, даўняе... «Станочак мой, станочак...» I дзіўна — цяпер гэтая песня не хвалявала, а нараджала незадаволенасць. Навошта я засталася тут на ноч і не пайшла да Туравай? Гэта трэба было зрабіць яшчэ ўчора. Я хацела пайсці, ды не паспела ўправіцца з бялізнаю. Але нічога. Заўтра дзень вольны. Каб толькі не прапаць ды ўзняцца разам з сонейкам... I памыць можна, і высахне, і адпрасаваць часу хопіць. Гэткі дзень — як вярста!..

У пакойчыку было горача, я адчыніла акно. Галасы за сцяной адразу зглухлі, а шолахі ночы зрабіліся выразней, быццам наблізіліся; дзесь бубніў рэпрадуктар, і асобныя словы можна было разабраць.

У калысцы заварушылася Марынка, пакруціла галоўкай, закінула ручку за вуха і зноў сцішылася. Я схілілася над ёю, папраўіла коўдрачку. Спі, мая даражэнькая, спі... Ты разумная ў мяне! I ўдзень паспіш. I ноччу не прачынаешся. I мне ад гэтага вельмі добра. Праўда ж... Некаторыя скардзяцца, што іх дзеці плачуць, не спяць. Чаму я не магу сказаць гэтага пра Марынку? Вядома, для кожнай маці — яе дзіця самае лепшае. Вядома, тут заўжды перабольшваюць. Але што да Марынкі — тут чыстая праўда. Яна сапраўды вельмі паслухмяная і разумная дзяўчынка...

Калыска стаяла ля майго ложка. Я кратала, лежачы ўжо, тонкія кутасікі: рука адчувала холад пафарбаванага металу, і ад яго бруіўся па пальцах да сэрца спакой.

Ноч набухла за акном, прыціснулася да фіранак; святло з суседняга пакоя, дзе гамонілі Гаранькавы сябры, ліло ся ў сад і асвятляла ніжэйшыя галіны яблынь — вершаліны здаваліся плоскія і чорныя, быццам высечаныя з

чорнай бляхі; за імі было зусім не пачное неба, з блакітна-пунсовым водсветам.

Прачнулася я ад цішыні. У пакоі было вельмі цёмна. Ці то сон сасніўся, ці то памроілася: некуды знікла калыска. Я працягнула руку, адразу ж намацала халодны метал бакавіны, і тады заўважыла нешта цёмнае ў акне. Шыбы некуды зніклі — іх закрыў няўклюдны чорны цень.

— Хто тут?

Пачуўся шоргат. Цень на акне варухнуўся.

— Ты спіш?

— Гаранька?! — я адразу пазнала яго голас.

— А я і думаў, не спіш...

Ён падышоў і сеў да мяне на ложак. Я адкінулася да сцяны, нацягнула коўдру па самы нос. Халодная тынкоўка сцяны нібыта апякла плечы, думкі адразу зрабіліся яснымі, я адчула сябе ўпэўненай і гатовай да ўсяго.

Гаранька сядзеў нерухома, і гэта здзіўляла і палохала мяне. Як ён апынуўся тут? Дзверы былі зачынены... Ах, акно!.. Я сама прачыніла яго, бо звечара было вельмі душна...

У Гаранькавых пальцах засвяціўся маленькі светлячок папяроскі, дзікавата бліснулі ў цемры вочы.

— Сярдуеш? — запытаў ён.

— Няма чаго...

— Сярдуеш. Ведаю,— пунсова-белы светлячок пыхнуў у далоні зноў, цяпер ужо ярчэй.— І правільна робіш. Я тады нядобра да цябе... Гэтае, ведаеш... На лепшае каб ішло — даруй. Ага...

Смурод табакі і гарэлкі тхнуў мне ў нос. Ведала, трэба прагнаць Гаранькy, сказаць нешта абразлівае, але з губ зляцелі зусім іншыя словы — мне было шкада яго.

— Няможна табе піць, Гаранька. А ты што робіш?

— Прыехаў — трэба адпачыць. Гэтак вядзецца.

— Дрэнная завядзёнка.

— Гаранька яе не прыдумляў...

Горыч асядала ва мне, як туман. Мае словы былі не перакапальныя, і Гаранька быццам не заўважаў іх; але здзіўляла мяне зусім не тое. Я папракала яго таксама, як бацьку. І ён, Гаранька, адбіваўся ад мяне тымі ж словамі: нічога новага, нават інтанацыя голасу крыху падобна — насмешлівая, нават спачувальная. І гэта абурала.

— Гаранька лепшае прыдумаў,— сказала я з націскам.— Ён ноччу праз вокны караскаецца. Што тут мацнейшае прыдумаеш!

— Пагаварыць хочацца. Душа шчыміць, а тут, гляджу, акно адчынена. Паклікаў — маўчыш. Вось і зайшоў.

— Улез, а не зайшоў. Нядобра. Ідзі!..

— І гэта ўсё?

— Не, частаваць зараз буду!

Ён не варушыўся. І я сама, баючыся ягонай маўклівасці, таксама нечага чакала.

— Усе толькі адно і ведаюць: Гаранька — благі, Гаранька — гугі! Усім па сем, а каранному восем, як гэта гаворыцца,— паскардзіўся Гаранька і нечакана вылаяўся.— А загад які напісаў, сволач!.. І каму раскажаш? Трахіму? Строгі ён да мяне. І самае страшнае — сухар. Жывое душы не зразумее. А яна?.. Яна ўсё па галоўцы гладзіць... Ёй каб ціха было, каб спакойна... Прыгладжвае ўсё!

— А ў мастапоездзе — супраць шэрсткі?

— Кажу ж табе, загад вісіць. Зволілі.

— Цябе? Кінь ты... Не паверу!

У маім сэрцы абудзілася жаласлівасць. Я не магла гнаць яго прэч, не магла не выслухаць яго, не паспачуваць. Але недзе ў сэрцы жыў пратэст і супраць гэтай жаласлівасці, і ўвогуле супраць размовы з Гаранькам. Навошта ён прыйшоў... Якое прыйшоў? Ён улез праз акно. А я гавару з ім і нават знаходжу нейкія матывы для апраўдання.

— Дарэмна. У наш час і не гэткае з чалавекам бывае. А зволілі мяне з трэтарам. Ведаеш, як у загадзе напісана? «За сістэматычнае парушэнне правіл інтэрнацкага жыцця...» Саграшыў, адным словам, поп, а дзяка вешаюць. Ад таго і п'е дзяк...

— Нядобра ты робіш. І скажы, калі ласка, што ж далей?..

— А мы піць будзем. І гуляць будзем. Вось што будзе далей. Хлопцы абяцаюць добрую работку. Без пылу. Але — з жарам!..

Гаранька прыцішана рагатнуў і схапіў за маю нагу, намацаўшы яе праз коўдру; я рэзка адкінула яго руку, падціснула калені і ўспаўзла аж на падушку.

— Паслухай, Гаранька. Цябе варта было выгнаць. Адразу ж! Але ў цябе гэткае гора... Хочаш паслухаць добрае парады?.. Кінь піць гарэлку!..

— Чаго ты на яе, гарэлку тую, уз'елася?

— Проста прашу цябе...

— Спаць яна табе не дае?

— Жыць. Праз тое праклятае зелле мая мама дачасу

памерла, і слёз у нашай хаце хапала. А таму і прашу цябе: кінь гарэлку!

— Кіну. А далей што?

— Добрае будзе. Ты сам убачыш...

— Каменная ты, Стэфачка!

Насмешлівасць у яго голасе апаламіла. А я яшчэ на нешта спадзявалася! Ласкава гаварыць пачала... Расчулілася, раіла, пра маці ўспомніла, парады давала. Ён жа ўпотай смяяўся над маімі словамі. Не, гэтага я яму не дарую. І досыць мне займацца выхаваннем! Тут патрэбны зусім іншыя захады!..

— Ідзі адсюль! Я спаць хачу!..

— Толькі спаць ёй. А жыццё? Вакол яно! А ты — спаць. А мо праўда, каменная ты? Не-еее, не каменная. Мяккая!..

Гаранька схапіў мяне за плечы, адцягнуў ад сцяны і кінуў на падушку. Яго ўчэпістыя пальцы ляглі на мой твар, заблыталіся ў валасах, і локаць балюча націснуў на горла.

— Стэфачка! Стэф!.. Жыццё ж гэта... Не верыш? Сур'ёзна. Увесь час пра цябе думаю. Праўда, Стэфачка...

Ён быў дужэйшы; мае рукі былі пад коўдраю, і змагацца было цяжка. Я адчувала, як звалілася з плеч коўдра, і не магла ні паправіць яе, ні крыкнуць і паклікаць на дапамогу — сваімі губамі ён закрыў мне рот. Я лаяла і праклінала Гараньку, тузала яго за плечы, а ён прыціскаў мяне ўсё мацней, цалаваў шыю, рукі; яго губы былі сухія, гарачыя, і з кожным іх дотыкам рашучасць змагацца згасала, і я паціху, чуючы толькі гарачы Гаранькавы шэпт, аддавалася гарачай плыні, што ўздымала і кудысьці несла мяне.

Зрэшты, мне ўдалося вызваліць адну руку, але ў той жа момант Гаранька падкурчыў яе. Было балюча ў плячы, але боль гэты быў салодкі, і я не змагалася ўжо і з ім, і з Гаранькам, а толькі ціха папрасіла:

— Пусці!.. Чуеш?.. Ах, які ж ты!..

Тонка і спалохана заплакала ў калысцы Марынка. Гаранька прыціх, яго рукі паслабелі. Ва мне ўсё замерла. Але гэта цягнулася толькі імгненне. Я адкінула Гараньку — не ведаю, адкуль толькі ўзялася ва мне гэткая сіла — і ўскочыла. У галаве тонка звінела.

Апынуўшыся на маіх руках, Марынка адразу супакоілася — нешта, відаць, саснілася ёй. Я прысела на ложак; пружыны пада мною брэнькнулі, і гэты жаласлівы гук доў-

га блукаў у цемрыве пакоя. Гаранькава постаць — ён стаяў насупраць акна — здавалася аграмаднай, не сапраўднай.

— Стэфа! — шэптам паклікаў Гаранька.

Марынка вякнула зноў, заварушылася і кранула ручкаю маю шыю. Ад гэтага слабага дотыку цёплых дзіцячых пальчыкаў я сцішылася. Гарачы сорам цяжка асеў на сэрцы, і я прыгнулася, быццам хацела схаваць нешта благое, чаго не трэба было бачыць Марынцы.

— Стэфа! — Гаранька шморгнуў носам.

Я павярнулася, захінаючы плячом Марынку.

— Ідзі прэч!

Ён засоп грамчэй.

— Чаго ёй завадзіла? Ноч, а яна спакою не дае, смаркачка. Пакладзі яе ў калыску. Я пакалышу. Ну, чаго ты?..

Цяпер я зусім не баялася Гаранькі. Яго абразлівыя словы начыста разбурылі жаласлівасць, і я, сама здзіўляючыся ўпартасці, што прыйшла ў сэрца, ненавідзела цяпер не толькі Гараньку, але і ўсё тое, што стаяла за ім, ненавідзела сваю легкадумнасць і даверлівасць. Прыкра!.. Як жа гэта ўсё непрыгожа і гідка!..

— Думала, чалавек ты... Ажно... Ідзі прэч! Каму гэта сказана? Я зараз паклічу людзей!

Тулячы да сябе Марынку, я ўзнялася. Ні жаху, ні разгубленасці.

— Чуеш?

Гаранька гучна шмаргануў запалкаю аб карабок.

— Ма-адонна! — прасіпеў ён.— Па-адумаеш!.. Чорт з табою, гібей адна. Сохні! Будзе потым смаку, як у гнілым раку!..

Ён адкінуў фіранку і, як звяруга — хутка і лоўка,— выскачыў на падворак. Нешта затрашчала там, і тупат пачаў аддаляцца, потым зусім сціх. У сэрца прыйшоў жах. А што калі Гаранька вернецца?..

Я знайшла на стале ножны і сунула іх пад падушку. Шчокі мае гарэлі. Асцярожна прыцiскаючы Марынку да грудзей, я хадзіла з кутка ў куток і ўжо не хвалявалася, не баялася, а толькі лаяла сябе, але лаяла ўжо не за тое, што адразу не прагнала Гараньку. Пры чым ён тут?.. Трэба вінаваціць толькі сябе. Так, сябе... Навошта мне ўвогуле было ставіць сябе побач з ім?.. Навошта спатрэбілася мне гэтая ноч у Трахімавай хаце?.. Бялізна, якую я не паспела памыць? Глупства!..

У свае ўчарашняе нерашучасці я адшукала нешта большае, чымся простыя папрокі сабе. Ці ж толькі непамытая

бялізна затрымала мяне?.. Не, зусім не! Затрымаў жаль да ціхага, усталяванага жыцця, якое склалася тут, страх перад тым невядомым, што чакала мяне на новым месцы, у хаце Туравай!.. Злосць на Гаранька была цяпер шчытом, за які я хавалася ад самое сябе. Але шчыт гэты быў нетрывалы і разлятаўся на кавалкі, ледзь я пачынала абвінавачваць сябе.

На душы было прыкра. Сёння я схавалася за нейкія абставіны. Адчыніла акно. Учора ўвечары гаварыла з Гаранькам і нават нешта пажартавала. А цяпер абвінавачваю яго і злую толькі на яго. Не! Досыць гуляць у хованкі! У маім жыцці ёсць два шляхі — Марынка і маё асабістае жыццё. Я прыняла першае, даўно прыняла першае, і таму мне трэба адкінуць прэч сваё асабістае, задушыць яго, закрэсліць. Сёння ў мяне хапіла на гэта сілы. А заўтра? А паслязаўтра?.. І ўвогуле далей?..

Рукі знямелі. Хацелася прылегчы, але ложак палохаў мяне. Здавалася, што, дакрануўшыся да яго, я адчую ранейшую — як гарачь яшчэ шчокі — ганебную слабасць. Я паклала Марынку ў калыску, прымасцілася на крэсле і прыдрамала, трымаючыся рукой за ражок дзіцячай коўдрачкі.

Сон, нядоўгі і трывожны, адляцеў раптоўна. За акном пачынаўся ясны ранак. Быццам чужы, разглядала я свой пакой, і ад чыстага ранішняга святла ўсё тое, што было ўначы, цяпер паўстала перад маімі вачыма ў бязлітаснай і страшэннай праўдзе. Адкінутая ўбок коўдра. Змяты, растрыбушаны ложак. Расцёртая папяроса на падлозе. Ля акна газета з адбіткамі брудных Гаранькавых ботаў.

Ранак быццам садраў покрыва з таго жыцця, да якога клікаў мяне Гаранька. Гэтае жыццё было непрыгожае, бруднае, і я цяпер добра ведала, што ў змаганні з ім мне трэба быць бязлітаснай, упартай і суровай.

## 4

Амаль тыдзень над горадам віселі блеклыя хмары. Недзе па вярхоўі Дзвіны ішлі, відаць, частыя, ёмкія ліўні. Па рацэ — яна разлілася, амаль як вясной — плылі трэскі, патрушчаная сасновая кара і рознае ламачча; на берагах, у рудой каламутнай вадзе стаялі рамонкі, вялікія і незвычайна белыя.

Урэшце дождж абрынуўся і на Прыдзвінск. Ён пачаўся апаўдні, калі канчалася наша змена. Я якраз падышла да

акна, дзе стаяў квадрант, каб узважыць пражу з кантрольнай бабіны, і здзівілася: за акном пацямнела. Густая шэрая сетка дажджу зацягнула ўсё, і можна было бачыць толькі будынкі, што стаялі на заводскім двары. Нават скрозь гуд электрапечаў чутно было, як сцёбаюць па шыбах буйныя кроплі.

— Ну і лупцуе! Пойдуць цяпер грыбкі,— сказала Волька. Яна падышла і стала побач са мною з бабінай у руках.— Хутчэй здымай сваю. Мне трэба ўзважыць...

— Усё спяшаешся?

— Няма куды.

— Ведаю. Не хітруй.

— А ведаеш — маўчы.

— На вяселле хоць паклічаш?

— Абавязкова...

Зноў пачыналася старое: Волька жартавала і не хацела гаварыць сур'ёзна. А мне, кажучы шчыра, хацелася ведаць, куды яна спяшаецца па вечарах і дзе бывае. Двойчы на тыдні Волька знікала з хаты ўвечары і прыходзіла толькі ля поўначы.

— Як у цябе сёння? — запытала Волька, кіўнуўшы галавою на бабіну.— У мяне пятая ў брак ляціць. Што з печамі, не ведаю...

— Туміліна пакліч. Няхай паглядзіць...

— Поркаецца. Можа, што і знойдзе. Ну, давай ты зірні цяпер. Я дык і глядзець баюся...

Я зазірнула на шкалу, чорная стрэлка ўпарта трымалася на трэцім дзяленні.

— Чаго ж ты яшчэ хочаш? Нармальная пража.

— А ўсё таму, што ты зірнула. Шчаслівае ў цябе вока.

— А як ты думала! За гэткую ласку ты мне прызнацца павінна, хто ён. Чарнявы? Ці, можа, бландзінчык?

— Ай! Адчапіся...

Волька махнула рукою і пабегла да электрапечаў.

Скончыўшы змену, я заспяшалася дахаты. Ведала, Марынка накормлена і дагледжана — Туравай я давярала ва ўсім, але спакойна ісці не магла. Заляцела ў краму па хлеб, купіла масла, аўсянкі і выскачыла на вуліцу.

Ля сцеп дамоў яшчэ звонка, нібыта вясной, гулі вадасцокі; таполі блішчалі, і кожны лісточак, добра абмыты ліўнем, быў не роўны, а сагнуты, з празрыстай кропляй вады на кончыку; на чорны асфальт тратуара напаўзала з газонаў лёгкая дымная пара.

Мінуўшы будынак пошты, я выйшла на бераг Дзвіны.

Ля крутых сходак, што вялі ўніз да прычалаў, стаяў Гаранька. Я ўбачыла яго трохі позна, калі выйшла з нешырокай таполевай пасадкі. Трывожна затахкала сэрца. Прайсці ля яго, быццам не заўважыла! Адвярнуцца!.. Зусім не звярнуць увагі!..

Паклаўшы рукі на парэнчы сходак, ён закрыў мне дарогу.

— Пазнаваць не хочаш?

— Чаму не хачу? Пазнала...

— Гэта — лёс. Праўда, што лёс гэта нам такі: сустрэча!

— Адыдзі!

Я памкнулася ісці, Гаранька затрымаў мяне:

— Пачакай.

— Што табе ад мяне трэба? Што?..

Я рабіла тую ж памылку, што тады ноччу,— пачала размаўляць з ім.

— Добра. Ідзі,— сказаў ён, крыху счакаўшы.

Я абмінула яго і пайшла не па сходках, а сцежкаю. Ён не адставаў ад мяне і крочыў побач.

— Прашу, Стэфа, давай паталкуем. Я не забыў цябе. Бачыш?..

— А я забылася. Зусім...

Гэтай няпраўдай я абараняла сябе. Нічога не забылася з тае ночы, і трывога — мінула ўжо месяц,— хоць і зменшылася, але пакінула ў душы след і жыла. Хлусіць мне было цяжка. Каго я абманваю? Гараньку?.. Няма ж у гэтым аніякай патрэбы!

— Мо паталкуем? — зноў папрасіў ён.— Праўда... Сядзем вунь... Хлусіць не буду: шукаў цябе. Пільнаваў. А на кватэру зайсці баяўся... Няёмка неяк, ведаеш...

— Дажыў ты, Гаранька. На вочы людзям сорамна выйсці!

— З людзьмі нічога... Гэта толькі з табой так...

Ён глядзеў на мяне ўпарта, не міргаючы. І гэтыя сінія, з жоўтым абводдзем, вочы не проста жылі ў думках, а пакінулі ў душы нейкі след, і таму я гатова была зрабіць любое глупства, каб толькі сцерці яго, закрэсліць нават памяць аб ім; хацелася кінуцца на Гаранньку, малаціць кулакамі па гэтай рудой кучаравай чупрыне, па драпежнаму, з барадаўкай, носу, зрабіць нешта балючае і непрыемнае, каб змяць міралюбную нахабнасць Гаранькі.

— Не хочаш нават і паталкаваць са мною?

— Няма пра што,— рэзка адказала я.

— Тады давай сядзем і памаўчым.

Ён казаў гэта дабрадушна, быццам ніякай непрыемнасці паміж намі не было, і ад яго нахабнае ўпартасці мне зрабілася смешна.

— Бессаромны ты чалавек, Гаранька.

— Такі-сякі, сухі, нямазаны?

— Распусціў ты язык. Вось што яшчэ табе скажу.

— Прышчаміць хочаш?

— Не хачу. Глядзець нават не хачу.

— А ты і не глядзі. Скажы.

— Што табе сказаць?

— Чаму ты гэткая, скажы...

Гаранька стаяў, закрываючы мне дарогу на паром. Ён глядзеў на мяне адкрыта, смела, і ў яго вачах было не сціплае чаканне, а патрабавальнасць і загад. Я ведала, што гэтай сустрэчы не мінуць, і была падрыхтавана да размовы з Гаранькам, але цяпер, сустрэўшы ў яго вачах міралюбную нахабнасць, крыху разгубілася. Злосць на Гараньку дзіўна сплялася ў душы з захапленнем яго ўпартасцю, з крыўдай на сябе за тое, што гэтак маладушна пагадзілася на размову з чалавекам, да якога ў мяне павінна быць толькі адно пачуццё — нянавісць. І яна жыла ў маёй душы. Але ў голасе гэтага чалавека гучала іронія да таго благога, на што была скіравана мая нянавісць, і таму я стрымалася і чакала.

— Не жанчына ты,— сказаў Гаранька.— Камянюга. Памятаеш, у гісторыі пра гэткіх пісалі. Ідалы, ці як іх?..

— Можаш казаць, што табе здумаецца, нічога не зменіцца. А я адно табе скажу — нядобра ты робіш...

— Нічога ж я не раблю. Стаю.

— Не тумань свету, Гаранька. Не трэба. Адкажы, навошта ты пільнуеш мяне? Ты ж добра ведаеш, што ў мяне сям'я...

— Няма ў цябе яе!

Адной гэтай заўвагай, кінутай проста так, дзеля жарту, ён парушыў стройны лад маіх думак. Сумненні цяпер развеяліся, як дым,— адразу. Перада мною стаяў той, ранейшы Гаранька, да спрэчкі з якім я рыхтавалася, які быў ненавісны мне сваёй грубасцю, сваім жаданнем прыгнуць мяне, зламаць.

— Табе ніхто не казаў праўды?

— Якое праўды?

— Аб тым, хто ты ў сапраўднасці? — запытала я, добра разумеючы, што калі вось цяпер, зараз жа, не прымушу Гараньку адмовіцца ад зухаватасці і фанабэрыі, дык мне

не ўдасца ўжо ніколі абудзіць у яго душы павагу да мяне.

— Я выдатна ведаю гэта і сам. Але... Гавары, паслухаем.

— Ты эгаіст. Эгаіст буйны, закажанелы. У Трахімавай хаце цябе прывучылі — усё для Гаранькі... І раптам нейкая Стэфа сказала не! І эгаіст узбунтаваўся. Прыгадай, як нядобра ты зрабіў зімою. Тады не было Марынкі... А цяпер, калі яна ёсць, ты гаворыш мне тое ж... Жыццё... Каханне... А што я скажу дачцэ?.. Так нельга, Гаранька. Няхай я жанчына... Слабая жанчына... Але я чалавек! І калі ты хочаш пра нешта размаўляць са мною, ты павінен памятаць гэта. І памятаць пра Марынку. А ты думаеш пра яе? Ніколі. Чаму? Ды яна ж не патрэбна табе зусім. Ці, можа, скажаш, што патрэбна?

— Пра яе мы не гаворым...

— Гэта ты не гаворыш. Дакладней, не хочаш. А я гавару. І думаю. І думаю ўвесь час...

Ад супрацьлеглага берагу адваліў катэр. Празрыста-сіні дымны след клаўся за ім на пакатыя хвалі. Злінялы, амаль белы сцяжок трапятаўся на мачце...

Раней я нічога гэтага не заўважала, ляцела ўніз па сходках, каб не спазніцца, а цяпер — наўпярок свайму жаданню — магла спакойна, не спяшаючыся, разглядаць катэр і думаць. З глыбіні душы ўзнялася крыўда. А чаму ўвогуле мне трэба спрачацца з Гаранькам, пераконваць яго ў тым, пра што мне хочацца маўчаць? Трэба павярнуцца і сысці ўніз, на прычал. Не, бегчы нельга. Гэта будзе найлягчэйшае выйсце. Прыняць яго я не павінна.

— Вось, Гаранька, мы і паталкавалі, як ты кажаш. Ты ж дужа хацеў пачуць праўду!

— Не пра тое зусім я думаў.

— Пра што ж ты думаў?

— Пра цябе, Стэфа.

— Пра мяне?

— Ага... Ты маладая, а гады ідуць. Не стаяць...

— Няхай ідуць. Табе якія турботы?

— Мне што! Аб табе клопат.

— Ну, дзякую...

— Я шчыра кажу... Вось глядзі... Гады ідуць, а ты адна. Гэтак увесь век і будзеш сохнуць? Маладая жанчына не можа адна доўга...

— Чаму ж гэта?

— Прырода. Таму і не можа адна...

Не можа? Лухта нейкая. Глупства казаў Гаранька.

І ўсё-такі было ў яго словах — я не адчувала ў іх ранейшай бяздумнай зухаватасці — нешта незвычайнае, тое, чаго я не магла адкінуць адразу. Але што гэта? Папрок? Ён бы смешна гучаў у вуснах Гаранькі. Шкадаванне?.. Так, бадай што гэта... Але шкадаванне зусім не аба мне, і не клапатлівая трывога, а прызнанне марнасці пражытых гадоў і жах перад тым, што яны праходзяць недзе побач, абмінаюць, нічога не пакідаючы нікому.

— А я не адна, Гаранька.

— Ах, разумею,— сказаў ён іранічна, але жарт прагучаў непераканаўча і бездапаможна.— У цябе ёсць калектыў і праца.

— Так, і гэта. І апроч таго — ты ўсё ж забываеш чамусьці,— у мяне ёсць дачка. Яна чакае мяне. І гэты час, што я тут «талкую» з табою, украдзены ў яе. Адно толькі апраўдвае цябе: ты цвярозы. І калі гэтак пойдзе і далей, ты вельмі хутка зразумееш, што, апроч ложка, ёсць яшчэ іншае, вялікае, дзеля чаго варта жыць. Павер мне, Гаранька, ёсць. Бывай!..

Ён не затрымліваў мяне, нават нічога не кінуў на развітанне і стаяў моўчкі, засунуўшы правую руку ў кішэню, і глядзеў на раку.

Другі раз сігналіў катэр. Я пабегла ўніз па сходках, не азіраючыся, з той ранейшай заклапочанасцю, што заўжды гнала мяне да прычала. Абапал лесвіцы ляжалі густыя палыны, скурчаныя і змятыя дажджавым патокам; у шматках белага стругавіння чырванеў прамыты вадою цагляны друз.

Я ледзьве паспела ўскочыць на катэр. Ён адыходзіў ад прычала асцярожна, быццам намацваючы дарогу, і, апынуўшыся на дзвінскай прасторы, імпэтна рвануўся наперад, пакідаючы за кармою віхрастыя жоўтыя буруны.

На беразе стаяў Гаранька. Ён стаяў усё на тым жа месцы, не змяніўшы нават паставы, і нешта вельмі журботнае было ў яго танклявай, крыху нахіленай постаці.

## 5

Пасля змены мяне крыху затрымаў Журко. Ён стаяў ля шырокіх металёвых каркасаў, дзе ішоў мантаж дыспетчарскага пульта аўтаматыкі, і з падкрэсленай стараннасцю выціраў чорнай апучкаю рукі.

— Спяшаешся? — запытаў ён.

— Не вельмі. А што ты хацеў?

— Невялічкая просьба. Але... Можа, і не трэба. Вось думаю...

— Думаць тут позна. Пачаў, дык кажы!

— У суботу да Каці еду. Выпісваюць яе з раддома.

— І ты — маўчыш?

— Чаму? Кажу ж. І прасіць хачу, каб ты памагла...

— Наўрад ці змагу ехаць, Віктар.

— Ды не ехаць. Купіць тое-сёе... З дзіцячага. Сам я тут не змагу. Вось і прашу цябе...

Мы дамовіліся з ім сустрэцца праз дзесяць мінут у гардэробнай ля вітрыны. Сарамлівая просьба Журко мяне расчуліла. На тым тыдні Каця нарадзіла сына. Яна паехала да сваіх бацькоў у Дрысу, і Віктар збіраўся ехаць туды.

Пры выхадзе з цэха мяне сустрэлі Ніна і Волька. Я не паспела нават запытаць, чаму яны ўсё яшчэ тут, як Ніна рашуча сказала:

— Танцуй, Стэфка!

— Ліст? Давай яго сюды.

— Гэта ты ўжо будзеш нам іх пасылаць. Праўда? — запытала яна ў Волькі і адкрыта ёй падміргнула.— Цяпер Стэфа ад нас не выкруціцца. Як думаеш?

— Кіньце туман у вочы пускаць!

— А ты што, загад не чытала?

— Які загад?

— А-аах, так! Тады вось што. Бяжы пачытай загад на дошцы. Бяжы, бяжы... Нам бавіцца з табою няма часу, а заўтра ўжо сядзем радком і пагаворым ладком...

— Можа, ёй сказаць? — запытала Волька.— А то прачытае — інфаркт адразу...

— Наколькі я ведаю, ад бясплатнага курорту... Ах, чорт! Прагаварылася...

— Ну, цяпер кажы ўжо да канца.

Ніна засмяялася:

— А ты глядзі, каб інфаркту не было. Далі табе, Стэфачка, бясплатную пуцёвачку ў Друскенікі.

— А я думала, што ліст у вас...

— І яна яшчэ носам круціць! — Ніна была расчаравана.— Ехаць не хочаш? Давай мне. З ахвотаю пакачу...

— Не турбуйся. Стэфка таксама без прымусу паедзе.

— Нават не верыцца. Падкручваеце вы нешта...

— Злётай і пачытай. А мы ў душ ідзём...

Ля дошкі загадаў, дачытаўшы да канца вузкі белы аркуш, я не адчула ў душы святочнай урачыстасці, якая

звычайна бывае ў такі час. Мне было сорамна перад сяброўкамі. Чаму менавіта я, Стэфа, павінна ехаць па бясплатнай пуцёўцы ў Друскенікі? А чаму не Ніна, не Волька?.. І дзе дзець Марынку?.. Хіба да бацькі?..

Але пакрысе прыходзіла радасць. Яна існавала як бы даўно, на ёй ляжаў адбітак нечага знаёмага, звычайнага, нібыта яна, гэтая радасць, была, потым прайшла, а цяпер вярнулася да мяне зноў, і я другі раз перажываю яе. Я двойчы перачытала загад і нават пакратала рукамі шархоткую паперу.

— Чула, прэміроўку табе даюць? — Галена Ліноўская, прыпыніўшыся побач, углядалася ў аб'яву круглымі, як у савы, вачыма.— Калі едзеш?

— Пуцёўка з пятнаццатага.

— Калі спахапіліся. Не маглі ў жніўні паслаць.

— І цяпер няблага.

— Ну, не скажы. Самі, нябось, на лета спланавалі. Ого! — Ліноўская торкнула пальцам у загад.— Тыдзень падпісаны. А павесілі калі? Толькі сёння. Во якая аператыўнасць. Што ты ім скажаш.

— Дзякуй скажу. Чаму ж мне не радавацца!

— А ты ўсё ж спытай. Можа, на поўдзень што ёсць. Няхай памяняюць. За сваё трэба вочы драць. А хочаш — можна і не ехаць,— нечакана дадала яна.— Здаецца, можна грашыма ўзяць. Дзеўка ты цягавітая, і прэміроўка табе законная.

— Навошта мне грошы?

— Сукенку добрую справіш. Туфлікі і ўсё такое... Як кветачка пойдзеш...

— Як букет,— пажартавала я.

— І букет. А што? Калі хочаш ведаць, дык і без гэтага хлопцы паглядаюць...

— Мне не да іх!

— Дарэмна,— шчыра сказала Ліноўская.— Каб мне твае гадочкі! Да-ала б дыхту!

Я змоўчала. Ліноўская кранула маю руку.

— Усё гэта глупства, дзеля жартаў гаворыцца. Папрасіць цябе на нядзелю хачу. Мо вольная будзеш? Капусту надумала шынкаваць і крышаўку пазычыла. А за дзень ці ж управішся адна?

— Добра. Памагу.

— Даруй... Можа, у самой які клопат? Нядзеля — яна адна, сама разумею. Але тут у мяне і пявыкрутка...

— Які там клопат! Трэба — памагу!

— Ты і сваю цягні да мяне. З дзецьмі пагуляе...

— Не, пакіну дома. Ганна Якаўлеўна паглядзіць.

Ліноўская зірнула на мяне і хітравата прыплюшчыла вочы:

— Тураву я спачатку ўгаварыла. А да цябе потым ужо. Так што калі ўтраіх возьмемся — да абеду і скончым усю работку...

У вестыбюлі мы развіталіся з Ліноўскай. Я прыбегла ў душ, калі Волька і Ніна канчалі мыцца. Я скоранька скочыла пад душ. Апраналіся мы разам.

— Горача тут,— сказала Ніна, расчэсваючы валасы перад люстэркам.— Чакаем цябе ў гардэробнай.

— Вы не чакайце мяне!

— Як табе гэта падабаецца? — сказала Волька Ніне.

— Праўда, не чакайце,— паўтарыла я.— Мне трэба сустрэцца з адным чалавекам.

— Ты бачыш, Волька.

— Няўжо ж не!

— Праўду кажу, па вельмі важнай справе. І тое-сёе зрабіць...

— Ён бландзін? — Волька адплачвала мне за даўняе.

— Так. І вельмі сімпатычны.

— Гэтага нам дастаткова. Пайшлі, Ніна!..

Апрануўшыся, я выйшла ў гардэробную. Доўгі вузкі калідор быў пусты, за металёвай сеткай гардэроба дзе-ніздзе сумнымі плямамі віселі паліто і плашчы. Думкі мае чамусьці вярнуліся да размовы з Ліноўскай. Не асабліва мне хацелася ісці да яе, тым больш што на нядзелю вельмі шмат якіх спраў запланавала я сама. Паліто трэба было дашыць Марынцы, тое-сёе памыць... Не, правільна зрабіла, што паабяцала памагчы Ліноўскай. Калі самой было цяжка, ці ж не памаглі мне сябры? Памаглі, падтрымалі... Я ніколі не змагу забыць ні каляску, ні кветак... Ды што кветкі! Яны адцвілі... А тое дабро, што зацвіло ў маёй душы ў той дзень, не адцвіце ніколі, бо яно памагло адолець скруху і зразумець, што самае каштоўнае на зямлі — гэта людская павага да цябе. І гэтая павага не прыходзіць сама па сабе, а ёсць адзнака шчырасці твае ўласнае душы, мерка дабра, якое ты зрабіла на зямлі людзям. І калі чалавеку цяжка і ты ведаеш пра гэта, асабістае, сваё ты абавязан кінуць і ісці на дапамогу...

А вось і Віктар Журко.

— Табе не надакучыла чакаць?

— Не, Віктар. Я стаю, думаю... Увесь час думала.

— Пра што? Калі не сакрэт...

— Пра рознае. Мне даюць бясплатную пуцёўку. Ты чуў?

— Ведаю. Паедзеш і адпачнеш. Друскенікі — добрае месца...

Мы выйшлі з прахадной, і Журко, гледзячы на горад, зазначыў:

— А куды пойдзем, як думаеш? Каб хутка нам усё купіць...

— Я ж не ведаю тваіх планаў. Ці, можа, ты хочаш штонебудзь незвычайнае?..

Планы ў Журко былі вельмі сціплыя: ён хацеў набыць што-небудзь сыну і падарунак жонцы. Але вельмі хутка я пераканалася, што тыя яго планы і рэальнасць — рэчы вельмі далёкія. Мы абышлі ўсе чатыры магазіны, што былі на цэнтральнай вуліцы горада. З апошняга магазіна мы выйшлі абвешаныя рознымі пакункамі і скруткамі. Я не пазнавала Журко: варта было прадаўцу сказаць, што тая ці іншая рэч можа спатрэбіцца маламу, як у яго вачах адразу загараўся ўпарты бляск — і ён купляў яе.

Я памагла яму занесці ўсе пакункі дамоў. Мы згрузілі іх на ложак, атрымалася цэлая гара.

— Ну, Стэфачка, дзякуй. Аднаму мне тыдзень хадзіць па тых крамах. А тут гэтак хутка ўправіліся. І плацце Каці спадабаецца. Як ты думаеш?

— Думаю, што лаяць яна нас не будзе.

— Што ты, Стэфачка! Зірні! — ён разгарнуў тоўсты згортак, выцягнуў адтуль вішнёвага колеру тканіну, прыклаў да маіх плеч.— Гэта будзе цудоўны касцюм. І як ты заўважыла?..

Новая тканіна пахла для мяне таямніча і трывожна. У вачах Журко было захапленне, а мне зрабілася прыкра. Міхась аднойчы купіў мне крыху падобную сукенку... Але ж гэта было даўно... Так, даўно... І вельмі даўно... Усе гэтыя гады, што я жыву адна, ніхто не рабіў мне гэткіх падарункаў... І я дакладна нават і не памятаю, калі рабіў гэта Міхась. Даўно, вельмі ж даўно тое было... Так, у нечым вельмі вялікім і важным жыццё абмінула мяне...

Мы развіталіся з Віктарам. Ён хацеў праводзіць мяне, але я забараніла яму нават выходзіць з пакоя. На вуліцы па-ранейшаму гуляў золкі вецер. Па Дзвіне плылі тонкія сінія крыгі, але паром яшчэ працаваў. Пераехаўшы раку, я не адразу ўзнялася на прыбярэжную вуліцу, а крыху

прайшлася берагам. Падаў рэдкі снег — сухі, колкі — і адразу знікаў у чорнай сцюдзёнай вадзе.

Мне даўно трэба было павярнуць на сцежку, але я ўсё ішла і ішла далей і спынілася толькі ад моцнага парыву ветру, што вылецеў з-за жоўтых пясчаных узвалаў і ўдарыў у грудзі. Я агледзелася — як далёка адышлася! — і ўбачыла, што стаю ўскрай берагу, ля тонкай лазіны, што расла па-над самай вадою. Няўжо гэта тая лазіна?.. Не можа быць!.. Хаця... Так, тое месца. І прыжылася лазіна. І расце!.. Здаецца, вунь з таго ўзвала цягнуў Раман тады жалезіну, якой калупаў ямінку, каб пахаваць шпака...

Затуманеным зрокам глядзела я на гнуткае дрэўца, на адзін-адзіны лісточак, што матляўся жаласліва і сумна ад ветру. Я не ведаю дакладна, ці тая гэта была лазіна. Але месца было тое. І ў душы быў добры і ціхі смутак...

Я пакратала лісточак — ён адваліўся і лёг на маю далонь. Так, мабыць, гэта ўсё ж тая лазіна... Цікава, як магло б павярнуцца маё жыццё, каб тады я не абразіла Рамана?.. Ганарлівы ён. Гэта пакрыўдзіла мяне, і разам з тым я была ўдзячна Раману за тое, што ён не шукаў мяне больш...

Сутаргавы парыў ветру быў моцны і нечаканы. Вузкі, як рудое ржавае лязо, лісточак зляцеў з далоні і закруціўся ў паветры, потым мякка асеў на ваду і паплыў ля берагу, як маленькі караблік. З сярэдзіны ракі прыкацілася цёмная хваля і, як шапкай, накрыла яго.

## 6

У суботу раненька я пабегла на рынак. Вярнулася я адтуль хутка, але змораная і знерваваная. Шчыра кажучы, я не люблю рынкаў. Не люблю стракатай мешаніны адзення, тавараў, не люблю мітусні, не люблю людской гаманы, што, як хмара, вісіць над брукам квадратовай плошчы. Плошча маленькая, з трыма радамі драўляных сталоў у цэнтры. Кожны раз, калі я бачу яе, у маім сэрцы нараджаецца смутак і гнеў. Смутак, калі я гляджу на маленькія грудкі морквы ці цыбулі, ці на зморшчаныя рукі, што перакладаюць у мой кошык яйкі, ці на згорбленую постаць якога-небудзь дзядулі, што прадае нейкія цвічкі, іржавыя замкі і розную старую драбязу. Каму і навошта можа спатрэбіцца яна? Не ведаю.

Калі ж я бачу драпежна сціснутыя губы і засяроджаныя, скіраваныя на дзюбачкі вагі вочы, бачу гладкіх, доб-

ра ўкормленых жанок або маладых дзецюкоў, што стаяць ля вялізных кашоў яблык ці груш і равуць на ўсю плошчу: «Э-эээй! Налятай. Дзёшава прадаём!» — мяне ахоплівае гнеў. Я ведаю, рынак патрэбен. І тым не менш, усё ва мне пратэстуе. Навошта, у імя чаго сотні людзей амаль цэлы дзень тоўпяцца на гэтай плошчы? Няўжо тое, чым яны гандлююць, нельга прадаць неяк інакш, прадаць гэтак, як прадаецца ўсё ў крамах?..

— А мы ў акно ўсё наглядаем,— сказала Турава, ледзь я ўвайшла ў хату.— Няма і няма Марынчынай мамы.

Яна паставіла Марынку на падлогу, патрымала крыху і адпусціла рукі.

— Ну, гарцуй да маткі! Смялей, смялей! Бяжы... Яна, пэўна, табе цукерак прынесла.

Марынка зрабіла некалькі крокаў, пахіснулася. Я падхапіла яе на рукі, загушкала:

— Няма, дачушка, цукерачак сёння. Забылася твая мама. Ішла, ішла і забылася. Затое грушы ёсць. Глядзі, якія прыгожыя!.. Не плакала ты тут?

— Ды не, што ты! Яны з Волькай тут рагаталі — за ракой чуваць. Ну і я не ўтрымалася, накрычала на іх...

— Толькі што. Давай і мы з табою збірацца. Паснедаем і пойдзем. І Марынку з сабою возьмем.

— Няўжо ж тут кінем!

— А я думала — кінем. Бо з раніцы мяне яна не слухала.

— Як жа гэта, дачушка?

— Спачатку,— адразу стала на абарону Турава.— А потым добра гуляла. Сёння кажу: прынясі папугая — прынесла. А цяпер, кажу — слана. Усе цацкі параскідала, але знайшла і цягне. Разумная дзяўчынка.

— А не гаворыць нешта. Баюся, можа, доктару паказаць...

— Сціхні! Ты ўжо хочаш, каб малое кніжкі табе чытала. Падрасце і гаварыць будзе. Ну, Марынка, скажы ба-ба.

— Ба-ба! — чотка адказала Марынка.

— Во! Чаго табе яшчэ! Галава. Ліст там, на стале глядзі...

Ліст быў ад бацькі. На аркушы з вучнёўскага сшытка стаялі вялікія, нахіленыя ў розныя бакі літары. Марынка круцілася на руках, папера дрыжала, і чытаць было няёмка. Я аддала Марынцы пусты канверт і, пакуль яна гуляла з шархоткай паперай, прачытала ліст да канца.

Бацька пісаў пра розныя баравіцкія навіны і зноў —

цяпер ужо не прасіў, а настойваў, каб прывезла, хаця б на кароткі час, Марынку да яго: ёй будзе ў іх добра, а яна, Стэфа, тым часам адпачне крыху. За гэтай бацькавай настойлівасцю — мне здавалася на першым часе — хавалася няўлоўнае і трывожнае. Але цяпер, прачытаўшы ліст уважна, я ўбачыла ў ім простую жальбу старога чалавека. Бацька вельмі разумна паставіўся да ўсяго таго, што адбылося ў маім жыцці. Ён ні ў чым не папракаў мяне, зрабіўся нават яшчэ больш клапатлівы, прыязджаў некалькі разоў і прывозіў падарункі Марынцы. Чаму ж я не магу на нейкі тыдзень адвезці ўнучку да свайго бацькі? Гэта ж дзядуля Марынчын. І магу і павінна.

Гэтае рашэнне выспела ва мне раней, але настойлівасць бацькі спачатку насцярожыла, а потым напалохала. Застацца адной, без Марынкі?.. І Ганну Якаўлеўну пакрыўджу. Скажа, што не давяраю ёй... Але Тураву можна ўгаварыць, і яна зразумее. Галоўнае было ва мне. Не, без дачкі я не змагу жыць. І менавіта гэта — будучая мая адзінота, а не бацькава настойлівасць — палохала мяне. Але што зробіш цяпер?.. У Друскенікі Марынку з сабою не возьмеш — прыйдзецца быць ёй у Баравічах...

— А ты яе тут пакінь,— параіла Ліноўская, калі мы прыйшлі да яе і загаварылі пра гэта.

Мы працавалі ўчатырох — да Ліноўскай прыехала з вёскі маці, маленькая, сагнутая ў плячах, бабулька з сухім, як бы пергаментным тварам.

— Я ж ёй гэта і кажу,— адразу адгукнулася Турава.— Будзе яе прынцэса і дагледжана і здаровая. А ёй як завадзіла: у Баравічы, цвердзіць, да бацькі. Ну, вязі, вязі...

Ліноўская, падкручваючы шрубы крышаўкі, дзелавіта запытала:

— Адзін ён жыве?

— Сястра разам з ім. У яе дзеці...

— А хата чыя? Бацькава?.. І вялікая, кажаш... Чуеш, Ганна? Да роднага дзядулі не пускае ўнучку пагасцяваць. Ёсць жа анекдот такі. Чулі, чаму цяпер дзеці знерваваныя ўсё растуць? Ага, ну то слухайце. Першыя тры месяцы — клопат адольвае, дзяцей, вядома... Ці застануцца яны жыць, ці не. Другія тры месяцы — ці будзе ж у іх бацька. Ну, а апошнія зусім інакшы клопат. Ці возьмуць бабулька з дзядуляю на выхаванне.

Жарт Ліноўскай не развесяліў мяне.

— Сумна мне будзе адной. Без дачкі не змагу...

— На курорце табе сумна не будзе. Табе што, пажыць не трэба?

— А я жыву!

— Як? — Ліноўская тыльным бокам далоні ацерла шырокі, без адзінай маршчынкі, лоб, моцна зацягнула матузкі стракатага фартуха і потым зноў запытала: — Як ты жывеш? Ты чуеш, Ганна? Яна — жыве! Ды гібееш ты адна, а не жывеш. Сядзіш у хаце, як прыкутая. А табе пахадзіць трэба, пашукаць. Можа, тваё дзе і ляжыць. У наш час бабе сядзець на месцы не выходзіць...

— Апяклася раз — цяпер баіцца.

— Во бяда, апяклася,— Ліноўская падміргнула Туравай.— Я два разы апяклася. А на трэці — увакурат. А каб сядзела ды румзала?.. Гэтак і засталася б удавіцаю: сабе на гора, людзям на смех. І ты слухай нас, Стэфа. Мы табе праўду гаворым, жыццёва ўсё гэта. І не крыўдуй...

— А чаго мне крыўдаваць?

— І добра, калі гэтак. А ў Друскенікі паязджай абавязкова. І там — мокраю куркаю не сядзі, а галовы надуры хлопцам. Яны тое любяць. А так што, адна седзячы?.. Трэба на жыццё цэліць...

Гэтыя парады салодкай атрутай асядалі ў сэрцы. Здзіўляючы сваёй неперакананаўчасцю, яны ўсё ж былі нечым жаданыя і прыемныя. Неверагоднасць нейкая! Спрачалася з Гаранькам і адчувала сябе смелай і ўпэўненай. А вось амаль ягоныя ж думкі выказаны чалавекам другім, выказаны жанчынаю, якую я паважаю, і ў мяне няма жадання абвяргаць яе словы, не згаджацца. Дакладней, гэткае жаданне было, але я не ўспрымала ўсур'ёз парады Ліноўскай, употай смяялася са спачувальных парад Туравай: мне здавалася, што я ведаю пра жыццё нешта значна большае, вельмі вялікае і важнае, чаго не ведаюць і, відаць, ніколі не ведалі гэтыя жанчыны. Я паважаю іх, але не магу ні пагадзіцца, ні прыняць тое, што яны кажуць мне. У мяне ёсць Марынка. Дзеля яе я павінна жыць. І дзеля яе жыць буду! Гэта вырашана даўно. Дык навошта яшчэ думаць? Ніякія парады, ніякія кпіны нічога не зменяць і не парушаць — усё павінна ісці і ідзе так, як гэтага пажадала я сама.

— Моркву як секчы будзем? — запытала маці Ліноўскай.— Колцамі ці ўдоўжкі пусцім?..

— Праўду кажаш,— Турава зноў вярталася да перарванай гаворкі. Яна сярдзіта торкнула таўкач у бочку.— Хлопцы цяпер любяць, каб ім галовы дурылі. Думаеш, кло-

пат у іх, чаго дзеўка варта? Ф-ііі! Каб фэфанькі ды хаханькі. Няхай сабе і падмалявана, але каб прыгожая. Веньку Высоцкага з круцільнага ты ж ведаеш? О! Гэтакі файны хлопец. А каго ўзяў? Маляваную-перамаляваную. І тае прыгажосці — фарба адна: ні да працы, ні ў дзела. Палавіну дня — дома ляжыць. Палавіну другую — радыёлу накручвае. Ці на ганак у штанах мужчынскіх выйдзе і свішча. Во!.. А якая дзеўка за Венькам лётала! Гэ-эх! А тут як хто вочы заліў...

— Кахае,— уставіла я, хоць і не ведала, што там і як.

Турава выцягнула таўкач з бочкі і ўзмахвала ім, быццам адсякаючы словы:

— Каханне вам. А як вы кахаеце? Падляцеў, схапіў дзеўку: а-ах, кахаю. Паўгода мінула: ах, не кахаю, памыліўся! Няпраўда, скажаш?

— Я нічога не кажу, Ганна Якаўлеўна.

— Тады слухай.

На вуліцы пачуўся дзіцячы плач. Ліноўская кінулася да акна. Паўглядалася праз шыбы, плёхнула рукамі:

— А вой жа ты вой, людцы добрыя. Вы толькі зірніце на іх!..

На ўзбочыне валтузіліся дзеці. Рослы хлопчык уссеўся на меншага, але таўсматага і дужага — гэтак яны і паўзлі па зямлі.

— Сцё-ёпка! — нудліва верашчаў меншы.

— Ах жа ты, лундак чортаў! — гукнула ў фортку Ліноўская.— Зараз жа адпусці Дзімку! Каму кажу, Сцяпан!

— Няхай ён спярша шайбу мне аддасць...

— Пачакайце, вось зараз я выйду. Пачакайце... Усім шайбаў тых хопіць! Чуеш, Сцёпка!

Сцёпка, урэшце, адпусціў брата, яны ўзняліся з долу і пайшлі за хату, скоса пазіраючы на адчыненую фортку. Дачка Ліноўскай — круглатварая, з матчынымі вачыма дзяўчынка, убегла ў хату і папрасіла:

— Ты Дзімку, мамачка, лепей набі. Гэта Дзімка ўсё задзіраецца.

— А табе ўвушшу пішчыць? Ты нашто Марынку адну кінула? Марш да Марынкі!..

Ліноўская шмарганула матузкі фартуха, што зноў развязаліся, немаведама каму паскардзілася:

— І вось жа гэтак поўны дзень. То ім мячык, то ім драчык. Пакуль вырастуць — пасівееш.

— Не ў тым сіла, што кабыла сіва,— зазначыла Турава, паглядаючы ў акно.— А ў тым, што воза добра цягне...

— А многа, думаеш, засталося? Хутка воза і з месца не скрану. Кідайма ўсё ды паабедаем!

— Лепей скончым. Колькі тут засталося.

— Праўду Стэфка кажа. За адным скрыпам ужо...

— А мне што? Я баюся, каб работнічкі з голаду не пухлі.

— Дык ужо ж не памром!..

Мы працавалі яшчэ гадзіны са дзве і пакрышылі ўсе качаны. Ліноўская вынесла пустыя мяхі, і, пакуль Турава мыла крышаўку, а я замятала падлогу, яна сабрала абед.

— Хутка ўправіліся,— сказала Турава.— Адной табе тут до-оўга валаводзіцца прыйшлося б. Толькі баюся, каб дзежачка не пацякла...

— Замочым, замочым дзежачку. Усё будзе як след...

Ліноўская прынесла з сенцаў графін і паставіла яго на стол; графін адразу напацеў. Турава ажывілася.

— Во, цяпер я спакойная за дзежачку. Дзе твой келіх, Стэфа? Стаўляй!

— Не хачу.

— Дзіўная. Гарэлкі тут кропелька. Мне ж таксама гэтая атрута не даспадобы. Але тут пасабраліся жанчынкі — можна. Пакуль сіла ёсць — выпіць можна.

— Выпіць гэта не грэх,— сказала маці Ліноўскай і перахрысціла свой келіх.— Грэх няпраўдай жыць і чалавека крыўдзіць. Есці, не памаліўшыся, таксама грэх, бо ўсявышні дае нам радасць і ўсякае жывотнае благаваленне.

Ліноўскай было ніякавата ад слоў маці, але, відаць, яна не хацела спрачацца і стрымлівала сябе.

— А гэта добра прыдумалі, з брыгадамі,— сказала яна, разразаючы на талерцы гурок.— Мой як стаў побач з тою брыгадай, дык ласкавейшы зрабіўся. Нават вады ранкам са студні нацягае. А па вечарах кніжку ў рукі, і ўсё старонкамі — шась, шась...

— Тады і табе трэба за сваім следам,— параіла Турава.

— У нас няма.

— Як? А што ж мне Стэфка баяла?

— Гэта на заводзе. А ў нашай змене няма.

— Відаць, прыйдзецца мне гэтым заняцца...

Іранічная заўвага Туравай нечым не спадабалася Ліноўскай, яна з бразгатам закаркавала графін.

— Абыдзецца!

— А я б не сцярпела. Не-ее... Каб не пенсія і на заводзе была — першая туды б шуганула. Хаця наўрад ці возь-

муць мяне. Пабалбатаць я люблю. А там у гэта не веруюць...

Добра не дачуўшы, пра што ідзе гаворка, маці Ліноўскай зашамкала сухімі бяскроўнымі губамі.

— Веруюць людцы, веруюць... Як у бібліі сказана — гэтак свет і пойдзе. Круціцца чалавек, круціцца, а куды выкіруецца? Да бога толькі. Бо ён справядлівы і дае нам веру...

— Знайшла справядліўца,— сказала Ліноўская, і ў яе голасе прагучала старая, не сёння народжаная злосць.

— Так. І чалавек справядлівы, каторы гэтую веру прыняў. Няўжо ж усе гэтак, як ты?

— Ну, досыць, мама, досыць!..

За акном гаманілі дзеці. Сярод іншых галасоў я без памылкі пазнавала голас і смех Марынкі. Чула і не магла ўседзець за сталом.

— Трэба ж гэтую басоту цягнуць есці,— сказала Ліноўская.— Гані ты іх з вуліцы, Стэфа. І Марынка твая згаладалася, пэўна...

На вуліцы дзьмуў вецер. Руды, перамешаны з снегам пыл струменямі поўз па зямлі. У каляінах блішчаў сінімі стужкамі лёд. Схапіўшы на рукі Марынку, я разбеглася. Лёд затрашчаў пад нагамі, але мы праехалі каляіну да канца. Марынка засмяялася, і я радасна цмокнула яе ў халодныя пунсовыя шчокі.

## 7

З невядомай надзеяй я ехала да бацькі. Цягнік прыйшоў апоўдні. Драўляны баравіцкі перон быў чыста падмецены лістападаўскім ветрам. Усё вакол быццам зменшылася без мяне, змізарнела, і толькі старыя дубы па-ранейшаму велічна выносілі свае разгалістыя шаты з-за вастраверхага чырвонага будынка станцыі; жоўтая фольга неабляцеўшага лісця суха звінела.

Бацька, здавалася, не заўважаў мяне; ён ціскаў Марынку, цалаваў, падкідваў высока на руках.

— Ух! Ух! Якая ж ты вышмаргнулася! У-уух!..

Марынка нечага напалохалася і заплакала. Я ўзяла яе к сабе на рукі, і яна адразу сціпылася, але паглядала на свайго дзеда насцярожана.

— Ты чаго, Марынка? Гэта ж дзядуля твой. А хто табе, памятаеш, вялікую ляльку прывёз? Гэта ж дзядуля!..

— Забылася яна. Крышачку пройдзе, і пазнае...

— Ага... Яна, мабыць, не пазнала. І ты яе вельмі высока падкінуў. Напалохалася, мабыць. Ну, ідзі ж да дзеда!..

Крыху павагаўшыся, Марынка пацягнула ручаняткі да майго бацькі; ён асцярожна прыціснуў яе да сябе.

— Мы з ёю хутка пасябруем!

— Будзе час. Амаль тыдзень пагасцюем...

— Чаму ж тыдзень? Ты ж пісала, што на месяц пуцёўка?

— На дваццаць чатыры дні.

— Ну! Амаль поўны месяц! — ажывіўся бацька.— Правільна. Даўно табе трэба было паехаць, даўно. Быццам няма дзе Марынку пакінуць. І адпачне яна тут. І мне радасць. Можаш яе і да вясны пакінуць.

— Не, татка, Марынку я не пакіну.

Бацька ўстрывожыўся:

— А куды едзеш адпачываць?

— Нікуды. Да цябе святкаваць прыехала.

— Ты ж кажаш, пуцёўка ў цябе. На дваццаць чатыры дні пуцёўка...

— Правільна. На дваццаць чатыры. Толькі я аддала яе. Нашай жанчыне адной аддала.

— Сваю пуцёўку?

— Чужую ж не аддасі. У нас Нікіціна з бальніцы выпісалася. Яна вучнем аператара працуе ў нашым цэху.

— І ты ёй — пуцёўку?

— Друскенікі якраз ёй падыходзяць...

— А табе?

— Я кветка, тата!

— Чаго, чаго?..

— Мне адна на заводзе казала: ты — кветка, Стэфа.

— Баламут ты, гэта я ўжо табе скажу...

— Не магла я інакш, татка! Пуцёвак у заўкоме не было на той час. Што ж мне рабіць?.. Я, здаровая, паеду на курорт, а сяброўка хворая — у цэху? Ты падумай, што гаворыш?..

Бацька доўга набіваў люльку, доўга распальваў яе, курыў прагнымі зацяжкамі. Сказаў уздыхнуўшы:

— Матчына натура ў цябе. Тая, даўней, мне таго не дасць, што людзям...

— І ты крыўдуеш на гэта?

— Цябе мне шкада, бо слабая ты зусім.

— Не прыдумляй. Спытай лепей у Марынкі пра маё

здароўе. Скажы, дачушка, дзядуню, што мама вельмі здаровая.

— Мама,— сказала Марынка.

— А цяпер — дзядуня!

— Дзядуня,— паўтарыла Марынка.

— А ўнучачка ж ты мая дарагая! А дзіцятка ж ты маё роднае. Во дзе розум расце!..

На бацькавых шчоках — сіняватых, дбайна паголеных — ляглі вакол носа глыбокія зморшчынкі, і губы тузануліся. Бацька ўжо не сердаваў.

У святочна прыбранай хаце нас чакала Надзея. За час, што я не была тут, яна — можа, толькі гэта здалося мне — вельмі пастарэла: твар выцягнуўся, і цёмна-сінія плямы трывала аселі ў вачніцах.

Абед стаяў ужо на стале. У вагоне мне хацелася есці, а тут я прымушала сябе трымаць у руках лыжку.

— Слаба ты нешта ясі,— сказаў бацька.— А я прагаладаўся, на тым пероне стоячы. Можа, наш харч не падабаецца?..

— Наадварот, усё вельмі смачнае. І поліўка. І трусячынка. А бліноў гэткіх я даўно не ела.

— І Марынка іх упадабала,— сказаў бацька.— Пакладзі ёй яшчэ, Надзея. А мне — трусячынкі...

Нешта непакоіла мяне ад самай першай мінуты прыезду — і тая ўнутраная ўзрушанасць, што пасялілася ва мне на пероне, не праходзіла. Я быццам нечага чакала, быццам хацела пра нешта даведацца, але запытаць мне не было каго; і нават калі б гэткі чалавек знайшоўся, я б усё роўна змоўчала, не спытала б...

Пасля абеду бацька пайшоў з Марынкай і дзецьмі пагуляць на вуліцу. Мы з Надзеяй хутка прыбралі стол, перамылі посуд.

— Твой жа тут быў,— абыякава, быццам пра нешта зусім не вартае ўвагі, сказала Надзея.— Праўда, нядоўга...

Па яе вачах я здагадвалася, што Надзея даўно хацела мне гэта сказаць, але чакала, пакуль бацька пойдзе з хаты. Ад слоў Надзеі я пачырванела.

— Ты яго бачыла? — таксама раўнадушна запытала я.

— Аднойчы сустрэліся. Пасля пахавання.

— Якога пахавання?

— А ты не чула? У яго маці памерла...

— Маці? А я ж нічога не ведала...

— У верасні гэта здарылася. Казалі, што сеў ён на магілу і заплакаў. Усе пайшлі, а ён сядзеў да вечара.

А тут — дождж. Гадзіны са дзве хвастаў. А ён там, на могілках...

— А ты яго дзе сустрэла?

— Як ішоў адтуль. Пасля дажджу. Змоклы ўвесь, зірнуў на мяне гэтак змрочна, але паздароўкаўся. Ого, кажа, як твая дачка вырасла. А я яму: і твая, кажу, немалая... Нічога ён мне, праўда, не адказаў. Больш не бачыліся. Чула, што піў дужа на станцыі, буяніў. Цяпер, кажуць, у Віцебску працуе. А дзе — не ведаю. А ты ведаеш?..

— Не.

— І не сустракаліся?

— Не.

— А пра дачку хоць пытаецца?

— Не, Надзейка, і не піша, і не пытаецца. І не трэба пра тое гаварыць. А дзе ж гэта бацька наш?

— Да швагра бацька, мабыць, пайшоў. Марынку паказаць. Вельмі ён любіць Марынку.

— Пайду пагляджу, ідуць, можа, яны...

На вуліцы нікога не было. Я зайшла ў сад і стала ля старой грушыны. Шурпатая кара была цёплая, быццам нагрэтая знутры. Ля гэтай грушыны Міхась сказаў мне пра сваё каханне. Гэта было ўлетку. Ноччу. Ноч была цёплая. Ветраная. Чорная лістота таямніча шапацела тады над намі. А цяпер ніякай таямнічасці няма. Скурчанае лісце ляжыць на цвілых дошках століка, варушыцца пад лаўкай...

Праз чорнае голле дрэў добра відаць была вуліца, рудое поле і рэдкія хмызы ля дарогі. Далёка за імі, над чорным рубцом лесу, вісеў аранжавы дыск сонца. Недзе там была лугавінка, на якой я лавіла тады мятліка. Як даўно і — як зусім нядаўна было гэта! Міхась аблаяў мяне тады за таго мятліка, і я вельмі пакрыўдзілася.

Успаміны пра мінулае не хвалявалі мяне цяпер; яны былі адгароджаны, адсунуты жалем, што выклікалі ва мне словы Надзеі. І ноч ля грушы, і лугавіну пад лесам, і ўсё тое горкае, што зведала я за апошні час, як бы закрыла журботная постаць Міхася ля магілы памершай маці. Я ведала гэтае гора. І калі яно прыйшло да мяне — побач стаяў Міхась. Мы тады ўдваіх сядзелі на могілках, удваіх прыносілі кветкі на магілу маёй маці. А ён быў адзін... Зусім, зусім адзін...

Праз веснічкі ў канцы саду я выйшла да ручая. У вузкай затоцы крэкалі гусі. За ручаём, на сухім пясчаным

пагорку, шарэлі дрэвы баравіцкіх могілак. Мяне пацягнула туды.

На могілках было змрочна. Вецер, аціхаючы, шастаў у густым спляценні бэзу. Апаўшыя лісці, што густа зацерушылі жоўты пясок сцежак, варушыліся, як мышы. Я паціху брыла ля маўклівых помнікаў. Яны былі неаднолькавыя: адны ўнушальныя, адшліфаваныя да бляску, непрыступныя ў сваёй каменнай велічы, стаялі за жалезнымі агароджамі; другія, драўляныя, нязграбныя, цісануліся да голых бэзавых галін, хаваючы ў іх рэдкі цень абшарпаныя, даўно нефарбаваныя бакі.

— Мама! Мама!..

Я спынілася і, аслупянеўшы, глядзела на Марынку, што бегла мне насустрач па сцежцы. Я нічога не магла сказаць і, толькі крыху ачакаўшы, усё яшчэ не верачы сваім вачам, запытала:

— Марынка? Чаго ты тут?

— Мы з дзядуляю. Дзеду! Дзеду!..

Бацька сядзеў на нізкай лавачцы ля матчынай магілы. Ён не ўзняўся, толькі павярнуў галаў, зірнуў на мяне і зноў утаропіў пагляд у чорныя, пабітыя ранім марозам, вяргіні. І ад гэтага маўклівага, тужлівага зроку сэрца сціснуў гэткі моцны боль, што я ледзьве не зарыдала...

Пагасцяваўшы пяць дзён, я выбралася ў дарогу. За гэты час Марынка вельмі здружылася з Надзінымі дзецьмі, і я, паддаўшыся ўгаворам бацькі, пагадзілася пакінуць яе на пару тыдняў.

З хаты выбраліся цішком ад Марынкі — я не хацела, каб яна бачыла мяне і плакала.

— А скажы, усё разумее дзяўчына,— са смехам сказаў бацька.— З судамі з хаты выскачыш — нічога. А як паліто апранула і сумку ў рукі — адразу ў слёзы.

— Не кажы мне пра тое, бо самой плакаць хочацца. Чаго рукавіцы не надзеў? Сцюжа гэткая...

— Не было іх у мяне да снежня ніколі.

— Я табе прывязу, татка!..

Халодны, як бы зімовы, вецер трос верхавіны дубоў; прамёрзлае лісце на іх тонка і чыста звінела, і ад гэтага звону рабілася няўтульна на пероне і быццам яшчэ халадней.

— Толькі глядзі ўжо не турбуйся,— яшчэ раз папрасіў бацька.— Тут ёй будзе добра. Дый ці далёка? Як субота — ты сюды можаш...

— О-ох, і дыпламат у мяне татка! Прымусіў кожную суботу ў Баравічах гасцяваць.

— Ну і пагасцюеш. Прыедзеш — увакурат і адпачнеш...

Цягнік падыходзіў да станцыі. Ад грукату колаў гулка трымцелі дошкі перона; белы дым, змешаны з парай, зацягнуў бацькаў твар; бацька закашляўся. Я паправіла яму шарф на шыі.

— Не беражэш сябе. Ці доўга захварэць?

— Я ўжо ўсе хваробы перабраў. Не страшна.

— Ну, ну! Не храбрыся!

— Залязай у вагон. А то застанешся...

— А мне гэтага хочацца! Хоць пішыце часцей. Надзею я прасіла. І цябе прашу...

— Я сказаў. Сам буду пісаць. Пра ўсё. Падрабязна...

Нейкі час, стоячы ўжо ў тамбуры, я бачыла бацькаву постаць, потым, калі цягнік паскорыў хаду, касяк вагона закрыў яе, і былі відаць толькі жоўтыя шаты дубоў. Затым і яны прапалі. За акном ляжалі шэрыя восеньскія палі.

Туга па Марынцы перамешвалася з пачуццем віны перад бацькам. Так, даўно трэба было мне прыехаць сюды з Марынкаю. Але як жа мне цяпер без яе? Нічога. Не вельмі ўжо гэта вялікі тэрмін — нейкія два тыдні! А на больш не аддам. Я люблю Марынку. Але ж і бацька песціць малое і хоча, каб унучка пагасцявала ў яго, ганарыцца гэтым. І мне нельга забываць на тое, думаць толькі пра сябе. Ці добра будзе, калі Марынка вырасце і няўважліва паставіцца да мяне?.. Не, гэта вельмі несправядліва і не можа здарыцца! Не павінна здарыцца!.. Марынка... Ой, як няскора будзе яна дарослай...

Паабапал чыгункі ўжо цягнуліся лясы; на маладых ялінах, што падступалі да самага палатна, віселі бэзавыя, як цацкі, шышкі. Я па-ранейшаму думала пра дачку, але ў гэтых думах не было тугі, і мне рабілася вельмі хораша ад усведамлення таго, што я, пакінуўшы Марынку ў Баравічах, прынесла радасць бацьку. Дарэмна я спрабавала абвінаваціць сябе ў эгаізме. Дзе ж тут эгаізм? Я не прыязджала ў Баравічы таму, што не магла пакінуць Марынку, не аб сабе быў тады мой клопат. Марынка! Толькі яна! І дзеля яе я закрэсліла шмат чаго ў сваім жыцці, сцярплю любыя пакуты. Ці ж можна вінаваціць мяне за гэта?..

У Прыдзвінск я прыехала апоўдні. Гаманкі натоўп пасажыраў вынес мяне на прыстанцыйную плошчу. Вакол мітусіліся людзі, спяшаліся, гаманілі. У кожнага быў свой

клопат, і нікому не было аніякае справы да мяне. Я была вольны чалавек: мне не трэба было спяшацца дахаты, не трэба было нікуды бегчы, я магла ісці спакойна, магла ўвогуле прыпыніцца і нікуды не ісці, а проста стаяць і глядзець. Радасць ад гэтай волі чамусьці была вузкая, яна не сцерла, не адкінула думак пра дачку. Што яна парабляе там? Гуляе?.. Абедае... А можа, плача, шукае свае мамы і не ведае, што мама вельмі далёка?..

Недзе зусім побач заплакала малое. Я прыпынілася, быццам уперлася ў нейкую перашкоду. Са сквэрыка выбегла і стала перада мною маладая цыганка ў доўгім, неахайна залапленым плацці; пад белым, у брудных плямах шалікам нэндзіў маленькі хлопчык. Цыганка не трымала яго рукамі, і ён, бы вялізная дуля, нейкім цудам вісеў у яе на грудзях. Ногі хлопчыка былі засунуты пад плацце, перацягнутае чорным цыратовым поясам.

— Яму ж нядобра гэтак. Ножкі, мабыць, баляць, таму і плача.

— Сама, родная, плачаш,— сказала цыганка.— І сум на твары прыгожым. І туга ў вачах, не шчасце. Пазалаці ручку, родная, усю праўду табе скажу: што было, што маеш, што будзе.

У голасе цыганкі не было настойлівасці. Хлопчык пад шалікам перастаў плакаць, вытрашчыў на мяне бліскучыя, як мокрыя вішні, вачаняты.

— Ах, які ж ты чорненькі. Мусіць, без мыла мыешся, таму і чорненькі. Так? Ну скажы...

— Пазалаці ручку, родная, скажу,— пявучым голасам прасіла цыганка.— Праўду пачуеш. Нічога ўтойваць не буду. Не хлуслівая мая карта — праўду скажа. Вочы і вусны — на іх гадаю...

— Гаданням я не веру...

— Не верыш цяпер — потым паверыш. Добрых слоў не слухаеш — ліхога кія паслухаеш. І пашкадуеш, прыгожая. Чаго глядзіш на хлопца? — яна паспешліва закрыла шалікам яго твар.— У цябе вока тужлівае. Не глядзі на малога, не глядзі! Ад тужлівага вока гора малому прыдасца. Пазалаці ручку — ведаць будзеш, як даросламу ад гора засцерагчыся...

— Ну, ну... Скажыце...

Смеючыся, я дастала грошы. Цыганка вокамгненна схапіла іх; твар яе адразу змяніўся, вочы запаліліся хітрым агнём.

— Бяда ў цябе была,— сказала яна, але па-ранейша-

му закрывала шалікам твар хлопчыка.— I суму многа. А доля шчаслівая. Бяду сабе пад ногі кінула, а радасці многа ўзяла? Няма ў цябе радасці. Пра маладога і стройнага думаеш. Яго сцеражыся. Стукае сэрца? Стукае, чую... Ад сябе нікуды не схаваешся. I ён не хаваецца, чакае. Прыйдзеш да яго, а ён не ўзрадуецца. I дарога вялікая наперадзе. Бойся тае дарогі. Гора на ёй. I хлопца стройнага бойся. Верыш яму? Верыш. Але сумняваешся. Таму шчаслівая з ім не будзеш. А можа, і будзеш. Дарогі толькі бойся. На дарозе конь стаіць, капытком б'е. Дарогі просіць. Сцеражыся дарогі. Пазалаці ручку! Пазалаці, слаўная. Скажу, што за дарогай ёсць. Пазалаці ручку, прыгожая!..

— Навошта мне дарога? Я дамоў прыехала.

— Адна дарога скончылася — другая пачнецца. Усё жыццё наша — дарога. Многа дарог у цябе, прыгожая. На якую ступіць — не ведаеш?..

— Ведаю куды! Ведаю...

— Ой, не ведаеш, прыгожая! Пазалаці ручку — скажу куды!

— Не, не! I так нагаварыла поўны мех!..

Я пайшла шпарчэй, цыганка адстала; калі на рагу вуліцы, чакаючы, пакуль пройдуць машыны, я прыпынілася і паглядзела назад, дык ужо не ўбачыла яе на скверыку. Але ад слоў варажбіткі засталася ў душы трывога, і я, смеючыся над тым, што сказала цыганка, раптам адчула, што мне карціць як мага хутчэй бегчы дахаты. Я перайшла вуліцу і прымусіла сябе ісці спакойна.

У хаце была толькі Ганна Якаўлеўна. Яна ўзрадавалася, убачыўшы мяне, але запытала раўнадушна, нібыта адзначала нешта надта звычайнае:

— Адсвяткавала?

— Маланкай праляцела свята. А Волька дзе? Прыехала?

— Учора. А цяпер сышла некуды.

— А я — адна. Марынку там пакінула...

— Тады яшчэ табе казала: не выпусцяць яны яе. А можа, гэта і лепей. Бацьку нельга крыўдзіць...

— Яна адразу з дзецьмі здружылася. Гуляе з імі, не плача...

Турава, слухаючы мяне, крыху нахіліла галаву; сівыя валасы спаўзлі нізка на лоб, амаль закрылі правае брыво. Усё аблічча яе выдавала: пакрыўдзілася. Гэта было прыкметна перад святам, калі я паважылася ехаць у Баравічы. Турава паскардзілася тады, што ёй будзе сумна, але

ўхваліла мой намер паехаць да бацькі. Яна была тады шчырай — гэта бясспрэчна, і толькі цяпер я зразумела яе крыўду, якая тады засталася мною незаўважанай. І сапраўды. Разбегліся ўсе на свята, пакінулі яе адну ў хаце. А я нават тэлеграмы не адбіла. Як жа гэта я забылася? Драбяза, вядома. А яе гэта ўзрадавала б...

— Пойдзеш мо куды?

— Не, пачытаю...

— Тады я да Ліноўскай падбягу.— Турава пачала апранацца.— Там яшчэ свята не скончылася. Можа, разам хочаш?

— Не, дзякую. Волька калі вернецца?

— Не казала. З хлопцам была. Але, здаецца, не наш, не з завода...

Стоячы пры дзвярах ужо, апрануўшыся, дадала:

— Чай на пліце, калі хочаш. Гарачы...

Так, яна пакрыўдзілася. Раней, як толькі я прыходзіла з работы, мы садзіліся на кухні, і Турава грунтоўна распытвала мяне аб усім. Няўжо цяпер ёй не цікава пачуць пра Баравічы?..

Танютка і дужа знаёма, як на бацькавай пліце, звінеў чайнік. І раптам за дзвярыма пачуўся Марынчын голас — яна плакала. Плакала выразна. Пакрыўджана. Я сарвалася з месца, насцеж рванула дзверы. Пакой быў пусты. Я абышла пакой: у ім нікога не было. Спынілася ля каляскі і моўчкі, утрапёна глядзела на водбліскі вечаровай зары, што дрыжалі на нікеляваных парэнчах.

Я слаба штурханула каляску, каляска адкацілася. Водгук Марынчынага голасу яшчэ жыў ва мне, сэрца спалохана тахкала ў грудзях і ніяк не магло супакоіцца. А што ж будзе са мною заўтра? Ці змагу я жыць адна, без дачкі? Ці хопіць у мяне сілы адолець тугу і горыч адзіноты?..

У сенцах адчыніліся дзверы. На кухні нехта затупаў — крокі нерашучыя, але цяжкія, незвычайна грузныя.

— Хто там? Хто прыйшоў?

— Ага!.. Ёсць жывыя ў хаце!..

Я адразу пазнала гэты насмешлівы, крыху сіплаваты голас. Кроў кінулася ў твар: Гаранька! Чаго ён тут?.. Усё ж было вырашана там, на беразе Дзвіны, і цяпер няма аб чым гаварыць з ім. Але чаму я — як гэта дзіўна і неверагодна! — радуюся яго з'яўленню?..

— Заходзь, калі ўжо ўвайшоў,— мне хацелася быць такой жа насмешлівай, як і ён.— Госцем будзеш.

— Дзякуй. А я думаў — размаўляць не захочаш. Прагоніш...

— Чаму? Калі ты цераз дзверы прыйшоў, як чалавек!

— Як чалавек? — ці то запытваючыся, ці то сцвярджаючы нешта, сказаў Гаранька.— Гэта правільна...

— Сядай.

— Дзякую...

Ён сеў і паклаў вялізны клумак сабе на калені.

— А Волька ж дзе?

— Ты, аказваецца, добра тут усіх ведаеш!

— Якое добра. Адзін раз на свята зайшоў. Дакладней, перад святам. Спачатку яна са мною і гаварыць не схацела. На падворку трымала.

— Вось ужо гэта і не паверу. Волька?

— Ну! А я стаю і ніяк не ўцямлю: чаго ўз'елася? Мо ты загадала, думаю...

— Нікому і нічога не загадвала. Але, калі шчыра казаць, пра цябе думала...

— І, пэўна, усё радавалася!

Гуллівая заўвага Гаранькі абудзіла ва мне старую крыўду.

— Ты што, у іроніі прыйшоў практыкавацца?

— Прабач. Я да Марынкі, у асноўным... Вось... Ёй тут. Думаю, што спадабаецца малой. Ішоў ля крамы — стаіць, бачу. Ну, і купіў...

Гаранька, спяшаючыся і дзеручы паперу, развінуў скрутак. У ім была лялька. Вялікая, з бяздумнымі блакітнымі вачыма. З белым картузікам на закручаных пасмахбуклях.

— Во! — Гаранька ўрачыста паставіў ляльку на падлогу.— І стаяць яна можа. А пакладзеш — вочы плюшчыць. Харошая цацка. А дзе ж твая малая?..

Гаранька кратаў пальцамі малінавыя шчокі лялькі. Крыўда на яго яшчэ жыла, але нешта я ўжо даравала яму і глядзела на яго без насмешкі і не так строга, як на першым часе.

— Марынкі няма. Яна паехала да дзядулі ў госці...

— Вунь яно што! Гасцюе, значыцца... Гэта добра, калі ёсць у каго. Сумна ёй там будзе...

— Што ты? Адразу ж дружбакі завяліся. А яна вельмі любіць дзяцей. І гуляць з імі можа бясконца...

— Тады ў яслі трэба. У яслях добра.

— Вядома. Але ж вельмі цяжка без малой... Сумна.

— Мяне пакліч...

— Ты пра гэта і думаў?
— Ды я нічога не думаў.
— Па-ранейшаму, значыцца...
— Тое, ведаеш, даруй... Дазволіш?
Ён паказаў мне пачак папярос, але не зірнуў на мяне і глядзеў на падлогу, увесь час не ўзнімаючы галавы.
— Дымі,— сказала я.
Запалка зламалася ў яго руках; ён выцягнуў яшчэ адну, прыпаліў папяросу, але запалку не кінуў і ўсё глядзеў на кволы агеньчык, пакуль той не згас. Потым Гаранька ўзняў галаву і бясстрашна зірнуў мне ў вочы. Ён нечага быццам чакаў. І я глядзела на яго таксама моўчкі. Тады ён сказаў:
— Я вось сяджу і думаю... Праўда... У жыцці кожнага чалавека ёсць мяжа. Ты не заўважыла? Я прыкмеціў гэта. Мінеш яе — і ўсё тое, што было раней схавана, відаць дужа добра. Нібыта лезеш, лезеш на пагорак які, а потым азірнешся — высока стаіш і відаць далёка...
— Ты думаеш, што гэтая хата — якраз той пагорак?
— Ды не аб хаце зусім,— сур'ёзна сказаў Гаранька. Ён усё яшчэ не змяніў паставы і глядзеў на мяне, і яго вочы бруілі чысты, але трывожны бляск.— Ты прымусіла мяне паверыць, што жанчына можа жыць прыгожа і чыста. Тады ноччу... Не, нават да таго яшчэ... Памятаеш, першы раз... Ты шчыра сказала мне. А што я рабіў?.. Помсціць захацеў... І потым на сваім паставіць надумаў... Ты праўду на Дзвіне сказала: прывучылі мяне, што Гаранькава слова — закон. І ўсё — схіліся. А чалавек, відаць, не можа быць так, каб толькі ўсё для яго...
Гаранька асуджаў сябе бязлітасна. Рабіць гэта было яму цяжка: ён, відаць, нямала перадумаў, перш чым прыйсці да мяне. Я слухала яго здзіўлена, адкінуўшы насмешлівасць. Але спагадлівасць прыходзіла зусім не ад таго, што ён прасіў прабачэння: мяне расчуліў падарунак Гаранькі, і сэрца маё мякчэла.
— Так, ты кажаш праўду...
— Ты, вядома, можаш запытаць, а навошта ты, Гаранька, гаворыш мне гэтую праўду. І я адкажу табе. Чалавек не можа хлусіць сабе. Не толькі людзям, а ў першую чаргу сабе. Не можа. Аблаяў мяне хто — я разумею гэта... Ты не кахаеш — можна знайсці прычыну і даравать мне... А калі чалавек свядома лгаў свайму ўласнаму сэрцу?.. Няма тут даравання. Нікому. А я ж рабіў гэта, Стэфа... Рабіў...

— У мінулым, Гаранька!

— Так, у мінулым. Цяпер я разумею, што шчырасць у адносінах да другіх — гэта ў першую чаргу чэснасць перад самім сабою. Вось чаму я загадаў сабе: ты пойдзеш да Стэфы і ўсё раскажаш...

— Мне ўвесь час здавалася, што ты абавязкова прыйдзеш.

— Чаму?

— Нават не ведаю. Можа, таму, што хацела бачыць цябе лепшым. І смелым...

— Я ўдзячны табе.

— І табе дзякуй.

— Мне? Не жартуй...

— Не жартую. Чакай, я зараз вазьму кніжку. Бачыш? Вось...

— Што гэта?

— Пасохлае каліўца герані. «Гаранька. І мяне завуць — Гаранька». Памятаеш?..

— Не... Хаця... Дай я зірну!

Ён узяў засохлую кветачку герані, асцярожна паклаў яе сабе на далонь, і тады, відаць, нешта ўсплыло ў яго памяці. Няроўныя чырвоныя плямы з'явіліся на твары Гаранькі, бародаўка на носе патаўсцела і заблішчэла ад поту.

— Ты мужная жанчына,— сказаў ён.

— Вось бачыш... А сёння магла быць зусім не такая гаворка... І ты вельмі лёгка знайшоў бы сабе маральнае апраўданне: сама пагадзілася.... Жанчыне цяжка адной жыць. Мы ж усе — людзі: у кожнага свае слабасці... І таму ўдзячна табе за герань. Я глядзела на яе і думала пра аднаго чалавека: няўжо бруд — гэта адзінае, што ёсць у ягонай душы.

— Ты мужная жанчына,— паўтарыў ён.

— Не, Гараня. Мужным чалавекам я не была. Калі мужнасць складаецца з ночаў без сну, з крыўды, сумненняў і тугі, з болю, ад якога разрываецца сэрца,— я першай пракляну такую мужнасць. Навошта яна чалавеку?.. А можа, без яе і не можа жыць чалавек?..

Я хацела і не магла сказаць гэта Гараньку. Ці ж лёгка яму было прыйсці сюды і сказаць тое, што ён сказаў? Ваганні. Пакуты. Сумненні. Гаранька, відаць, прайшоў праз усё гэта, перш чым прыйшоў сюды, перш чым скінуў з душы цяжар мінулага. І ўсё ж такі ён перамог, зламаў дурное і благое сваё натуры...

— Скажы, а што парабляеш ты? Зноў у мастапоездзе?

— Не, на электрастанцыі. Па вечарах займаюся з сястрой.

— У цябе ёсць сястра? Не ведала...

— Яна ў дзіцячым доме была. А цяпер разам мы, у Трахіма жывём. Я настаяў!..

Ён сціснуў кулак — перасохлая кветка ціха хруснула. Гаранька памкнуўся змесці з падлогі ружаваты пыл.

— Бачыш, што нарабіў!

— Кінь. Сама змяту...

Развітаўшыся, ён ля парога прыпыніўся, па-ранейшаму адкрыта зірнуў мне ў твар:

— Я хачу прыходзіць да цябе. Можна?

— Не трэба.

— Ты можаш сказаць, чаму?

— Мне варажыла цыганка. Ведаеш, што яна мне сказала? Сцеражыся хлопца маладога і стройнага. Гора з ім...

— Лёгка табе жартаваць. А можаш ты праўду сказаць?

— Магу. Я кахаю другога чалавека...

— На заводзе?

— Не. Гэта — бацька Марынкі...

Упершыню пасля таго жудаснага дня ў хаце Раманюка я ўголас сказала пра сваё каханне, сказала чалавеку, якога зусім нядаўна ненавідзела. Чаму ж так здарылася? Чаму менавіта яму адкрыла я сваю крыўду, боль і тугу?.. І гэткае здараецца не першы раз. Так, не першы... Памятаю, у той дзень, калі я здала тэхмінімум і стала аператарам, было нешта падобнае. Я вельмі злавалася тады на Міхася і ўсё ж пра яго падумала, яму збіралася пісаць... А быў побач бацька, чакаў, і я зусім не думала пра яго тады. Чаму? Дагэтуль не ведаю. Але чамусьці ў горы вельмі мала думаеш пра чалавека, які зрабіў для цябе многа харошага, а ў першую чаргу пра таго, хто прыносіць табе горыч і тугу. Добрае забываецца хутка. Пра горкае мы памятаем даўжэй...

На падлозе, дзе стаяла крэсла, на якім толькі што сядзеў Гаранька, ружавела пацярушаная ссохлая герань. Я змяла яе і выкінула ў фортку. Са стала за кожным маім рухам уважна сачыла бяздумнымі вачыма лялька з нахабна-малінавымі шчокамі.

## 8

У пакоі пахла хвояй.

Была позняя раніца, але Марынка яшчэ спала, і я не хацела ўставаць, ляжала і глядзела на ўпрыгожаную ялінку ў кутку пакоя. У галаве быў лёгкі тлум. І навошта пілі ўчора гэтае шампанскае? Усё Волька! Дый бяды той! Павесяліліся затое. А Волька — танцорка! Ды і я, уласна кажучы, не адставала, расхадзілася...

— Мам! — Марынка прачнулася. Паклікала мяне.

— Ты ўжо не спіш?.. Ну бяжы сюды!..

Марынка вокамгненна апынулася ля мяне. Ого! Не вельмі ўжо часта дазваляецца пасваволіць на матчыным ложку.

— Сёння можна і падурэць, дачушка. Быў стары год, а цяпер — новы.

— Новы,— пагадзілася Марынка.

— Зусім новы, зусім! Ай-яй! А што ж гэта там, пад ялінкаю?.. Конік? Не, нешта іншае... Клунак. Ага. Прыцягні ты яго сюды, Марынка. Мабыць, Дзед Мароз да нас прыходзіў. Мы спалі, а ён — прыходзіў...

Марынка затупала да ялінкі і прынесла мне тоўсценькі папяровы пакет. Я сама паклала яго ўчора ўвечары туды, але гэта не перашкаджала мне здзіўляцца.

— Дый напісана нешта. Ну, ну... Пачытаем зараз... Ага. «Марыначцы ад Дзеда Мароза». Вось як напісана. І што ж гэта ён табе тут напакаваў? Цукерачкі. Яблык. А гэта што?.. Ах, гэта ж апельсін. Бачыш, якія апельсіны бываюць? Ведаеш, чаму Дзед Мароз да нас прыходзіў? Таму што ты добрая і паслухмяная...

— А чаму я Дзеда Мароза не бачыла?

— І я таксама не бачыла. Ён прыйшоў, пакет паклаў — і пайшоў сабе. Ноччу, калі мы спалі.

— І заўтра ён прыйдзе?

— Не, дачушка. Ён толькі ў Новы год прыходзіць. А болей яму няма часу.

У пакой, як віхор, уварвалася Волька; паліто расшпіленае, шэрая хусцінка спаўзла на плечы, вочы нібыта пабольшалі ад ліхаманкавага бляску.

— Чулі?

— Чулі-чулі, чулі-чулі. Дзед Мароз да нас прыходзіў...

Я гушкала на руках Марынку, яна залівіста смяялася.

— Дрыхуны! Вы ж як у лесе тут! — крыкнула Волька.— Спіце, а там зноў запусцілі!..

Яна падляцела да сцяны, дзе вісеў рэпрадуктар, уключыла яго і стрымгалоў кінулася праз дзверы на кухню.

— Цётка Галена! Цётка Галена! Слухайце! Паўтараюць!..

Па радыё перадавалі ўрадавае паведамленне. У Савецкім Саюзе запушчана ракета, якая выводзіць на арбіту штучную планету — спадарожнік сонца. Ад чоткага, урачыста-святочнага голасу дыктара па целе прабягалі дрыжыкі. Якія дзівы творыць краіна! Зусім нядаўна мы пачулі пра першы спадарожнік Зямлі. Гэта было як свята. А цяпер — штучная планета!

Марынка прыціхла, потым зашамацела паперай, і я пагразіла ёй пальцам. Волька схапіла Марынку, падкінула яе на руках.

— Ляці на Месяц, дзяўчына! Ляці! А хочаш — разам. Ой, Стэфка, на ўсё гатова, каб толькі адным вокам зірнуць, што там на Марсе?..

— Проста неверагодна. Ашаламляе ўсё гэта.

— Скажы мне дзякуй, бо каб не я, дык праспалі б усё на свеце. А што на заводзе было!.. Мітынг — адразу. Тэлеграму ў Маскву паслалі. Цэнтральнаму Камітэту партыі. З віншаваннямі. У горадзе — свята. Во як Новы год пачынаем...

На кухні трамбоніла вечка чайніка.

— Мая ракета гатова! — з усмешкаю паведаміла Турава.— Чуеце, аж скокае. Давайце снедаць хутчэй. Уставай, Стэфа!..

За сталом размова ішла ўсё пра адно і тое ж. Настрой ва ўсіх быў радасны і святочны. Паснедаўшы, Турава апранулася і пабегла да Ліпоўскай.

— Во ўжо дзе яны навіны адзначаць і абмяркуюць,— заўважыла Волька.— А мы з табою прас на арбіту паставім. Трэба нам падрыхтавацца як след...

— А я ўсё думаю: ці ісці мне?

— Сем пятніц у цябе... Дамовілася? Значыцца, кропка.

Спрачацца з Волькай было немагчыма: я сапраўды абяцала ёй пайсці разам на вечар. Гэта было яшчэ на тым тыдні, напярэдадні Новага года. Я стаяла ў вестыбюлі завода, разглядаючы вялізную, утрая большую за газетны аркуш, аб'яву. Літары буйныя, але неахайныя: «Вечар лепшай змены завода». Увагу прыцягнуў не змест, а мастацкае афармленне.

— Чытаеш? — прагучала над маім вухам.

Я павярнулася.

— Волька! Заікай зробіш!
— Пойдзеш? — яна кіўнула галавою на аб'яву.
— А трэба?
— Вечар маёй змены, і ты не пойдзеш? Толькі паспрабуй!
— Нібыта без Стэфы не абыдзецца? З якое прычыны ты цягнеш мяне туды, скажы шчыра?
— Не цягну, а прашу.
— Просьба — не грозьба. Дык што ты просіш?
— Праўда. Давай дамовімся і заключым умову.
— Спаборнічаць і дамагацца лепшых поспехаў?
— Пакінь... Ты папросіш — адразу раблю, не распытваю. Табе што спатрэбіцца — я ўсё кідаю сваё...
— А што, раней у нас не гэтак было? Я табе ні ў чым не адмовіла.
— Ты адразу сярдуеш. Проста ўмова такая. Калі я прашу, значыцца нешта вельмі важнае. Разумееш, вельмі-вельмі... І трэба, каб добры сябар быў побач...
Тая размова згадалася цяпер і зусім пераканала мяне, што тады нешта трывожыла Вольку, але яна змоўчала і нічога не сказала. Волька ўвогуле на апошнім часе неяк адасобілася, і я ўсё часцей і часцей бачыла яе задуменнай і засяроджанай.
— Калі будзем з хаты выпраўляцца?
— Ты нас а палове шостай чакай,— сказала Волька.— Ля ўваходу ў Дом культуры...
— Вас? Як гэта разумець? Ах, так... Урэшце я пабачу твайго рыцара.
— Ніхто і не хаваў яго.
Я дурасліва пагразіла ёй пальцам:
— Гэтак у вашай перадавой брыгадзе робяць? Моўчкі, моўчкі, а потым адразу — шусь, і на вяселле. А яшчэ камуністычная брыгада!
— Яшчэ толькі змагаемся. А да вяселля — далёка... Абяцаю табе, што ты яго не мінеш...
— Скажы, прыгожы?
— Лепшых не сустракала.
— І маўчала. Утойвала.
— Пра гэта не гавораць. Асабіста я — не магу...
Волька паслала на стол коўдру, уключыла прас. Задумалася.
— Ведаеш, што я надумала? — запытала яна.— Надзену я спадніцу і кофту. Белае і вішнёвае — гэта добра. Праўда?

— А чаму не сукенку? Тую, што з паяском бліскучым...

— Ён не любіць нічога фасоністага. Калі прасцей — падабаецца. А ты што надзенеш? Туфлікі ў цябе лакіраваныя добрыя. Бяры абавязкова...

— Зараз будзем глядзець...

Я выцягнула чамадан, адкрыла яго. Вось яны, лакіраваныя чорныя туфлікі. Апошні раз я надзявала іх, калі танцавала на вечары, паспяхова здаўшы ўступныя экзамены ў інстытут... Не, здаецца, я памыляюся... Так, памыляюся. У гэтых туфлях я была ў тэатры на майскае свята разам з Міхасём. Якія далёкія гэта ўспаміны, быццам нерэальныя. Але чаму яны хвалююць мяне дагэтуль?..

— Варожыш усё? — запытала Волька.

Я схамянулася, спехам выцягнула з чамадана сукенку.

— Няма чаго і варажыць. Калі і надзяваць, дык гэтае... Але каўнерык заплямлены. Бачыш? Яго і не адмыеш.

— Дай сюды. У-ууу. Сапсаваны зусім. Стой! У мяне нешта падобнае на яго было...

Волька папоркалася ў шафачцы, знайшла змяты белы каўнерык і ўрачыста прыклала да маіх грудзей.

— Во! Як тут і было. Вадзіцы крыху, прас, і будзе ён як новы!..

Сарамлівая ўзрушанасць ахапіла мяне, калі сукенка была адпрасавана і я ўзялася разглядаць яе ў люстэрка. Люстэрка — яно стаяла на пліце — было маленькае: у ім можна было разглядаць усё ў пэўным парадку — спачатку каўнер, грудзі, потым рукавы і затым ужо ніз сукенкі. Паставіла люстэрка на падлогу. Здаецца, добра! І туфлікі вельмі пасуюць да сіняй, з чырвонымі іскрынкамі, тканіны. Разы са два я пакруцілася ля стала. Не, сапраўды добра!..

— Паглядзі, Волька!

Волька была занятая гузікамі на сваёй кофце — яны сядзелі няроўна, і яна другі раз перашывала іх,— зірнула на мяне мелькам.

— А што я табе раней казала? Проста цудоўна. Даўно трэба было апранацца, ісці на людзі, а не сядзець у хаце. А то ж гладка занафталінілася. Пачакай, я яшчэ з Віктарам пагавару!

— І што ж ты яму скажаш?

— А тое, што хопіць табе ў ганаровых мамах хадзіць. Ні нагрузкі, ні грамадскае работы.

— Ты гаворыш, а мне — смешна. Віктар — сакратар камітэта камсамола. Мы з ім разам у школу лёталі. Ніяк да яго новае пасады не прывыкну.

— Дасць добрую нагрузку — прывыкнеш. Трэба было табе на камітэце ў суботу пасядзець. Каб ты бачыла, як ён ткацкі цэх за вучобу распякаў — у іх з вучобай дрэнна дужа. Гэта табе не Васечка.

— Ты мне лепей пра сукенку скажы. Што, сапраўды, няблага?

— Кажу ж табе: ухвалена і прынята з выдатнай адзнакай. .

— Пачакай, вось я сабе на вясну змайструю! У таліі тонка-тонка будзе, а тут строгі паясок па рукавах. І тады!.. Трам-лям-пам-пам! Трам-лям-пам-пам!

Я зноў пакруцілася ля стала і зазірнула ў люстэрка. Перад маімі вачыма ўжо ажывала зала, поўная музыкі, з мноствам прыгожа апранутых людзей. Нехта падыдзе да мяне, запросіць танцаваць. І будзе вакол смех, музыка, весялосць. Я жыла ўжо ў тых марах, акунулася ў той дзівосны свет, які быў дужа далёкі ад гэтае маленькае цеснае кухні, дзе стаіць стол, засланы падранай кляёнкай, дзе рукамыйнік цэдзіць у вядро з бруднай вадою буйныя белыя кроплі. Якія дзіўныя чары мае гэтае старое святочнае плацце!..

— Мама! Мам!..

— Чаго ты, дачушка?..

Рэальнае жыццё клікала мяне. Але чароўная казачная музыка ў душы не змоўкла.

— Во! Хустка!

— Якая хустка?

— Во!..

Марынка стаяла на парозе з шалікам у руках. Яна спраўна пагаспадарыла ў чамадане, выцягнула ўсё, што там было, раскідала па падлозе — нічога не спадабалася! — і цяпер прыцягнула на кухню паласаты шалік.

— Што ты, доча мая! — мне не хацелася лаяць Марынку, не хацелася зганяць радаснае захапленне з яе твару, і я тут жа дадала сур'ёзна: — Дзякуй, што прынесла. Толькі гэта не хустка, а шалік завецца. І давай цяпер пакладзём усё ў чамадан. Памажы маме... Правільна. Гэтак... Ды ў мамы сапраўдны памочнік! А я і не ведала. Цяпер мы чамадан пакладзём на месца. Потым ты пап'еш малачка, і мы пойдзем гуляць. Тваё паліто не згубілася?

Марынка падбегла да вешалкі.

— О-ох, жыга расце дзеўка,— засмяялася Волька.— Толькі скажы ёй пра вуліцу — адразу да вешалкі ляціць. Вымятайцеся адсюль. Вымятайцеся! Мне трэба тут парадак наводзіць...

— Добра, добра. Мы пойдзем і не прыйдзем.

— На абед не пазніцеся. Ганну Якаўлеўну мы чакаць не будзем. Роўна а другой гадзіне каб у хаце былі!

— Не, яе трэба пачакаць.

— Яна загадала абедаць без яе. Ды пойдзеце вы, зрэшты, з хаты ці не?..

— Усё! Гатовы! Марынка, бяры санкі...

Гулялі мы доўга, з'ездзілі нават на Дзвіну, гайсалі на санках з берагавых узвалаў, бачылі снегіроў і ледзьве не злавілі вераб'я. Марынка стамілася, захацела есці, і я павезла яе дахаты.

Мы прыехалі крыху пазней, чым гэтага патрабавала Волька. Абед чакаў нас. Марынка здзівіла нас сваім апетытам: ела ахвотна ўсё, што ёй давалі, і пасля абеду хутка заснула. Я таксама прылягла на ложку, паспрабавала чытаць, але вочы зліпаліся. Я сунула кніжку пад падушку, павярнулася тварам да сцяны.

Прачнулася я ў прыцемках; скрозь адтуліну ў дзвярах з кухні прабіваўся жоўты прамень святла. Чуваць было, як Турава ўгаворвае Марынку піць малако. Разморaная санліваю цеплынёй, я салодка пацягнулася. Ложак зарыпеў.

— Чуеш? Мамка ўзнімаецца,— пагразіла Турава Марынцы.— Вось яна зараз прыйдзе і з табою тут як след пагаворыць, неслух ты гэткі!..

— Чаго яна там? Ганна Якаўлеўна?

— Не спіш? То ідзі сюды. Паможаш.

Яркае святло на кухні асляпіла мяне, я прыплюшчыла вочы і пацёрла іх.

— Гэта ж каторая цяпер? Шостая? Во гэта паспала! Марынка калі ўскочыла? Нешта я зусім і не чула...

— Нядаўна. Чую — бэрхаецца ў калысцы. Я ўзяла яе на кухню, няхай, думаю, паспіш ты... Дапамажы стол пасунуць...

— А навошта?

— Штэпсель тут. Марынка ўсё да яго пальчыкам цягнецца.

— Што ж ты, доча! Няможна гэтага ручкамі чапаць!

— Казала я ёй. Не слухае. Ціху ж, ціху... Гэта ж я і забылася перадаць ёй, што Дзеда Мароза сустракала.

Іду гэта я па вуліцы, а ён — насустрач шыбуе. Наказаў ён: будзе Марынка штэпсель рукамі чапаць — ніколі да яе не прыйдзе.

Марынка скрывіла губы, заплакала. Я занесла яе ў пакой, дала ляльку і зноў выйшла на кухню.

— Не трэба гэтак, Ганна Якаўлеўна.

— Яшчэ што скажаш!

— Казаць ёй няпраўду няварта. Няможна — значыцца няможна. І ўсё! І няхай што хоча вырабляе...

— А як сабе хочаш! Дзецям усю праўду не скажаш.

— Чаму?

— Зразумеюць яны!

— А хлусіць таксама не след.

— Як сабе хочаш... Чаго ж ты не збіраешся? Тая даўно папылiла. І хто там у яе знайшоўся? Ведаеш ты яго?

— Не. Сёння абяцала паказаць.

— Ідзі, ідзі. Позніпся!

Вечар быў цёплы: вецер аціх, але мароз памацнеў, і снег рыпеў пад нагамі. Прахожых на вуліцы было мала. Я ішла і глядзела на вокны дамоў. Ніводнага цёмнага. Зялёныя, ружаватыя, пярэстыя ад водбліскаў святочных агнёў вокны глядзелі на мяне, трывожылі і абуджалі лёгкі, але радасны сум.

Непадалёк ад Дома культуры, зварочваючы на Савецкую, я нос у нос сутыкнулася з Журко. Ён выскачыў з-за вугла, ледзьве не збіў мяне з ног, сказаў «прабачце, калі ласка», тут жа пазнаў мяне і зарагатаў:

— Багатай будзеш, Стэфа. Не пазнаў. З Новым годам!..

— З Новым годам, Віктар! Ты адзін? А дзе ж Каця?

— Паехала да бацькоў. Сёння праводзіў. Месяц там будзе. Ты чула сёння, якую штуку мы кінулі на неба?

— Чула. Але ледзь не праспала. Не шанцуе мне проста. Першы спадарожнік запусцілі — я спала. У вагоне ехала. А тут планета, а ў нас радыё выключана...

— А здорава, Стэфа, праўда? Новы год і новая планета. Я гатовы з золата паставіць помнік тым, хто яе запусціў.

— Але ў цябе няма золата!

— А што? Не заслугоўваюць яны? Заслугоўваюць! Падумай толькі: штучная планета! Ты разумееш?

— Разумею. Але адно не магу ўцяміць: чаго ты не запытаеш, куды гэта я выправілася?

— Толькі наперад! Толькі да шчасця! Толькі да новых планет! Вось куды ты можаш ісці, калі побач з табою

баявы сакратар камсамольскі. І гэта яшчэ сціпла кажу! Заўваж!

— А цябе, Віктар, сапраўды хваляць ужо.

— Няма за што мяне хваліць,— шчыра прызнаўся ён.

— З боку, як гаворыцца, лацвей відно!

— Ты думаеш?

— Не я. Хваліць цябе адна дзяўчына.

— І не скажаш, вядома, якая?

— Я цябе ўзрадую другім. Забач, як актыўна адгукнуліся маладыя работніцы завода на ініцыятыву камітэта. Нават Шукан ідзе на вечар!

— Яе вядуць.

— І хто вядзе! Баявы, сапраўдны камсамольскі сакратар.

— Не, Стэфачка, пакуль што не сапраўдны,— зноў з той жа шчырай і сур'ёзнай развагай прызнаўся Журко.— Я часта цяпер думаю: ці змагу я ўвогуле быць ім. Сапраўдны сакратар — гэта чалавек адметны, асаблівы. Ён павінен далёка, вельмі далёка бачыць наперадзе. І наўрад ці ёсць у яго права памыляцца ў чым-небудзь. Калі сам асабіста памылішся — гэта яшчэ нічога. А калі за табою ідуць людзі?!.

— Якія людзі? Адкуль? Ідзе толькі адна жанчына. Стэфа Шукан яе прозвішча...

— Ты паспрабуй на маім месцы пажартаваць!

— Хочаш сур'ёзнасці? Тады слухай, і я параю, што трэба зрабіць у першую чаргу. Зробіш і будзеш сапраўдным сакратаром. Зробіш?

— Зраблю!

— Тады слухай. Ты павінен сёння запрасіць Шукан на самы першы вальс. Спадзяюся, ты не забараніў танцы? Ці паспеў ужо?

Ён прыпыніўся нават, зарагатаў, з падробленай сур'ёзнасцю сказаў мне:

— Сёння свята. І толькі з гэтае прычыны я дарую табе знявагу, якую ты нанесла адказнай асобе...

Пад'езд Дома культуры ззяў агнямі; грымеў, прыглушаны сценамі, аркестр. Я адчула холад у нагах.

— Бр-рр... Замерзнеш тут!

— Ты дрыжыш? Ты знямеў, слаўны княжа-ўладар? Гэтак сказаў паэт.

— Але я не пачула, што сказаў сакратар пра вальс!

— Ён запрасіў Стэфу Шукан і на першы і на другі вальс. Бяжы, цябе клічуць!..

З ганка махала рукою Волька; побач з ёю, бокам да мяне, стаяў хлопец у доўгім асеннім паліто і кудлатай чорнай шапцы.

— Знаёмся, Стэфачка! — прапанавала Волька.— Гэта Раман Чураба.

— Стэфа...

Не ведаю, заўважыла Волька маю збянтэжанасць ці не. Здаецца, не. А можа, і заўважыла, бо ў вестыбюлі, яшчэ не паспеўшы распрануцца, яна неяк заспяшалася і сказала, што ёй трэба бегчы пашукаць Хадасевіча, каб паказаць яму тэкст свайго выступлення.

— Бачыце, людзі! — з добрым смехам усклікнуў Раман.— Яна ідзе да Хадасевіча і яшчэ папярэджвае мяне! Як гэта разумець?

— Я даручаю табе Стэфу. І ведаю, ты — не Атэла.

— Няхай сабе... Але ты ўсё ж памаліся крыху, калі будзеш вяртацца да мяне!

— У табе ажывае ўласнік. Ты кажаш — да мяне. Трэба — да нас.

— Слухаю і скараюся!..

Я распранулася першай і пайшла да трумо, каб прычасаць валасы. Навошта гэтак настойліва клікала мяне Волька на гэты вечар? Каб паказаць Рамана? Цікава, што яны гавораць паміж сабою пра мяне? Ах, што гэта за недарэчнасць!.. Ва ўсім я хачу бачыць нешта благое, быццам бы ўсё тое, што адбываецца ў жыцці другіх людзей, павінна абавязкова датычыцца мяне. Глупства гэта!..

Я зірнула ў люстэрка, убачыла сябе ўсю, з галавы да ног, і анямела. Плацце — тое ж самае плацце, што гэтак радавала мяне ў хаце і здавалася прыгожым,— вісела няроўна, гарбацілася на грудзях і плячах і было зусім кароткае, быццам за той час, што я ішла па вуліцы, нехта добра падрэзаў яго.

— Вы гатовы?

— Так...

Я сказала гэта зусім не думаючы. У трумо, над маімі плячыма, узнік Раманаў твар. Чужыя вочы. Вочы зусім незнаёмага чалавека. Вочы чалавека, якому загадалі на кароткі час быць клапатлівым. Ах, навошта я пагадзілася пайсці сюды?.. Толькі на тое, каб сустрэць Рамана і стаяць перад ім збянтэжанай і разгубленай. На другім паверсе, за балюстрадай, грымеў аркестр. У фае кружыліся пары, і я, гледзячы на гэты стракаты карагод, употай параўноўвала святочнае ўбранне дзяўчат са сваёй старэнь-

кай сукенкаю. Спавітая злосцю — немаведама на каго і завошта,— ва мне гусцела туга. Раман гаварыў са мною, я адказвала яму, але не зусім разумела тое, пра што казала, быццам словы ішлі не ад майго ўласнага розуму, а былі запазычаны недзе, і мне трэба было як мага хутчэй пазбавіцца іх, бо яны перашкаджалі разабрацца ў сабе як след.

— Дазвольце вас запрасіць. Гэта танга...

Я разгублена прыціснулася да калоны.

— Не, не! Дзякую!..

— І вам дзякую.

— За тое, што адмовілася танцаваць?

— За ўратаванне! Я ж зусім танга не танцую.

— А запрашалі!

— Ну дык што? Прабачэння папрасіў бы, каб пагадзілися.— Ён, некага выглядаючы ў фае, шчыра і добра ўсміхнуўся.— Гэта мяне Волька вымуштравала. Грымне музыка — яна загадвае мне: запрашай!

— І потым прыходзіцца прасіць прабачэння?

— Не заўжды. Вальс мы — вунь ідзе яна! — ужо можам...

Шчырасць Рамана вяртала мне душэўную раўнавагу; я глядзела на Вольку, якая набліжалася разам з Журко, спакойна і проста. Аркестр заіграў вальс.

— Персанальны, Стэфа! — гукнуў, падыходзячы, Журко.

— Дзякую, Віктар...

Я адразу злавіла лёгкі і плаўны рытм танца. З душы ўзнімалася забытае пачуццё бяздумнай лёгкасці і весялосці.

— Ты ведаеш, што гэта? «Вальс кветак».

— Так. Апошні раз я танцавала яго ў інстытуце.

— Дарэчы, а што ты думаеш рабіць з інстытутам?

— Я ўжо раблю, Віктар. Падручнікі зноў на стале. Улетку паеду на сесію...

— Цяпер табе лягчэй. Марынка будзе ў дзіцячых яслях...

— Вы хацелі сказаць «у дзіцячым садзіку», дарагі таварыш сакратар?

— Ай, Стэфачка! Правільна. Марынка ж налета пойдзе ў дзіцячы сад.

— Яшчэ не пойдзе. Але мой бацька пакрыўдзіцца, калі я летам аддам яе туды. Ты ведаеш, што ў мінулым

годзе было? Абвінавацію мяне ў тым, што не давяраю яму выхавання ўнучкі...

— Гэта не вельмі страшнае абвінавачанне...

— Але ён пакрыўдзіўся па-сапраўднаму...

Рука Віктара ляжала на маім плячы. І ад яе спакойнага цяжару тлумны цень, што заступіў у маёй душы, калі я ўбачыла Рамана, раставаў, але не знік зусім. Ля калоны Волька з Раманам спаважна праплылі ля нас.

— Раман слаўны чалавек,— Журко нібыта чытаў мае думкі.— Аднойчы мне давялося быць з ім у сумесным патрулі па дружыне. Смелы ён. Волька даўно з ім сябруе? Мабыць, ты ведаеш...

— А чаму ў сакратара няма такіх звестак?

— Хто іх павінен яму даць?

— Толькі сэрца.

— Гэтай навукаю я не валодаю. Скажы, а чаму ты спахмурнела?

— Шчыра кажучы, пачатак вечара мне не падабаецца. Памятаеш, як арыгінальна прыдумаў ткацкі цэх. Гэткі вечар не забудзеш доўга...

— Ты робіш паспешлівыя вывады адносна сённяшняга. Тут таксама няблага задумана. Пачакай, убачыш...

— А цяпер табе цяжка сказаць?

— Не маю права...

Трывожна і працягла заспяваў кларнет; перапыніўшы яго, быццам ставячы кропку, тукнулі літаўры. Вальс скончыўся.

— Месца мне трымай,— папрасіў Віктар.— Пасля ўрачыстай часткі я адразу ж сыходжу са сцэны.

— Так хутка?..

— Галоўнае — не парываць сувязь з масамі,— кінуў ён жарт у адказ.— Вось пачакай, трапіш ты ў мае рукі...

— Запалохваеш?

— Папярэджваю! — Журко патэтычна ўзняў палец.

Я села ўскрай прахода, зусім блізка ад дзвярэй. Волька з Раманам недзе згубіліся. Адшукаць іх у зале цяпер было цяжка. Вакол толькі незнаёмыя твары, незнаёмыя ўсмешкі, незнаёмыя галасы. Няўжо я гэтак блага ведаю юнакоў і дзяўчат свайго завода? А што тут дзіўнага? Ці ж можна ведаць усіх, калі толькі ў адным нашым цэху працуе паўтысячы чалавек... А тут, апроч нашых заводскіх, шмат запрошаных.

Вечар адкрыў Журко. Голас яго, зменены мікрафонам, гучаў хрыплавата, і ва ўсім абліччы Журко было нешта

новае. Гэтыя ледзь прыкметныя змены я толькі адчувала, але не ведала ім назвы, нават не магла як след разгледзець іх, і таму яны мелі для мяне нейкую загадкавасць. Падзеі сённяшняга дня нібыта распаліся на дзве самастойныя часткі: на тое, што было да сустрэчы з Раманам,— тут не існавала нічога няяснага, і Журко ў гэтай частцы быў для мяне вясёлы і добры сябар; і на тое, што пачалося з таго самага моманту, калі я працягнула руку Раману. А што, уласна кажучы, пачалося? Спачатку я ніяк не магла пазбыцца свае збянтэжанасці, спрабавала схаваць яе і жартавала з Раманам, але гэтая жартоўная размова не супакоіла, а яшчэ больш — і мне не хацелася прызнавацца ў гэтым — растрывожыла. Але чаму? Чаму я ніякавата адчуваю сябе, калі бачу Рамана побач з Волькаю? Што мне перашкаджае спакойна думаць, скуль прыходзіць трывога?

З прэзідыума назвалі прозвішча Волькі, я азірнулася і зусім нечакана ўбачыла таго, каго шукала. Волька ўзнялася — яны з Раманам сядзелі нешта ў пятым ці шостым ад мяне радзе — і накіравалася да сцэны. Яна хутка ішла па коса збягаўшай уперад падлозе, потым знікла на момант і затым узнялася ўжо на трыбуну.

— Мы са сваімі сяброўкамі змагаемся за званне брыгады камуністычнай працы. Гэта вельмі ганаровае званне. А што галоўнае ў ім? — Мне здалося, што Волька глядзіць толькі на мяне, што яе пытанне адрасавана толькі мне, і нікому больш.— Чалавек. Дзеля чалавека, дзеля яго шчасця мы ствараем гэтыя брыгады. Чалавек мае права быць шчаслівым. Працаваць. Кахаць. Гэтаму павінны мы навучыцца. Так, навучыцца быць шчаслівымі. Я гэта так разумею. Праца — частка маёй душы. Камунізм — гэта не толькі шчасце і прыгожае жыццё. Гэта ў першую чаргу прыгожая і разумная праца...

За плячыма Волькі, пад вялізным барэльефам, грувасціліся белыя хрызантэмы і пунсавелі астры. І сама яна была незвычайна далёкая, недасяжная, зусім не падобная на тую простую дзяўчынку, з якой мы сёння разам смажылі бульбу, прасавалі сукенкі і мылі посуд на кухні; і гэтая незвычайнасць адсоўвала мяне ад Волькі, ад Журко, ад Фаіны Усцінаўны, якая сядзела на сцэне за доўгім сталом, засланым чырвонай тканінай; на стале таксама стаялі белыя хрызантэмы, і Журко крата́ў іх рукамі.

Мне чамусьці захацелася ўбачыць Рамана. Я асцярожна, каб ніхто гэтага не заўважыў, павярнула галаву

і доўга глядзела на яго. Раман, здавалася, жыў у нейкім дзіўным і нетутэйшым свеце: на чысты белы лоб час ад часу набягала лёгкая хмурынка, густыя бровы прыўзнімаліся, упарта сціснутыя губы ледзьве ўлоўна торгаліся, зноў заміралі, і тады ў вачах з'яўлялася добрае летуценнае святло. Здавалася, Раман не слухае Вольку, а жыве з ёю адным жыццём, і словы, якія гаворыць яна,— гэта яго ўласныя словы, якія ён нячутна гаворыць, і яны лятуць туды, дзе трыбуна, і Волька толькі паўтарае іх. Мне раптам стала сорамна, быццам я зазірнула ў чужы пакой, зазірнула туды, дзе жывуць двое закаханых і дзе трэцяму рабіць няма чаго.

Па зале пракаціўся смех — Волька сказала нешта смешнае. Я схамянулася, перастала глядзець на Рамана і тады адразу неяк зусім па-іншаму ўбачыла мноства людскіх позіркаў. Усе яны былі скіраваны ў мой бок і разам з тым зусім не на мяне, а некуды далей, наперад, да залітай святлом сцэны, але кожны з іх нібыта прабіваў мяне навылёт. Я бачыла вясёлыя вочы, бачыла плечы, якія краналіся адно аднаго. А ля майго пляча не было нікога. Злева — праход, справа — пустое крэсла для Журко. Я адчула сябе вельмі адзінокай, пагарджанай, мне неспадзеўкі захацелася апынуцца недзе вельмі далёка-далёка, далёка ад гэтай залы, ад гэтых вясёлых людзей, вясёлых поглядаў, ад гэтага пустога крэсла, з якога павявала на мяне холадам адзіноты.

У зале загрымелі апладысменты — Волька скончыла выступленне; прыгнуўшыся, я выбегла ў калідор. Мяккі дыван на лесвіцы глушыў стук туфляў. Каб жа толькі нікога не стрэць!..

— Перапынак? — запытала гардэробшчыца, маленькая жанчына з сухім тварам.

— Зараз пачнецца. Паліто, калі ласка...

Над горадам, адсунутая барвовым водсветам ілюмінацыі, вісела чорная бездань. На тратуарах, па-ранейшаму рэдка, страчаліся прахожыя. Спяшаючыся, я абмінала іх. Куды ішла і навошта — не ведаю. Я проста ішла, і мне было добра. Гэта ж вельмі слаўна, калі можна ісці па тратуарах, пераходзіць скрыжаванні вуліц і ўсё ісці і ісці, не спыняцца, і глядзець на дрэвы, на вокны дамоў і зноў ісці, не спыняцца, і адчуваць, што хета быццам набаўляе табе сілу і змятае горыч з душы...

Я прыпынілася толькі на замчышчы і доўга стаяла, гледзячы ў чорную прастору ночы. Унізе, пад шэрымі, на-

чыста абдзьмутымі вятрамі схіламі выгіналася белая стужка Дзвіны з квадратнымі плямамі вялізных палонак; удзень адтуль выцягвалі празрыста-сіні лёд, і вада цяпер дымілася парай. У чорнай зарэчнай далечы мроіліся агеньчыкі; яны былі падобны адзін на адзін — маленькія дрыготкія плямкі, але за кожным з іх стаяла сваё жыццё, свае нягоды і радасці, свае турботы...

Як мне хацелася мець вось гэткі, але свой, менавіта свой агеньчык, свой куточак, мець свой прытулак, дзе жыве каханне. Каб мне хоць часцінку гэтых турбот, гэтага простага звычайнага жыцця!.. Вельмі простага... Каб нехта чакаў мяне, каб трэба было спяшацца дахаты, пра некага клапаціцца... І каб той, пра каго я буду думаць і буду мець клопат, глядзеў на мяне з такой жа шчырай адданасцю, як глядзеў нядаўна Раман на Вольку... А што, я горшая за Вольку?.. Яна такая ж, як і я. Але яна кахае і яе кахаюць... Але ж і я кахаю! А шчасця ў мяне няма! Можа, на тое, каб кахалі цябе, трэба кахаць самой, але кахаць не так, як кахала дагэтуль я? Але ж як? Як?..

Я зрабіла крок наперад, быццам там, у чорнай далечы за ракой, можна было ўбачыць тое, што турбавала мяне, знайсці адказ на пытанні, з якімі мне вельмі цяжка жыць... Не, патрэбны адказ нельга знайсці сярод тых мігатлівых плямак. Яго трэба шукаць у сабе, бо нідзе больш ён жыць і існаваць не можа. Волька казала сёння, што трэба вучыцца быць шчаслівым. А каханне — гэта таксама шчасце, і яму трэба вучыцца. А калі вучацца — тады і падаюць, і разбіваюць насы, і бывае балюча і непрыемна, калі адчуваеш, што зрабіў не так, як трэба. Каб быць моцным і перамагчы, трэба мець сілы адкінуць ад сябе тое, што перашкаджае ісці да мэты. І, відаць, ніхто не можа ўведаць гэтую важную навуку жыцця без болю і змагання са сваімі слабасцямі...

Аснежаная стужка Дзвіны нерухома ляжала ўнізе. Пад лёднай тоўшчай бруілася магутная плынь ракі. З ціхім, амаль нячутным, шалахценнем церушылася з галля кляновых пасадак снегавая намаразь. У рашотчатых вокнах царкоўных муроў сонна вохкалі галубы. Я ўслухоўвалася ў цемрыва ночы, і прадчуванне далёкай і невядомай радасці, нечага вялікага і незвычайнага, але вельмі жаданага, кранула маё сэрца...

## 9

Вузкае акно, застаўленае альясамі ў шырокіх гаршчочках, страсянуў недалёкі выбух.

— Зноў вайна,— раўнадушна адзначыла краўчыха, прысядаючы на падлогу; крэйда з яе рук выпала і скацілася да маіх ног.

Я памкнулася ўзяць крэйду. Швачка спыніла мяне.

— Стойце, стойце! Вельмі ж ліпна рукавок сеў.

— А вайна?

— Няхай яна гарам пойдзе.

— Так, гэтага хоча кожны. А сёння я зноў чытала: яшчэ адну бомбу выпрабоўваюць...

— Усё роўна, яна мяне не датычыцца. Які дурань пацягне на вайну старую жанчыну? Цяпер жа гэтак будзе: тр-ррах — і нікога няма. А пакуль усё ціха, хто, скажыце мне шчыра, возьме сапсаванае плацце? Няма дурных. Раней былі, бралі, бо кожны лішняй сукенцы радаваўся, не гледзячы, якая яна ёсць. Цяпер другі час! Стойце!..

Краўчыха зрабіла крэйдай тонкую рыску на клятчастай тканіне. На яе схуднелых руках свяціліся набухлыя вены. Было неяк непамысна, што гэтая не старая яшчэ жанчына стаіць перада мною на каленях.

— Я магу прыгнуцца. Вы скажыце мне...

— Я сказала ўжо: стойце! Мне трэба абгледзець усё... Та-ак... Тут, мне здаецца, варта, мабыць, крыху паменшыць... А? — краўчыха засяроджана і неяк урачыста сціснула пальцамі падбародак.— Паменшым! Так? На гэтым мы з вамі і спынімся. Як думаеце?..

Я зняла плацце, спаласаванае белымі ніткамі, і апранулася.

— Калі ж мне цяпер можна будзе прыйсці па гатовае?

— Цяпер ужо хутка,— краўчыха крыху падумала.— Ну, у наступную сераду, скажам...

— Добра. У сераду я прыйду.

— Чакай. Серада гэта ж калі ў нас? Восьмае, кажаш? Тады лепей дваццатага прыходзь. Гэта ўжо ўвакурат...

Я нездаволена сунула рукі ў кішэні паліто. Кожны раз пачынаецца старая гісторыя з гэтымі тэрмінамі. Скажа — у пятніцу. У пятніцу — адкладзе на панядзелак. І гэтак дзень за днём... Колькі разоў заракалася я несці шытво да прыватнай краўчыхі. Але цяпер хопіць! Толькі

атэлье! Няхай там крыху пазней зробяць, але там ёсць парадак.

— Бачу, да гэтага тэрміну твае сэрца не ляжыць,— краўчыха схіліла галаву, прыплюшчыла вочы.— Тады вось што зробім. Два дні туды, два дні сюды. У тую пятніцу возьмеш сукню.

— Гэта канчаткова?

— Апошняе слова, як перад шыбеніцай!

— Няма часу хадзіць. Вось што... І думала сукенку гэтую ў нядзелю надзець... Ажна вось...

— Ай-яй! Няма чаго надзяваць! Каму? Вам? — краўчыха далікатна дакранулася да мае рукі.— Надзеньце тое, што шылі спярша. Зялёнае, з шарсцянкі. Не падабаецца? Тады палевае, з абшыванкаю. Няхай такое вам зробяць у атэлье! Я пагляджу толькі... Ну, вось, вось... А ўжо гэтае,— яна падміргнула мне зусім па-свойску,— як надзенеш — смерць нежанатым хлопцам. Усе твае. Як перад шыбеніцай кажу...

Нямала б стаяла тых шыбеніц, каб спраўдзілася хоць дзесятая частка тых кляцьбаў, што пачула я ад краўчыхі. Але з ёю неяк зусім нельга гаварыць сур'ёзна: сваёй насмешлівасцю яна адразу абяззбройвае, і злосць прападае. Ну як тут спрачацца!

Я выйшла ад краўчыхі з усмешкай. Як мала, аказваецца, трэба для вясёлага настрою! Простае слова, цёплы сяброўскі жарт — і вось ты ўжо сама гатова жартаваць і ўсміхацца людзям.

На ружовых маладых клёнах, як вялікія шэрыя пацеркі, млелі ў сонечным бляску вераб'і; іх несціханы чыркат біўся аб сінявую зыркасць вады ў лужынах.

Адзін за другім скаланулі паветра тры выбухі.

— Дзвіна пайшла! Дзвіна! — гарланіў нехта за плотам.— Віцька! Віцька! Дзвіна пайшла! Бяжым... Бяжым хутчэй...

Перад самым маім носам на мокры асфальт тратуара выкаціліся з-за плоту хлапчукі. Большы, з кірпатым носам, ледзь не зваліў мяне.

— Куды? — крыкнуў ён на меншага.— На аўтобусную давай!..

— Хутчэй на сваім дапром. Лупім ракетаю...

Яны панесліся вуліцаю па лужынах; смарагдавыя пырскі ляцелі ва ўсе бакі: хлопчыкі беглі, і дзве залацістыя няроўныя вясёлкі, як бы звязаныя ў адно, віселі над іх галовамі.

Я ішла хутка. Выбухі грымелі цяпер часта, узбоўтваючы пахкае празрыстае паветра; яны падганялі, прыносілі радасны неспакой. Я ішла ўслед за хлопчыкамі, увесь час паскараючы хаду. Усцяж тратуараў цурчалі ручаінкі, а вадастокі на сценах дамоў былі сухія і цёплыя — з дахаў сонца даўно ўжо сагнала снег.

Па Дзвіне плылі наздрыстыя сіняватыя крыгі; пасярэдзіне ракі яны былі шчыльна прыціснуты адна да адной і сунуліся з павольнай веліччу, а ля берагоў у ржавай вадзе круцілася скрышаная і стоўчаная жоўта-белая ледзяная драбяза; час ад часу з гэтай кашы вынырвала вострая наздраватая крыга, распорвала абтаяўшы лёд, горбілася, паўзла на бліскучы гліністы бераг і, развальваючыся, курылася малінавай параю.

Злева, у бок моста, выраслі белыя грывастыя султаны, увачавідкі патаўсцелі і нібыта застылі ў паветры, а потым аселі, рассыпаліся; і тады з сіняй дрыготкай далечы прыляцеў грукат выбухаў; цёплы вецер мякка тхнуў у твар; я расшпіліла паліто, зняла з шыі шалік і ўзняла яго над галавою.

Грукат выбухаў абудзіў у памяці нядаўнюю размову ў хаце швачкі. Швачка здзівілася: трэцяе плацце шыю! А каб яна ведала ўсё! Да тых трох я купіла сабе яшчэ два ў магазіне — яны вельмі падабаліся мне, і я іх купіла. Дзіўна? Ніколькі. Тры гады амаль я не купляла нічога. Не, адзін карычневы касцюмчык купіла. Вось гэты, што цяпер надзеты...

Я агледзела яго і пачырванела. Падол спадніцы скрозь занітаваны, на пінжачку рудыя плямы — след двойчы перашытых кручкоў... Усё гэта, раней не заўважанае, цяпер, пры ясным сонцы, адразу кінулася ў вочы. Не, хопіць! Навошта ж я шыю і купляю сукенкі? Каб яны дарэмна віселі ў шафе?.. Сёння ж пайду на завод у новым, а гэтыя лахманы — на сметнік!..

Шалік трапятаўся ў руцэ, і ўсё цела адчувала неўтаймаваную сілу моцнага і свежага ветру. Дзьмі, вецер! Ляці, лупцуй па твары!.. Гэта добра, што ты дзьмеш, вецер! Гэта добра, што прыйшла вясна, што ёсць у мяне дачка, ёсць добрая работа на заводзе, ёсць новыя сукенкі! Не, больш я ніколі не адчую тое, што адчула зімою, калі ўбачыла ў трумо сваё кароткае, быццам падстрыжанае плацце. Смешна, але вельмі многае ў нашым настроі залежыць ад гэтага...

Вялізная крыга спаважна сунулася пасярэдзіне ра-

кі — я ўбачыла яе даўно і сачыла за ёю з невядома адкуль прыйшоўшай трывогай; крыга адплывала ўсё далей і далей, пакрысе набліжаючыся да белых узвалаў на паваротку, дзе штосьці увесь час пагруквала і стагнала. Праплыві, мая крыга, тое небяспечнае месца! З гэтым дзіцячым жаданнем раптам звязалася нешта важнае ў маіх думках, нявыказаных і трывожных. Я разумела, што нічога не адбудзецца і нічога не зменіцца, калі крыга міне белае берагавое плячо, аб якое ломіцца і крышыцца лёд. І ўсё ж мне хацелася, каб было менавіта так...

Крыга шчасліва мінула паваротак, схавалася ў дрыготкай сіняй далечы, і я ўздыхнула з палёгкай, узрадаваная і шчаслівая.

На чорным спічастым дамку, што вісеў на старым клёне, пасвістваў шпак. Ля самай вады спаважна паходжвалі фіялетавыя гракі. І ад усяго таго, што я бачыла, ад цёплага пахкага паветра ў галаве быў лёгкі п'яны тлум. А вось і прыйшла яна, вясна! Зноў вясна! А за ёй пачнецца лета. Спачатку я здам сесію. А потым — ехаць! Разам з Марынкаю!.. Куды? На Чорнае мора, напрыклад. Так, я ніколі не была ля мора... І Марынка не бачыла яго. Чаму б сапраўды не паказаць Марынцы мора. І самой паглядзець яго няблага. Так, я паеду! У тым, што бацька папракаў мяне, ёсць крышачку праўды. Трэба і мне адпачыць...

Я прыплюшчыла вочы, і чорныя таполі за ракою здаліся дзіўнымі, казачнымі, але знаёмымі. Я недзе бачыла ўжо гэтыя крывыя, крыху пахілыя дрэвы. Але дзе?.. Ніяк не прыгадаць. Ах дзівачка!.. Гэта ж у інстытуцкім парку такія дрэвы. Так, яны растуць там абапал уваходу, за нізкай агароджаю. І да іх мая дарога. А мора будзе потым. Потым будзе мора і адпачынак. І трэба мне не марыць, не стаяць склаўшы рукі, а бегчы дамоў. І гэта ж толькі падумаць. Хутка ехаць на сесію, а ў мяне яшчэ гэтулькі не прачытана, не завершана нават адна пісьмовая работа!..

Я спяшалася дамоў і несла ў сэрцы незвычайную, як бы прасветленую ўзнёсласць. Кожны стрэчны быў для мяне знаходкаю; мне здавалася, што я заўважаю на тварах людзей тое, чаго ніколі раней не прыкмячала, што я магу чытаць па вачах і яшчэ па нейкіх зусім непрыкметных адзнаках і драбніцах усё іх жыццё, разумець гора і радасць, одум і трывогу. Стаяла ля вітрыны жанчына ў старым зімовым паліто і задуменна глядзела на вазу з крышталю; малады хлопец — шафёр разгружаў машыну і бяз-

літасна і непрыгожа лаяўся, а худы мужчына з доўгім нося, прытрымліваючы рукою белы халат, нешта даводзіў сам, прытрымліваючы рукою белы халат, нешта даводзіў яму і тыцкаў ботам у скрынкі; на тратуарах гулялі «ў класы» дзеці. І ўсё гэта не было для мяне абыякавым, а мела цяпер новы і вельмі значны сэнс. Я прыпынілася ля грузавіка і пагразіла шафёру пальцам; ён перастаў лаяцца, збянтэжана ўсміхнуўся і пачырванеў.

У хаце нікога не было. Ганна Якаўлеўна недзе гуляла з Марынкаю. Я села да стала, дзе ляжалі мае сшыткі і кніжкі, пагартала падручнік і адразу ж адчула, што ўражанні і клопаты дня засталіся там, на вуліцы, а тут, на стале, у гэтых тонкіх і тоўстых кніжках, ёсць строгі парадак дакладнай думкі і чоткі сэнс формул і законаў. Тут не патрэбны ваганні. Тут патрэбны веды. І гэтыя веды я павінна здабыць з друкаваных старонак, каб потым з імі ісці наперад, жыць і працаваць...

Збіраючыся на завод, я надзела новае плацце. Яно было спецыяльна набыта на тое, каб было ў чым ісці на работу. І чаго я чакала? Вясны? То прыйшла вясна! Усё вакол стала прыгожым. І чаму я не павінна быць такой жа?..

Белыя палоскі на цёмна-карычневай тканіне радавалі мяне. Не, гэта проста цудоўна, што я купіла яго тады. Вельмі зручнае плацце. І чаму мне не надзець новыя туфлікі?.. Мяняць — дык усё мяняць! Рашуча мяняць і канчаткова!..

— Ого! — толькі і сказала Ніна, калі я стрэла яе ля прахадной.

— Як разумець гэтае тваё «ого»?

— Ты не прыкідвайся, а лепей адкажы, дзе выкапала гэткае дзіва? — яна пакратала тканіну.— І маўчала. Дзе ты яго знайшла? Напраўду.

— У магазіне. Ля пошты. Там поўна такіх.

— І колькі?

— Восем рублёў.

— А выглядае файна. І фасон добры... Сёння ж палячу... Ого! І туфлікі новыя. Ну, Стэфка, правільна! А прыбядняласся!..

— Нават і не думала. Неяк само па сабе ішло і ішло.

— І на свята ўзышло. Дапраўды: і багата і свята.

— Так, свята.

— Яшчэ не блізка яно,— сказала Ніна. Мы ўвайшлі ў цэх.— Пачакаць прыйдзецца...

— А мне кожны раз свята, як сюды ўвайду.

— Не, я свята сабе інакш уяўляю. Каб музыка, каб станцаваць... Ну, і ўсё як ёсць на свята...

— А для мяне яно тут.

— Ты сур'ёзна?

— Так...

Гэта была праўда. Я ніколі не думала пра тое раней, але гэтае перакананне жыло ў сэрцы, і яго не трэба было выказваць, бо яно — маё жыццё. Самае лепшае, самае светлае і радаснае знаходзіла я на заводзе, сярод сяброў, з якімі здружыла мяне праца. Сябрамі сталі мне і электрапечы. Так, сябрамі. Я не хавала ад іх нічога — ні смутку, ні крыўды, ні радасці. Тут, пры ружаватым святле гарачага шкла, думала я пра самае горкае ў сваім жыцці, вагалася і сумнявалася. Тут, пры зялёных успышках дазатараў, гэтак ясна ўбачыла я сябе іншым чалавекам, чалавекам, які ўпэўнены ў сваіх сілах. І менавіта тут, пад манатоннае гудзенне электрапечаў, перажыла я сваю першую радасць перамогі — вялікую, нічым не засмучаную, сапраўдную радасць удала завершанай работы.

Пачатак змены крыху затрымаўся: электрапечы пераводзілі на новы тэхналагічны рэжым. Асартымент быў ужо вядомы — у мінулым месяцы мы круцілі яго. Працавала я натхнёна, усё ўдавалася мне лёгка і хутка. Зялёнае вока дазатара нібыта падміргвала мне. Тоўстая аранжавая ніць роўна клалася на бабіну.

Кантрольны замер пражы яшчэ больш падбадзёрыў мяне: ніякіх адхіленняў ад нормы. Падышла Фаіна Усцінаўна, спытала сваё звычайнае: «Як тут у цябе?»

— Выдатна. Сёння ў мяне свята...

— Якое свята?

— Ніводнае бабіны сапсаванай...

Фаіна Усцінаўна абапіралася рукою на пустую касету, што стаяла на стале, і сачыла за тым, як мае пальцы знімалі з фільераў тонкае шкляное павуцінне. Я крыху заспяшалася, няроўна павяла рукою, і апошняя ніць з бліскучай кропляй на канцы звісла, гайдаючыся. Я вокамгненна перахапіла ніці, звяла іх у адзін пук і пусціла пад замасліванцель.

— Відаць, нездарма ля цябе пісьменнік стаяў,— весела сказала яна.— Прыгожа працуеш.

— Не перахваліце, Фаіна Усцінаўна!

— Гэтага я не баюся, за цябе даўно спакойная. А вось як з ёю быць — не ведаю,— яна кіўнула галавою па суседнія, за праходам, печы, дзе працавала Тося Злотнік.

— А што здарылася?
— Сёння пачала шасцідзесятку вязаць і тэмпературу ранейшую пакінула. Паказала. Змянілі. Пытаюся: навошта мы гэта зрабілі?
— Тэмпература ніжэй — вязкасць меншая. Значыцца, і шкла пойдзе меней.
— Вось жа бачыш! Проста ўсё! А яна — як рыбіна.
— І я раней такая ж была.
— Ну, не кажы. Ты адразу ўсё схапіла. А яна паўгода пакутуе. І каб не вучылі, не паказвалі... І быццам ладна на першым часе было...
— Можа, што здарылася... У сям'і, можа...
— З мужам у яе ладна ўсё. У начную калі, дык ён і адвядзе на завод і сустрэне, адну ніколі не пусціць.
— Харошы муж, значыцца.
— Усе гэта кажуць.
— А дзе ён працуе? У нас?
— Не. Здаецца, у будтрэсце. Дакладна не ведаю...
На шырокіх бартавінах халата Фаіны Усцінаўны ляжаў белы каўнярок. Нешта было вельмі знаёмае ў ім. Недзе ж бачыла... А-аа... У Ніны, здаецца, быў тады на сходзе, калі яна была там за старшыню. І яшчэ каўнярок прапанавала мне Волька, калі я ладкавала сваё старое плацце. Зусім жа нядаўна было, а амаль забылася. Каўнярок, аднак, добра стасуе да халата. Трэба і мне гэтак зрабіць. Можна нават шырэйшы. Прыгожа будзе. І чаму я тады яго не зрабіла?.. Хаця, ці ж да гэтага тады мне было!..
— Як Марынка гадуецца? — запытала Фаіна Усцінаўна.
— Кніжкі ўжо гартае. А на каляску і не зірне. Вялікая.
— Так што хутка і на завод прывядзеш?
— Не ведаю. Яна ў мяне мастаком, відаць, будзе. Алоўкі любіць.
— Во час як ляціць, калі падумаеш! І зусім жа нядаўна да нас прыйшла...
— А мне — наадварот: здаецца, усё жыццё тут працую, усё тут ведаю.
— Ну, скажаш, усё! А Злотнік ты, напрыклад, ведаеш?
— Я пагавару з ёю, Фаіна Усцінаўна.
— Карысці з гэтага не будзе. Мала я з ёй гаварыла?..
— А ўсё ж такі!
— Пустое гэта. Яе звальняць, відаць, прыйдзецца.

— Я паспрабую ўсё ж...

Толькі пазней, пасля змены, у заводскай сталоўцы я зразумела, што размаўляла з начальнікам змены вельмі неразважліва. Лёгка было абяцаць: пагавару. Але аб чым гаварыць з чалавекам, якога ведаеш зусім мала, пра якога табе вядома толькі адно: ён блага працуе і яго збіраюцца звальняць з работы!

Злотнік, калі я ўвайшла ў сталоўку, зашылася за крайні столік і піла чай. Яна сядзела крыху нахіліўшыся і глядзела ў акно, на бліскучыя шыбы, асветленыя вечаровым сонцам. Я купіла дзве бутэлькі піва і падышла да яе.

— Можна ля цябе тут прысуседзіцца?

— Сядай. Чаго яшчэ пытаешся.

— Піва, можа, вып'еш са мною?

Тося адмоўна пакруціла галавою і толькі крыху пасля, працягваючы руку да талеркі з хлебам, зірнула на мяне, агледзела бутэлькі; яе тонкія губы звяла ледзь улоўная грымаса.

— Здзіўляешся? Проста піва захацелася. Я ў сталоўцы звычайна не абедаю. Не люблю я іхняе гатаванне. А ты нешта слаба і абедаеш... Грошы не атрымала?

— А табе што? — варожа запытала Тося.

— Не крыўдуй. Я па шчырасці. Калі папрацуеш добра, дык і паесці трэба. Грошы на тое дадзены, каб іх траціць... Вядома, разумна...

Не, відаць, дрэнны з мяне дыпламат. Прыцягнула піва, якое зусім не люблю, завяла нейкую непатрэбную гаворку пра грошы. Навошта? І якое ў мяне ёсць права на папрокі?..

— А ты ўмееш іх гэтак траціць? — нечакана, але з ранейшай непрыязнасцю запытала Тося.

Мяне пакрыўдзіла гэта.

— А ты што, у панчоху іх складаеш?

— Куды ж яшчэ! Тут і без яе выкруціцца не ведаеш як...

— А ў чым бяда? Ты скажы. Можа, трэба — я пазычу...

У вачах Тосі — блеклых і змрочных — адбіўся спалох.

— Праўда, пазычыш?

— А чаму не? Ахвотна...

— Я гэтымі днямі некаторых прасіла... У кожнага сям'я, сама разумею. Нельга і крыўдзіцца. А ты што, папраўдзе?

— Колькі табе трэба?
— Шмат. Нават сказаць страшна.
— Усё ж такі!
— Сто... Сто рублёў,— спалохана сказала Тося.

У кішэні жакецiка ляжала мая палучка — сорак восем рублёў. Якое глупства зрабіла я на тым тыдні, калі купіла габардзінавае паліто. Каб я не купіла яго — можна б было зараз пазычыць грошы Тосі. А дзе іх возьмеш цяпер? Хіба спытаць у Віктара?..

— Здурнела ты? Нікому не кажы ніводнага слоўца! І навошта я табе казала!..

— А што тут асаблівага? Правільна зрабіла, што сказала. Грошы мы дастанем...

Гэтая ідэя ўжо авалодала мною. Я ведала, што павінна абавязкова памагчы Злотнік і дастаць грошы. Дзе? Я не ведала гэтага, але была пераканана, што змагу знайсці іх.

— Пасядзі тут крыху,— папрасіла я Тосю.— Я зараз вярнуся...

Я ўзбегла на паверх вышэй і рыўком адчыніла дзверы камітэта камсамола. Журко сядзеў пры стале і пісаў.

— Стэфа? — ён мелькам зірнуў на мяне і зноў схіліўся над паперай.— Заходзь. Дапішу зараз.

— Потым, Віктар, дапішаш. Скажы, грошай у цябе многа?

— Поўны мех. Сам раблю па вечарах. Колькі табе пазычыць?

— Як ты здагадаўся, што я прыйшла пазычыць?

— Наіўнае пытанне. Не хочаш жа ты іх проста пералічыць. Колькі?

— А колькі ў цябе ёсць? Мне ненадоўга...

— Зараз паглядзім...

Журко выцягнуў з кішэні чатыры дзесяцірублёўкі і паклаў іх на стол.

— Увесь мой наяўны капітал. Хаця...— Ён абмацаў левую кішэню пінжака.— Во яшчэ два рублі... Магу палавіну. Якую табе: левую ці правую?

— Дзякую, Віктар. Любую мне...

— Калі прынясеш — тады і падзякуеш. А зараз бяжы, бо раскупяць, і табе нічога не застанецца...

— Думаеш, купіць нешта хачу?

— Калі жанчына пазычае грошы і ў яе гараць вочы — апроч магазіна, няма куды ёй спяшацца. Хопіць табе гэтых?

— Не мне, Віктар. І не хопіць. Чалавека трэба выручыць. Можа, і ўратаваць...

— Скажы, хто ён?

— Не магу.

Журко моўчкі выцягнуў астатнія грошы, паклаў перада мною дзесяцірублёўкі, а два рублі сунуў назад у кішэню.

— Болей няма.

Сумеўшыся, я стаяла і не ішла з пакоя. Радасць, сорам і здзіўленне ахапілі мяне. Ёсць грошы! Праўда, меней, чым патрэбна Тосі. Але без малога... І як гэта я адважылася прыбегчы да Журко, прымусіць яго пакласці грошы на стол, узяць іх, нават не сказаўшы, навошта яны гэтак пільна спатрэбіліся мне?.. І ён, нібыта паперкі, аддаў усё, што было ў кішэні!

— Чаго ты стаіш? Спяшайся!..

Сумеўшыся, я ўсё яшчэ стаяла.

— Чаму ты так лёгка кінуў грошы?

— Не кінуў, а пазычыў.

— Усё роўна, чаму?

Журко зазлаваў.

— Мяне гарком праз кожную гадзіну цярэбіць. А ты... О, родная мая справаздача! Калі ж я цябе напішу!

Я стрымгалоў кінулася ў сталоўку, да Тосі. На лесвічнай пляцоўцы сустрэла Ліноўскую. Яна з падробленым жахам прыціснулася да сцяны, саступаючы мне дарогу.

— Куды пыліш?

— Грошы шукала.

— Многа знайшла?

— Слухайце, праўда, ведаеце...

Я спынілася ля яе, зірнула Ліноўскай у вочы і чамусьці адразу падумала, што прасіць яе не варта, але стрымацца ўжо не магла.

— Праўда, слухайце... Ці можаце вы мне пазычыць дваццаць рублёў. Ненадоўга зусім...

— Сёння ж аванс быў! Ты што?

— Гэтак ужо здарылася. Вельмі патрэбны...

— Ну, засмылела недзе.

— Можаш ты пазычыць ці не?

— Каб раней сказала крыху... Сама пазычыла...

— Даруйце. Бягу, бо няма часу зусім...

— Навошта табе? Скажы...

Грошы ў Ліноўскай былі. Я ведала гэта. І ад таго, што

яна хлусіла і не сказала праўды, мне, як і там, у кабінеце Журко, зрабілася сорамна. Сорамна не ад таго, што Ліноўская гэтак вылыгвала і скнарнічала. Чаму яна не сказала шчыра і адразу: не магу... Але ж і я сама не сказала ёй адразу і праўдзіва, навошта спатрэбіліся мне грошы. А як я магла сказаць, не ведаючы, навошта яны Тосі. А мне і ўвогуле не трэба гэтага ведаць. Няўжо толькі ведаючы, якое гора ў чалавека, ты абавязана яму дапамагчы. Галоўнае, мне здаецца, каб гэтага гора не было ў чалавека!..

Тося сядзела на тым жа самым месцы, сядзела па-ранейшаму крыху нахіліўшыся наперад і скіраваўшы пагляд у акно.

— Ты ведаеш...

— Ведаю, ведаю,— паспешліва праказала Тося, нават не даўшы мне дагаварыць; яе губы скрывіла насмешлівая грымаса: — Куды ты кінулася? Пажартавала я. Ніякія грошы мне і не патрэбны...

— А я пазычыла. Праўда, меней, чым ты казала. Дваццаць рублёў не хапае...

Яна глядзела на грошы невідушчымі вачыма, вейкі ў яе дрыжалі, і шчокі слаба пунсавелі. Потым Тося адсунула грошы на край стала.

— Кажу ж табе, пажартавала.

— А я лётала... Думала, пільна табе...

— Скоры спех — людзям на смех!

— Ты сказала — я і паверыла...

— Дзіўная! А каб я сказала табе, што дзве тысячы мне патрэбна?

— Але ж ты не сказала! Бяры. Дваццаць лягчэй знайсці.

— Вазьму,— адрывіста, нібыта згадаўшы што, пагадзілася Тося.— Зараз я табе распіску напішу...

— Якую распіску?

— На грошы.

— Ты крыўдзіш мяне. Я дапамагчы хацела... Шчыра. Будуць грошы — аддасі.

— А сама як?

— У мяне, можа, мех іх поўны. Сама выраблю,— пажартавала я, прыгадаўшы словы Віктара.— Ты дамоў?..

— Але. Хадзем разам...

Тося не была са мною шчырай. Але гэта не трывожыла мяне. Крыху раней, атрымаўшы грошы ў бухгалтэрыі, я радавалася, што ў гэтым месяцы заробак большы, але

радавалася не так, як цяпер, калі гэтыя грошы аддала другому чалавеку. Гэтая радасць была большая, яна ўзнімала, хвалявала і рабіла мяне шчаслівай. Значыць, шчасце не толькі ў тым, каб нешта прыдбаць сабе, здабыць нешта патрэбнае самому. Вось я аддала сёння грошы, якія патрэбны і мне, а не зрабілася ад гэтага бяднейшая. І не зрабіўся бяднейшы Журко, калі пазычыў мне грошы. Дык вось чаму гэтак скептычна ўсміхаўся і шчыра жартаваў Віктар, калі выкладаў з кішэні дзесяцірублёўкі. Ён тады ўжо ведаў тое, што я адчула толькі цяпер.

— Пешкі пойдзеш? — запытала Тося на вуліцы.

— Хочацца прайсціся...

— Тады і я. Мне ж цяпер блізка: за мост — і хата. Маю цэлы маёнтак. Раней за вакзалам жылі.

— Кватэру атрымалі?

— Не. Цэлая хата, кажу ж табе.

— Пабудаваліся?

— Падарунак!

— Шчодры, нічога не скажаш!

— Толькі часовы. Гаспадыня да сына ў Кустанай паехала, а нас за вартаўнікоў узяла. На самым беразе хата. У іх і човен ёсць. Улетку будзем катацца.

— Не да гэтага будзе ўлетку. Сесія!

— Мой Варлен таксама паедзе. Гэта муж мой. Ён летась у Маскву паступіў. У мастацкі інстытут. Два разы ездзіў — зразалі. А на трэці — прынялі. Прабіўся...

— А ты не вучышся?

— Пакуль што не. Паступаць цяпер цяжка...

— А завод жа даваў рэкамендацыі сёлета. Чаго ты не ўзяла?

— Хачу звальняцца. Не люблю завод. Як-небудзь уладкуюся ў бальніцу, хоць санітаркаю на першым часе, а потым пастараюся паступіць у медыцынскі...

— Ты хочаш стаць урачом?

— Гэта мая мара. Але толькі пазней, як Варлен скончыць ці хоць на другі курс пяройдзе. Буду яму памагаць, бо нехта ж з нас павінен працаваць...

— А бацькі памагаць не могуць?

— А што бацькі!..

Тосін твар пацямнеў, яна нічога не адказала больш, і нейкі час мы ішлі моўчкі. Наперадзе быў ужо мост, асветлены ліхтарамі. На сконе дня ўзялося на мароз. Далягляд за ракой быў парэзаны вузкімі хмарамі на пунсовыя стужкі, і водсвет ад іх, змешаны са святлом ліхтароў, коса

клаўся на каламутную, але бліскучую ваду, на рэдкія крыгі, што плылі ля берагоў, на сухія і белыя дошкі моста.

— А ты ведаеш, навошта мне грошы? — запытала Тося.

— Спатрэбіліся — і ўсё,— я прыгадала словы Журко і хацела пажартаваць.— Калі жанчына пазычае грошы і ў яе гарaць вочы...

— Не, ты не падумай чаго. Сапраўды — нявыкрутка. Хутка Варлену ехаць трэба, заліковыя работы здаваць, а ў яго надзець няма чаго. Ягоны касцюм я спаліла...

— Спаліла?

— Не ў печы! Прасам. Прасавала, а нехта на вуліцы закрычаў. Выбегла. Хлопец суседскі нос расквасіў і раве. Суцешыла, нос памыла. А дамоў прыбегла — гарaць Варленавы штонікі. І смех і грэх. Сапраўды, дзе каротка — там і рвецца. Хацела я ў бацькоў грошы пазычыць, але Варлен не дазволіў. Ты паслухай, я табе нашы тайны выдам...

— Можа, не трэба...

— Не ўжо! Узялася — дык да канца скажу. У мяне натура такая: калі што надумала — сцеражыся. Варлен мяне пабойваецца. Але жывём мы добра. Ён мяне кахае. З-за яго ў мяне ўсё з бацькамі пачалося... Але якія яны мне бацькі? Яны ж Варлена маім мужам і прызнаваць не хацелі. Бацька кажа, прывядзеш яго ў хату — пракляну!..

— Гэта ж дзіўна! Недарэчнасць нейкая. У наш час!

— А я ім так і сказала: людзі ўсе роўныя. І выйшла за яго. І добра жывём. І бацька мяне пракляў і хацеў выгнаць з хаты. Але я не чакала — сама пайшла. Гэткая хата мне не патрэбна.

— А хто твае бацькі?

— Простыя людзі. Бацька на маслазаводзе працуе. Маці — дома гаспадарыць, але яна жанчына добрая. І з бацькам не пагадзілася, мяне падтрымлівае. Але з Варленам — таксама на мяне павярнула. Яна ў мяне, ведаеш, з гэткім арыстакратычным ухілам. Мяшчанства, адным словам...

Мы перайшлі мост і па сцежцы спусціліся ўніз. Сцежка была няроўная, прыступкамі, і на іх ляжаў яшчэ брудны снег; к вечару снег пагрубеў і крохка шахцеў пад нагамі.

— А Варлен як да ўсяго гэтага ставіцца?

— Ён ганарлівы,— сказала Тося.— Бацькі цяпер

быццам памякчэлі, але ён памятае старое. Дарогу ў жыцці мы праб'ём самі, кажа. І я з ім згодна. Бачыш, Варлен ужо дома. Вось гэта і ёсць наш маёнтак...

Нізкаватыя каштаны з кароткімі і тоўстымі, быццам абсечанымі галінамі раслі ля рэдкай штакетнай агароджы. Непадалёк ад яе, у садку, стаяла ашаляваная і пафарбаваная ў зялёны колер хата. Два акны, што былі ў бок каштанаў, свяціліся.

— Зойдзем! — паўтарыла Тося сваё запрашэнне.— Варлен узрадуецца. Ён у мяне харошы. І ты пабачыш, як ён малюе.

— Не, другім разам.

Мне карцела ўбачыць Тосінага мужа, і я ў думках ужо рашыла, што, калі яна яшчэ раз прапануе, зайду ў хату. Але трэцяга запрашэння не было. Замест яго Тося раптам сказала:

— А грошы мы хутка аддамо. Варлену абяцалі заплаціць за адну акварэль. Хочаш, праўда, распіску?

— Ніколі не ўспамінай мне гэтага! Інакш я гаварыць з табою не буду. Памятай!

— Даруй. Нагаравалася, дык да людзей цяпер асцярожная.

— І ў мяне не гладка ідзе. Але я людзям веру. Добрых людзей на свеце больш...

— І дымок. Бачыш? Варлен пліту распаліў...

— Бяжы. Ён жа чакае цябе!

Тося пайшла. Я чула, як бразнулі дзверы ў сенцах, бачыла, як у акне мільганулі на кароткай фіранцы дзве трапяткія цені, зліліся ў адно і на момант застылі...

Простае людское шчасце жыло тут, у гэтым маленькім доміку, за тонкім шклом акна. Я адчувала яго ўсёю сваёю істотай і не магла пайсці адсюль: змрочнае захапленне і даўкая трывога скавалі маю сілу і рашучасць. Ва мне варухнулася шчымлівае, падобнае на зайздрасць, пачуццё. Але гэта не была зайздрасць, гэта быў боль.

Па тых жа няроўных прыступках, засыпаных крохкім снегам, я ўзлезла на высокі ўзвал ля моста і азірнулася. Знаёмае Тосіна акно загубілася сярод мноства агнёў. Гэтыя агні, нібыта сапраўднае полымя, апяклі мяне, і ў сэрцы зноў прачнулася туга.

Подых чужога шчасця разварушыў у душы ўсё забытае, і тое шчымлівае прадчуванне нечага вялікага і радаснага вырасла ў такую аграмадную хвалю, што я ледзь не захлынулася. Я ўжо не ішла, а амаль бегла дахаты;

у канцы моста азірнулася зноў, не знайшла сярод мноства агнёў тыя два акны і яшчэ больш паскорыла хаду. Я цяпер ужо не здагадвалася, а пэўна ведала, што ў хаце мяне нехта чакае, і гэтая пэўнасць мела пад сабою трывалы грунт усіх ранейшых сумненняў, трывожных думак і жаданняў.

Я падбегла да брамы і, яшчэ не адчыніўшы яе, убачыла на дзвярах хаты замок. Падышла да яго ціха і неахвотна. Вось і ўсё. І нікога ў хаце няма, і ўсе мае мары — дзяцінства, простая гульня і вынік хваравітай фантазіі. Ёсць жыццё. І ёсць замок. І ёсць зачыненая хата...

Ноччу я амаль не спала; ложак здаваўся быццам нагрэты знізу, і ад глухога трывожнага бунту крыві звінела ў галаве. На досвітку я ўсхапілася, пачуўшы скрозь дрымоту нейкі голас, і доўга сядзела на ложку, прыціскаючы коўдру да грудзей. Марынка спала. Цішыня панавала ў хаце, але той слабы заклік, як жывы голас, быў у душы, выразна гучаў у вушах.

За шэрым напацелым акном прамільгнуў нейкі цень. Я ўскочыла, падбегла да адчыненай форткі. Над хатай з хрыпатым галёканнем праляцелі гракі. Паветра з форткі пахла памытай бялізнай, якую толькі што прынеслі з марозу ў пакой. Босыя ногі зайшліся, цела калацілася ад частых дрыжыкаў, а я ўсё стаяла, глядзела на слаба запунсавелы крайчык неба і не магла адысці ад акна і чакала,— і сама не ведала, чаго чакаю ад халоднага вясновага світання.

## 10

Сесія,— магчыма, гэта толькі здалося мне — была вельмі цяжкая. Я здала яе добра, але стамілася незвычайна. У той жа дзень, калі быў здадзены апошні экзамен, я села ў вагон і, ледзьве поезд крануўся, узяла ў правадніцы пасцель, заснула як мёртвая і спала да самага Прыдзвінска.

На круглых, як вялізныя сподкі, клумбах прыдзвінскага перона цвілі кветкі: калі я ад'язджала, яны былі зусім маленькія, і кволыя лісцікі не набралі яшчэ сілы, ляжалі на зямлі абвялыя і брудныя. Цяпер жа пышныя шапкі белых макаў і чырвонай гваздзікі ганарліва навісалі над вогненна-жоўтымі стужкамі настурцый. Гладыёлусы яшчэ не цвілі, і іх шырокія зялёныя лісціны былі вострыя, як шаблі. Ля зялёнага дашчаніка тоўпіліся мужчыны, здзьмухвалі белую пену з піўных квартаў, аб нечым спра-

чаліся. Адзін з іх, крайні ў гурце, стаяў да мяне спіною. У ім было нешта як бы знаёмае. Прыгледзеўшыся, я ўздрыгнула. Міхась!.. Так... Гэта яго плечы, яго пастава!.. Не, не ён... Але якое падабенства!..

Шчокі мае палалі, гарачыня перапоўніла грудзі, і нейкая здрадніцкая слабасць скавала ногі. Мінула тры гады— нечакана падлічыла я. Тры? Так, тры гады таму назад у гэты ж самы дзень я выйшла з вагона, поўная радасці, чакання і надзей. А крыху пазней усё гэта было змята, заплямлена і перакрэслена. Мінула тры гады... Сёння я магла сысці з вагона не студэнткай, а інжынерам. Магла? Так... Ну дык што з таго? За гэтыя тры гады я зусім непрадбачана скончыла іншы інстытут — інстытут практычнага жыцця, я спасцігла самую горкую з навук, якія толькі існуюць на зямлі. Зведала гора. Зведала крыўду. Цяпер я ведаю, як цяжка жанчыне адной. Але затое як дорага заплачана за гэтую навуку... Лепей не ведаць яе!

Чыстае, без хмурынкі, неба вісела над горадам. Гудзелі машыны. Гаманілі людзі. З рэпрадуктара, што быў устаноўлены за вакзальнай плошчай, ляцеў над асфальтам бадзёры марш. Я ішла праз увесь гэты вулічны тлум, як праз рэдкую снегавую завею; ён абмінаў мяне, не чапаючы ні думак, ні пачуццяў. Я думала пра Міхася. Тры гады — і ніякіх звестак. Напісаў двойчы Ніінаму мужу, адзін раз прыехаў у Баравічы, калі памерла маці, і ўсё. Мне ж — ні слоўца! А я чакала. Увесь час чакала, што ён пакліча мяне, хоць і не ўяўляла сабе, што будзе, калі гэта здарыцца.

Неяк вельмі хутка дайшла я ад станцыі дахаты. Знаёмы правулак, знаёмы штакетнік, знаёмыя вокны. І нават хустка на галаве Ганны Якаўлеўны, што рабіла нешта, прыгнуўшыся ў кветніку, таксама знаёмая — белая. Ніколі не магла думаць я, што гэта ўсё ўсхвалюе мяне да слёз. Так, дзе б мне ні давялося цяпер апынуцца, забыць гэтую хату, забыць тое добрае, што ўбачыла тут, мне не ўдасца.

Я асцярожненька адчыніла веснічкі; навесы зарыпелі па-старому — глуха, хрыпата. Ганна Якаўлеўна азірнулася.

— Авой ты вой! Гэта ж Стэфка прыкаціла! — яна выбегла з кветніка. Мы абняліся.— Ды ціху ж ты, ціху! І рукі, бачыш, у мяне якія! Дзе ж ты была гэтак доўга?

— Як дзе? На сесіі!

— Мы пазаўчора цябе ўжо чакалі. Пазаўчора і бацька прыязджаў.

— Праўда? З Марынкаю? Ну, як яна выглядае?

— Падрасла. Пытаюся: дзе твая мама? Мама паехала вучыцца. І чыста гэтак гаворыць...

— А чаго ж яны прыязджалі? Я ж пісала ім, што прыеду толькі ў аўторак...

— А Волька казала, што ў суботу прыедзе. Вось і зразумей, хто правільна лічыць.

— А дзе ж яна?

— Мэблю шукае. Ах, ты ж нічога не ведаеш. Ейны ж Раман кватэру атрымаў. Да вяселля рыхтуюцца. Ды што мы пра іх гаворым. Што ты прывезла? Гавары хутчэй?

— Пяцёрачкі прывезла. Усё як мае быць!

— Малайчына, дай я цябе павіншую. Я Вольцы кажу: во з каго прыклад бяры — і працуе і вучыцца. Ды ёй мора, як кажуць, па калена: рагоча і спявае.

— Хочацца мне яе ўбачыць. Зараз пераапрануся і на завод пайду. Можа, там яна цяпер...

— Анягош! Будзе цэлы твой завод. Спачатку паясі і адпачнеш. А потым што хочаш рабі...

— Толькі крышачку паесці. Адпачываць не ўгаворыце...

Халодная вада са студні здалася мне гаючай — стомленасць адразу знікла. А блінцы з яблыкамі былі гэткія смачныя, што я не ўтрымалася і пахваліла:

— Гэткіх блінцоў, Ганна Якаўлеўна, у Мінску не давялося паесці, хоць і сталіца там.

— Зробяць яны табе там, у той сталіцы!

— Чаму? Сталоўкі там неблагія.

— З тых даброшчаў ты і прыехала як паморак.

— Гэта ад навукі,— пажартавала я.

— Ой-ей, каб жа! Мусіць, і пагулянкі былі. Скажы па праўдзе.

— Часу не хапіла. Дапраўды. Не, не... Не кладзіце больш. Не магу... Буду збірацца цяпер і — на завод...

Пераапрануўшыся, я дастала з чамадана падарунак для Ганны Якаўлеўны — тканіну на плацце і каробку цукерак. Аддаваць яго было крыху няёмка, але я адважылася і выйшла на кухню.

— З глузду з'ехала,— пляснула далонямі Ганна Якаўлеўна.— Навошта? Няма куды грошы сунуць было?..

— Відаць, не было. Але скажыце, магу я, урэшце, зрабіць падарунак вам? Хоць маленькі...

— Няма цябе каму лупцаваць за гэтыя падарункі.

— Не падарункі, а — падарунак. Пашыеце сабе плацце. А фасон я вам памагу выбраць...

— Вось, вось... Мне ж самы час фасон выбіраць.

— А што? Яшчэ якое зробім!..

— Добрая ты,— сказала Ганна Якаўлеўна прачулена.— Дай пацалую цябе за гэта. Вось... Ну, бяжы сабе...

Яна падштурхнула мяне ў плечы і села ля стала, быццам забылася на маю прысутнасць. Яна моўчкі глядзела на скрутак цёмна-сіняй тканіны, што ляжаў у яе на каленях. Не ведаю, пра што думала яна, але па ўсім яе абліччы — журботна схіленай галаве, крышачку прыгорбленых плячах і марудных рухах пальцаў — я добра бачыла, што думкі яе не вельмі радасныя.

Я выйшла з хаты з адчуваннем няяснай самоты. Нейкае быццам нядобрае прадчуванне жыло ва мне, і перад вачыма былі рукі Ганны Якаўлеўны, бязвольна кінутыя на цёмна-сіні скрутак. Пра што яна думала, седзячы там у хаце? Якія думкі выклікаў у яе мой падарунак? Відаць, ён нешта напомніў ёй.

Ля веснічак мяне спыніў вокліч Ганны Якаўлеўны. Адчыніўшы акно, яна клікала мяне і махала нечым белым. Я падбегла да акна.

— Пісьмо табе, Стэфа. Вазьмі пісьмо.

— Ад каго?

— Не ведаю. Учора прыйшло. І марка нейкая быццам не наша. Не, наша марка...

Я з лёту схапіла пісьмо, прачытала адрас, сваё прозвішча, і тады белы канверт задрыжаў у маёй руцэ, літары расплыліся, аддаліліся. Міхась!.. Яго пісьмо!.. Я асцярожна сціснула яго ў далонях, нібы было зроблена яно з танюткага шкла. Я стаяла, не варушылася, быццам нечага чакала.

— Чаму не чытаеш? Можа, важнае што...

— Можа... Не ведаю...

Я зноў пайшла да веснічак, але не адчыніла іх, збочыла са сцежкі і села на вузкую лавачку пад вішнямі і доўга сядзела, баючыся адкрыць канверт. Ён ляжаў у мяне на каленях, гэты белы прамавугольнічак з пагнутымі краямі, з чорнай круглай пячаткай на карычневай марцы і шэра-жоўтым верталётам у левым кутку. Раскінуўшы тры шэрыя крылы, верталёт вісеў над блакітным фантанам, што быў зроблены ў цэнтры шырокага праспекта Маскоўскай выстаўкі. У вішняку гудзеў чмель, і мне на нейкае імгненне здалося, што верталёт ажыў сапраўды,

замахаў крыламі і павольна паплыў над вострымі стрэламі блакітных фантанаў.

Я адкрыла канверт.

Ліст у ім быў маленькі, на вузкім зялёным аркушы. Міхась пісаў, што працуе ў Віцебску, у сплаўканторы, што цяпер яны будуюць плыты далёка ад горада, у леспрамгасе, і, відаць, тыдні праз два пагоняць іх на Прыдзвінск. Ён хоча сустрэцца са мною, пагаварыць...

І больш нічога. Ніводнае просьбы, ніводнага слоўца пра тое, што здарылася тры гады таму назад!

Міхась... Міхась...

Не, я не памылілася ў ім. Адкрыўшы канверт, я, не прызнаючыся нават сабе, баялася аднаго: Міхась раскаецца, папросіць прабачэння. Ён не зрабіў гэтага, і ў душы адразу ж уваскрос той, ранейшы Міхась,— смелы і напорысты, жорсткі і бязлітасны, ад якога гэтулькі нацярпелася, праліла слёз і якога кахала без меры і розуму. Не, я не памылілася ні ў Міхасю, ні ў сваім каханні. За грубаватай праўдай яго слоў аб сваёй рабоце, аб пражытым хавалася другая праўда — праўда сэрца, якую ён заўжды хаваў ад мяне, баючыся, каб я не палічыла яго бязвольным ці слабахарактарным.

Але была адна мяжа, якая падзяляла нас, гэта — Марынка. Чаму ён нічога не запытаў пра яе? А можа, не ведае? Ведае! Ён быў у Баравічах, пісаў пісьмо мужу Ніны. Ён павінен ведаць. Але чаму ён тады ніводнага слова не піша пра Марынку? Гэта ж яго дачка!..

Старая крыўда ажывала, яна, нібыта радаснае ўзрушэнне, што абудзіў ва мне Міхасёў ліст, разварушыла горкія ўспаміны. Міхась быў далёка, і разам з тым ён нібыта стаяў побач. Не, я не забыла яго. І не забуду, не змагу забыць ніколі ў жыцці. Няпраўда гэта, што жанчына, якая нарадзіла дзіця, можа кахаць двойчы! Адзіны, толькі адзін раз!

Другім разам, відаць, мы, жанчыны, можам толькі дазволіць некаму кахаць сябе.

## 11

Скрыўленыя чорныя раструбы вентылятараў басавіта гулі над электрапечамі. Бязгучна, з ціхім шахценнем круцілася бабіна. Дрыготкае святло азарала празрыстае павуцінне зверху і рабіла яго іскрыстым, як бы жывым.

Думкі мае былі нечым падобны на гэтую бясконцую ніць. Мінула ўжо больш тыдня, як прыйшоў Міхасёў ліст. Дні ішлі, сатканыя з чакання і трывогі. Я падлічвала іх вельмі часта, сілячыся хоць гэтым крыху суняць трывогу і одум: чаканне нібыта прыгнула мяне, і я жыла з адчуваннем вялізнага цяжару на душы. На заводзе было крыху лягчэй, але і тут, занятая працаю, я не магла схавацца ад развag аб сваім лёсе.

— Прыслалі мяне да цябе,— сказаў Алесь Тумілін. Ён падышоў незаўважана і стаў побач. Чакаў.

— Прыслалі — глядзі. Сам бачыш...

— Бачу. Пазглядаеш на мяне спадылба. А чаго? — міралюбна запытаў Алесь Тумілін.

Падраныя валокны пачалі наматвацца няроўна; бабіна адразу зрабілася пукатай. Тумілін прысвіснуў.

— Выключы!

— Бачыш? І гэта ўжо трэцяя за змену...

— Новы асартымент. Чаго ж ты хочаш?

— А раней не было яго? І ўсё ішло як след. А тут быццам застаўка нейкая. Хоць сам на бабіну наматвайся...

— Гэта не спатрэбіцца. Зараз паглядзім, на што яна захварэла.

— Якія хочаш лекі давай. Толькі каб хутчэй.

— Хутчэй няможна. Спачатку праверым тэмпературку. Як яна ў вас, печачка?.. Прызнавайцеся!..

Сціснутым кулаком Тумілін паправіў на галаве зашмальцаваную квадратовую ярмолку. Я даўно прывыкла і да гэтае ласкавае назвы электрапечы, і да таго, як ён папраўляе на галаве ярмолку, але сёння ў яго словах пачулася кпіна.

— Ты чаго стаіш? Чаго?..

— Думаю,— ён стаяў і чакаў, і ў яго чыстых, як валошкі, вачах не было ні здзіўлення, ні дакору.

— Ты не думай, а рабі,— не адставала я.

— Зараз пачнём...

Па вузкай лесвіцы Тумілін узлез на верх печы, нечага папоркаўся ля каромысла дазатара і ўзяўся аглядаць ізаляцыю электраправодкі. Потым ён хутка скаціўся па прыступках уніз, сагнуўся і зазірнуў пад ахоўны шчыток на чырвонае акенца фільераў. На шчоках Туміліна папаўзлі адбіткі агню, і ад гэтага твар яго зрабіўся як бы пярэсты, вельмі смешны і дабрадушны. Чаму я злуюся на яго? Ці ж ён вінаваты ў тым, што Міхасёў ліст не дае мне спакою? Трэба быць справядлівым чалавекам.

— Што-небудзь там угледзеў, Алесь? — мяккасцю гэтага пытання я спрабавала загладзіць нядаўнюю грубасць.

— Нічога асаблівага. Трэба паглядзець сам валік. Ты не ўключай пакуль што...

Тумілін адчыніў вузкія дзверцы і знік у чэраве электрапечы. Выйшаў ён адтуль хутка.

— Маленькая рэгуліроўка валіка. Дзіцячая хвароба, як кажуць. Можаш уключаць...

Ён некаторы час стаяў ля мяне і глядзеў, як роўна і гладка наматвалася пража. Потым задаволена прысвіснуў.

— А ты казала!

— Нічога я не казала.

— Тады і я маўчу...

Мне не хацелася жартаваць; тлум у галаве мацнеў, і я цяпер ведала, што гэта ўжо зусім не ад нуднага шахцення вентылятараў,— скроні сціскаў боль і знутры хвалямі ўздымалася гарачыня; ад гэтай гарачыні было цяжка дыхаць і буйныя халодныя кроплі поту непрыемна каціліся па спіне.

Змену я здала спехам. Пры адной думцы, што ў хаце, магчыма, ёсць нейкая вестка ад Міхася, трывожна сціскалася сэрца. Я не хацела новых лістоў, баялася іх і ўсё роўна чакала, што нейкі знак ад яго будзе. Можа, паштоўка. Можа, тэлеграма. Не было і не было, а ў гэты дзень возьме ды прыйдзе! Не, няхай ён лепей нічога не піша. Чакаць засталося зусім мала...

Пры выхадзе з цэха мяне затрымала начальнік змены.

— Хацела пагаварыць з табою,— пачала Фаіна Усцінаўна і раптам устрывожылася:— А чаго ты чырвоная? І пад вачыма плямы. Захварэла?..

— Не, гэта, мабыць, ад печаў,— схлусіла я.— Зусім дрэнна вентылятары працуюць.

— Праўда, гора з імі. Без іх было дрэнна, але і цяпер клопат.

— Слухаю, Фаіна Усцінаўна.

— Параіцца хацела. Ёсць у мяне думка ўзяцца працаваць па-новаму. Даўно гэтая думка...

— А мы блага працуем? План жа штомесяц перавыконваем.

— Не план мяне хвалюе. У першай змене ўжо ёсць брыгада камуністычнай працы. А мы што, горшыя?

— У нас паказчыкі за мінулы месяц лепшыя, чым у першай змене.

— Вось бачыш! А ў цэху толькі і тае гаворкі, што пра першую. Ах, першая змена. Ах, першая змена!.. Будзем і мы змагацца. Таксама...

Не, зусім не ў пару пачала гаворку Фаіна Усцінаўна. Калі ў першай змене брыгады пачалі змагацца за званне брыгад камуністычнай працы, я ўспрыняла гэта без хвалявання і нават крыху скептычна. Сама назва такой працы таіла ў сабе нешта незвычайнае, вялікае і ўрачыстае. Я чытала ў газеце пра брыгады іншых фабрык і заводаў, якія насілі ўжо гэтае званне ці яшчэ толькі змагаліся за яго, і ў маім уяўленні былі чымсьці адметныя ад усіх людзі. Мне ўяўлялася, што гэтыя людзі заўжды дакладна ведаюць, што трэба рабіць сёння, заўтра, жыццё ў іх цікавае, змястоўнае, прыгожае, а каханне вялікае і сапраўднае. І, апроч таго, гэтым людзям вядома нешта яшчэ, без чаго не можа існаваць шчаслівы чалавек. А як жа я буду імкнуцца да такой высокай мэты, калі цяпер думаю толькі пра адно: ці ёсць у хаце нейкі знак ад Міхася? Усё астатняе адасобілася ад мяне, усё астатняе злавала мяне, выклікала непрыязнасць, бо яно замінала мне, спыняла на шляху да трывожнай і сумятлівай радасці. Можа, у хаце якраз у гэты час ляжыць патрэбнае доўгачаканае пісьмо, а я павінна стаяць тут і выслухваць зусім не патрэбныя мне прапановы!..

— Значыцца, ты згодна?

— Вядома.

Што яшчэ магла я адказаць?

— Тут важна не толькі выканаць план,— сказала Фаіна Усцінаўна.— Ты газеты чытаеш, ведаеш. Вытворчыя абавязацельствы мы абмяркуем на сходзе. Я з кожным паасобку раюся. Працаваць — гэта адно. Жыць будзем інакш. Вучыцца ўсе будзем. У цябе як з вучобай? У цябе з вучобай добра. Каб жа ва ўсіх гэтак было. Ты на трэцім?

— Але...

Не, гэтай гаворцы, відаць, не будзе канца. І трэба ж было Фаіне Усцінаўне пачынаць яе менавіта цяпер, калі мне трэба спешна бегчы дахаты!

— Трэці курс гэта ведаеш што? Вось глядзі,— Фаіна Усцінаўна і не збіралася мяне адпускаць ад сябе. Тырчма ўзняўшы далонь левай рукі, яна пачала пералічваць пальцы.— Вось вялізны палец. Гэта — першы курс. З яго на другі — высока. З другога на трэці — менш. А з трэцяга на чацвёрты — як па прыступачках уніз. Скок!

Скок! Паслухай, у нас жа па заводзе гурток бацькоў ствараюць. Хочаш туды?

— А што я там рабіць буду?

— Лекцыі слухаць. Увогуле цікава. Як твая Ірынка? Даўно яе не бачыла. Растуць дзеці!..

— Яна ў Баравічах цяпер,— я хацела паправіць Фаіну Усцінаўну, якая пераблытала імя дачкі, але стрымалася.

— Любіць гасцяваць. А гэта і няблага. Лягчэй табе...

— Вядома...

Было непамысна ад памылкі Фаіны Усцінаўны, непамысна ад таго, што я не хачу сказаць ёй праўды, не хачу выправіць яе памылку і сказаць, што дачку завуць не Ірынка, а Марынка, непамысна ад таго, што я не хачу прызнавацца, як цяжка мне адной. Мяне пакрысе абурала гэтая падкрэсленая ветлівасць, зусім непатрэбныя парады і спачуванні. Няўжо ж гэтак важна ведаць начальніку змены, любіць гасцяваць дзяўчынка ці не? Вядома, не. Апроч усяго, сёння едзе на курорт Волька, і мне трэба прыйсці раней, каб паспець праводзіць яе на вакзал.

— Значыцца, мы з табою і дамовіліся,— сказала Фаіна Усцінаўна.— Калі сход будзе, ты выступіш... Не, не. Цяпер нічога не кажы. Падумай. І прабач, затрымала цябе...

— Добра. Падумаю.

Сказала толькі для таго, каб хутчэй скончыць размову. У галаве па-ранейшаму быў гарачы тлум. Хацелася зрабіць толькі адно: легчы і адпачыць. Але словы Фаіны Усцінаўны — зусім нечаканыя! — пакінулі след, яны жылі ва мне, і я думала аб іх, калі бегла вуліцаю, і нават пазней ужо, зачыняючы за сабою веснічкі.

Не заходзячы ў хату, я прасунула галаву ў акно, паклікала Вольку. Яна адразу адгукнулася, выбегла з кухні з відэльцам і кавалкам хлеба ў руцэ.

— Пошта была? — першае, што запытала я.

— Толькі газеты. Няма яму часу штодня пісаць...

— Адкуль ты ведаеш?

— Дзіва што! Учора ж пісьмо з Баравіч прыйшло. Кожны дзень яму няма пра што пісаць. Хутчэй заходзь, мы снедаем...

Есці мне не хацелася. Я выпіла шклянку кавы і навязалася ісці з Волькай. Яна спыніла мяне, сказала, падміргнуўшы, што праважаты ў яе ёсць, і дазволіла праводзіць сябе толькі да веснічак. Я запытала, калі чакаць яе.

— Не вельмі хутка. З Рыгі мы паедзем з Раманам яшчэ ў Дрысу.

— Ты едзеш з ім?

— Не, адна. Ён прыедзе праз тыдзень.

— Вясельнае падарожжа, значыцца...

— Не, вяселле будзе потым, калі прыедзем.

— Ну, добрай дарогі.

— Шчаслівa табе быць. Пішы толькі. Адрас я паведамлю. Ты ідзі, адпачывай...

— Паспею. Лягу зараз у садочку і падрамлю...

— Ну, да сустрэчы...

Волька пацалавала мяне і скоранька зашыбавала правулкам. За гэты час, што я правяла ў Мінску, яна шмат у чым змянілася: зрабілася насцярожанай, скрытнай. Толькі цяпер, перад тым як пайсці, яна паведаміла мне, што паедзе адпачываць пад Рыгу з Раманам, што потым будуць заязджаць да яго бацькоў. Той шчырасці, што звязвала нас раней, ужо не існавала. А я сама? Я таксама зрабілася замкнёнай. Але гэта ішло не ад крыўды на Вольку. Я нікому не хацела казаць пра свае думкі, а з імі было цяжка. Невыносна цяжка.

Постаць Волькі схавалася ў канцы правулка за хатай. Я вынесла з пакоя коўдру, паслала яе ў садку пад сліваю. На абвіслым галлі сярод лісця, што трапяталася ад ветру, віселі зялёныя слівы. Трава ў садзе была сухая, пахла свежым сенам, але гэты пах перабіваў густы смурод бульбоўніку. З-за стромкай вяршыні ясеня, што рос у канцы саду, на блакітнае неба, як вялікія чорныя кроплі, бязгучна выляталі ластаўкі. Праз коўдру ў цела пакрысе ўліваўся цяжкі холад зямлі...

Абудзілі мяне халодныя дрыжыкі ўнутры, пад грудзямі. Я адкрыла вочы і доўга ляжала, гледзячы ўверх. Лісце на дрэвах, што разамлелі ад сонца, панура абвісла; неба было не блакітнае, а шэра-белае, падобнае на лёгкі попел згаслага вогнішча. Толькі гэтага мне не хапала — захварэць!.. Прэч коўдру! Прэч слабасць!..

Адкінуўшы коўдру, я ўзнялася. Непрыемная млявасць паўзла па целу. Халодныя дрыжыкі суняліся, саступіўшы месца гарачыні, што распірала грудзі; шэрая туманная заслона перад вачыма была таксама гарачай, і ў ёй, як у ваце, знікалі кароткія думкі. Не, гэта не хвароба. Гэта стомленасць. Я проста змарылася ад усяго, што было за апошнія дні.

Дарога ад слівы да хаты здалася мне надта доўгай.

З цяжкасцю я дабрыла да ложка, пастаяла над ім і павалілася на коўдру, радуючыся, што прыходзіць нечаканая палёгка і збавенне...

## 12

Я хварэла тры дні. На чацвёрты мне было ўжо лепш, але ўрач, якога выпісала Ганна Якаўлеўна, не дазволіў уставаць, і я ляжала на ложку і глядзела на хлісткі вішняк за акном.

З завода ў гэтыя дні ніхто не прыходзіў, і гэта не здзівіла мяне. Суткі вольныя пасля начной змены. Адзін дзень не была на рабоце — не пабягуць жа адразу шукаць! Вельмі хацелася ведаць, што робіцца на заводзе, хто працаваў замест мяне. Каб была побач Волька! Але цяпер яна далёка, адпачывае ля мора і, відаць, ні пра што не думае, ні пра што не клапоціцца.

У садзе візгатнулі веснічкі, і, крыху счакаўшы, за акном узнікла гаворка. Хто ж гэта там? Ганна Якаўлеўна і яшчэ нехта. Нейкі тонкі дзявочы голас. І хтосьці трэці. А голас таксама знаёмы.

Над самым акном пачуліся асцярожныя крокі.

— Кажу ж вам, што спіць чалавек,— ціха прамовіла Ганна Якаўлеўна, адсунула фіранку.

— Не, не сплю! Ляжу проста...

Я прыўзнялася на ложку. Ой, гэта ж нашы дзяўчаты прыйшлі — Зіна Рабікава і Сара Лаздан. Зіна ўбачыла мяне першай.

— Што з вамі здарылася? — запытала яна, прасунуўшы галаву пад фіранку. Побач з ёю адразу ж з'явіўся спалохана-насцярожаны твар Сары.

— Нас цэхком паслаў. Вы што, хварэеце?

— Не блытай, Сара. Не цэхком, а Фаіна Усцінаўна.

— Усё роўна, яна нам як член цэхкома загадала...

Нават і тут, на падваконні, яны спрачаліся, гэтыя дзве верныя і неразлучныя сяброўкі. Я мала ведала іх, не сябравала нават — дзяўчаты пачалі працаваць вучнямі апаратараў у той час, калі я ездзіла на сесію ў Мінск.

— Я на вашай печы сёння працавала,— з урачыстым гонарам паведаміла Зіна.— Праўда, Фаіна Усцінаўна ўвесь час наглядала. І амаль не было браку...

— Добрае не было! Ледзьве адносіць паспявалі.

— Фаіна Усцінаўна сказала, што я амаль выканала норму. Вось...

— А на кантроль пайсці пабаялася. Вы ведаеце, Стэфа, Зінка на кантроль збаялася ісці!

— І нічога я не збаялася. Не было часу. Як Фаіна Усцінаўна сказала, дык я адразу і пабегла...

Сіняе, з вялікімі белымі гарошынамі плацце Зіны нібыта закрыла перада мною ўсё: і дрэвы ў садзе, і хмарнае неба, і нават твар Зіны. Завод!.. Мой любімы завод!.. Гэта адтуль, ад простых слоў Зіны пра наш цэх, пра нашы электрапечы, прыйшла да мяне радасць. Мне здалося, што ад сіняга плацця Зіны бруіцца пах разагрэтага, змочанага эмульсіяй шкла, што я чую шалахценне вентылятараў у чорных выгнутых раструбах.

— Ой, хмара якая! — войкнула Сара.

— Дзе ты яе бачыш? Ага... Праўда, дождж, мабыць, будзе... Папраўляйцеся, Стэфа Рыгораўна. Можа, вам што трэба — скажыце...

— Дзякуй, што прыйшлі. Скажыце Фаіне Усцінаўне, што праз дзень-другі я прыйду. Здаровая буду...

Я чула, як гаманілі дзяўчаты з Ганнай Якаўлеўнай, як віскатнулі веснічкі, як глуха шамаціць ад рэзкіх парываў ветру вішняк. Усё спявала ва мне. Стэфа Рыгораўна! Мне было непамысна, калі дзяўчаты гэтак назвалі мяне. Але ад тых слоў засталася ў сэрцы радасць. Досыць ляжаць! Досыць! Узнімайся, Стэфа Рыгораўна!..

Ад слабасці крыху дрыжалі ногі. Але што з таго! Мне трэба быць здаровай! Трэба! Я прымусіла сябе заслаць ложак, узяць ручнік і выйсці на тэрасу.

— Зарана, можа? Паляжала б,— сказала Ганна Якаўлеўна, убачыўшы мяне з ручнікам.

— Досыць, наляжалася.

— Глядзі сама. Не малая. Есці, можа, хочаш?

— Вы ведаеце, Ганна Якаўлеўна, вельмі хачу есці!..

Я з вялікай ахвотаю з'ела талерку наварыстага баршчу з свежай гародніны і тры — любімыя мае! — блінцы з мясам. Апетыт мой вельмі ўзрадаваў Ганну Якаўлеўну.

— Во гэта правільна,— пахваліла яна мяне.— Хваробу толькі добрай ежай асіліш. Вазьмі яшчэ блінец...

— Не, дзякую. Цяпер кампоту шклянку, і — усё.

Кампот быў з вішні — густы, амаль фіялетавы. Мы абедалі на тэрасе, і я сядзела за сталом і піла кампот. Хмары ўсё гусцелі, і, урэшце, рэдкія, але буйныя кроплі стукнулі па даху; шыфер пявуча і звонка, як цымбалы, загудзеў; гэты звон адразу выціснуў з тэрасы душную парнасць.

За садам, па далягляду, неба было асветлена сонцам, і хмары там здаваліся празрыстыя. На слупе крычаў дынамік: Мінск перадаваў звесткі аб надвор'і, і я паўтарыла ўслед за дыктарам:

— Па заходняй частцы рэспублікі захаваецца сухое, без ападкаў, надвор'е...

— Не балбачы, не балбачы,— строга зазначыла Ганна Якаўлеўна.— Няхай ідзе. Гэта ж хлеб людцам сыплецца...

Густыя вадзяныя плеці лупцавалі бульбоўнік, і ён зніцеў, адразу палёг і, быццам спрабуючы прыкрыцца ад балючых удараў, вывернуў лісце попельным бокам уверх; у жалезнай бочцы пад вадастокам віравала і клекатала зялёная вада; на падворку сярод вялізных пукатых бурбалак, што скакалі, лопаліся і зноў вокамгненна нараджаліся, плылі маленькія трэсачкі: вірлівы паток заліваў іх, яны ўпарта сунуліся наперад скрозь белыя бурунчыкі, пакрытыя пенай.

А як жа цяпер на Дзвіне? Гэтая думка ўзнікла раптоўна, нічым не папярэджаная, і ад яе прыйшоў у сэрца сумятлівы неспакой. Сапраўды, як жа цяпер, у гэткі дождж, на плытах? Там жа няма дзе схавацца! А можа, у іх ёсць буданы?.. Усё роўна трэба ж некаму веславаць!.. Так, некаму трэба веславаць, бо плыты не могуць спыніцца, яны плывуць у дождж і вецер, плывуць удзень і ўноч.

Дзвіна. Дождж. Плыты...

Я ўявіла сабе Міхася на плыту — змоклага, пад ветрам і дажджом — так яскрава, што ў маім сэрцы варухнуўся боль. А што, калі і я таксама была крышачку несправядлівая да яго, і ўсё павучала, і была занадта рэзкая і патрабавальная? Не, няхай мы толькі сустрэнемся! У тысячу разоў буду я ласкавейшая і ў тысячу разоў разумнейшая. І гэта будзе праз дзень. Гэта будзе паслязаўтра. Так, паслязаўтра мінае другі тыдзень. І Міхась павінен быць тут. Паслязаўтра я пайду на бераг Дзвіны і буду чакаць яго. Дзіўна і смешна! Да адных каханыя прыязджаюць на поездзе, прылятаюць на самалётах. Мой жа Міхась прыплыве да мяне на плытах! Паслязаўтра. А што, калі плыты прыйдуць сёння?.. Сапраўды, вада цяпер вялікая...

Дзвіна клікала мяне. Прыйшоўшы раптоўна, трывога ўсё шырэй гаспадарыла ў душы, і я ўжо цвёрда ведала, што не супакоюся, пакуль не ўзыду на дзвінскі бераг.

Калі я ўзяла плашч і пачала апранацца, Ганна Якаўлеўна спалохалася, загарадзіла мне дарогу:

— Ты куды? На гэткі дождж? І не мыслі! Не дазволю!..

— Мне трэба. Мне трэба пайсці ў горад...

Мой голас не пераканаў яе, але нешта ў маім абліччы, відаць, было такое, што яна памякчэла і буркатліва папрасіла:

— Пачакай, няхай пяройдзе... Бачыш, неба пасвятлела... Вось тады і пойдзеш...

Дождж хутка суняўся. Я пайшла на Дзвіну. Ішла подбегам, нібыта баялася спазніцца на нешта вельмі важнае, і супакоілася, уздыхнула з палёгкай толькі на беразе, зірнуўшы на шэрую і нерухомую, як бы намаляваную блакітна-попельнаю фарбаю, раку. І неба было над ёй непрыветнае, попельнае, толькі на даляглядзе яно святлела трыма шырокімі, абсечанымі з усіх бакоў, стужкамі: ніжэй да зямлі ляжала пунсовая, над ёй — светла-ружовая, а яшчэ вышэй, нібыта падпіраючы шэры купал неба,— бледна-жаўтаватая паласа.

Дзвіна супакоіла мяне.

Вецер быў слабы, ён мякка і асцярожна кратаў шчокі, і ад гэтага ціхамірнага дотыку ласкавасць у душы дужэла, асядала грунтоўна і цвёрда. У сэрцы драмаў спакой. Цяпер я добра ведала ўжо, што зусім паправілася, што перамагла хваробу і што магу чакаць тут Міхася бясконца.

## 13

З вузкага, адсечанага з кармы чаўна два хлапчукі вудзілі рыбу. Яны былі падобны адзін да аднаго: абодва светлагаловыя, з блакітнымі вачанятамі і аблупленымі насамі. Я ўбачыла хлапчанят у той дзень, калі прыйшла на раку пасля дажджу. Сустрэлася з імі і ўчора, нават пазнаёмілася: аднаго звалі Пецька, другога — Лёнька. Сёння хлопчыкам шанцавала: ля берагу, на почапцы, плавалі акунькі і даволі ладная плотка з прыгожымі чырвонымі плаўнікамі і чорнымі з белай плямкай пасярэдзіне вочкамі.

— О-оо! Тут поўная патэльня. А хто выцягнуў плотачку?

— Пецька гэта. Я акунькоў цягаю...

— А якога падлешчыка сплавіў,— адразу адгукнуўся

Пецька, поркаючыся ў банцы, дзе былі чарвякі.— Клюе! З-ззасякай!..

Над вадой падскочыла і зноў плёхнулася ў раку маленькая рыбінка; вудзільна стукнула аб борт чаўна.

— Разява ты несалёная,— з горыччу адзначыў Пецька.— Упусціў.

— Ён жа сам зляцеў!

— Бо ты разява...

Паспрачаўшыся і супакоіўшыся, хлопчыкі зноў узяліся вудзіць. Моцна прыпякала сонца. Нерухома стаялі ў вадзе паплаўкі. Чорнымі маланкамі, з посвістам, праносіліся над імі стрыжы. Вось толькі тут былі, чыркнулі крыламі па вадзе і ўжо далёка-далёка, за жоўтым паваротка. Нерухома застыглі на чаўне маленькія рыбакі. Добрыя і смешныя хлопчыкі. Учора яны таксама лаяліся, і зноў быў вінаваты Лёнька: блізка падвечар ужо ў яго клюнула добрая рыбіна, але ля самага чаўна ўцякла...

Плыла па рацэ песня; я чула зухаваты хлапечы голас, але павярнуцца і зірнуць у той бок не было аніякага жадання. Я сачыла за лётам стрыжоў і слухала блізкую песню.

— Плыты, Лёнька,— ціха сказаў Пецька.

— Дзе ты бачыш?

— А вунька, плывуць.

— Праўда. Во каб з іх павудзіць...

— Летась — забыўся? — колькі стаялі? Можа, цяперка стануць...

Гаворка хлопчыкаў абмінула мяне і не абудзіла аніякіх пачуццяў. Толькі крыху спагадзя, калі песня пасунулася зусім блізка, я здрыганулася, ашаломленая. Плыты? Гэта ж Міхась гоніць плыты!..

Я баялася зварухнуцца. Мне здавалася, што, калі павярнуся і зірну ўверх па рацэ, у бок моста, ніякіх плытоў не будзе, і, каб адцягнуць гэтае расчараванне, упарта глядзела на паплаўкі. Крайні, коркавы, паплавок раптам саўгануўся і хутка пайшоў пад ваду.

— Падсякай! — крыкнуў Пецька.

Лёнька шмаргануў вуду; разам з пырскамі ўзляцела ў паветра бліскучая рыбка, плёхнулася на бераг, затрапяталася і адразу зрабілася шэрай, патаўсцела.

Я павярнулася.

Плыты былі ўжо зусім блізка, і над імі вісеў празрыста-трапяткі водбліск вады і сонца. Чорна-карычневы пра-

мавугольнік бярвенняў, здавалася, не кратаўся, а нерухома застыў у бліскучым мроіве.

Ускрай плыта, басанож, у закатаных па калена штанах, стаяў Міхась. Гэта быў ён! Я адразу пазнала яго, хацела закрычаць і не змагла, а толькі зрабіла два крокі наперад і стала ля самай вады. Што я адчувала? Нават не магу сказаць дакладна. Радасць? Здаецца, не. Разгубленасць? Яна трымалася вельмі мала, знікла хутка, амаль імгненна, і я моўчкі, з захапленнем глядзела на мажную постаць Міхася. Менавіта гэткім жыў ён у маім уяўленні ўвесь гэты час — шыракаплечы, упэўнены, смелы, з ганарлівай паставай галавы.

— Стэфа!

Ён таксама пазнаў мяне. Голас яго не змяніўся. Паміж намі была толькі бліскучая паласа вады. Але я па-ранейшаму не магла нічога сказаць; ногі непрыемна, як у той дзень, калі ўзнялася з ложка пасля хваробы, аслабелі, іх цяжка было, амаль немагчыма, адарваць ад зямлі, быццам прыраслі яны да няроўнага берагу, засыпанага бітай цэглай і бліскучымі шкельцамі. Я слаба памахала рукою — адзінае, што магла зрабіць.

Міхась склаў далоні рупарам.

— Не чую! Кажы грамчэй! — патрабавальна гукнуў ён. Памаўчаў, чакаючы адказу. Потым — зноў: — Не чую... Перакаты намыла! Забаронена прыставаць. На Друйск ідзём. Чуеш?..

Я бачыла, як ён прайшоў да краю плыта і стаў на апошняе бервяно. У сэрцы была трывожная пустэча.

— Міхась! — урэшце крыкнула я.— Пачакай!..

— На Дру-уйск ідзём!..

Хлопец, што сядзеў па другі бок плыта, засяваў грамчэй, боўтаючы нагамі ў вадзе:

Мяне плыт вязе —
хваля плавіцца.
Дзень і ноч яго цалую —
хай падавіцца.

Рака хутка гнала плыты ўніз, і яны сунуліся ўперад велічна і ўрачыста. Бронзавыя ад загару людзі, што стаялі ў канцы іх, раз-пораз узнімалі доўгае, з суцэльнага бервяна вясло, і яно гучна плёхалася ў ваду; узляталі залачоныя пырскі, і бліскучая сонечная смуга над плытамі развальвалася, нібыта разрэзаная арапжавым нажом.

Разам з маўклівай хадою плытоў адплывала ў зманлівую далеч нешта прыгожае і светлае, тое, чаго больш ні-

колі — я неяк вельмі востра, да болю востра адчула гэта — не будзе ў маім жыцці. Постаць Міхася нібыта раставала ў зыркім сонечным бляску; чырвоны сцяжок спаважна матляўся над саламяным дахам крайняга будана, але быў якраз за Міхасёвай спіною, і мне здалося, што Міхась робіць рукою мне нейкія знакі.

Я кінулася да хлопчыкаў.

— Родненькія! Хлопчыкі! Мне туды трэба! Давязіце!..

Нібы згаварыўшыся, яны моўчкі вылезлі на бераг. Я сама ўзялася за вёслы. Я грабла і супакойвала Лёньку, які застаўся ў чаўне, што я адразу ж адпушчу яго, гаварыла, што час ранні і яны паспеюць налавіць рыбы. Двойчы вёслы выскачылі з металевых рагулек, і гэта выклікала іранічны смяшок Лёнькі, але з кожным узмахам яны клаліся на ваду ўсё раўней і раўней; белыя пенныя віхуры ўзнікалі за кармой, і човен ляцеў наперад доўгімі і моцнымі рыўкамі.

— Цішэй грабіце,— закамандаваў Лёнька.— Каб човен не пабіць...

З разгону нос чаўна ўспоўз на жардзіну, што ішла ад плыта пад вадой. Хлопец, што спяваў нядаўна жартоўныя куплеты, гукнуў мне:

— Гэ-эй, прыгожая! Ты гэтак нас на дно пусціш!..

Я ўскочыла на плыт і адпіхнула човен. Тоўстае сасновае бервяно ціха павярнулася ў бела-карычневых павойніках. Я перабегла на другое і стала трывала, адразу адчуўшы ўстойлівасць плыта. Зманлівая далеч, у якой было нешта трывожнае, вялікае, знікла, і вакол запанавала цішыня: я адчувала, як уліваецца яна ў сэрца, і сэрца сціскалася і замірала, быццам там, апроч гэтае цішыні, нічога не было. Разгоністая хваля ўспаўзла на бервяно, заліла туфлі, і я не пачула плёскату вады.

На грудзях Міхася, шакаладных ад загару, мітусіўся бляск узбунтаванай чаўном вады; човен быў ужо далёка ад плытоў, а хвалі ўсё беглі, наматваліся на карычневыя бярвенні і раскідвалі вакол бліскучыя водбліскі; яны былі вельмі порсткія, жывыя, хутка перабіраліся са шчок на аблупелы ружовы нос Міхася і, амаль не затрымліваючыся на ім, сігалі на жоўтыя, пачыста збеленыя сонцам бровы.

— Вось і я, Міхаська!

— Бачу,— ён рукой шмаргануў левую калашыну, што паўзла ўніз.

— І не сорамна табе? Цяжка было паведаміць...

— А што паведамляць?
— А тое, што плывеш.
— У нас пошты няма...
— І не трэба, Міхась...

Злосці на Міхася не было; ён пабач, а ўсё астатняе — і тое, што ён дакладна не паведаміў пра свой прыезд, і змрочны яго пагляд, і нездаволены голас, і хмурна ссунутыя бровы — усё гэта драбяза, зусім не вартая ўвагі. Нават добра, што ён нездаволены. Няхай злуецца! Гэта ўсё ж лепш, непараўнальна лепш, чым сядзець адной і ўсё чакаць, і чакаць... І нічога не ведаць, і ні на што не спадзявацца. А толькі — чакаць. Цяпер тое чаканне было як дзіўны і непатрэбны сон, было гэтакае далёкае, быццам ніколі не існавала ў сапраўднасці.

— А ты чаго сюды? Я ж казаў табе: прыставаць не будзем, на Друйск ідзём.
— І мне туды!.. Ага... У самы Друйск паеду!..
— Ну, прыдумала!
— Паеду! — я ведала, што цяпер не змагу змяніць раптоўна прынятага рашэння, і крыху спалохалася яго.
— Тыдзень плыць будзем! Ды назад яшчэ калі!..
— Усё роўна!
— Я на тое, каб табе лепш было.
— Дзякуй за клопат!
— Цішэй,— ён азірнуўся.— У нас брыгадзір ёсць. Не дазволіць.
— Дзе ён? Я папытаю. Пакліч яго!
— Дурніца ты, ці што?
— А ты пакліч! Я, можа, і не да цябе зусім. У мяне, можа, камандзіроўка ў Друйск ёсць,— пажартавала я і адразу паверыла ў сваю выдумку.— Праўда, камандзіроўка... Ты што, забароніш? Плыты не твае, дзяржаўныя. Дзе той брыгадзір?
— Не дурніся, кажу!
— А на плытах слаўна. Быццам і не плывеш зусім... І хараша як тут!..
— Затое горад бачыш дзе? Во як адплылі...

Горад пакрысе знікаў за павароткам. Белыя будынкі, здавалася, не стаяць на зямлі, а вырастаюць з зеляніны лісця; у рэдкай, як бы вечаровай сінечы віселі над вадою аркі чыгуначнага моста; па мосце ішоў цягнік — грывастая паласа дыму адматвалася ад яго і спаўзала за карычневыя вагоны. Усё гэта было маленькім, як на дзіцячым малюнку; і шэры заводскі гмах, што стаяў на беразе

ўскрай моста, таксама быў маленькі, несапраўдны, і ўсё, звязанае з ім, раптоўна згубіла ранейшую значнасць. Няхай адплывае ўсё! Няхай далей і далей адыходзіць ад мяне ўсё, што звязана з тугою і адзінотаю.

— Ты бачыш, дзе горад? — перапытаў Міхась.

— Бачу... І смешна нават, які маленькі здаецца.

— Глядзі, каб смех на плач не збіўся.

— Мая бяда. Ведаю.

— Добра ж, калі ведаеш. Толькі Дзвіну слязьмі не далівай, бо вады тут поўна...

— Маіх ты не пабачыш!

Мая ўпартасць здзівіла яго; ён некаторы час моўчкі, але насцярожана і вывучальна ўглядаўся ў мае вочы. Потым зарагатаў.

— Ну-уу, баба! Што ж, тады давай здароўкацца. Залічым цябе кашаварам...

Нешта няўпэўненае было ў яго смеху, у тым шырокім узмаху, з якім ён працягнуў мне руку, але паціснуў мне далонь моцна, да болю. І менавіта ён, гэты боль, узрадаваў мяне.

Усё яшчэ смеючыся, Міхась павярнуўся і паклікаў хлопца, які сядзеў ускрай плыта і боўтаў босымі нагамі ў вадзе.

— Юрын! Ходзь сюды, Юрын!..

Хлопец узняўся і падышоў.

— Валька слухае...

— Лепш слухай, што я табе кажу,— змрочна параіў Міхась.— У ноч з Апанасам станеш на стырно. Кухмарыць Стэфа будзе. Пакажы ёй, дзе ў нас харч і ўсё такое...

— О, гэта дзела. А я быў спалохаўся, як чoвен у плыт сadanуў: патопіць, думаю, нас дзеўка.

— Памаўчы. І рабі тое, што табе сказана!

— Ёсць, брыгадзір!..

Брыгадзір? Трэба ж было мне раней здагадацца!

Зняўшы туфлі, я ішла ўслед за хлопцам. Міхась — брыгадзір. Чаму ён схлусіў і нічога не сказаў адразу? А галоўнае нават і не ў гэтым. Я прыняла яго хлусню, не абурылася, нават не аспрэчвала тое, што ён загадаў Юрыну. Цяжка было Міхасю папытаць мяне, ці згодна я варыць нейкі абед?.. А як яго ўвогуле можна згатаваць тут, насярод ракі?..

Юрын фарсіста сігаў з бервяна на бервяно, і я не адставала ад яго. Вось гэтак, па плытах, хадзіла я, каб скараціць дарогу да бацькі, калі ён працаваў на руме. Такса-

ма буркатліва, як і ў той, далёкі цяпер час, вада шумна клекатала ў тоўстых павойніках. У параўнанні з тымі хлісткімі плытамі, што стаялі на рачулцы ў Баравічах з вясны да самай восені, гэты плыт, трывала і надзейна звязаны, здаваўся мне добрай дарогаю.

Мы хутка дабраліся да сярэдзіны плыта, дзе стаяў саламяны будан. Ля будана ляжаў ліст старой бляхі; бляха была заслана цэглай, і на ёй раскладалі вогнішча. У будане нехта смачна, з прысвістам, хроп.

— Кухня,— з нянавісцю сказаў Юрын і сашмаргнуў брудную кляёнку з вузкай драўлянай скрыні; скрыня ледзь не абярнулася; загрукатаў посуд.

— Цішэй, мы чалавека пабудзім,— папрасіла я.

— Апанаса? З гарматы можна лупіць, калі ён высвіствае. У Апанаса самае халоднае прозвішча — Мароз. А мяне клічуць Валька.

— Валянцін...

— Гэта па дакументах. А так — Валька. Прасцей. Ну, цяпер абмяркуем вячэру, чорт бы ёй латкі падбіў,— ён тыцнуў пяткаю кацялок, што стаяў на згаслым вогнішчы.

— Няўжо гэтак цяжка зварыць?

— Прыгарае ў мяне каша звычайна. А яны — смяюцца. А самі, нябось, не вараць...

— Я паспрабую...

— Адстаўка мне, слава алаху. Значыцца, што мы маем? Тут бульба. Тут макароны і крупы. Хлеб і соль у другім будане. Міскі — у скрыні. Фю-ююю... Гэта ж, чорт, я памыць іх забыўся...

— Нічога, я памыю. А тут іх не вельмі многа. А што варыць на абед?

— Тут у нас усё разам: і абед і вячэра. З раніцы было загадана юшку згатаваць...

— А рыба?

— Яна — там,— Валька паказаў рукою на ваду.

— І мне трэба яе злавіць?

— Гэта ўжо мой клопат! — ён усунуў руку ў будан і выцягнуў самаробны спінінг. Шчыра засмяяўся. Шэрыя вочы Валькі глядзелі на мяне цікаўліва, але вельмі прастадушна і добразычліва.— Па вадзе плыць, ды без рыбы есці? Гэтага мы не прызнаём. Зараз мабілізуем і пусцім машыну на ўвесь ход. І вогнішча я распалю табе. Толькі пазней...

— Скажы, Друйск далёка?

— Як пойдзем, у залежнасці. Калі не прыставаць — дзён, можа, дзесятак набярэцца...

— Дзесятак, кажаш?

— Гэта яшчэ добра, калі ладам усё пойдзе. А калі прыставаць ці яшчэ якая трасца, можна і месяц загараць. Раскладу тут няма нашай воднай чыгунцы... Ну, я пайшоў за шчупакамі...

— Чакаю добрага ўлову!

Я павесіла плашч на жардзіну, што вытыркалася з-пад саламянага даху. Шляхі назад былі адрэзаны. Мне здавалася, калі я жартам сказала Міхасю пра камандзіроўку, што плыты будуць у Друйску праз пару дзён. Адтуль па чыгунцы можна хутка вярнуцца ў Прыдзвінск. А тут гэткі час! Ды чаго гадаць! Калі Міхась працуе ў Віцебску, мне прыйдзецца кінуць завод і перабірацца туды ўсё роўна...

Я прыбрала скрыню з посудам і харчам, памыла закарэлыя міскі і села адпачыць на кароткі сасновы брус: дрэва, добра ўгрэтае сонцам, пахла жывіцаю. Міхась сядзеў па-ранейшаму ў канцы плыта, дзе завіхаліся ля доўгага вясла два плытагоны. Чаму ён сеў там і не ідзе сюды? Пакрыўдзіўся? У мяне, прынамсі, ёсць больш падстаў для крыўды. Саромеецца? За ім гэтага не заўважалася. А можа, ён баіцца размовы?.. Мабыць, яно гэтак і ёсць. Размова гэтая будзе. Мы не можам, не маем права без яе абысціся...

Храп у будане сціх. Спачатку адтуль вытыркнуліся цёмныя і шурпатыя, як кара яліны, пяткі, потым ракам выпаў чырванатвары мужчына ў клятчастай, без гузікаў, кашулі; у яго чорных ускудлачаных валасах тырчала змятая салома.

— У-уууу-хым! Хым!..

Ён чмыхнуў і, паціраючы рукою зашчаціненыя шчокі, навёў на мяне ваўкаватыя чорныя вочы. Я збянтэжылася, але вытрымала яго цяжкі позірк, не адвярнулася.

— Урэшце вылез з бярлогі,— сказаў Валька.— Пакуль вы, Апанасе, носам пасвісталі, нам кашавара Прыдзвінск прыслаў.

— Мінулі яго?

— Яшчэ летась...

— Хым! — Мароз зноў чмыхнуў, выцягнуў з будана саламяны брыль, насунуў яго на галаву і паклыпаў у канец плытоў. Там адразу ж зарагаталі.

— Дзіўны ён, гэты ваш Апанас.

— Ад сну,— з гатоўнасцю растлумачыў Валька.— Увечары ж як лёг — не вылазіў з будана дагэтуль. Гуронак яго высмейвае. Гэта той, што ля вясла, злева. Ля брыгадзіра Патапчык стаіць... Сюды ідуць. Зараз мне на арэхі будзе...

Валька ўзмахнуў рукамі, закінуў блешню ў ваду і пайшоў у канец плыта, наматваючы шпульку; шпулька ціха патрэньквала.

Міхась падышоў і сеў побач са мною. Позірк у яго быў далёкі, скіраваны на вербалозы берагавых узвалаў. І ўсмешка чужая, зусім незнаёмая.

— Хутка ідзём,— адзначыў ён.— Праўда?

— А мне здаецца, што вельмі марудна.

— Ты прыглядзіся. Далонь пастаў і вока адно прыплюшчы. Вось гэтак... Ну, што скажаш?

— Так... Ой-ей-ей! Мы ж імчым, а не плывём!

Але зусім не гэта было неверагоднае, здзіўлялі зусім не вербалозы, што хутка адплывалі назад. Я сядзела побач з чалавекам, якога — быў жа час! — праклінала, ненавідзела і не хацела бачыць. А цяпер я не абуралася, не пратэставала, а размаўляла, смяялася і зусім забылася на сваю нянавісць. Так, благое выветрылася з памяці хутчэй. Але чаму? Відаць, добрага было больш, і яно пераважыла тое, што было пазней, закрэсліла яго.

Міхась зірнуў на мяне, нашы позіркі стрэліся. Нешта змянілася ў абліччы Міхася, вельмі важнае і адметнае. Але што? Што?.. Заўважыла зусім нечакана: губы. Тоўстая ніжняя губа, што раней адвісала ўніз, быццам ад прывешанага грузу, цяпер нібыта патанела, падціснулася, як бы схуднела, і ад таго на ўсё яго аблічча паклаўся цень жорсткасці. Гэтая змена насцярожыла.

— Ты чаго гэтак глядзіш на мяне? — ён запытаў першы.

— Прыглядаюся. Даўно ж не бачыліся...

— Я прыходзіў. Цябе не было. Тады паслаў ліст.

— Навошта ты прыходзіў? — я разумела сваё права запытаць гэта. Разумела ўсю недарэчнасць сваіх слоў і ўсё ж сказала іх.

— Ведаў, папытаеш. Але я збіраўся гаварыць з табою пра сваё жыццё...

— Ты ўвесь гэты час жыў у Віцебску?

— Так. Амаль што...

У яго вачах, скіраваных на правы бераг — абрывісты,

парослы шыпшынай,— быў неспакой, і на ўсім твары ляжаў адбітак душэўнай развагі.

— Многа ягад, відаць, тут...

— Якіх ягад? — мяне здзівіла тое, што ён запытаў.

— Шыпшыны. Забач, як густа бераг парос.

— Так... Пясок. Яна ў гэтых месцах расце.

— А пад Віцебскам яе няма. Каменне там...

— Не была на Дзвіне пад Віцебскам. Не ведаю.

— А мне даўся ў знакі той Віцебск,— са смяшком адзначыў Міхась, і я зразумела, што ён увесь час думае над маім пытаннем.— У добрыя знакі. Думаў, неблагія грошы зараблю ў Віцебску, а мне дулю сунулі. Але ў мяне цяпер вопыт ёсць. Не абдурыш, не! — ён некаму пагразіў кулаком.— Цяпер я сам ім кнот засмалю...

Я засмяялася:

— Ты ўсё пра тое ж... Пра грошы думаеш!

— Не, Стэфа, не толькі. Не толькі. Пра цябе я думаў шмат. Усё чакаў: напішаш.

— Чакаў?

— Ага. Думаў: пісаць пачне, шукаць. А ты — ані гугу. І гэта не давала мне спакойна жыць. Я ведаў: расце дачка. І пра яе — ніхто ні слова. Быццам адрэзалі мяне і кінулі. Адзін дружбак у мяне быў. Яго жонка яму двойчы аліментны ліст прысылала, і па ўсіх інстанцыях — пісьмы садзіць. І ў партком. І ў мясцком. І нават у ваенкамат настрачыла. Сказаў яму аднойчы, што мая, маўляў, нікуды не піша і не шукае. Не паверыў нават. А потым, як выпілі, крычаў: ненавіджу, калі баба адразу ў партком лезе. Анучка! Ты за сябе пастой, абарані, але інакш — гонарам, злосцю...

— Пілі... Выпілі. Нешта дужа знаёмае мне!..

— Не... Гэта я цяпер адсек. Зрэдку калі з хлопцамі. Аднаму лёгка кінуць, сказаў — і ўсё. Крышка. А як сябры — што паробіш? Скажуць: э-ээ, ён жа бабы баіцца. Трубою пойдзеш!..

— Значыцца, не сябры гэта.

— Чаму? Хлопцы былі слаўныя. Але ж і гадаў бачыў! У рукавіцах яго возьмеш — вyслізне.

— У цябе гэтак: ты яго ведаеш? Ну, што ты! Сябар! Мы з ім разам пілі.

— Залатая твая галава, Стэфка! Усё разумееш.

— Не, не ўсё. Не разумею, у прыватнасці, сяброўства, што па гарэлцы трымаецца.

— Ты не заўважаеш?

— А што я павінна заўважаць? — мяне па-сапраўднаму здзівіла шчырасць і непадробленасць яго пытання.

— Мы пачынаем сварыцца.

— А ты ўсё хочаш мірна і ціха?

— Гэткі час! Мірнае суіснаванне. Усе праблемы можна і трэба вырашаць за круглым сталом.

— А тут яго якраз і няма!

— Точна. Няма!..

Мы абое засмяяліся — першы раз за час усяе гаворкі. Сапраўды, ці ж не варты смеху былі мае павучанні, маё жаданне быць строгай і сур'ёзнай! Міхась побач са мною! Ён шукаў мяне, знайшоў і прыехаў. І гэта — мая перамога! І калі ён нічога не гаворыць, не прызнае тое, што было, дык, мабыць, з тае прычыны, што пагаджаецца моўчкі, шкадуючы сваё самалюбства. А мне трэба стаяць вышэй гэтага!..

— Скажы, Міхась, а як ты трапіў у плытагоны? Ты што, кінуў сваю электрыку?

— Донька падбіў. Летась ён у Рыгу хадзіў. Усё пахваляўся: казка, гаворыць, і грошай — мех. Ну, думаю, брэша. Ажно сам бачу: сапраўды — казка...

— Як у казцы жыць хочаш?

— Не роўная праца? Калі хочаш, дык тут і рызыка немалая. Донькаў плыт летась на каменне ўспароўся — двух на дно адразу. А ты — гаворыш. У гэтай справе адно: поўныя грудзі крыжоў альбо голаў далоў — плытагоны ўжо гэтак. Мая, думаю, у крыжах будзе! Я сваё вазьму!..

Міхасёў твар паружавеў; вочы глядзелі смела, дзёрзка, і ад усяе яго постаці бруілася ўдалая сіла. Так, ён і вырас, і пасталеў. Палахлівая весялосць непакоіла кроў, прымушала смяяцца без прычыны над кожным, нават няўдалым жартам Міхася. Адзінота знікла. А можа, яе ўвогуле ніколі не існавала?

— Ты чаго гэтак глядзіш на мяне? — зноў падзівіўся Міхась.— Гэтак вось мяне твая гаспадыня абглядала. Ну, баба! Ой-ёй! Агонь!..

— Ганна Якаўлеўна? Яна вельмі шчыры чалавек.

— А мне чамусьці адразу цюкнула: хі-ітрая бестыя,— Міхась паскроб пяцярнёй чупрыну.— І адсюль зазірне, і адтуль зойдзе: хто? Гэтая ўжо дапытвалася і глядзела — думаў, са скуры вылузацца. Гэтак ёй ведаць хацелася. Быццам недзе яе страчаў...

— Яна працавала падносчыцай у нас. Цяпер на пенсіі...

— Хітрая бестыя...

— І табе не сорамна! Зусім не ведаеш чалавека і адразу выносіш свой прысуд. З лёту ўсё. Адразу!

— Гэта ты правільна.

— Ты вельмі лёгка пачаў са мною згаджацца!

Міхась хмыкнуў і падціснуў губы, быццам праглынуў смяшок.

— Я часта думаў... Пра нас думаў... Пра сябе... І ўвогуле. Крыўдна было. Чаму мы не маглі размаўляць проста? Вось як цяпер?.. А ўсё таму, што кожнаму сябе над другім паставіць хацелася...

— Мне, прынамсі, ніколі гэтага не хацелася.

— А мне — вельмі. І аднойчы я зразумеў — у Віцебску было гэта,— што ўсё гэта муць, што тагачасная мэта майго жыцця — збудаваць домік і сядзець у ім — яшчэ больш гусцейшая муць. Гэта здарылася летась. Тады я сеў і напісаў табе ліст.

— Летась? Я нічога не атрымлівала!

— Бясспрэчна. Бо прыехаў Донька, і мы выгнулі такую свечку — крый ты божа. Во гэта быў бэнц. Два дні пілі.

— А казаў, што не п'еш!

— Не, Стэфа, не тое зусім. Донька атруціў мне сэрца. Я праплыў з імі толькі адзін прагон, адзін прагон да камбіната, і зразумеў, што сапраўднае жыццё — там. Там мне месца! Сонца. Воля. Вецер. І нешта ўліваецца ў грудзі — плакаць хочацца. А на моры калі!.. Во дзе прастора!..

— Не была я на моры. Але думаю калі-небудзь пабачыць.

— У цябе быў сёлета адпачынак?

— Так. Я ездзіла на сесію...

У Міхасёвых пальцах, што былі сашчэплены на каленях, тлела папяроса. Блеклая стужка дыму паціху, нібыта хто цягнуў яе, плыла не ўверх, а ўніз да вады і асядала на бэльці. Міхась зрэдку нахіляўся, стужка плаўна, як гумовая, выгіналася, шырэла, і тады тоўстыя жылы на руках таксама рухаліся, як вяроўкі.

— А ўяві сабе ноч,— ён усміхнуўся і паклаў мне руку на плячо.— Дзвіна спакойная, спакойная — спіць Дзвіна. Неба няма. Адны зорачкі. А ты плывеш... Агеньчык на плыце гарыць... Дзяўчаты на беразе спяваюць. Гармонік недзе там... Плывеш сабе, плывеш... Рыбіна дзе-небудзь ля берагу — боўць, боўць. І туман над вадою белы-белы. А ранкам — сонца!..

Чаму мне гэтак знаёма тое, аб чым ён гаворыць? Рэальнасць і ўспаміны сплавіліся ў адно. Аднойчы я стаяла на беразе Дзвіны. Плыў човен... І песня лунала над ракою, і я марыла... Так, пра гэта марыла. Плыць па Дзвіне, каб вакол — прастора і сонца. Многа сонца... Дык чаму ж я спрабую ашукаць сябе, чаму спрабую адкінуць прэч сваю мару, адкінуць тое, што даўно ўзгадавана ў сэрцы?..

— Ты есці хочаш?

— Нават не ведаю...— яго пытанне і здзівіла і ўзрадавала мяне.

— Значыцца, хочаш. І хлопцы мае ад самага рання нічога не елі. Бярыся варыць... Валька! Што там у цябе ёсць?..

Юрын неахвотна наблізіўся да нас.

— Не шанцуе, брыгадзір, нешта. І якога тут чорта зловіш, калі Патапчык учора лепшую блешню пасадзіў. А з гэтае смаркачкі што? Кідаў, кідаў — пуста!..

— Рукі ў цябе, каб сказаць, не раўнуючы... А ты на блешню вернеш,— Міхась крытычна абгледзеў вудзільна.— І не мог жа добрае набыць. Металёвае ці з бамбуку...

— А навошта, брыгадзір? Каб цягацца з імі, калі плыты прыгонім. А тут проста: дручок гэты — у ваду, шпульку — у кішэню. Гайсай улегцы!

— Не любіш ты, гляджу, паклажу цягаць.

— Калі паклажа, брыгадзір, добрая і ладная — можна. Я б таксама пацёг... З ахвотаю...

У яго словах прагучала прыхаваная кпіна; Міхась адчуў яе, спахмурнеў і адышоў на край плыта. Ён крыху пастаяў гэтак, нечага выглядаючы ля берагу; плечы яго масляніста блішчалі. Потым шырокім узмахам рукі ён закінуў блешню пад самы бераг, крыху счакаў і пачаў круціць шпульку.

— Цягне,— даўкім шэптам прамовіў Юрын.— Сапраўды цягне! Во, чорт! Валачэ ж некага!..

Валька куляю падляцеў да Міхася.

— Цягнеш, брыгадзір?

— Не яловыя калі рукі...

— Шчаслівыя яны ў цябе, брыгадзір... Не пускай, не пускай пад плыт! Пад бэльку пойдзе, і капут тады!..

— Ведаем! Не пер-ршы раз!

Моцным рыўком Міхась выкінуў на плыт рыбіну, крута павярнуўся і схапіў яе. Рыбіна зарыпела ў яго руках.

— С-стой! Не дужа-т у мяне! Аг-га! Во, адразу прысмірнеў. Судак, каб ты ведаў!..

— Праўда, брыгадзір. Судак! А і здаровы! Кілаграмы на два.

— У два не ўціснеш!

— І можа...

— Не можа, а — точна! Рыбіны злавіць ён не можа! Вучыся! Р-раз і — квас!..— І дадаў асабіста мне: — Маеш работку, Стэфа. Чысць. А Валька агонь распаліць. У юшку цыбулі толькі не шкадуй, кладзі паболей...

Твар Міхася сцягнула ўрачыстая і нейкая злосная ўсмешка: яго губы быццам патанелі. Нахіліўшыся, ён пачаў змываць кроў з рук. Па вадзе расплывалася шырокая ржавая пляма.

Я чысціла судака. Ярка-чырвоная кроў залівала мне рукі. Кончыкі пальцаў крыху дрыжалі.

Чаму не Валька злавіў судака? Чаму? Мабыць, проста не пашанцавала яму. І я вельмі моцна шкадавала аб гэтым...

## 14

Юшка згатавалася хутка. Міхась падышоў, сам выцягнуў са скрыні міску, паставіў яе на брус і сеў.

— Налівай!

— А чаму не ўсе разам?

— Спачатку мы паямо...

— Нядобра гэта. Ты будзеш есці, а яны — стаяць?

— Зноў мудрошчы! — ён спадылба зыркнуў на мяне, бразнуў місаю па брусе, але порстка ўскочыў і гаркнуў з усяе моцы: — Вячэ-эра-аа!

Яго голас шырока разлягаўся па-над вадою, а з будана ўжо вытыркнуліся закарэлыя пяткі Апанаса; Мароз вылез, сеў ля бруса і пацягнуў шырокімі ноздрамі пах, што ішоў ад чыгуна.

— Сма-ачна!..

— Шырэй рот разявай,— пакпіў Валька.— Судак туды сам ускоча.

— Няхай. Табе, няўмеку, падмога. Судак жа ўсё роўна не твой.

— Быў бы мой, каб не тваё храпенне,— абурыўся Валька.— Ад яго рыба ракетаю ад плытоў смаліць.

— А да брыгадзіра судачок другі кірунак узяў. Можа, ты скажаш, чаму ж ён гэтак надумаў?

— Мабыць, ад храпу ачмурэў,— нечакана падтрымаў Вальку Гуронак.

— Адчапіцеся ад чалавека, смехуны,— папрасіў Патапчык.

Я ўпершыню пачула голас Патапчыка — мяккі, летуценны. Нешта падобнае з голасу было і ў яго вачах — вялізных, амаль валошкавых. Ён быў аднаго росту з Гуронкам, але шырэй за яго ў плячах.

Я пачала разліваць юшку.

— Галаву пакіньце,— папрасіў Патапчык.— Гэта — брыгадзіру.

— Ага,— пацвердзіў Валька.— Ён галаву ў рыбіне толькі і прызнае.

Мая рука з лыжкаю міжвольна затрымалася над чыгуном. Павага плытнікаў да Міхася прымусіла мяне пачырванець: яна адкрыла мне нешта новае ў ім, нязнанае раней.

Патапчык еў асцярожна, не спяшаючыся, падстаўляючы акраец хлеба пад лыжку, калі нёс яе да рота. Валька сёрбаў нахапкам, увесь час хваліў юшку, жартаваў, і яго ружовы, аблуплены, як і ў Міхася, нос адразу пакрыўся дробненькімі кропелькамі поту. Гуронак сядзеў крыху бокам, схіліўшы галаву над міскаю, і я бачыла толькі, як ходзяць на яго худых шчаках вялізныя, чотка акрэсленыя жаўлакі.

Валька апаражніў міску хутчэй за ўсіх. Узняўся.

— Пайду брыгадзіра падмяню. Павяслую. Ноччу, Апанасе, мы з вамі на вясле драмаць будзем. Наядайся. І паспі яшчэ.

— Ты языком не мянці, а брыгадзіра пакліч,— нязлосна параіў Мароз. Ён аблізнуў лыжку і зноў схіліўся над міскаю.

Міхась не спяшаўся. Ён стаяў з Валькам, пра нешта гаварыў з ім і падышоў да вогнішча толькі тады, калі я засталася адна. Уважліва абгледзеў міску, нават панюхаў юшку і ўзяў лыжку. Мы елі моўчкі.

— Хвацкая юшка атрымалася,— урэшце сказаў ён.— Адкрой яшчэ хлеба. Ага... Дзякую. А Валька зусім да кухмарства нyздатны...

— А мне ён падабаецца, добры хлопец.

— І ты, аднак, заўважыла. А я ўсё думаю, чаго па ім дзеўкі сохнуць. Умее ён да іх...

Яго прытоеная ўсмешка пакрыўдзіла. Я адвярнулася. Плыты паволі сунуліся ля правага берагу. Над жоўтымі, амаль адвеснымі абрывамі нейкім цудам трымаліся пахілыя дрэвы, і іх тоўстае рудое карэнне вісела ў паветры.

У чорнай люстраной вадзе адбіваліся і мядзяныя ад сонца сосны, і жоўты абрывісты бераг, і рудое карэнне, і зялёная стужка асакі ля берагавой касы; вада ледзь улоўна вагалася, і мне здавалася, што ўсё гэта расце на дне ракі.

— Як рукі...

— Чые рукі? — запытаў Міхась.

— Карэнне, кажу, падобна на рукі. Нібы чалавечыя. І здаецца, што варушацца ў вадзе...

— Кінь ты глупства сваё,— нязлосна параіў Міхась, абсмоктваючы галаву судака.— Рукі толькі ў чалавека. Рыбе без іх цяжка, відаць... Нічога не возьмеш. А ротам многа не зловіш... І абараніцца няма як, хвастом толькі калі... У рыбіне галаву я здаўна ўпадабаў. Галаву возьмеш — нешта ёсць, адчуваеш... А хвост — ён і ёсць хвост толькі... Засумавала, бачу. А чаго?

— Гэта табе здаецца.

Над вузкай стужкай асакі з тужлівым крыкам праносіліся кнігаўкі; іх крык абудзіў трывогу. Тое новае, нязнанае раней, што адкрыла я ў Міхасю зусім нядаўна, калі плытнікі з павагай казалі пра свайго брыгадзіра, цяпер пачынала палохаць мяне. Чаму ўсё гэтак лёгка ў яго жыцці? Кінуў адну працу — знайшоў лепшую, адшукаў нешта такое, чым цяпер так шчыра захапляецца. Нават у каханні дамогся свайго. Я ж загадала сабе: усё скончана, усё адкінута, не дарую ніколі. І даравала. І, аказваецца, далёка не ўсё скончана, і я еду, і хвалююся, і кінула ўсё, і еду ў незнаёмы мне горад. Навошта?..

Старое пачуцце нянавісці, што аднойчы прыйшло да мяне ў хаце Раманюка, агарнула раптоўна і напалохала больш, чым тое пытанне. Каб можна было не задаваць яго, закрэсліць усё, што звязана з ім, адкінуць прэч, сцерці нават успаміны, я з радасцю і без ваганняў зрабіла б гэта. Але як? Як адкінуць іх прэч? Як?..

— Ведаеш, што я заўважыў? — запытаў ён і кінуў костку ў ваду.— Наўрад ці ведаеш...— Міхась абцёр рукі і выцягнуў з кішэні змяты пачак папярос.

Сіні дымок поўз над бярвеннямі да краю плыта, спыніўся, быццам абмацваў ваду; ад вогнішча бруілася духмянае цяпло; ля берагоў, над вузкай стужкай асакі, усплыў белы туман, быццам разрэзаўшы яе напалам. На рацэ хутка цямнела. Па-ранейшаму на правым беразе — высокім і глiністым — стаялі сосны, але цяпер, калі зайшло сонца, яны незвычайна густа счарнелі, і вершаліны іх былі тонкія і плоскія.

— Прыгожая ты — вось што заўважыў,— сказаў ён і лёг спіною на брус. Пацягнуўся.— З чаго салдат круглячок? Бо паеў — і на бачок. Так...— ён зноў выгнаў струменьчыкам дым праз губы, сабраныя трубкаю.— Не ў сэнсе, скажам, што вочы, і нос, і ўсё, што трэба. А — натура. Упартая. Падабаецца мне натура...

— На апошнім часе я пачала сумнявацца ў гэтым.

Ён засмяяўся.

— Без сумнення не можа быць веры. Каб у нешта паверыць, трэба спачатку папытаць: а ці гэтак яно ёсць? А ў каханні тое ж самае, на маю думку. Тут словам не так што і схопіш. Цяжка словам,— ён адкінуў недакурак і салодка пацягнуўся.— А большасць — прыдумана ўсё, я табе скажу па шчырасці...

— Пра што прыдумана?

— Ды пра каханне. Ну, кніжкі я не бяру — у іх кахання поўна. А жыццё паглядзі! Скажам, нашы Баравічы — самы блізкі прыклад. Дзе яно там, вечнае каханне? Пакажы мне там Джульету. Ха-ха! А нашу школу прыгадай, хто там каго кахаў? Забаўкі. Хаця, праўда, Лорка Тышукевіч і Анатоль. Там сапраўды было нешта. А калі паглядзець бліжэй?.. Бацька — дырэктар саўгаса. Так што не з дзюрачкай галава ў Анатоля!

— Як кепска ты думаеш пра людзей! Яны ж кінулі ўсё і паехалі ў Казахстан. Няўжо ты не памятаеш?

— Гэта калі бацька іх з хаты турнуў.

— Плёткі! Сам жа ведаеш. Яны дамовіліся і паехалі. І мяне нават упрошвалі...

— Няхай сабе. А як цяпер жывуць?

— Не ведаю.

— У тым і соль. Тое, чаго няма, заўжды смачненькае...

— Злосны ты чалавек.

— Люблю праўду — у вочы. А тыя, што пра каханне плятуць, праўды баяцца. Ім усё гэта — аля-ля ды ля-ля-ля.

— Значыцца, і я таксама «ля-ля», як ты кажаш?

— Ну, павяла. Мы ж не канкрэтна гаворым. Тэарэтычна. А калі праўды хочаш дазнацца — магу адказаць: таму і кахаеш ты, што нагаравалася. Яно кожнаму па-рознаму: аднаму — праз гора, другому — праз шчасце. Да цябе добрае праз гора ідзе...

— Ты вельмі змяніўся, Міхась. І разважаеш неяк...

— Правільна разважаю. І не змяніўся, а паразумнеў. За сваё шчасце чалавеку трэба змагацца і рукамі і нагамі.

Спіхнуць цябе, а ты — паўзі. Адштурхнуць, а ты — паўзі!..

— Не, Міхаська, не папаўзу. Да гэтага ты мяне не прывучыш. Чалавек не павінен паўзці. Ісці — яго абавязак. Смела ісці. І смела глядзець людзям у вочы...

— Ты — упартая. І я казаў табе — гэта мне падабаецца. Прыкмячаю я, між іншым, у тваёй прамове знаёмыя слоўцы. Віценькі Журко слоўцы!

— Віктара ты не чапай!

— Зараз ты паўторыш яго тэзісы: калектыў, сябры, завод, шчасце.

— А яно гэтак і ёсць. Там я была шчаслівая. І гэта праўда, Міхась, на заводзе я была шчаслівая...

Далеч ракі хавалася ў цемры і белых хвалях туману; ён выплываў аднекуль з-за паваротка ракі, і змрок сунуўся ўслед за ім, быццам падганяючы попельную смугу. Соснаў на беразе ўжо не было, высокія схілы густа параслі арэшнікам і вольхай. Думкі пра завод не знікалі, і я адчула, што ў душы адбыліся нейкія змены, што цяпер мне лягчэй пярэчыць Міхасю. Яго іранічныя словы не мелі ўжо свае ранейшае вастрыні: апроч іроніі ў іх было нешта яшчэ, і мне здавалася, што каб пасядзець крыху спакойна, не кратаючыся, дык можна б было раскрыць сэнс гэтага іншага — няўлоўнага і невядомага.

— Ха! — выгукнуў Міхась.— Яна — шчаслівая! А што ты ў жыцці бачыла? Баравічы і Прыдзвінск? І ўсё. А свет — ён вялікі! Мільёны гарадоў. І ў іх людзі. Сотні мільёнаў, і кожны думае, што ён, толькі ён — шчаслівы. Ты вось кажаш: цэх, завод... А едзеш? Едзеш! Значыцца, сэрца загадала. А тое, што ў сэрцы,— галоўнае. Скажы, не? Толькі праўду! Чыстую праўду пакладзі. Без рознага там, ведаеш... Што думаеш — скажы!..

— Ненавіджу!

— Смяешся!

Ён прыўзняўся, паставіў локаць на брус і гэтак ляжаў, пазіраючы на мяне; вочы ў яго блішчалі, у руцэ дымілася папяроса.

— Мяне ненавідзіш? — перапытаў ён.

— Цябе. Але не ўсяго. Благое ў табе ненавіджу. Думкі гэтыя ідыёцкія ненавіджу. Дзе ты іх паназбіраў?

— О-ого!

— Ты ж хацеў праўды. І я кажу яе табе шчыра. Калі ты далёка — хачу, каб ты быў побач. Крыху пабуду з табою, паслухаю, што ты гаворыш,— не разумею... Быццам

падменьваюць цябе. У думках — адзін чалавек жыве. Гаворыць са мною — другі...

— Гэта не так і важна.

— Важна. Вельмі важна, Міхаська. Калі чалавек імкнецца да трывалага шчасця. Шчасця надоўга, на ўсё жыццё...

— Фю-юююю,— прысвіснуў ён.— На ўсё жыццё! Ну і ну! Ды за ўсё жыццё чорт ведае што перавернецца. Добра табе зараз — радуйся, жыві. А заўтра, можа, на нас атам кінуць. А што тады будзе? Пыл. Прыйшоў дзень — твой ён. Працуй, жыві!

— Гэта я ўжо ад цябе чула.

— А калі чула, рабі як след.

— Я не магу так, Міхаська. Не магу я жыць і ўвесь час думаць пра твой атам. І я веру, па-сапраўднаму веру, глыбока — ніхто жыццё на зямлі не вынішчыць. Жыццё будзе ісці наперад. Яго нельга спыніць. Яно — вечнае.

— Але ж мы з табою не вечныя. Нам дадзена адно толькі жыццё. Адно, вось як гэты палец...

— Так, Міхаська, адно. І менавіта таму я не адступлю ад цябе, з тым благім, што ёсць у тваім сэрцы, у тваіх думках, я буду змагацца. Ты нават не ўяўляеш сабе, як!..

— Змагайся, змагайся,— лагодна дазволіў ён.— Паглядзім, мо што і адкуецца. Трэба класціся. Ноч...

— Я памыю посуд. І прыбяру тут.

— Няхай ён калее, той посуд. Пры сонцы заўтра парадкаваць будзеш. Чаго ноччу поркацца?..

— Нядобра. Трэба прыбраць...

— З плыта толькі не зваліся.

— Табе клопат. Была Стэфа — няма Стэфы! Свабодны чалавек!..

— Кажу — асцярожней. Смелая душа...

За грубаватай клапатлівасцю Міхась схаваў сваю згоду, прызнаў маё права гаспадарыць. Мяне ўзрадавала гэтая маленькая перамога. Так, я адна жанчына тут, і мне трэба мець клопат не толькі пра аднаго Міхася. Ён брыгадзір. Ён мой муж. Я павінна памагаць яму ва ўсім. Але апроч яго ёсць на плыце людзі, і я не маю права забываць пра іх.

Я парабіла ўсё хутка: вымыла і склала посуд, заслала скрыню кляёнкай. Міхась двойчы клікаў мяне з будана, а я ўсё не ішла да яго і стаяла, прыхіліўшыся плячом да саламянага даху. Завалочаныя туманам берагі як бы аддаліліся і зменшыліся; белая смуга ўвачавідкі гусцела

ля берагоў. Канец плыта зусім схаваўся ў цемры, і адтуль даляцеў голас Апанаса. Ён спяваў. Спавітая тугою песня нібыта вынырнула з туману і павісла над ім. На санлівай вадзе ляжалі доўгія чырвоныя цені ад вогнішча, якое ўжо зусім згасала, і здавалася, што вада асветлена знізу, з глыбіні, быццам гарыць і трапечацца агонь за тоўстым шклом.

— Стэфа! — паклікаў Міхась зноў і, высунуўшы галаву з будана, тузануў мяне за спадніцу.— Чуеш ты ці не?

Я сагнулася і нырнула пад саламяны дах, на рукі Міхася. Песня Мароза нібыта зглухла, адкінутая бунтам крыві, і я, адразу забыўшыся на ўсё, правалілася ў густы і трывожны змрок, дзе не трэба думаць і разважаць. Міхась зноў быў самы родны і блізкі чалавек, ад якога не трэба цяпер ні разумных думак пра жыццё, ні парад, ні апраўданняў...

Стомленая яго прагнай, незнаёмай і грубай пяшчотнасцю, я ляжала на спіне і адчувала, як пальцы Міхася кратаюць мае валасы і лёгка прыціскаюць вушы; дотык іх быў прыемны. Песня зноў гучала ў ночы, але спяваў цяпер Апанас разам з Валькам, і ад таго ў песні было адценне весялосці. Унізе, пад намі, між бэлек плыта плёхкала вада.

— Тут глыбока, дзе мы плывём? — папытала я.

— А чорт яго ведае.

— І рыба ёсць?

— Вядома.

— Мы плывём, а можа, са дна на нас самы глядзяць. Ім жа страшна, калі плыт насунецца.

— Ты пра іх не думай. Спі. Плыт у нас надзейны. Спакойна спі.

— Не хачу я спаць. Зірні, вунь неба якое. І зоркі мігцяць. Ты бачыў, як спадарожнік лётае?.. А я бачыла. Скажы, дзе ты быў, калі мы першага запусцілі? Аб чым думаў?

— Не памятаю цяпер.

— А я ўсё памятаю. Да самых маленькіх драбніц. Чуеш? Добра Валька спявае. Праўда?

— Добра.

— А ў яго прозвішча дзіўнае. Праўда? Я калі посуд мыла, нейкая птушка так жаласліва крычала на беразе. Пачакае, пачакае і зноў: «цвыр, цвыр». Ты ведаеш гэтую птушку?

— А я што, бачыў яе?

— Ды і я не бачыла. Слухай, Міхаська, а чаму ўвеча-

ры туман над ракой сіні быў, а потым, і хутка вельмі, белы?

— У цябе ён ружовы!

— Ты чаго пасміхаешся? Я ж чую!

— І-іэх! Дзіва ты дзіва! — ён прыгарнуў мяне да сябе, і я сцішылася пад яго моцнымі, цяжкімі рукамі.— У галаве тваёй сапраўдны туман, і не абы-які! І пра самоў думае, і пра плотачак. А чаго аб сабе не падумаеш? — ён крыху памаўчаў, пазяхнуў.— Можа, ад таго і добра з табою. Нейкі адразу спакой на душы... Ты нейкая... Ведаеш...

— Якая, якая? Скажы!

— Быццам з другога свету. Але... Можа, хопіць размоў? Спаць хочацца. А заўтра я табе туман пакажу. Ружовы бывае ён, калі на ранку сонца, а ён — нізка над вадою ідзе. І густы... Спі...

— Што ты мне ўсё — спі ды спі! Не хачу я спаць. Я гаварыць з табою хачу...

— Давай будзем бяседаваць. Пахваліся хоць, як жыла без мяне?

— Жыла. Марынку гадавала.

— І нікому не ўсміхнулася?

— Міхась, Міхась... Няўжо ў цябе сапраўды няма сэрца, а ёсць толькі непавага да людзей...

— Хо! Няма! Ты паслухай,— ён схапіў маю руку і прыціснуў да сваіх грудзей.— Бубен. Туха-туха!.. Як гэта некаторыя скардзяцца: ах, сэрца. Памятаю, твая гаспадыня, як прыходзіў, таксама вохкала: сэрца!.. А ў самой морда — усемярых не абліжаш!

— Не кажы аб ёй гэтак! Яна — цудоўны чалавек!

— А на мяне воўкам глядзела.

— Мабыць, заслужыў...

— Ды, зрэшты, няхай яна, ведаеш, коціцца! Толькі пра яе і гаворкі...

— Міхась! Я забараняю табе!

— Канстытуцыю не ведаеш. Свабода слова ў нас, і кожны чалавек — вольны грамадзянін. А твая гаспадыня...

— Апошні раз... Не гавары мне аб ёй нічога благога!..

— Маўчу. І буду ёй толькі ўсміхацца. Пры сустрэчы, вядома. Але ж і схуднела ты! З голаду ты там сохла, ці што?..

— Ад ветру!

— Язычок вось толькі не сохне. Востры. Ведаю.

— Значыцца, ты — чалавек вольны,— мне чамусьці не давалі спакою гэтыя яго словы.— А хто ж тады я? Можа, зазірнём у канстытуцыю?

— Роўная сярод роўных. Жанчына мае тыя ж правы.

— Не, ты кінь жартаваць. Я пытаюся сур'ёзна.

— Зноў ранейшае! Не люблю філасофіі пад коўдраю. Жонка ты Міхасёва — вось хто! І дарма ты вярзеш на мяне. Я таксама цябе кахаю. Толькі, відаць, па-свойму... Думаў увесь час... Не, не забыў...

Ён гладзіў шурпатаю далоняй мае плечы, твар, грудзі, і сэрца маё зноў гнала па целу гатовую да бунту кроў. Відаць, менавіта ў гэты час, за гэтыя простыя і шчырыя словы я даравала яму ўсё. Даравала нікому не паказаныя слёзы, даравала тугу, даравала горкія ночы без сну, даравала ўсё благое, адкінула і нават не хацела ведаць пра мінулае. Аднаго прагнула сэрца — слоў пра каханне. Мне хацелася, каб ён паўтараў іх і паўтараў, каб схаваная ў гэтых словах музыка гучала ў маіх вушах несціхана і заўжды...

Міхась хутка заснуў; ён шырока раскінуў рукі ў сне, зусім па-дзіцячаму шморгаў носам, сагнуўся і амаль выпхнуў мяне з будана.

На маіх губах сохла салёная горыч пацалункаў, у целе, быццам апусцела яно зусім, была нязвыклая лёгкасць. Я ляжала — сну зусім не было, і ўслухоўвалася ў цішыню ночы; ранейшае пачуцце трывогі, незадаволенасці, былое мае адзіноты заглухла зусім. Вось і прыйшло тое, чаго я чакала, да чаго імкнулася прагна і заўжды. Міхась побач. Няўжо вось гэтак неўпрыкмет і ціха прыходзіць да чалавека шчасце?.. Шчасце?.. Але чаму тады ва мне няма той бяздумнай узнёсласці, што віравала ў маёй душы раней, у Баравічах, калі Міхась упершыню пацалаваў мяне?.. А можа, тое было зусім і не шчасце, а толькі подступы, і сапраўднае шчасце — гэта цяпер, і проста я, гэткі доўгі час жывучы адна, адвучылася разумець яго?..

Усплывалі думкі пра тое, як жыў Міхась гэты час,— думкі няпрошаныя, зусім непатрэбныя тут, сярод ночы. Са злоснай упартасцю я адагнала іх. Мінулае закрэслена. Няма і не будзе да яго дарогі. Мне трэба быць мужнай. Ніколі ні ў чым я не павінна папракнуць яго. Ці хопіць у мяне сілы на тое, ці хопіць вытрымкі?..

Міхась салодка ўсхрапваў. Я ціха адсунулася ад яго і вылезла з будана. Па чорнай вадзе рухаліся, адплывалі

назад зоркі. Канец плыта па-ранейшаму хаваўся ў цемрадзі; здавалася, што плыве толькі будан, а нехта бяжыць услед за ім і гучна плёхкае па вадзе ботамі. Дзве чырвоныя плямкі свяціліся на вогнішчы. Апанас зноў спяваў адзін, і ціхі смутак, што жыў у яго песні, нечакана абудзіў ва мне салодкую горыч; яна гэтак балюча сціснула сэрца, што я не ўтрымалася і заплакала. Але заплакала не ад гэтага болю ў сэрцы, а ад таго вялікага і незвычайнага, што адкрылася перад маімі вачыма. Падумаць! Колькі гэткіх ночаў прамінула дарэмна, колькі добрага маглі мы ўведаць разам за марна растрачаны час, неапраўна растрачаны час!..

Я плакала зусім нядоўга і ціха, баючыся, каб ніхто не пачуў, плакала і адчувала, як усё лягчэй і лягчэй робіцца на душы. Я выцерла слёзы далонямі, аблізала губы; рот адразу запоўніла салёная горыч, і ад яе, ад гэтай салёнай горычы слёз, нібыта заслона якая звалілася з маіх вачэй. Так, у тым, што здарылася ў маім жыцці, вінавата і я сама. Аднойчы гэтая думка ўжо завітала да мяне, а цяпер яна пасталела, зрабілася грунтоўнай і, галоўнае, вельмі яснай. Я кахаю Міхася. І за гэтае каханне трэба змагацца. А я чакала. Толькі чакала. І таму я, можа, больш за Міхася вінавата. Так, вінавата ў тым, што Міхась думае не так, як я сама, зусім інакш глядзіць на жыццё, на каханне, на месца чалавека на зямлі ўвогуле. Я здолела вырваць яго з учэпістых рук Раманюка, але далей не павяла. Ён пакрыўдзіў мяне. Я кінула яго, маладушна збегла ад барацьбы. А каханне, сапраўднае каханне, вышэй крыўды, яно не падуладна ёй, яно разумней, яно не можа быць эгаістычным. Можа, таму я і змагла адкінуць мінулае, дараваць? Відаць, так...

Міхась не ведае гэтага. І я павінна навучыць яго, памагчы зразумець хараство сапраўднага пачуцця, такога пачуцця, што як на крылах узнімае чалавека, надае сэрцу гарт і сілы... І галоўнае — у нас ёсць дачка. Я зведала самую страшэнную горыч на зямлі — горыч адзіноты. І я не хачу, каб такую дарогу прайшла і Марынка. Я дала ёй жыццё, і я павінна навучыць яе, засцерагчы ад памылак... І калі я не змагу зрабіць гэтага, чаго будзе варта маё ўласнае жыццё?.. Уласнае жыццё не так важна... Не! Вельмі важна, і ў гэтым Міхасёва сіла, калі ён спрачаецца са мною. Міхась заўжды ведае, што ён хоча, заўжды абараняе права чалавека жыць толькі так, як хоча ён сам. Але ж гэтае права не ёсць яшчэ само жыццё. Само жыц-

цё — гэта значна большае, чымся толькі жаданне жыць самому добра, кахаць і быць шчаслівым. Ёсць пэўныя абавязкі ў чалавека. Ёсць праца. Толькі яна можа вызначыць месца чалавека на зямлі. Толькі яна!.. Вось Валька працуе і спявае. І Мароз працуе і спявае. А Міхась спіць. І Гуронак спіць. А Валька і Мароз не спяць. Яны вядуць плыты скрозь ноч і адказваюць за лёс сваіх сяброў і ўвогуле за ўсё тое, што ім даручана. І гэта самае галоўнае. Не проста жыць, а ўвесь час адчуваць, што ў тваіх руках лёс другіх людзей і што іх лёс — гэта значна больш, чым тваё ўласнае жыццё, твае ўласныя клопаты. Чаму не разумее гэтага Міхась? А можа, ён разумее і толькі не хоча прызнавацца?..

Вакол будана крыху пасвятлела. Святлела не зверху, а знізу, ад вады, і, толькі ўважна ўгледзеўшыся, я прыкмеціла, што святло ідзе ад месяца, які ўзняўся над чорнымі абрысамі хмызнякоў. Вялізнае чырвонае кола яго ўвачавідкі павялічвалася, аддалялася ад чорных дрэў і ўставала на нізкім небе; зоркі крыху пацямнелі і быццам адскочылі ад месяца і згаслі; туман парадзеў, і адкрылася далеч берагоў; плыты былі цяпер бачны з канца ў канец, і зусім блізкім здавалася доўгае вясло, ля якога варушыліся дзве постаці. З чорнай далечы выплывалі, завалочаныя туманам, быццам аблітыя малаком, шатры вербалозаў, кудлатыя кроны вольх, і нешта загадкава і таямніча паблісквала на нізкім левым беразе.

Вогнішча згасла, ад яго ішоў салодкі пах попелу. Сыры туман клаўся на плечы, рабілася холадна.

— Стэфа! Стэфа!

Мяне клікаў Міхась. Голас у яго быў неяк быццам спалоханы. Сам Міхась быў вельмі гарачы ад сну, і я, дрыжучы, прыціснулася да яго.

— Ты чаго мяне паклікаў?

— Саснілася... Дзе ты была?

— А што табе саснілася?

— Прыдрамаў крыху. А-оооўх!

— Не, ты скажы!

— Марынка...

— Марынка саснілася, а ты яе і не бачыў.

— Чаму не бачыў? Быў жа я ў Баравічах. Кожны год бываў. Як толькі яна нарадзілася — ведаў...

— Адкуль?

— Ой, Стэфка, Стэфка! Колькі гадоў пражыла, а розуму... Ды свет такі. Калі ты ведаць не хочаш, скажуць.

Ці калі што пра сябе забыўся, у людзей спытай. Скажуць. Усё памятаюць...

— І табе сказалі?

— Пісалі нават. І з бацькам тваім сустракаўся сёлета. Гэта пасля таго, як да тваёй гаспадыні заходзіў...

— А бацька мне — ані слова!

— І мне — тое ж самае.

— Ты гаварыў з ім?

— Не хацеў я размаўляць з ім. Скажы, а ты што Марынцы пра мяне кажаш?

— Казала, што тата паехаў далёка-далёка...

— І што ж яна, верыць?

— Яна ўсяму верыць, што я скажу. Паслухмяная дужа. І разумная.

— Значыцца, у бацьку пайшла...

— Не, Міхаська... Спытаю ў яе: чыя ж ты дачка? Маміна, кажа...

— Добра. Ляжы. Я пайду на стырно зірну. Што там у іх...

Я глядзела, як ён ішоў у канец плытоў, што былі ўжо добра заліты блеклым святлом поўніка, і думала аб тым, што пачула ад мужа. Чаму ён толькі цяпер прызнаўся, што быў у Баравічах, што сустракаўся з бацькам, бачыў Марынку? Значыцца, не толькі мне сніцца яна па начах. Так, гэта пасварыцца толькі лёгка. А як цяжка наладзіць жыццё зноў!.. Вось жартам сказала пра маміну дачку, а ён пакрыўдзіўся.

Дзівак ты, Міхаська! Ці ж я папракаю цябе? Мне проста радасна, што Марынка жыве і ў тваім сэрцы, што ты таксама думаеш пра яе...

## 15

Саламяны дах будана прасвечваўся, быў амаль празрысты, і салома здавалася ружаватай. Хліпала вада. Шчабяталі ластаўкі. Я слухала абуджэнне дня і адчувала нейкую магутную сілу ва ўсім целе. Даўно не было ў мяне гэткага моцнага сну. Быццам у бездань праваліласся.

Я ляжала, і паступова ў душы нараджаўся клопат. Нешта ж хацела я зрабіць. Але што?.. Прыгадала зусім нечакана: туман! Міхась абяцаў абудзіць мяне ранкам і паказаць туман. А сам спіць. І яшчэ як усхрапвае! Няхай спіць...

У памяці была начная рака, белаватыя вербалозы на берагах, жаўтаватае кола поўніка і зоркі, што адплывалі назад па бліскучай чорнай вадзе. Цяпер берагі былі нізкія, няясныя, з рэдкім хмызняком на ўзвалах, і звычайны белы туман кудлатымі ашмоткамі вісеў над сінявай вадою. Сонца толькі што ўспаўзло на далягляд і спынілася, упёршыся ў вузкую, як лязо, хмару.

Ля вясла стаяў Мароз, побач, на брусе, сядзеў Валька. Я памылася. Валька памахаў мне рукою, і я падышла да яго, села побач; Мароз, абапіраючыся грудзьмі на вясло, моўчкі кіўнуў мне галавою на прывітанне. Я адчула сябе ніякавата, быццам у нечым правінілася перад ім; да Валькі ў мяне такога пачуцця не было — з гэтым хлопцам у мяне адразу ўсталяваліся прыязныя і даверлівыя адносіны, быццам мы былі даўно знаёмыя.

— Зарана,— адзначыў Валька.

— Не спіцца. Ды і прывыкла. На заводзе, калі ў начную змену працуеш, не паспіш.

— А Мароз не верыць, што са шкла тканіну робяць. Са шкла, кажа, кашулю не пашыеш...

— Чаму не пашыеш? Можна. Я, праўда, на печах працую, аператарам. Уявіце сабе — шарык шкляны. Маленькі зусім, можа, з пазногаць ваш. А з яго — амаль шаснаццаць кіламетраў ніць. Ага. Тонкая як павуцінне. Эмульсія яе астуджвае. А потым ніць зматваецца на бабіну. Бабіна — гэта шпулька такая...

— Далей? — спытаў Мароз.

— У ткацкі цэх. Потым на заводы. З нашай тканіны ізаляцыю і шмат чаго іншага робяць. А з адыходаў пліткі выробляюць... Дакладней, будуць вырабляць, каб дахі па хаце крыць...

— Хм! Не чуў...

— У Прыдзвінску будзеце — я вам пакажу. І шарык возьмеце. На ўспамін...

— Хм! Чаго толькі людзі не папрыдумваюць! Управішся без мяне? — спытаў ён Вальку. І сам жа адказаў на сваё пытанне: — Управішся. Тут рака роўная. Я вогнішча распалю...

Мароз пайшоў да будана.

— Апанас у нас такі,— сказаў Валька ўслед староку плытніку.— Рукамі дай памацаць — тады паверыць. І то не ўсягды...

— А ноччу гэта ты спяваў? Мне падабаецца. Толькі вось словы незнаёмыя...

— Я іх сам прыдумляю. Ноч вялікая. Вось і спяваеш. Ад Мароза навучыўся.

— Дзіва! Гэткі маўчун Апанас здаецца...

— Маўчун. А па начах не спіць і спявае. І ўсё думае, думае... Ён у партызанах быў. Карнікі ў яго жонку спалілі. І сына.

— Ён гаварыў табе пра гэта?

— Аднойчы. Летась, калі плылі.

— Мабыць, даўно ты з плытамі?

— Трэці год.

— Падабаецца?

— Іншага не хачу.

— І мне падабаецца. Добрая ў вас работа. Хоць сама ў брыгаду запісвайся.

— Жанчыну не возьмуць.

— Калі захочаш, возьмуць.

— Гэта правільна. Калі чалавек захоча, усё можа зрабіць.

— Ты думаеш?

— Ведаю. А там, там, паглядзі, што робіцца!..

Уперадзе, над бліскучай вадою, стаяла белая сцяна туману; ён трывала лёг паміж берагамі, быццам звязаў іх белай тканінай, і за ёю нічога не было відаць. Чым бліжэй падплывалі мы, тым сцяна ўвачавідкі вышэла, а сіняе неба над берагавымі ўзваламі адсоўвалася некуды назад.

— Туман які. Не бачыла ніколі...

— Рачулка там у Дзвіну ўпадае. Крынічная вада ў ёй. А ў Дзвіне — цяплейшая. Таму — туман. Ён нешырокі. Пройдзем за хвілінку якую...

Валька пачаў углядацца наперад, твар яго зрабіўся суровы. Яго трывога перадалася мне, і я адчула, што набліжаецца нейкая небяспека; я не бачыла яе, але адчувала, што небяспека існуе, і таксама, як і ён, насцярожана ўглядалася ў малочную заслону над ракой.

Мы ўвайшлі ў туман раптоўна; нос плыта падпоўз пад тонкае воблачка, быццам ускінуў яго на сябе; з абодвух бакоў плыта пацягнуліся дрыготкія кучаравыя закруткі, яны былі не белыя, а крыху ружаватыя. Я азірнулася. Ззаду таксама быў туман, і ў ім, як у ваце, вагаўся вялізны аранжавы дыск. Сонца не магло прабіць шчыльную заслону, і яго промні асядалі ў туманнай тканіне, і яна слаба рдзела; бліжэй да вады колеру туманных аблакоў быў гусцейшы, падобны на малінавы; і бярвенні плытоў, і саламяны дах, і твар Валькі зрабіліся ружаватымі; нейкія сла-

быя цені лёталі вакол нас — няўлоўныя, нячутныя, і было дзіўна бачыць усё гэта і рабілася крышачку жахліва.

Туман скончыўся раптоўна; плыт выплыў з ружовай паласы, і яна засталася ззаду, адсунулася і стала там, закрыўшы белай сцяной берагі, але гэта была ўжо звычайная белая туманная заслона; пыхнула сонца, і ў вочы адразу ўдарыў зыркі бляск вады.

— Валька! — вокліч Мароза быў злосны, як удар пугі.— Куды вочы ўпароў, трасца тваёй матары! Грані-ііт!!!

Ён падскочыў да Валькі і ўчапіўся за вясло. Дзяржак вясла чыркнуў мяне па плячы, я адляцела ўбок і ледзь не звалілася ў раку.

Здзівіў твар Валькі — белы, ні крывінкі на шчоках, а вусны скрыўлены, быццам ад болю.

Я хутка ўскочыла на ногі і стала побач з Валькам. Вясло было тоўстае, шурпатае. Яно балюча калола далоні, і я не адразу злавіла патрэбны рытм, ледзьве не звалілася зноў, але ўтрымалася і яшчэ мацней учапілася ў тоўсты, як бервяно, дзяржак.

Прыўзнімаючы дзяржак, мы далёка заносілі яго ўправа, з размаху кідалі ў ваду і навальваліся грудзямі на яго. Потым зноў заносілі ўправа і зноў, з усяе моцы, націскалі на яго. Мне здавалася, што нашы намаганні дарэмныя,— я толькі цяпер убачыла наперадзе чорны астравок і прыкмеціла, што ён імкліва набліжаецца. Крыху пасля я заўважыла: астравок крыху перамясціўся ўбок, цяпер яго ўжо не закрываў будан. Нечакана неяк жаласліва рыпнулі павойнікі.

Я спалохалася.

— Мінаем? — з трывогай у голасе запытаў Валька.

Мароз ваўкавата зірнуў на яго.

— Бач куды паперла! Ах ты... Цяпер усё роўна!..

Ён злосна, не зважаючы на мяне, вылаяўся — мудрона і непрыстойна. І ў той жа час бэлькі пад нагамі ў мяне здрыгануліся, я не ўтрымалася і паляцела потырч. Чула моцны, як выбух, сухі трэск.

З будана выскачыў Міхась. Нейкі момант пастаяў, гледзячы на раку, на каменны астравок, а потым закрычаў страшэнным голасам:

— Ка-анат! Трасца вашай матары!.. Што стаіце, ёлупы!..

Мароз ускінуў скрутак вяроўкі на плечы, але не пабег і моўчкі стаяў на месцы, нечага пазіраючы на бераг. Гэта абурыла мяне. Чаго ж ён стаіць?

— Плыт разарвала,— неяк дужа спакойна сказаў Валька.

Толькі цяпер я заўважыла, што наш плыт канчаецца ля каменнага астраўка, а другі, з буданом, адсоўваецца. Паласа вады паміж імі ўсё шырэла і шырэла. Імкліва набліжаўся бераг. Праз некаторы час наш плыт, як масток, злучыў яго з каменным астраўком. Мароз скочыў на бераг і патрухаў услед за плытом, што адплываў усё далей і далей.

— А ты чаго сядзіш, Валька? — крыкнуў Мароз, крыху адбегшыся.— Абгледзь прыкол і — за мною шпуруй!

Валька нешта буркнуў і паціху, з бервяна на бервяно, паклыпаў да берагу. Я пайшла побач.

— Што ж гэта цяпер будзе? — спалохана спытала я.

— Кепска будзе, калі не астырпуем плыт. Кепска...

— Можа, нам туды бегчы?

— А што там рабіць?

— Памагаць...

Ён абгледзеў месца, дзе бярвенні глыбока ўрэзаліся ў белую гліну, злётаў да каменнай грады, зноў вылез на нізкі ўзвал і толькі потым загадаў мне, адказваючы на маю прапанову:

— Сядзі тут. Няма там чаго памагаць...

Я засталася на плыце адна. Калі мы плылі, вада вакол нас была ціхая і спакойная. Цяпер плыт перагарадзіў пратоку, і вада клекатала, віравала, ішла пеннымі кругамі, вымываючы з дна ракі пясок. Воддаль, ля самага паваротку, дзе рака брала ўправа і хавалася за жоўта-белым абрывам, быў відзён плыт. Ён зменшыўся, наблізіўся да берагу, быццам зліўся з ім; постаці плытнікаў былі маленькія і далёкія.

Адзінае, што я магла рабіць,— чакаць. І чаканне гэтае было поўнае трывогі.

Колькі мінула часу — я не ведаю. Пачало добра прыпякаць сонца. Узняўся вецер. Рабацінне зламала люстраную паверхню ракі, вада заблішчэла, і ў яе бляску яшчэ меншым зрабіўся плыт ля жоўтага паваротку. Ён ужо не кратаўся. Постаці плытнікаў выраслі і наблізіліся.

Плытнікі вярталіся. Яны ішлі па карычневай пясчанай касе ля самай вады, ішлі адзін за адным — маўклівыя і чорныя як цені.

Моўчкі яны ўзышлі і на плыт. Відаць, там, воддаль ад мяне, пагаварылі яны аб усім як трэба і цяпер былі спакойныя. Міхась нават усміхнуўся мне:

— Ну, як табе тут?
— А што ў вас там? Злавілі плыт?
— Пашанцавала,— сказаў Міхась і ацёр далоняй лоб.
— Калі націскаеш, што косці трашчаць, тады заўжды шанцуе,— весела выгукнуў Валька і зухавата падміргнуў мне.

Міхась змрочна зірнуў на яго. Валька змоўк.

— Добра, аднак, і заселі мы,— сказаў Міхась. Ён прайшоў у канец плыта, доўга глядзеў на вострае каменне, што парасло сівым імхом, потым паўтарыў:— Добра, аднак, заселі. Тыдні на два работкі...

Сказаў ён гэта не змрочна, а весела і раптам зарагатаў:

— Ну, чаго памоўклі, героі? Выгружаем шмоткі на бераг, паставім будан і за сняданак. А потым на работку наляжам. Чаго нос на квінту павесіў, Валька?
— Няма чаго радавацца.
— Не, браце, можна. Гэта ж добра яшчэ абышлося. Во каб павойнікі распусціла ды кожнае бервяно паасобку паплыло, тады б паскакалі. А гэта — драбяза...

Ён хораша і цёпла ўсміхнуўся. І я ўбачыла за гэтай усмешкай сціплага і простага чалавека, таго чалавека, які быў вельмі дарагі і якога ён часта намагаўся схаваць ад мяне за грубаватай усмешкай, жартамі і суровасцю.

Дзіўна, але гэта так. Мы заўжды любім тое, што хаваюць ад нас.

## 16

Белы каменны гмах узнік нечакана ў празрыстай сіняй далечы. Ён быў відзён не ўвесь — ніжнія паверхі закрылі дрэвы. Я ўбачыла шырокія вокны, бліскучыя на сонцы, быццам зроблены са шкла, шыферны дах і здрыганулася. Наш завод! Плылі з Прыдзвінска і зноў вярнуліся назад?.. Як жа гэта магло здарыцца?..

— Горад нейкі! Бачыш, Валька?

Валька, што сядзеў непадалёк ад мяне, ускочыў на ногі, крыху паўглядаўся ў сінявую далеч і закрычаў:

— Друйск! Браткі мае, гэта ж Друйск відзён! Ур-ррра! Брыгадзір, Друйск бачу!..

Міхась, не ўзнімаючыся з абрудзелага сасновага бруса, лена кінуў:

— Даўно мог убачыць, каб ногамі паменей боўтаў. Ідзі да Гуронка. Там зараз трэба быць...

Валька пабег у канец плыта. Міхась узняўся і падышоў да мяне, пастаяў, пацягнуўся, распраўляючы плечы:

— О-оох-ха! Што, родная мая, канчаецца наша падарожжа. Хутка будзем у Друйску...

— А гэты будынак... Вунь там... Белы. Гэта ўжо Друйск?

— Не, школьны будынак гэта. Ад яго яшчэ кіламетраў пяць.

— А мне здалося — завод наш.

— Будзе табе там на арэхі!

— Радуешся?

— Не, Стэфа, ніколькі. Разам адказваць будзем. Віна тут мая ёсць немалая. Я сам да твайго дырэктара схаджу. Ён зразумее. Пакахала — тут не да цароў. Гэтак, здаецца, сказаў Аляксей Максімавіч.

— Думаеш, я табе дазволю?

— Чаго — «дазволю»?

— Хадайнічаць за мяне.

— Зноў сама ўсё хочаш?

— Я — жонка плытніка...

Жартавала, а на сэрцы было неспакойна. Падарожжа маё зусім нечакана зацягнулася. Ля каменнага вострава мы прасядзелі амаль два тыдні. Спачатку распусцілі плыт на звенні, паставілі на ціхай плыні ля берагу і толькі потым ужо — і кожнае звяно паасобку — сплавілі ўніз. Гэта была цяжкая і марудная праца. Але цяпер яна засталася ззаду. Далёка ззаду быў і Прыдзвінск, але думкі аб ім не пакідалі мяне. І чым бліжэй быў невядомы мне горад, горад, адкуль пачнецца дарога дамоў, тым усё больш і больш было трывогі на сэрцы. Па начах мне сніўся Прыдзвінск, снілася Марынка, бацька... Сніўся завод. Нядобра я зрабіла. Кінула працу. Кінула сяброў. Нікому нічога не сказала... Не сказала тады. А што я скажу цяпер? А можа, там што здарылася з Марынкаю?..

— Во, цяпер гэта ўжо Друйск,— сказаў Міхась, паказваючы рукою на белыя плямы хат, што паказаліся ўдалечыні з-за паваротку.— Здадзім плыты, тыдзень адпачнём і — дахаты!

— Не, Міхаська, не трэба затрымлівацца. Будзем сапраўды спяшацца...

— Няўжо баішся? Кінь ты глупства... На шыбеніцу не адправяць...

— Мяне не гэта трывожыць... Марынка!

— А што ёй абыходзіць? Гарцуе ў бацькавай хаце,

і годзе. Цяпер там яблыкі ёсць. І дулі ёсць. Што яна любіць?

— Яблыкі.

— Эх, цяпер бы яблычак паесці! Сакавітых. Халодненькіх. З дрэва!

— Дзіўна ўсё гэта...

— Ты не хочаш яблычкаў?

— Не. Ведаеш, што мне прыгадалася? Наша замчышча. Другі раз яно на плытах прыгадалася. Аднойчы я стаяла там. Унізе, па Дзвіне, плыў човен, і нехта спяваў на ім. Як я зайздросціла тым, на чаўне. І нават цвёрдае рашэнне прыняла: падрасце Марынка, сяду з ёю ў човен і паплыву. Яна будзе веславаць, а я — у карме на зялёным венцы. І неба над намі сіняе. І стрыжы...

— Лічы, што спраўдзілася твая мара.

— Няма Марынкі толькі.

— Усё роўна спраўдзілася мара.

— Гэта не мара. Проста маленькае жаданне...

Горад увачавідкі рос і набліжаўся. Ужо бачны былі хаты і роўныя вулкі, нізенькая цэркаўка з зялёным купалам. Ахутаныя зелянінай садоў, дамы нібыта па прыступках узбіраліся на касагор. Потым, калі мы падплылі бліжэй, гарадок, нібыта праваліўшыся ў нізіну, схаваўся за дамы, што стужкаю выцягнуліся ўсцяж берагавога абрыву.

Плыт, выгнуты падковаю, насунуўся на бераг. Жоўтая пясчаная каса мякка прыняла яго. Міхась першы скочыў на бераг, услед за ім Гуронак і Валька. Яны хутка замацавалі вяроўку, якую кінуў ім з плыта Мароз.

Плытнікі пачалі мыць рукі.

— Цяпер гэта ўсё трэба як след адзначыць,— сказаў Валька.— Прамы курс на рэстаран. Праўда, брыгадзір?..

Міхась нічога не адказаў. Ён моўчкі падышоў да будана, зняў выпалены сонцам сцяжок, агледзеў плыт з канца ў канец і толькі потым загадаў:

— Абедаць пазней... Спачатку ўладкуемся з начлегам. Курс — на гасцініцу...

Развітанне з плытамі расчаравала будзённасцю. Ніхто не сказаў ніводнага слова радасці ці падзякі. І толькі пазней я зразумела, што за гэтай маўклівасцю хавалася сапраўдная туга. Пачыналася новае жыццё, вольніца мінalася.

Вузкаю сцежкаю мы ўзняліся на высокі бераг, спыніліся і ўсе як па камандзе азірнуліся. Плыты, быццам спалохаўшыся чаго, ціснуліся да пясчанай берагавой ка-

сы; сіратліва жаўцеў руды саламяны будан. Мілая маленькая наша хацінка! Колькі добрага зведала я там за гэтыя дні. Ночы, поўныя хараства і забыцця... Гаворкі з Міхасём... Песні ля вогнішча. Неверагодная, нейкая вар'яцкая праца ля каменнага астраўка. Так... Я ніколі не змагу забыць усё гэта!..

— Дзякуй табе, Дзвіна,— нейкім змененым, але цёплым голасам сказаў Міхась.— Паслужыла ты нам. Бывай. Да новага лета цяпер!..— І крыху пасля, перапыніўшы маўчанне ўсіх, дадаў: — Ну, гайда!

Мы рушылі ў горад.

Аднапавярховы драўляны будынак гасцініцы быў непадалёк ад ракі. Сустрэлі нас ветліва — плытнікаў там ведалі. Загадчыца гасцініцы — маладая жанчына ў стракатым шырокім сарафане,— весела пасміхваючыся, запытала Вальку:

— Надоўга цяпер? А я ўсё думаю, што ж гэта нашы плытнікі не з'яўляюцца? Бачу, усё тая ж каманда ў вас...

— Цяпер толькі даўкамплектавалася. Са сваім кашаварам плаваем. Стэфе месцейка пасушэй дасце...

У маленькім пакойчыку, куды прывяла мяне жанчына, стаялі два ложкі. На адным з іх, ля сцяны, ляжала дзяўчына з кніжкаю ў руках.

— Здалёк? — лена спытала яна, калі мы засталіся ў пакоі адны. Дзяўчына ва ўпор разглядала мяне вялізнымі карымі вачыма.

— З Прыдзвінска.

— А я з раёна. Сяджу ў гэтым балоце амаль тыдзень. Ні газеты ў гасцініцы, ні радыё. У кіно карціна з часоў цара Гароха. Звар'яцееш. Вы надоўга?

— Пакуль што не ведаю. Думаю, што не затрымаюся.

— Вы не з выканкома? Здаецца, там вас бачыла.

— Відаць, вы памыліліся.

— Не можа быць. Калі хоць раз зірну на чалавека — доўга потым памятаю... А можа... Адкуль жа, калі не сакрэт?..

Настойлівы стук у дзверы ўратаваў мяне: мне не хацелася адказваць ні на якія пытанні. У пакой уляцеў, нават не дачакаўшыся адказу на стук, Валька.

— Абед чакае, Стэфа! — сумеўся, убачыўшы на ложку незнаёмую дзяўчыну.— Прабачце, не заўважыў вас. Добры дзень... А Стэфу я ў вас забіраю...

— Калі ласка. Не магу пярэчыць!

— Дзякую,— сказаў Валька, а ў калідоры, ледзьве зачыніўшы дзверы, спытаў: — Адкуль узялася гэткая фіфёла?

— Не ведаю.

— І не трэба. Галоўнае, на абед нам не спазніцца. Хлопцы там заселі...

Плытнікі ўжо сядзелі ў кутку чайной, ссунуўшы два сталы ў адно. Ля кожнай маленькай талеркі з чырвонымі памідорамі, што былі скупа пакрапаны смятанаю, стаяла шклянка з рабрыстага шкла.

— Добра, што без нас не пачалі,— сказаў Валька, падсоўваючы мне крэсла.— Ну, каго мы яшчэ чакаем? Усе ў наяўнасці!

— Толькі яе няма,— заўважыў Патапчык, стукаючы пальцам па пустой шклянцы.

— Ідзі, Валька, падгані іх там! — загадаў Міхась.— Не хацеў жа ў краме пастаяць, чаргі спалохаўся. Выпраўляй хоць тут становішча...

— Зараз мы з ім усё ўладкуем. Хадзем разам!..

Валька не чакаў ад мяне гэтай прапановы, але прыняў яе ахвотна, і мы разам пайшлі да буфета. Я ціха запытала яго:

— Колькі вы заказалі?

— Дзве паўлітэркі. Болей не даюць. Але ўпросім, куды дзенуцца. Зарабіць кожны хоча...

— А мне здаецца, ніводнай не трэба!

— Што ты! Канец рэйса — замочка законна!

— А гэты абыдзецца без яе.

— Не ведаю. Брыгадзір будзе лаяцца. Ён жа загадаў...

— Гэткі загад можна адмяніць. Якая ў цябе брала заказ?..

Мне, мабыць, крыху пашанцавала: афіцыянтка не пярэчыла, не спрачалася, калі я змяніла заказ, і толькі з іроніяй паглядзела на Вальку. Пасля нашай размовы з ёю яна вельмі хутка прынесла бутэлькі з баржомам і талеркі з баршчом.

Змены, што я ўнесла ў меню, асаблівага ўздыму не выклікалі. Патапчык моўчкі пажаваў губамі. Апанас абліznuўся, але ўслед за мною наліў сабе крыху баржому і выпіў. Потым ён узяў лыжку, пасмакаваў боршч і абвёў маўклівым паглядам усё застолле. Усё Апанасава абліччa казала, што чалавек чакае нейкіх змен, што ён глыбока ўпэўнены: гэтыя змены павінны адбыцца. Позірк яго,

скіраваны на брыгадзіра, быў поўны малення. Гэта развесяліла нават Міхася.

— Што, Апанасе, скончылася маліна? — запытаў ён, смеючыся.— Прывыкай. Во як яно з новым кашаварам... Новае жыццё!

— Кашавара ганіць не буду,— сказаў Апанас.— Як у бога запазухаю жылі на плытах. Ці ж гэта боршч! Каб цяпер Стэфіну юшачку з судачка...

— А што, з самоў горшая была? — спытаў Гуронак.

— І з акуньчыкаў. Эх, Валька, смачныя твае акуньчыкі былі!..— уздыхнуў Мароз і нечакана падагуліў: — Таму і трэба... Трэба нам хоць за кашавара выпіць. А то што ж гэта...

І такая змрочная туга была ў яго голасе, што мы ўсе дружна зарагаталі. Цяпер я супакоілася канчаткова. На плытах мяне слухалі: ніхто не лаяўся, ніхто не казаў грубасцей у маёй прысутнасці. Адзінае, што было,— гэта лаянка Апанаса, калі на ранку ён убачыў у тумане граніт. А як цяпер пройдзе маё ўмяшанне, гэта мяне турбавала, калі мы былі з Валькам ля буфета, калі селі за стол і я наліла сабе ў шклянку баржом. Харошы сяброўскі смех плытнікаў начыста скасаваў мае сумненні.

З'елі боршч. Афіцыянтка падала шніцалі, прыгожа аздобленыя цыбуляй. Гаворка за сталом зрабілася вельмі вясёлая. Прыгадвалі астравок, жыццё на беразе ў альховых буданах. Нават нязначныя дробязі нашага падарожжа, зусім непрыкметныя на плытах, тут, у доўгім, як калідор, пакойчыку чайной, рабіліся вельмі смешнымі.

Пасля абеду плытнікі адпачывалі ў гасцініцы. Мне хацелася паглядзець незнаёмы горад, і я папрасіла Міхася пайсці са мною. Міхась пагадзіўся.

Мы ішлі па друйскіх вуліцах. Міхась добра ведаў усё тут. Зрэдку — без усялякай сувязі з нашай гаворкаю — на яго твары з'яўлялася ўсмешка.

— Усё абед мне ў памяці,— сказаў ён, злавіўшы мой запытальны позірк.— Бедны Апанас! Ніяк не магу забыць яго твар. Не чакаў ён гэтага ад цябе. Не замачыць плыты ў Друйску? Наўрад ці снілася яму!..

— Мабыць, вы здорава іх замочвалі.

— Як вядзецца: два дні. Не меней. І дзіва: Апанас сёння не пярэчыў. Паважаюць яны цябе. У гэтым і ўся загвоздка!..

— Не. Брыгадзірава жонка я. Таму.

— Іншае тут,— сур'ёзна адказаў ён на мой жарт.— Проста падабаешся ты ім.

— Што ж, прыйдзецца цяпер з вамі плаваць. Каб парадак быў у вас на плытах...

— Не, Стэфачка, мабыць, не давядзецца.

— Не возьмеце?

— З ахвотаю. Але замена нам ужо ёсць — буксіры. Калі далёка куды, яны і пацягнуць. А якую гадзіну плыт гнаць — сам адмоўлюся: не цікава. Бачыш будынак? Друйскі кінатэатр. Хочаш?..

Здаецца, ісці туды вялікай ахвоты ў Міхася не было. Але ён не пярэчыў, калі я прапанавала яму купіць білеты.

Фільм быў цікавы. Пра маленькую дзяўчынку, якая не магла размаўляць. Увесь сеанс Міхась амаль нічога не казаў мне — глядзеў на экран.

— Мабыць, паўсюль чалавек плача аднолькава,— заўважыў ён пасля кіно.

— Я не люблю, калі плачуць.

— І я — таксама!..

Ужо зусім звечарэла. За дрэвамі маленькага парку слаба рдзела вечаровае неба, далёкі водсвет яго рабіў твар Міхася блеклым. Я хацела пайсці на Дзвіну, але Міхась раптам заспяшаўся ў гасцініцу.

— А што там рабіць? — запытала я.— Пагуляем яшчэ крыху, а потым павячэраем і пойдзем.

— Баюся, каб не здарылася чаго. Ведаеш... Апанасу цяжка без замочкі. Ці вытрывае.

— А мне здаецца — не зробяць яны гэтага.

— А хто ж іх ведае!

У голасе Міхася было сумненне, мне нават здалося, што ён хоча, каб плытнікі пілі. Згаджацца з Міхасём мне не хацелася. Я была ўпэўнена, што плытнікі спакойна адпачываюць у гасцініцы. Чаму я гэтак думала, не ведаю. Магчыма, мне проста хацелася, каб Міхась памыліўся, каб было не па-ягонаму, а так, як думала я сама. Аднак словы Міхася пасеялі ў душы трывогу: я заспяшалася разам з ім.

Плытнікаў у гасцініцы не было, і ніхто не ведаў, дзе яны. Міхась устрывожыўся, а я думала зусім пра іншае. Тут, у чыстым пакоі гасцініцы, я раптам заўважыла, што Міхасёва кашуля, якую я шмат разоў мыла на плытах, зрабілася ад вады і сонца дужа кароткай: яна абрудзела, неяк сціснулася, і Міхась быццам вырас з яе.

— Табе трэба купіць новую кашулю.

— Знайшла пра што думаць,— перапыніў ён мяне.— А што, калі бяда з імі...

Ён хваляваўся шчыра, але яго трывога не перадавалася мне. Я думала пра кашулю. Я ўжо ведала, што з Друйска Міхась паедзе ў новай, не ў гэтай. Толькі грошы...

— Трэба ісці іх шукаць,— перапыніў мае думкі Міхась.

Мы выйшлі на ганак. З вуліцы, амаль подбегам, шыбаваў да нас Валька.

— Урэшце яны з'явіліся,— гукнуў ён.— Хутчэй жа! Хадзем!..

— Дзе людзі?

— Усё ў парадку, брыгадзір,— выгукнуў Валька. Строгі голас Міхася нікольki яго не збянтэжыў.— Варым вячэру ля плытоў. Двойчы сюды па вас прылятаю...

— А чаго вас на раку пацягнула? Замочку наладзілі?..

Валька быццам і не пачуў іроніі. Усміхнуўся:

— Дзіва, брыгадзір. Хацеў Апанаса на гэта падбіць — не пагадзіўся. А я такога судака высмаргнуў — у метар!..

Мы спусціліся ўніз па вуліцы, да ракі. З крутога берагу былі добра відаць плыты, што вузкай чорнай вужакаю застыглі ля берагавой касы. Ля самай вады гарэла вогнішча.

— Эгэ-гэ-ээй! — гукнуў Валька.— Мы ідзём!

Яго голас апаў на бліскучую чорную паверхню Дзвіны, адскочыў ад вады і быццам узвіў полымя вогнішча; шырокія цені ля агню заварушыліся...

Мы зноў елі юшку з судака. Посуд пах дымам. І юшка таксама пахла дымам: яна здалася мне самым смачным з усяго таго, што давялося есці на апошнім часе.

Вогнішча пакрысе згасала. Схаваны высокім касагорам, горад кідаў на раку водсвет вечаровых агнёў, і ад гэтага змрок рабіўся ля вады радзейшы. Недзе вельмі блізка, за плытамі, плёхнула хвастом рыбіна.

— Чуеш, Апанас, твой судачок замочваецца? — пажартаваў Валька.— Просіцца на спінінг...

Ніхто не падтрымаў яго жарт. Я ведала, што плытнікі не сярдуюць на Вальку, а проста думаюць пра сваё... Кожны пра сваё... Нейкі ціхі, са смуткам, спакой агарнуў і мяне. Перад канцом дарогі чамусьці заўжды бывае крыху тужліва.

— Мне па-сапраўднаму шкада, што прыйдзецца развітацца з вашай брыгадай,— сказала я Міхасю, калі мы ішлі да гасцініцы.— Хочацца ехаць і шкада кінуць плыты. Слаўныя людзі з табой... А як хораша мы пасядзелі ля агню!..

— А я думаў быў — замочку яны тут без мяне наладзілі.

— Ты вельмі часта блага думаў пра людзей,— папракнула я Міхася.— А яны — у пераважнай большасці! — не заслугоўваюць гэтага. Павер мне...

— Веру. Ахвотна веру... Толькі ты сёння не лайся, калі ласка. Прашу цябе...

У Міхася быў вінаваты голас — я ўпершыню чула яго. І менавіта ён, гэты вінаваты голас, расчуліў і рассмяшыў мяне.

## 17

Друйскі кірмаш быў маленькі. Я бачыла кожнага, хто ўваходзіў на рынак, бачыла ўсё тое, што было і што рабілася на гэтай нешырокай брукаванай пляцоўцы. Пад нізкай паветкаю сядзелі жанчыны з кошыкамі ягад; на вузкіх доўгіх сталах ляжалі грыбы; даўно няголены мужчына ў зімовай шапцы раз-пораз падкідваў на руках вялізнага гусака і голасна абвяшчаў:

— Птушка тлустая, смачная! Хто хоча есці суп з гусячынкаю? Купі. Прадаю!..

Мне таксама хацелася крыкнуць, што прадаецца плашч, але словы не ішлі, і я не магла ні крыкнуць, ні сказаць і моўчкі стаяла, павесіўшы яго на выцягнутай руцэ. Было сорамна і крыху жахліва, нібыта стаіш на высокім, самым людным месцы, дзе ўсе бачаць цябе. Думка прадаць плашч канчаткова асталявалася ва мне ноччу, пасля таго, як я яшчэ раз агледзела Міхасёву кашулю. Мы ўжо дамовіліся з Міхасём, каб па дарозе на Прыдзвінск прыпыніцца — хоць на які дзень — у Баравічах. Міхась павінен сустрэцца з бацькам. Мне не хацелася, каб Міхась прыехаў у Баравічы ў старой кашулі, і я адразу падумала: прадам плашч і куплю. Плашч у мяне новы і, галоўнае, зусім не патрэбны.

Апошняй думкі, мабыць, прытрымліваліся і ўсе на кірмашы. Кожны, хто ўваходзіў на маленькую плошчу, здаваўся мне пакупніком. Але куплялі грыбы, ягады, куплялі гуркі, і толькі мы ўдваіх не прыцягвалі ўвагі — я і

мужчына з гусаком. Я даўно зразумела, што на мяне ніхто не глядзіць і не звяртае аніякае ўвагі, але ранейшае пачуцце не праходзіла. Рука, на якой вісеў плашч, анямела, але я баялася змяніць паставу, бо тады плашч не будзе відзён. А мне трэба прадаць яго. Абавязкова сёння! Як мага хутчэй.

У адчыненыя вароты, што вялі на рынак, улятаў вецер і прыносіў рачную свежасць. Дзвіна ляжала непадалёк, і яе бліскуча-зыркая стужка была добра бачна скрозь галіны старых ясакараў. Ад ракі ішла дарога — пыльная і таксама брукаваная, як плошча; круглае каменне паблісквала на сонцы.

Гэты бляск і сінеча пагоднага неба пачыналі раздражняць мяне. Таму, відаць, і не купляюць плашч, што ніводнай хмурынкі нідзе на небе. Во, каб цяпер дождж! У мяне адразу б купілі. А ўвогуле не дождж патрэбен. Патрэбна мужнасць, якое бракуе мне. Я прадаю свой плашч. Нічога благога ў гэтым няма. Але чаму непамысна стала мне? Быццам раблю нешта забароненае...

— Колькі каштуе адзежына?

Пытанне раптоўнае, нечаканае. Я нават здрыганулася. І зноў, як на допыце:

— Прадаеш?

— Прадаю. Вядома ж, прадаю плашч...

— Сама бачу, што плашч, а не спадніца,— голас жанчыны, якая падышла да мяне, гучаў раўнадушна і абыякава.— Гляджу, які...

— Добры плашч. Вельмі добры плашч. І не прадавала б, каб не пільніца на грошы. Трэба!..

Жмурачы вочы, жанчына разглядала крысо плашча, ціскала яго пальцамі. Кінула скупаватае:

— Паношаны...

— Новы! Зусім жа новы!

— Некалі быў, вядома, спрачацца не буду. Добрую рэч ніхто не прадае. А калі што не так у ёй — на кірмаш цягне. Вось і гляджу, што ў ім не так...

Адзіны і, можа, апошні пакупнік. Мне трэба не адпусціць яго, неяк угаварыць. Я чамусьці падумала, што менавіта гэтая жанчына купіць мой плашч. Не ведаю, адкуль прыйшло такое пераконанне.

— Самі бачыце: нідзе ніводнае плямкі,— сказала я, злуючыся, што жанчына, якой вельмі патрэбен мой плашч, нечага марудзіць і прымушае мяне хваляваца.— Зусім новы, шчыра вам кажу...

— Колькі ж за яго?
— У краме плаціла трыццаць два рублі.
— Пяць гадоў назад, мабыць.
— Не. Вясной купіла яго. Гэтай вясной.
— Калі ж тая вясна была! Цяпер летачка. А ў спякоту хто плашч надзене? А чый жа хоць ён? Твой?
— Вядома...
Сорам паліў мне шчокі. Чаму я павінна выслухваць усе гэтыя папрокі? Стаяць, чырванець...
— Я дам вам дваццаць,— сказала жанчына.— Хочаш бяры, а хочаш — стой. Ты ж тут з самага рання. Я прыкмеціла.
— Давайце!..
Грошы я нават не пералічвала. Толькі на вуліцы, калі слупы базарнае брамы засталіся далёка ззаду, я запаволіла хаду, пайшла цішэй. Урэшце скончылася тое жахлівае, што гэтак палохала мяне,— я ніколі ў жыцці нічога не прадавала на рынку. Затое цяпер ёсць грошы! Іх хопіць на кашулю Міхасю... Я сёння куплю яе. Зараз жа!.. А заўтра мы паедзем адсюль. Заўтра... Нават цяжка ўявіць сабе! Хутка я ўбачу Марынку, убачу бацьку!.. А потым будзе Прыдзвінск... Я сустрэну Вольку, убачу Ганну Якаўлеўну. Прыйду на завод... Завод?.. Не, гэта будзе потым, пасля сустрэчы з бацькам... Што ён скажа, калі даведаецца, што мы сышліся з Міхасём?.. А пры чым тут бацька?.. Я сама вызначыла сваю дарогу ў жыцці!..
Плытнікі ўжо не спалі, калі я вярнулася ў гасцініцу. Патапчыка і Апанаса не было. Валька галіўся. Побач з ім, седзячы на ложку, Міхась перашываў гузікі на рукавах кашулі. Убачыў мяне, скруціў кашулю, хацеў схаваць. Я адабрала яе.
— Пакінь... Вось новую надзявай. Купіла толькі што. Глядзі, ці падабаецца?..
Міхась недаверліва пакратаў тоўсты згортак, зірнуў на мяне і перавёў пагляд на Вальку.
— Давай, брыгадзір, прымервай! — весела дазволіў той.
Міхась, прымерваючы, паклаў кашулю сабе на грудзі.
— О, гэта — штука! — радасна бухнуў Валька.— Абмыць, брыгадзір, яе трэба. А то дзіравая будзе. Нядоўга паносіш...
— А што ты думаеш...
— Я вам зараз падумаю! Ох і падумаю! — я скамячыла старую кашулю і адсунула яе на край ложка.— Ну,

скажы мне, Валька, чаму вы гэтак усе на гарэлку моліцеся?

— А што? Проста завядзёнка...

— Для Міхася яна скончылася. Здаецца мне, і табе варта пра тое падумаць!

— Добра. То я пайду і падумаю.

— Ідзі, ідзі...

Валька выйшаў.

— Навошта ты яго так? — запытаў Міхась.

— А як ты хацеў? Каб я стаяла і глядзела, каторы з вас хутчэй за гарэлку возьмецца?

Ён спадылба ўглядаўся ў мой твар, і хмурына злосці знікала з яго вачэй; урэшце Міхась закруціў галавою і зарагатаў, смешна трасучы рукамі.

— О-оох! І ўпартая ж ты баба, Стэфка! Намерваешся ўсё жыццё гэтак пракамандаваць?

— Я не камандую. Проста цвёрда вырашыла: я буду змагацца за нашу сям'ю. І ты павінен памагаць мне. Тады будзе сям'я.

— А што, яе цяпер няма ў нас?

— Гэта не сям'я, калі паміж жонкаю і мужам няма згоды, няма даверу. Скажы, няпраўда?

— Я нічога не кажу.

Абедзве кашулі ляжалі ля Міхася: новая — збоч, а старая крыху далей, ля спінкі ложка. Ён глядзеў на іх і пра нешта засяроджана думаў.

## 18

Жнівеньскі вецер варушыў зялёную шторку на адчыненым акне вагона і пакідаў у купэ пах збажыны і яблык. Гэты пах хваляваў, і я ўвесь час не адыходзіла ад акна. Міхась, лежачы, таксама глядзеў на жоўтае, нядаўна скошанае ржышча. За вузкай лапінай бярэзніку рухаўся самаходны камбайн; па дарогах цягнулі рудыя шлейфы дыму грузавікі; на тэлеграфных слупах сядзелі тоўстыя бліскучыя гракі.

— О-оо, навіна будзе,— сказаў Міхась, гледзячы на павучка, што поўз па падушцы.— А мы яго вось гэтак! Трынк! І — брынк!..

Ён здзьмухнуў павучка за акно, пакруціўся, паляжаў крыху. Кінуў змятую газету на стол і ўздыхнуў:

— Цяпер на полі хораша. Не тое што тут, у гэтай каробцы. Праўда? Э-эх, хораша!..

— Так.
— У цяньку паляжаць ды гуркоў свежых з мёдам. І-іэх... Дзела! Ты не хочаш гуркоў з мёдам?
— Не.
— А чаго ты з самага ранку завялася? І ўсё думае, думае... А што думаць? Ну, прагуляла пару тыдняў...
— Месяц амаль,— удакладніла я.
— Няхай сабе. Дык што ж, павесяць цябе за гэта? Абыдзецца...
— Лёгка табе казаць.
— А я не кажу — раю: не прыдумляй сабе бяды. Бяду без нас прыдумаюць. Нам пра іншае клопат: як ад яе выкруціцца — вось галоўнае. І ты за мяне трымайся. Было на Дзвіне цяжка? Было. А ўсё ж выкруціліся? Выкруціліся. І тут неяк будзе...
— Я выкручвацца не збіраюся, скажу праўду.
— А чаму ж бацьку яе не сказала? Камандзіроўку прыдумала. І дзіва: паверыў стары. А ён жа не надта даверлівы. А тут вось...
— Памаўчы.
Спрачацца з Міхасём было няёмка: у купэ прыйшлі дзве жанчыны, што ехалі разам з намі. Ды і што спрачацца! Ён казаў праўду. Па дарозе з Друйска мы спыніліся ў Баравічах і поўны дзень — да наступнага цягніка — гасцявалі ў бацькавай хаце. Марынка пазнала мяне адразу, кінулася на шыю. З Міхасём яна пасябравала вельмі хутка. Нечаканая стрэча вельмі расчуліла бацьку, і я не змагла сказаць яму праўды, схлусіла: варочаюся з камандзіроўкі. Наўпярок чаканню, бацька з Міхасём быў ветлівы.
Цяпер наперадзе быў Прыдзвінск. Наперадзе быў завод, наперадзе быў мой цэх. Будучая стрэча з ім не хвалявала мяне, а выклікала дзіўную дваістасць: я прагла ўбачыць завод і ў той жа час хацела, каб гэтая сустрэча была не надта хутка. І чым больш я думала аб гэтай стрэчы, тым усё больш і больш адкрывалася мне мая віна. Так, я вінаватая. Кінула свой цэх, кінула работу. І я гатова несці за гэта пакаранне. Няхай яно будзе самае строгае, самае жорсткае — я прыму яго, як прымаюць тое, што заслужана і справядліва. Толькі б увайсці ў цэх, пачуць гуд электрапечаў, зірнуць на зялёныя вочкі дазатараў і адчуць пад пальцамі мяккае цёплае шкло...
Цяпер я добра разумела, што без гэтага не змагу жыць. Я ведала, што сябе не абманвала, калі казала, што

кахаю Міхася. Гэта было праўдай і засталося праўдай. Але за час свайго падарожжа па Дзвіне ўведала я і яшчэ адну, вельмі важную праўду: толькі каханне чалавеку мала, каханне можа і павінна памагаць яму жыць, памагаць рабіць нешта вялікае і прыгожае ў жыцці. Калі не было Міхася, я адчувала даўкую горыч адзіноты і прагна чакала, хацела кахання. Часам мне здавалася, што праца, завод абкрадаюць мяне і маё каханне, што варта прыйсці Міхасю, і жыццё зменіцца, шчасце адкрые свае казачныя таямніцы, і новым — вялікім і ўнушальным — сэнсам напоўніцца кожная хвіліна. І вось я апынулася далёка ад завода, побач быў каханы чалавек, а горыч адзіноты не зменшылася, а памацнела нават і трывожыла мяне ўсё больш. Я думала пра Марынку, думала пра завод, і мне здавалася, што толькі там, у Прыдзвінску, я змагу быць шчаслівай. Цяпер я нікольkі не хвалявалася за Марынку — я ведала, што яна дагледжана і здаровая, побач быў Міхась, да Прыдзвінска заставалася некалькі гадзін дарогі, а тая горыч, што не давала мне спакою на плытах і вярэдзіла душу ў Друйску, абуджаючы самоту, цяпер тут, у вагоне, не прападала, жыла ў сэрцы.

Нядбайна падмецены прыдзвінскі перон здаваўся невядомым і быццам чужым. Акацыі ў прыстанцыйным садку звялі, скурчыліся і толькі вяргіні пышна палымнелі на клумбах. Мы выйшлі з вагона, і я са здзіўленнем глядзела на пукатыя бутоны, на буйнае зялёнае лісце гладыёлусаў, і ў душы ажывала радасць, адганяючы тую горыч, што не давала спакою ў вагоне.

— Куды цяпер? На завод, можа, пабяжыш? — з падробленай гуллівасцю запытаў Міхась. Ён быццам адразу зменшыўся і змізарнеў на гэтай вялікай прывакзальнай плошчы.

— Не, на завод заўтра з раніцы.

— Тады што, дамоў пашыбуем?..

— Так, дамоў...

Праз якія паўгадзіны мы былі ўжо ля хаты. Тое, чаго гэтак не хацелася мне, не здарылася: па дарозе нас ніхто са знаёмых не стрэў. Веснічкі, якімі груknуў Міхась, здаліся брамаю крэпасці, дзе я была ўжо недасягальная.

Ганна Якаўлеўна ўбачыла нас праз акно, выбегла на падворак, войкнула і пацалавала.

— Гэта Міхась,— сказала я, зусім забыўшыся на тое, што Ганна Якаўлеўна яго ведае.

— Бачу, бачу. А тут шукаюць яе! Прапала, быццам у зямлю правалілася.

— Хто шукае?

— Тося двойчы прыбягала. Учора Фаіна Усцінаўна была.

— І што вы ім казалі?

— А што мне ім казаць? Я ж не ведаю, дзе ты блукаеш.

— Я ў Баравічах цяпер была.

— Гэтак я і падумала. Хварэла, казала, а потым да бацькі, відаць, паехала.

— Як вы тут жывяце?

— А што мне, адной!

— Волька, значыцца, там?

— Яшчэ два тыдні за свой рахунак узяла. Учора ліст прыслала. Ты ж пахваліся, як там у вас дома. Марынка падрасла, думаю...

— Вельмі. І вас добра памятае. Паедзеш, пытаюся, да бабулі ў Прыдзвінск? Паеду, кажа...

— А чаго? Трэба было і прывозіць. Ну, а сама хоць адпачыла? Паправілася, бачу...

— Столькі гуляць ды не паправіцца! — умяшаўся ў гаворку Міхась.— Вунь як пакруглела. І свежая. Гурок!

Ганна Якаўлеўна з дакорам зірнула на яго.

— А ён праўду гаворыць,— сказала я, каб неяк падтрымаць Міхася.— Вы ж зірніце, якая зрабілася!.. І добра там было, а па вас сумавала. Часта прыгадвала...

— А паштоўку не магла напісаць.

— Не злуйцеся, Ганна Якаўлеўна. Вы мне, як маці. А маткам дзеці звычайна рэдка пішуць...

— Ідзі, ідзі ўжо, лісуха!

— Іду. Бачыце, якая паслухмяная прыехала!..

Я пацягнула Міхася ў свой пакой. Ён увайшоў і шчыльна прычыніў дзверы. Я прысела ўскрай ложка; шчокі мае гарэлі полымем; я закрыла іх далонямі.

— Як цяжка хлусіць, каб ты толькі ведаў!

— Ты проста стамілася,— ён, прымошчваючыся побач, закурыў.— І сама вінавата. Можна было яшчэ тыдзень у Друйску гуляць.

— Пагулялі, нічога не скажаш...

— Шкадуеш?

— Адзначаю факт. І думаю: што ж мне сказаць на заводзе?

— Трэба прыдумаць нешта грунтоўнае...

— Нічога я прыдумляць не буду!

— Зноў мудрошчы? Ты слухай, што табе гаворыцца!..

Міхась шпарка закрочыў з кутка ў куток, спыніўся, злосна стукнуў запалкамі аб стол; карабок зваліўся на падлогу разам з сіняй паперкаю; Міхась узняў яе.

— Бюлетэнь? Чый гэта?

— Мой. Стары,— я мелькам зірнула на бюлетэнь і зноў утаропіла вочы на пашкрабаную падлогу.— Хварэла. Збіралася аднесці і не паспела. Перад ад'ездам было...

Міхась падляцеў да мяне, моцна схапіў рукою за плячо, вочы яго разгарэліся.

— І яна яшчэ думае! Ды сто гадоў думай — лепшага не прыдумаеш. Зараз я тут напішу, і ўсё. Хварэла? Хварэла. Бюлетэнь ёсць? Калі ласка. З пячаткаю. Усё як мае быць. Яшчэ і грошы з іх злупіш.

— Ты хочаш яго падрабіць?

— Навошта? Дапісаць. Толькі дапісаць.

— Падрабляць я не буду. Гэта ж дакумент!

— Хто падрабляе? — ён заварушыў бровамі — пачынаў злавацца.— Чыстая графа, а мы запіс зробім. Справядлівы. Да плытоў ты хварэла? Можа, скажаш, што і тут падробка? Не можаш сказаць, бо сапраўды было. Потым папраўлялася. У прафсаюз колькі ўзносы плаціла! А чым ён табе дапамог? Вось няхай хоць аднойчы будзе справядлівасць. Пасля хваробы чалавеку патрэбен адпачынак? Так. І ты яго ўзяла. Толькі своечасова не паведаміла. Ды, зрэшты, хто там будзе глядзець! У цябе ёсць чарніла? Ага... Зараз увакурат усё будзе...

Міхась сеў на крэсла, а я стаяла побач і глядзела, як ён водзіць рукою па газеціне, прымерваючыся, каб пісаць; рыпнула пяро, і тады адразу нешта скаланулася ва мне.

— Не трэба, Міхась!

— Ну, як сабе хочаш! — ён кінуў бюлетэнь на стол, узняўся, зазлаваў па-сапраўднаму: — Як сабе хочаш. Табе лепшага зычаць...

— Якое ж гэта лепшае, Міхаська! Ты толькі ўяві сабе: падрабіць дакумент! Не, не... Думаць нават не хачу!..

І ўсё ж такі я думала пра тое. Думала за вячэраю, думала ноччу, лежачы ўжо на ложку. Словы Міхася пакінулі ў душы сумненні. А можа, варта зрабіць так, як раіць ён?..

За акном стаілася ноч.

Я намагалася і не магла заснуць. Думаць у цемры вельмі пакутліва. Думкам няма межаў, яны плывуць бяс-

канца, і ад іх баліць, быццам развальваецца галава. Мне патрэбен быў спакой. Толькі спакой. Толькі крышачку сну, пасля якога — я ведала гэта — абавязкова адыдзе стомленасць, знікне тлум у галаве і можна будзе цвяроза і памяркоўна падумаць і аб сваіх учынках, і аб тым, што мне трэба зрабіць.

З рэпрадуктара, устаноўленага на вулічным слупу, далятала металёвае бомканне гадзінніка. Я заварушылася. Міхась адразу прачнуўся, крануў мяне за руку:

— Ты не спіш?

— Чуеш, б'юць...

— Каго? — ён страпянуўся і сеў на ложку.

— Куранты б'юць. У Маскве.

— А я падумаў: лупцуюць некага...

— Пачакай, я за цябе вазьмуся!

— Бачыш — чакаю. Душна тут. Прачыні акно.

— Зараз...

Я ўзнялася, адчыніла акно і зноў лягла на ложак.

— Дык чаго ж ты не спіш? — зноў запытаў Міхась.

— Выпхнуў на самы край і яшчэ пытаецца!

— Не магла штурхануць?

— Не магла.

— Я быццам у прорву нейкую — гэтак моцна заснуў. І праўду табе кажу: побач з табою — сплю, як забіты, а адзін і заснуць не магу. Кручуся... Ідзі да мяне...

Ён абшчапіў маю шыю рукамі, моцна і прагна пацалаваў. І адразу ж усе мае думкі — гэткія вялікія і сур'ёзныя, зніклі. І горыч у сэрцы прапала...

Ранкам я прачнулася першай. У рэдкай шэрані твар Міхася выразна акрэсліваўся на падушцы. Шчокі за ноч зашчацініліся. Я ледзь кранула іх пальцамі, і Міхась адразу ж расплюшчыў вочы.

— Ранак?

— Пачынае світаць...

— Добра, што не праспалі. А-аў-оох!..

Ён хутка ўскочыў з ложка. Апрануўся. Закурыў.

— Дык што ты надумала за ноч? — Міхась першым пачаў гаворку пра ўчарашняе.— Будзем пісаць бюлетэнь? Вось жа ён ляжыць! Гатовенькі. Толькі чыркануць...

— Ой, Міхаська, не ведаю. Атуманілася галава... Усё пераблыталася.

— Ну і баязліўка! Ніхто ж і не заўважыць — гарантую. Возьмешся працаваць па-сапраўднаму — усё закрэ-

сліцца. Хваліць яшчэ будуць. А вось калі да работы не дапусцяць — тады паскачаш...

— А могуць?

— Хфі-іі!!! Яшчэ як! Прашу цябе: паслухай мяне. Можаш ты хоць адзіны раз у жыцці зрабіць так, як я прашу! Уяві сабе, што я — доктар. І — усё!..

— Ладна. Пішы. Сем бед і адзін адказ, як гаворыцца.

— Ты мяне слухай. Мяне!

Ён моцна дзюбнуў ручкай чарніліцу, зрабіў запіс у бюлетэні і распісаўся. Подпіс атрымаўся закручасты, і Міхась, адставіўшы руку, улюбёна глядзеў на яго.

— Во! Які хочаш прафесар пазайздросціць. І не кожны з іх і зможа гэтак. Бачыў я аднойчы прафесарскі подпіс — круцелька нейкая. А тут — малюнак! Зірні!..

Мая рука дрыжала. Першы раз на сваім жыцці я трымала падроблены дакумент. І ніхто іншы, а я сама — сведка гэтага злачынства. Сведка? Не, яшчэ горш! Я не толькі бачыла, я дазволіла. Пагадзілася... І нічога цяпер не зменіш, не пераробіш. І ад гэтага нельга сысці, нельга схавацца, нельга адкінуць.

— Ой, Міхаська, нарабіла я бяды...

— Мяне слухай — не прападзеш! Ведаеш, як у песні? Смелага куля баіцца. Во куды яго кладу... Бачыш?

Міхась кінуў бюлетэнь у маю сумачку і адразу ж забыўся на яго існаванне: ён зірнуў у акно і пачаў апранаць пінжак.

— А дзянёк пачынаецца слаўны. Паляту. Галоўнае, не спазніцца. Сёння ў нас што? Серада? Думаю, што на тым тыдні прыеду, калі грошы атрымаю. І-іах! Мы з табою тут свечку выганім!..

— Не кажы так. Нядобра...

— Магу. Ну, што яшчэ на развітанне?

— А сняданак?

— Не хачу. На вакзале піва вазьму...

— Зноў піва?

— І на яго вета?

— На ўсё благое. Зараз ты паснедаеш, і мы пойдзем. Разам.

— Табе ж на завод трэба!

— Паспею...

Быў пагодлівы цёплы ранак. Чыстае сінявае неба здавалася празрыстым. Сонечныя, быццам дымныя промні прабівалі спляценні галля на дрэвах, і мокрыя лісціны заляпіліся, як у познюю восень. На траве ляжаў бліскучы

россып вадзяных кропель. Пад таполямі вулічных прысад трымаўся халодны цень.

Мы ішлі не спяшаючыся, але зусім неўпрыкмет апынуліся ля вакзала. Пры выхадзе з станцыйнага скверыка стаяла Ліноўская і ажыўлена гаманіла з нейкай жанчынай. Я надумала была абысці скверык па вуліцы, але ў гэты момант Ліноўская павярнулася, убачыла мяне і павіталася.

— Хто гэта?— ціха запытаў Міхась спагадзя.

— З нашага цэха.

— У цябе паўсюль поўна знаёмых.

— Гэта блага?

— Я не кажу. Лепш адзін прыяцель, як дзесяць ворагаў.

— На заводзе ў мяне ворагаў няма.

— А ў мяне хоць даві іх. Натура ўжо гэткая: ніколі не сцярплю, па вачах праўдай хвастану. А людзі гэтага не любяць.

— Падхалімы не любяць. Зразумей, Міхась.

— Слухай, аб чым папрашу... Можа, хоць на развітанне без гэтага? Без дэбатаў...

— Табе крытыка — нож вострый!

— Можа, усё ж хопіць?.. Бягу па білет. Тут пастаіш?

— Так.

Міхась не паспеў яшчэ схавацца ў вакзальным будынку, а да мяне шпаркаю хадою прыджгала Ліноўская.

— Таксама выпраўляеш,— як пра нешта даўно вядомае адзначыла яна.

— Выпраўляю.

— Такога выправіш — заплачаш. Во гэта хлопец! Арол!

— Без крылаў толькі,— сказала я. Мне было прыемна пачуць прызнанне Ліноўскай.

— Глядзі, глядзі. Без крылаў, а як пархне — і не зловіш!

— Лавіць я не збіраюся...

— А я стаю дый гляджу сабе: знаёмы твар дужа-ткі. І толькі цяпер дайшло: Марынчын партрэт!

— Гэтак падобны?

— Кропелька ў кропельку. І нос. І вочы. Як яна гадуецца? Вялікая, мабыць...

— Да вяселля рыхтуецца!

— А што? І не прыкмеціш — наваліцца зяцёк. О-ох, будуць лётаць за Марынкай хлопцы...

Яна хацела казаць не гэта, і зусім іншае, бясспрэчна, хацела пачуць. Адразу, ледзьве ўбачыўшы Ліноўскую, я зразумела, што тая пабяжыць да мяне. І — засталася. Чаму ж я чакаю Міхася тут, а не пайшла разам з ім па білет?.. Хачу нешта пачуць пра завод? Так... А Ліноўская хоча пачуць ад мяне нейкія навіны... Чакае, што я пачну гаварыць пра сябе... І чаму яна гэтак падазрона глядзіць на маю сумачку?.. Я сціснулася: там жа бюлетэнь!

Нейкі дурны смех апанаваў мяне. Я глядзела ў твар Ліноўскай, бачыла яе хітравата прыжмураныя вочы і адчувала ўсю недарэчнасць яе пытанняў, сваіх слоў, свайго становішча. Як жа гэта нядобра, калі ты не можаш сказаць чалавеку праўды!..

— А ты не рагачы,— павучальна зазначыла Ліноўская.— Унь што табе скажу... Мужчына — хі-ітры жучок! Калі з розумам да яго — ён у цябе побач, як на вяровачцы пойдзе. А пацягні? Па-арве, што хочаш, нават — ланцуг. Таму гэтак трэба з імі — крышачку збруйку адпусціла, а канец у сваіх ручках. Скажы мне... Але потым гэта... Ідзе ж твой. Бягу...

Ліноўская ўбачыла ў дзвярах вакзала Міхася і, скоранька развітаўшыся, адышла ад мяне. Падышоў Міхась; пстрыкаючы пальцам па білеце, запытаў:

— Чаго яна тут аціраецца?

— Цябе хваліла.

— А яшчэ?

— Раіла, каб я мужа на вяровачцы трымала.

— Напраўду?

— А калі я табе хлусіла?

— Цікавая цётка,— сказаў Міхась і зірнуў у той бок, куды пайшла Ліноўская. Потым ён перавёў позірк на электрычны гадзіннік, што вісеў над уваходам вакзала:— Доўга яшчэ чакаць?

— Хочаш хутчэй ад мяне збегчы?

— Куды? — са смяшком запытаў ён.— Ты ж вядзеш мяне на вяровачцы... Хадзем на перон!

Міхась не прыняў мой жарт, у яго словах прагучала іронія, і гэта крыху пакрыўдзіла. Я нічога не адказала яму.

Амаль пусты перон блішчаў ад вады. У канцы яго, пад двума старымі клёнамі, з нізкай цялежкі згружалі ў паштовы вагон скрынкі і скруткі. На клумбе, сярод ярка-чырвонай гваздзікі, густа цвілі белыя хрызантэмы. Гэтых пышных бутонаў не было, калі я прыехала з сесіі. Тады

перон быў сухі, вецер гнаў па асфальце пыл, і толькі таксама, як цяпер, тоўпіліся ля піўнога дашчаніка людзі... Колькі ж гэта мінула з таго дня?.. Дзіва, зусім нядаўна было, а я ўжо дакладна не памятаю, у які дзень прыехала... А Ліноўская адразу пазнала, што Міхась мой муж. Адкуль?.. Здаецца ж, яна ніколі раней нас удваіх не бачыла... Хаця як жа гэта! Бачыла! Даўно, яшчэ тады...

— Ого! Чаго ж гэта пасабраўся народ? — сам сабе сказаў Міхась, гледзячы на людзей, што тоўпіліся ля нізкага дашчаніка.

— Бяжы і ты хутчэй туды. Наліюць.

— Твая схільнасць да маралі, як космас. Бясконцая.

— Я проста жартую...

— І мяне гэта здзіўляе. Ты вельмі разумная жанчына, але не разумееш часам гэткай нязначнай драбноты...

— Чаму драбноты? Дашчанік даволі ладная будыніна!

Ён не адчуў іроніі маіх слоў, нядобра ўсміхнуўся:

— Ведаеш, даражэнькая мая, калі вось гэткае выслухваць за кожную стограмоўку — з усмешкаю на шыбеніцу палезеш!..

Міхась пазмрачнеў — злаваўся. Мне зрабілася непамысна. Навошта я спрачаюся з ім? Што могуць змяніць мае словы? Што зменіць гэтая кароткая спрэчка на пероне? Пройдзе колькі там мінут, і Міхась паедзе. Ён будзе далёка. Што ж павязе ён з сабою? Успаміны аб спрэчках і злосць? Гэта ж неразумна, зусім неразумна з майго боку! А што тады разумна? Моўчкі глядзець на ўсе ўчынкі Міхася і падхвальваць яго?..

Міхась варушыў брывамі; мае словы, мабыць, не давалі яму спакою. Ён хацеў пярэчыць мне, але стрымліваўся. Гэтыя намаганні адбіваліся на яго абліччы, і ад таго на твары было нешта ад дзіцяці, незаслужана пакрыўджанага. Я голасна засмяялася.

— Радуешся? — запытаў ён.

— Не, Міхаська, не радуюся. Проста згадала знаёмую краўчыху. У яе была прыказка: «апошняе слова, як перад шыбеніцай». Скажа і заўжды схлусіць. Ты не злуйся, бо я баюся за цябе.

— Гэта тваё апошняе пажаданне?

— Не злуйся і не насуплівай бровы. Непрыгожа гэта. Ну, усміхніся. Во, цяпер лепей... Калі цябе чакаць?

— Я ж кажу табе: не ведаю!

— Ты пастарайся. Я буду вельмі трывожыцца. У мяне і цяпер увесь час — трывога...

— Гэта — адкінь. Глупства гэта!

— Я табе праўду кажу: нейкае нядобрае прадчуванне...

— А мне ляцець хочацца... Наперад! Э-эх, люблю ж я чыгункі гэтыя. Увогуле — дарогу.

— А ў мяне ад яе — трывога.

— Мала гаворана пра тое? Пакінь!..

Я намагалася адшукаць на Міхасёвым твары хоць маленькі цень ці трывогі, ці заклапочанасці, ці непамыснасці. Нічога! Чысты. Ясны. Нават крыху вясёлы твар. Няўжо яму гэтак лёгка паехаць, ведаючы, што я застаюся адна? Застаюся з трывогаю і жахам...

— Выйдзе якая затрымка — напішу,— паабяцаў ён і паклаў мне руку на плячо.

— Ты беражы сябе,— папрасіла я.

— Каму суджана быць на шыбеніцы, той не патоне.

— Ну, ну! Глядзі мне там! Ідзі ў вагон. Чуеш?

— Нічога, паспеем...

Міхась ускочыў на прыступкі, калі глуха ляснулі тоўстыя талеркі буфераў; цягнік крануўся.

Некаторы час я ішла побач з вагонам, і думкі адразу паспакайнелі. Міхась едзе, а я застаюся, і мне трэба працаваць, чакаць яго. Ва ўсім гэтым была строгая пэўнасць, пяўмольная паслядоўнасць падзей, якія прыняты сэрцам і якія — цяпер я была глыбока перакапана ў гэтым — ніхто змяніць не можа. І таму, што гэта было менавіта так, а не інакш, я шчыра радавалася. Радавалася сонцу. Блакітнаму небу. Бліскучым рэйкам, што гулі ўжо і звінелі.

Міхась адчыніў акно. Я памахала яму рукой. У яго вачах, хоць Міхась цяпер і ўсміхаўся, не было радасці; я заўважыла гэта, але не ўстрывожылася, а толькі адзначыла тое ў сабе і вельмі цёпла падумала пра мужа.

## 19

Высокі шэра-белы гмах завода паўстаў перада мною адразу ж, ледзь я павярнула на вуліцу, што вяла да моста. Чырвоныя фермы хавалі ад мяне вугал галоўнага корпуса. Я пабегла шпарчэй і на сярэдзіне моста прыпынілася, уражаная і ўзрадаваная. Асветленыя сонцам, блішчалі шырокія вокны, зіхацеў, як люстраны, шкляны дах. Узыходзілі на заводскі ганак рабочыя. Жоўтыя плямы святла дрыжалі ў вокнах чацвёртага паверха. Электрапечы! Гэта мой цэх!.. Зараз я ўвайду туды, убачу сваіх сяб-

роў... Ніна, вядома, ускіне рукі, войкне: ай, Стэфачка, дзе ж ты была?..

А што я ім адкажу? Хварэла?.. Так... У мяне ж бюлетэнь ёсць... Вось ён... Тут...

Скуранοе вечка сумачкі напацела ў руцэ. Якая цяжкая сумачка! Быццам каменне ў ёй!..

Дошкі насцілу гулі — на мост уз'ехала машына,— а мне здалося, што я стаю на пероне і чую, як гудуць рэйкі і ціха вызваньваюць колы вагонаў. Не, я не змагу! Я не буду хлусіць! Як я ўвогуле магла пагадзіцца на гэта?.. Сяброў падмануць?.. Не, ніколі!..

«Ты можаш хоць адзін раз на жыцці паслухаць мяне? Толькі адзін раз...»

Міхасёвы словы ўсплылі раптоўна, быццам зваліліся на мяне з машыны, якая толькі што грукацела побач. І адразу прыйшла злосць. Я ненавідзела свой учынак. Я ненавідзела нават думкі аб ім.

Спакойна і ўпэўнена, з нейкай дзелавітай сур'ёзнасцю, я выцягнула бюлетэнь з сумачкі, падрала яго на дробныя кавалкі і кінула за парэнчы моста. Вецер узвіў шматкі паперы — і яны, як сінія матылі, лёгка закруціліся ў паветры...

Чарняўскага ў прахадной не было. Нейкі незнаёмы вахцёр прытрымаў мой пропуск у валасатых пальцах, прыдзірліва вывучыў фотакартку, і, хоць пазнаць мяне на ёй было зусім няцяжка, спытаў:

— З якога цэха?

— Там жа напісана. Электрапечы.

— Няхай напісана. А мой абавязак — папытаць. Нешта не прыкмячаў цябе...

— Даўно не была на заводзе. Таму.

— Вось я і гляджу: стары пропуск.

— Чаму стары?

— Сягоння што маем? Дваццатае. А пропуск сапраўдны толькі па першае. Звaніце ў аддзел кадраў...

Вахцёр, паказаўшы рукою на тэлефон, адразу ж зрабіўся грозны. Я моўчкі глядзела на маленькі столік, на тэлефон, які стаяў на ім... Я ведала, каму трэба званіць. Але што я скажу? Як?..

— Стэ-эфа?.. Стэфачка! Родная!..

На мяне, як віхор, наляцела Ніна. Яна тармасіла мяне, цягнула за руку і смяялася.

Вахцёр загарадзіў нам дарогу:

— У яе пропуск з пратэрміноўкай. Не пушчу!..

— Ды гэта ж Стэфа! Вы што, не бачыце? — з непадробленым здзіўленнем абурылася Ніна.— Аформіць яна вам пропуск. Не палохайцеся вы гэтак!..

Вахцёр толькі пацiснуў плячыма.

— Дзе ж ты была? Дзе? Ой, Стэфка, а мы шукалі... Я дык думаю: не сустрэнемся болей...

Я чакала гэтыя пытанні, ведала, што яны будуць. Але як цяпер адказваць на іх?..

Дзяўчаты з цэха размоткі, што ішлі з гардэробнай, зводдалі павіталіся са мною. Я намахала ім рукою. На пытанні Ніны нічога не адказала. Сама запытала:

— А што тут у вас новага? — я хацела неяк змяніць гаворку.

— Працуем. У мінулым месяцы далі сто дваццаць працэнтаў. Няблага, праўда? Здаецца, ты яшчэ была... Ну, вось... А далей — горш было. Стаялі чатыры печы. Ці гэта пры табе?

— Не.

— Вось бачыш...

А што «бачыш» — не сказала. І тое, што яна не памятала, калі я была апошні раз на заводзе, вельмі балюча ўдарыла мяне; я раптам адчула недагаворанасць у словах Ніны. Вядома, пакрыўдзілася.

— А чаму не ў цэх? — запытала я, калі ўбачыла, што Ніна павярнула на другі паверх.

— Сёння мы не працуем. Заўтра ў ноч змена.

— А чаго на заводзе?

— Журко выклікае ўсіх баскетбалістак са зборнай завода. Прадулі ўчора дэпоўцам. Будзе, мабыць, выносіць нам падзяку...

— Паспее ён гэта зрабіць. Зойдзем у цэх. Хоць на хвіліначку. Прашу цябе...

Не ведаю чаму, але адной ісці ў цэх мне не хацелася. Я не баялася, бо ведала: працуе не наша змена. А ўсё роўна хацелася, каб побач была Ніна...

Мы ўвайшлі ў цэх, і я адразу ўбачыла Фаіну Усцінаўну. Яна стаяла ля калоны, дзе віселі правілы па тэхніцы бяспекі, і нешта гаварыла незнаёмаму чалавеку ў сінім халаце.

— Хто гэта?

— Не ведаю,— сказала Ніна.

Фаіна Усцінаўна павярнулася — ішла да нас. Убачыла мяне, прыпынілася.

Што яна скажа?

— Стэфа?.. Прабачце, Васіль Сямёнавіч, я даганю вас,— і зноў да мяне: — А мы ўжо і надзею страцілі цябе пабачыць. Ты дзе згубілася?..

Яна здзівілася, але не ўзрадавалася: у голасе Фаіны Усцінаўны было незразумелае замяшанне. Мяне, відаць, тут сапраўды не чакалі. І гэта — пакрыўдзіла.

— А я нідзе і не гублялася...

— А я гэтак падумала,— перапыніла мяне Фаіна Усцінаўна, пазіраючы на чалавека, з якім стаяла ля калоны: ён прыпыніўся пры выхадзе з цэха.— Чула, што ты да бацькі, быццам, паехала... Здзівіла гэта. Нікому нічога не сказала! Я чамусьці падумала: можа, збегла? Спалохалася і збегла. У нас такія выпадкі былі. А ты вось з'явілася...

— Не магла я раней, Фаіна Усцінаўна...

— А паштоўку цяжка было напісаць? Мы б ведалі. А то з камітэта мяне цярэбяць: дзе Шукан ваша? А што я магла адказаць? Не ведаю, кажу. Журко да цябе людзей пасылаў...

— Спачатку я хварэла. Тады да мяне яшчэ дзяўчаты прыходзілі. Рабікава прыходзіла...

— Бюлетэнь ёсць?

— Няма.

— Бачыш, як атрымліваецца. А мы тут — шукай цябе. І каб ведалі дзе?.. Даруй, мяне чакаюць... Ты вось што лепей: напішы тлумачальную запіску і аднясі Ханюцінай. Я там буду...

Яна пайшла ад нас, а мы стаялі моўчкі. Гулі электрапечы. Чырвоныя водсветы былі на бабінах, што маўкліва плылі на падвесках аўтаматычнай лініі. Пахла маслам і разагрэтым, яшчэ не паспеўшым астыць, шклом. Я ўдыхала гэты пах на поўныя грудзі...

— Скажы мне, Стэфа,— пачала Ніна.— Скажы, што здарылася?..

— А што я табе раскажу? Ты ўсё ведаеш. Месяц Шукан не была на заводзе. Ніякіх апраўданняў у яе няма...

— Але што ты рабіла ўвесь гэты час? Спявала?

— Было і гэта...

— А цяпер што будзе? Ты думала? Хоць бы бюлетэнь які мела...

Ён быў, дарагая мая Ніначка. Ён быў! І было яшчэ тое нядобрае, пра што мне нават думаць сорамна. Гэтак блага на душы, гэтак непамысна мне не было на заводзе ніколі. Я звычайна прыходзіла сюды, ганарліва ўзняўшы галаву.

Былі дні, што ў сэрцы жыла туга, але я магла прама глядзець людзям у вочы. А цяпер у мяне чырванелі шчокі, апаленыя сорамам, устрывожана стукала сэрца...

— Скажы, Ніна, а хто працуе на маім месцы?

— А ты што, думала, печы будуць чакаць? З першай змены далі чалавека...

— Добра, Ніна, я пайду да Ханюцінай.

— Як сабе хочаш, калі няма жадання гаварыць... Ідзі!..

Недзе глыбока ў сэрцы жыло пераконанне, што я раблю не зусім правільна, што ў мяне няма ніякага права таіцца ад сяброўкі. Даруй мне, Ніначка, але я не хачу гаварыць табе падрабязнасці, не хачу гаварыць пра Міхася. Чаму? Нават не ведаю. Можа, таму, што я доўга шукала шчасця і цяпер, калі знайшла, баюся згубіць яго?..

На кавалачку паперы, седзячы ў чырвоным кутку, я напісала кароткае тлумачэнне ў заўком. Зусім маленькае, кароценькае і панесла яго Ханюцінай.

Калі я ўвайшла ў заўком, Ханюціна нешта разглядала на геаграфічнай карце, і яе левая далонь ляжала на блакітнай пляме Чорнага мора. Ханюціна павярнула галаву, аздобленую вянком тоўстых рудых кос, і сказала, хоць я не паспела яшчэ адкрыць рот:

— Толькі дамовімся адразу: пуцёўкі дадзены і больш нічога змяняць не будзем...

— У мяне не пуцёўкі. Я прынесла тлумачальную запіску.

— Уф! Даруй,— Ханюціна адышла ад карты.— Я цябе з Гуцікавай пераблытала, з ткацкага.

— Не, я з электрапечаў. Начальнік цэха загадала, каб я напісала тлумачальную запіску. Вось...

— Давай сюды...

Ханюціна надзела акуляры, потым зірнула на мяне, крапула залачоныя дужкі акулляраў двума пальчыкамі, перачытала маё тлумачэнне і зноў зірнула на мяне.

— Нічога не разумею,— сказала яна.— Па гэтай паперцы мы не можам аплаціць табе...

— Я не прашу аплаціць. Я хачу прыступіць да работы...

— А гэта ўжо не мне рашаць. Ёсць дырэкцыя, яна і піша загады на работу. Ты гаварыла з начальнікам цэха?

— З начальнікам змены гаварыла...

Адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшла Фаіна Усцінаўна.

— Ага, вось і ты,— Ханюціна, смеючыся, пайшла ёй

насустрач. Яна быццам адразу ж забылася, што я сяджу тут.— Вось добра, што ты зайшла... Я толькі што ў Мінск званіла. Яны абяцаюць яшчэ дзесяць пуцёвак на верасень. Трэба ўвечары сабраць заўком і размеркаваць...

— Увечары не магу. Інжынер з Хрустальнага пагадзіўся правесці нараду з наладчыкамі.

— Калі ж табе можна?.. Хочацца, каб ты прысутнічала, бо ты заўжды скардзішся, што тваю змену крыўдзім. Тады заўтра пасядзім. Што там у маім лічыльніку запісана?.. Чакай, тут жа з тваім аператарам гаворка. Сядай, будзем разбірацца...

Фаіна Усцінаўна стомлена села ў крэсла. Яна глядзела на мяне, але мне чамусьці здалося, што думае яна зусім пра іншае.

— Што ж тут разбірацца,— урэшце сказала яна.— Кінула на месяц работу...

— А прычына?

— Прычыны ніякай няма. Прагуляла. І ўсё...

— Ну, а ты што нам скажаш? — Ханюціна запытала гэта, гартаючы пакрэмзаныя старонкі лічыльніка, што стаяў на стале.

— Фаіна Усцінаўна кажа праўду...

— Гэтак, значыцца,— Ханюціна села за стол і паклала перад сабою моцна сціснутыя кулакі.— Ну, паглядзім. Ты можаш ісці, Шукан. Змена калі ў вас?

— Заўтра ў ноч,— падказала Фаіна Усцінаўна.

— Вось і добра. Заўтра на ранку яна да мяне зойдзе. Дамовіліся? Ну, ідзі. І перапішы тлумачэнне. Гэта ж дакумент! Паперы людскай няма?..

Я ўзнялася. Пальцы на нікеляванай ручцы дзвярэй непрыемна здрыгануліся. Яшчэ ёсць час, можна павярнуцца і сказаць. А што сказаць?.. Сказана праўда. І ад яе, ад гэтай праўды, мне нікуды не схавацца...

У цэх я не зайшла.

Я не хацела бачыць электрапечы, не хацела слухаць металёвы гуд размотачных станкоў, не хацела нават ні з кім сустракацца. Нейкае здранцвенне было ў думках, змярцвеласць. Я паціху брыла вуліцаю, часта прыпынялася, глядзела на вітрыны, на аўтобусы, потым павярнула ў парк. Вакол было жыццё — няспыннае, добрае, радаснае жыццё. Ля маладых клёнаў, што роўным шнурам сталі ўсцяж алеі, бегалі дзеці. Вецер варушыў у куточку кветніка кавалачкі сіняй паперы.

Мой бюлетэнь?..

Я здрыганулася, прыгледзелася. Не, гэта звычайныя паперкі ад цукерак... Аблегчана ўздыхнула. І тады прыйшла знаёмая злосць. Чаго ўзрадавалася? Ніхто не ведае пра твой бюлетэнь? Дык што з таго? Праўда не змянілася ад гэтага. І нельга жыць, жыць і ўвесь час адчуваць, што спакой набыты падманам. Ды які гэта спакой?.. Гэта ж няпраўда!

А жыць ёю — нельга!

## 20

Ранкам, калі я прыйшла ў заўком, мяне здзівіла не жахлівая цішыня, што запанавала адразу, ледзьве я адчыніла дзверы, а твар Ханюцінай. Яна ўзнялася з крэсла, моўчкі зірнула на мужчыну, што сядзеў у кутку пакоя і трымаў у руцэ разгорнутую газету, і, падаўшыся ўсёю пастаццю наперад, амаль прыціснула жыватом раскладзеныя на стале паперы.

— Ну! — рэзка кінула Ханюціна, нават не адказаўшы на маё нясмелае прывітанне.

— Вось, перапісала заяву. Прынесла... Напісала больш падрабязна ўсё... І ўвогуле...

— Ну, ну... Ці-ікава!..

Вочы Ханюцінай пакруглелі, яна хуценька прачытала маю заяву, потым зняла акуляры і асцярожна паклала іх на стол.

— А мы прынялі правільнае рашэнне ўчора,— хутка і, як мне здалося, узрадавана сказала яна.— Зірніце, таварыш Грамер. Юрысту завода цікава будзе пазнаёміцца. Аказваецца, тут была яшчэ і падробка...— Яна падала маю заяву Грамеру і, зноў зірнуўшы на мяне, паківала галавою: — Яшчэ адна ганьба заводу. Не так, дык гэтак... Ты ведаеш, да якой думкі мы тут прыйшлі? Разгледзець твой учынак на таварыскім судзе...

— Пачакайце, Нона Пятроўна,— папрасіў Грамер.— Мне б хацелася пагаварыць са Стэфай.

— Я перашкаджаю?

— Не, не...

Грамер падсунуў мне крэсла і прапанаваў сесці. Я глядзела ў вялізныя чорна-сінія вочы Грамера, але думала зусім не аб ім. Ва мне расла, сталела вострая непрыязнасць да Ханюцінай.

— Мне даручана ваша справа, як юрысту завода,— сказаў Грамер, і я прымусіла сябе думаць толькі аб ім.—

Не магу і не буду хаваць ад вас нічога. Я ў вельмі цяжкім становішчы: зусім мала ведаю. Скажыце, калі ласка, вы ўвесь час хварэлі?

— Я хварэла тры дні. Потым гэтак скаліся абставіны...

— Вы можаце сказаць, якія?

— А што зменіцца? Ёсць жа факт: збегла, кінула завод...

Сказала я гэта паспешліва, быццам баючыся, што перадумаю. Але што было перадумваць? Я прыняла праўду, як я сказала пра яе. Гэтае праўды не ведае толькі Міхась. Як ён быў патрэбен мне ў той час!.. Параіцца з ім, пачуць яго дабрадушлівае падсмейванне...

— І яшчэ адно пытанне,— сказаў Грамер.— Вы пішаце тут пра бюлетэнь... Ён ёсць у вас?

— Няма. Я ж пісала ў заяве...

— Заява — гэта папера. А вы — жывы чалавек. Скажыце, мы можам з вамі сустрэцца заўтра? Прыкладна а шостай гадзіне...

Словы Грамера даляталі быццам здалёк, як бы зацягнутыя туманам. Затое рэзка выступаў з гэтай дымкі вострыя, крыху загнуты нос і чорна-сінія вочы.

— Вас часова не дапусцяць да работы,—сказаў Грамер.— Усё будзе залежаць ад рашэння, якое прымуць вашы сябры на судзе...

У голасе Грамера былі цёплыя ноткі, і ад гэтага крыўда мая рабілася яшчэ вастрэйшай. Што цяпер можна змяніць? Нічога, бадай... Пайсці да дырэктара?.. Казаць, даводзіць і апраўдвацца?.. А што даводзіць? Каму?..

Я адчувала, што цяпер, нават у тым выпадку, каб увесь мой лёс залежаў ад нейкай просьбы да Ханюцінай, я б не змагла сказаць ніводнага слова ў сваё апраўданне. Пад сэрцам узнік знаёмы боль; я сцяла зубы, баючыся, што не стрываю і крыкну, і боль вырвецца з грудзей навонкі, а ўслед за ім рынуцца крыўдныя і жахлівыя словы, што бунтаваліся ва мне даўно і не давалі спакою.

## 21

Самае страшнае — гэта чакаць. Чакаць, калі няма ўпэўненасці, калі ты не ведаеш, што будзе наперадзе. А для мяне чаканне было ўдвая цяжэйшае; я чакала Міхася і чакала таварыскі суд. Я ведала дзень суда. Але я ні-

чога не ведала пра Міхася. Ён нічога не паведамляў і не ехаў.

Поўная трывогі, я не знаходзіла сабе месца і, каб хоць неяк заняць час, намачыла ў начоўках усё тое, што трэба было памыць і тое, што магло яшчэ чакаць, бо было зусім чыстае. Гэты занятак крыху суцешыў мяне, змрочныя думкі крыху зглухлі, і я нават заспявала, схіліўшыся над начоўкамі.

Памыўшы бялізну, я паскладала белыя скруткі ў таз і, наважыўшыся ісці ў сад, ледзьве не выпусціла яго з рук. У дзвярах тэрасы стаяў Міхась. Я нават не адразу пазнала яго: ён быў у новым касцюме, пры гальштуку і ў асляпляльна белай кашулі.

— Здаравенькі булы, як той казаў, таварыш Шукан!

— Ай... Міхаська! Прыехаў!..

— Точна! Ён самы, уласнаю персонаю!

Бухнуўшы таз на падлогу, я паляцела да Міхася. Ён, адставіўшы чамадан, схапіў мяне на рукі.

— Значыцца, мыем бялізну,— крыху спагадзя адзначыў, жартуючы, Міхась.— А я думаў, мяне сустрэнуць кветкамі.

— Я зараз прыбяру ўсё. Зараз. Можа, ты есці хочаш?

— Абедаў добра. Не хачу.

— Крышачку мне засталося. Развесіць толькі. І я скончу ўсё...

— Давай,— велікадушна дазволіў Міхась.— Ды не спяшайся асабліва. Не гарыць!

— Ты праходзь у пакой.

— Не, тут пасяджу.

— Тут я буду мыць падлогу.

— Мый. Чаго табе памагчы? Давай бялізну пакідаю на вяроўку.

— Прыдумаеш. Сядай... О-оо! Які ты прыгожы! Святочны зусім. І касцюм і бацінкі модныя!

— А ты думала як! — ён ганарліва падабраў губы, стрымліваючы ўсмешку, але яна выпірала з яго, і губы самі па сабе раскрыліся: — Я ж казаў табе: альбо грудзі ў крыжах, альбо галава ў хмызах. Крыжы тут!

Міхась пастукаў рукою ў грудзі і сеў, паклаўшы адну нагу на другую. І ўся яго пастава, і жоўтыя, з вострымі насамі, бацінкі, і яркія, у чырвоную палоску, шкарпэткі, і сіні касцюм, і нават усмешка — усё гэта на маленькай непрыбранай тэрасе дужа кідалася ў вочы і было нібыта запазычана з іншага, нейкага багатага і прыгожага свету.

і вочы яго, што паспешліва аббеглі падлогу, закіданую ашмоткамі мыльнае пены, былі таксама чужыя, зусім без цяпла.

— З добрым прыехаў? — запытала ўрэшце я тое, што хацела ведаць з самага пачатку.

— Кажу, крыжы!

— Не жартуй...

— Кажу, крыжы. А калі прасцей: грошы, падзяка, адпачынак!

— Не разумею...

— Грошы атрымаў. Адпачынак даюць. Падзяку абяцаюць у загадзе. На свята будзе загад. Во як у нас! — Ён дастаў блiскучы белы партсігар, выцягнуў папяросіну, закурыў, але партсігар не схаваў у кішэню, а ўсё глядзеў на яго, перакладваючы з адной рукі ў другую.

— Раскажы падрабязней, як цябе там сустрэлі...

— А што расказваць? Ну, прыехаў я. Здаў паперы. І што ж, ты думаеш, было далей? Да начальства клічуць. Ну, думаю, прапаў Міхась. Даведаліся пра вэрхал на астраўку. Дзе там! І блізка ніхто не ведае. Даюць падзяку! Аніводнае бервянцо ж у нас не прапала, не згубілі. Ну, і прэміроўка за гэта выйшла. Юрка мне гаворыць: табе трэба быць чалавекам прыстойным...

— Юрка? А хто гэта?..

Міхась счакаў, пакуль я папраўляла валасы, што выбіліся на лоб, і выцірала твар тыльным бокам далоні. Потым махнуў рукою, грэбліва зморшчыўся:

— Ёсць там у канторы адзін, вельмі лоўкім ён сябе лічыць. На мае грошы, ліпун няшчасны. Калі ў руцэ — ён табе сябар. А без гэтага не прызнае... У рэйс збіраліся — глядзець на мяне не хацеў. А начальства мяне прыкмеціла — і ён заўважыў, ласкавы зрабіўся...

— А што табе той Юрка? Не можаш без яго?

Міхась шчоўкнуў партсігарам.

— У тым і штука, што і без гэткіх не пражывеш. Зайшлі мы з ім у краму. Вісяць на рульчыках касцюмы — драбяза вісіць. Юрка прадаўцу мірг-мірг, гэтак: патрэбен добры касцюм. Той адразу: «Пашукаю на складзе». І, думаеш, шукаў? Праз хвілю і нясе. Ну, лаўкачы! Праўда, касцюм нішто. Як на тваю строгую думку?

Міхась, фасоніста выгнуўшы грудзі, прайшоўся па тэрасе і ледзь не абярнуў начовак; вада ў начоўках баўтанулася, хлапы наздраватае пены вылецелі на падлогу.

— Цішэй, Міхаська! Разлieш мне ўсё! Ідзі ты лепей у пакой. Зараз тут усё паканчаю...

— Давай толькі хутчэй...

Я спехам выцерла падлогу, вынесла і развесіла бялізну. Міхась па-ранейшаму крыху бянтэжыў мяне. Ён быў зусім не падобны на таго Міхася, якога я выпраўляла зусім нядаўна: паехаў хлопец у стаптаных ботах і старых паношаных штанах, а прыехаў зусім іншы чалавек. Я хацела бачыць на ім сіні касцюм, і вось ён ужо надзеў яго, і мне было крыху крыўдна, што Міхась купляў яго без мяне. Крыўдна было і ад яго жартаўлівых слоў пра кветкі. Я ведала, што гэта не папрок, а толькі жарт, але на сэрцы не рабілася лягчэй.

Я хуценька павесіла бялізну ў садзе. Ля бэзу цвілі белыя флёксы. Я нарэзала букет і панесла яго ў пакой.

— Вось табе і кветкі. Мог жа ты паведаміць, што прыедзеш.

— Стэфачка, не мог. Маршрутнае таксі надарылася. Фі-іць!.. І тут. Ну, а гэта табе... А гэта Марынцы... А гэта — зноў табе.

Ён выцягнуў з адчыненага чамадана, што стаяў на крэсле, цёмна-зялёную сукенку, прыклаў да маіх грудзей:

— О! Не памыліўся. Харошы колер. І Марынцы такое ж. І пайду я між вас, зялёненькіх, сіненькі. А туфлікі табе падабаюцца?..

Мяккая тканіна сукенкі ляжала ў мяне на руках. Шчыра кажучы, фасон мне не падабаўся. Не падабаўся мне і колер. Але ніводнае з тых шыкоўных надзяванак, што віселі ў маёй шафе, не прыносілі мне гэткай мілай радасці, як гэтае вельмі простае і нязграбнае плацце.

— Дзякуй табе вялікае,— мая падзяка была шчырай.

— А чаму ты не пахваліш мой касцюм?

— Я ж казала табе: касцюм добры...

— Хм... Добры! Люкс! — ён узняў палец і хутка апусціў руку, быццам торкнуў уверсе ў нешта гарачае.— Між іншым, Юрка раіў заказаць касцюм у атэлье. Але я падумаў: а ў чым ехаць?

— Ехаць? Ты збіраешся некуды ехаць?

Бровы Міхася ўздрыгнулі, ён пачырванеў.

— От жа здарэнне! Ну, ты падумай,— смеючыся праказаў ён.— Гэткае важнае, а я — маўчу! Пуцёўку ж мне далі...

— Далёка?

— У Адлер! — сказаў ён урачыста.— На Чорным

моры гэта. І адмаўляўся, і казаў, што не трэба, што не люблю я гэтых курортаў — не памагло.

— А чаму не паехаць? Паязджай абавязкова!

— Ты нечага пакрыўдзілася.

— Гэта табе здаецца.

— Не. Я ж бачу.

— І я бачу: есці ты хочаш? Зараз я збяру вячэру...

— Чакай, а што ў цябе на заводзе? — як бы што згадаўшы, запытаў ён.— Што на заводзе?..

— Усё добра...

— Лаялі?

— Так... Крыху.

— А бюлетэнь?

— Я ж табе кажу: усё добра.

Словы нараджаліся паасобна ад маіх думак, і я здзіўлялася, што вымаўляю іх. Навошта я абманваю яго? Няўжо толькі на тое і трэба было чакаць Міхася, каб цяпер хлусіць яму?.. Не, няхай ён лепш едзе. Так... У мяне няма права затрымліваць яго. Я магу сказаць, і ён не паедзе, застанецца. Але чым гэта паможа мне?.. Я вінаватая. І быць пакаранай павінна я, а не хто-небудзь яшчэ. Пакаранай за сваё маладушша, за тое, што хацела схавацца, уцячы ад неабходнасці паглядзець людзям у вочы і сказаць ім усю праўду.

— Бачыш! — весела выгукнуў Міхась.— Што я табе казаў? Мой подпіс! Ого-го! За мяне трымайся — не прападзеш. Эх-эх і хацеў жа я бутэлечку каньячку ў чамадан сунуць. Два святы адзначылі б. Мой поспех і тваю ўдачу!..

— Калі ўжо і святкаваць, дык тры.

— А трэцяе?

— Наша развітанне... Ты ж едзеш...

— Ну, якое ў чорта свята ад'езд! Я нават крыху шкадую, не трэба было браць пуцёўку. Але ж і адмовіцца няёмка. Заганарыўся, скажуць, Міхась.

— А табе важна, што людзі скажуць?

— Пляваць я на іх хацеў!

— Нядобра ты гаворыш...

— Не ў тым соль! Я — гаспадар сабе. І не люблю, калі камандуюць. Знаўцы некаторыя...

— А калі ты думаеш ехаць?

— Бавіцца не выходзіць, паколькі пуцёўка з дваццаць пятага. Сёння субота. У аўторак, мабыць, трэба выпраўляцца. Як на твой пагляд?..

— Ты гаспадар сабе...

— І ўжо завялася! Ды параіцца, як з чалавекам, хачу...

— А я што, пярэчу? Хочаш у аўторак — паязджай у аўторак. Поездам думаеш?

— Можна б, канешне, самалётам. Да Мінска, а там — перасесці. Але надвор'е ж цяпер благое...

Міхась зірнуў у акно на нізкае хмарнае неба, зацягнутае шэрай, быццам дажджавой дымкай, уздыхнуў:

— Наўрад ці паляціць самалёт. А можа, да аўторка палепшыцца? Самалётам яно хутчэй. А то прападуць дні. А па грошах — адно выходзіць. Падлічваў...

І тое, што ён падлічыў ужо выдаткі на дарогу, і тое, што ён думаў пра тую паездку без мяне, і думаў цяпер, калі я была побач з ім,— крыўдзіла. Але я нічога не сказала яму, а толькі запытала:

— А можа, цягніком?

— Баішся, што разб'юся?

— Не. Ты мог паехаць у панядзелак. І зрабіць прыпынак у Баравічах. Пагасцяваць дзянёк, а потым — далей. І завязеш што-небудзь Марынцы. Я думаю паслаць ёй тое-сёе...

— Ты праўду кажаш! Точна. Гэтак і запішам. Еду ў панядзелак і прыпынак у Баравічах...

Ён пагадзіўся надта паспешліва, і гэта насцярожыла. Нейкая падазронасць закралася ў сэрца, і яно застукала байчэй. А побач з падазронасцю была ўжо сапраўдная крыўда. Мора... Чорнае мора... Даўно, вельмі даўно мы марылі, што паедзем туды разам. А цяпер ён едзе адзін... Навошта ён узяў гэтую пуцёўку? І чаму гэтак паспешліва збіраецца, паспешліва пагаджаецца са мною?..

Я ні ў чым не вінаваціла Міхася, але крыўда жыла, і мне цяжка было пераканаць сябе ў тым, што ніякіх падстаў для крыўды няма.

— Слухай, Стэф, у мяне ёсць ідэя! Не будзем мы сядзець у хаце, а пойдзем у рэстаран і павячэраем. А потым пагуляем. На Дзвіну пройдзем...

— Навошта мне твой рэстаран? Навошта?

Мне стала горача — праз крыўду прабілася дурная рэўнасць: Міхась паедзе туды не адзін. Для рэўнасці, як і для крыўды, было вельмі мала падстаў, і ад таго рэўнасць вырасла неспадзеўкі хутка і напалохала мяне. Зусім пазнаныя адценні яго голасу, словы, рухі, нават новы касцюм нечакана адкрылі мне нейкі важны сэнс: усё, літаральна ўсё, ішло на пацверджанне мае здагадкі.

— Можа, ты усе ж скажаш, што з табою адбываецца? — запытаў Міхась.— А то, ведаеш, я ўжо калі засярдую...

— Нічога не адбылося.

— Тады апранайся і — гайда! Не хочаш у рэстаран ісці — пагуляем крыху і вернемся...

— Трэба ў хаце парадак навесці...

— Воўк яго задаві, той парадак. Усю работу не пераробіш. А вячэра — ёсць вячэра... прапусціш — не дагоніш. Тры ж святы ў нас. Сама казала.

Міхась наважыўся пагладзіць маю галаву; злуючыся, я адштурхнула яго руку.

— Ідзі!..

— Не пойдзеш?

— Не магу ж я ісці ў гэтай спадніцы. Пачакай на ганку. Пераапрануся...

Дагэтуль не ведаю: што прымусіла мяне пагадзіцца. Можа, ягоная злосць, а можа, сорам за сваю непатрэбную, беспадстаўную і невядома да каго рэўнасць...

У рэстаране мы селі на самым відным месцы за круглым столікам. Я сказала Міхасю, што сёння не буду пярэчыць, няхай робіць, што хоча.

— Тады мы возьмем толькі віна.

— Як хочаш!

— Я вазьму адзін келіх каньяку: у ім семдзесят пяць грамаў.

— Вазьмі два келіхі.

— Ты будзеш таксама?

— Не. Я вып'ю трохі віна. А гэта — табе. Я хачу, каб ты выпіў не адзін келіх, а два... Толькі скажы, каб віно было добрае.

— Віно будзе добрае. Мы закажам мускат.

— Як хочаш.

— Тады на гэтым і спынімся. Табе адзін мускат, а мне — каньяк. Два, паколькі ты хочаш...

Грала радыёла. Незнаёмая мелодыя блукала між тоўстых прыгожых калон, узлятала да столі, і з вялізнай іскрыстай люстры сыпаліся тонкія шкляныя гукі; яны лёталі вакол нас, стукаліся ў высокія бакальчыкі, і шкло пачынала тонка звінець; віно ў бакальчыках быццам пацімаху ўздрыгвала, і на яго празрыстай паверхні адбіваліся маленькія люстры. У мяне было моцнае жаданне сказаць Міхасю ўсё тое, ад чаго гэтак тужліва і балюча сціснулася сэрца.

Але я не зрабіла гэта. Не зрабіла таму, што сваім прызнаннем забараніла б яму ехаць. Калі Міхась будзе ведаць, што ў сераду на заводзе суд, ён не паедзе, не зможа паехаць. А потым будуць папрокі. Магчыма, яны і не будуць, але мне цяжка будзе жыць, разумеючы, што я забараніла яму ехаць.

— Я хачу ў цябе спытаць,— сказаў Міхась.

— Слухаю...

— Чаму гэтак раптоўна знята «вета»?

— Сама не ведаю...

— А мне здаецца, што гэта — толькі педагагічны прыём. Разлік на давер'е. Самая модная ў наш час тэндэнцыя...

— Адносна сённяшніх маіх рашэнняў ты памыляешся. Мы проста адзначаем тры святы.

— Хочаш, я скажу табе шчыра: у гэтым плацці ты вельмі прыгожая. Можа, яно не зусім моднае — не ведаю, але хацеў бачыць цябе ў ім. І вось бачу...

Міхасёвы словы абміналі мяне, не абуджаючы ў душы ні радасці, ні крыўды, ні злосці, і толькі некаторыя з іх прабіваліся праз раптоўна ўзнікшую сцяну абыякавасці і асядалі ў душы, нараджаючы непрыемнае разуменне несправядлівасці ўсяго таго, што адбывалася ў нашым сумесным жыцці. Я не ведала, што трэба зрабіць, каб гэтае несправядлівасці не было, але змірыцца з ёю не магла і адчувала, што гэтае пачуццё вельмі падобна на тугу, толькі значна большае па сваёй сіле, і ад яго ў душы разлівалася не самотная горыч, а мяккае і добрае святло. Гэтае святло прабівалася навонкі, залівала ўсё вакол, і ў яго лёгкай празрыстасці паўстала перада мною рэальнасць, тое, што я намагалася схаваць ад сябе. Міхась паедзе на поўдзень. Ён паедзе, а я застануся адна. Крыўдна. Балюча. Але гэта, мабыць, адплата мне, адплата за тое, што я схлусіла сабе, была маладушная.

А каханне не церпіць маладушнасці. У каханні трэба быць бязлітасным і строгім. Так, бязлітасным і вельмі строгім у першую чаргу да сябе, да сваіх учынкаў, да ўсяго таго, што ты робіш...

Калі мы выйшлі з рэстарана, неба над горадам, асветленае слабымі пунсовымі водбліскамі вечаровай зары, было дымна-шэрае. Дзьмуў вецер, і масляніста-яркія, бліскучыя ад святла ліхтароў лісточкі таполяў на тратуарах весела і мякка лапаталі. Мы ішлі павольна, і толькі тут, на вуліцы, я адчула, што вельмі моцна стамілася за апошнія дні.

Стамілася ад сораму і хвалявання на заводзе, стамілася ад трывогі, чакаючы Міхася, стамілася сёння, мыючы бялізну. Але цяпер трывога адышла, быццам праваліліся ў нябыт, і розум, як туман, спавіла санлівасць. Здаецца, ніколі ў жыцці не хацелася мне гэтак моцна спаць.

— Міхаська, я засну тут, мабыць,— сказала я пазяхаючы.

— Не спала ноччу?

— Спала. Але хачу спаць...

Вецер сарваў з таполі лісточак і кінуў яго мне на плячо; я злавіла мяккі лісточак і заціснула ў кулаку.

— Праўда, Міхась,— сказала я, зноў пазяхаючы.— Насланне нейкае. Аж сківіцы баляць, як пазяхаю...

— А ў мяне нейкае непрыемнае адчуванне...

— Думаеш, што я знарок, каб хутчэй дамоў? Напраўду, проста валюся, як спаць хачу.

— Не. Мне здаецца, што ты нешта не дагаворваеш... І вельмі важнае. Нешта хаваеш ад мяне.

— Так, Міхаська, хаваю.

— І не хочаш мне сказаць!

— Я лепей пакажу. Вось што я ад цябе хаваю!

Я развінула пальцы і паказала яму таполевы лісточак. Лісточак быў маленькі і крыху падобны сваімі абрысамі на сэрца.

Міхась засмяяўся, і я таксама засмяялася і прыціснула далоняй лісточак да шчакі. У халодным дотыку мяккага зелянніва хаваўся нейкі таямнічы знак. Загадкавы і невядомы знак...

## 22

Я сядзела адна.

Гэта было неяк дзіўна і незразумела: з абодвух бакоў пустыя бліскучыя крэслы, а за спіною насцярожана змоўклая зала, гэтая зала, як жывая істота, варочалася, парыпвала крэсламі і прыцішана гаманіла.

А я была адна. Вось ужо другі дзень адна. Адна з тае самае мінуты, як Міхась увайшоў у вагон. Ён стаяў ля акна, глядзеў на мяне, нешта гаварыў, але я была адна ўжо. Можа, гэта і не зусім дакладна: са мною была туга, горыч і роздум. Адзінота адчувалася асабліва востра тут, у заводскім клубе. Рад пустых крэслаў, як мяжа, адгарадзіў мяне ад усіх, і я магла сядзець, думаць, нікому нічога не казаць, нікому не глядзець у вочы.

А гэта вельмі цяжка — глядзець людзям у вочы, тым людзям, якіх ты падманула. Я адчула гэтую цяжкасць яшчэ там, унізе, на заводскім ганку, калі ўбачыла аграмадны белы кардон аб'явы пра меўшы адбыцца суд. Аб'ява вызначалася сярод іншых не толькі памерамі, але і колерам; густа-фіялетавыя вялізныя літары глядзелі з ганка на горад, і мне здалося, што там, на гарадскіх вуліцах, ва ўсіх дамах ужо ведаюць аб маёй ганьбе. Сорам апёк мяне, і я адчула яго ў сэрцы, як амаль фізічны боль.

Ля аб'явы напаткала Журко. Віктар павітаўся са мною, мы ўвайшлі ў вестыбюль, узняліся на другі паверх. Ля дзвярэй камітэта камсамола ён прыпыніўся. Прапанаваў:

— Зойдзем. Яшчэ рана...

Віктар увайшоў у пакой, павесіў плашч за шафу і сеў. Потым ён узняўся, пераставіў макет электрапечы з стала на падваконне і застаўся ля акна.

— Пазаўчора мы заходзілі да вас. Чакалі, чакалі. Дзе вы былі?

— Я ведаю. Вельмі шкада было... Як жыве Каця? Даўно ж мы не бачыліся з ёю...

— І ў гэтым я вінаваты больш, чым хто іншы...

Яго прызнанне вельмі здзівіла мяне. У чым жа ён вінаваты? Няпраўда гэта. Ён проста хоча падтрымаць мяне сёння. А навошта мне яго падтрымка? Ва ўсім вінавата толькі я сама.

— Не, не! Ты не кажы мне гэта. Я вінаваты,— Журко ўзняўся і зноў паставіў макет электрапечы з падваконня на стол. На пальцах Віктара былі светлыя фіялетавыя плямы, і я чамусьці падумала, што аб'яву пра суд пісаў ён.

— У чым, Віктар?

— Раней мы сябравалі. І я ведаў тваё жыццё. А потым — гэтае маё сакратарства. Сёння — сход. Заўтра нарада. Паслязаўтра — гарком. А там — спартыўныя спаборніцтвы. Памятаеш нашу гаворку зімою, калі ішлі на вечар? Мае сумненні мелі грунт...

— Ты ўсё перабольшваеш. Цябе абралі і сёлета. Значыцца, давяраюць. Што ты тут паробіш!..

— Мне, можа, давяраюць, а я — не ўсім. Калі казаць па шчырасці, не сам і надумаўся зайсці да цябе. Лабан папракнуў...

— Ён прыехаў?

— Так. І прыйдзе сёння. Відаць, прагучыць твая гісторыя. Непрыемна будзе заводу...

Тыя ж ноткі, што гучалі ў голасе Ханюцінай. Адкуль

гэта? Там — заўком. Няхай сабе... Але тут?.. Тут жа Віктар!..

— Нічога, завод твой не шкляны, з цэглы,— сказала я з горкаю ўсмешкаю.— Вытрывае.

— Завод не толькі мой, але і твой.

— Ты можаш разумець жарт?

— Не хочацца мне жартаваць, Стэфа. Ну, сама зірні: суд жа на заводзе, не ў рэстаране «Дзвіна». Між іншым, цябе ў суботу бачылі там. Гэта праўда?..

— А што, у рэстаран нельга заходзіць?

— Не пра тое гаворка, Стэфа! У цябе гэтакая гісторыя... А ты — сядзіш у рэстаране!

— Лепш было б, каб я сядзела на вуліцы?

— Бачыш, ты зноў... Аб'ектыўна гэта, магчыма, і нічога. Але гэта могуць падаць... Ведаеш як?

— Няхай падаюць.

— Бачыш, ты злуешся. А злосць — благі дарадчык. Скажы, толькі даруй, што ўмешваюся... Можа, мне варта пагаварыць з Міхасём?

— З Міхасём? Аб чым?

— Я чуў, што вы зноў пасварыліся?

— І гэта забаронена?

— Не забаронена. Толькі ты не злуйся, я кажу як твой сябар...

— Я не злуюся, Віктар. І таму шчыра скажу табе, нават папрашу: не гавары і не чапай Міхася. Ён прыйшоў да мяне зусім другім чалавекам. І я кахаю яго больш, чым кахала тады. Тады я не кахала... Было нешта ад дзяцінства. А цяпер я ведаю, што я хачу ад гэтага кахання...

— Ён прыйдзе на суд?

— Не. Ён паехаў на курорт.

Журко нават адступіў ад мяне на адзін крок.

— Куды? На курорт, кажаш?

— Так... У Адлер...

Ён глядзеў на мяне ўважна, і я бачыла, што мая ўсмешка пачынае па-сапраўднаму злаваць яго.

— Даруй мне, але я нічога не разумею. У цябе гэткая бяда, а ён спакойненька едзе. І ты дазволіла? Не ведаю нават, хто ты пасля гэтага.

— Я жанчына. Мы, жанчыны, слабыя стварэнні, як кажуць пра нас некаторыя мужчыны.

— Іроніі тут, ва ўсякім разе, не месца! Даруй мне, але дзеля чаго ты гаравала, чакала яго? Якая падзяка табе за ўсё гэта?..

— Я веру Міхасю. Ён стаў другім чалавекам.

— А можа, ты толькі хочаш гэтага? Толькі хочаш і ўпарцішся, і закрываеш вочы на факты, на тое, што ёсць. А бачыш, што ёсць? Міхась паехаў. А ты ідзеш на суд. Хто ведае, чым ён можа скончыцца...

— Без завода мне не жыць, Віктар.

— Веру. Але рашаю не я...

— Дзякую і за гэта. Хадзем. Час, ідаць...

Гаворка з Віктарам надала мне мужнасці. Я выйшла ад яго спакойная, гатовая прыняць ганьбу. Чаму ж цяпер гэтая мужнасць выветрылася? Што прыціснула мяне да сядзення, сагнула шыю і не дае ўзняць вочы?.. Мяне судзяць! Судзіць таварыскі суд...

— Суд ідзе!

Гэтыя два словы прагучалі ў мяне за спіною, і іх пашапкам паўтарылі дзесяткі людскіх вуснаў; у зале зрабілася ціха, толькі глуха шваргалі крокі. Не ўзнімаючы вачэй ад падлогі, я скоса зірнула ўбок і ўбачыла Туміліна, Грамера і дзвюх дзяўчат — яны садзілся за стол, які быў засцелены чырвонай крамнінай. Зірнула і тут жа адвяла позірк. Мяне здзівіла не тое, што людзі садзіліся за чырвоны стол, а прыцягнула вузкая паласа падлогі, што ляжала паміж мною і сталом, дзе рассаджваліся члены суда. Нават не сама падлога, а чорныя плешкі цвікоў. Я старанна падлічвала іх. Гэта толькі падумаць! Дошкі вузкія, а нехта ў кожную ўвагнаў па тры цвікі!..

— Стэфа Шукан! Устаньце!

Мне здалося, што сказаў гэта не Алесь Тумілін, а нехта ззаду. Я ўзнялася, здзіўленая не загадам узняцца, а яго голасам. Колькі разоў, калі я працавала яшчэ вучнем апаратара, ён памагаў мне, вучыў, колькі жартавалі сяброўкі, што наладчык чамусьці занадта часта кантралюе работу маіх печаў. І голас яго быў мяккі і ласкавы. А цяпер ён нейкі грубы, незнаёмы зусім.

— Станьце тварам да людзей! — параіў мне Тумілін, і гэта прагучала як загад.— Вось... Тварам да людзей павярніцеся...

Не, ніколі не думала, што будзе гэтак цяжка павярнуцца. Незвычайна цяжка!.. Я павярнулася толькі напаўабарота да залы і гэтак стаяла. Мне былі бачны не ўсе крэслы, а толькі частка іх, быццам адсечаная наўкоса нейкаю цьмянай мяжою; мяжа пачыналася ў кутку, ад акна, дзе вісела ў прасценку прыгожая дыяграма, і, зразаючы

залу па дыяганалі, быццам нязломная страла ўпіралася ў сэрца.

Юрыст завода чытаў маю заяву. Калі ён скончыў, Тумілін сказаў:

— Ваша слова, Шукан!..

А ў мяне не было ніводнага. Я маўчала і не ведала, што мне трэба казаць.

— Ваша слова,— паўтарыў Тумілін.— Мы чакаем...

— Я вінавата. Пакарайце мяне...

— Гэта мы зробім,— паабяцаў нехта з-за цьмянай мяжы, што падзяляла для мяне залу.— Ты нам лепш раскажы, дзе гуляла месяц...

— Я вінавата,— паўтарыла я, адчуваючы, што не вельмі многа дадам яшчэ.— Без прычыны прагуляла месяц.

Тумілін ўнёс прапанову заслухаць Рабікаву, якой цэхком даручаў схадзіць да мяне на кватэру.

Зіна Рабікава ўзнялася, і побач з ёю вокамгненна вырасла постаць яе сяброўкі. Зіна церла кулачком чырвоную шчаку, часта міргала і больш звярталася да сваёй сяброўкі, чым да суда. Сяброўка адказвала ёй толькі, і таму здавалася, што яны горача спрачаюцца паміж сабою. Так, яны вучні апаратараў. І калі Шукан хварэла, іх паслалі з цэхкома да яе. Калі гэта было? Даўно. Яшчэ ў мінулым месяцы. Шукан не было на рабоце, і цэхком паслаў іх.

— Ды не страчыце, сарокі! — патрабаваў нехта з залы.— Няхай адна гаворыць...

— А што расказваць? — збянтэжана запытала Рабікава.— Першы раз мы прыйшлі — яна хварэла! Другі раз прыйшлі — дома не было Шукан.

— Трэба было чакаць!

— Мы чакалі,— сказала сяброўка Зіны, і яны паўтарылі амаль у адзін голас.— Так, чакалі. А што нам было рабіць? І мы горача асуджаем...

— Каго вы асуджаеце? — запытаў хтосьці.

— Учынак! — зноў у адзін голас адказалі яны, і іх галасы патанулі ў стрыманай гамане.

Смяшок праляцеў кароткай хваляй. Ён яшчэ не сціх, а ля стала ўжо стаяла, бокам да мяне, незнаёмая дзяўчына. Прамы строгі нос, прыгожа кучаравяцца белыя валасы... Не, гэта, здаецца, не з нашага цэха...

— Слова мае Валя Пальчэўская,— паспешліва абвясціў Тумілін.— Папрашу ўвагі...

— Рагочам? Так? — галасна запытала Валя, і адразу ж запанавала цішыня. Справа за маёй спіною нехта гуч-

на капілянуў; непрыемна рыпнула крэсла.— А гэта зусім не смешна. Завод не забягалаўка. Захацела — прыйшла. Захацела — пайшла. І месяц гуляю. Наш завод — лепшае прадпрыемства горада. Ці ж можам мы мірыцца з тым, што зрабіла Шукан? Я асабіста — не магу! Але прагул — гэта адзін факт. Ці ўсё мы ведаем пра той час, што яе тут не было? Я думаю: не ўсё. Быў бюлетэнь, а цяпер яго няма. Хто можа паручыцца, даць мне гарантыю, што за гэты месяц Шукан не зрабіла яшчэ якіх-небудзь махінацый?..

Яна запытала гэта высокім звонкім голасам. Цішыня была ёй адказам — абсалютная цішыня.

— Я магу даць такую гарантыю!

Усё ва мне замерла. І напалохаў мяне не гэты знаёмы голас, а тое, што я ўбачыла. Міхась?!. Адкуль ён тут?.. Мроіцца мне нешта... Мроіцца!.. Я пацерла рукою вочы. Не... Гэта — Міхась!.. Чаму ён тут?.. З Марынкаю нешта здарылася... Мабыць... І таму ён прыехаў...

Міхась папрасіў дазволу выступіць. Яго словы падалі ў палахлівую цішыню — важкія, прадуманыя, а я ўсё яшчэ не магла паверыць у рэальнасць таго, што бачыла, што чула. Міхась гаварыў пра нашы сямейныя справы, бюлетэнь, плыты... Спачатку мне было сорамна, а потым гэтае пачуццё прапала, і я больш разглядала Міхася, чым слухала. Новыя, невядомыя мне ноткі жорсткасці з'явіліся ў яго голасе, і сам Міхась быў строгі, стрыманы, быццам за тыя дні, што мы не бачыліся, ён пасталеў на некалькі год. Я здзіўлялася і ў той жа час з прыемнасцю адзначала гэта...

А потым пачалося неверагоднае. Часам мне здавалася, што судзяць не мяне, а Міхася. Асабліва лаяў яго Віктар — ён нібыта забыўся, што Міхась не працуе на нашым заводзе.

Заўзята і горача абаранялі мяне Тося Злотнік і Ніна Барысава. У сваім выступленні Тося патрабавала, каб дырэкцыя адмяніла загад аб звальненні. Так і сказала: прасіць дырэкцыю перагледзець загад адносна Шукан, бо людзей трэба выхоўваць. Фаіна Усцінаўна прасіла, каб мяне пакінулі ў цэху.

Потым Алесь Тумілін даў мне слова. Заключнае слова. Я разгубілася і адмовілася.

— Тады суд ідзе на нараду,— урачыста абвясціў Тумілін.

— Суд ідзе!

Тумілін пачаў чытаць роўным, крыху ўрачыстым тонам. Яго голас раптоўна зглух, нібыта аддаліўся. Словы прысуду былі нейкія быццам цяжкія, але яны не прыгняталі. Не звальняюць? Так! Мяне не звальняюць! «Таварыскі суд лічыць магчымым пакінуць Стэфу Шукан у другой змене, якая змагаецца цяпер за званне змены камуністычнай працы, але, улічваючы несумяшчальнасць учынку, які дапушчаны Шукан, з годнасцю савецкага рабочага, прасіць дырэкцыю перавесці яе з аператараў на нізкааплачваемую работу тэрмінам на два месяцы...»

Я аблізала перасохлыя губы. Звонкім голасам Тумілін абвясціў пасяджэнне таварыскага суда закрытым. Неяк усе адразу загрукалі крэсламі, загаманілі. Ішоў да дзвярэй Хадасевіч, і Ханюціна, спяшаючыся ўслед, нешта даводзіла яму, а ён, слухаючы яе, усміхаўся. Завязваў матузкі на жоўтай папцы Грамер і, як грак схіліўшы голаў, уважліва глядзеў на свае рукі. Ад крэслаў, што стаялі ля сцяны, прабіраўся да стала Міхась. Я зірнула на яго, і ён адразу ж зрабіў мне знак — пачакай...

Мы выйшлі з ім на шырокі заводскі ганак.

— Што з Марынкаю? — першае, што я запытала ў яго.

— Рагоча. І цябе чакае. Дзе мама, усё пытае мяне.

— А я цябе ўбачыла — сэрца зайшлося. Ці не бяда якая.

— У нас з Марынкаю — парадак. Ну дык што, паздароўкаемся?..

Міхась глядзеў на мяне незалежна, але ў куточках вачэй, звужаных усмешкаю, стаілася маўклівая запытальная насцярожанасць. Ён першы падаў мне руку, і я працягнула яму сваю; нас штурхалі ззаду, і мы гэтак і сышлі па прыступках, трымаючыся за рукі.

Грукацелі па бруку машыны. Лапатала зжоўклая лістота на клёнах. Мне трэба было нешта сказаць Міхасю. І я нічога не магла сказаць, мне нічога не хацелася гаварыць.

У сэрцы не было трывогі. Марынка здаровая. Яна тут, і я зараз убачу яе. А яшчэ бліжэй — Міхась. Ён крочыў побач, яго плячо краналася майго пляча, і я ведала, што Міхась прыйшоў да мяне назаўжды.

*Мінск,*
*1962*

# КЕДРЫ ГЛЯДЗЯЦЬ НА МОРА

АПОВЕСЦЬ

## 1

Адвячоркам кедры прыціхлі.

Цэлы дзень яны шорхалі намёрзлай ігліцай, гойдалі аснежаным голлем, захінаючы ад колкага ўсходняга ветру тоўстыя шурпатыя ствалы.

Вецер суняўся, як толькі сонца наблізілася да вяршыняў сопак; і неяк адразу змоўклі дрэвы, зрабіліся панурыя; з галін на спрасаваны вятрамі снег церушылася блішчастая намаразь, і такая ж зорная іскрыстасць зацягнула далеч за шырокай Ангарой; скрозь гэтую іскрыстасць снег на рацэ здаваўся фіялетавы. У смузе, быццам жывыя, гойдаліся рахманыя цені кедраў.

Прыхінуўшыся плячом да шурпатай кары старога дрэва, Каваль намагаўся разгледзець у вячэрняй далечы машыны, што паўзлі па дарозе на Брацк. Цёмнай стужкай дарога клалася ўзбоч лесу, выгіналася крукам на полі, потым строга паўзла ўгару і, бліснуўшы сярод цёмных хвой, знікала за пераваламі. Каваль упершыню ўбачыў сёння і гэтыя кедры, ля якіх цяпер стаіць, і гэтыя велічныя дыябазавыя скалы, праз якія прабіла сабе дарогу рака, быццам вароты ў чорнай каменнай сцяне.

А крыху бліжэй да сопкі, дзе дарога раздвойваецца, ён развітаўся са Стаевым. Развітаўся проста, быццам быў той чалавек яму зусім чужы, і ўсё ж засталося нейкае двaістае пачуццё: прыемна, што не прыйшлося адказваць ні на якія пытанні, і шкада, што так хутка пакінуў гэтага вясёлага і, мабыць, шчырага чалавека.

Снегавы пыл, што ўзняў грузавік Стаева, даўно сплыў за дарогу, растаў сярод кедраў, а ў душы Каваля па-ранейшаму жыве нешта добрае і прыгожае; жаль саступае месца той, першай, але цяпер ужо крыху асэнсаванай радасці. Дзякуй табе, Стаеў! Ты так раптоўна і ў час прыйшоў на дапамогу, падбадзёрыў добрым словам і пакінуў у Кавалёвым сэрцы пяшчотную цеплыню. Ціка-

ва іншы раз бывае: скажа табе чалавек адно нейкае слова і яго дастаткова, каб забуяла ў душы радасць і ўзнёсласць трымала цябе доўга і моцна.

Дарэчы, ён няблага адчуваў сябе і напярэдадні знаёмства са Стаевым. Праўда, ранкам у сталоўцы, куды ён зайшоў паснедаць, агледзеўшы ўсё цікавае ў Брацку (прынамсі, яму так здавалася), Каваль зрабіў памылку. Трэба было яму выцягваць тыя грошы з кішэні! Хоць ён не выхваляўся, а проста пералічыў іх, бо, сеўшы за столік і рыхтуючы грошы, каб потым лішне не мець клопату з разлікам, ён падумаў, што кішэня за дарогу зрабілася надта тонкая. Пералічыў і не памыліўся. Шэсць сторублёвак асталося. Ён лічыў і не заўважаў, як за яго рукамі сачылі дзве пары вачэй. Адны з іх належалі худому мужчыне з хваравітай жаўцізной на шчоках і вялікай, на паўгалавы, лысінай. Другія вочы былі строгія і быстрыя, як і сам іх уладар — малады, гарбаносы, з чырвоным укормленым тварам; ён быццам і не сядзеў на месцы, а неяк усё круціўся вакол свайго дружбака і пілікаў на гармоніку. Двойчы афіцыянтка прасіла яго не іграць, але рабіла яна гэта толькі дзеля парадку: гарбаносы ёй, відаць, надта падабаўся, бо, несучы страву Кавалю, яна знайшла час, каб трэці раз, гарэзна бліснуўшы маленькімі карымі вочкамі,— трэці раз — папрасіць яго пакласці гармонік.

Каваль снедаў. Гарбаносы з худым падкаціліся да яго століка неяк раптоўна, быццам каршакі зляцелі. Худы спытаўся:

— Можна да вас? Не занята?..

— Дзьме ад акна,— растлумачыў гарбаносы, трымаючы гармонік пад пахай.— А мой струмант да холаду непрывычны...

— Хромка? — спытаўся Каваль, каб падтрымаць размову. У тую хвіліну ён упершыню пашкадаваў, што прадаў свой гармонік перад ад'ездам.

— Але,— ахвотна згадзіўся гарбаносы.— Сама спявае. Ну, Трафімка! Бяры ноту!..

Худы заспяваў:

Перабіты, паломаны крылы,
Дзікі боль ўсю душу агарнуў...

У яго быў жаласлівы, але калісьці, відаць, прыгожы голас. Туга і адчай былі ў яго песні, скардзіўся ў ёй чалавек на свой лёс. Зламаны крылы ў чалавека. І нельга ўзляцець, нельга рвануцца наперад — толькі думкі мо-

гуць ляцець туды. А сэрца не можа быць на месцы, жывое яно, сэрца. Але што сэрцу!.. Няхай ірвецца яно да светлых і шчасных дзён — не прыйдуць яны, гэтыя пагодлівыя для душы дні. Занесла пылам, завіхурыла шляхі — не пройдзеш. Каб крылы! Каб узляцець, адолець тую віхурнасць. Паломаны крылы. І няма надзеі. Затое ёсць крыўда на людзей. І боль ад гэтай крыўды пякучы, сціскае сэрца. Збочыў чалавек. Блукае ў роспачы, невядома куды брыдзе...

Чорная, цяжкая туга схапіла Каваля за горла моцнай і ўчэпістай лапай. Быццам пра яго складзена гэтая песня... З прагнасцю перакуліў шклянку гарэлкі (бутэльку выцягнуў з кішэні худы). Трымаў шклянку ў руках, нічога не еў, сядзеў і ўсё слухаў. Так, жыццё... Вось побач чалавек. А што ты ведаеш пра яго? Нічога. А колькі шляхоў прайшоў ён? Якіх? Пра што думае, аб чым сумуе, спяваючы гэтак наладна сумную да болю песню? Куды кліча яна, поўная тугі?..

А гарбаносы, спрытна водзячы пальцамі па клавішах, гаварыў упэўнена і цвёрда:

— Навошта табе гэты Брацк? Ты ведаеш, якое тут жыццё?.. Ага, не ведаеш. І лепей будзе, калі не зведаеш. Ты толькі ўслуш!..

Калі верыць яму, то аставацца тут нельга было ні хвіліны: трэба ўцякаць. І, галоўнае, ёсць куды! Няхай ідзе разам з імі ў Вольхаўскі леспрамгас. Там гуляючы заробіш сотню рублёў у дзень... І з жытлом там маліна. Раскоша! Дзяўчат — поўным-поўна, аж вочы разбягаюцца. А тут — катарга, мякка кажучы...

Каваль не верыў гарбаносаму, нешта было ў яго словах паспешлівае, штучнае, але завагаўся: прыйшлі сумненні. Адчуўшы гэта, ён зразумеў, што здраджвае сваім марам і надзеям. Ён проста дзіця, калі будзе так кідацца з боку ў бок. Наважыўся ехаць у Брацк? Так! А трэба было некаму сказаць пра доўгі рубель у Вольхаўскім леспрамгасе, і ён ужо сумняваецца. А справа не ў рублі... Песняй яны яго ачмурылі, прымусілі Кавалёва сэрца адчуць ранейшую тугу і адчай... І хто ў гэтым вінаваты?.. Уся злосць раптам абярнулася на гэтых двух незнаёмых людзей.

— Пакладзі гармонік,— раптам злосна сказаў Каваль гарбаносаму.— Дай паесці спакойна...

Каваль насаджваў па два пельмені на відэлец, хутка жаваў і глядзеў на сваіх новых суседзяў, хітравата прыжмурыўшы вочы. Не, не! Ён не такі дурань, каб паверыць

першаму стрэчнаму. Ён пабачыць усё сам! У яго ёсць мэта! І калі хто стане на шляху да яе... Не, няхай лепш не становіцца!..

Выйшаўшы са сталоўкі, Каваль з палёгкай уздыхнуў, быццам пазбыўся нечага непрыемнага. Ускрай дарогі, каля ганка, стаяў самазвал. Белая вата снегу асела на машыне няроўна: дах кабіны быў аблеплены густа, а барты кузава зацярушаны крупчатай белай насеўкай. Такі ж пыл быў і на ветравым шкле, і на дзверцах кабіны, і на колах. І толькі срабрысты металічны зубр над радыятарам чыста абдзьмулі вятры. Рэдкія светлыя воблачкі ледзь прыкметна курыліся вакол, і здавалася, што не ад радыятара, а ад бакоў крутахібага зубра, разгарачанага далёкай дарогай, ідзе пара. «Гэта ж наш, мінскі! І навюсенькі зусім!..»

Каваль сігаў цераз прыступкі, збягаючы з драўлянага ганка. Намерзлыя дошкі рыпелі пад валёнкамі. Падбег да самазвала, спыніўся, зачаравана разглядаючы зубра. Упарта набычыўшы шыю, зубр стаяў цвёрда, і ва ўсёй яго паставе адчуваўся імпэт жывой істоты. Можа, усё гэта мроіцца табе, Каваль? Ён узняў руку і пакратаў бліскучы метал.

— Што, адламаць хочаш?

Насмешлівы голас пачуўся збоку неяк нечакана. Каваль азірнуўся, усё яшчэ адчуваючы, што зубр апёк пальцы холадам.

— Не, проста разглядаю. Мы ж землякі з ім...

— Бачыш! Першага земляка ў Брацку ты сабе ўжо знайшоў! З Беларусі?

— Адтуль...

— Быў я там. А з якіх мясцін?

— Полацк. На Дзвіне такі горад. Можа, чулі?..

— Ведаю. Толькі бачыць не давялося. Я ў Віцебску ляжаў... у вайну было...

— Во! То гэта ж зусім побач!

Прыгледзеўшыся больш уважна, Каваль убачыў, што гаворыць з тым чалавекам, які сядзеў у сталоўцы за суседнім столікам. Лічачы грошы, Каваль адчуваў на сабе яго дапытлівы позірк, а потым, калі тыя ўдвух падселі да яго, ён забыўся на чалавека за столікам, што неяк строга і цікаўна паглядзеў на яго. «Быццам недзе бачыў... Але дзе?..» Такая думка на момант завітала тады і знікла, бо да яго падселі гарбаносы з сваім сябрам. «Не, бачыў недзе я гэтага чалавека!..» Цяпер гэтая думка прый-

шла да Каваля зноў, калі ён глядзеў на гэтага рослага чалавека, які тады за столікам здаўся яму маленькім, і затрымала яго ўвагу значна больш, чым першы раз. Праўда, ён ужо недзе бачыў гэты твар. Шэрая шапка схавала яго пасыпаныя сівізной валасы, і мужчына выглядаў маладзей за свае гады. У гаворцы яго была бесклапотная весялосць маладосці. Ён знаёміўся з Кавалём проста і ўзрадаваўся шчыра, даведаўшыся, што можа зрабіць яму паслугу.

— На будоўлю? А чаму не давезці! Машына ў Івана Стаева бачыш якая? Новая! З такой машынай не прападзеш. А цябе як? Го-го! Гучнае прозвішча — Каваль! Ты нешта ў жыцці адкуеш...— Заўважыўшы на твары ў Каваля ўсмешку, дабрадушна сказаў: — Хм. Не верыш! Ну, як сабе хочаш. Каб мае права, дык дрэнныя прозвішчы я скасаваў бы начыста. І даваў бы людзям толькі гучныя, прыгожыя. Ну, скажам, Сонцаў, Агнёў... А не які-небудзь там Нюнькін. Агнёў!

Яны ўжо выбраліся са старога Брацка. Доўгая вуліца, забудаваная аднапавярховымі дамамі, выпусціла машыну на ўзгорак. За ім ляжала палявая роўнасць, а далей — лес. Невысокі здалёк, ён, аднак, адразу праглынуў дарогу: яна цяпер то крута віляла, то раптам кідалася ўніз, у расселіну паміж сопак. Стаева гэта ніколькі не здзіўляла, ён жартаваў, вёў машыну ўпэўнена і толькі раз, калі самазвал адольваў круты пад'ём на паваротцы, заўважыў:

— Але ж і дарожка!.. Па такой гойсаць — галаву трэба мець моцную. І нервы сталёвыя.

— Пашанцуе, дык і па такіх — сто гадоў жывы. А не пашанцуе... На роўным месцы — у блін можна...

— Не, дарагі мой, не! Шчасце толькі па такіх дарогах і ходзіць. На роўнай дарозе яго не напаткаеш!..

Гаваркі Стаеў выклікаў прыязнасць. Яго меркаванні выклікалі на спрэчку; здавалася, што ён ужо загадзя ведае тваю думку і штурхае яе наперад. «Сваё шчасце ты, мабыць, ужо адкаваў,— падумаў Каваль, кінуўшы позірк на старанна паголены, шырокі, амаль квадратны падбародак і чысты каўнер блакітнай кашулі.— Бач, які акуратны ды чысценькі...»

Гэтая думка давала падставы для непрыязнасці (Каваль не любіў падкрэсленай акуратнасці), і ўсё ж непрыхільнасці не было. Стаеў зрэдку адрываў свой позірк ад дарогі, паглядаў на яго, і Каваль заўважыў у вачах шафёра шчырую цеплыню. Яму захацелася адказаць той

жа шчырасцю ў размове, але чамусьці не адважыўся і непрыкметна ўздыхнуў:

— Шчасце маё — як тое кавадла. Па ім колькі ні бі — толькі звон ідзе. Вось прыехаў сюды, а тут, кажуць, шафёраў і не трэба.

— Хто гэта кажа?

— А што, можа, няпраўда?

— Ты паглядзі! Усё ведае!

— Усё не ўсё, а гэта ж, відаць-такі праўда?

У яго голасе прагучала схаваная трывога, і гэта вельмі спадабалася Стаеву, ён развесяліўся:

— Вось вазьмі яго за руб дваццаць! — І раптам вусны яго, ужо кранутыя ўсмешкай, сціснуліся, а рукі мацней учапіліся за абаранак. Ён выключыў хуткасць.— Колькі хто ездзіў сёння, каб яму засвярбела!.. Бачыш? Пакуль каторы не зваліцца...

Машыну моцна страсянула на невялікім масточку, гучна бразнулі ключы пад сядзеннем. Стаеў, вылаяўшыся, падруліў да ўзбочыны, сказаў:

— Хадзем, дружа, паложым масніцыну як след. А то нейкі ліхач напорацца.

— І добра. Уважлівейшы будзе!

— Не, дружа, не магу так. Нябожчык бацька даўней у каршэнь лупіў: убачыш камень — спіхні з дарогі, другім жа замінае, не толькі табе. А шафёрам мой бацька не быў, ведаеш...

У гэтых словах быў папрок людской абыякавасці, і хоць словы не адносіліся проста да Каваля, ён адчуў, што нейкім чынам адрасаваны яны і яму, як адказ на яго заўвагу. Было крыху ніякавата ад строгай і проста выказанай праўды. Але ад гэтага не было крыўдна, і ён з ахвотай дапамагаў Стаеву. Праца неяк зблізіла яго з новым чалавекам. Побач з ім Кавалю неяк дыхалася вольна, не было тугі і той узрушанай падазронасці, што вярэдзіла сэрца ў сталоўцы ад слоў гарбаносага.

Паправіўшы масток, прысыпалі масніцыну снегам. Стаеў, распрастаўшы плечы, паляпаў рукавіцамі:

— Ну вось, парадак.... Ты ведаеш, калі мне бывае добра ў жыцці, я ўвесь час адчуваю, што некаму гэтым абавязаны. Ты гэта адчуваеш часам?..

— Ага! — паспешліва адказаў Каваль і пачырванеў. Нашто ён хлусіць? Ён жа нават не паспеў падумаць над пытаннем Стаева! І ўсё ж такі ён адказаў праўду. Вось цяпер, калі ў яго душы зноў пачаўся спакой і забуяла

добрая радасць, ці не абавязаны ён гэтым Стаеву? Так, абавязаны! Значыць, ён не схлусіў, сказаў праўду, хоць і не падумаў; мабыць, сэрца знайшло патрэбны адказ. Праўда ёсць праўда, нават калі ты не сказаў яе, яна ўсё роўна застаецца жыць незалежна ад тваіх думак і жаданняў. Ці разумее гэта Стаеў? Трэба запытацца...

За павароткай гулі маторы аўтамашын, і Каваль, спяшаючыся, сказаў зусім не тое, аб чым цяпер думаў:

— Трэба ехаць. Гайда!

— А чаго табе не церпіцца? — Стаеў марудзіў залазіць у кабіну.— Такая раскоша ў лесе. А ўлетку ту-уут! Ось пабачыш! Ты чаго, аднак, заспяшаўся?..

— А што? Валачыся тады ўслед, а ён перад табой віхурыць: ні газануць як след, ні разгон узяць! Не люблю ззаду ехаць...

— Толькі наперадзе любіш?

— Стараюся.

— А ты бадлівы, хлопец,— з добрай усмешкай сказаў Стаеў.— Гэта часамі патрэбна.

Каваль прамаўчаў. Можа, залішне ён разгаварыўся з невядомым як след чалавекам? Не, гэта нават і добра: свае перакананні трэба абараняць. А то было: у сталоўцы сказалі яму, што тут цяжка, ён ужо і нос павесіў, песню паслухаў — слязу ледзь не пусціў. «Самоту сэрца трэба хаваць у глыбі. Што яна дасць людзям? Няўжо ў Стаева ўсё гэтак гладка ды роўна?.. Наўрад, вунь як скроні абелены. А вясёлы, і неяк ад той весялосці робіцца ўтульней. А што? Не праўда? Праўда...»

Каваль думаў гэта, гледзячы на гонкія лістоўніцы, што падступалі да самай дарогі. Снег схаваў чорную гліну, рассунутую бульдозерам улетку, засыпаў пні і каменне, і таму здавалася, што дарога ўзнікла разам з магутнымі дрэвамі і ад іх набралася зімовай прыгажосці. У белых кучомках стаялі пры дарозе маленькія сосны, спаважныя, ледзь улоўнаківалі аснежанымі вяршынямі, і здавалася, што дарога, баючыся, каб не расцерушыць снегавое ўбранне, асцярожна несла іх насустрач машыне, што хрумстала рубчатаю гумай мяккі рассыпісты снег.

Каваль цяпер вальней адчуваў сябе ў кабіне. Маленькі сумесны занятак ля мастка зблізіў яго са Стаевым яшчэ больш, і ён ужо зусім асвойтаўся: расказваў аб тым, што ўразіла яго тут, калі прыехаў у Брацк, крыху гаварыў і аб сваіх планах. Стаеў ахвотна падтрымліваў гаворку. Сказаў, што Каваль добра зрабіў, агледзеўшы стары

Брацк, бо ўлетку ён выглядае інакш, і вельмі цікава параўнаць, як выглядае горад у зімовы час, але галоўнае не ў гэтым: збудуецца ГЭС — і горад пойдзе на дно мора. А да Падунскіх парогаў адсюль — трыццаць кіламетраў. Во гэта мора! Толькі пачатак — яно раскінецца ў бок Іркуцка не на адну сотню кіламетраў. А дамы, збудаваныя толькі адной сякерай, ён бачыў? Шкада, што не прыкмеціў. А рэшткі старога астрога?.. І раптам Стаеў паўтарыў пытанне, на якое Каваль не пажадаў тады адказваць:

— А хто табе пра шафёраў казаў?

— Чмур адзін гарбаносы. Падсуседзіўся ў сталоўцы. Ну, а я спачатку не разабраўся: яны бутэльку на стол, а я — таксама. Ты ведаеш, што ён мне яшчэ казаў?..

— А што ён табе мог добрае сказаць?

— Не, ты толькі паслухай! — Каваль смешна выгнуў вусны, нахіліў галаву і загаварыў падробленым хрыпатым голасам: «Уцякаюць адсюль людзі. Уцяка-аюць! Гэта ж падумай, братанка! Надбаўкі — адсеклі! Раз. Спецвопратку — далоў. Два! У краме — хоць сабак ганяй. Анічагусенькі! Гарэлкі, братанка, гарэлкі, той самай, на якой свет трымаецца,— таксама няма. Разумееш? Няма!..» Я яму: «Не разлічваў, кажу, што яны мяне блінцамі сустрэнуць».— І зноў зменена, хрыпата: «Блінцы не блінцы, а есці захочаш. Не мядзведзь, лапу не пасмокчаш...» — І зарагатаў: — Клікаў мяне ў Вольхаўскі леспрамгас. Паслаў я яго к чортавай матары! Ён спачатку аж анямеў, а потым — паплыў. На нагу, відаць, лёгкі. Праўда, гарэлку выжж-жлукціў...

Стаеў засмяяўся, а потым сур'ёзна спытаў:

— А ты ведаеш, дзе такі леспрамгас?

— Ну, дзе?

— Нідзе! Гэта выдумка. Я прыкмеціў: яны як убачылі, што ты грошы лічыў, дык, як каршакі,— да стала. Сачыў я, думаў умяшацца, але ты малайчына. Асадзіў...

Дарога выбегла з лесу, і наперадзе замест шырокага чыстага далягляду раптам узніклі агромністыя чорныя вароты. Нават снег не мог зацерушыць іх, і яны ўзнімаліся над белай роўняддзю, маўклівыя, вялізныя і нерухомыя.

— Падунскае звужэнне,— растлумачыў Стаеў.— Там будзе плаціна. А вышэй — парогі. От пабачыш, што гэта за дзіва! Неяк даўней, да рэвалюцыі яшчэ, нейкі амерыканскі параходчык надумаўся сплаўляць параходы лябёдкай праз парогі. Ланцугоў навёз — з руку таўшчынёй.

Падун пашматаў іх, як пітачкі. Снег растане вясной — паглядзіш на беразе гэтае ашмоцце амерыканскае... Але там ёсць іншае што паглядзець. Цуда стварыла прырода, быццам ведала, што спатрэбіцца чалавеку магутнасць Ангары...

І вось Каваль глядзіць на гэтыя парогі зблізку. Вунь ён, славуты і грозны Падун!.. Паўставала ў памяці ўсё, што ён ужо ведаў пра гэтыя месцы з газет, якія чытаў у дарозе. На кожнай станцыі купляў газеты, прагна чытаў усё тое, што пісалі пра Брацк. Сапраўды, Падун быў не падобны на той, апісаны ў газетах. І ўвогуле тут шмат што выглядала інакш. Ён бачыў фотаздымкі радасных сустрэч... Але яго ніхто не сустракаў ні гулам аркестраў, ні палкімі словамі прамоў. Яго сустрэлі гарбаносы з худым, хацелі аблапошыць. І каб не Стаеў...

Стаеў... Стаеў! Пачакай! Яго партрэт, здаецца, быў у газеце. Але ў якой? А-аа... У Іркуцкай, здаецца, газеце! Вось чаму яго твар здаваўся знаёмы! Газета пісала пра подзвіг шафёра на трасе: ледзь не замёрз, а ратаваў таварыша. Як жа Каваль забыўся пра гэта? Ды што ж, гэтулькі газет прачытана было, і якую ні разгорнеш — Брацк! Брацк! Брацк!..

І вось яны, славутыя парогі. Вялізныя гарбатыя крыгі. Схаваная ў белых воблаках пары, білася і рвалася скрозь крыгі вада, і адтуль, з тых белых дымных воблакаў, ішоў глухі несціханы гул.

Ля самых ног Каваля ляжалі чорныя глыбы дыябазаў з сівымі плешынамі шэрані. Унізе — аснежаная стужка ракі. Фіялетавая смуга паўзе ад тайгі на гэтую белую стужку, паўзе, гусцее, быццам выплывае з-пад глыбі снегавых гурбаў. І цені дрэў варушацца на ёй, быццам жывыя...

А недзе там, за гэтай стужкай, за тымі далёкімі сопкамі, што нібыта цягнуць да сябе сонца, за той раўнюткай паласой тайгі на даляглядзе, застаўся маленькі ўтульны горад на Дзвіне. Сярод лясоў заснула пад лёдам Дзвіна, а над берагамі дрэмлюць мядзяныя сосны. Улетку яны струменяць прыемны смалісты пах і шапацяць ад подыхаў рачнога ветру. Калі зноў давядзецца пачуць іх таямнічы шэпт? Невядома... Тут таксама ёсць сосны, але нейкія загадкава чорныя, парэпаныя ад сцюжы, колкія...

Каваль прытуліўся шчакой да каструбаватай кары старога кедра. Яна не апякла залубянелую ад сівеwaру шчаку, а трохі нават сагрэла яе, быццам усярэдзіне, аднекуль

з глыбі зямлі, па шурпатай кары струменіла ціхае, нябачнае цяпло; нясмелы, амаль няўлоўны подых ветру крануў вынослівую вяршаліну, галіны кедра ледзь варухнуліся, і шурпатая рудая кара ціха, журботна застагнала, быццам была пад ёю нейкая невядомая струна.

## 2

Усхліпнуўшы, гармонік змоўк.

На сінявай намаразі сцен загайдаліся няўклюдныя кудлатыя цені. У халодным паўзмроку палаткі павольна падалі словы:

— Пацягай яшчэ гармонік, Каваль!

— Закруці што-небудзь для сэрца, будзь сябрам!

— Э-ээх, жаданне маё, дружбакі! У добры б рэстаранчык цяпер, га? Музыка! Гэтае самае... А ты адтуль, дзе калькулятара подпіс, з апошняга рэестру,— чык, чык! Потым — песня!..

У жалезнай печцы гуло полымя. Водбліскі агню надавалі твару Каваля нейкі ўрачысты выгляд: здавалася, твар адліты з бронзы, ад якой ідзе святло. Невідушчыя вочы скіраваны на дрыготкае полымя, што скача на абгарэлых чорных смаляках. На каленях стары гармонік. Чужы гармонік, Міколаў.

Каваль сядзеў нерухома, услухоўваючыся ў дзіўныя гукі, што жылі ў сярэдзіне рабрыстых мяхоў. Толькі ён адзін — скрозь людскі тлум — чуў патаемнае жыццё перламутравых клавішаў і быў зачараваны ім уладарна і моцна. Здаецца, каб яшчэ трохі больш прагучала дзівосная музыка перламутру ў тых рабрыстых мяхах, ён злавіў бы нейкі невядомы для яго сэнс, які выслізгвае ў той самы момант, калі, здаецца, вось-вось можна ўзяць яго ў рукі, паглядзець і зразумець, бы жывую і цікавую істоту... Але не, прапаў, знік апошні водгук, і ўжо не жывы, а мёртвы, халодны перламутр пад пальцамі...

Каваль адкінуў нагой коўдру, што звісала з ложка, павярнуў галаву да Шмякава. Зноў прыцягнуўся гэты агітатар!.. А нашто? Што, тут маленькія людзі? І каб жа ён што-небудзь цікавае расказваў, а то бубніць штодзень адно і тое ж. Нібы баіцца. Ну, пачакай жа, зараз мы табе дамо, чаго ты варты.

— Пакуль станцыю не пабудуем — мы нікуды, май на ўвазе. Гэта сказана — і свята. І пабудуем! Факт. І ты нас за гэта не агітуй...— У вачах Каваля ўспыхнуў жартаўлі-

вы бляск.— Ты вось што нам лепш скажы: што для здароўя чалавеку патрэбна? Бачыш, вось ты і сеў! А я табе скажу. Цяпло! Вось што патрэбна. А адкуль цяпло? Ад гэтай цымбалы? З ёй мы перамром тут усе, як мухі. Хто тады нас успомніць?..

Праз адчыненыя дзверцы вырваліся ржавыя водбліскі, заскакалі па сценах. Шмякаў прыкрыў далонню пачырванелы твар, пакратаў свае жаўтаватыя, быццам з пругкай саломы, вусікі і з пачуццём уласнай годнасці прамовіў:

— Чалавека ўспамінаюць па яго справах!

— Менавіта! — з дзіўным дабрадушшам і ласкавасцю згадзіўся Каваль.— Таму нам трэба заспяваць.— Твар яго быў строгі, смяяліся толькі вочы.— Няхай нас за добрую песню і ўспамінаюць. Вам пачынаць. Бярыце, падцягнем!..

Шмякаў недаверліва паглядзеў на Каваля. Жартуе? Не, здаецца, сур'ёзнасць на твары. Можа, песня і ёсць той ключык, што адамкне для яго сэрцы гэтых людзей? «Я ж з імі і па-добраму, і па-ўсякаму. А яны блазнуюць усё...»

— Ну, калі так,— адказаў ён адразу,— давайце заспяваем гэтую... Як жа яна пачынаецца...— паспешліва загартаў блакноцік, з якім ніколі не раставаўся: — Вось жа ліха, памятаю — запісваў словы! Там ёсць: «Прощай, Антонина Петровна, неспетая песня моя...»

Змрок загойдаўся ад гучнага рогату, брызентавыя сцены быццам рассунуліся ўшыркі, і палатка зрабілася нібыта большай.

— Прашчай! А-аааа-га-га-га!

— Го-го-го-гооооо! Антаніна Пятроўна...

— Во што значыць падумаць!..

— Заўтра ў сталоўцы заспяваем!.. Га-ааа...

Гучна, быццам усплёскі хваляў на каменнях, успыхвалі і згасалі воклічы. З брызентавай столі церушылася бліскучая намаразь.

Шмякаву было цяжка прадбачыць, якія дрэнныя вынікі будзе мець яго неразважлівасць і што гэты выпадак з'явіцца тэмай жартаў на доўгі час.

Акрамя Антаніны Пятроўны, пра якую апавядалася ў песні, існавала другая жанчына з такім жа імем. Гэта была тоўстая, нязграбная кабета з вечна сярдзітым выразам твару. Каваль штовечар расказваў у палатцы анекдоты, прысвечаныя кухару (Антаніна Пятроўна працавала ў сталоўцы). Часцей за ўсё ён выдумляў іх сам, бо

«соль» ягоных гісторый залежала ад якасці абедаў у сталоўцы, а часам і ад уласнага настрою. Калі ж і якасць і настрой супадалі, тады Кавалёвы навелы былі вострыя, як кухараў нож.

Цяпер смяяліся не з кухара, і Шмякаў бачыў гэта. Ён усхапіўся, нават не зашпіліў паліто і кінуўся праз дзверы. Сівое воблака марознага паветра ўварвалася ў палатку.

Жартаўлівы настрой спакваля сціхаў.

Каваль падкінуў у печку смалякоў. Яны ўспыхнулі, пазалаціўшы намаразь на сценах, водбліскі заскакалі па тварах. На сценах зноў загойдаліся павольныя кудлатыя цені.

— Пайграй яшчэ! Як на хаўтурах сядзім! — азваўся Мікола Рубін і моцна штурхануў нагой пячныя дзверцы, яны візгатнулі, валёнак зашыпеў, як раззлаваны гусак.

З кутка пачуўся сіпаты голас Лапціна; нешта жуючы ў прыцемках, Лапцін прамовіў глухавата:

— Народ жа просіць, Пятро! Чаго табе? Круці ты свой перламутар. Каб не застыў! Сэрца просіць песні. На ноч ідзе...

— Песня патрэбна,— падтрымалі яго.

Каваль расцягнуў гармонік, басы загулі нястройна, глуха і раптам змоўклі, нібыта прыслухоўваючыся да палахлівага водгулля, якое самі парадзілі, потым мяхі ўздыхнулі зноў, і цяпер ужо гукі паліліся смела, нарастаючы, быццам шукаючы дарогі на шырокі прастор. Вось яны знайшлі яе, узрадаваліся і склаліся ў словы песні пра суровы сібірскі кут, дзе снягі заносяць машыны і дзе шафёрскае жыццё вельмі цяжкае...

Каваль спяваў спакойна, з ціхім сумам вымаўляючы словы, быццам вёў гаворку з добрым сябрам, скардзіўся яму на нешта, шукаў не спачування, а добрай парады. У гэтых словах і роздум быў і жаль. Песня ад гэтага гучала сумна і хвалююча. Мікола чуў яе некалькі разоў і заўжды здзіўляўся, не разумеючы, адкуль і чаму гэткі глыбокі сум у голасе Каваля. Мікола гарнуўся душой да гэтага неспакойнага хлопца, спадзеючыся, што можа нечым дапамагчы яму. Каваль жа адгукаўся на Міколавы пачуцці неахвотна. Аднойчы Мікола спытаўся ў яго пра мінулае, але той ухіліўся ад размоў, і больш Рубін не распытваў ні аб чым, ведаючы адну жыццёвую мудрасць: сябра шкадуй у горы, не распытвай залішне — непатрэбная дапытлівасць пакрыўдзіць.

Каваль хутка заўважыў Рубінаву далікатнасць. Мікола — шчыры, харошы таварыш. Калі знаёміліся, ён, назваўшы сваё прозвішча, папярэдзіў: «Націск на першым складзе. Ад слова «рубіць». З ім было лёгка працаваць: ён захапляўся працай і любіў яе.

Ён і спявае гэтак — цалкам аддаючыся песні: вочы глядзяць у агонь, летуценна выгнуліся бровы, і сам ён памкнуўся некуды ў іншы дзівосны свет, народжаны песняй. Пакліч яго зараз, ён здрыганецца, але пойдзе за табой, куды скажаш.

А вось Лапцін не падобны на яго: робіць усё, як быццам хоча падкрэсліць, што ён да цябе з адкрытай душой. А душа тая — схавана. Усё жартачкі, а да працы не асабліва хінецца. Ды трэба паважаць — брыгадзір! Каваль чуў за спіной яго сіпаваты голас, і ад асаблівай старанпасці, з якой Лапцін выводзіў апошні куплет, жаданне спяваць у Каваля прапала.

У печцы ўжо дагаралі смалякі. Чадзіла лямпа, праз закуранае шкло прабівалася цьмянае святло. Палатка рабілася нейкай няўтульнай, столь, здавалася, апусцілася яшчэ ніжэй і ціснула на плечы. Каваль павярнуўся, каб убачыць Лапціна, і здрыгануўся ад непрыемнага адчування — кавалачак інею са столі трапіў яму за карак.

— Паедзем у горад, Мікола? — прапанаваў Каваль Рубіну і паклаў гармонік на ложак.— Павячэраем па-людску. Га?

— У Брацк? Так позна?..

— А што? Раз, два — і там! «Сталічную» будзем толькі...

— Не, Пятро! У нас заўтра дзень цяжкі...

— А ў нас лёгкі,— з'едліва заўважыў Рубіну Лапцін. Ён неяк тэатральна вымаўляў словы і плюшчыў вочы.— Бачыш, у яго на вечар параграф іншы. А нам не да танцаў, як той казаў. Праўда, зямляк? Хадзем. Нам і ўдвух не горка будзе!..

Каваль з Лапціным выйшлі з палаткі. Вецер ударыў ім у твар сухім, дробным снегам. Пачыналася завіруха. Агні пасёлка, падобныя на маленькія дрыготкія кружочкі, мігатліва дрыжалі ў густой імгле. Справа свяцілася барвовая паласа: лесазавод працаваў у дзве змены. Ледзь угадвалася цьмяная сцяна тайгі, вецер дзьмуў адтуль не так рэзка, як ад ракі. Над дарогай, што вяла ў Брацк, гойдаліся светлыя плямы з жоўтымі дугамі па краях: ішлі самазвалы.

— Галаснём?
— Аб-бавязкова,— падтрымаў Лапцін.
Яны, як па камандзе, узнялі рукі.

Незанятых столікаў у сталоўцы было шмат. Каваль з Лапціным селі ў куток, далей ад буфета. Наліваючы ў шклянкі гарэлку, Лапцін сказаў:

— А ты ліхач, Пятро. Падабаюцца мне такія! Добра ўлупіў Шмякаву! Сюды клікалі — залатыя горы абяцалі, а тут...

— Мяне сюды ніхто не клікаў. Так што...

— Кінь, зноў за свой параграф,— паспешліва перабіў яго Лапцін.— Мяне не бойся. Я — свой! Шафёр шафёра, як рыбак рыбака... Ты каторы клас маеш?

— Другі,— сказаў Каваль. Яму было прыемна адказваць на гэтае пытанне. Паспешліва пацвердзіў: — Другі клас. Гэта табе што, не факт? Факт. А яны мне — рыдлёўку!..

Над столікамі вісела дымная парнасць. Галасы гучалі ў ёй глуха, быццам нехта прапускаў іх праз вату. Таксама прыглушана бразгалі відэльцы і дзінькалі шклянкі. За буфетнай стойкай цмокала піўная помпа.

Лапцін з празмернай уважлівасцю слухаў Каваля, гэта заахвочвала гаварыць, скардзіцца. А ці няма Кавалю за што паскардзіцца? Ёсць! Але Лапціну ён не скажа: глядзі, вось як пакрыўдзіць могуць чалавека. Не патрэбна яму дапамога, а вось спачуванне патрэбна, каб не так было балюча на сэрцы. Не, Каваль не такога гатунку! Але не часта сустрэнеш чалавека, які так уважліва будзе слухаць цябе, згаджацца адразу, згаджацца не таму, што гэтак трэба, а таму, што разумее цябе, жадае лепшага. Каваль расчуліўся:

— Разумееш, рыдлёўку. І Шмякаў мяне яшчэ вучыць быць далікатным. А мне гэтую далікатнасць, ведаеш, куды?..

— Сівай кабыле пад хвост...

— Можна і туды... А я працаваць хачу. Па-сапраўднаму. Я ж сюды не на пагулянку прыехаў!..

— Ды я разумею цябе, сябра мой дарагі,— Лапцін прыклаў руку да грудзей, а другой пастукаў ля падбародка: — Во як разумею. Сам шафёр, ты ж гэта ведаеш. Але нашто мне той хамут? Я ж не сівая кабыла. Жадаеш — табе раду дам. Хлопец ты разумны, возьмеш брыгадку, бу-

дзеш пахаджаць, камандаваць, а грошыкі набягуць. Чым не праца?..

Каваль пакрыўджана скрыгатнуў зубамі:

— Не, гэта мне не падыдзе. У брыгадзірчыка я гуляць не магу. Мне, ведаеш, прастор для працы патрэбны... Ага, прастор: рабіць, значыць рабіць! Працаваць, значыць працаваць...

Ён ускінуў рукі за галаву, абшчапіў шыю, потым ускудлачыў валасы і нахіліўся наперад, над столікам, і ўсё трымаў рукі на шыі і ўсё казаў, і з кожным словам яго гаворка рабілася хутчэйшай, узрушанай. Быццам зрабіўся другім чалавекам: быў пахмурны Каваль і вось няма яго, а сядзіць за столікам новы, зусім не падобны на ранейшага, чалавек. Ён марыў услых, і вочы яго былі недзе там, за сценамі гэтага дымнага зальчыка, у прыгожым свеце, вельмі далёкім і незвычайным. Нават голас яго зрабіўся няроўны ад хвалявання:

— А ты ведаеш, што гэта значыць — машына? Гэта дарога! Гэта вецер! Гэта пах соснаў і рачны водар. Націснуў — і па-ааляцела дарога. І вецер табе насустрач! І дарога грыміць. І душа спявае. І людзі глядзяць і радуюцца: бач, як ляціць, шэльма!..

— Людзі глядзяць, а ты што? — перапыніў яго Лапцін.— Людзі радуюцца, а мне з таго не купіць. Важна, каб сам радаваўся. А калі ў кішэні пуста — дзе тут чорта радасць?

— Ёсць радасць,— хмурна адказаў Каваль і, не ведаючы, як інакш абвергнуць Лапціна, упарта дадаў, але ўжо без узнёсласці — яна прапала некуды ад слоў Лапціна: — Думаеш, у грашах усё шчасце?

— Усё не ўсё, а кавалак ладны. Вось ты паглядзі,— Лапцін патыкаў рукой на талеркі: — Нам гэта за што далі? За прыгожыя вочы? За грошыкі, родны мой, за грошыкі!..

— А грошы за працу дадзены!

— Праўда, за працу. За працу,— ахвотна і паспешліва згадзіўся Лапцін, задаволены, што размова ўваходзіць у патрэбнае рэчышча.— А ты вось працаваць хочаш, а табе і не даюць, другі клас шафёр.— Ён па-свойму плюшчыў вочы і ўсміхаўся, але скрозь робленую весялосць прабівалася нешта злоснае і з'едлівае.— Хочаш жа на машыне працаваць? Ну, калі без хлусні?..

— Хачу! — са злоснай упартасцю буркнуў Каваль.— І адчапіся. Ясна табе?..

— А ты ў бутэлечку не гарніся,— міралюбна параіў Лапцін.— Я табе сябра. Калі хочаш — сардэчна пагаворым. А ты мяне задушыць хочаш. А за што? Ну скажы, за што?

— Нічога я не хачу ад цябе. Адчапіся...

— То ж самы грунт нам за гэта і выпіць. Трымай!

— Пачакай,— адсунуў Каваль шклянку.— Лезеш ты ў нутро, як вужака. Пасядзім...

Каваль глядзеў на людзей, што сядзелі за суседнімі столікамі, а думкі яго былі далёка. Чаму так усё на гэтым свеце? Вось толькі што яму было добра і радасна, ён марыў, бачыў нешта наперадзе, а нейкай недарэчнай заўвагай Лапцін скасаваў усё: і добры настрой, і мары, і ўзнёсласць,— усё гэта адсунулася некуды далёка, далёка. Ад слабай прыязнасці да Лапціна не засталося нічога, апроч прыкрасці і нежадання слухаць яго. Не, мабыць, зноў усё пайшло ў тваім жыцці не так, як трэба...

А што гэта значыць — «не так, як трэба», калі гэта пачалося з табой, Каваль? Падумаўшы пра гэта, ён, сам таго не жадаючы, абудзіў успаміны аб даўно мінулым, аб тым, што было з ім у той маленькай вёсачцы на Дзвіне. Да вайны, да ліпеня 1941 года, яны жылі там усёй сям'ёй. Бацька і старэйшы Петрусёў брат загінулі ў партызанах. Пасля вайны маці прадала хату і пераехала да сястры ў Полацк. Яна і сястры сказала адразу, што робіць гэта дзеля Петруся — ён павінен скончыць школу і пайсці вучыцца далей, на інжынера. Чаму яна рыхтавала яго менавіта на інжынера — цяжка сказаць. Ва ўсякім выпадку, марам яе не суджана было спраўдзіцца...

Так, не спраўдзіліся мары і надзеі маці. Дык што з таго? Што ён, зломак які? Ён жа жывы, здаровы. Мае спецыяльнасць і нейкі грунт пад нагамі. Але чаму неспакойна на сэрцы? Чаму заўжды ўспаміны пра мінулае выклікаюць незадаволенасць сабой, хвалююць незразумелай і ў той жа час яснай ісцінай, што збочыў ён, што нядобра павярнулася яго жыццё? Ён разумеў гэта даўно, яшчэ ў той час, калі разлучыўся са школай і пайшоў зарабляць свой хлеб. Так, ужо тады не ставала яму таго хлеба! Можна было абысціся, але ён бачыў, што маці хварэе. Ды і паводзіў ён сябе ў школе блага... Выключылі. Ён абяцаў маці, што будзе вучыцца потым, крыху зарабіць і возьмецца за кніжкі... Лёгка так марылася яму ў той час! І работы было! Рабочыя патрабаваліся ўсюды: горад адбудоўваўся пасля вайны. Пятрусь пачаў праца-

ваць на цагельным заводзе, потым — на будоўлі, а крыху пазней — на лесараспрацоўках, дзе лёс звёў яго з адным шафёрам. Той дапамог яму паступіць вучнем на аўтабазу. Каваль праз год авалодаў шафёрскай справай. Навучыўся ён і зарабляць: і «злева», і «справа», і «аб'язджаць» інспекцыю. Завяліся і прыяцелі, якія аднойчы папрасілі яго падвезці нейкі груз па адну кватэру. Перад гэтым выпілі. Ён ляцеў праз горад, нібы ў полі. Чалавек, якога ён тады збіў машынай, застаўся, праўда, жывы, але Каваля судзілі. І тады, на судзе, стала яму ўжо вядома, што ў тую ноч вёз ён на сваёй машыне крадзеныя рэчы.

Выйшаў з турмы Каваль амаль на год раней тэрміну. Шафёрскія правы яму аднавілі, але жыць у Полацку было сорамна, і ён паехаў у Сібір, каб пачаць там новае жыццё. А яно вось і тут не наладжваецца. Была і тут, за тысячы кіламетраў ад роднай хаты, у яго анкеце графа, прачытаўшы якую, у аддзеле кадраў адразу насцярожыліся. Шмякаў шматзначна працягнуў: «М-ммда!» Каваль навучыўся пазнаваць людзей і ўзненавідзеў яго за гэтае мычанне. Заўжды, чытаючы ў чужых вачах недавер да сябе, ён адчуваў, як у яго душы бунтавала злосць і на людзей, і на сябе, і на ўвесь свет — на ўсё тое, што перашкаджала яму жыць гэтак жа проста, як жывуць другія. Калі праходзіла злосць, з'яўлялася ўсведамленне сваёй віны, і Каваль, каб уцячы ад самотных думак, піў гарэлку, рабіў розныя глупствы.

Гэтак атрымалася і ўвечары. Ён дарэмна, вядома ж дарэмна, спрачаўся і кпіў са Шмякава. Чым вінаваты Шмякаў? Тым, што скончыў тэхнікум і працуе ў аддзеле кадраў? Не, не ў гэтым справа, і не ў гэтым яго віна тут... А ў чым жа? Чаму ён, Каваль, кпіць з яго? А вось з Лапціна ён не кпіць. Чаму? Ён сам не мог гэтага разумець. Можа, таму, што Лапцін падхвальвае яго? Але ж не, і да яго нешта нядобрае зарадзілася ўжо ў душы...

— Ты пакінь маркоціцца, арол! — Лапцін тузануў Каваля.— Глядзі, арол, мазгі скіснуць! Дзе другія возьмеш? Ды не сядзі ты, як баба! Гарэлка ж стыне! Бяры!

— Кажу, пакінь!

— Ну, няхай сабе стаіць акалеўшы,— Лапцін перакуліў шклянку, узяўся закусваць і казаў, весела падміргваючы: — Цяпер тут жыць можна. А вось год назад каб ты прыехаў — роўнае месца, ваўкі ля палаткі вылі. Во гэта было геройства. А цяпер што? Цяпер — цьфу!

У яго словах былі і папрок, і фанабэрыя, і тонкая на-

смешка — ведай, з кім гаворыш! Каваль не адразу знайшоў, што адказаць Лапціну, нешта трэба было супрацьпаставіць яго сцвярджэнням, але што? Ён не ведаў гэтага і таму сказаў, адчуваючы, што паўтарае не свае ўласныя, а стаеўскія словы. У гэтых словах ужо гучала не чужая,— уласная, абгрунтаваная на цвёрдай веры, упэўненасць:

— Галоўнае наперадзе. Будуць перагароджваць раку, увогуле, станцыю будаваць. Скарыць Падунскія парогі гэта справа нялёгкая.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў Лапцін.— Ты ж рамантык. І адкуль гэта ў цябе? Пераўтвараць прыроду і ў гэтым працэсе самога сябе, як гэта пішуць у перадавых артыкулах. І ты па такому параграфу жыць збіраешся? Ну, ты ска-ажы!..

— Пакінь,— адрывіста папрасіў яго Каваль.— І за мяне, увогуле, жыццё не плануй. Зразумеў?

— Гэ-гэ! З паўабарота, братачка, заводзішся. Гэта добрая машына так павінна. А ты ж чалавек... Але... Агоньчалавек. Хвалю!

— Агонь не агонь, а ты не чапай!

Каваль размінаў цыгарэту пальцамі. «І ўсё ж чаму ён да мяне паддобрываецца? І пра шафёрскую працу гаворку завёў не так сабе!..» Змрочна паглядзеў Лапціну ў твар:

— І ведай, хлуслівай добразычлівасці не цярплю!

— Нашто ты з гэтай сігарэцінай пэкаешся? Бяры казбечыну,— не звяртаючы ўвагі на яго словы, сказаў Лапцін.— Бяры, чаго там!..

— Не, з сігарэты я пачаў, з сігарэты і кончу,— сказаў Каваль, адсоўваючы працягнуты пачак папярос.— Наважыўся кінуць.

— Памагай бог. Давай, давай,— весела заахвоціў яго Лапцін і шматзначна падміргнуў: — І мы ўсяляк паможам. Вялікага не абяцаю, але памагу.— Зарагатаў:— Го-го-го! Ды не з курывам! Я кідаць гэтае смачнае зелле не збіраюся. А з машынай зробім: за абаранак сядзеш. Гэта можна проста!..

Віцэлец у пальцах Каваля ўздрыгнуў. Лапцін узяў шклянку і пачаў уважліва разглядаць нешта на донцы, нібыта збіраўся дзеўбануць яго сваім вострым носам. Потым паскроб мезенцам вялікую валасатую бародаўку на левай шчацэ і паўтарыў:

— За абаранкам будзеш! — і зусім ціха, працягваю-

чы шклянку: — У кіраўніцтве свае людзі ёсць. Зразумела? Ну, трымай!..

Нешта непрыемнае прымешвалася да радасці, што выклікалі словы Лапціна, і Каваль, спыніўшы свой позірк на мезенцы, што нядаўна скроб бародаўку, напружана думаў, намагаючыся зразумець прычыну сваёй незадаволенасці. Але не мог зразумець і толькі адчуваў сваё бяссілле перад гэтым чалавекам. «А піць мне больш нельга. Звалюся...» Лапцін глядзеў на яго ўважна, выгнуўшы абаранкам ніжнюю губу, і чакаў. «Трэба ўзяць сябе ў рукі. Трэба неяк трымацца...» Наважыўся адсунуць шклянку. У вачах Лапціна прамільгнула кплівасць, і ніжняя губа яшчэ больш, цяпер ужо з яўнай пагардай, абвісла. «Ах, ты так! Добра ж!..» Каваль моцна чокнуўся з Лапціным і выпіў усё да рэшты.

## 3

Завіруха, што вар'яцела ўсю ноч, сцішылася пад ранак.

Сухі снег, нібыта лістапад, шасцеў па лясных нетрах. Рыпелі лістоўніцы, прыціскаючыся галінамі да кашлатых ялін, быццам спадзяваліся знайсці паратунак ад сцюжы ў іх колкай ігліцы. Белы ледзяны вецер парывамі налятаў на палаткі, скуголіў у заінелых распорках, грозна трубіў і завываў над дахамі.

Ад гэтага выцця Каваль і прачнуўся. У галаве, цяжкай і непаслухмянай, стаяў несціханы звон. Язык зрабіўся тоўсты, шурпаты, як чужы. Прыгадаў учарашні вечар, плюнуў. «Але ж і гарэлка, трасца ёй у бок! Звер!»

Вобмацкам знайшоў кварту, хацеў напіцца. З яе нічога не лілося, толькі вусны прыліпалі да халоднага жалеза. Каваль адкінуў кварту, і яна шмякнулася на хвойнік, што ўсцілаў падлогу.

Па сценах палаткі шастаў снег. Цьмяна сінелі квадраты акна. Ад іх маўклівага змрочнага бляску зрабілася яшчэ халадней, і Каваль глыбей зашыўся пад коўдру.

Праз шоргат снегу, што час ад часу пераставаў і зноў пачынаўся за сцяной, даляцеў глухаваты голас Рубіна:

— Спіш, Пятро?

— Не, не сплю. Чуеш, завіруха. Мабыць, на адлігу...

— Чо-орт, я, здаецца, прымёрз,— вылаяўся Рубін.— Галаву неададраць. Ну-тка, пасвяці трохі!

Каваль шмаргануў запалкай. Няяркае святло выхапіла з цемры ложак, пасярэбраны намараззю, белую падуш-

ку па галаве Рубіна; ён намагаўся аддзіраць яе, крывіў твар ад болю:

— Смяецца яшчэ! Памажы! Падтрымай, кажу!..

Адарваўшы падушку, Рубін пачаў грэць галаву ля печкі, якую толькі што распалілі. Дровы гарэлі кепска. Са шчылін лена выпаўзалі скруткі дыму. Чмокнуўшы разы са два, комін басавіта загудзеў, дымны выпат усплыў на яго баках.

Калі Каваль выйшаў з палаткі, завея амаль супялася. Пасёлак патануў у гурбах і быццам драмаў яшчэ, але сям-там людзі ўжо варушыліся, раскідвалі снег. Ад ракі далятаў няроўны гул: ламала лёд на парогах. На ружовым даляглядзе выразна акрэсліваліся сопкі і няроўная лінія тайгі. Зімовая далеч скрадвала адлегласць: вяршыні сопак, да якіх не дабярэшся і за тры гадзіны, здаваліся, стаялі побач і быццам пасівелі за ноч. Чорнымі засталіся толькі ўцёсы, што сціснулі Ангару з абодвух бакоў. Змрочныя, у ранішняй дымцы, каменныя аграмадзіны ўзвышаліся на белай роўнядзі, і ноч, палахліва адскочыўшы ад іх, таропка бегла ў расселіны паміж сопак, хавалася там і знікала недзе за чорнымі ўступамі тайгі.

Каваль паглядзеў на далягляд, што набрыняў барвова-ружовымі фарбамі, і адчуў, як у душы расце нейкая прыкрасць. «А я ўчора грошы дашчэнту прасмыліў. Але ж і выгнулі свечку, крый ты божа!.. Можа б, правільна было, каб паслухаў Міколу. Цяпер у яго як пазычыш? Няёмка... А куды ты дзенешся!..» Прапанаваў, не гледзячы яму ў вочы:

— Цяпер пахмелку б арганізаваць, га? Мікола?

— Лапціна шукай, а я што!

У словах Рубіна прагучалі ноткі незадаволенасці. І праўда! Адкуль той добразычлівасці быць? Учора ноччу, калі прыехалі з Брацка, яны вэрхал учынілі ў палатцы і, здаецца, Міколу пакрыўдзілі.

— Дык што мы ўчора? — запытаўся Каваль, і яго словы гучалі як прапанова замірыцца: — Не так што блага прыйшлі. Паўлітэрку нёс, памятаю, але паваліўся. І дзе? На самым парозе. А можа, яна не пабілася?..

— Ты пра гэта ў Лапціна спытай!

— Ён жа прыклеіўся, ведаеш,— міралюбна сказаў Каваль, быццам просячы прабачэння за тое, што ўчора піў гарэлку з Лапціным: — Прыклеіўся, як ліст бярозавы ў лазні...

Меў намер сказаць і пра абяцанне Лапціна наконт

машыны, але змоўчаў. «П'яны цвярозаму не таварыш. Знайду лепш Строгача, адпрашуся на пару гадзін — і па ўсім... Ён і грошай дасць. Гэты не пашкадуе!»

Шукаць праraba яму не прыйшлося: калі дарогу ачысцілі, ён сам прыйшоў да палаткі.

— Вагоны трэба разгружаць,— сказаў Строгач і раптам, заўважыўшы, што каля яго стаіць Каваль, а не брыгадзір, закрычаў: — Дзе Лапцін? А народ дзе яго? Не, ён мяне ў труну ўгоніць са сваёй лянотай!..

Настрой прараба нічога добрага не абяцаў. Плячысты, з чырвоным тварам, Строгач быў чалавек натуры шырокай: кожнаму, хто папросіць, пазычаў грошы, калі яны былі, дараваў хлопцам розныя вольнасці, але да работы быў патрабавальны вельмі, несумленнасці ў працы не любіў і спаганяў за яе строга.

Аддаючы нарады Кавалю, ён паварушыў брывамі, і мышачкі на яго твары, ля вачэй, задрыжалі, як быццам па вадзе пайшло рабацenne.

— Хутчэй Лапціна пашукай, здаецца, да піларамы ішоў...

Лапцін сапраўды быў там. Ён спрачаўся з рамшчыкам і незадаволена паморшчыўся, калі ўбачыў у руках Каваля паперы; перакладаў іх з рукі ў руку, разглядаў, крывіў вусны і ўрэшце сказаў, але не да Каваля, а так проста, некуды ў прастору:

— Апісаць, хто груз выдае, цяжка? Лётай потым Лапцін, нервы матай сабе брыгадзір! А яны што, у мяне са сталі ці слановыя?

Вылаяўся. Скамячыў нарады і паклаў іх у кішэню. Ніводнага слова пра мінулы вечар. Моўчкі павалокся ў кантору і доўга адтуль не выходзіў. Машыны выйшлі з парка толькі праз гадзіну.

У дарозе Каваль пазычыў усё ж такі грошай у Міколы. Той, выцягваючы з кішэні тры дзесяцірублёўкі, сказаў:

— Апошні раз, каб ведаў. Мне цябе, дурня, шкада...

— Добра! Ёсць! Праўда, можа, яно і не апошні, гэта, ведаеш, цяжка так адразу зрабіць. Але абяцаю: хутка на зеллі пастаўлю крыж! — Каваль усміхнуўся Рубіну і дадаў: — Абаранак у рукі — і кропка!

— Ды хто ж табе, п'янаму, машыну даручыць?

— Усё будзе, як той паляк казаў, у пажонтку, матка боска!

— Эх, Пятро, Пятро! Добры ты хлопец, а вецер у галаве!

— Ён жа, той вецер,— усюль! Адчуваеш?

Каваль падстаўляў твар марозным хвалям, радаваўся, што з Міколам зноў у яго ўсё пайшло ладам. Слаўны хлопец гэты Мікола. Сапраўдны таварыш. І чалавек чэсны. А Лапцін? Не, той жа нават і не загаварыў па-чалавечы. І ведае ж, што апошні рубель учора прасадзіў. І каб табе слова. А можа, забыўся? Трэба будзе яго на станцыі паклікаць, брынчыць, нябось, галава...

Каваль чакаў станцыі, як нейкага збавення ад супярэчлівых думак і горычы, што асела ў душы. На паваротцы да эстакады, дзе машына сцішыла ход, ён лоўка саскочыў на дарогу і пайшоў наўпрост, праз рэйкі, да драўлянага будынка станцыі.

Маленькая станцыя выцягнулася, быццам раздалася ўшыркі ад доўгіх чыгуначных саставаў. Уперамешку з двухвоснымі стаялі чатырохвосныя вагоны з мноствам усялякіх знакаў. На тонкіх драцінках віселі цьмяныя свінцовыя пломбы.

На платформах грувасціліся незразумелага назначэння машыны ў драўляных скрынях, гарбаціліся адмыслова звараныя жалезныя канструкцыі, радамі, нібыта на парадзе, выстраіліся кантэйнеры. На скрынях стракацелі папярэджанні: «Не кантаваць!» «Асцярожна! Шкло!» І часцей за ўсё сустракаліся буйныя надпісы: «БрацкГЭСбуд. Тэрміновы груз!» Грузы ішлі з Масквы, Ленінграда, Мінска і многіх іншых гарадоў...

Упершыню давялося тут быць ноччу, і таму ў памяці гэтая станцыя захавалася, як самая звычайная. Тое, што Каваль пабачыў потым на Падуне, таксама ніяк не ставалася з яго паняццямі аб вялікай будоўлі. Будоўля ўяўлялася яму як аглушальны грукат машын, кранаў, жалеза і вялізная армія будаўнікоў. Праўда, людзей на Падуне было! Але яны далёка ад ракі пілавалі лес, будавалі дамы, пракладвалі дарогі. Цяпер жа, не бачачы канца вагонам, Каваль адчуў, што ў жыцці будоўлі пачынаецца нешта важнае і вялікае. Незнаёмыя машыны, што стаялі на платформах, хвалявалі, нараджалі прадчуванне чагосьці незвычайнага, і Каваль аглядаў іх, мармычучы сабе пад нос:

— БрацкГЭСбуд. БрацкГЭСбуд. Брац...

І раптам прыпыніўся, здзіўлены. На бліжэйшай ад яго платформе чырванеў транспарант з фанеры: «Віцебскія будаўнікі — будаўнікам Брацкай ГЭС». І вось яшчэ!.. Яшчэ! Амаль увесь эшалон — разборныя дамы! Віцебск!..

Ля эстакады, дзе доўгай стужкай выцягнуліся машыны, што падставілі кузавы пад дзверы вагонаў, стаяла гамонка. Гудзелі маторы. Грузчыкі выцягвалі праз шырокія, як вароты, дзверы вялікія зялёныя скруткі. Каваль убачыў сярод людзей, што працавалі на першай машыне, Ціхона Чумака. Ён ступіў з дзвярэй вагона проста ў кузаў і ўзяўся ладкаваць накіданыя туды зялёныя скруткі. Амаль два месяцы пражылі яны з Чумаком у адной палатцы, а засталіся чужымі. Адзінае, што ведаў Каваль пра яго, гэта што Чумак прыехаў з заходніх абласцей Украіны. А потым да Чумака прыехала жонка з сынам Ігнаткам. Жонку Ціхон зваў заўжды нейк сярдзіта — Рустына. Аднойчы Каваль бачыў, як Чумак, раззлаваўшыся на жонку, тыцнуў ёй кулаком у плечы. Рустына нічога не адказала, толькі сагнулася яшчэ больш. Заўжды, калі Каваль бачыў гэтую змрочную, маўкліва-пакорлівую жанчыну, ён адчуваў нейкую вінаватасць перад ёй. А Ігнатка спадабаўся: вёрткі, лоўкі і зусім не падобны на Рустыну з твару.

Для рабочых брыгады Ціхон Чумак — «Дніпро». Гэтая мянушка адразу і надзейна прыляпілася да Чумака. Варта было яму трохі выпіць, і тады яго ніхто не мог угаварыць не спяваць. А спяваў ён высокім няроўным голасам усё адну і тую ж песню: «Рэвэ тай стогнэ...» Без работы ён быў марудны, няспрытны, а на працы, калі яна прыходзілася яму па душы, кіпеў. І ўсё ж яго чамусьці не любілі, пры выпадку кпілі з яго. Ён заставаўся спакойны, быццам тое, што жартам казалі рабочыя пра Ціхона, не мела ніякага дачынення да яго. Толькі калі ўжо вельмі назалялі — варушыў доўгімі, падобнымі на асаку, вусамі і абараняўся аднымі і тымі ж словамі, у якіх не было ні злосці, ні крыўды: «Гыш, чарцяняты, пагулянку яны знайшлі...»

Чумак убачыў Каваля, які падыходзіў да эстакады, і ўзрадаваўся, але сказаў сярдзіта, не ўхваляючы ўсім выглядам тое, што яго доўга не было на разгрузцы:

— Глядзі, вунь новы майстар. Накрутка ўжо нам была...

Каваль паглядзеў у той бок, куды паказаў Чумак, і не ўбачыў нікога, апроч дзяўчыны ў шэрай заінелай хустцы і чорным кажушку, які быў сцягнуты ў таліі вузкім паяском. Яна павярнулася да Каваля спіной, і ён не разглядзеў яе твар. Яму здалося, аднак, што ён недзе ўжо бачыў гэтую хустку. Каваль глыбока ўздыхнуў, марознае паветра апякло горла, і ён, адчуваючы гуллівую бесклапотнасць і жаданне пажартаваць, працягнуў:

— О-оо! З начальствам трэба павітацца!..

## 4

Разгарнуўшы сшытачак, Паліна запісвала нумары вагонаў, якія ўжо былі разгружаны. Рукі курчыліся ад марозу, і яна пахукала на пальчаткі, быццам гэта магло сагрэць пальцы, пацерла, схавала рукі ў кішэні. Пад пальцамі зашастала папера паштоўкі. Паліна выцягнула яе з кішэні, зноў схавала і адчула, што пальцы быццам бы крышачку адышлі, нібыта ім зрабілася крыху цяплей. Паківала галавой. «Добрая мая матуля! Ты ўсё хвалюешся, хоць на тое няма аніякай прычыны. Ну, з чаго гэта ты ўзяла, што мне тут халодна і галодна...»

Яна думала пра маці штодня. Гэта былі не ўспаміны, а проста моцнае пачуццё, якое звязвала Паліну з маленькай прыангарскай вёсачкай. Праўда, не зусім яна і маленькая, гэта, калі здалёк глядзіш, такой яна здаецца, а зблізку — вокам не акінуць старадаўнія, робленыя з тоўстага бярвення, хаты. Вёска тая завецца Ігжа. Хаты ўсе пачарнелі, ураслі ў зямлю. Стаяць яны на левым беразе Ангары. Лугі і поле няроўнай стужкай цягнуцца ўсцяж ракі і ўпіраюцца ў зялёную сцяну тайгі.

Правы бераг гарысты. Россып чырвонага пясчаніка з чорнымі плямамі каменя і пышнай кучомкай соснаў уверсе крута спадае да вады. Ля соснаў, якраз насупраць хат, вытыркнуўся з размытага пясчаніка вялізны выгнуты зуб — выступ гранітнай скалы. З двух бакоў прыляпіліся да яго бярозкі — нізкарослыя, кручаныя, з цёмнымі, амаль карычневымі камлямі.

Улетку Паліна любіла забірацца туды; яна садзілася на замшэлы камень, глядзела на сінявыя вяршыні сопак, марыла. Мох на камені быў мяккі, цёплы, як нагрэты на сонцы аксаміт, і бярозкі шапацелі таксама мякка, ад лісця іх таксама бруілася цяпло. З вышыні Ангара здавалася ціхай і спакойнай, нібы адлітай з блакітнага шкла, а расскіданыя па беразе хаты — нейкімі спалоханымі, быццам яны, ратуючыся ад тайгі, беглі, ды, убачыўшы шырокую раку, разгублена прыпыніліся: не пераскочыш! Паліна трохі прыплюшчвала вочы, і тады ў сіняй далечы замест старых і чорных хат выраслі з сонечнага бляску дзіўныя казачныя дамы з адмысловымі дахамі і прамяністымі вокнамі.

Тыя дзіцячыя мары, мабыць, і вызначылі яе лёс. Бацька, стары леспрамгасаўскі сплаўшчык Вікенцій Авяр'янавіч Багун, ухваліў намер дачкі. Цягне да будаўнічай справы?

Добра! Інжынер дык інжынер!.. Маме, якая ніколі не выязджала з вёскі, гэта не спадабалася, але станавіцца на даччынай дарозе яна не схацела, і ўжо восенню, атрымліваючы ласкавыя лісты з Масквы, нават ганарылася, што яе Паліна будзе інжынерам-будаўніком.

Цяпер лісты ў Ігжу ідуць з Брацка, а ў тых лістах замест расказаў аб прыгожым шумным горадзе, дзе ёсць тэатры, музеі, рубінавыя зоркі над Крамлём, ідзе скупая гаворка пра блакітныя завеі над Ангарой, пра поспехі ў працы і новых сяброў. Не возьмешся ж пісаць пра непаладкі, што закружылі цябе ў імклівай віхуры!

Вось сёння ледзь толькі яна падрыхтавала машыны да адпраўкі на правы бераг, як тэрмінова прыйшлося ехаць на станцыю. Неразбярыха пайшла тут з самага пачатку. Пасля доўгіх пошукаў патрэбны састаў быў знойдзены, але адразу высветлілася, што пад'ехаць да яго нязручна. Прыйшлося чакаць, пакуль яго падцягнуць да эстакады. Потым стала вядома, што тры вагоны, пералічаныя ў накладной, загналі невядома куды, і яна зноў паслала Лапціна да начальніка станцыі.

За спіной у Паліны зарыпеў снег. Па таропкіх кроках здагадалася: «Лапцін спяшаецца. Вагоны знайшоў!»

— Ну, дзе яны былі?..

Азірнулася. Збянтэжылася. Насмешлівыя вочы маладога рабочага мералі яе з галавы да ног. На імгненне ёй здалося, што стаіць перад краўцом і той прыглядаецца і вырашае, які фасон больш падыдзе. «Чаму ён гэтак утаропіўся? Мабыць, з брыгады. Можа, Лапцін і паслаў?..»

— Знайшлі вагоны, таварыш?..

— Каваль,— бесцырымонна падказаў ён.— Прыйшоў на разгрузку. Пад вашае мудрае кіраўніцтва. І гэтак далей...

Паліна хутка перамагла разгубленасць. «Цікавы хлопец. Лоб мудраца, а вочы насмешніка. Вясёлы, відаць...»

— Адкуль будзеце? Не землякі, часам? — спытаў ён.

— Наўрад...

Яна пацерла рукой шчаку і ў той жа момант з жахам адчула, што вісіць у паветры. Гледзячы ў яго вясёлыя вочы, папрасіла:

— Пакінь! Ну, асілак!

Ён быццам і не чуў нічога, прыціскаў яе да сябе, круціўся на месцы. Паўспевам казаў:

— Была-аа адна-аа зямлячка така-аая ў мяне...

Паліна зморшчылася. «Гарэлкай нясе! Агідна». Яна

ўперлася локцем яму ў кадык і, намагаючыся быць строгай, загадала:

— Ну?! Пакінь зараз жа!

Ён адпусціў яе, памацаў шыю і, па-блазенску ўсміхаючыся, сказаў:

— Круціць галаву набок, быццам я ёй гусак...

— Нічога, нічога! Да вяселля загоіцца. Людзі працуюць, а ён дурня строіць. Я цябе наскрозь бачу, гультай!..

Злосць не прыкрытая, не схаваная нічым мільганула ў яго вачах. У Паліны здрыгануліся вейкі. Не ад жаху, а інстынктыўна, каб абараніць твар, яна прыкрыла рукавіцай вусны. «Ён ударыць мяне!..»

Каваль глядзеў на Паліну моўчкі і не заўважаў яе спалоханых вачэй, а бачыў толькі рукі, паспешліва ўскінутыя да твару. Позірк яго хутка святлеў, вочы рабіліся чыстыя, даверлівыя, як у дзяцей, вусны скрывіла няпрошаная ўсмешка. Цяпер ён ужо быў перакананы, што ніколі раней не бачыў Паліны, не сустракаў гэтых карых і вялікіх, нібыта здзіўленых нечым, вачэй, гэтых рэзка акрэсленых вуснаў і бялявай пасмы, што выбілася з-пад заінелай хусткі. А рукавіцы былі знаёмыя да кожнай нітачкі. Якраз такія атрымаў ён на Поўначы, дзе адбываў пакаранне. Іх прыслала яму маці. Зялёныя, з ружаватымі палоскамі па краях, рукавіцы. «Не, гэта мроіцца мне... Гэткае падабенства!» Яму здалося, што ён чуе раз'юшанае выццё паўночнага ветру, грозны голас рыжага Івана — лагернага заваддатара часамі дзікіх гульняў. «Прадасі іх, а грошы сюды. Справім хаўтуры па рукавічках!» Ён не прадаў і ледзь не паплаціўся жыццём...

Пятрусь крутануў галавой, каб адагнаць здань. Але здань гэтая — Паліна — нікуды не знікала, і тады ён намаганнем волі адштурхнуў у нябыт кавалак старога жыцця, што нечакана і няпрошана ўсплыў у памяці, уцягнуў галаву ў плечы і моўчкі пайшоў да вагонаў.

Рэштку дня Каваль працаваў са змрочнай зацятасцю, не адчуваючы, аднак, ніякага ўздыму, хоць яго стараннасць пахваліў скупы на ласкавае слова Чумак. Пасля абеду, калі выгрузка заканчвалася і Чумак, сказаўшы Кавалю пачакаць, палез пад вагоны, да яго падышла Паліна.

— Скончылі? — ветліва і стрымана спыталася яна.— Тады чаго стаіце? Трэба ад'язджаць!..

— Трэба. Самі ведаем, але завязаць няма чым.— Каваль пакратаў вяроўку, якая звісала з борта: — Кароткая. Чумак пайшоў пашукаць драціну ці што-небудзь...

Паліне здалося, што вяроўкі ўсё ж такі хопіць, і яна ўзялася мацаваць яе за бартавыя крукі. Ці то пытаючыся, ці то сцвярджаючы, сказала:

— Вось бачыце? Тут і работы ўсяго было...

Яна паспела ўжо некалькі разоў вылаяць сябе за нявытрыманасць і цяпер памагала Кавалю з патаемным намерам хоць трохі задобрыць яго. У гэтым сваім жаданні хацелася ёй знайсці апраўданне той рэзкасці, з якой выгаворвала яму ў пачатку дня. «Ну, пажартаваў хлопец. Ды што з таго?»

Каваль бачыў: Паліна зрабіла глупства, завязаўшы гэтак вяроўку. На паваротцы ці калдобіне машыну падкіне, вяроўкі нацягнуцца, прыўзнімуць крукі, і борт адкрыецца. Але ён не выправіў яе памылку і, дапамагаючы шафёру выбрацца на дарогу, са злосным радасцю падумаў: «Няхай! Будзе ведаць, як камандаваць!..»

Неўзабаве прыйшоў Чумак, прынёс маток дроту. Засердаваў, убачыўшы, што машыны ўжо няма:

— Чым закруціў борт? Га? Чым, хачу я ведаць?

— Чым, чым! — злосна адмахнуўся Каваль.— Пальцам — вось чым, калі хочаш ведаць!

Пагрузіўшы на машыны апошнія скрынкі з цвікамі, яны выехалі са станцыі. Было яшчэ не цёмна. Дарога ішла ўсцяж чыгункі, потым павярнула ў поле. Каваль сядзеў у кузаве, зашыўшыся паміж скруткаў брызенту. Сядзець было няёмка, перашкаджаў маток дроту, і Пятрусь наважыўся выкінуць яго на дарогу. Чумак напусціўся на яго, адабраў маток:

— Не руш! Не ты паклаў, не ты і возьмеш!

— Уласнік, трасца тваёй матары! Сяло сваё агароджваць цягнеш, не інакш!

Чумак сярдзіта заварушыў вуснамі:

— Паглядзі перш, як у нашых сёлах жывуць!

— А ці я не бачыў?

— Вось хату збудую — пабачыш.

— Якая карысць? На дно ўсё роўна пойдзе.

— Чаму на дно? — узвінціўся Чумак, і яго вочы трывожна звузіліся.— Ты мяне не палохай!

— Я і не палохаю. Колькі гаворкі было: левы бераг амаль увесь пад затапленне пойдзе. Мора будзе!

— Хай сабе,— ажывіўся і паспакайнеў Чумак.— Ля самай хаты — рыба. Не купляць, дзякуй богу. Брадні́чок ноччу пацягнуў — і маеш!

У колкім паветры зычна гулі матory, быццам на нейкім дзіўным інструменце бралі самую высокую ноту. Тонкія, нябачныя струмені сцюдзёнага ветру seклі твар, клалі срабрысты іней на бровы. Каваль часта паглядаў на дарогу, па якой беглі машыны. Яму было смешна ад разгубленасці Чумака і незразумелым здавалася яго жаданне пабудаваць хату на левым беразе, бліжэй да вады. Думкі аб гэтым перамешваліся з крыўдай на Паліну і незразумелай трывогай, якую выклікала ў сэрцы гэтае імя.

Наперадзе паказаліся высокія каміны лесапільні, дарога пайшла раўнейшая, і ён адчуў радаснае хваляванне ад таго, што ніякай аварыі не адбылося. Але востры халадок чакання не праходзіў, і Каваль, ляскаючы зубамі ад холаду, расціраў твар далонямі. «Пачакай яшчэ! Завязала барты! Пераправа наперадзе!..» Ён падумаў гэта са злосцю і адразу ж упікнуў сябе, што робіць нядобра і несумленна...

Увечары Паліна забегла ў кантору ўпраўлення. У калідоры драўлянага двухпавярховага будынка ледзь-ледзь свяціліся электралямпачкі. Ля акна вісела нядаўна зробленая насценная газета. Паліна паглядзела па шыльдачку, аблямаваную адмысловай віньеткай, і націснула ручку дзвярэй.

За маленькім, у буйных чарнільных плямах, сталом сядзеў Шмякаў. Убачыўшы Паліну, ён густа пачырванеў і зрабіўся падобны на вучня. Хуценька паправіў світэр з белымі ялінкамі на грудзях.

— Калі ласка, сядайце. Дазвольце кажушок!

— Не, дзякуй. Я ненадоўга. Была ў галоўнага, пераправу адклалі. А ён паехаў...

— Ён хутка будзе, трэба пачакаць.

— Не выходзіць... Дарэчы, асабовыя карткі нашага ўчастка далёка ад вас? Не, не мантажнага. Новага ўпраўлення, на правым...

— Што-небудзь здарылася? — скрозь цікаўнасць у голасе Шмякава прабілася трывога.

— Ды не! — адмахнулася Паліна, злуючыся: «Які ж ён пазола!» — Проста цікава... Ці многа там моладзі будзе?..

— Гэта можна. У мяне чалавек на далоні. Вось! Узяў, і — гатова!

Ён падаў ёй тоўстую папку шэрых прадаўгаватых картак. Прамы канцылярскі почырк быў цібыта знаёмы. «Гэта ж яго, Шмякава, рука малявала шыльдачку на дзвярах. А ветлівасць прытарная. Нават няёмка неяк...» Яна хутка

перакладала карткі. Мільгалі імёны, прозвішчы. Шэрая папера была цвёрдая, шурпатая. І ўрэшце! Каваль. Пятрусь Лявонавіч... Год нараджэння... У камсамоле не быў... І праз усю графу роўна і строга выведзена: «Быў асуджаны па артыкулу...»

Марозны вецер калоў разгарачаны твар. Паліна раптам зразумела, што не будзе ёй спакою да таго часу, пакуль не знойдзе Каваля і не пагаворыць з ім. «Але дзе яго цяпер знойдзеш? Можа, у сталоўцы? Ці ў палатцы?.. Трэба яго знайсці і пагаварыць...»

## 5

Раніца была хмарная. Нядобрая.

Доўгі ланцуг машын, падобны па вялізную стракатую яшчарку, выгінаўся па заснежанай рацэ. Ледзяная дарога, якую праклалі бульдозеры ў спрасаваных вятрамі і сцюжай снягах, нагадвала бясконца доўгі калідор. Скалістыя берагі стаялі ў снегавых кучомках. Сасоннік, што рос на высокіх глыбах дыябазаў, здаваўся маленькім, несапраўдным; па яго вяршалінах, сагнуўшыся ад цяжару, паўзлі кашлатыя хмары; слізгануўшы на край, яны, быццам напалоханыя бяздоннем, крута ўзпімаліся ўгору, плылі над ракой паспешліва і мітусліва.

Нечакана калона спынілася. Над дарогай заклубілася белая пара. Задраўшы галаву, Каваль глядзеў на берагі. Не ўтрымаўся, сказаў Чумаку, які быў побач:

— У-уу! Вышыня! Глядзі туды!

— Але ж, высока...

— Ты сабе там хату збудуй. Ніводзін злодзей не ўлезе.

Чумак зняў рукавіцу, абцёр пальцам пасінелы нос, хмыкнуў, і воблака белай пары схавала яго твар. Адтуль, з той па́ры, прагучаў яго абыякавы голас:

— Там і без мяне збудуюць!

Потым ён сказаў яшчэ, але ў яго голасе не было ўжо абыякавасці, а хутчэй непадробленае здзіўленне:

— Глядзі! Глядзі! Чаго ж гэта яны на лёд зрубы стаўляюць?..

Пад скаламі, ля шырокіх драўляных збудаванняў, завіхаліся людзі. Стрэлы лябёдак перацягвалі доўгае абкоранае бярвенне. Збудаванні былі падобны на вялізныя хаты без дахаў.

«Будуюць ражы для перамычкі.— Каваль адразу пры-

гадаў усё тое, што расказваў яму Рубін.— А гэтаму ўсё хаты мрояцца. Ну, упарты хахол!» Засмяяўся:

— Па ўсяму відаць: быць тваёй хаце пад вадой!

— Карціць яна табе?

— Ды не, Ціхон... То не зрубы, а ражы. Іх каменнем загрузяць і на дно апусцяць. Катлаван абгароджваць будуць з сярэдзіны ракі...

— Ты ўсё ведаеш!

— Ого, каб усё! Пра ражы мне Мікола амаль лекцыю чытаў. А я табе, пачакай, па будаўніцтву хаты прачытаю. Вось будзе час...

Чумак перасмыкнуўся. Кавалёва насмешка скрабанула яго па сэрцы, і ён, каб таксама дапячы, з'едліва сказаў:

— Пакуль табе там лекцыю чыталі, цябе Багун шукала. З ёй языком мянціць не будзеш!.. Гэта табе не са мной...

У душу Каваля запаўзла трывога. Паліну ён бачыў сёння раніцай, і яна нічога яму не сказала. Чумакова з'едлівасць раптам абудзіла ўспаміны пра тое, што было на станцыі, і зрабілася вельмі прыкра. Нашто ж ён падлажыў чалавеку свінню? Вяроўку пэўна ж сарве недзе, калі ўжо не сарвала... Нядобра. Несумленна! Можа, заўважыў хто тую вяроўку... А калі не?..

Непакой рос, незразумелая трывога шылася ўсё глыбей. На крутым уздыме могуць адкрыцца барты, і груз зваліцца на дарогу. А што, калі там людзі?.. Трэба зараз жа знайсці машыну!..

Каваль саскочыў на лёд і таропка пайшоў усцяж машын. Валёнкі коўзаліся ў размолатым снезе. Пятрусь пасаваліўся, узняўся і пабег. Трывога — цяпер ужо асэнсаваная і ясная — гнала яго. Трывога за Паліну.

Абыходзячы грузавік, Каваль ледзь не збіў з ног чалавека ў доўгім кажуху. Чалавек некаторы час глядзеў на яго, потым прыжмурыў правае вока, ад чаго яго твар перакасіўся, неяк смешна тузануў Каваля за каўнер і гаркнуў:

— Куды? Вачэй не маеш?

— На каго ты там наваліўся, Сцяпан? — запытаўся Іван Стаеў, вылазячы з-пад машыны. Заўсміхаўся і па-таварыску паляпаў чалавека ў заплямленым кажуху: — Вось дык гісторыя! Гэта, Кварта, мой таварыш.— І да Каваля: — Паможаш нам?

— Што пытацца, Іван Андрэевіч! А гэты заплямлены кажух жыўцом мяне глынаў, каб не ты — свету б мне больш не пабачыць...

— Кінь! Лепш памагай! Нехта ж вязаў, каб яму ўсё нутро пазавязвала...

Каваль убачыў вяроўку, якую завязвала на станцыі Паліна. Ён падскочыў да машыны, падпёр борт плячом, напружваючыся да звону ў вушах, крычаў:

— Мацней вяжы! Круці лепш! А чыя машына? Твая?..

Стаеў вызваліў бартавы крук, які нейкім цудам яшчэ трымаўся, замацаваў вяроўку і толькі пасля гэтага адказаў:

— Дружбачка Сцяпанавага! Мая вунь! З белай стужкай. Спраўна вашы мінскія хлопцы працуюць. Машына — золата!

З Іванам Стаевым Каваль сустракаўся не часта. Тыдні два ён працаваў грузчыкам на яго машыне. Гэта было адразу пасля прыезду на Падун. Ён ужо ведаў, што Стаеў прыехаў сюды па пуцёўцы Іркуцкага абкома партыі. Сінія вочы яго, калі ён здымаў шапку, здаваліся вельмі светлымі ад яркай сівізны на скронях і нечым нагадвалі Кавалю бацьку. Пятрусь палюбіў Стаева за чуласць, шчырасць і спакойную ўпэўненасць, з якой той рабіў любую справу. Стаеў доўгі час быў у далёкіх рэйсах, і Каваль, упершыню пабачыўшы ў яго новую машыну, узрадаваўся і ў той жа час непрыязна падумаў: «Бачыш, якую машыну далі. А мне?..»

Гэтая думка, па момант завітаўшы да яго, саступіла месца радаснаму ўсведамленню, што небяспека мінула. Калона ўжо рухалася. Дачакаўшыся сваёй машыны, Каваль спрытна залез у кузаў, дзе сядзеў Чумак. Радасны настрой апанаваў хлопца, ён штурхаў Чумака, жартаваў, не звяртаючы ўвагі на тое, што той нездаволена смыкае вуснамі.

На паваротцы дарогі, дзе пачынаўся ўз'езд на бераг, Каваль заўважыў Паліну. Яна стаяла на ўзбочыне і махала рукой шафёрам, падганяла іх, паказваючы, дзе лепш браць паварот. Здалёк яна была вельмі прыгожая, але чым бліжэй пад'язджаў да яе Каваль, тым усё больш і больш пераконваўся, што гэта ёсць на самай справе. Разам з тым буяла ў сэрцы магутнае пачуццё ад сваёй велікадушнасці, што вось ён, Каваль, даравау ёй і грубасць, і крыўду, і ўвогуле ўсе тыя нядобрыя думкі, што выклікала ў яго яе імя. Няхай!.. Ён дараваў ёй не таму, што адчувае сваю слабасць, а па праву моцнага чалавека, чалавека, які можа саступіць не таму, што баіцца, а таму, што можа зрабіць гэта з адчуваннем сваёй уласнай годнасці. Што ж, не так ужо і кепска быць велікадушным!

Кавалю захацелася па-блазенску паказаць ёй сваё геройства, паказаць, што ён не баіцца нічога. Каваль стаў на борт. Параўняўшыся з Палінай, ён хацеў павярнуцца да яе тварам, але машыну падкінула, і ён, не ўтрымаўшыся, бразнуўся на дарогу.

Гэта ўсё адбылося ў нейкае імгненне, і першае, што ён убачыў, ужо лежачы на дарозе, былі яркія фары самазвала. Вялізная машына сунулася на яго, бляск фараў біў проста ў твар. «Задушыць!» Каваль ускочыў, каўзануўся і папоўз, шкрабаючы рукамі цвёрды лёд і не адчуваючы болю.

Да яго падбегла Паліна. Падала руку.

— Хутчэй! Бярыся!..

На яе збялелым твары ружавелі плямы, заінелыя вейкі дрыжалі часта-часта.

— Глядзі, згубіў,— яна падняла з дарогі цыгарэты, што вываліліся з яго кішэні.— Ударыўся вельмі? Во дзівак!.. Так жа нельга неасцярожна... Бяры. Не люблю я курадыму гэтага. Няўжо так цяжка кінуць смаліць?

— Я паспрабую,— Каваль змяў пачак і кінуў яго ў снег.— Досыць. І — кропка!..

— Вось ты які! — У яе вачах прамільгнула здзіўленне, але хутка твар пацямнеў і нейкая заклапочанасць ссунула бровы. Яна паглядзела на яго адкрыта, не хаваючы вачэй, і сказала: — Я была тады вінавата. Пад гарачую руку трапіў.

— Я? Не разумею... Калі?

— Там, на станцыі...

## 6

Тайга павалі адыходзіла ў сопкі, неахвотна саступаючы месца шырокім лядам. Адкрылася неба — чыстае, лёгкабэзавага колеру; яно было недасяжна далёкае і таму незвычайна вабіла і клікала да сябе светлай загадкавасцю далечы.

Апоўдні на прасецы, дзе Каваль з Чумаком церабілі галлё, з'явіўся начальнік аўтакалоны Грывадзе, высокі грузін з тоўстым, як дуля, носам. Разам з ім прыйшла Паліна. Яны абышлі прасекі, аглядалі няроўныя калдобістыя дарогі, па якіх, вуркочучы, паўзлі цягачы і машыны, аб нечым заўзята спрачаліся. Калі Грывадзе пайшоў, Па-

ліна села на паваленую лістоўніцу і сказала, паціскаючы плячыма:

— Ну да чаго ўпарты чалавек! Жах проста.— Перадражніла: — «Рысоры, рысоры вы мнэ дадытэ...» — Сваім ужо голасам дадала: — Каб яны ў мяне былі...

Твар у яе быў заклапочаны, і Каваль, разумеючы, што гэты клопат выкліканы нядаўняй размовай з Грывадзе, адчуў да начальніка аўтакалоны глухую варожасць. Яна падмацоўвалася яшчэ думкай: гэта Грывадзе вінаваты ў тым, што Каваль не мае дагэтуль машыны. У яго ўзнікла прагнае жаданне чым-небудзь дапячы гэтаму высокаму грузіну з тоўстым носам. «Чаго яны спрачаліся? Бач, таўстаносы». Ён яшчэ ні разу не размаўляў з Грывадзе, але шмат ведаў пра гэтага наравістага чалавека: знаёмыя шафёры лаялі Грывадзе, аднак любілі яго.

— А пры чым тут рысоры? — запытаўся ён у Паліны, каб дазнацца прычыны спрэчкі. Можа, ёй патрэбна дапамога? Не, яна наўрад ці папросіць, каб трэба было. Ганарлівая!

— Ды не рысоры,— незвычайна проста адказала Паліна, стукаючы валёнкамі, каб абабіць снег.— Ён аддаў загад зменшыць нагрузку на машыны. Рысоры не вытрымліваюць. Мароз, кажа, паменшае, тады будзем грузіць больш. А таго не разумее, што калі марозаў не будзе, тады і лес нам не так пільна патрэбен. Мы павінны праз месяц спусціць ражы пад лёд!..

З прасекі паўзла машына. Яна то правальвалася ў глыбокія калдобіны, то грозна раўла, вылазячы на роўнае месца. Намерзлыя камлі грукалі аб жалезныя дзержакі прычэпа.

— Вось бачыце, колькі яны кладуць?

— Па гэтай дарозе дастаткова...

Яна паглядзела на Петруся, здзіўленая тым, што ён не падтрымаў яе.

— Выходзіць, я дарэмна яго лаяла? — спытала Паліна.— Няўжо нельга нічога прыдумаць?

— А што тут прыдумаеш, на гэтых дарогах! Трэба іх раўняць, а не прыдумваць. Тады замест аднаго — два разы паспееш...

— Ага! — пажвавела яна.— Значыць, можна ўсё-ткі! Змерзла я, седзячы. Давайце пілу, Петрусёк, грэцца будзем!..

Каваля даўно так ніхто не зваў, апроч маці. Гэта ўсхвалявала яго і збянтэжыла: у прапанове Паліны было

нешта незвычайнае. Даючы ёй пілу, ён замітусіўся, зачапіў сук — сталь выгнулася, гулліва зазвіпела.

Працавалі весела. Піла ярасна ўгрызалася ў мёрзлае дрэва. Каваль пусціў пілу на поўны ход — ручку адразу заціснула. Ён рыўком выцягнуў пілу, злосна буркнуў:

— Дапілуем!

Паліна, як дзяўчынка-першакласніца, запляскала рукавіцамі:

— Не, дайце адпачыць! Спех і людзям на смех. Сіл нестае. Пачакайце!..

Яна засмяялася, зняла рукавічкі, паклала на бервяно, і тады ён заўважыў, што рукавічкі цэлыя толькі зверху, а на далонях і на пальцах скрозь зацыраваны. Паліна, не заўважаючы, што ён разглядае рукавічкі, сказала:

— Тут у вас добра. Зацішна. А ў нас жа вецер — проста рве...

— Аставайцеся,— прапанаваў ён.

Яна пакратала пальцамі парэпаныя ад сцюжы вусны, паківала галавой, адказала весела:

— Не люблю, дзе ціха. З ветрам лепш.

Яму зрабілася сорамна за тое, што вось яна, такая маленькая, працуе там, на перамычцы, дзе раве сівер, ад якога рэпаюцца вусны і робіцца задубелым і непрыгожым твар, а ён — такі здаравяк! — цягне сваю пілу ды сячэ сучча ў зацішку. І чаму так здараецца? Хочаш аднаго — атрымліваецца зусім другое. «Уласнага шчасця каваль...» Стаеву добра было казаць і жартаваць. Ён з адной машыны на другую — лепшую — перасеў!.. А тут сякера і піла... Цягай яе, Каваль. Што табе яшчэ засталося?.. Нічога!

І ўсё ж асаблівай крыўды ў душы не было. Існавала нешта такое, што прымушала яго не пагаджацца са сваімі думкамі.

Няпрошаныя, вырваліся словы:

— А я люблю?! Каб мне машыну, ці ж сядзеў бы я тут?

— Дзіўна ты разважаеш! А тут хто будзе? Мядзведзь буры? Ён жа гэтыя дрэвы не абцярэбіць...

— Ну, усё ж такі. Трэба па спецыяльнасці...

Сказаў і пашкадаваў. «Падумае, што я скарджуся кожнаму... І нашто мне яе спачуванне?..»

— Машыны ідуць. Шафёры спатрэбяцца!

— Вам гэта што, АГК паведамляе?

— Што-што?

— Адна грамадзяпачка казала. А скарочана — АГК.

— Вы скажаце! А затое самазвалы, ведаеце, якія! О-оо! Як добрая хата ў вышыню!..

Хутка набліжаўся вечар. Попельны змрок гусцеў. Ён хлынуў на прасеку неяк раптоўна. Неба над ялінамі слаба ружавела. На брызентавых сценах палатак, на шурпатых лістоўніцах гойдаліся рудыя водсветы агню, падобныя да казачных страшыдлаў, намаляваных бліскучымі фарбамі.

Трэба было збіраць інструмент, а Каваль усё стаяў і глядзеў у вогнішча, што паволі згасала. «Зацішны куток...» Чаму так лёгка і павярхоўна думаюць людзі пра другіх? Гэта лёгка параіць, калі не датычыцца цябе самога. А вось ты паспрабуй сам у сваім ранейшым жыцці нешта зламаць, адкінуць прэч благое і непатрэбнае...

— Можа, збіраешся тут начаваць? Вячэру прапусцім...

— Га? — схамянуўся Каваль і паглядзеў на Чумака невідушчымі вачыма.

— Вячэру, кажу, прапусцім!

— З табой не прапусціш,— адгукнуўся ўрэшце Каваль.— Клапатлівы ты чалавек, пагляджу,— укалоў ён Чумака, які ўжо сабраў інструмент.— Але, хадзем! Такая клапатлівасць заслугоўвае падзякі.

— Які камар цябе коле? — спытаў Чумак.

— Зіма ж! Камароў ён знайшоў.

— Ну, не камар, дык птушачка ўсё ж такі дзеўбанула. Я табе тут, хлопча, параю: стражэйшы будзь. Я сваю Рустыну во, у кулаку трымаў.

— А яна вырвалася,— з'едліва сказаў Каваль, намякаючы Чумаку на тое, што жонка ад яго перайшла жыць у палатку да дзяўчат.

— А гэта ў нас дамоўлена,— перасмыкнуўся Чумак.— Тут ледзь ногі прывалачэш, а яна табе пад вухам зудзіць: тое ды гэта. Яно лепш, калі жонка далей. Во, хату адбудую сабе, адкармлюся! Тут і жонка табе — а як жа!

— Але ж і жмэнда, Ціхон! Адкуль у цябе гэтая скнарлівасць?

— Беражлівасць,— сказаў Чумак, ускідваючы сякеру на плечы.— Малады ты, неразумны. Ох, паскачаш ты яшчэ ў гэтым жыцці. Але... Пайшлі есці! З табой у нас лініі агульнай няма.

— І не будзе!

— А-аа, няхай сабе!..

У палатцы, куды Каваль прыйшоў са сталоўкі, было

цёмна ад тытунёвага дыму. Высокі, доўгі хлапец, сігаючы цераз людзей, што ўжо спалі, прабіраўся ў свой куток, да сенніка. Ён лёг на спіну, закінуў нага на нагу і лепа крануў струны мандаліны.

Намагаючыся не спаць, Каваль паўтараў словы песні, якую спяваў хлопец з мандалінай. Яны кладліся на сэрца, саграваючы нейкай дзіўнай ласкавасцю. Трынкала мандаліна, некуды клікала, цягнула. Ад іглiцы, што засцілала падлогу, ішоў востры, прыемны пах, ён хваляваў, прыносячы ўспаміны. У галаве роіліся стомленыя думкі.

Мабыць, так вось і пачынаюцца ўсе гарады. Прыходзяць людзі. Пілуюць лес. Дзяўбуць мёрзлую глебу. Жывуць у палатках. Потым з'яўляюцца вуліцы, дамы з вокнамі — людзі пачынаюць жыць лепш. Прыгадаўся сённяшні мітынг. Гаварыліся там правільныя і патрэбныя прамовы. У яго галаве нараджаліся такія добрыя і разумныя словы, і яму здавалася, што ён не зможа іх утрымаць, была патрэба некаму выказаць іх, бо трымаць у сабе было немагчыма. Рабілася крыўдна і горка ад думкі, што, па праўдзе кажучы, нікому няма ніякай справы да яго асабістых спраў і перажыванняў.

Трохі прыдрамаўшы, ён прачнуўся, абуджаны гамонкай. У цэнтры палаткі стаяў знаёмы шафёр у заплямленым доўгім кажуху.

— Як жывяце, сябры-таварышы?

— Як у казцы жывём,— нехаця адказалі яму з кутка.— Цёмны лес вакол. Суседка ёсць — Васіліса прыгожая, але муж у яе Іванка-дурань. Не ты гэта, весялун?

— Га-га-га! Чалавек я халасты, а да вас — на ласты! Цесна ў нас, а тут — курорт. Сцяпан Кварта я, каб не сумняваліся, маё прозвішча. З трэцяга ўчастка.

— Вось і лупі на трэці!

— Навошта так, хлопцы? — ніколькі не крыўдзячыся, сказаў Кварта.— Вунь месцейка бачу...

— Давай сюды! Мы вясёлых паважаем!

Прабраўшыся да месца, куды яго паклікалі, Сцяпан пачаў расказваць жарты.

У кутку зарагаталі. Каваль рыўком узняўся. Сеў.

— Не спіцца? — спагадліва спытаў Чумак.— Хочаш — закурым перад сном. Тытунь у мяне — моц. Любую пуду — пад корань! Ага.

Абкуранымі кручкаватымі пальцамі ён згортваў тоўстую цыгарку. «Няўжо і ў мяне будуць такія пальцы? Не, гэта не ад курыва ў яго... Ад сквапнасці: усё сабе гра-

буць...» Каваль паглядзеў на свае моцныя пальцы ў старых шрамах ад гаечнага ключа і адразу ж прыгадаў рукі Паліны, пачырванелыя ад сцюжы, з абламанымі пазногцямі, і рукавічкі, што ляжалі побач, на бервяне, зацыраваныя, з лапінкамі. «Аддам ёй свае. Навошта ім ляжаць!..»

Ён узрадаваўся ад гэтай думкі, не разумеючы яшчэ, што яна прыйшла да яго не раптоўна, а выкрышталізавалася з сумненняў і разваг усяго мінулага дня; яна, гэтая думка, нібыта сабрала ўсю яго волю, і ён, сам сабе не прызнаючыся, схаваў за гэтым сваё жаданне пабачыць Паліну і пагаварыць з ёй.

Пакуль ён закрываў чамадан, Чумак разглядаў рукавічкі.

— Каму панясеш? — спытаўся.

— Няважна каму...

Шчоўкнуў замок чамадана.

— Ну, глядзі ж, танна не аддавай.— Чумак цмокнуў языком.— Чыстая. Мякчэйшая, чым з вярблюда!

Потым ужо, гаворачы з Палінай, ён з вясёлай, хмельнай радасцю адзначыў, што вось кожны раз, калі ён вырашыць што-небудзь канчаткова і цвёрда, усё атрымліваецца так, як наважыў.

— Гэта ж вельмі добра,— сказала Паліна.

Яна глядзела на яго са змешаным пачуццём цікавасці і насцярожанасці. Нешта вельмі спадабалася ёй у гэтым хлопцу. Але што? Смеласць? Не, нешта іншае. Вось ён сядзіць цяпер і глядзіць на яе без сарамлівасці, упэўнена, нават крыху ганарліва, быццам тое, што ён робіць і гаворыць, вельмі правільнае і сам ён перакананы ў гэтай правільнасці. Ён і прыйшоў гэтак жа незвычайна, павітаўся, агледзеў пакой (яна была адна), спытаўся:

— Учатырох жывяце?

Сеў, дастаў з кішэні новыя рукавічкі, паклаў іх перад ёй на стол, сказаў каротка і смела, быццам інакш і не магло быць:

— Гэта — вам!

— Цікава...

Яна сапраўды здзівілася. Перад ёй ляжалі яе ўласныя рукавічкі, толькі зусім новыя! Нібыта ў казцы!

— Гэта што, падарунак, ці як?..

Ведала, што гаворыць зусім не тыя словы. Але ён зноў збянтэжыў яе сваім довадам:

— У вас падраныя. А ў мяне ляжаць новыя. Вось і прынёс...

Дзіўная логіка!

— Значыць, калі ў вас ёсць добрыя валёнкі, я магу прыйсці і ўзяць іх толькі на той падставе, што ў мяне няма?..

— Валёнкі не падыдуць. У мяне сорак чацвёрты...

Ён сказаў гэта зусім сур'ёзна, і яна не сумнявалася, што калі б ёй сапраўды спатрэбіліся валёнкі, ён зняў бы іх не разважаючы. Ведала, што ніколі не зможа забыць гэтага свайго хваляванне, і была ўзрадавана, што яно прыйшло.

Адкуль яно прыйшло, гэтае нечаканае і магутнае хваляванне? Няўжо вінаваты Каваль? Ці яго рукавічкі?.. Яны ляжалі на стале і неяк звязвалі яе з гэтым сарамлівым і напорыстым хлопцам. Сябры аказвалі ёй нямала паслуг. Але ж Каваля яна ведала зусім мала. І тое, што ён зрабіў, было незвычайна і ў той жа час напоўнена нейкім зусім новым сэнсам.

Намагаючыся зразумець гэты сэнс, яна рабіла іншую справу, у якой, вядома, не было зусім ніякага скрытага сэнсу. Паліна апраналася. Куды яна ідзе? Да Зосі. Гэта яе сяброўка. Яна жыла разам з Палінай, але пайшла ў суседні інтэрнат,— там дзяўчына, з якой Зося рыхтавала заданні па завочнай вучобе. Паліна абяцала, што прыйдзе да іх. Калі Пятрусь хоча, дык можна пайсці разам. Гэта ж ім па дарозе...

Яны не трапілі адразу на патрэбную сцежку, крыху збочылі і выйшлі на дарогу, што ішла ад пераправы праз увесь палатачны гарадок да пасёлка, дзе ўжо былі драўляныя дамы. Паліна не казала пра інтэрнат, не спяшалася хутчэй трапіць да Зосі, і Кавалю раптам здалося, што той інтэрнат не існуе наогул. Яны ішлі па дарозе. Зорнае неба вісела над імі.

Час ад часу іх абганялі машыны, трэба было збочваць і чакаць, пакуль прамчыць самазвал. Аднаго разу, калі яны саступілі дарогу, кавалак неба над тайгой перакрэсліла белая агністая стужка. «Загадайце!» Яна не паспела зрабіць гэтага. «А вы паспелі?» Дзіва, ён таксама нічога не змог загадаць.

Рэдкія кволыя сняжынкі падалі з чорнай і быццам празрыстай вышыні. Скрозь яліны на далёкіх прасеках мігцелі дагараючыя агні. «Як вёскі за Дзвіной...» Паліна чула пра гэтую раку. Але ж не ад гэтага зрабілася яму так добра на душы!.. Толькі каб яна не пайшла да Зосі! Зорнае неба, а снег падае і падае... Адкуль? Можа, пра-

чытаць верш пра снег? Ці добра толькі?.. Думаў пра гэта, а сам ужо гаварыў, і словы беглі роўна і плаўна:

Зірну: лятуць, лятуць снягі...
Згадаю: зноўку бачу вочы;
Ў туманах рэдкіх паплавы
І вёсак зорныя агні
Вярэдзяць сэрца мне скрозь ночы...

Ён змоўк. Яна чакала, што ён будзе чытаць яшчэ. Каваль маўчаў. Паліна запыталася:

— Чые гэта?

Ён зноў маўчаў, і яна з нейкай развагай сказала:

— Вось ёсць вершы, што напісаны пра смутак і душэўны боль. А прачытаеш іх, і робіцца неяк святлей на душы. А чыталі вы чый?

— Мой. Уласны.

— Праўда? Ой, гэта ж добра. Вы яго дзе напісалі? Тут?

— У турме.

Уражаная, яна міжвольна ўзняла руку, пацёрла шчаку. Новая рукавічка была мяккая і цёплая нават на марозе. І зноў пачынаецца гаворка, ад якой ён так хаваецца. І нашто яна запыталася пра гэты верш? Ах, цяпер зноў будзе нядобра. І што ж рабіць?.. «З ім трэба быць шчырай. Нельга нічога хаваць. Трэба быць такой жа адкрытай, якім хоча быць ён сам...»

— А ў якіх мясцінах?

Ні здзіўлення ў голасе, ні спачування. Спакойны сяброўскі голас. Упэўнены і ясны голас Паліны. Можа, яна падрабляецца? Не, гаворыць шчыра. «А чаму мне не сорамна гаварыць ёй пра сваё мінулае?..»

— На Поўначы. Там я і рукавічкі гэтыя атрымаў. Маці вязала... Я ёй гэтулькі гора прынёс. Марыла яна, што я павінен быць інжынерам, ведаеце, чалавекам з вышэйшай адукацыяй... Ну, але... Тры курсы амаль я там і адседзеў. Там таксама інстытут.

— А я зайздрошчу табе.

Яна назвала яго на ты, і ён, непрыкметна для сябе, прыняў гэтую блізкасць.

— Мне?

— Табе. Ты вытрымаў у жыцці вельмі цяжкі экзамен. Моцныя людзі прыходзяць адтуль з жаданнем жыць пасапраўднаму. Іх ужо не саб'еш з правільнай дарогі, нічым не зманіш. А кволыя ідуць на дно. А вось павер мне, мара тваёй маці спраўдзіцца...

— Як гэта?
— Ты будзеш інжынерам!
— Якая ты хуткая!.. Праўда, калі ўлічыць, што тры курсы ёсць...
Яна пацінула плячыма:
— А навошта іронія? Яна табе не да твару. Ты вельмі добры чалавек і ўпарты...
— Як бык?
— Ну, можа, крышачку і менш...
У яе вачах адбіваліся зоркі, яны былі блізка, пад самай рукой — хоць пакратай — і гэтак далёка-далёка...

## 7

У суботу Кавалю выпісалі нарад на ачыстку памыйкі ля сталовай. Гэтую працу пачалі ранкам. Сцяпан Кварта падагнаў сваю машыну, курыў, выпускаў тонкія струменьчыкі дыму праз расцягнутыя вусны і назіраў за працай грузчыкаў. Потым не вытрымаў, узяў шуфель і стаў памагаць. Скуласты Сцяпанаў твар часта асвятляўся ўсмешкай.
— Вядома, работа не царская,— пажартаваў ён, з крэктам узнімаючы рыдлёўку,— але грашавітая. Тут можна, як добрым малярам: гадзінку пафарбаваў — тры гадзіны сушы...
Кварта хутка астыў да працы, уваткнуў рыдлёўку ў снег і знік за будынкам сталоўкі.
Каваль бачыў, як мільганула яго крыху згорбленая постаць за прыбудовачкай, і ад таго, што не можа вось так жа вольна, як ён, распараджацца сабой, яшчэ больш ярасна лупіў ломам мёрзлае смецце. Сцяпану добра: накідаў і пайшоў. А ты вось паспрабуй цэлы дзень пакідаць, не вельмі будзеш жартаваць.
Гэтыя думкі выклікалі супярэчлівае пачуццё: зайздрасць да шафёрскай працы і асуджэнне той фанабэрыстай лёгкасці, з якой Кварта паставіўся да яго, Кавалёвай, працы і працы тых, хто накідае разам з ім гэтае смецце. «А за што, уласна кажучы, я асуджаю яго? Зрабіў сваё Кварта і пайшоў. Яго справа — машына...» І ўсё ж Сцяпанавай іроніі не прымала яго сэрца.
Не так даўно, да тых кароткіх размоў з Палінай, ён не заўважаў гэтага, і цяпер, калі ўжо не мог па-ранейшаму ацэньваць адносіны Сцяпана да працы, Каваль нечакана ўбачыў у самой сутнасці Сцяпанавых адносін да

работы грузчыкаў нешта непрыемнае і пагардлівае. Чым гэтая работа горшая? Адны водзяць машыны, другія нагружаюць іх, трэція пілуюць лес, ёсць, такім чынам, размеркаванне працы. І чым больш ён пераконваў сябе ў справядлівасці таго, што было вакол яго, тым больш адчуваў жаданне ўзяцца за сваю любімую справу, сесці за руль грузавіка...

Хутка ачысцілі адзін канец памыйкі, грузіць стала цяжка: брудна-белыя камы падалі, не далятаючы да кузава. Адзін з рабочых прапанаваў:

— Шафёра паклікаць. Няхай падгоніць самазвал. Гэ-эй, шафё-ёр!

Каваль здрыгануўся і ўзняў галаву. Спачатку яму здалося, што клікалі яго; ён засмяяўся ад дзёрзкай думкі, што раптам прыйшла яму ў галаву. «Вазьму і падганю!» Ён паглядзеў па машыну і ўжо ведаў, што зробіць гэта. «Няхай тады Кварта грыміць!..»

Залез у кабіну рашуча і хутка, быццам у сваю. Ключык быў на месцы. Матор завёўся адразу; віскатнуў снег пад коламі. Каваль, здавалася, адчуваў кожны рух машыны, як біццё свайго сэрца. Тук-тук-тук,— стукалі клапаны. «Другі цыліндр нешта барахліць...» Ён адзначыў гэта, не абвінавачваючы Сцяпана, а неяк проста, быццам думаў пра чарговую справу, якую належыць выканаць яму.

Трохі праехаўшы наперад, ён перакінуў рукаятку хуткасці і задпім ходам падагнаў машыну з другога боку памыйкі. Націснуў ручны тормаз. Стрэльнуўшы гасцелем, матор сціх. Трэба было вылазіць з машыны, а Каваль не мог зрабіць гэтага і, учапіўшыся аберуч за чорны абаранак руля, дыхаў цяжка, быццам толькі што забраўся па крутому схілу на высокую гару. Перад яго вачамі марудна, як маятнік, вагаўся доўгі ланцужок ад ключа, адшліфаваны ў кішэні да жоўтага бляску. Ваганне яго рабілася ўсё павальнейшым, і нарэшце, звякнуўшы, ланцужок павіс нерухома. Каваль ударыў па ім кулаком і вылез з кабіны.

— Здорава-а! Нібыта ўклеіў! — прысвіснуў рабочы.— Майстар! Адразу відно!..

Каваля хвалілі. А за што? Пахвальба, зусім непрыкметная ў іншых абставінах, цяпер закранула самыя чулыя і патаемныя струны яго душы: ён моцна, як даўно гэтага не адчуваў, зразумеў, што шафёрская годнасць не страчана. Не, ён павінен атрымаць машыну! Але калі гэта будзе? Калі? Пасля таго як пабудуюць станцыю і

трэба будзе ехаць дамоў? Дамоў?.. А дзе твой дом, каб хто спытаў? Ён тут! Тут павінен быць!..

Зімовы дзень плыў над тайгой. Угары, да мядзяна-ружовага сонца, цягнуліся ад вогнішчаў сінія дымы. Агні гарэлі ярка. Полымя прарывалася скрозь густыя галіны і несла гарачыя ашмёткі; попел хутка астываў і ападаў, засяваючы шэрай трухой стаптаны снег.

Ля зрэзанай яліны, што загарадзіла дарогу да будаўнічай пляцоўкі лесазавода, Каваля аклікнуў Чумак. Спытаўся:

— Скончылі там?

— Але...

Адказ здаўся Чумаку падазроным, аднак ён нічога не сказаў і ўсміхнуўся, як чалавек, які ўсё разумее. Быццам між іншым, заўважыў:

— Нейкі ты сёння святочны...

— А што, няможна?

— О-то-то! Слова не скажы. Загарэўся!

Гул плыў па тайзе. Вуркаталі электрапілы. Па прасеках паўзлі трактары, падцягваючы да штабялёў доўгія бярвенні, ля перасовачных электрастанцый снег быў пераплецены шнурамі кабеля. Побач са шчытавымі дамамі вырасталі зрубы з брусчаткі, акрэсліваючы будучыя вуліцы.

— Загарэўся, кажаш? — грубавата перапытаўся Каваль.— На цябе глядзець? Ты толькі і ведаеш, што моўчкі цялёпкаеш!

— Я чалавек рабочы.— Чумак, не заўважаючы настрою Каваля, пакрыўджана паварушыў вусамі.— Што сказалі — раблю. І табе раю: пацiху рабі, што загадана, і — заўважаць: чалавек самастойны!

— Ну, а далей што?

— А там відаць будзе. Памятаеш, Багун таксама казала: рабочы чалавек рабіць павінен...

Зімовы дзень дацвітаў над кедрамі. Сонца хутка плыло за сопкі. Мядзяныя промні адолелі марозную імглу, пазалацілі снег, паваленыя дрэвы, вузкія насы транспарцёраў і вогненным жарам пырснулі з гусеніц бульдозераў, што паўзлі ля катлаванаў. Усё ажыло вакол, гучнейшы зрабіўся гул матораў, і на сэрцы ў Каваля палягчэла. Стала шкада Чумака, і ён дараваў яму яго нязлосную іронію.

Да Петруся зноў вяртаўся той радасна-ўзнёслы настрой, што быў у яго апошні час. Каваль усё больш і больш захапляўся працай. Ён не імкнуўся зразумець, чаму гэта адбываецца, і не шукаў прычыны. Праўда, як і раней,

ён не мог уявіць сабе ўсю панараму будаўніцтва і ўвязаць сваю маленькую працу з агульнымі вынікамі, бо яны, гэтыя вынікі, хаваліся недзе ў вялікім і раскіданым на значнай прасторы будаўніцтве. Але ў яго душы ўсё больш і больш вырастала замілаванасць да ўсяго таго, што ён рабіў.

— Заробіш тут,— нечакана паўтарыў Чумак.— Кажуць, зарплату затрымаюць.

— Чаму?

— А я ведаю? За што купіў, за тое і прадаю. Чуў.

Каваль ужо ведаў звычку Чумака правяраць свае здагадкі ці падазрэнні на сябры па працы. Скажа і чакае, што мяркуе другі наконт яго заўвагі. «Вось жа чорт. Ведае, што тры дні да палучкі засталося, і хвалюецца, каб грошы не ўцяклі. Ну пачакай жа...» Хаваючы весялосць, сказаў:

— І я таксама чуў.

— Няўжо? — устрапянуўся Чумак.— Затрымаюць?

— Але. І ведаеш, чаму?

— Скажы, скажы!

— Касір драпануў. Атрымаў грошы — і гайда. Два месяцы цяпер зарплаты не будзе. Кажуць...

— Брэшуць! — голас Чумака адразу стаў жорсткі.— Рабочаму чалавеку грошы не даць? Ого! Няхай усе касіры збягуць, а зарплата будзе. Павер мне!

У яго словах гучала непахісная ўпэўненасць. Атрымаўшы ўчастак пад забудову, Чумак паспешліва рыхтаваўся да вясны. Пад яго ложкам было поўна рознага жалеззя, цвікоў, інструменту. Каваль кпіў з яго прагнасці. Сям'і ў Каваля няма. Навошта клапаціцца? Як ёсць, так і добра. Жывуць у палатках — добра. Кажуць, што хутка ўсіх будуць перасяляць у інтэрнат. Яшчэ лепш! Але цяпер, адчуўшы ў адказе Чумака клопат пра сваё асабістае, ён пазайздросціў яго цвёрдай упэўненасці. «Цвердалобы ўласнік. Пра хату сваю толькі і думае. Бач, як ускіпеў за грошы! За гэта ён пастаіць!..»

— Не бойся, я пажартаваў.

— Яно і відаць,— сказаў Чумак. Нешта невыразна хмыкнуў, адкінуў акурак, агледзеўшы спачатку, ці можна яго яшчэ трохі пасмактаць.— Падзяўбём лепш...

Сталёвае лязо лома паблісквала кароткімі маланкамі. З хрустам крышыліся каменьчыкі. Цвёрдыя колкія пырскі разляталіся ў бакі, пасвіствалі. А Ціхонава галава набрыняла думкамі. «Жыць тут прыйдзецца доўга. Тое, што пішуць у газетах,— глупства: не пяць, а ўсе дзесяць год

будаўніцтва не спыніцца. Хату пабудаваўшы, не прагадаеш. Хочаш ехаць? Калі ласка — прадаў, і жывыя грошыкі. Каваль кпіў з мазанкі. Гэта ён правільна: нашто тут яна, калі лесу столькі? І шыферу трэба прыдбаць. Шыферны дах — вечны! Можна ўзяць нават з таго, што тут ляжыць... Ломяць, псуюць яго... Але куды пакласці? Вось у чым загвоздка! Трэба хутчэй нейкі будан узвесці, а потым і зруб можна. Шафёру паўлітэрку — прывязе... А там, глядзі, гэты Каваль атрымае машыну — свой чалавек ў аўтакалоне. Някепска. Трэба з ім ласкавейшым быць...»

Моўчкі, нібы азвярэўшы, біў мёрзлую зямлю Каваль. Сівыя камякі з шумам праляталі ў паветры. Недакладна ўдарыў — пырскі сыпанулі ў твар. Ён зняў рукавіцу, пачаў церці вочы, быццам намагаўся адагнаць супярэчлівыя думкі. Яны зноў прыйшлі, і было пакутліва цяжка ад іх. «А з машынай нешта няладна. Хутчэй за ўсё — не давяраюць... Мабыць, праўду казаў Лапцін, крытыкуючы непаладкі на будоўлі».

Толькі ён так падумаў, як тут жа ўбачыў Лапціна. Той ішоў спяшаючыся і яшчэ здалёк гукнуў:

— Гэ-ээ, прыяцель! Кідай усё да д'ябла. Лупі сюды! Па першаму параграфу лупі! Хутчэй, кажу, цюлень! — Спыніўся і, выгнуўшы шыю, зарагатаў: — Ну, смяццяр, машыну атрымаеш!.. Хочаш?

Каваль адчуў у яго словах толькі калючую насмешку. Крыўда разанула сэрца. «І гэты яшчэ насміхаецца. Вадзіў за нос гэтулькі часу і цяпер яшчэ кепікі строіць!..»

Ён раптам вылаяўся і ўдарыў Лапціна кулаком у твар:

— Во табе машы-ыну!..

Падаючы, Лапцін рэзка ўзмахнуў рукамі. Рукавіца зляцела ў снег. Шукаючы яе ў гурбе, ён з халоднай ярасцю прастагнаў:

— Дурніца ты непамытая! Абаранак возьмеш. Зразумеў? Не, ні храна ты не зразумеў. Але ж дзякуй, прыяцель дарагі, да смерці знак. А я, дурны, Грывадзе праходу не даваў. І Шмякава тузаў штодзень...

Не розумам, не, і не сэрцам, а па цвёрдай перакананасці, што гучала ў пакрыўджаным голасе Лапціна, Каваль здагадаўся, што той гаворыць праўду. Канешне! Ці ж змог бы Лапцін так радавацца ад нечага іншага? А Каваль яму аддзякаваў!.. І што ж цяпер рабіць? Прасіць прабачэння?.. А можа, лепш бегчы да начальніка аўтакалоны?..

— Мне што, ляжаць?.. Чуеш!

Злосны вокліч Лапціна вывеў яго з утрапення. Каваль кінуўся да Лапціна, дапамог устаць, падняў яго рукавіцу, атрапаў яе і працягнуў Лапціну:

— Даруй, за кепікі палічыў... Ты ж усё абяцаў ды абяцаў...

— На кулак ты — сіла, біцюг,— абмацваючы сківіцу і не звяртаючы ўвагі на Каваля, сказаў Лапцін.— Я табе абяцаў? Сам прызнаеш: абяцаў. А маё слова — жалеза. Таму і наставіш па першаму параграфу. Зразумела?

— Літроўку. З-пад зямлі дастану. Хадзем.

— Потым, потым! — палагаднеў Лапцін.— Часу ў нас хопіць. Толькі глядзі не схавайся. Памятай, хто цябе на машыну пасадзіў...

— Я? Не схаваюся! Ніколі!

Каваль горача патрос руку Лапціна. Праўда! Што ён мог зрабіць? Чым аддзякаваць гэтаму чалавеку? Дарэмна ён яму не давяраў. Проста Лапцін, відаць, такой ужо натуры чалавек. Яго разумець трэба. І ўсё ж такі дамогся свайго!.. Цяпер ты шафёр!..

## 8

Жаўтаватая маланка выбуху рассекла ліловую пару над палонкай. Праз акно Паліна бачыла, як пырснулі ва ўсе бакі бліскучыя ледзякі. Трэба было ўставаць, ісці да палонкі, дзе стаяў гатовы да загрузкі — другі за сённяшні дзень — раж.

Разагрэтыя ў цяпле ногі апанавала млявасць. «Хвілінку! Толькі хвілінку пасядзець яшчэ». І ведала: няможна! Людзі, што сядзелі ў часовым, на лёд пастаўленым збудаванні, чакалі яе. Яна ўзнялася, і ўслед за ёй рушылі да выхада цесляры і грузчыкі.

Падбегшы да палонкі, Паліна не пазнала месца. За дзве хвіліны перад гэтым тут плаваў ледзяны прамавугольнік, выгрызены зубастым носам ледарэза. Цяпер на яго месцы ляжаў празрыста-сіняваты друз. І такая ж сіняя пара клубілася над каўшом экскаватара, які чэрпаў патрушчаны выбухам лёд, над кузавамі машын, над краямі палонкі. Пахла дымам — гаркаватым, быццам толькі што тут спалілі анучку.

Калі палонка была ачышчана ад лёду і бульдазерыст наважыўся зачапіць раж, каб цягнуць яго сюды, прагучалі мерныя ўдары ў рэйку.

— Шабаш, хлопцы! — падаў каманду Лапцін.— Няхай ён тут і калее да заўтра, раж гэты пракляты!..

Грузчыкі, крыху павагаўшыся, рушылі за сваім брыгадзірам. Паліна прыпынілася і разгублена глядзела ім услед. Што гэта? Яны працавалі з такой стараннасцю, збудавалі раж удвая хутчэй, чым трэба, і цяпер кідаць пасярод гразі? Другая змена зробіць? Але што другая...

— Стойце, Лапцін! Загадваю вам апускаць раж!

Лапцін спыніўся. Прысвіснуў:

— Ую-юююю! Так строга!

«Што за чалавек! І чаго я пагадзілася браць яго брыгаду на дапамогу? Ну, што ж з ім рабіць!..» — думала гэтак і строга яшчэ раз загадала:

— Вам сказана: апускайце раж!

— А адкуль у вас такія правы, таварыш інжынер? — Лапцін дэманстратыўна паглядзеў на гадзіннік: — Працавалі мы нават дзесяць хвілін звыш.— Штучна ўсміхнуўся, не хаваючы здзеку: — Што ж, прыйдзецца выкрасліць іх са свайго культурнага адпачынку. А партыйная арганізацыя патрабуе ад нас ідэйнага росту...

Ён насміхаўся над ёю, блазнаваў, а яна, бачачы гэта, не ведала, што рабіць. Але гэта было толькі момант.

— Можаце ісці,— сказала Паліна.— Можаце. А я буду ўсё роўна апускаць раж.— Яна спынілася.— З тымі, у каго ёсць сумленне. А не — і адна буду!

— Давай, паглядзім,— груба кінуў ён.

Паліна падбегла да бульдозера, схапіла цяжкі трос, ускінула на плечы і пацягнула да ража. Пот заліваў ёй вочы, яна цягнула трос і чула толькі рогат Лапціна.

— Ты паглядзі, цягне! Давай, інжынер, давай! Паспытай хлеба рабочага!..

Трос упіраўся як жывы, і Паліне здавалася, што смех Лапціна гучыць у кожнай металёвай нітачцы. Яна ішла, схіліўшы галаву. Трос выкручваў ёй рукі, цягнуў назад, вырываўся. «Яшчэ трохі, і я павалюся. Які ён нягоднік! Здаецца, гэта пра яго гаварыў мне Пятрусь? Пачакай, пачакай, што ж гэта ён пра яго казаў?..»

Успамін пра Каваля быў, як штуршок, моцны і нечаканы. Аднекуль з глыбіні душы выплыла на твар усмешка і прыбавілася сілы. «І ўсё ж я дацягну гэты агідны трос! Дацягну! Памру, але дацягну!..» І раптам яна адчула, што трос пайшоў зусім лёгка. «Гэта ж ён парваўся!..» Азірнулася. Рабочыя цягнулі трос. Ад таго, што трос пай-

шоў дужа лёгка, яна ледзь не звалілася, а азірнуўшыся і ўбачыўшы, што трос цалюткі, ад радасці і смеху, што нахлынуў на яе, плёхнулася на калені і зарагатала:

— Ха-ха-ха! — Стрымалася і зноў на ўсю моц: — Ха-ха-ха!

Да яе падбег Цімка Шылаў:

— Што з вамі? Тросам ударыла?

— Ды не, не! — усё смеючыся, казала Паліна: — Вы за трос узяліся, а я спалохалася, калі ён пайшоў, думала, парваўся...

— Гэта бывае,— сказаў Шылаў зусім сур'ёзна і дапамог ёй узняцца.

Паліна атрасла снег і толькі тады ўбачыла Лапціна. Ён стаяў ля дарогі адзін, курыў, глядзеў на іх. Паліна павярнулася на голас — яе клікалі да бульдозера.

Трос накінулі на крук. Бульдазерыст уключыў хуткасць, і раж папоўз да палонкі. Паліна глядзела на яго з нейкім жалем. Увесь дзень яна радавалася, гледзячы, як расце драўляны зруб. Колькі старання і працы ўкладзена ў яго! І вось цяпер плён гэтай працы, плён намагання многіх людзей згіне з вачэй: раж забутуюць каменнем і жвірам, і ён трывала стане на дно ракі ў аснову будучай перамычкі.

Раж гучна плюхнуўся ў палонку. Рака напінался, спрабуючы выкінуць на лёд нечаканы цяжар. Празрыстая, але густая, быццам масла, віравала вада ля вуглоў; пырскі падалі на бярвенні і застывалі на іх белымі крохкімі струпкамі. Пра кожнае бервяно Паліна магла б расказаць шмат чаго, бо кожнае з іх — гэта чалавечая праца: іх пілавалі ў тайзе лесарубы, вазілі машыны, ладкавалі вянец за вянцом цесляры. Пройдзе некалькі хвілін, і гэтыя вянцы лягуць на дно, дзе іх з цікавасцю будуць разглядаць вусатыя таймені.

— Ну, вось і ўсё. Дзякую, таварышы! — сказала Паліна, намагаючыся быць вясёлай. Гэта ніяк не ўдавалася, нейкі цяжар асеў на душу. Адкуль ён? Работа скончана. Раж пакладзены як мае быць. Вунь ён стаіць, лёгка пагойдваючыся, у палонцы!..

Сігналілі машыны. Стукалі сякеры. З цяжкім шоргатам грызлі мёрзлае дрэва электрасвёрлы. А недзе тут, у глыбіні палонкі, брынькае галька па сценах ража. І ўсё ж на душы няма спакою, таго спакою, што быў з ёй увесь дзень, з самага ранку. Паліна спрабавала адшу-

каць прычыны гэтага і не знаходзіла. Уласна кажучы, што здарылася? Раж апусцілі. Яна пасварылася з Лапціным. Ды ці ёй упершыню сварыцца? Няхай ён абразіў яе... Але ж рабочыя не падтрымалі яго! І ўвогуле, нашто бедаваць! Брыгада Лапціна працуе на яе ўчастку часова. Праўда, лепш увечары на нарадзе ў галоўнага інжынера сказаць, каб яго забралі з участка. Але ж гэта будзе маладушша! «Не, не папрашу!..»

Сіняя пара воблакамі ўздымалася над палонкай. Самазвалы ішлі, запаліўшы фазы, рэзка і часта сігналячы. Узбоч дарогі, дзе стаяў, пакуль апускалі раж, Лапцін, затрымаліся рабочыя. Паліна чула, як Цімка Шылаў крыху дрыжачым голасам сказаў Лапціну:

— Ты адсюль, даражэнькі, матай. І не прыходзь на наш участак.

— Смаркач! — узгарэўся Лапцін.— Я з табой...

Заўжды маўклівы цясляр Кружынскі ляпнуў яго па спіне, параіў без спагады ў голасе:

— Не кіпяціся. Ён табе праўду кажа. Можна ж па ўласнаму жаданню. Нам з табой не з рукі працаваць.

Не радасць, а нейкая спакойная цеплыня падступіла да сэрца Паліны. «Яны мяне падтрымліваюць... Што, з'еў, лапаць паршывы?..» Яна была гатова смяяцца і скакаць, абняць Цімку і гэтага вечнага маўчуна Кружынскага. «Як жа яго імя? Ты глядзі, не ведаю! Які сорам!..»

Ахутаны парай, выпаўз на дарогу самазвал. «Здаецца, Петрусёва машына! Давязе да пасёлка. Усё роўна паражняком ідзе...» Яна ведала, што трэба ехаць як мага хутчэй, бо калі застанецца яшчэ на хвілінку, не ўтрымаецца: кінецца абдымаць і Цімку, і Кружынскага, і ўсіх гэтых людзей, што зрабіліся для яе такімі дарагімі. Хутчэй у машыну! Няхай ніхто не бачыць, што яна збіраецца заплакаць ад шчасця...

Каваль ужо чакаў яе, адкрыўшы дзверцы кабіны. Паліна ўскочыла на прыступку, залезла на сядзенне. У кабіне было цёпла, як у добра абжытай хаце. Села, прытулілася плячом да зачыненых дзверцаў. Яна ездзіла так з таго часу, калі Каваль пачаў працаваць на перамычцы, і наіўна думала, што гэтага ніхто не заўважае. Сеў інжынер у машыну і паехаў. А што? Не ўсё роўна, на якой машыне?

— Во каму жыццё! — пажартавала Паліна.— Сядзі ў цяпле ды абаранак пакручвай...

Каваль адгукнуўся адразу, прымаючы Палінін жарт:

— Урэшце я знайшоў!
— Што?
— Не што, а каго.
— Ну добра, каго? — яна адчула, што ён зразумеў яе няправільна, і пачынае злавацца.
— Чалавека, які пазайздросціў шафёравай працы.
— А я зайздрошчу кожнай, калі гэтую працу робяць з душой.

На будоўлю Паліна ехала з цвёрдым перакананнем, што побач з ёй будуць добрыя сябры, аб'яднаныя адной вялікай мэтай, імкненнямі, надзеямі. Толькі такія павінны быць на вялікай будоўлі. Калі яна сказала пра гэта свайму сябру Васілю, той паблажліва пагладзіў яе па галаве і сказаў:

— Мілая мая ідэалістка. Ты ніяк не можаш зразумець, што жыццё — гэта не передавы артыкул маладзёжнай газеты.

Яна пакрыўдзілася. З Васілём яе звязвала трохгадовае сяброўства. Праўда, яно мела нейкі своеасаблівы характар. Яны вучыліся на адным курсе, хадзілі ў кіно. Аднойчы вечарам — гэта было ў першы год іх знаёмства — пасля нейкага свята, калі госці пайшлі, яны засталіся ў пакоі адны. Васіль пагасіў святло. Сядзелі на канапе, гаварылі пра справы курса. Нечакана Васіль прытуліў яе, пачаў моўчкі прагна цалаваць. Для яе гэта былі першыя мужчынскія пацалункі, і яны не прынеслі ёй таго дзівоснага самазабыцця, якое, як гэта ёй уяўлялася, павінна было прыйсці. Яна ўстала з канапы.

— Пакінь. Навошта гэта?
— Як навошта? — запытаўся Васіль.

Яна здзівіла яго сваім праставатым — па яго думку — пытаннем. І з таго часу ён пачаў адносіцца да яе з падкрэсленай паблажлівасцю. Яна прымала яго сяброўства, хоць часам заўважала, што нічуць не даражыць яго дружбай. Ён добра ведаў Маскву, шмат чаго паказваў ёй, за што яна была ўдзячна. Заўвага пра перадавы артыкул яе пакрыўдзіла. Ён зразумеў, што сказаў рэзка, і жартаўліва перасцярог яе:

— Ты занадта даверлівая. Людзі па сваёй натуры звяры.

Яна адкрыта засмяялася тады і таксама пажартавала:
— Ты слаба адукаваны звер. Чаму мяне не кусаеш? Значыць, не звер! Ну, што маўчыш?

Васіль адказаў сярдзіта, перапыняючы яе смех:

— Пачакай, пачакай! Жыццё навучыць цябе. Тады ты зразумееш, хто казаў праўду. Я не ўкушу, дык нехта ўкусіць.

— А ты?

— Не. Я жартую! Што, напалохалася? То будзеш хоць слухаць мяне?

— У гэтым — ніколі!

Яны пасварыліся. Гэта, мабыць, была першая сур'ёзная спрэчка з безлічы тых, што падсякалі, а потым канчаткова скасавалі іх сяброўства.

Прыехаўшы ў Брацк, Паліна ўсё ж успаміпала Васіля, хоць і без яго ведала, што ў вялікім калектыве будуць і людзі ўсялякія, на якіх трэба ўздзейнічаць, з якімі яе інтарэсы могуць і не супасці, могуць быць апроч добрых іншыя людзі, якіх трэба асцерагацца.

Але гэтыя «іншыя» існавалі тады толькі ў свядомасці, як абстрактныя асобы. Цяпер яна ўбачыла іх і часам гублялася, бо ў жыцці гэтых людзей было яшчэ больш складанага, чым ва ўсім астатнім. Ну, скажам, Каваль... Шмякаў настроены супроць яго. А ён, можа, у дзесяць разоў лепшы, чым сам Шмякаў, хоць той і працуе ў адзеле кадраў, а Каваль усяго толькі шафёр. А як ён дамогся гэтага! Яна сама двойчы ўзнімала — хоць гэта і не ўваходзіла ў яе абавязкі — пытанне аб няправільным выкарыстанні шафёраў і ўвогуле спецыялістаў: шафёр, скажам, другога класа, а гэтульк і часу без машыны. Цяпер ён атрымаў яе. І як працуе! А паспрабуй паставіць побач Лапціна! Той ад машыны, як ад смерці, уцякае...

Думкі не давалі ёй спакою. Адно неба над усімі, адно сонца свеціць, адну справу робім. Але вось у адных няма шчырасці і сардэчнасці, а ў другіх яна ёсць ці проста схавана. А можа, у гэтым і ўся прычына, што людзі не заўжды хочуць паказваць свае сапраўдныя пачуцці другім? Не-ее... Вось той жа Лапцін. Паглядзіш, быццам і стараецца, усё правільна робіць: у каго прагул — скажа, хто да гарэлкі асабліва хінецца — пры ўсіх крычыць! Але як! Вочы скачуць, кпяць, быццам радуецца, што паказвае ўсім благое ў чалавеку. Вось сёння... Не, гэта нягоднік, але хітры і замаскаваны. На перамычцы сёння гэта, здаецца, многія зразумелі з рабочых. Добра. Але гэта пачатак. Трэба выкрыць яго, паказаць усім яго сапраўднае нутро...

А побач усплыў твар Чумака. Таксама тып! Прыйшоў учора і ледзь пе за горла ўзяў: чаму транспарт не даюць

бярвенне падвезці? Увогуле, законна патрабуе. Але ж і Лапцін казаў законна: змена скончылася, і фармальна ён рабіў правільна. Але ж чаму тады ўсе сталі на яе бок, хоць яна і рабіла не зусім законна, патрабуючы працаваць яшчэ?.. А Шылаў? Цімка Шылаў! Яна лічыла яго дураслівым хлопцам! І толькі! Не, дрэнна яна ведала людзей!..

Завішчалі тармазы. Машына стала ля інтэрната. Паліна не ўтрымалася:

— Ужо і дома! Як хутка!..

Яна здзівілася яшчэ раз, увайшоўшы ў пакой. Замест цьмянай лямпачкі, якая ледзь мігцела, са столі звісала на тоўстым шнурку вялізнае белае сонца.

Насустрач ёй кінулася ўзрадаваная Зося.

— Палінка! Чакаю яе, чакаю! Хочаш есці?

— Наіўнае пытанне. Як воўк! — Паліна дзьмула на застуджаныя пальцы. — А дзе святло гэтакае адкапалі?

— З табой, мабыць, так і здарыцца: станцыю паставім, а ты здзіўляцца будзеш: вой, хто ж гэта пабудаваў? Наш інтэрнат сёння да сеці падключылі.

— Нарэшце. Цяпер і чытаць можна!

Паліна ўзяла лямпачку ў далоні, пальцы прасвечваліся, рабіліся амаль празрыстымі. І цёпла было, і душа радавалася, што гэткую вялізную падзею яна ўспрыняла, як нешта звычайнае і простае. А можа, прычына гэтага ў вельмі ўжо цяжкім сённяшнім дні? Не, проста жыццё так хутка пайшло наперад, будоўля набрала такія высокія тэмпы, што яна, Паліна, прывыкла мераць усё не ранейшымі маштабамі, а большымі, навучылася бачыць толькі вялікую мэту наперадзе і не зважаць на цяжкасці свайго асабістага жыцця...

А між іншым, гэтае асабістае жыццё было, мабыць, самым цяжкім з усяго таго, чым была напоўнена яе праца і дні на будоўлі. І галоўнае, што няма з кім параіцца. Дзе ўзяць не параду, а проста добрае слова, якое хай бы і не пераконвала, але давала больш веры ў тое, што яна робіць правільна? Запытацца ў Зосі? Але як? Ці зразумее яна?..

Пасля вячэры ляглі адпачыць. Лежачы на ложку, Паліна заглянула ў блакноцік. Не, памылкі не было. А палове сёмай — нарада. Як надакучылі яны!.. Амаль кожны дзень — адна за другой. Спрачаюцца, аж хрыпнуць людзі. Няўжо без гэтага нельга? Мабыць, не абысціся. Згуртоў-

ваецца рабочы калектыў. Розныя людзі... Прыгледзяцца — і справы пойдуць лепш. А што яна зрабіла за дзень? Трэба падбіць вынікі. Напэўна ж прыйдзецца гаварыць... А што? Пра тое, што яны ледзь паспелі апусціць раж? А калі б не зрабілі гэтага — палонку зацягнула б лёдам, прастойвалі б самазвалы... Вядома, яе і без гэтага папракнуць: маўляў, вам вылучана дадаткова брыгада Лапціна. А цяпер выходзіць, што рабочыя патрабуюць, каб гэтую брыгаду ад іх забралі. Ну, можа, забяруць. А далей што?..

Хто ж яго ведае, што будзе далей! Яна сама прасіла дапамогі, і цяпер, калі ёй гэтую дапамогу далі, яна будзе ад яе адмаўляцца? Несур'ёзна. Якое можа мець дачыненне начальнік будоўлі да яе адносін з Лапціным? Трэба апускаць ражы, а не гуляць у псіхалогію. Не спадабаўся характар брыгадзіра? «Трэба перавыхоўваць. Перавыхоўваць!» — гэта ёй скажа намеснік інжынера правага берага, як казаў ёй ужо неаднойчы. І няхай ён гаворыць, што сабе захоча, але з Лапціным разам яна працаваць не будзе. Не, нават гэта лепш, што сёння адбылося! Цяпер яна ведае, якія людзі працуюць у яе на ўчастку. «Няхай забіраюць! А Кружынскі! Ну і малайчына... «Па ўласнаму жаданню»,— гаворыць. Лапціна яны адразу неўзлюбілі, раней, чым я, убачылі, што ён за птушка!..»

— Эх, яблычка, ды збоку зелена,— чамусьці заспявала Паліна першае, што прыйшло ў галаву.

Зося, прыглядаючыся да Паліны, не вытрымала, сказала:

— Ведаеш, мне пашчасціла...

— Праўда? У чым жа?

— У сяброўстве. У тым, што ты побач!

— Я? Ну, ты здзіўляеш мяне.

— Праўда, праўда! Калі ні прыйдзеш з работы — вясёлая і спяваеш. На цябе паглядзіш — і самой радасна робіцца...

— Значыць, жыццё ідзе ў нас з табой як след! — Паліна прыгарнула Зосю, пацалавала: — Праўда? Ці праўда?

— Мабыць, праўда,— Зося пляскала далонькай, заклейваючы канверт.— Вось пішу сваім, што тут у нас людзі слаўныя...

— А што? Благія, скажаш? Цудоўныя людзі?

Паліна спявала, апранаючыся, час ад часу тармасіла Зосю.

— Не сумуй тут без мяне.

— А ты надоўга?

— Хто ж яго ведае! Не чакай мяне, кладзіся. Дзяўчаты дзе?

— Зіна ў начной сёння. А Вольга — ты ж ведаеш дзе. Стукаў ужо...

Паліна ўсміхнулася. Яны жылі ў пакоі ўчатырох і не хавалі асабліва сваіх сардэчных спраў адна ад адной. Прынамсі, Вольга, каб і хацела, не магла б зрабіць гэтага. Штовечар, ніколі не заходзячы ў пакой, нехта стукаў у шыбу, і Вольга вылятала на гэты нясмелы стук, як птушка, і знікала да поўначы...

Паліна вярнулася з нарады праз гадзіны дзве. Пастаяла крыху ля ганка. Над дахамі інтэрнацкіх будынкаў пагойдваліся сосны, быццам уздыхалі. На прасеках цьмяна свяціліся вугольчыкі згасаючых вогнішчаў. І хоць былі яны блізка, здавалася, што гэта недзе далёка-далёка мігцяць агеньчыкі. Зрэдку язычок полымя ўздрыгваў, асвятляў белы попел і згасаў. І гэта нагадвала вёсачку, што загубілася ўначы і палахліва міргае праменнымі плямкамі акон.

...Нягледзячы на позні час, Зося яшчэ не спала. Накінуўшы паліто на плечы, яна сядзела на ложку, занятая цыраваннем кофтачкі. Паліна прымасцілася побач, пакратала пацёртую вігонь:

— Дрэннае адзенне. Шарсцяную трэба.

— А як жа,— Зося адкусіла нітку, завязала вузельчык і сказала з лагоднай усмешкай.— Мне грошы на іншае патрэбны...— Вочы яе зрабіліся ласкавымі, яна быццам папрыгажэла, расцвіла, адкрываючы сяброўцы мары, што жывуць у сэрцы кожнай дзяўчыны.— Хачу на вясну шаўковае плацце, ведаеш, як у Вольгі, з цюльпанчыкамі. І паліто летняе. У краме ёсць. Габардзінавыя.— Засаромеўшыся, спахапілася: — Як нарада? Лаялі?

— Мала! — Паліна стомлена пацягнулася.— Нават дзіўна. Быццам нечага не хапае...

Яна ўзяла з тумбачкі картку, на якой быў наклеены групавы здымак: увесь іх курс напярэдадні экзаменаў. Карткі раздаваліся на выпускным вечары. Былі тосты. Нехта разліў віно на яе фотакартачку. Паліна зірнула на жаўтаватую плямку і сказала пра тое, што Зося ўжо ведала:

— Лёньку больш за ўсіх прыйшлося...

— Ат, што гэта! — пажартавала Зося.— Каханне не зальеш!..

— А яго і...— яна раптам перарвала думку і сказала: — Мы проста сябравалі. Ён жанаты даўно.

— Кажы мне! — Зося, гледзячы на здымак у Палініных руках, дадала: — А чалавека па вачах пазнаць можна...

А што могуць сказаць Паліне гэтыя вочы?.. Вялізныя, вясёлыя і чорныя-чорныя. Яны глядзелі на яе з фотаздымка бесклапотна і радасна. І такой жа была і яна сама на здымку: у белым плацці з пышным валанам. Плацце ляжыць на дне чамадана, забытае і непатрэбнае. І ўвогуле шмат чаго з тых бесклапотных дзён аказалася забытым, а шмат што жыве і цяпер, час ад часу абуджаючы ўспаміны пра даўнейшыя дні.

Так, добрыя і гэткія далёкія дні... Вось каб Лёнька пабачыў яе цяпер у гэтай ватоўцы, з парэпанымі рукамі, шурпатым і непрыгожым ад сіверу тварам. Ды які ж ён Лёнька! Леанід Уладзіміравіч Усцінаў! Інжынер Мостабуда! Яны сябравалі па-сапраўднаму. А потым, калі былі ўжо на пятым, Усцінава ўдарылі шайбай на катку. Ён вылечыў брыво хутка, але сэрца пакінуў у паліклініцы, у пэравокай сястры Фаіны. Сардэчны хлопец быў Лёнька. Любімец усяго курса і сапраўдны сябра. А побач Жэнька Платонаў. Ён аднолькава быў закаханы і ў Паліну, і ў яе сяброўку Зіну, але ажаніўся чамусьці на апошняй. Дзе яны цяпер? Ліст ад іх прыйшоў неяк увосень. Першы і апошні ліст...

Зося скончыла працу, страсянула кофтачку, уздыхнула:

— Знешне — дураслівы. А вось адчуваю: сэрца ў яго добрае. Ты як думаеш?

— Не ведаю...— занятая сваімі думкамі, Паліна сказала гэта, не ўнікаючы ў сэнс Зосіных слоў. Хутка спахапілася, спыталася, адчуваючы, як трывожна застукала сэрца: — Ты гэта пра каго?

— Ну, так сабе... Ды ты павінна ведаць... У нашым кар'еры працаваў, а цяпер на перамычцы. У вас...

— А прозвішча?

— Памятаеш, прыходзіў аднойчы. Цімка...

— Шылаў?

— Ага. Ты ж ведаеш яго. Харошы, праўда?

— Вельмі! Ён цудоўны хлопец. І ўвогуле, ты самая цудоўная дзяўчына!

Зося шчыра засмяялася.

— Ну, Полька! Ты сапраўды дзіўны чалавек! Усё дру-

гім аддаеш. І словы добрыя, і працу. А пра сябе і не дбаеш зусім. Ну, няхай таго Лёньку кахаеш, дык ён жа дзе?..

— Ды не Лёньку я кахаю. Здаецца мне, тут іншае зусім і вельмі ўжо заблытана...

— А хто ён? З Масквы?

— Не. З турмы.

Ведала, што не трэба казаць, але не стрымалася. Зося пляснула далонямі, потым сціснула кулачкі і зноў пляснула ў далоні.

— Ну і што ж... Важна, кім ён выйшаў адтуль. Хто ён цяпер: чалавек, у добрым сэнсе, ці нейкі...

— Ён чалавек. І сапраўдны!

Зося абшчапіла сяброўку за плечы, нахілілася, глядзела ў Палінін твар бліскучымі вачамі.

— Полька! Ты малайчына! Мабыць, за тое і люблю цябе, што ты не такая, як іншыя. Мне вунь пра Цімку колькі благога казалі, усяляк абгаворвалі. А ён харошы. І твой хлопец харошы! Бо тваё сэрца на благое не адгукнецца. А ты яго моцна кахаеш?

— Не ведаю яшчэ. Не ведаю...

Паліна сказала гэта і адразу ж папракнула сябе: «Нядобра ты робіш. Думаеш адно, а гаворыш другое. Незразумела, быццам два чалавекі жывуць у душы...— І яшчэ хутчэй знайшла апраўданне.— Я яшчэ зусім мала ведаю яго. Вось і ўсё. Гарачы, нястрыманы. Сарамлівы часам. Але гэтага мала, каб поўнасцю ведаць чалавека...»

Паліна паспрабавала паставіць побач з Кавалём Леаніда і адразу ж са здзіўленнем падумала, што робіць гэта не ўпершыню. Хацела пасмяяцца са свайго адкрыцця, расказаць Зосі і не магла, адчуўшы радасную трывогу ў сэрцы. «Ён тады мяне зямлячкай назваў... Зося адразу паверыла, што Цімка добры чалавек. І ў Каваля верыць. А ты сама верыш?..»

Хто мог ёй адказаць? Яна ўпершыню паставіла перад сабой такое пытанне і здзівілася, адкуль яно магло прыйсці да яе? Якія падставы ёсць у Паліны хоць крышачку сумнявацца ў Кавалю? Дзіўна! Адкуль такія думкі могуць прыйсці ў галаву? Невядома. А вось прыйдуць, і ты не знойдзеш ніводнага больш ці менш важкага слова, каб неяк адагнаць нечаканую трывогу...

Вокны на ветры ціха звінелі, і такі ж ціхі звон быў у вушах. Ён гучаў несціхана, і было незразумела, адкуль бярэцца гэтая дзівосная і тонкая мелодыя. Паліна павяр-

нулася да акна, каб зняць яе, заглушыць. Звон не сціхаў. У наледзянелыя шыбы зазірнуў вузкі месячык, скрыўлены ад сцюжы. У тайзе мароз шчапаў дрэвы, ноч далёка і доўга раскідвала гучнае рэха, і Паліна, якая ўжо засынала, пачула гэтыя нячастыя марозныя гукі, і ёй здалося, што ў лесе нехта гучна кліча яе да сябе.

## 9

Пасля вячэры Каваль сустрэўся з Палінай ля дзвярэй сталоўкі. Яна ўзрадавалася, убачыўшы яго. Дастала з кішэнькі аркушы паперы, згорнутыя ў трубачку:

— Пачакай. Тут і табе справа ёсць. У вашай палатцы яшчэ чатырох пасяляем. Глядзі, каб без гэтага...

— Зноў за старое? Што на мяне ўсіх сабак вешаюць?.. Каваль ды Каваль!..

— Ужо закіпеў! — прымірэнча сказала Паліна.— Які ты — не зачапі. Новыя хлопцы прыехалі, падбадзёрыць трэба. Мы народ бывалы, а ім усё дзіўна. Спадзяюся на цябе. Ці зробіш?

Яна пабегла некага шукаць. Ён не паспеў нават адказаць на Палініна пытанне і ўсё глядзеў у той бок, дзе мільгала яе хустачка. Гарачыя, радасныя парыванні забруілі ў яго душы. Што яна сказала яму? Ды нічога асаблівага, проста папрасіла пагутарыць з новымі хлопцамі. Але чаму папрасіла?.. «Спадзяюся на цябе!..» Можа, гэтых слоў не было? Як жа не было! Вось тут яна і сказала іх! Не, Паліна, ты можаш не сумнявацца. Усё будзе зроблена як мае быць, і хлопцы тыя не будуць сумаваць ды бедаваць!..

Каваль не ведаў яшчэ тых хлопцаў, але яны былі ўжо вельмі блізкія яму, і ён хацеў іх бачыць. Усведамленне таго, што ў яго, Каваля, вераць, узнімала ў ім пачуццё адказнасці за лёс другіх, напаўняла новым сэнсам увесь сённяшні вечар.

Што ж, неяк па-іншаму паварочваецца яго жыццё. Атрымаў машыну. Нават Паліна пачала інакш адносіцца да яго. А магчыма, усё гэта толькі здаецца? Усё роўна цяпер трэба ўтрымацца, паказаць усім, на што ён здольны. А ён можа гэтак працаваць!..

З людскога натоўпу, што абкружыў буфет, вынырнуў Чумак, асцярожна прыціскаючы да грудзей жоўтыя пачкі махоркі. Падышоў да Каваля, папрасіў:

— Патрымай. Грошы схаваю.

Ён перакладваў на далоні пакамечаныя рублі, лічыў іх, потым нешта замармытаў і змоўк, круціў галавой, паглядаў па баках, а затым нейк дыхнуў адным разам:

— Ашукала!

— Хто цябе ашукаў? Мабыць, такі чалавек яшчэ не нарадзіўся!..

— Пайду! — рашуча выгукнуў Чумак, не звяртаючы ўвагі на Кавалёвы словы.— Дваццаць капеек недадала!..

— Кінь. Звязвацца ён будзе. Можа, сам і згубіў...

— Я? Згубіў! А як жа! — Чумак з пагрозай патрос кулаком.— Не-ее, аддасі! Гатовы аблупіць нашага брата, толькі апусці лапы...

Да выхада спяшалася Паліна. Здзівілася:

— Ты ўсё яшчэ тут?

— Ды вось жа. Чумак гэты...

Сказаць праўду, нашто Чумак прабіваецца да буфета, Каваль не адважыўся. А хлусіць Паліне ён не мог. І было крыху сорамна за скваппасць таварыша і пяёмка, што не адразу пабег выконваць даручэнне Паліны. Вось жа трэба было падвярнуцца гэтаму Ціхону? Каб не ён, Каваль даўно быў бы ўжо ў хлопцаў. А цяпер што падумае Паліна?..

З натоўпу паказалася галава Чумака. Чырвоны ўзапрэлы твар Ціхона свяціўся ад радасці. «Выдраў усё ж рэшту. Ну і чалавек!»

— Па машынах!

Каваль падаў гэтую каманду з прысвістам, і Паліна неласкава паглядзела на яго. «Мабыць, нядобра, што свіснуў...» Яна, відаць, зразумела яго збянтэжанасць і пахваліла адным позіркам, без слоў, але ў душы яго зноў забуяла з яшчэ большай сілай добрае пачуццё да яе, прыйшло ранейшае жаданне зрабіць для Паліны нешта прыемнае. У дзвярах ён прытрымаў ручку, прапусціўшы Паліну наперад:

— Калі ласка!

Разлічваў на жарт, але жарт не атрымаўся, і ўсё адбылося з нечаканай для яго самога далікатнасцю і сціпласцю. На дварэ было цёмна, і ён не заўважыў той удзячнасці, з якой Паліна паглядзела на яго.

Шмякаў сядзеў, абкружаны невядомымі Кавалю хлопцамі. «Гэта яны. Хлопцы, здаецца, нішто...» Каваль убачыў на стале рэшткі дарожнага харчу, бліскучы чайнік, які пыхеў парай, і здагадаўся, што хлопцы ўжо вячэралі.

Шмякаў, нешта крэмзаючы ў сваім блакноціку, заўзята гаварыў:

— Цудоўненька! Гэ-ээ! Мы арганізуем такую самадзейнасць. Можа, адразу і прарэпеціруем?

Кавалю ён проста загадаў, нават не ўстаўшы з месца:

— Падыходзь бліжэй. Знаёмся. Хлопцы з Масквы. Камсамольцы! Віктар Дубнік, Коласаў, Сільрын. І... і...

— Косця Яўграфаў.

Чарнавокі хлопец ускочыў, выцяўся галавой аб столь і вінавата сказаў:

— Не прызвычаіўся да мясцовых умоў,— ён пацёр цемя і яшчэ больш засаромеўся.— Другі раз за дзень у непрыемнае становішча трапляю... Быццам зноў на трыбуне...

— А на трыбуне ў цябе было здорава! — рагатнуў Віктар і, больш тлумачачы Кавалю, чым іншым, дадаў: — Нас на станцыі сустрэлі. Аркестр грыміць. Ну, папрасілі слова сказаць. Косця быў бліжэй — яго і падштурхнулі. А ён скажа слова: «Таварышы!» — І маўчыць. Зноў скажа: «Таварышы!» — І зноў маўчыць!

— Ну, разгубіўся, дык што з таго? Быццам мне памяць адбіла. Стаю, на людзей гляджу...

— І адчуваеш: яны табе — таварышы!

З вясёлай усмешкай паціснуў працягнутую Кавалём руку Дубнік. Далонь у яго была цвёрдая і моцная. І прозвішча нібыта спецыяльна падабрана! Высокі, з доўгімі рукамі, у кароткім карычневым паліто, ён нагадваў малады дубок, які ўжо ведае буры.

— Косця, налівай гасцям,— загадаў Віктар і весела пацёр рукі.— Чорт! Якім жа гасцям! Не гасцям, а гаспадарам! А ў адносінах чаго-небудзь мацнейшага — у нас, кранаўшчыкоў, сухі закон!

— Будзе час і патрэба — мокры ўвядзём!

— І гэта можна. Як ГЭС збудуем — адзначыць прыйдзецца!..

Размова пайшла вясёлая.

— Хто тут жыве?

— Нашы хлопцы. Рознарабочыя і шафёры.

— Праца цяжкая?.. Народ тут які ўвогуле?

— Звычайны. Людзі як людзі.

— А ўваход у палатку так і не замыкаецца?..

— А навошта? У нас не крадуць.

— Во гэта здорава!

У кутку на ложку заварушыўся Чумак; ён абмацваў кішэні, соп і цмокаў губамі. Паклікаў Каваля:

— Пятро! Не памятаеш, куды я грошы сунуў?

— У кішэню. Вунь у тую.

— Гэта ж і я памятаю. А цяпер — няма. Вось чаго тыя два падшывальцы цёрліся ля мяне пры буфеце...

На разгубленым і неяк зморшчаным твары Чумака адбіўся душэўны клопат і здзіўленне, бровы ссунуліся, ад чаго вочы быццам глыбока праваліліся, палахліва лыпалі вейкі і дрыжалі: зморшчкі, што густа ляжалі над бровамі, бегалі ў такт вейкам, і таму здавалася, што ўвесь твар у Чумака неяк непрыемна дрыжыць, але не звонку, а ўнутры, і гэтае дрыжанне выпінаецца праз кожную, маленькую нават, звілінку на твары.

— Няўжо выцягнулі? — запытаўся Каваль, падыходзячы бліжэй да Чумака.— Пашукай, можа, дзе ляжаць.

— Дзе яны ляжаць? Дзе? — амаль стогнучы, неяк плаксіва, па-дзіцячаму тонка, запытаўся Чумак.— Паўсотні. Гэта ж толькі падумаць. І — як карова языком...

Каваль ледзь стрымаўся ад смеху. Было крыху шкада Чумака, і смешна, што яго сквапнасць так жорстка пакарана, і няёмка перад хлопцамі, якім толькі што з такой перакапаўчасцю казаў пра маральныя асновы іх палатачнага супольнага жыцця. Праз рогат, які ўсё ж прарваўся і перашкаджаў гаварыць, Каваль растлумачваў Чумаку, стараючыся, каб гэта прагучала больш спагадліва:

— У цябе, як у таго воўка: злавіць злавіў, ды не з'еў. Чуў байку гэткую?

— Ён мне байкі розныя! — ашчэрыўся Чумак.— Гыш, блазнюк, табе ўсё смешна! Смешна табе з майго гора? Га?

— Ды пачакай жа ты, Ціхон! — сказаў Каваль, адчуваючы цяпер нядобрае пачуццё да Чумака. «Сцягнулі — добра. Во, так і трэба. А то дваццаць капеек яму недадалі. Можа, дзе згубіў, а чалавеку сораму нарабіў».— Байку раскажу. А вы, хлопцы, пра ваўка і самадзейнасць чулі? Ну-ууу?! Тады — увага!

Каваль развёў рукамі, усім сваім выглядам выказваючы жаль. Потым сеў, стукнуў далонямі па каленях:

— Вось так... Воўк злавіў зайца: «Я цябе з'ем!» Заяц дрыжыць, вусамі кратае: «Я быў... Быў» — хацеў схітраваць заяц. А воўк і вушы развесіў. «Дзе быў? На занятках, кажаш? На якіх занятках?..» — «У самадзейнасці. У самадзейным гуртку мы... танцуем!» — «Ах, яны танцуюць, а тут сядзі галодны! Ну, пакажы, як вас там навучылі?

А потым — з'ем!» Заяц на пянчук узабраўся — танцуе: а што зробіш? А сам плача горка, па баках зіркае — нікога не відно: канец, думае. І на тое зайцава шчасце паляўнічы ў лесе блукаў. Убачыў іх. Разгубіўся на момант. Каго ж страляць? Вядома ж, не зайца! Прыцэліўся ды па ваўку: ба-ааа-бах!

Ля ўвахода ў палатку нехта абабіваў з валёнак снег. Каваль сагнаў з твару ўсмешку, узнятая рука апусцілася; голас здаўна яму знаёмы. У палатку ўваходзіла Паліна. Гледзячы на яе, ён паўтарыў ціха, нейкім прыглушаным голасам, падобным на далёкае лясное рэха:

— Ба-а-бах!..

Шмякаў рынуўся насустрач Паліне, падвёў яе да печкі, адкінуў нагой з праходу нечыя валёнкі, падсунуў сасновы чурбачок і, клапатліва абмахнуўшы яго, сказаў, звяртаючыся да навічкоў:

— Майстар першага ўчастка. Інжынер Паліна Вікенцеўна Багун. У яе вы будзеце працаваць...

— Па-першае, не ў мяне, а на ўчастку,— перапыніла яна Шмякава.— А па-другое, проста Паліна...

— Вядома, вядома,— нічуць не бянтэжачыся, пагадзіўся Шмякаў.— Галоўнае — шчырасць!

Паліна не любіла робленай ветлівасці і сама заўжды імкнулася быць простай і шчырай. Заўважыўшы, што яе прыход нечым уразіў і збянтэжыў хлопцаў, яна сказала:

— Смяяліся — за вярсту чуваць. Нават зайздрасць бярэ! Дай, думаю, зайду паслухаю...

Позіркі хлопцаў скрыжаваліся на твары Каваля, яны раілі яму, і пыталіся, і папярэджвалі: маўляў, сам глядзі, калі там што непрыстойнае — май на ўвазе!..

Паліна бачыла ўсё гэта і падбадзёрыла Каваля, усміхнуўшыся толькі яму аднаму:

— Расказвай, расказвай. Мне таксама цікава паслухаць...

Каваль бачыў яе вочы, што ласкава ўсміхаліся яму, абветраныя, пасінелыя вусны, але твар яе быў нібы далёка, а перад ім усё яшчэ жыў малюнак, як яна ўваходзіла, як вольна, але далікатна перапыніўшы штучную гасціннасць Шмякава, адсунула чурбачок і садзілася ля Косці. «Я кахаю яе! — прыйшоў ён да вываду, які яго ўзрадаваў і здзівіў.— А яна нічога не ведае!..» І каб схаваць гэта, нахіліўся, закрычаў на Чумака, які падкладаў дровы ў печачку:

— Досыць! Яна ж разваліцца! Не бачыш?

Яму зрабілася горача; ён зняў кажушок, хацеў ускінуць наапашку, але перадумаў, паклаў яго на ложак і застаўся ў светлым вязаніку.

«Мабыць, маці рабіла вязанік,— амаль не слухаючы Каваля, які ўзяўся расказваць, падумала яна.— А вочы ў яго добрыя. Як васількі».

Паліна ўспомніла, як праглядала карткі ў аддзеле кадраў, як усміхаўся тады Шмякаў, і спалохалася не гэтых успамінаў, а таго, што тады не змагла як след адказаць на падазронасць Шмякава, не змагла перапыніць яго ironіяй ці вострай насмешкай, перапыніць так, каб ён ніколі не спрабаваў пры ёй нядобра гаварыць пра Каваля. «Вось так і памыляюцца ў людзях. А воўк... Пры чым тут воўк?.. Гэта ж Пятро цяпер гаворыць пра ваўка...»

Насцярожана-смешлівая сур'ёзнасць лунала на твары Каваля, і голас быў сур'ёзны, толькі чуць прабіваліся ледзь улоўныя кпілвыя ноткі. «А ён разумны хлопец,— падумала Паліна.— І гэты ўпарты шырокі лоб. Такія бываюць у людзей таленавітых...»

— Паляўнічы стрэліў,— сказаў Каваль, быццам тлумачачы ўсё Паліне.— Я ўжо казаў пра гэта... Зладжыўся і — ба-аа-бах. Воўк — свечкай угору. Заяц — яшчэ вышэй. Прыпыніўся воўк на ўскрайку лесу. Хвост абсмалены падтуліў ды думае: «І на ліха мне спатрэбілася гэтая самадзейнасць?..»

Зрабілася неяк святлей, быццам у добрай кватэры сядзелі даўно знаёмыя людзі. Нічога, што некаторыя ўжо чулі гэты анекдот. Так шчыра Паліна не смяялася даўно. А Шмякаў адчуў у Кавалёвым апавяданні схаваную насмешку, надаў свайму твару заклапочаны выгляд, адкрыў блакноцік, намагаючыся прыцягнуць увагу да сябе:

— Дык вось, таварышы. Маральнае ўздзеянне сцэны агульнавядома. Бывалі выпадкі, калі дзякуючы сцэне зусім безнадзейныя элементы ўзнімаліся, рабіліся сапраўднымі людзьмі. Вось і мы гэтым займацца будзем. Паколькі мне даручана... Цябе, Каваль, запісваць? Я ўжо запісаў... Тым больш — я ведаю, што ты на гармоніку можаш...

Каваль пацвердзіў з пагрозаю:

— Магу! Магу... Можа, табе сыграць? Толькі гармоніка ў мяне няма... Але... Я табе і без яго сыграю!

— Дарэмна, ой, дарэмна, Пятрусь! — заўважыла Паліна, пачуўшы ў голасе Каваля злосць. Яна пакратала яго за рукаў. Здзівілася: «Які мяккі вязанік!» — Ты ведаеш, гурток — неблагая справа...

½13 Зак. 305

Вочы яго звузіліся; ён адкінуў Паліліну руку і прабурчаў, не гледзячы на яе:

— Выхоўваць ён мяне праз сцэну задумаў. Ха! А мне напляваць на яго выхаванне. Ясна? І няма тут на што напіраць...

Паліна хуценька ўзнялася, быццам гэтыя словы мелі дачыненне толькі да яе. Шмякаў затрымаў яе:

— Куды вы? Ён не хоча — не трэба. Дубнік на гітары можа. А Косця дэкламацыю. Можа, паспрабуем. Косця?..

Яна села, адчуваючы, што гэта самае разумнае выйсце. «Няхай не думае, што яму ўсё можна. І злуецца яшчэ! Ах, неразумны ты, Пятро. Бачыш, я застаюся і раблю гэта зусім не таму, што просіць мяне Шмякаў! Гэтага тыпа я таксама разумею, але ж я трымаю сябе ў руках...»

Ёй хацелася выказаць гэта яму, Кавалю, супакоіць яго, сказаць, што яна заўжды на яго баку, бо разумее, чаму Шмякаў так задзіраецца: гэта проста ад таго, што баіцца, каб хто не вінаваціў за блага арганізаваную выхаваўчую работу; ён жа службіст і перастрахоўшчык, а з такімі трэба не спрачацца з-за дробязей. З імі патрэбна вайна прынцыповая...

Зноў гаварылі пра гурток і вырашылі ўсё неяк вельмі хутка, нібыта спяшаліся загладзіць непрыемны ўчынак Каваля. На яго ніхто не звяртаў увагі, і ён думаў, што як толькі Паліна пойдзе, хлопцы возьмуцца асуджаць яго. Але яна пайшла, і яму ніхто не сказаў ніводнага слова.

Каваль лёг на ложак, заплюшчыў вочы. Чаму яны ўсе нічога не гавораць яму? Чаму моўчкі пайшла Паліна? Няўжо рэзкасць яго ў адносінах да Шмякава дае ёй права да гэтай абыякавасці? А ён сам не ведае? Выставіўся ў вачах новых людзей крыкуном і яшчэ некага спрабуе вінаваціць...

Нехта падсеў да яго на ложак. Каваль адкрыў вочы. Чумак сядзіць. «Чаго яшчэ гэтаму?!»

— Чуеш, у аўтакалоне ў цябе ёсць таварышы? Добрыя таварышы? — зашаптаў Чумак, абдаючы пахам часнаку.— Трэба шыфер падкінуць. Я ўжо надумаўся, куды скласці. Грошы маю. Чуеш ці не?..

І зноўку, мабыць, прыгадаўшы пакражу, што адбылася ўвечары, цмокнуў вуснамі:

— У мяне крадуць? Крадуць. І я таксама лупіць з іх буду. Ну, от... Бо каб не было, як у таго воўка: пакуль зайцавы танцы глядзіш — самому хвост абсмаляць. Ты што скажаш?

— Ану цябе. Адчапіся!..

— Нічога і не паабяцаеш?

— Спаць зараз буду. Гэта — абяцаю!..

Сон прыйшоў да Каваля толькі на світанні. Заснуў ён, перакананы, што зрабіў кепска: незаслужана, зусім незаслужана пакрыўдзіў Паліну. Сніліся яму родны горад і Дзвіна ў белых бурунчыках хваль. Над ракой, зрэдку ўзмахваючы доўгімі крыллямі, павольна плаваў каршун, выглядаючы здабычу ў рудой асацэ, што гойдалася пад ветрам ля берагоў.

## 10

Тыдні праз два, раней звычайнага прыгнаўшы машыну ў гараж, Каваль наважыўся пайсці на левы бераг. Хацелася пабачыць Рубіна, з якім даўно не сустракаўся, пагутарыць. Проста з гаража ён пашыбаваў да пераправы. Па дарозе ўскочыў на падножку самазвала.

— На перамычку?

— А куды яшчэ? Сядай,— не гледзячы на яго, дазволіў шафёр.— А то звалішся...

Трымаючыся адной рукой за абаранак, ён выцягнуў другой пачак папярос, укінуў адну ў рот, а пачак падсунуў Кавалю:

— Бяры. Запалкі маеш?

— Дзякую. Не куру. Але запалкі ёсць...

Каваль выцягнуў карабок з кішэні, запаліў запалку. Шафёр, не адрываючы позірк ад дарогі, прыкурыў, зацягнуўся.

— Дзякую, сябра, а то тут і не прыкурыш. Краму зачынілі, хоць ты свет пальцам прыпалі...

Сіні пахучы дымок ударыў у пярэдняе шкло, заклубіўся, амаль схаваў твар шафёра і цяпер ужо моцна шыбануў Кавалю ў нос; ад дыму слязіліся вочы. «Як жа раней гэта я ездзіў у гэткім смуродзе? Няўжо гэта праўда была? Кажуць, цяжка кінуць... Глупства!»

Ён адчуваў, што ёсць нейкая грань, што аддзяляе таго, ранейшага Каваля ад гэтага, што сядзіць у кабіне чужога самазвала; ён быццам збоку паглядзеў, аднекуль з вышыні, на сваё мінулае, зразумеў, што яно аддалілася, і прыемна падзівіўся з гэтага.

У новым святле раптам паўстала перад ім і панарама будаўніцтва, што разгарнулася на рацэ. Седзячы за рулём, ён мала аглядаўся па баках, быў заняты дарогай, увага канцэнтравалася на тым, каб не ўспароцца на стрэчныя машы-

ны, якія зусім нечакана выскаквалі з шэрага туману, што вісеў увесь час над палонкамі і ахутваў берагі. Цяпер абрысы будучай перамычкі паўсталі з туману нечакана, акрэсленыя электрычнымі агнямі. Паблісквалі шырокія нажы бульдозераў, спаважна вагаліся каўшы экскаватараў, дробны іскрысты пыл ляцеў ад ледарэзаў, што крамсалі тоўсты сіні лёд.

Каваль разважаў цяпер аб сваім жыцці спакойна. Думкі выплывалі раптоўна, як раптоўна з'явілася перад ім з-за скалістых выступаў Жураўліных Грудзей панарама рачных работ.

Каваль ведаў, што там, за выступамі чорных скал, павінна быць перамычка, яна іспавала не толькі ў яго ўяўленні, але і была вядома яму ва ўсіх сваіх падрабязнасцях; і таму думкі мелі нейкую заканамернасць, яны не палохалі яго, а пераконвалі сваёй логікай: ён едзе ў бок перамычкі, значыць, яна павінна быць наперадзе, павінна з'явіцца перад ім абавязкова, і таму, калі панарама рачной будоўлі разгарнулася перад ім, ён не здзівіўся, хоць і быў захоплены нечаканым відовішчам. Колькі ўжо тут набудавана! Можа, гэта нават і добра, што Каваль спачатку папрацаваў на розных аб'ектах і толькі пасля атрымаў машыну. Ён набыў жыццёвы вопыт, уведаў яшчэ больш людзей. І, можа, каб ён ішоў іншым шляхам, не адбылося б у яго знаёмства з Палінай... Нядобра толькі атрымалася апошні раз. «А чаго Шмякаў сунецца са сваімі пропаведзямі? Настаўнік знайшоўся!..»

І ўсё ж нейкая гаркота лягла на сэрца. Але нічога. Вось ён сустрэнецца з Міколам, пагаворыць, і ўсё будзе добра; усё зноў возьме той правільны кірунак, што пачынаўся пасля кожнай размовы з сябрам...

Міколу ён знайшоў ля рамонтных майстэрань і не мог стрымаць здзіўлення:

— Ну і схуднеў жа! Пабяжыш — косці забразгаюць. Ну, падскоч! Паслухаю.

— Зараз! — адгукнуўся Мікола Рубін.— Нарад аддам, і падскочым. Даўно мы з табой не сустракаліся. Адзначым і гэты факт!.. Чакай!

Ён знік у маленькай прыбудовачцы з жалеза, падобнай на вялізную скрыню, і праз момант выйшаў адтуль, прытрымліваючы аблавушку, што раз-пораз злятала з галавы:

— Я зараз у стандартным жыву. Кватэра! Во, браце. Хадзем!..

— А да Гуцькі?

— Гэ! Учарашні дзень. Гуцька зусім канае.

Каваль шчыра здзівіўся:

— Як? Такі асцярожны быў... І раптам... Як жа гэта здарылася?

— Здараецца,— удакладніў Мікола.— Не вытрымлівае здаровай канкурэнцыі. Бачыш?

За дамамі быў відзён белы гмах сталовай. У баку ад яго прыціснуўся да соснаў дашчанік: гандлёвы ларок, узведзены на скорую руку ў першыя дні будаўніцтва. Тут можна было набыць усё, пачынаючы ад гумавых ботаў іначовак да губной памады самых тонкіх колераў. Прозвішча гандляра нічым асаблівым не вызначалася — Гутштэйн. Ён зусім не крыўдаваў на мянушку «Гуцька», што замацавалася за ім і ніколькі не перашкаджала яму весці гандлёвыя справы. А вёў іх ён спрытна і ўмела: ля акенца адгарадзіў скрынямі куточак, дзе можна было распіць паўлітэрку, хоць гэта і забаранялася інструкцыяй, якая вісела над скрынямі, але была застаўлена белымі — ацынкаванымі — начоўкамі; калі аматары паўлітэркі вельмі ўжо голасна пачыналі абмяркоўваць свае справы, Гуцька браў кілаграмовую гіру і стукаў ёю ў скрыню — спрэчкі змаўкалі.

За тымі скрынямі Каваль быў неаднойчы, і цяпер Гуцька, убачыўшы яго, адразу ўспомніў свайго старога наведвальніка, узрадаваўся, як добраму сябру:

— Не бачыў вас даўно. Кажуць, вы на правы перабраліся?

— На правы. Перамычку вядзём!

— О! Каб не гэтая мая крама, дык, можа б, зрабіў што і я. Але кожнаму на гэтым свеце трэба нешта рабіць такое, што наканаваў яму гасподзь бог... Але... Я чуў, што на правым беразе дрэнны гандаль? Скажыце, гэта праўда?

— Які там гандаль! — Каваль не хацеў крыўдзіць прадаўца, які так добра паставіўся да яго і вельмі цэніць яго працу там, на правым беразе: — Гарэлку забаранілі ў нас зусім.

— Ай-яй-яй!

Не перастаючы цокаць языком, Гуцька зняў з вагі вэнджаную рыбіну, падобную на селядзец, і, паклаўшы на жоўтую паперу, нацэліў нож, каб разрэзаць:

— Дзеля вас і трымаў. Омуль. З Байкала.

— Не сячы яе, Гуцька, не сячы! — папрасіў Мікола, намякаючы, што ў краме яны піць не будуць.— У нас — дзела. Дата, адным словам. Бяры рыбіну, Пятро! Хлопцы прыйшлі і чакаюць. Я і без таго пазнюся...

— Можа, тады мне няёмка. Хто там у цябе?..

Рубін гвалтам пацягнуў яго і ўжо на ганку сказаў з папрокам, але весела:

— Ну-уу! Тайга ў цябе ў галаве! Дрыму-учая! Гэта ж я знарок туману напусціў. Нашто нам мерзнуць, калі такія харомы побач?..

— Вось што! А я, значыць, цёмны чалавек. Дзякуй богу, сябра ёсць, ён мяне і прасвяціў...

— От пачакай! Зойдзеш — пабачыш і, можа, светлым зробішся.

Атрымаўшы ў гардэробе бляшаны трохкутнічак, Каваль доўга не ведаў, куды сунуць нумарок, потым надзеў яго, як пярсцёнак, на палец, сціснуў кулак і руку схаваў у кішэню. Мікола адчуваў сябе тут вольна: павітаўся з афіцыянткамі, нешта ціха сказаў дзяўчыне, што стаяла пры буфеце, ад чаго яна крыху пачырванела і ўсміхнулася.

Сеўшы за стол, Каваль, не хаваючы здзіўлення, разглядаў белы абрус, узорысты веер папяровых сурвэтак у чорнай пластмасавай шклянцы і падобную на перавернутую ракавінку чыстую попельнічку.

— Як у добрым рэстаране. Здорава левы бераг жыве!

— Не раўня вам, га?

— Можа. А правы вас усё ж абштопае!

— Ты зрабіўся філосафам. Не заўважалася раней. Можа, і ад шклянкі адмовішся? — Рубін спытаўся, скептычна ўсміхаючыся і падсоўваючы бліжэй талерку: — Ну, возьмемся. Бачыш, як тут прыгатавана ўсё! Лыжку можна праглынуць...

У белых талерках дыміўся густа-чырвоны боршч. Вялікія плямы тлушчу плавалі ля сініх абадочкаў, а маленькія, нібыта ўзятыя ў палон сівым падплывам смятаны, трымаліся ўсярэдзіне шырокім жоўтым колам, абкружыўшы ладны кавалак свініны, які прыкрывала зверху барвовая скурка разваранага памідора. І Каваль, пацягнуўшы носам густы водар пары, пажартаваў:

— Я часам выйду на бераг і чую: на левым баршчом пахне. І не ведаў, што гэта Рубін абедаць садзіцца...

— А я часам,— у тон яму адказаў Рубін,— ля сталоўкі іду і чую: нехта носам шморгае. А гэта, аказваецца, правы бераг!..

Калі афіцыянтка панесла пустыя талеркі і на стале з'явіліся бурштынавыя ад масла пельмені, Каваль ажывіўся зноў:

— Во гэта пельмені! Закахаюся ў гэтыя мясціны!

— Каб большай бяды не было. Вось калі ў сібірачку, то канец! Абкорміць пельменямі. У нас тут адзін такі выпадак быў... Ну, ну! Знаёмы твар бачу...

Да стала, хістаючыся, ішоў Лапцін. Вочы ў яго блішчалі. Не чакаючы запрашэння, падсеў, выскаліўся:

— Чэснай кампаніі — прывітанне! А ты, карашок, забыў даўжок... Забыў...

Каваль збянтэжыўся пад змрочным паглядам Лапціна.

— Які? Гэта я забыў, як ты кажаш?

— Няўжо ж бацян!

— Не памятаю...

— Паглядзі на яго! Не памятае. Ты паглядзі, Мікола, паглядзі на гэтага бацяна. Не памятаеш?

— Не. Скажы!

— Тэкс! Памяці не хапае, а паглядзіш — не дзяўчына. Літроўку дагэтуль не паставіў. Было?

— Дык мы ж распілі тады!

— То ж заручыны былі. А нам абмыць машыну трэба.

— Добра. Я — зараз!

— Сядай! — басам загадаў Лапцін.— Жартаў не разумееш. Гарачая ў цябе натура. І за гэта — люблю! У нас такі параграф: раз — і квас!

Ён выцягнуў з кішэні бутэльку спірту і адразу ж схаваў яе, заўважыўшы, што да стала ідзе афіцыянтка. Лапцін паказаў ёй чатыры пальцы і зноў нядобра ашчэрыўся:

— Вось столькі нам пельмешак. Няхай кок масла не шкадуе. Заплацім, мілачка!

Можа, яе так завуць? І тут ён усіх ведае. Каваль раптам параўнаў жэсты Лапціна з тым, як размаўляў з афіцыянткамі Мікола, і прыйшоў да вываду, што ёсць паміж імі нешта агульнае. І ад таго, што Мікола нечым нагадваў Лапціна, Кавалю яшчэ больш не спадабаўся ранейшы яго брыгадзір. Цяпер ён не падпарадкоўваецца яму і можа трымаць сябе з ім больш незалежна. Але адкуль ён ужо так блізка ведае Міколу? І Мікола быццам у нечым змяніўся. Але ў чым жа?

Лапцін спешна разліваў спірт, абліў руку, атрос яе над сталом, і калі расставіў шклянкі, на шкле асталіся брудныя адбіткі яго пальцаў. Каваль глядзеў на гэтыя адбіткі, і ахвота выпіць празрысты да сіняватасці спірт змагалася ў ім з грэблівасцю. Апошняе перамагло; ён адсунуў шклянку.

— Пасля абеду не магу!

Адтапырыўшы тоўстую губу, Лапцін папоркаў відэльцам залачоны зуб і чокнуўся з Рубіным:

— Той, хто п'е, з тым, хто п'е, за таго, хто не п'е. Ваша здароўечка, Пятро Лявонавіч!

Каб ён сказаў проста, як звычайна, назваўшы яго прозвішча, Каваль, можа, і не адчуў вострай непрыязнасці, што раптам з'явілася да Лапціна. Ён бачыў, што той цяпер паддобрываецца да Рубіна, і пачаў здагадвацца, што Лапцін проста ашукваў яго і цяпер ашуквае Міколу... І толькі адно было незразумела: навошта ён гэта робіць? Выгада? Ён не меў яе, бо і сам не шкадаваў грошай. Але сам піў мала. Каваль заўважыў гэта апошні раз і цяпер прыкмеціў, што Лапцін наліў Рубіну спірту амаль удвая больш.

— А ты чаго няроўна дзеліш? — запытаўся Каваль і, хутка ўзяўшы бутэльку, даліў шклянку Лапціна: — За Міколу не клапаціся. Сябе беражы.

— Во, халера, забыўся, дзякуй, Пятро, гэта ж так самога сябе і ашукваеш...

Выпіўшы шклянку спірту, Лапцін запіў яго вадой і неяк хутка круціў галавой, плюшчыў свае маленькія вочкі і гаварыў хутка-хутка, трохі няроўна:

— Я чалавек дабрадушны. Ты, Пятро, зло-осны. Нядобра. Я для цябе што зрабіў? Дабро зрабіў? Зрабіў! Таму ўваж, пі! Выканай параграф.— І, нечакана адкінуўшы галаву, глуха, на свой лад, зацягнуў: — «Эх, по-озади их слышен ропот: нас на ба-абу променял!..» — І зноў трохі няроўна і хутка: — Вось і я так. На добрую бабу ўсё прамяняю, усё аддам, як у песні. А вось сябры! Дулю і дзве яловыя ў прыдачу!..

Словы Лапціна былі поўны няясных намёкаў, ад іх непрыемна застукала сэрца, і Каваль заспяшаўся:

— Мне час. Пакуль я дабяруся да хаты...

— Бяжы,— кіўком галавы распарадзіўся Лапцін.— Апрані яго, Мікола, і прыходзь. Дап'ём, дамотаем, тугу разматаем!..

Яны выйшлі ўдвух у калідор, пакінуўшы Лапціна за сталом. Чуючы, як Лапцін бубніць нешта ў зале, Каваль сказаў Рубіну:

— Чаго ты з ім валэндаешся?

— А што? Ён вясёлы!

— Гэтая весялосць не ад дабра ідзе. Ён жа спойвае цябе, не бачыш?

— Мяне? — здзівіўся Мікола.— Не смяшы ты, брацe!

Я яго самога ў тры разы перап'ю. Ён жа зусім слабы. Чуеш? А ўсяго шклянку паракуліў...

— Ды падрабляецца ён!

— Падазроны ты нейкі,— крыху пахмурнеў Рубін: — Не пазнаю. Ён чалавек, ну... Слабы чалавек да гарэлкі. Дык што ж яго за гэта — біць?

— Ну, глядзі сам.

— Вось я і гляджу. Раманы ты там круціш, а сябра свайго забыў,— хітравата прыплюшчыўшы вочы, сказаў Рубін.— Колькі мы не бачыліся, а ты — драла...

— Гэта ён табе наплёў?

— Ды смяюся, смяюся! — паспрабаваў супакоіць Каваля Рубін.— Праўду кажу...

— Бывай! — сказаў Каваль і рушыў да выхада: — У тую нядзелю прыйду. Ці ты да мяне?

— Не, лепш ты. Чакаю.

— Ёсць!

Ля жылога дома, ад якога пачыналася вуліца, Каваль убачыў Стаева. У гэтым доме Стаеў атрымаў кватэру і ■ дня на дзень чакаў прыезду жонкі. Кожны вечар амаль праходзіў у Стаева ў гаспадарчых клопатах. Сёння ён пілаваў сасновы чурбачок на дровы. Вокны кідалі жоўтыя стужкі святла на магутную постаць шафёра.

Каваль прыпыніўся, пажартаваў:

— І ноччу спакою людзям няма!

— Каму няма, а каму і ёсць. Куды цягнешся?

— Да цябе. Такі мой ужо лёс: Стаеву памагаць.

— Калі жаданне маеш і час — бярыся, не языком, а пілой папрацуеш...

Жартуючы, яны напілавалі дроў, склалі іх у прыбудоўку. Чакаючы, пакуль закіпіць чайнік, Стаеў прысеў ля пліты, паклікаў Каваля:

— Падсаджвайся, грэйся!

— Дзякуй, не змёрз!

— Ганарлівасць у цябе бурліць,— дабрадушна сказаў Стаеў.— Паганая гэта рыса ў чалавека. Не крыўдуй толькі.

— Нават і не збіраюся. Прывык. І прыказку ведаю: хочаш быць гордым — не прасі. Той, хто просіць, павінен схіліць шыю!

— Гонар — адно. Ганарлівасць — іншае. Вось вазьмі барана. Думаеш, ён з гонарам?..

Стаеў пачаў гэтую размову не выпадкова. Ён даўно прыглядаўся да Каваля, разумеў, што робіцца ў яго душы, і хацеў памагчы яму знайсці самога сябе. Спытаўся:

— Ты не жанаты?

Каваль адмоўна пакруціў галавой.

— І добра,— пахваліў Стаеў.— Трэба спачатку гэтае бараннне ў сябе пераламаць. Бо з ім чэрствасць, як сястра. А з гэтым сям'і не пабудуеш. Эх, на філасофію мяне пацягнула. Думаеш чаму? Пасля палаткі туга грызе. Ранкам устанеш — хоць з цвікамі размаўляй!..

Святло з пліты лілося пругкай жывой хваляй, поўнай яркіх вогненных фарбаў. Ватоўка Стаева блішчала, быццам зробленая з каштоўнай тканіны. Сам ён быццам пашырэў у плячах, а на твар, стомлены і пачарнелы, выразна ляглі маршчыны.

— Так, Пятрусь, чэрствасць — гэта ржа,— гаварыў Стаеў, варушачы кудлатымі бровамі.— Грызе, грызе... І вось ты гатоў. Тады табе людзі — ну-нулі круглыя. І ведаеш чаму? Вера прападае. Вера ў тое, што робіш. Ёсць яна — ты дужы чалавек. Вера, як факел. Згасла — цёмна. Збочыш не туды — не прыкмеціш. Так вось і са мной было...

Стаеў далёкім, быццам не сваім позіркам глядзеў на сінявагае полымя; дрыготкія язычкі скакалі над чырвоным жарам, цьмяна асвятлялі твар, і худы падбародак Стаева здаваўся адпаліраваным і цвёрдым.

— Самае вялікае глупства я зрабіў у жыцці, калі такі, як ты, быў. Малады, гарачы. Трошачкі эгаіст, ну, ведаеш, па-хлапчукоўску закаханы ў самога сябе.— Ён паглядзеў на Каваля і ўсміхнуўся краем вуснаў: — Гэта бывае. Але ў той час у нас ужо быў сын. Двухгадовы Сярожа. Святлана мая прыедзе праз тыдзень — пабачыш. Ён на яе падобны — светлы, вочы сінія... І вось прыходжу я пад чаркай трохі. Ну, не так, каб ужо, а трохі, драбяза. Але вясёлы. Паспрачаліся і пасварыліся з-за дробязі. «Дрэнны муж».— «Лепшага знайдзі!» — «А што, не знайду, адзін ты такі прыгожы, п'яніца! Адна не пражыву?» — «Ах, знойдзеш!» — закрычаў я на жонку і... разумееш... ударыў. Вось гэтай рукой ударыў.— Ён разглядаў сваю вялікую мазольную руку, кратаў пальцы, а твар у яго крывіўся, і нейкія горкія складкі клаліся на шчокі.— Што было мне рабіць? Ехаць! Яна сказала: «Дараваць не магу». Я паехаў. Тры гады жыў адзін. Ну, пасылаў грошы і розныя там... Але ж ці забудзеш! Бывала, з пошты прыйдзеш — тыдзень ходзіш, як дурны... У сне бачу, чую, як гавораць паміж сабой. Ліст напішу, у канверт палажу. А як прыгадаю ды падумаю, што не паверыць,— зубамі скрыгачу і паперу рву

на кавалкі. А жыццё якое ішло! Мы ў той час завод будавалі пад Масквой. І крыўдна мне зрабілася, што нічога яна гэтага не пабачыць, не зразумее, калі побач не будзе. Паехаў. Пад акном стаў. Фіранка. Нічога не відаць. Пастукаў... Яна мяне аднаго пакінула з Сярожкам, а сама — на кухню. Пайшоў я туды. Вочы ў яе сухія — і пакута ў іх, і злосць. «Палётаў, палётаў — і дамоў? Прыйшоў?» — «Прыйшоў»,— кажу. «А чаго? Ты бачыш, не загінулі мы без цябе. Жывём!» І ведаеш, не крыўдна за тыя словы, таму што вінаваты я быў дужа. І разумнейшы зрабіўся. А потым ужо, ранкам, яна мне сказала, што сапраўднае каханне пакрыўдзіць нельга. Яно верай і праўдай жыве. Правільна сказала. І не скруціў бы я тады ў сабе гэтае бараннне, іржу не саскроб бы — што было б? Абое па дурнасці пакутавалі б, а Сярожка — без бацькі...

Стаеў змоўк. Рукі яго ляжалі на каленях, закрываючы белую вату, што вылезла праз свежыя дзіркі ватоўкі.

— Ты не думай, што павучаю,— сказаў Стаеў.— Проста найшло на сэрца — расказваю. А ты памятай: сапраўднае каханне прыйдзе — слабасцям сваім яго ў ахвяру не прынось... Беражы. І толькі сэрцу вер, у каханні — гэта компас надзейны, на правільны шлях выведзе. А толькі без веры і праўды компас той не працуе і напрамку паказаць не можа...

Ён расправіў плечы і запытаўся:

— А ты ў што верыш?

— Ну... як у што?

— Мэта ў цябе ёсць? Нешта ж лічыш за галоўнае ў жыцці? Вось жывеш, працуеш, значыць, у нешта верыш...

## 11

Далёкі і цяжкі маршрут выпаў Кавалю зусім нечакана: яго машына аказалася ў ліку тых, што накіроўваліся перавозіць прадукты і летняе абсталяванне на лінію электраперадачы.

Рэйс гэты спярша ўзрадаваў Каваля, але калі ён на базе ўбачыў, што машыны грузяць людзі з брыгады Лапціна, і даведаўся, што яны будуць і суправаджаць машыны да канца рэйса, пазмрачнеў, прадчуваючы, што паедзе з ім абавязкова і Лапцін.

Ён не памыліўся. Калі пагрузка была скончана, Лапцін ускочыў у кабіну. Па-гаспадарску пакрэктваў, ладкуючыся на сядзенні. Закурыў і спытаўся:

— Ну, па якому параграфу мы з табой жыманём? Эх, люблю дарогі далёкія! А ты чаго нос павесіў?

— Ты пра мой нос не клапаціся! Сваіму сам рады дам!..

— Ого! Я чую голас ужо не хлопчыка, а мужчыны!

Лапцін задаволена крактануў, знайшоўшы нарэшце зручнае месца, і ўжо без здзіўлення, якое выклікала заўвага Каваля, сказаў:

— А я на вуха ўсё ж такі трошкі націсну. Амаль не спаў, ведаеш...

Ён цыркнуў слінай, расцёр акурак нагой, утуліў галаву ў каўнер кажуха. Ніжняя губа Лапціна неяк адразу звісла, у куточкі вуснаў набегла сліна. Над правым брывом чырванеў, парослы рэдкімі валасінкамі, стары шрам, і на друзлых, паморшчаных павеках пульсавалі буйныя жылкі.

«Як у сваёй хаце рассеўся!» — у вачах Каваля яшчэ ўсё стаяла тое, як Лапцін расціраў нагой акурак. «І тое праўда: яму ж не падмятаць у кабіне... Але прыедзем — прымушу!..»

Праз нейкую гадзіну Лапцін, быццам і зусім не драмаў, прачнуўся, расплюшчыў вочы. Зірнуў уперад, павярнуўся ўбок, прахукаў намаразь на шкле і ўзяўся пільна ўглядацца ў дарогу.

Барвова-чырвонае сонца ўжо схавалася за сопкай. Фіялетавы імглісты туман вісеў над дрэвамі, і бачнасць над дарогай была дрыготкая, няроўна спаласаваная шырокімі ценямі. Нешта прыцягвала ўвагу Лапціна; ён павярнуўся, прачыніў дзверцы кабіны, доўга ўглядаўся ў лес, потым зачыніў дзверцы і зноў глядзеў на дарогу. Хвілін праз пяць ён папрасіў:

— Будзь ласкаў, спыні сваю бразгацёлку,— і, пакутліва зморшчыўшы твар, дадаў: — За сасну схавацца трэба.

Каваль неахвотна выключыў газ і падруліў да ўзбочыны. Паабапал дарогі стаялі маўклівыя дрэвы. Ад гулу машын, што прайшлі наперад, з вяршалін злятаці снегавыя бліскаўкі, церушыліся з галін, і ў халодным паветры вісела рэдкая тканіна намаразі.

Хутка Кавалю надакучыла чакаць. Ён пасігналіў. Лапцін вылез на дарогу, доўга абтрасаў валёнкі, потым абышоў грузавік і, усё яшчэ марудзячы залазіць у кабіну, паляпаў далоняй па борце:

— Грузец як мае быць. Тышчонак сотню, а можа, і больш. Як думаеш, Пятрусь?

— Не мой, не лічыў.

— А хочаш — палічым!
— Глупства. Паедзем. Трэба даганяць машыны.
— А ты не спяшайся. Я табе пра ладную справу кажу,— Лапцін закрыў рукавіцай рукаятку хуткасці.— Хлопец ты свой, ведаю!..
— Якую справу?
— Вось гэтую,— Лапцін кіўнуў галавой у бок грузавіка і чамусьці перайшоў на таропкі шэпт.— Я гэты грузец паўгода чакаю. На станцыі ў мяне старыя дружбакі ёсць. Наш клопат з табой грошы атрымаць ды ў поезд сесці. Там — няма вашых!..
— А ехаць куды?
— Куды? Ну-уу, дзівак святы! — узрадаваўся Лапцін, не злавіўшы новых нотак у пытанні Каваля.— Калі паўсотні тысяч у кішэні, шлях выбраць справа няцяжкая. Раз плюнуць — і гатоў. Жыманём у Анапу. Ты чуў пра гэты горад?
— Трохі чуў...
— От жа галава! Трохі! А я табе яго ўвесь пакажу. Гэта, братанка, горад! Гронка вінаграду там — паўпуда. А бабкі!.. Цукерачкі! У-уум!
На халастым хаду, з металічным пастукваннем, працаваў матор. Кавалю спачатку здалося, быццам нешта брынкае ў яго сярэдзіне. «Правяраў жа цыліндры...» І здагадаўся: стукае пас вентылятара. «Во, чорт, абтрапаўся як хутка. Радыятар цяпер будзе закіпаць, не паспееш азірнуцца. А гэты ў Анапу кліча. Але чаму менавіта мяне? Ды вельмі ж проста! Ён жа так і сказаў, што хлопец я свой, і ён гэта ведае... Ах ты! Сволач жа ты губатая! Дружбачка сабе знайшоў!..»
Каваль раптам зразумеў, што вабіла раней да яго Лапціна; ён быццам узабраўся на крутую гару, і цяпер не густы таямнічы лес быў вакол яго, а нізкае драбналессе, скрозь якое з вышыні добра відзён кожны ўзгорак. «Вось чаму ён паддобрываецца ўвесь час да мяне. І гарэлкі не шкадаваў, і на пахвальбу не скупіўся. Круціўся вакол, як вяровачка. Але гэтую вяровачку я адсяку. За адным разам. Каб ведаў...»
Непрыязнасць да Лапціна, якая жыла і адкладвалася ў сэрцы, раптам набыла такую злосную сілу, што Каваль ледзь не задыхнуўся. Узрушанасць, якую ён адчуваў заўжды перад чым-небудзь незвычайным і небяспечным — прыемны халадок у грудзях і выключная чоткасць у думках,— прыйшла да яго.

— У Анапу, кажаш? А чаму туды? Што, другіх гарадоў няма?

— Не падабаецца? Жыманём далей... Але Анапу я, ведаеш... Як родны горад гэта мне. Сябры там! І яны мяне паважаюць. І я іх ведаю.

— Паважаюць, значыць,— Каваль намагаўся гаварыць спакойна, каб не дрыжаў голас.— І ты іх ведаеш... А колькі ты хуткасцей у машыне ведаеш?.. Ну, чаго маўчыш?

Гэты гарачы, нястрыманы шафёр часта здзіўляў Лапціна.

— Чатыры ведаю. Ну... Што табе пеканула?

Сказаў і спахапіўся, адчуўшы, урэшце, здзеклівыя ноткі ў Кавалёвым голасе. Зірнуў яму ў твар і спалохаўся. «Звар'яцеў ён, ці што?..»

— Ну, ну! Ты... гэта...

— Значыць, чатыры? — іранічна спытаўся Каваль і раптам сарваўся на злосны, поўны нянавісці крык: — А пятую забыўся? Задні ход забыўся, сука? Уключай яе зараз жа! Мо-орда свінячая!.. Ну!..

Ён рыўком адчыніў кабіну. Ад моцнага і нечаканага штуршка Лапцін, як мех, выкаціўся на дарогу, хуценька ўзняўся, адбег за колькі крокаў, аднекуль з-пад кажушка выхапіў фінку і, сапучы, бокам неяк, пасунуўся наперад паўз борт машыны. Хрыпла выціснуў:

— Трохі памыліўся. Шкадаваў! Трэба было раней разануць, гада!..

Дзверцы за спіной Каваля ціха пагойдваліся, ногі быццам калоў хто нечым тупым. «Ён збіраўся мяне забіць. Употай... А цяпер хоча адкрыта напасці... «Шкадаваў»... Мабыць, таму, што баяўся: адзін [redacted] машынай не справіцца..»

Ногі па-ранейшаму быццам калоў хто нечым тупым і халодным. На нейкае імгненне Кавалю здалося, што ён, як у дзяцінстве, сядзіць у лодцы на Дзвіне, буцьвянячы босымі нагамі ваду, і печкуры падплываюць да лодкі густымі чародкамі, казычуць пальцы, тыцкаючыся ў іх насамі. Уражанне было такое вострае, што ён не стрымаўся і скасавурыўся ўніз. «Вось што! Гэта ж рукаятка мне ў ногі ўпёрлася...»

Далей усё адбылося імгненна і амаль супроць яго волі, быццам нехта кіраваў яго дзеяннямі: ён схапіў рукаятку і моцна выцяў ёю Лапціна па руцэ. Лапцін сагнуўся ў крук, паваліўся, заскавытаў ад болю. Каваль моўчкі падняў нож

і палез у кабіну. Лапцін бачыў гэта і, не паспеўшы яшчэ ўзняцца, стоячы на каленях, прастагнаў:

— Данесці спяшаешся. Данесці!..

— Спалохаўся?

— Чаго мне палохацца! Факцікі дзе ў цябе? Тайгу ў сведкі паклічаш?

— Не паклічу! Але побач не станавіся, гніда! Матайся далей ад машыны!

— Ты пакінуць мяне хочаш? Тайга ж! Ваўкі з'ядуць!

Лапцін спрабаваў забрацца на падножку. Каваль спіхнуў яго, грэбліва паморшчыўся:

— Не з'ядуць. Рознае дзярмо ваўкі есці не будуць! — і дадаў са злоснай жорсткасцю: — А з'ядуць — тайга сведка!

Каваль уключыў перадачу, і дарога паслужліва кінулася пад колы машыны. Хутка, недзе далёка ззаду, засталіся і заблыталіся ў басавітым гудзенні матора крыкі Лапціна.

Дзіўнае пачуццё авалодала Кавалём. Перамога над Лапціным у нядаўняй сутычцы не ўзрадавала яго; думкі аб тым, што адбылося, мітусліва круціліся ў галаве і распадаліся на дзве самастойныя часткі: было да болю крыўдна, што Лапцін ашукаў яго, як хлапчука, прымусіў адстаць ад калоны, і злосць бушавала на самога сябе, што не быў цвёрды да канца. «Трэба было звязаць Лапціна і даставіць як факт. Эх, у высакародства згуляў!..»

Як жа гэта атрымалася, што Лапцін палічыў яго, Каваля, за несумленнага чалавека? Надумаўся ўзяць у хаўруснікі... А ўсё гэтак проста! Машыну Каваль атрымаў? Атрымаў. Хто яму тут дапамог? Лапцін...

Адно гэта прозвішча цяпер выклікала ў яго скрыгат зубоў. Каб можна было ўбачыць яго ў гэты момант,— цяпер вось! — ён схапіў бы яго за горла і запатрабаваў бы адказу, кінуў бы ў ненавісны таўстагубы твар самыя крыўдныя і горкія словы. «Дзе ён цяпер? Дзе валачэцца тая гніда? Што робіць у тым лесе?..»

Каваль хацеў ведаць гэта і разумеў, што ніякая сіла не зможа прымусіць яго павярнуць назад, прыняць нейкія захады, каб зноў апынуцца на тым жа месцы. І ад усведамлення сваёй бездапаможнасці зноў заскрыгатаў зубамі. «Чорт з табой! Гінь там у тайзе!» На нейкае імгненне абудзілася чалавечая жаласлівасць, але яна адразу знікла. «Там і дваццаці кіламетраў няма да станцыі. Няхай бяжыць цяпер у сваю Анапу!..»

Нейкі час Каваль гнаў машыну на вялікай хуткасці,

намагаючыся дагнаць калону. Дарога была пустая. Ён падумаў, што заблудзіў, але адагнаў гэтыя думкі прэч. «Іншых жа пуцявін у тутэйшых месцах няма!..» Прынамсі, так яму думалася. Двойчы ён выходзіў з кабіны, разглядаў дарогу. Бачнасць у лесе страціла ранейшую ружаватасць, але каляіна, трохі святлейшая за дарогу, была добра відаць яму.

Неўзабаве прыйшлося зноў спыніцца, бо ў правай фары перагарэла лямпачка. Ён доўга шукаў запасную, але не знайшоў. «Ну што ж, прыйдзецца ехаць з адной...»

Каб гэта здарылася пазней, ён паспеў бы заўважыць, што добра ўезджаная каляіна павярнула даўно ў тайгу, на аб'езд. За павароткай жоўты прамень фары вырваў са змроку чорны правал на дарозе, і Каваль ледзь паспеў затармазіць. Не знімаючы рукі з тормаза, ён нахіліўся наперад, амаль упёрся носам у наўскос пастаўленае пярэдняе шкло. Абаранак ціснуў яму грудзі. «Мост паламаны! Сам жа чор-рт яго ведае! Мабыць, не праедзеш...»

Ён вылез з машыны. Вакол панавала цішыня; пад капотам нешта ціха шыпела — мабыць, таяў на выхлапе снегавы пыл. Каваль пастаяў крыху і пайшоў аглядаць мост. Паскіданыя дошкі ляжалі грудамі, і ён чым больш аглядаў іх, тым больш пераконваўся, што тут праезду няма. Пачухаў патыліцу. «Трэба аб'езду шукаць... Недзе ж ішлі машыны...»

На пошукі пайшло шмат часу. Каваль апоўзаў узбочыну, прыглядаючыся да кожнай няроўнасці, і толькі потым, калі страціў ужо надзею, убачыў злева ад моста стары рубчасты след ад колаў, які, амаль схаваны пакатай снегавой навеяй, ішоў на няроўны, у наплывах, лёд.

Каваль пайшоў па гэтаму следу. Метраў праз сто след знікаў, нібыта праваліваўся пад лёд. Шукаючы яго, Каваль абышоў усё вакол. Следу не было. «Трэба праехаць ніжэй, дзе бераг невысокі. Там зручней уз'ехаць і выбрацца на дарогу...»

Іншага выйсця не было. Дакладней, ён не знайшоў яго і асцярожна з'ехаў на лёд.

Праз тахканне матора было чуваць, як шыпяць колы, расціраючы цвёрды снег. Раптам гучна, быццам разарваўся снарад, трэснуў лёд; грузавік нахіліўся, і Каваль ледзь паспеў выскачыць. Тое, што ён убачыў, крыху супакоіла яго: машына не праваліласа пад лёд, а толькі асела ў чорны правал. «Трэба памераць, ці глыбока...»

Ён прыцягнуў кавалак дошкі і сунуў яе ў чорную прор-

ву ля барта. «Падвойны лёд! Вось куды прапаў след! Тут нехта ўжо сядзеў. Вунь як патрушчана ўсё. Небяспечнае месца!..»

Толькі цяпер Каваль убачыў, што лёд вакол асеўшай машыны няроўны: увесь у вострых лядзяшках, якія вытыркаліся з-пад снегу. Ён выключыў святло. «Трэба берагчы акумулятар. Лепш паходню зраблю...»

Анучка, змочаная бензінам, успыхнула ярка, адваяваўшы ў начы шырокае рудое кола. Непадалёку грувасціліся абрысы зламанага моста. Далей за імі была бялявая сцяна тайгі і краёк цёмнага неба з бліскучымі колкімі зоркамі.

Цішыня.

Загадкавы чорны спакой.

Каваль зашпіліўся: мароз запаўзаў пад кажух. «Тут табе ніхто не паможа!..» Адчуванне адзіноты ўзмацнялася, расло, і ад гэтага рабілася яшчэ халадней. Разам з тым нарадзілася прага дзейнічаць, не сядзець на месцы, з'явілася нават нейкая філасофская разважлівасць. Хто вінаваты, што запоўз ён у гэтую прорву? Сам! Дык трэба самому і выбірацца. Правал гэты не такі і страшны. Можна дошак з моста ў яміну закласці...

Ад гэтай думкі ён нават павесялеў. Цяпер перад ім была ўжо мэта, да якой трэба імкнуцца. Узяўся цягаць з моста дошкі і перастаў заўважаць час. Дошкі былі цяжкія. Часам яму здавалася, што праца цягнецца ўжо гадзіны са дзве. (Трэба было ж яму забыць гадзіннік у гэты дзень). Ён паспрабаваў вылічаць час па згаранню паходні, але агонь высмоктваў бензін хутка, і цяжка было вызначыць, за колькі хвілін бляшанка робіцца пустой. Стаміўшыся, ён сеў на падножку.

Зыбкае полымя паходні бязгучна гайдалася. Справа і злева расплываліся няроўныя шэрыя абрысы берагоў. «Калі я ўзбяруся туды — справа будзе вырашана...» Ён падумаў пра гэта і пачуў за спіной незразумелы шоргат, прыслухаўся, устаў, адышоўся ад машыны, падняў факел над галавой. Начны змрок было цяжка адолець позіркам, і Каваль некаторы час прагна ўглядаўся, спадзеючыся, што ноч раскрые сваю тайну.

Ноч сцішылася, лягла за рудым колам святла ад паходні, і цяжка было прымусіць яе нешта сказаць. З чорнага туману зноў выпаўз падазроны шоргат; здавалася, там, у цемры, сярод снягоў, рыецца нехта вялікі і цяжка сапе. Ён узняў факел вышэй. Нікога! Снежная роўнядзь знікала

адразу ж за светлым колам бачнасці. А туман, як жывы, вылазіў з-за гэтага кола, гайдаўся і ўсё поўз і поўз, быццам там, за мяжой яго, быў не снег, а нешта варылася ў вялікім катле, з якога раптоўна знялі накрыўку. Ён ударыў валёнкам снегавую горку ля дарогі. З-пад снегу цёмным струменьчыкам пабегла вада.

Толькі цяпер ён заўважыў, што з пралому, таксама ахутанай парай, паўзе вада, падобная на машыннае масла. Чорная бліскучая вада!

Пара ахутвала твар, і па спіне ад гэтага дотыку паўзлі непрыемныя дрыжыкі. У памяці ажылі чутыя раней апавяданні пра тое, як гінуць людзі, засцігнутыя на рацэ зімовай паводкай. Вось і ён таксама загіне. Тут... Адзін...

Трэба было нешта рабіць. А што? Уцякаць? Куды! Калі вакол вада!.. Дурань, во дурань, паляцеў, не агледзеўшы... Машына можа прапасці. І каго вінаваціць? Няма каго!.. Ён сам вінаваты. Трэба было хоць нейкі розум мець, а не лезці немаведама куды!..

Каваль залез у кузаў, сеў і пачаў глядзець у бок моста, чакаючы, што адтуль прыйдзе дапамога. Ён ведаў, што рэдка ходзяць машыны па гэтай дарозе, і ўсё ж стараўся пераканаць сябе, што нехта прыйдзе на выручку. «А ўвогуле, хто прыйдзе, калі дарога не езджаная? Зблудзіў. Але дзе?.. І быццам так ужо гэта важна цяпер! Факт той, што вось сеў тут макам і машыну запароў...»

Факел згасаў; замест жывога полымя ўнізе, на снегавым пагорку, цяпер свяцілася даўгаватая чырвоная стужка. Яна то ўсплывала, то знікала зусім. Цемра рабілася густой, яе, здавалася, можна было абмацаць рукамі.

Каваль адчуў стомленасць. Але яна неяк хутка знікла, зрабілася цёпла, і прыйшлі бесклапотныя думкі, ад якіх рабілася яшчэ больш утульна. Навошта ўвогуле спатрэбілася яму лезці ў гэтыя месцы, самому д'яблу на рогі? Маразы. Тайга! Трэба кінуць усё і ехаць дамоў. Праца і там знойдзецца... Забраць з сабой Паліну. Пабудаваць хату... Вось Чумак пра гэта штодзень гаворыць — трэба будавацца!.. Пажыць... А калі Паліна не згодзіцца? Нельга ж без яе! Нельга? Так, без яе прападзеш. Як гэта казаў Стаеў? «А без веры і праўды компас той не працуе...» Компас? А навошта яму компас? Не, без компаса дрэнна. А з компасам што? З компасам дарогу знойдзеш праз любую тайгу!..

Доўгая стужка згасаючай паходні раптам ператварылася ў стрэлку вялікага компаса. Каваль адчуў, што ў яго

руках цяпер ёсць магутнай сілы прыбор, з якім не заблудзіш, нідзе не прападзеш... Гэты компас прывядзе яго да сяброў! Так, сябры недзе зачакаліся яго...

Ён пачаў цяпер думаць пра сваіх сяброў з жалем і чуласцю, якой дасюль не ведаў. Во каб хто быў цяпер побач з ім! Ну, хоць бы Чумак! Ён жа, па сутнасці, добры чалавек. Навошта толькі Каваль дакучаў яму сваімі жартамі?.. Чумак жа клікаў нават да Чорнага мора. У Анапу!.. Ну, Чумак гэтага не казаў! А хто ж?..

На нейкае імгненне выплыў у памяці віслагубы твар, бародаўка на шчацэ і брудныя адбіткі пальцаў на шклянцы. «Лапцін! Ён казаў!..»

Амаль у затуманенай ужо галаве прамільгнула дарога, фіялетавы туман над ёй і цьмяны бляск нажа; прамільгнуў, і Каваль здрыгануўся, адчуўшы амаль фізічны боль у сэрцы. Адразу да самых драбніц прыгадалася ўсё тое, што адбылося ў лесе. «Значыцца, я тут замерзну, і праўда застанецца на яго баку: што захоча, тое скажа. І яму паверыць! Бо мяне не будзе! Не, гэтага не павінна быць! На цябе ж спадзяваліся. Памятаеш, Паліна так і сказала: «Я спадзяюся на цябе...» А ты што робіш? Машыну ў яміну пасадзіў і адпачываеш... Га? Заводзь машыну і паспрабуй выбрацца. Зубамі грызі! Чуеш! Вады баішся!.. Ах, ножкі замочыш, дарагі Пятрусь!.. Ты ўвогуле ўсяго баішся. Нават сказаць Паліне не можаш таго, што павінен казаць жанчыне сумленны і сталы чалавек! Але цяпер ты пойдзеш!.. Чуеш! Уставай і ідзі!.. Ну, уставай!..»

Ён адчуў нейкую адарванасць ад рэчаіснасці і самога сябе ўспрымаў, як нейкую другую істоту, якой можна загадваць. Яму здавалася, што са змроку на яго глядзяць вочы Паліны — клапатлівыя, ласкавыя, і цяжка было зразумець: праўда гэта ці падман. Ён выліў рэшткі бензіну на чорныя анучкі. Полымя крутанулася, шуганула ўверх, апаліла твар. Ён пацёр шчокі і не адчуў болю. Вада набралася ў валёнкі, і дзіўна: холаду ногі таксама не адчувалі — яму здавалася, што пальцы нехта, быццам жартуючы, кратае вострымі цвічкамі.

Каваль размеркаваў усю працу, якую задумаў, на пасобныя аперацыі. Ён выконваў іх у строгай паслядоўнасці і кожны раз задаволена адзначаў зробленае і падганяў самога сябе.

Праз некаторы час ён ужо толькі падлічваў зробленае, а потым надышло такое, што ён працаваў быццам у сне і пасля кожнай удачы ўжо не радаваўся, а яшчэ больш зла-

ваўся і звярэў. Хістаючыся, ледзь узнімаючы ногі, Каваль цягаў дошкі і шаптаў, аблізваючы цвёрдыя непаслухмяныя вусны: «Толькі наперад! Назад дарогі няма!..»

Пад валёнкамі хліпала і звінела вада, нібыта ў вялізным вядры размешвалі патрушчанае шкло.

Заваліўшы яміну, ён замасціў дошкамі ўвесь шлях да берага. Узяўся заводзіць матор. Старцёр не працаваў. Ён узяў заводную ручку і пайшоў, трымаючыся за капот. Ручка бразгала па метале глуха, як са скляпення. Матор запрацаваў. Каваль не чуў яго тарахцення, а здагадаўся спачатку па дрыжэнню радыятара, на які апіраўся рукой, і, узрадаваны, прыціснуўся грудзьмі да настылага жалеза. З-пад капота — праз шчыліны — ішло цяпло, і ад яго на вачах з'явіліся слёзы. «Родная мая... Адзіная надзея — на цябе...»

Ён размаўляў з машынай, а думаў пра Паліну. І цяпер, калі трэба было ехаць, баяўся і быццам яшчэ не верыў, што жывой істотай грукаціць ажыўшы матор.

Лёд захрумсцеў пад коламі, але машына не кранулася з месца. Гэта прывяло яго ў ціхае шаленства. Ён ударыў рукой чорны абаранак руля і прастагнаў: «Ну што ж ты! Няўжо не разумееш?..» — Каваль размаўляў уголас, каб адцягнуць увагу ад болю, які сціскаў ногі. «Вязі, даражэнькая. Вязі, родная!..» — Думкі пра машыну змяняліся думкамі пра Паліну, і ён размаўляў з ёй, называў ласкавымі імёнамі, бо маўчаць і нічога не казаць было цяжэй. «Ты паглядзі, якую я табе дарогу наслаў! Ну, націснем крышачку! Э-ээх!..»

Колы саслізгвалі з дошак. Але з кожным рыўком машына рабіла ўсё большы разгон і раптам, задрыжаўшы ўсім корпусам, паціху выпаўзла з яміны і асцярожна, быццам намацваючы сабе дарогу, пасунулася па насланых дошках.

Каваль, не адрываючыся, глядзеў наперад і не адразу паверыў у тое, што адбылося, а ўсё глядзеў і глядзеў на парнае воблака, што вісела спераду над дошкамі, і шаптаў: «Ну, яшчэ трошачкі! Родная! Цяпер яшчэ... Вось мы на гэтую дошчачку ўзлезем з табой. Цяпер на суседнюю, а потым на бераг вылезем і на дарогу трапім. Вось бы нам гэты ўзгорачак адолець!.. Ну, гоп-ля!..» І сам напружваўся, аж хрусцелі пальцы, што сціскалі абаранак, і ўжо не слыхам, а ўсёй істотай успрымаў ён візгатанне лёду. Лёд ламаўся цяпер ужо глуха, быццам не пад коламі, а недзе далёка-далёка...

Можа, метраў дзесяць ад правалу Каваль ехаў на ма-

лой перадачы, не верачы, што бяда засталася ззаду. Потым, калі зразумеў, што немагчымае адбылося, пераключыў хуткасць і зарагатаў, закрычаў, намагаючыся крыкам перабіць боль у нагах. Вада рвалася ад колаў у бакі, пырскі ўзляталі наперадзе, і маленькія льдзінкі цюкаліся са звонам аб дзверцы кабіны...

З кожным кіламетрам боль у нагах усё мацнеў: валёнкі змярзаліся і ціснулі ногі, як абцугі; Кавалю здавалася, што падлога кабіны ператварылася ў гарачае каменне. Ён паспрабаваў зняць валёнкі. Анучы прымерзлі, і нават ад лёгкага руху знізу да каленяў ішоў дзікі, свідруючы боль. Ён разрэзаў валёнкі нажом, як разразаюць кардонную трубку, потым зняў кажух і ўсунуў ногі ў рукавы. Пасля цяжкіх і мокрых валёнак гэта было зручна і прыемна. Ён павесялеў і не звярнуў увагі на белыя плямы на пальцах: дакладней, ён бачыў іх, але такая млявасць папаўзла раптам па целе, што заўважанае не выклікала ў яго намеру зрабіць якія-небудзь захады.

Пад колы зноў ляцела, цяпер ужо добра ўезджаная, каляіна. Яна бегла па-ранейшаму (ён так і не заўважыў, дзе ўзышоў на аб'езд), па-ранейшаму нерухома стаялі аснежаныя дрэвы на абочынах, і машына, быццам па белым калідоры, імчала наперад.

Санлівасць зноў навалілася на плечы, галаву, як чыгунную, цягнула ўніз. Каваль двойчы балюча тыцнуўся носам у абаранак; тады ён упёрся падбародкам у яго і радасна заўважыў, што ехаць гэтак зручней — і галава не матаецца з аднаго боку ў другі, і дарога не скача ў вачах. Часам яму мроіліся ўдалечы агні; ён праціраў вочы — агні знікалі, і наперадзе аставаўся толькі змрок, адтуль вылятала іскрыстая стужка дарогі, ды святло фары зыбалася над ёй...

Боль у нагах не праходзіў; часам ён рабіўся меншы, гарачыня хваляй узнімалася да паясніцы і гублялася недзе ля грудзей. Токі цяпла ў левай назе былі слабейшыя, і Каваль, паспрабаваўшы пакратаць пальцамі, заўважыў, што не адчувае іх. «Мабыць, адмарозіў,— абыякава, быццам пра нешта звычайнае, падумаў ён.— А правая нішто, варушыцца...» Потым гэтае адчуванне знікла, і новая хваля цяпла ўзнялася да грудзей, распаўзлася, перад вачыма загойдалася чырвонае зарава. Ён заўважыў, што яно нейк аддалілася, адбеглася наперад і палала недзе там, удалечыні, у змроку.

Каваль працёр рукавіцай шкло і неяк спакойна і абыякава сказаў:

— Вогнішчы!..

Адкуль яны з'явіліся тут, ён не ведаў і не спрабаваў зразумець. Вогнішчы — гэта людзі. Гэта — выратаванне. Гэта — канец шалёнаму болю. Гэта — канец бядзе! Але чаму ж яны аддаляюцца? Хаваюцца ўбок? «Гэта дарога зварочвае. Калі я вылезу на той перавал, да іх рукой будзе падаць. Ну, машынка, наперад! Там людзі!..»

Праз паўгадзіны — можа раней — ён пад'ехаў да вогнішчаў. Падбеглі людзі, адчынілі кабіну, пыталіся, дзе другая машына, што пайшла яму насустрач. Не, ён не сустракаў яе. Машына, значыць, пайшла на аб'езд, а ён сядзеў на рацэ... Ён зразумеў, што яны размінуліся, і нават не пашкадаваў аб гэтым.

Каваль бачыў на тварах людзей хваляванне, адчуваў яго ў іх галасах і здзіўляўся, чаму яны так узрушаны. У нейкім паўсне ён выключыў матор, пагасіў святло. Не памятаў, як яго выцягвалі з кабіны, як церлі снегам памарожаныя ногі і ўлівалі ў рот разбаўлены гарачым чаем спірт.

Апошняе, што ўвайшло ў яго свядомасць, быў гучны выхлап гасіцеля ўнізе, пад кузавам грузавіка...

## 12

У тайзе зацвілі жаркі. Пышна. Густа.

Яркае каляровае полымя разлілося па зяляніне травы. Ад яго, здавалася, пасвятлела бурштынавая кара маладых кедраў і на чаромху лёг ружовы водсвет: у расяных, цьмяна бліскучых лісціках, як у напацелых люстэрках, адбіваліся пышныя, з барвовым адлівам, бутоны.

Перш яны расцвіталі на востраве, і Паліна расказала пра іх Кавалю прыгожае паданне. Адбылося гэта праз тыдні са тры пасля таго, як ён выпісаўся з бальніцы. Сустрэліся на пераправе. Яна прыпазнілася на паром, а ён прыехаў занадта рана — запасныя часткі, якія трэба было пагрузіць на машыну, яшчэ не даставілі з левага берага.

Паліна сядзела на крайчыку прычала, заваленага бліскучымі жалезнымі бочкамі і маленькімі скрынямі. У паветры быў разліты пах смалы і камення. Прычал драўляны, высунуты ўглыб метры на тры ад берага; па баках яго чырванелі вострыя рэбры дыябазаў — тут нядаўна працавалі падрыўнікі.

Ад камення, скінутага выбухам у раку, адбівалася сонца, і па аранжавых кругах, што дрыжалі на зеленаватых

хвалях, можна было здагадацца, дзе ляжаць на рачным дне валуны. Вада на сонцы здавалася колкай, доўга на яе глядзець цяжка — балелі вочы.

— Мы ехалі тут узімку, памятаеш? — сказала Паліна.— Буксавалі на гэтым месцы, і адзін мой сябра зваліўся з машыны на дарогу. Ты ведаеш яго?

— Таго, што зваліўся з машыны? Дарога тады гладкая была! Лёд!

— А цяпер тут лёду няма,— сказала Паліна, смеючыся.— Гэта, заўважаеш, амаль вершаваны радок. Можна верш так і пачаць: «А цяпер тут лёду няма. Сонца гушкае белыя хвалі...» А далей пра пачуццё і сэрца... Га?

— Я не пішу вершаў цяпер.

— Чаму?..

— Глупства... Мне часам здаецца, што ўсё ранейшае ў маім жыцці — гэта проста... Ну як табе ясней... Проста прыступачак да нечага вялікага і добрага.

— І ты думаеш, што калі напішаш пра яго — добрае гэта будзе далей? Ці знікне?..

Ён марудзіў з адказам, яна гэта заўважыла і сказала:

— А на востраве жаркі цвітуць. Бачыш?..

Каваль уважліва разглядаў каляровы дыван на востраве. Як змянілася ўсё тут! І Паліна стала іншай. У яе вачах з'явілася нейкая трывожная ласкавасць. Калі ён ляжаў у бальніцы, яна і Зося прыходзілі часта, прыносілі вялізныя апельсіны, загорнутыя ў тонкую паперу з надпісам на невядомай мове.

Тады ўсё было проста. А што змянілася цяпер? Ён сэрцам адчуваў гэтыя змены і не мог паставіць іх побач з будзённшчынай, лічыў, што вытокі тых змен маюць таямнічы і недатыкальны характар. Цяпер Каваль не быў падначалены Паліне і адчуваў сябе незалежным чалавекам. І гэта калі і не ўзнімала яго вышэй, дык ва ўсякім выпадку давала магчымасць, як гэта яму здавалася, не быць ніжэй, дазваляла жартаваць як з роўным. Але гэтай роўнасці не было, існавала нейкая мяжа, што раптам вырасла і зноў аддаліла яе.

— Вой! — слаба войкнула Паліна і схапіла яго за руку: — Глядзі! На тым беразе. Бачыш?

За ракой, над чорнымі скаламі, уздымалася бруднае воблака дыму, звівалася клубамі, плыло вышэй соснаў. Здрыганулася паветра ад магутнага выбуху; рэха разляглося над вадой; чародкі маленькіх рыбак, што плавалі ля

прычальных паляў, пырснулі ва ўсе бакі, быццам ратаваліся ад шчупака.

— Рвуць камень. Бячэўнікі вядуць. Дзіўная назва — бячэўнікі! Праўда? А можа, прасцей... Але гэтак, відаць, трэба. «Бурлаки то идут бечевой...» Памятаеш? Магчыма, адтуль такая назва і вядзецца. Каб доўга памяталі. Хто паданне пра жаркі склаў — невядома, а ведаюць людзі паданне стагоддзі, мабыць... Гэтак і бячэўнікі. Ты як думаеш?..

Такой гаваркой Паліна была ўпершыню пасля зімы. Што здарылася з ёй? Радуецца, што ён паправіўся, ці проста прыйшоў добры настрой?.. Відаць, апошняе бліжэй да праўды. Каваль проста не ведаў, што вельмі часта дзяўчына гаворыць толькі для таго, каб праверыць сябе, ці правільна яна робіць. Скажа і насцярожана чакае, прыслухоўваецца да голасу свайго сэрца: а што яно адкажа?..

Шмат чаго магло сказаць Палініна сэрца. Шмат перадумала Паліна, узважыла. Нават не, не ўзважыла, а проста размаўляла сам-насам і разумела, што калі змаладушнічае — не дапаможа Кавалю выйсці на сапраўдную дарогу... Уласна кажучы, пры чым тут гэтае «калі»?..

Яна, мабыць, проста кахае яго. Але што такое каханне!.. Вось Ангара сапраўды кахала Енісея. Пакахала Ангара, збегла ад старога бацькі Байкала да ляснога прыгажуна Енісея. Прабівалася скрозь скалы і глухія лясныя нетры — зраніла рукі і ногі. Падала сляза — расцвітаў белы пралеснічак... Цякла кроў з ран, і там, дзе падала кропля, вырастала кветка з пышным бутонам, ярка-чырвоная... Жарка. І было гэта вясной. Вунь іх колькі на востраве! І па тайзе — скрозь!.. Пройдуць стагоддзі — усё роўна будзе жыць гэтае паданне, бо гэта гісторыя сапраўднага кахання. Кахаць — значыць не баяцца нічога, значыць — не шкадаваць нават уласнай крыві, значыць — прабівацца да свайго каханага, адстаяць яго, зберагчы...

З-за каменных выступаў Жураўліных Грудзей з'явіліся дзве чорныя кропачкі — катэр цягнуў паром. Ён падышоў да прычалаў, апшвартаваўся. Матрос — хлопец з блакітнымі вачамі і капой светлых валасоў — замахаў бесказыркай без стужкі, закрычаў:

— Гэ-гэ-эээй, шафёры! Разгружаць барку!

Два хлопцы, што прыехалі разам з Кавалём, кінуліся выгружаць шасцерні, загорнутыя ў прамасленую паперу.

— Я памагу грузіць,— сказала Паліна, і словы яе прагучалі, як пытанне: «Ты хочаш гэтага?..»

— Навошта! — таропка спыніў ён.— Не трэба!

— А што ж, сядзець я так не магу.

Паліна лёгка падхапіла васковага колеру кола шасцярні.

Папера шмат дзе прарвалася, і вострыя зубы, густа змазаныя тавотам, рэзалі рукі. Каваль бачыў, што адгаворваць яе нельга, і стараўся як мага больш зрабіць сам: ён цягаў па пяць шасцярон адразу, паціху, каб не чула Паліна, падганяў сваіх хлопцаў.

Басавіта заспяваў ражок катэра. Паліна ўзбегла на палубу. Катэр, крута развярнуўшыся, кіраваў ад прычалаў на сярэдзіну ракі. Каваль глядзеў, як матляецца ад ветру чырвоны сцяжок, ля якога стаяла Паліна, і выціраў замасленыя рукі. Пагрузка была закончана.

Калі паром быў ужо далёка ад берага, Паліна нешта крыкнула і памахала рукой. Але што яна гукала — ён не пачуў...

Пасля абеду Каваль вазіў бярвенні. Апошні рэйс быў няўдалы: пракалоўся скат. Ён хутка перамяніў яго і, пакуль грузчыкі ўскладвалі бярвенні, паспеў адрамантаваць зняты балон. З палёгкай ускінуў дамкрат на машыну.

— Справе канец!

— І ў нас таксама. Адпачнуць хлопцы — і паедзем. Скончыў дамкраціць?

Дубнік пастукаў ботам па скату, дапамог палажыць на месца запасны балон. Каваль быў узрадаваны не дапамозе — ён сам бы зрабіў усё, і прытым хутчэй,— а спагадлівасці, што прагучала ў словах Віктара.

Слаўны хлопец гэты Віктар! Малайчына! Скажа два словы — на сэрцы лягчэй. Дубніка паставілі брыгадзірам, і ён вясну працаваў са сваёй брыгадай на пагрузцы: усім кранаўшчыкам працы па спецыяльнасці пакуль што не было...

Грузчыкі адпачывалі па траве за машынай. Не было толькі Косці. У апошні час Каваль асабліва здружыўся з ім. Косця Яўграфаў быў падобны тварам на Дубніка. Весялун. Добра іграў па мандаліне. Аматар пажартаваць, Косця хутка зрабіўся чалавекам, якога любілі і паважалі. Усе звалі яго коратка, абрэзаўшы прозвішча,— Граф. Гэта весяліла яго.

Хвілін праз пяць Косця паказаўся з-за штабялёў у расхрыстанай кашулі, з раскудлачанымі валасамі, у руках — вялізны букет кветак. Падышоў, паглядзеў на ўсіх нейкімі атуманенымі, летуценнымі вачамі:

— А што ў тайзе. Ад жаркоў аж трава гарыць!

Каваль пакратаў жаркі. Барвовыя бутоны былі халаднаватыя, прыемна казыталі далонь, і ў пальцах аставалася адчуванне аксамітнай мяккасці пялёсткаў. Прыгадаў расказ Паліны і адчуў, што сэрца яго затахкала, як там, ля прычалаў, калі Паліна была побач.

— Кветачкі. А ягадкі яшчэ наперадзе! — іранічна паабяцаў Сільрын.— Наперадзе...

— Правільна,— пацвердзіў Косця.— Эх, хутка сядзем на партальныя! Бетон пойдзе! Зверху ўся тайга відаць. А ты сабе, як гаспадар: сядзіш, глядзіш...

— А знізу табе «віра!» крычаць. Бодня вісіць. Бетон цячэ. А ты і не чуеш. А ўвечары загад, як ягадка,— у тон яму пажартаваў Сільрын.— Чырвоненькі...

— Ну што, паехалі?

— Хлопцы, садзіся!

Дубнік першы ўзабраўся на машыну, яшчэ раз аглядзеў ланцугі, якімі былі ўвязаны бярвенні, і на просьбу сесці ў кабіну адмоўна замахаў рукамі:

— Не, не! Мы тут зараз «Рэвэ тай стогнэ...» зацягнем — сосны хістацца будуць. Эх, шкада, Чумака няма...

Песня загучала прыгожа, дружна. Было добра ехаць з ёй, і Каваль пашкадаваў, што не сядзіць зараз наверсе з хлопцамі.

У пасёлку, дзе недаканчаныя хаты наставілі ў неба кроквы, Каваль убачыў чалавека, які спяшаўся наперарэз машыне і махаў шапкай. «Гэта ж Мікола!» Ён пазнаў Рубіна і схапіўся за тормаз. «Чаго яму?..»

З вясны Рубін працаваў у дарожным упраўленні правага берага. Апошнія тры дні Каваль не бачыў яго: аўтагрэйдэрыстаў перакінулі на пракладку новай трасы.

Рубін, узабраўшыся на падножку, паціснуў Кавалю руку і хутка зачмокаў губамі, раскурваючы папяроску. Пасля, выпусціўшы струмень дыму, сказаў:

— Слухай! Чумак прасіў дошкі яму падкінуць. Калі зможаш?

— А-аа, ну яго да д'ябла, уласніка!..

— А што ён табе благога зрабіў?

— Мне — нічога. А нам — перашкаджае!

— Ого! Ты ўжо сябе — на «вы»! Выкаем, значыцца.

— Што б ні рабілі, а ён свой плот гародзіць...

Рубін выгнуў бровы.

— Ну, браце, не памыліўся: ты — філосаф. І не абыякі! Дзяржаўны чалавек!..

— Хопіць. Чуеш?

— І пажартаваць ужо нельга! Не я першы абяцаў зімой. Сказана? Няёмка цяпер ад свайго слова адмовіцца...

Песня наверсе сціхла. Каваль здагадаўся, што грузчыкі прыслухоўваюцца да іх лаянкі, і паспешліва згадзіўся:

— Добра. Давай сёння ўвечары.

Папяроса ў Рубіна, нарэшце, загарэлася добра, ён прагна зацягнуўся, пыхнуў дымам, аж схаваўся яго твар:

— Дамовіліся. А сёмай. Ля лесапільні?

— Чакай.

Пагадзіўшыся, Каваль па дарозе шмат думаў пра тое; Рубін ужо двойчы прасіў дапамагчы сваім сябрам. Сябры ў яго завяліся на правым беразе адразу. Першы раз яны падвозілі дошкі, а другі — цэмент індывідуальным забудоўшчыкам. Гэта Каваль рабіў па сваёй ахвоце — прасіў Мікола і яго сябры. А два тыдні таму назад, калі яму выпісалі нарад падвозіць бярвенні нейкаму індывідуальнаму забудоўшчыку з упраўлення, Каваль узбунтаваўся:

— Не паеду!

Дыспетчар — пажылы, з цёмнымі плямамі на шчоках мужчына — аж прысвіснуў:

— А калі я цябе з машыны здыму?

— Не здымеш! Я сюды ГЭС будаваць прыехаў, а не ўласныя хаты. Ясна?

Дыспетчар пацiснуў плячыма:

— Хацеў чалавеку лепш зрабіць, а ён у хамут б'е!

Аднак больш такіх нарадаў яму не выпісваў. І вось цяпер Каваль робіць тое, супроць чаго сам бунтаваў нядаўна. Праўда, цяпер ён вымушаны рабіць такую паслугу, бо звязаны ранейшым словам. «Сказаў — трэба выконваць, а Чумаку мы, праўда, абяцалі...»

Каваль адчуваў, што адносна гэтага канкрэтнага выпадку правіла, ім жа самім устаноўленае, мае нейкія хібы, у чымсьці яно няправільнае, але ў чым — не мог зразумець. Супакоіў сябе: «Адмовіцца няёмка. Добра, завязу — і скончу на гэтым...»

Згрузіўшы бярвенні на лесазаводзе, Каваль павёз брусчатку на перамычку. На бячэўніку машыну спыніў загарэлы хлопец у малінавай майцы. Узмахнуў чырвоным сцяжком:

— Няможна. Абвал вядуць!

Высунуўшы галаву з кабіны, Каваль глядзеў на скалы, што навіслі над самай дарогай. Высока-высока, там, дзе з-за вяршалін сасонак, што віселі над безданню, вы-

тыркнуліся камячкі белых воблакаў, варушыліся постаці людзей. Вяроўкі мацавапняў былі нябачныя на такой адлегласці, і здавалася, што людзі лётаюць па стромкіх скалах. Вось яны затрымаліся ля чорнага дыябазавага выступу. Скала зварухнулася, паляцела ўніз, і дымны след папоўз за ёй у паветры.

Прыглушапа загулі скалы. Вялізныя камеппі павольна і плаўна скакалі з уступа на ўступ, трушчыліся і падалі ўніз буйным каменным дажджом.

— Во гэта праца!

Ён зайздросціў тым смелым людзям, іх рыскоўнай працы, але сам, калі б яму зараз прапанавалі пакінуць машыну і пайсці туды, наверх, не пагадзіўся б нізавошта. На ўсім свеце няма нічога даражэйшага за перамычку! Там Паліна!..

Ён убачыў яе адразу, ледзь машына ўзышла на шырокі каменны банкет. Паліна нешта тлумачыла па чарцяжы барадатым цеслярам. Такой тонкай і кволай здалася яна яму побач з дзвюма магутнымі постацямі. «Яны могуць яе пакрыўдзіць...» І стала смешна нават за свае клопаты. «Яна ж камандуе імі...»

Цесляры ўважліва слухалі Паліну, са згодайківалі барадамі, потым узялі чарцяжы і палезлі ўніз, да вады, дзе блішчала на сонцы брусчатка новай апалубкі.

Паліна стала на падножку і, усміхнуўшыся Кавалю, паказала рукой на востры трохкутнічак, што выступаў наперадзе перамычкі, як капітанскі мосцік незвычайнага карабля.

— Туды, там і разгрузім! І асцярожна, глядзі!

Каваль звёў машыну з асноўнага цела перамычкі на востры банкет, што вытыркаўся насустрач імклівай рачной плыні. Тут сапраўды было, як на караблі. Чыстыя зеленаватыя хвалі біліся аб шырокія пліты дыябазаў, пеніліся, вурчалі. Яму здавалася, што не машына едзе, а сам банкет імчыцца наперад, разразаючы каменным носам пругкую ваду.

Заўжды ён адчуваў тут нейкую ўзрушанасць і ведаў — яна прыходзіць ад таго, што побач — і вельмі блізка — Паліна. Яна трымалася цяпер рукамі за вугал кабіны і напалову засланіла акно. Чорная куртка была вольна ўскінута на плечы; ад белай — у сініх васільках — кофтачкі ў кабіне пасвятлела.

Але не пасвятлела толькі на душы. На змену ўзрушанасці тут заўжды прыходзіла нейкая горыч. Яна выплы-

вала з невядомых глыбінь душы, але ён разумеў, што яе вытокі ў тых няўдачах, якія ідуць за ім апошнім часам.

Сэрца Каваля прагнула нейкай асаблівай працы, геройства, якое б узняло яго і паставіла на адным узроўні з Палінай. Такая праца была тут, на рацэ, у канцы зімы, калі ў надзвычайна цяжкіх умовах вялася адсыпка перамычкі. Прыйшло прадвесне, лёд раставаў, а самазвалы ўсё роўна прабіваліся скрозь ледзяныя правалы і небяспеку. А ён, Каваль, ляжаў у бальніцы і чытаў пра ўсё гэта ў шматтыражцы.

І цяпер кожны раз, уз'язджаючы на перамычку, ён адчуваў радасць ад сустрэчы з Палінай і горыч таго, што жыццё яго абмінула. Не проста, а геройскае жыццё. Ці ж многа геройства патрэбна, каб вазіць гэты брус на ўжо гатовую перамычку! Праўда, можна па-заліхвацку падкаціць да самага краю, спыніцца так, каб колы навіслі над хвалямі. Але не, няможна! Паліна даверліва стаіць на падножцы, і не мае права ён свавольнічаць і рыскаваць.

Ён асцярожна падагнаў машыну да жардзінкі, на якой матляўся выцвілы чырвоны сцяжок. Грузчыкі пасаскаквалі з машыны. Косця, раскланяўшыся і жартаўліва прыціснуўшы руку да грудзей, падаў Паліне кветкі.

— Ад нашай брыгады — вам!

— А жонцы? — з непарушным спакоем спытаўся Віктар.— Прасіла ж прывезці кветак...

— Якой жонцы? Што плявузгаеце? Вы!..

Косця быў нежанаты. Усе гэта ведалі і таму дабрадушна смяяліся з яго абурэння.

Хлопцы хутка разгрузілі брусчатку і спусціліся ўніз да перамычкі памыцца. Каваль сеў у машыну, каб павярнуць яе. Да яго падышла Паліна.

— Пачакай, Пятро! Ты што сёння ўвечары робіш?

— Быццам нічога...

— Тады прыходзь. Я кніжкі дастала. Паглядзіш...

Значыцца, яна не жартавала тады! Не жартавала і не забылася на тое, пра што казала апошнім разам, наведаўшы яго ў бальніцы! Гаворка была, праўда, не канкрэтная. Паліна паведаміла тады, што на правым беразе будзе адкрыта з восені вячэрняя школа рабочай моладзі, а на будучы год філіял інстытута. Можа, яму варта заняцца вучобай? Ён пагадзіўся. Якая гэта адукацыя — восем класаў! У той час Каваль мог пагадзіцца з любой прапановай Паліны. Але цяпер! Зрабіцца вучнем!.. Гэта яшчэ больш падзеліць іх. І акрамя таго, восень далёка! Хто ведае,

што можа здарыцца за гэты час? І Мікола з гэтым Чумаком прывязаўся. Ці хутка ж яны там управяцца?..

— А калі заўтра?

— Твая справа! — Паліна зразумела, што за яго пытаннем схаваны адмоўны адказ: — Ты што, вельмі заняты?..

— Ды не, не так каб вельмі. Мікола прасіў дошкі таварышу падкінуць. Будуецца...

— Халтурка. Гэтак у вас завецца?

— Не, гэтай справай я не займаюся. Па-сяброўску.

— Ой, Пятро, Пятро. Пападзеш ты «па-сяброўску» ў непрыемную гісторыю...

— Сам і вылезу! Машына ў мяне — звер. І рукі ёсць. І хоць благая — але галава!

— Ты не жартуй,— папрасіла Паліна.— Некаторыя вось і будуюць сабе дамы па такому «сяброўскаму» прынцыпу: дзе блага ляжыць — цягнуць. А прывезці? Вось і шукаюць такіх, каму напляваць, што і куды даставіць. Толькі грошы пакажы ім... тарбахватам!

— Значыць, і я тарбахват?

— Не ведаю,— яна не хацела адказваць.— Адкуль у цябе гэтая чумакоўшчына?..

Адкуль жа яна ведае, што дошкі трэба даставіць Чумаку? Ён жа не казаў ёй! І на пытанне не захацела адказваць!.. Ён таксама ўхіліўся ад адказу; прыплюшчыў вочы, з'едліва спытаўся:

— І ты тарбахвата надумала перавыхоўваць?..

— Ах, праўда! — Паліна была пакрыўджана яго тонам і нежаданнем прыйсці сёння ўвечары. Бегала, шукала кніжкі, прасіла бібліятэкарку, а ён гэтак лёгка і бесклапотна праменьвае яе сяброўства на нейкі несумленны заробак.— Цябе ж толькі падхвальваць трэба! Глядзіце, які ён добранькі!..

Злосны, упэўнены тон Паліны абяззброіў, балюча секануў, як бізуном. «А ты мной не камандуй. Ведаеш...» Але сказаў зусім другое:

— Пакажы!

Працягнуў руку да букета. Яна падала кветкі.

— Завялі зусім... Гарачы дзень сёння!..

Каваль разглядаў кветкі, здагадваючыся, што яго злосць і буркатлівасць выклікаваны не толькі папрокамі, а яшчэ нечым іншым, невядомым дагэтуль. «Яшчэ падарунак узяла. А чаго ён варты?..» Было непрыемна, што не ён, а Косця падарыў кветкі. «А я мог лепшы прывезці...»

Маўчанне рабілася няёмкім, і ён, не знаходзячы патрэбных слоў і злуючыся на самога сябе, нечакана адчуў, што ва ўсім вінаваты вось гэтыя кветкі. Поўны злосці толькі на іх, размахнуўся і шпурнуў букет у раку:

— Ці ж гэта кветкі? Дрэнь!

Паліна разгубілася, хацела нешта сказаць, але змоўчала. Толькі павяла рукой па твары і пакрыўджана ссунула бровы.

Білася і звінела на вострых базальтавых глыбах вада. Прыціснутая перамычкай да левага берага, ляцела Ангара скрозь вузкі праран. Сівыя буруны рассякалі плынь, што паспела трохі супакоіцца пасля парогаў; выгіналіся, дыбіліся хвалі, і пенныя грабяні звіваліся, быццам жывыя. На адным з іх з'явілася ружовая плямка. Хвіліна — і яна ўжо далёка-далёка.

«Вунь куды іх занесла! Якая імклівая ўсё ж такі плынь!»

Паліна думала пра гэта без жалю. Яна зразумела, што ён злуецца ад рэўнасці, таму, што не сам, а Косця прывёз ёй кветкі. «А чаму ты сам не здагадаўся? Хоць навошта? Мы шмат збіралі іх з табой разам...»

Стаіла ўсмешку, але вочы здрадзілі: у іх білася, ірвалася наверх радасць.

## 13

Чумак, азвярэўшы, лупіў сякерай па сасновым карчы, прысядаў, з натугай крактаў.

За хатай, на невялічкай печцы, якая была складзена з цэглы пад адкрытым небам, Рустына рыхтавала вячэру. Вецер прынёс адтуль смачны пах смажанай рыбы. Ноздры Чумака заварушыліся: «Але ж дух таймень дае, воўк яго рэж!»

Ён пацягнуў носам паветра, чмыхнуў і з такой ярасцю ўлупіў сякерай, што буйныя, малінавага колеру трэскі, падобныя на хвасты падсмажанага тайменя, паляцелі за будан.

Падышла Рустына. Пастаяла. Пажавала губамі:

— Казала — не давай грошай. Прывёз — іншая справа. А цяпер што, зловіш ды ў вуха наплюеш?!

Чумак не адказаў. Нябожчык бацька вучыў: сапраўдны мужчына — гаспадар, не да твару гаспадару спрачацца з жанчынай. Добра вывучыў ён бацькаву запаведзь і ні разу не парушыў яе, калі займеў сваю сям'ю. Рустына

крычала і плакала, калі сабраўся ехаць сюды — усё роўна паехаў. Участак ёй гэты не спадабаўся, але выйшла на яго лад. А колькі часу ён прыглядаўся, перш чым рашыць! І выбраў: не куток — дзіва! Навокал цішыня — канец пасёлка. Далёка ад дарогі, чужое вока лішні раз не зазірне. У канцы ўчастка нізіна: вада блізка. Тут хаце і стаць. Шыферам накрыта. Засталося наслаць падлогу, столь пакласці і — грымі наваселле! А вось з дошкамі затрымка. Уся надзея на Рубіна: абяцаў на лесапільні без чаргі прапусціць і прывезці. Авансам грошы ўзяў. Праўда, не ўсе. У Рустыны нюх добры. Мабыць, адчувае, што не абыдзецца гладка.

Жончына заўвага яшчэ больш растрывожыла сэрца. Зноў зрабілася шкада грошай. «Але ж уліп, стары дурань! Паверыў!» Чумак абцёр пот з ілба і, каб пакараць сябе за недаравальную бесклапотнасць, намеціў на сённяшні вечар два самыя здаравенныя карчы. Потым зноў падумаў пра тое, як легкадумна паверыў Рубіну, і павялічыў гэтую колькасць да пяці. «Каб ведаў і другі раз разявай не быў...»

І ў гэты момант ён убачыў грузавік. Машына асцярожна паўзла сярод тоўстых карчоў, падобных па супрацьтанкавыя надаўбы. З падножкі саскочыў Рубін, пайшоў наперадзе, і вялізная машына паслухмяна, як цяля, пайшла за чалавекам. Канцы дошак цяжка грымелі.

— Ру-убін! — радасна закрычаў Чумак і, перш чым пабегчы яму насустрач, паспеў папракнуць жонку: — З благім чалавекам Ціхон ніколі не звяжацца! — ірвануўся да машыны: — Гэ-ээ! Калі ласка, управа. Тут перакапана! Яміна!..

Чумак узрадаваўся шчыра, Каваль бачыў гэта і, ахвотна паціскаючы яму руку, здзіўлена сказаў:

— Ды хата ў цябе здаровая! А думаў толькі мазанку класці!

Ён разглядаў сялібу з цікавасцю. Масіўная, панурая хата быццам прыціснула сабой маленькі будан, над дахам якога віўся дымок. На драцінах, што былі нацягнуты ад хаты да будана, віселі кашулі розных памераў і фасонаў — Рустына трохі зарабляла, мыючы бялізну. Руды сабака вытыркнуў морду з зялёнай будкі: лаз у яе быў застаўлены кавалкам пабітага радыятара. Каваль пазнаў радыятар, які раней валяўся ў канаве за гаражом, і ўсміхнуўся: «І там угледзеў!»

Ад гарадка далятаў няясны шум, і гэта неяк яшчэ да-

лей адсоўвала сялібу ад жывога свету. У цішыні, што панавала вакол, было нешта цяжкае. Гэтае адчуванне ўзмацнялася ўспамінамі пра размову з Палінай. Як гэта яна казала: «Адкуль гэтая чумакоўшчына ў цябе?..» Але ж і назву прыдумала!.. А можа, правільна гаворыць яна? Нешта тут ёсць кулацкае...

Прыбег Ігнатка — цыбаты пятнаццацігадовы хлапчук, з хітрымі бацькоўскімі вачамі. Каваль разам з ім узяўся складаць дошкі. Яны прыемна пахлі свежым пілавіннем, смалой і грыбной сырасцю. Гэты пах супакойваў, адганяў непрыемныя думкі.

Учатырох яны хутка знялі дошкі з машыны і склалі іх у два штабялі.

— Русты-ына! Вячэру! — крыкнуў праз двор Чумак, накрываючы дошкі кавалкам толі.— Гэта каб ад сонца не карабаціліся. Разумееш? Ну, а зараз павячэраем крышачку!..

— Дзякуй, але часу няма. Машыну трэба ў гараж. І потым — перасяляемся сёння. Хлопцам трэба памагчы...

Чумак залыпаў вачамі:

— Крыўдуеш... Гэта нядобра, ведаеш. Ага!..

— Пакінь, нідзе твой гараж не дзенецца,— падтрымаў яго Рубін.— І не хвалюйся пра інтэрнат. Што ў цябе там — мэбля! Баішся, што шафу з люстэркам паб'юць?

Гэта канчаткова пераканала яго. Нават павесялеў. Так, мэблі ў яго няма сапраўды. І ці будзе калі?!.

Рустына паставіла на стол патэльню з макаронамі, міску мачонікаў і таксама ціха і непрыкметна адышлася: Чумак не любіў, калі жонка ўвязваецца ў мужчынскую гаворку. Яна ўжо добра ведала яго нораў!

Мачонікі і свежаваранаая бульба спадабаліся Кавалю, і ён уголас пахваліў:

— Пастаралася твая жонка. Мачонікі каралеўскія!

— Рустына ў мяне — скарб! Умее! — усцешыўся Чумак. Ён расшпіліў кашулю на ўсе грудзі і пашкрабаў валасатай рукой чорныя грудзі.— Пачакай, на наваселле прыйдзеш, тады скажаш! Мы з вамі, хлопцы, патупаем!.. Ага...

Схуднелы твар Чумака неяк выцягнуўся, шчокі запалі, а ў вачах гарэў і скакаў жывы хітраваты бляск:

— Я што, хлопцы, скажу? Пра сябе трэба таксама думаць. Таксама! Вось што скажу: бярыце кавалак зямлі — будуйцеся. А побач — суседзямі будзем! Таксама! А што? Жаніцца трэба. А што! Пакуль кватэру дадуць... Вам па-

чакаць прыйдзецца... А Чумак што? Чумак сказаў, што паможа,— паможа! Калі да мяне — я таксама. Русты-ына! Цягні тайменя!

Рустына высунулася з закутка, паглядзела на ўсіх вароннімі вачамі і здзіўлена спыталася, не вымаючы рук з-пад фартуха:

— Якога тайменя? З'елі ж учора.

— І лепш! Грыбком закусім,— развесяліўся Чумак, у сэрцы пахваліўшы беражлівасць жонкі.— Рыба што? Мякіна. А мачонік — гэта рэч!

Хутка Каваль пачаў развітвацца, настойліва клікаў Міколу, але той, захмялеўшы, неахвотна ішоў за ім.

— Чаго ты мяне цягнеш? Чаго? — канчаткова ўпёрся ён на панадворку.— Пасядзелі б, пагаварылі. А ён — уцякаць!

— Не магу я тут сядзець. Рустына за кожным кавалкам сочыць, быццам з рота выцягвае...

— Гэтак ужо і выцягвае... Кінь капрызіць. Чумак гаспадар слаўны... Праўда, сквапны. Гэтага не знімаю. Ёсць!

— Кулак ён. Скнара.

— Досыць, праведнік! — Рубін дастаў з кішэні грошы.— Бяры, твая доля. Яшчэ я ўлічыў, што і за той раз табе належыць...

— Ты што, грошы ўзяў з яго?

— Узяў,— са злоснай усмешкай сказаў Рубін.— Выдраў! Слухай, Пятрусь, пойдзем, паспяваем. Чуеш, як яму цяжка аднаму...

— Пачакай, пачакай. Галава нешта шуміць...

— Галава? Ха-ха! У мяне заўжды, калі з добрай пляшкі вазьму: у галаве шуміць-шуміць! А ў кішэні ціха-ціха! Ха-ха! Ні адзін рубель не зашастае, бо нічога не застаецца! Ха!..

Ад Міколавага жарту не зрабілася весялей, душыла бяссільная ярасць. Рубін узяў грошы! Значыць, ён, Каваль, таксама бярэ хабар? Відаць, і раней было такое ж, толькі Рубін не казаў яму. «І за той раз табе належыць...» Дык што ж?! І тут Палініна праўда? Выходзіць, ён тарбахват? Правільна яна сказала яму! А што скажаш Рубіну? Ён жа зусім п'яны...

Раззлаваны, хацеў ударыць Міколу, але стрымаўся, сказаў з пагрозай:

— Ты гэтыя грошы аддасі Чумаку! Хабары я з табой дзяліць не буду! Зразумеў?

— Няможна табе піць,— без крыўды ў голасе сказаў Рубін, хаваючы грошы ў кішэню.— Шабаш, дарагі. Галава ў цябе слабая стала. Лупі ў гараж, а я да Чумака. Паспяваем...

Каваль хацеў пацягнуць яго з сабой, але Мікола ўпёрся і вырваўся з яго рук:

— Я табе не дзіця! Што хачу, тое і раблю. І ты мне не ўказ. І не трымай!.. Казаць хочаш — кажы, але не трымай!..

— Мы з табой заўтра пагаворым! Я з цябе гэтую чумакоўшчыну вытрасу!.. Калі ты мне сябра...

Каваль прыйшоў да сваёй палаткі позна і не пазнаў яе: брызентавы шацёр знялі, дашчаныя сцены сінелі пяроўнымі плямамі цвілі. Вакол чулася ажыўленая людская гамонка, смех. Раўлі два бульдозеры, раўнуючы месца, дзе раней стаялі палаткі. Прыйшоў канец апошняму кутку палатачнага гарадка. На машыны грузілі ложкі, крэслы, розны хатні скарб...

— Гэй, Пятро! — паклікаў яго Віктар.— Урэшце і ты прыехаў. А мы без цябе перабраліся. Хадзем, ложак вывалачам...

— А мой пагрузілі?

— Пагрузілі і звезлі... на звалку!

— Жартуеш?

— Ніколькі. Там навюсенькія пастаўлены!

Каваль увайшоў следам за Віктарам у палатку і аслупянеў. Замест нізкай брызентавай столі было цёмнае блакітнае неба. І ад яго недасягальнай чысціні страшэннай здавалася няўтульнасць шурпатых дошак з іржавымі цвікамі і сіратлівасць абадранай печкі, што разгублена і асірацела стаяла пасярэдзіне.

— І гэта мы тут жылі?

— Жылі. Праўда, я чытаў у газеце даўным-даўно, што з палатак выселілі ўсіх. Нейкі ж пісака напісаў.

— Бывае.

— Давай пасядзім на дарогу. Развітаемся. Будан наш, як апошні з магікан. Чуў такое племя?..

— Чуў.

Жалезны ложак журботна зарыпеў ад цяжару двух хлопцаў. Яны маўчалі. У выдраныя вокны залятаў вецер, шамацеў паперамі. З кутка выкаціўся маленькі сіні папяровы камячок, прыбіўся да Кавалёвых ног.

— О! Канверт. Прыкмета! Што тут напісана? — Вік-

тар падняў скамечаны канверт.— Пусты. Адрас нехта напісаў, а пісьмо і не сабраўся... Горад Анапа. Вуліца Савецкая...

Каваль здрыгануўся. Узяў канверт і доўга разглядаў няроўны, хісткі почырк. Пісьмо Лапціна... Нейкаму Цыбіку... Хто гэта? Што ён хацеў напісаць? І калі гэта было? Мабыць, перад ад'ездам. Пасля таго выпадку ў лесе Каваль не сустракаў яго: Лапцін некуды знік з Брацка. І вось цяпер, праз гэтулькі часу, не ён, а ўспаміны аб ім сталі на Кавалёвым шляху.

— Ты што задумаўся?

— Прыгадваю...

— Прыемнае?

— Не вельмі...

— Тады патрэбен дым. Магікане заўжды запальвалі агонь, каб злы дух адляцеў разам з дымам!..

Як лёгка было казаць і жартаваць Віктару! Ён нічога не ведаў з той буры, што ў свой час прайшла праз Кавалёва сэрца. І, мабыць, ад гэтага шчаслівы чалавек. А што, Каваль нешчаслівы? У яго ёсць цяпер усё тое, што зусім нядаўна здавалася яму марай — далёкай і недасяжнай, як гэтае вечаровае, але блакітнае яшчэ неба; і гэты канверт — напамінак — нечаканы і няўмольны — пра тое, што перакрэсліў Каваль у сваім сэрцы, каб ніколі больш не вярталася яно да яго. І праўду гаворыць Дубнік пра тых магікан! Няхай дымам пойдзе і гэты апошні ўспамін пра тое нягоднае, што было.

— Давай запалкі. Запалім гэтую паперу!..

— Вось трымай. Але падзяры, лепш загарыцца...

Край канверта лёгка ўспыхнуў; агонь шырэў і поўз па сіняй паперы; яна курчылася і спавівалася горкім дымам.

— Ну, усё! Устаём!

— Пайшлі!

Каваль прыціснуў нагой чорны попел, што застаўся ад папяровага камячка; камячок рассыпаўся ў пыл і змяшаўся з шэрым пяском.

## 14

Камітэт камсамола часова размясціўся ў адным будынку з аддзеламі будаўніча-мантажнага ўпраўлення. Паліна ішла туды неахвотна. Прыехаў карэспандэнт маскоўскай газеты і хоча пагутарыць з маладымі спецыяліс-

тамі, якія працуюць па будоўлі. Так ёй перадалі. Ён ужо ведае яе імя. Адкуль? Мабыць, сказалі ва ўпраўленні. А пра што ён будзе распытваць? Вось ужо дапытлівы народ, гатовы ўсю душу перавярнуць: як, ды чаму, ды адкуль...

Пад нагамі трушчылася перасохлая кара, халодны пясок насыпаўся ў басаножкі. Пыл рыпеў на зубах, і ў горле ад яго пяршыла. Калі яе абагнаў, грукочучы, самазвал, Паліна чамусьці зноў прыгадала Каваля. Яна не сустракалася з ім ужо тыдні са тры — ён працаваў на далёкіх лесаскладах — і пачынала ўжо думаць, што ён знарок пазбягае яе. Паліна пераконвала сябе, што зрабіла правільна, паспрачаўшыся тады з ім, і адчувала, што крыху перабольшыла, ставячы яго ў адзін рад з хабарнікамі. Але ж і ён!.. Ледзь што — кіпіць... Тады так і не прыйшоў увечары па кніжкі. Пакрыўдзіўся...

Паліна адчувала сваю віну і таму злавала і на сябе, і па яго, і аднachасова хацела бачыць яго, гаварыць з ім; хацела і ведала, што пры сустрэчы не адмовіцца ні ад сваіх ранейшых поглядаў, ні паспрабуе нават прасіць прабачэння; няхай груба, але яна сказала яму праўду. А праўда ёсць праўда, яе трэба прымаць такой, як яна ёсць...

На ганку, ля ўвахода ў камітэт, сустрэла Зосю. З пачырванелым тварам тая кінулася абдымаць Паліну, радасным пошапкам казала:

— У Маскву пасылаюць. У Маскву! Галоўны інжынер званіў нашаму. З электраліпіі едуць... Яшчэ з левага берага. Такая радасць. Такая радасць!..

Гэтая навіна не ўсцешыла Паліну: яна адчула, што зайздросціць Зосі. Толькі думала пра Каваля, рыхтавала сябе да блізкай сустрэчы з ім, і таму радасць Зосі неяк яшчэ больш прыдала цэню яе думкам. Абтрэсваючы кофтачку, сказала спакойна, каб паказаць, што ўспрыняла паведамленне Зосі як справу даўно вядомую, не адчуваючы ні горычы, ні прыкрасці ад таго, што тая паедзе ў Маскву.

— Пылу колькі! Ты паглядзі...

— Драўляная ты, ці што! — раскінула рукамі Зося.— Масква! Разумееш, Масква! А яна слупам стаіць!..

— Я рада за цябе.

— Ды пры чым тут я? Ты едзеш! Нарада маладых будаўнікоў Сібіры. Ад правага пасылаюць цябе...

— Мяне?!

— Вядома. Во каб мяне! Я ведала б, што рабіць!..

— Ай, Зосечка! Дай абдыму!

Паліна абняла яе, закруцілася і ледзь не звалілася з ганка сама, утрымалася, але моцна штурхнула высокага мужчыну, які выходзіў з дзвярэй.

— Таварыш Багун, калі не памыляюся? — ён паправіў акуляры ў карычневай апраўе і паглядзеў на яе ўважліва, намагаючыся знайсці падабенства з тым фотаздымкам, які ўбачыў да Дошцы гонару. «Амаль не падобная. Не, ёсць падабенства: гэтыя ўпартыя вусны. І нейкая суровасць у твары. Прыгажосць такіх заўважаеш не адразу: у вочы яна не адразу кідаецца...»

— Так. Вы мне прабачце,— Паліна здагадалася, што перад ёй стаіць карэспандэнт газеты, з якім хацеў пазнаёміць яе сакратар камітэта. «Ён, мабыць, мяне і паказаў яму праз акно. Бо адкуль жа пазнаць... А я яго бачыла. Гэта ж ён учора з начальнікам будаўніцтва хадзіў па перамычцы... Няёмка неяк атрымалася. Падумае: здзяцінілася...» — Прабачце...

— Ну, няўжо! Сам вінаваты: выходзячы праз дзверы, не глядзі ў зямлю! — дабрадушна прамовіў ён.— Давайце пазнаёмімся. Карэспандэнт Гай. Бачыце, нават прозвішча лясное...

Паліна размаўляла з ім, здзіўляючыся той лёгкасці, з якой ішла ў іх гаворка. Гай гэты нечакана спадабаўся ёй. Ён не хапаўся за аловак, не выцягваў блакнот, нічога не запісваў. Яна бачыла ў яго вачах добрую ўсмешку, якой не маглі схаваць шкельцы акуляраў, і адчула ўдзячнасць да гэтага чалавека за тое, што ён не пытаўся ў яе пра лічбы і працэнты.

— Пытаннямі пра справы я вам у вагоне надакучаць буду,— паабяцаў ён.— Вы ўжо ведаеце? Вось і добра. У Маскву разам паедзем.

— А хто з ЛЭПа едзе? Вы не чулі?

Гай па памяці назваў некалькі прозвішчаў рабочых з лініі электраперадачы. Усе яны былі новыя для Паліны, і ён, убачыўшы на яе твары расчараванне, паспяшаўся супакоіць яе:

— Нічога, дарога далёкая. Пазнаёмімся!

Яны дамовіліся сустрэцца раніцой на перамычцы: Гай хацеў пагутарыць з лепшымі рабочымі яе ўчастка.

Зося ўвесь час слухала іх размову, і калі Гай развітаўся і пайшоў, яна паспешліва сказала:

— Цікавы дзядзька. Ох, напіша ён пра цябе! Я ве-

даю, доўгія карэспандэнты заўсёды доўгія артыкулы смаляць.

— Ты скажаш!..

— Пабачыш! А за тое мне туфлікі прывязеш. Памятаеш, такія, як дамаўляліся?

Праўда, пра туфлікі ў іх размова была. Нежк яшчэ зімой Паліна сказала, што ўлетку, калі выпадзе адпачынак, яна паедзе ў Маскву. Тады і дамовіліся: лакіраваныя туфлікі — падарунак з сталіцы. Цяпер нечакана мара спраўдзілася, і Паліна ахвотна сказала:

— Добра, прывязу. Будзе табе ўсё, што пажадаеш. Мне нават і не верыцца...

## 15

Набліжалася Масква.

У вагоне той сумятлівы беспарадак, які заўжды пачынаецца ў канцы падарожжа. Паліна стаяла ля акна. Побач моўчкі смактаў сваю адмысловую люльку Гай. Паліна здружылася з ім у дарозе: ахвотна, ва ўсіх падрабязнасцях, расказвала пра будоўлю, людзей, нават пра ўласныя справы і жыццё; праўда, тут ужо не было асаблівых падрабязнасцей.

Сёння ранкам яна, жартуючы, прызналася яму ў сваёй непрыязнасці да карэспандэнтаў. Гай рагатаў, а цяпер стаіць маўклівы, задуменна пыхкаючы люлькай.

— Гэ-этак! — працягнуў ён нарэшце, прыплюшчыўшы вочы ад дыму.— Газават нашаму брату аб'явілі. І таму ў мяне прапанова: адзін нарыс напішаце вы!..

— Я? Вось ужо не думала! Села Багун у вагон будаўніком, а вылезе карэспандэнтам. Калі нам з вамі паездзіць яшчэ які тыдзень, вы зробіце з мяне пісьменніцу. А праўда?

— Яшчэ невядома, кім вы прыедзеце ў Маскву наступным разам. Можа, дэлегатам. Можа, дэпутатам. Можа, лаўрэатам. А пакуль што мне з Шылавым не ўсё ясна. Вы не можаце паўтарыць свой расказ пра яго яшчэ разок? Не, не цяпер, потым...

— Вядома! Вы ўсё ж думаеце пра яго напісаць?!

— Пакуль што не вырашыў. Як гэта гаворыцца ў нас: не адстаяўся матэрыял,— ухіліўся ён ад прамога адказу.— Значыць, дамовіліся: знойдзеце вольны час — і ў рэдакцыю. Заўтра, паслязаўтра. Вось глядзіце, дзе мы знаходзімся...

Ён адарваў лісцік з блакнота, нарысаваў план. Кабінет прамысловага аддзела адзначыў крыжыкам:

— Вось тут! Вы ўбачыце, што не ўсе карэспандэнты друкуюць у газеце няправільныя артыкулы!..

## 16

Пасяджэнне ўвечары было адкладзена.

Паліна засталася ў гасцініцы і села пісаць ліст да Зосі. Узяла ў рукі аловак і задумалася, не ведаючы, з чаго пачынаць. Колькі хочацца сказаць! А можа, Зосі будзе нецікава чытаць пра яе перажыванні, пра радаснае хваляванне, што жыве ў яе сэрцы з таго самага часу, як ногі яе ступілі на маскоўскі асфальт?

Масква была новая, зусім не падобная на тую, што жыла ва ўспамінах. А можа, яна сама пасталела і глядзіць на ўсё іншымі вачамі? Не, проста жыццё ідзе наперад, і кожны раз, калі ты азірнешся, бачыш усё ў новым святле; і гэта святло будзе здзіўляць цябе, здзіўляць і радаваць, калі ты зможаш сказаць сабе, што будавала гэтае жыццё разам з усімі. Дзіўна як! У Брацку яна часта думала пра Маскву, цягнула яе сюды штодзень, а цяпер яна тут, у Маскве, а думкі там, у Брацку...

Паліна задумліва паглядзела ў акно. Заходзіла сонца. Як у Сібіры, яно было барвовае. Па вячэрнім небе плылі воблакі — маленькія, бэзавага колеру. «Такія ж, як у нас там...» Дзе гэта там? Вядома, у Брацку!..

Далёкі Брацк быў для яе цяпер нейкім блізкім, і кожны ўспамін пра яго хваляваў, выклікаў незразумелую трывогу за Зосю, за Каваля... Пятрусь так і не адважыўся сказаць ёй на развітанне жаданых і патрэбных слоў...

Позірк яе спыніўся на чорным тэлефоне, што стаяў на маленькім століку пры акне; сонечныя прамені зіхацелі на паліраваным эбаніце і калолі вочы. Яна захацела переставіць яго, і раптам тэлефон зазваніў у руках, быццам жывы. Яна зняла трубку.

— Алё-ё...

Званіў Гай.

— Прыехаць зараз? — Паліну ён узрадаваў і напалохаў сваёй прапановай.— Н-не ведаю... А не позна? Добра, калі тэрмінова — прыеду...

Гай чакаў яе пры ўваходзе ў рэдакцыю. Шырокую лесвіцу роўна асвятлялі белыя плафоны. Ногі нячутна ступалі па дывановай дарожцы. Паліна і Гай узняліся на

другі паверх і ўвайшлі ў вялікі кабінет. За крайнім столікам строга і проста, як за машынкай, сядзела сівая жанчына ў рагавых акулярах і курыла.

Рухавы і вясёлы Гай разагнаў сваім прыходам напружаную цішыню. Ён пасадзіў Паліну ў шырокае крэсла, сказаў:

— А цяпер размова пойдзе пра таго хлопца. Не забыліся?..

Спакойная дзелавітасць Гая перадалася і ёй, Паліна расказвала з захапленнем. Расказваць было лёгка, Гай не толькі слухаў, але і задаваў пытанні. Ёй прыгадаліся Падунскія парогі, занесеныя снегам палаткі, ахутаная парай перамычка і жоўтыя маланкі выбухаў над палонкамі і ўсё тое, што было там,— гэткае далёкае і гэткае блізкае. Аднак, калі Паліна сказала, што Шылаў цураецца людзей, Гай насцеражыўся:

— Такі гарачы, шчыры хлопец — і раптам мала сяброў?

— Сяброў? Не, пачакайце, чаму мала? Я не хацела... Я хацела сказаць, што часам чалавек за рэзкасцю, абыякавасцю хавае сапраўднае пачуццё...

Сказала і злавіла сябе на тым, што думае пра Каваля. Чаму Пятро хавае ад усіх, што сядзеў у турме? Сорамна яму?.. Не, тут іншае, нават цяжка зразумець... А што, калі спытацца ў Гая? Не, не трэба...

Паліна нават не заўважыла, як яны засталіся ў кабінеце ўдваіх. Гаворка зацягнулася. Цяпер ужо сама Паліна зацікавілася працай Гая і прыйшлося расказваць яму. Гай павёў яе ў друкарню, паказаў, як вярстаецца газета. Калі вярталіся адтуль, іх сустрэла тая ж маленькая жанчына ў рагавых акулярах. Гай узяў у яе некалькі старонак машынапіснага тэксту.

— Вось, калі ласка,— падаў ён іх Паліне.— Адкрываецца мой сакрэт. Ваш расказ запісала стэнаграфістка. Цяпер нарыс амаль гатовы. Пачытаем? Смялей, смялей!..

Паліна ўзялася чытаць, і з кожнай старонкай хваляванне праходзіла, саступаючы месца ўпэўненасці, радаснай і прыемнай: не так каб ужо і блага яна гаварыла.

— Быццам і не маё! Дзіўна!

— Значыць, газават нашаму брату адмяняецца?

— Злавілі па слове?

— Гэта ўжо не слова, а факт!

Гай узяў у яе рукапіс і дзелавіта дадаў:

— Стылістычна мы падправім яшчэ! Нарыс пойдзе!

— Будзеце друкаваць?!

— А як жа! Будзем!

Паліна прыкмеціла, што Гай неяк быццам змяніўся, нешта новае з'явілася ў ім, нязвыклае, і здагадалася: замест люлькі ён курыў папяросу. І разам з люлькай знікла нейкая частачка абаяльнасці. Паліна заўважыла: Гай уважна глядзіць на яе... Засаромелася. Здалося, што ён чытае яе думкі.

— Вы дамоў цяпер? — спытаўся ён, калі Паліна ўстала.

— Так, збіралася лісты напісаць, а вось пішу артыкулы для газеты. І не абы-як! Дыктую стэнаграфістцы,— паціснула плячыма: — Ну, каб сказаў хто раней, не паверыла б нізашто!..

— Мы часам нават не ведаем, колькі ў нас ёсць энергіі і таленту,— сказаў Гай, хаваючы рукапіс у стол.— Шчаслівы чалавек, калі разумее свае сілы. Гэтаму, між іншым, трэба вучыць людзей... Я правяду вас, калі дазволіце...

## 17

Каваль паставіў самазвал у хвост чаргі і ўзабраўся на край пясчанага кар'ера. Ружаваты, быццам падсмажаны, падобны на вялізную місу з абламанымі краямі, кар'ер уразаўся ў пагорак, парослы сасоннікам.

Парывісты вецер, ледзь дакрануўшыся гарачай жарствы, страчваў рачную свежасць і не прыносіў палёгкі. Гарачыню струменілі камені, машыны, і толькі зубы экскаватара, якія рылі глыбінны пласт, холадна блішчалі на сонцы.

Па вузкай гарлавіне марудна паўзлі самазвалы. Ім тут было цесна і нязручна разварочвацца. Цёмны ад вільгаці жвір засцілаў шырокую каляіну. За кар'ерам жаўцелі плешыны зімовай парубкі. Перш чым выехаць на дарогу, самазвалы рабілі круг, аб'язджаючы шэры ад пылу хмызняк.

«А можна ж бліжэй праехаць,— падумаў Каваль, узрадаваны здагадкай.— Напрасткі! Раскапаць катлаван і пракласці трасу. Там — уезд, тут — выезд. Рублёву скажу, няхай свой коўш туды кідае!..»

Саскочыўшы з адхону, Каваль пабег да экскаватара. Рублёў спакойна выслухаў яго, дакурыў зашмальцаваную папяроску, пстрычкай скінуў акурак на дарогу і таксама павольна спытаўся:

— Цябе як завуць? Пятро? Ну, дык слухай, друг Пятро! Лухту ты вярзеш. Ну, памяркуй! Дарогу нам прарыць — раз плюнуць. А нагружаць у гэты час хто будзе? Пакуль мы каляіну пракладзём — нам галаву адарвуць. План сарвём, галава ты садовая!..

Каваль загарачыўся. Ён ужо не звяртаўся да Рублёва, а шукаў падтрымкі ў шафёраў, якія падышлі на спрэчку, намагаўся казаць спакойна і разважліва:

— Ну паглядзіце, хлопцы! Самазвалы мы пусцім лапцужком! А Рублёў сабе з гэтага боку — цоп! На машыну! З другога боку — цоп! На другую машыну! І пайшоў! І пайшоў!.. Аж гай зашуміць!..

— Пайшоў ды пайшо-ооў! — перадражніў яго Рублёў.— А берагі — хоп: абваліліся. Экскаватар — хоп: завaліла. Тады што твой «цоп»?

— Ты чаго да слова чэпішся, Рублёў? Падганяў бы свой коўш — і парадак!..

— Вядома, калі што — выцягнем грамадой!

— У Каваля галава міністэрская. Яму не машыну, а кабінет трэба даць. Хай ідзе цягне!

— Праўда: даць яму кабінет! Ён тады Рубельчыку нашаму план спусціць, і той — гатоў!

Апошняя заўвага нечым пакрыўдзіла Рублёва. Ён скасавурыўся на шафёра, які кінуў яе, і з’едліва сказаў:

— Выцягнем! Кабінет яму... А калі экскаватар заваліць, ён — хоп: паехаў на машыне. А мяне? Ды мяне за гэтае самае — цоп! І павесяць сушыць!

Шафёры зарагаталі. Рублёў, паціраючы валасатыя рукі, ад мазуты і наліплага жвіру падобныя на наждачную паперу, нечакана для ўсіх бухнуў:

— Рыскнём!..

Апоўдні, кіламетры за два ад кар’ера, у лесе, Каваль сустрэў Рубіна. Той, не злазячы з грэйдэра, спытаўся:

— Што там у вас у кар’еры? Самазвалы пруць, як з гарматы. Працаваць перашкаджаюць...

— А нам выдатна. Кар’ер разбузілі, і машыны ідуць у два ланцугі. Зося тры сшыткі паназапісвала!..

— Сшыткі — што! Ты паглядзі сюды. Не бачыў? — Рубін з урачыстым выглядам разгарнуў газету: — Свежанькая, з пошты!..

Кінуліся ў вочы буйныя літары загалоўка і подпіс у канцы артыкула. Яго пісала Паліна! Друкаваныя радкі заскакалі ў вачах Каваля; над яго вухам гудзеў голас Рубіна:

— Цяпер Цімка — нос угору! Слава! І вось заўжды: другу — лапці, а мне — вяровачка, каб гора завязаць. І што б гэта такое адпароць? Можа, каб грэйдэр уверх коламі паставіў — пэўна ж напісала б... Э-ээ, бачу, і ты нездаволены! А ты ўсё да канца даўбані, во тады скажаш. Пра нас с табой, братка, не напішуць. Той, што пра мяне будзе пісаць, напрыклад, карэспандэнт той, яшчэ, дарагі мой, не нарадзіўся нават. Ну, а ты чаго?..

— Ты мне гэтую газету дай, будзь ласкаў!

— А бяры! Во калі пра мяне будзе — усе газеты скуплю. Тады не дам, а цяпер бяры!..

Каваль прагна, не адрываючыся, прачытаў Палінін нарыс. Цімка Шылаў! Маленькі вяртлявы хлопец. Ад яго жартаў заўсёды рагаталі цесляры. І нечакана Шылаў вырас у яго вачах; Пятро сэрцам адчуў вялізную значнасць простай Цімкавай працы і пранікся павагай да гэтага хлопца. Каваль знайшоў у артыкуле тое, чаго не мог знайсці Рубін і ўвогуле ніхто: нейкім сваім пафасам і ўнутраным зместам нарыс адстойваў, сцвярджаў яго, Кавалёвы, думкі. «Яна думала пра мяне, калі пісала гэты артыкул...»

— Ну, як? — Рубін дачакаўся, пакуль Каваль скончыў чытаць.— Спрытна інжынерка строчыць! Як па масле вядзе! Во каб мне так налаўчыцца! Я б нічога не рабіў! Сядзеў бы і страчыў. Я б іх па дзесяць у дзень даваў... Не, праўда, у газету напішу. Пабачыш!..

— Досыць табе балбатаць! — абсек ён Рубіна.— Едзь давай, а газету я забяру...

Даўно не ездзіў Каваль з такой хуткасцю, як у гэтым рэйсе. Матор роў, з вар'яцкім гулам беручы павароты; за машынай клубілася густая шэрая заслона, быццам пад коламі гарэлі дымавыя шашкі.

У душы Каваля таксама бушавалі віхуры. У цэнтры іх была Паліна. Разумны яна чалавек! Зрабіла столькі дабра для яго! Яна прыносіла для яго ў бальніцу вялізныя апельсіны, падобныя на сонца, і ён употай цалаваў іх. Яна знайшла патрэбныя яму кніжкі і хоча, каб ён узяўся за вучобу. І, самае галоўнае, яна памагла яму паверыць у свае ўласныя сілы, стаць вышэй жыццёвых драбніц і бруду. Як добра, калі побач з табой такі разумны і слаўны чалавек!.. І артыкул пра Шылава яна напісала, акрамя ўсяго іншага, каб паказаць яму, Кавалю, што праца кожнага з іх на гэтай будоўлі важная, каб запаліць добрым прыкладам яго сэрца. Добрая ты, Паліна! Але дарэмна

так клапоцішся! Тое благое, што было ў жыцці яго, адышло ўжо ў мінулае. І не паўторыцца. Каваль цяпер не той, што быў раней!..

Ён думаў гэта не з цвёрдым перакананнем, а хутчэй з жаданнем нейкай роўнасці з Палінай. Увечары, зноў прачытаўшы артыкул, Каваль не знайшоў у ім таго, што так моцна ўзрушыла яго на дарозе. Дзівак! Адкуль ён узяў, што Паліна нейкім чынам размаўляла з ім праз гэты артыкул? Якая самаўпэўненасць!.. І ўсё ж на душы было радасна: газета быццам працягнула яшчэ адну нябачную, моцную ніць паміж ім і Палінай.

Прага дзейнасці ахапіла яго. Узяў падручнік па алгебры. З яго выпаў атрыманы пазаўчора ліст ад маці. «А я дагэтуль і не адказваў...» Дастаў паперу, ручку і сеў за стол. Паспеў напісаць некалькі слоў, як ля расчыненага акна з'явіўся Дубнік. Нядаўна яго абралі ў склад камітэта камсамола дарожнага ўпраўлення. Віктар абапёрся грудзьмі на падаконнік, з жартаўлівай павучальнасцю сказаў:

— Жаніцца трэба, а ён лісты строчыць. Глядзі, старому жонка, што непісьменнаму кніжка...

— Грамацей які знайшоўся! Людзей павучае, а ў самога буквара няма нават!..

— У мяне, браце, не буквар. Раман!.. На сход ты ўсё ж пойдзеш ці не?..

— Вядома, якое можа быць пытанне?..

Каваль хацеў зачыніць акно, але перадумаў і, выскачыўшы праз яго на вуліцу, сказаў:

— Сабраўся па трывозе! Гайда на твой сход!

— На наш, ты хацеў сказаць.

— На твой! Я там з боку прыпёку!..

— Пабачым...

Вечар быў душны, сухі, але ў паветры адчувалася набліжэнне ночы. Пах смалы зрабіўся густы. Тайга нібыта адсунулася ад гарадка і стаілася ў чаканні чагосьці. Вяршыні сопак зрабіліся пунсовыя, а на схілах выразней, чым удзень, зазелянеў плямамі бярэзнік.

У Віктара з кішэні тырчала трубка паперы: Дубнік збіраўся выступаць на адкрытым камсамольскім сходзе. Каваль з жартаўлівай асцярожнасцю пакратаў скрутак:

— Тэзісы?

— Не. Разлікі. І без тэзісаў ёсць пра што казаць. Вось глядзі, што ў нас робіцца! Ранкам прыходзіць прараб. «Стаўце на кроквы дошку!» Добра, стаўляем. Прыходзіць

майстар. «Хто дазволіў? Самавольна! Зняць дошку, пакласці падтаварнік». Добра. Хлопцы знялі дошку. Падтаварнік паклалі. Прыходзіць інжынер. «Хто дазволіў? Пакласці дошку! Зараз жа!» Паставілі. А потым усе галовы круцяць: чаму так мала зарабілі? А хто ж табе за тую самую працу тры разы заплаціць?..

— Ах, адзін выпадак, а ты праблему ўзнімаеш!

— Каб жа адзін! А гэта? — Дубнік падняў з пылу два новенечкія, з белымі галоўкамі цвічкі, якімі прыбіваюць шыфер.— Разумееш? Упраўленне за два тыдні месячную норму цвікоў выдаткавала! Думаеш, будуем многа? Не толькі! Беражлівасці няма! А хто без сумлення — цягне. А гэта ж наша ўсё! Хто, апроч нас, клапаціцца будзе?

— Нарэшце ваш камітэт узяўся за справу!

— Ён і раней няблага працаваў. Толькі мы мала заўважалі. І яшчэ меней памагалі...

— Цяпер разлічвай і на мяне, памагу, як змагу...

— Яму сур'ёзна, а ён...

— Я не жартую...

Вялізныя сосны амаль спляталіся галінамі над дахам клуба. Малады бярэзнік атуляў будынак з трох бакоў. Пры ўваходзе тоўпіліся будаўнікі. Каваль з нейкай трывогай вадзіў позіркам па спяцоўках, брызентавых шапках, заплямленых фарбай і вапнай. «А Паліны не відно. Няўжо яна не прыйдзе...»

— На перамычцы! Падыдзе! — выгукнуў нечы дзявочы голас, калі прозвішча Паліны было названа ў ліку абраных у прэзідыум.

Каваль сядзеў у апошнім радзе, з самага краю. Сход ішоў бурна; выступалі з рэзкай крытыкай і ўпраўлення, і камітэта, і асобных рабочых. Крытыкавалі за п'янку, за разбэшчанасць, за нядбайныя адносіны да працы. Каваль чакаў з нейкай трывогай, што назавуць і яго прозвішча. Неяк імгненна перагледзеў сваё жыццё на будоўлі і адчуў, што яго ёсць за што і крытыкаваць і лаяць...

Недзе блізка ля сярэдзіны сходу на свабоднае месца, дзе ляжала дагэтуль шапка Каваля, села Паліна. Ён не заўважыў, як яна падышла. Гледзячы на трыбуну, спыталася:

— Гэта хто там рубіць?

Ён адказаў таксама шэптам і адчуў, што паміж ёю і ім існуе нейкая таямнічая сувязь. Гэтая таямнічасць была ў яе словах, у тым, што ён адказаў ёй, у той асця-

рожнасці, з якой яна, сядаючы, узяла яго шапку і павесіла на спінку крэсла...

Вяртаўся Каваль позна. У чорна-сінім небе, як зімой, мігцелі буйныя, астуджаныя зоркі. Ён глядзеў на іх і думаў пра сход. Нешта новае нарадзілася ў яго душы. Ён здзіўляўся з таго, як выступалі сёння камсамольцы, той жорсткай крытыцы, якая падала на рабочых, што запляміілі сябе чым-небудзь нядобрасумленным. «А мне шанцуе! Няўжо праўда?.. Шанцуе. Ніхто не лаяў. А калі казаць па-сапраўднаму, дык ёсць жа за што!.. Ёсць. Добра, што гэтае благое ў мінулым... Але ці ўсё ў мінулым? Не, здаецца, яшчэ не ўсё...»

Ён зноў думаў пра Паліну і шкадаваў, што яна засталася на пасяджэнні камітэта...

У пакоі на стале яго чакаў недапісаны ліст да маці. Прачытаў пачатак, не спадабалася. Каваль палажыў перад сабой чысты аркуш паперы і ўзяўся пісаць усё нанава.

«Добры дзень, дарагая матуля!

Толькі што прыйшоў са сходу і сеў адказваць на ліст, што атрымаў ад цябе. Сход у нас быў бурны. Здорава на ім Віктар выступаў. Памятаеш, я пісаў табе пра яго. Сапраўдны таварыш.

Жыццё тут паляпшаецца. Адкрылі яшчэ дзве новыя сталоўкі. І вельмі смачна гатуюць у іх тайменя. Гэта рыба такая ёсць тут. Яна вялізная і падобна на маленькае свінчо. Зубы горшыя, чым у шчупака, і бярэцца таксама на рыбінку. Мы злавілі з Косцем тайменя, але ён пашматаў нам вуду і ўцёк. Здаравенны быў. Мне тут прывезлі лёску з Масквы. А якая лёска! Каб ты паглядзела. Блакітная, быццам вада! Тонкая, а не рвецца! Ну, цяпер мы таго тайменя зловім! Во, каб ты пакаштавала. Смачная рыбіна!

Учора былі ў лазні. Яна пакуль што адна, але пара добрая. Бярозы пры акне: наламаў веццяː — лупіся. Побач цырульня. Але толькі дзяруць у ёй! Пагаліцца — ажно шэсць рублёў. Гэта— падман. Напісалі ўчора ў газету, няхай прыціснуць. Нельга ж так!

Машына ў мяне новая. Заробак добры. Чаму ты не пішаш, ці атрымала грошы? Я паслаў, ты глядзі, беражы здароўе. Потым дзе яго возьмеш? І пра мяне клопату не трымай. Я жывы і здаровы, а гэта — галоўнае.

Дадому часамі хочацца. Праўда, тут добра, і сябры сапраўдныя ёсць. І папярэджваеш мяне пра гарэлку ты ўжо зусім дарэмна. Я піць не люблю. Праўда, з таважы-

шамі трэба і выпіць. Але гэта — на свята галоўным чынам! Клопатаў пра гэта не трымай. Тут будзе ўсё ў парадку. Гарэлкі тут нават няма. Ёсць толькі спірт. Ён моцны дужа.

Калі Алеся сустрэнеш, а то і сама падыдзі да іх, спытайся, як у яго там у калоне. Калі дрэнна, няхай сюды едзе. Тут добрыя шафёры вельмі патрэбны. Хочацца цябе пабачыць. Можа, калі адпачынак выйдзе, ды вельмі ехаць адсюль не хочацца. Тыдзень не пабудзеш — цяжка паверыць, што гэтак шмат змянілася, проста дзіва!..

Пішы мне пра сваё жыццё. Усім у хаце — прывітанне. Суседзям таксама, Лялі — асабліваё. Як яна там? Не пайшла за каго?

З найлепшымі пажаданнямі,
твой сын Пятрусь».

Ён палажыў пісьмо ў канверт і выразным, амаль вучнёўскім почыркам напісаў адрас. Пацягнуўся, аж хруснула ў суставах. Спаць? Не, толькі не гэта. «Вунь яшчэ нават хлопцы не вярнуліся. Пайду пахаджу...»

## 18

Дзень быў запоўнены самымі разнастайнымі клопатамі. Паліна двойчы ездзіла на лесапільны завод, потым спрачалася з брыгадзірам цяслярскай брыгады, праглядала нарады, якія няправільна ўлічыла табельшчыца. А перад усім гэтым на вытворчай нарадзе яе ўчастак лаялі найбольш.

Па праўдзе кажучы, лаяць было за што. Зімой яны ішлі добра, былі наперадзе, а потым, калі катлаван быў асушаны і ўзяліся рабіць апалубку сектараў вадазліву, участак здаў тэмпы, што ў сваю чаргу прымусіла прастойваць арматуршчыкаў і бетоншчыкаў.

Такія абвінавачванні ёй зрабілі на нарадзе. Паліна паспрабавала апраўдацца, спрачалася, даказвала, што прыходзіцца па некалькі гадзін чакаць брусчатку патрэбных памераў. «А чаму яна затрымліваецца?» — «Завод вінаваты».— «А вы былі на заводзе?» Не, на заводзе яна не была. Прыйшлося прызнаваць і свае памылкі. Цяжэй за ўсё было пагадзіцца з іншым: галоўны інжынер, падводзячы вынікі нарады, сказаў, што асобныя інжынеры працуюць неаператыўна, і дадаў, што некаторыя пачынаюць займацца чым толькі можна, нават і карэспандэнцкай справай, а сваю непасрэдную працу правальваюць. Камень

кінулі ў гарод Паліны, і гэта было зусім несправядліва і крыўдна.

У канцы дня яна адчула, што незвычайна стамілася. Хацелася застацца адной, падумаць. Пасля працы, вяртаючыся дамоў, яна пайшла ад прычалаў не дарогай, дзе беглі машыны, а збочыла на звілістую сцежку, што цягнулася ўсцяж ракі.

Было прыемна ісці павольна, слухаць ціхае булькатанне вады і звонкае рыпенне берасцянак у галінах лістоўніц. Цяпер, увечары, яна станоўча ацэньвала і параду і крытыку. Няхай яе прымусілі пахвалявацца, але гэта памагло заўважыць вузкія месцы ў яе працы. І на лесазавод яна з'ездзіла, і там шмат чаго заўважыла такога, што абурыла яе і прымусіла прыняць пэўныя захады. Але ж і вынікі ёсць! Брусчатка цяпер ідзе роўна!..

Хвалявала другое. Апоўдні прыйшоў невясёлы ліст ад сястры. Сястра захварэла. У пісьме яна нічога не пісала аб сваіх патрэбах і нічога не прасіла, але Паліна ведала, што трэба памагчы. А дзе ўзяць грошы?.. Няма. Усе зберажэнні пайшлі на розныя пакупкі ў Маскве. І навошта толькі яна патраціла ўсе грошы! Але ж без гэтых набыткаў нельга: і тое патрэбна, і гэта... А зарплата два разы ў месяц...

Сцежка нырнула пад дугу чаромхавых галін і выбегла на палянку. Чаромха і бярэзнік тут трошкі адсунуліся ад берага. Ля вады, на каменнях, сядзеў хлопец у сіняй майцы. Побач ляжаў пінжак, на парасніку багуну віселі памытыя шкарпэткі. Хлопец мыў кашулю. Паліна бачыла, што робіць ён гэта няўмела. «Мужчына! Ці ж ён можа!..»

Хлопец, адчуўшы на сабе чужы позірк, павярнуў галаву. Паліна ўбачыла яго твар у кропельках поту і збянтэжана прамовіла:

— О-оо! Пятрусь!..

У высока закасаных штанах і майцы ён быў вельмі падобны на рыбака, не хапала толькі вуды. У руках была заціснута кашуля, з якой на босыя ногі ручаём сцякала вада. Каваль разгубіўся. З вясны ён мыў кашулі сам: плаціць за гэта каму-небудзь не хапала грошай. Атрымае, пашле маці, віп'е з хлопцамі раз-другі... Але не гэта было галоўнае: за гэтай працай яму заўжды лёгка думалася, час ад часу ён шукаў адзіноты і знаходзіў яе ў гэтым закутку.

Паліна таксама адчула сябе няёмка, нібыта падгляда-

ла за ім. Але тое, што ён рабіў такую справу, і тое, што намагаўся і не мог схаваць сваёй разгубленасці, расчуліла яе.

— Хто ж гэтак мые! — сказала яна і запатрабавала, закасваючы рукавы: — Давай сюды!..

— Памыў ужо. Буду паласкаць...

— Вось я гэта і зраблю.

Цяпло яе вачэй абяззбройвала, ён паслухмяна аддаў кашулю.

— Саступаю, раз загадваюць. Адкуль? З нарады?

— Нарада ўранку была. У нас лаюць ранкам, каб увесь дзень памятаў і бегаў шпарчэй.

— Мабыць, ёсць за што!

— А ты і задаволены! — Яна пацiснула плячыма, і ласкавыя агеньчыкі ў яе вачах прапалі.— Навошта гэтая іронія?..

Яна спыталася глухім, няветлівым голасам, нахілілася і ўзялася церці рукавы кашулі.

Выпаласкаўшы кашулю, Паліна павесіла яе на колкія галінкі багуну і прысела побач, паставіўшы на каменьчыкі ногі ў старых брызентавых туфлях і паклаўшы сашчэпленыя рукі на калені. Каваль адразу прыкмеціў і латку на чорнай спадніцы, і тое, што пальцы рук яе пашкрабаныя і далоні крышачку прыпухлі, пачырванелі ад сцюдзёнай вады. «Як у мамы пасля бялізны»,— падумаў ён, і цёплае пачуццё да Паліны захінула ўсё іншае ў яго душы.

— А я пра цябе думаю,— сказала Паліна, сарваўшы галінку багуну.— І часта. Дзіўны ты чалавек. Працуеш, працуеш, а потым возьмешся за гарэлку і пайшоў, пайшо-оў!

— Ды гэта ж не я за яе, а яна за мяне бярэцца!

— Не, праўда! Навошта?..

— У гэтым сэнсе — навошта?.. Невядомы мне сэнс!

— Значыць, яго і няма!

— Э-эх, не пра тое гаворка. Вось я бачу часам благое, а ўзняцца супраць яго не магу. І ў душы таксама. Душой я разумею, а слоў не хапае... Нават не слоў, а...

— Волі?

— Можа. Вось каб так: сказаў — адразу!

— На гэта патрэбны характар. Чалавек увогуле павінен быць смелым і дужым.

— А я не дужы?

— Ты? Дужы. Толькі гарачы занадта.

— Дык ці ж гэта блага?

— Не, чаму ж,— яна ўсміхнулася, заўважыўшы насцярожаны бляск скіраваных на яе вачэй.— Але ж той, хто можа трымаць сябе ў руках, мацнейшы за таго, хто стварае гарады. Трэба і табе мець вытрымку. І волі ў цябе не хапае. Таму і гарэлка!..— Яна зламала галінку напапалам і адкінула яе.— Дай слова, што кінеш піць. Як з тытунём. Памятаеш?

— Гэта трэба падумаць. Я ж не п'яніца!..

— Ты не ўсміхайся, я сур'ёзна кажу. Мы часта гаворым; а нашто на драбніцах сябе правяраць? Вось дойдзе справа да сур'ёзнага — усе здзівяцца! А дайшла справа да гэтага — пых, пых і пораху не стае! Без драбніц за вялікае цяжка ўзяцца...

Кавалю не спадабаліся яе словы: навошта яна павучае яго, як хлапчука? Ён спахмурнеў і адвярнуўся.

Яна бачыла, што Каваль злуецца. А чаго? Пакрыўдзіўся, што яна павучае яго, як трэба жыць? Яна ж робіць гэта ад добрага сэрца, шчыра, а не з жадання паставіць сябе вышэй: ёй жа хочацца падзяліцца думкамі, у нечым і сябе праверыць. Усміхнулася: «Бач, натапырыўся. Гэта і добра, што гонар ёсць!»

Але часам Паліна не магла зразумець гэты гонар яго і палохалася Кавалёвай дзікаватасці. Напярэдадні ад'езду ў Маскву яна пераканалася, што Каваль кахае яе. Раней яна баялася гэтага, а цяпер думала пра яго, як пра блізкага і роднага чалавека. У яго добрае сэрца. Быстры і чысты розум. У гэтым годзе ён абавязкова пойдзе ў школу рабочай моладзі, потым у тэхнікум ці інстытут. Яна будзе побач і дапаможа яму ва ўсім. Цяжкасці? Яна падзеліць іх напалам. Яны збудуюць гэтую ГЭС, пабачаць мора і паедуць на новую будоўлю. І гэтак пойдзе ўсё жыццё. Радасць завершанай працы зменіць радасць новых месц, сустрэч, новага жыцця. Але ў іх будзе вопыт, і новае жыццё пойдзе інакш... І не будзе непрыемнасцей... Але чаму не будзе? Жыццё ёсць жыццё, дзе б ты ні быў...

— Ліст ад сястры атрымала сягоння,— Паліна, гледзячы на раку, уздыхнула: — Хварэе. Ганарыстая яна ў мяне. Не просіць нічога, а я ведаю: трэба памагчы. А я ўсе грошы раскідала на дробязі. Ды і якая зарплата была ў гэтым месяцы!..

Яна вінавата паглядзела яму ў вочы, нібыта сароме-

лася таго, што даверыла яму сваю таямніцу. «А вось ты ведаеш, што мне рабіць? Ды дзе там...»

— У мяне ёсць грошы. Праўда, нямнога, але ты вазьмі... Потым аддасі.

— Харошы ты чалавек, Пятрусь. Табе пра ўсё можна сказаць, і не сорамна. А грошы я атрымаю паслязаўтра.

Яму зрабілася няёмка ад яе тужлівага і даверлівага позірку. Аказваецца, былі дзве Паліны. Была адна Паліна інжынер, майстар участка. Ён крыху саромеўся гэтай Паліны і адносіўся да яе з пачцівай павагай, як да старэйшага, вопытнага спецыяліста. Другая Паліна магла мыць яго кашулю і не саромецца сказаць, што ў яе няма грошай, каб паслаць іх хворай сястры. У гэтай Паліны стаптаныя брызентавыя туфлі, пашкрабаныя пальцы і тужлівасць у вачах. А калі скласці першую і другую Паліну — атрымаецца адзін чалавек, той, што сядзіць цяпер перад ім,— самы блізкі і самы дарагі чалавек!..

Ён быў здзіўлены сваім адкрыццём і, як ніколі, адчуў сваю вінаватасць перад ёй. Апусціў галаву.

— Ты галаву вышэй трымай, Пятрусь! — яна паправіла яму кепку.— Вось так каб яна ў цябе была!..

Ён узяў яе за руку. Рука не супраціўлялася. А вочы сумавалі, прасілі, са здзіўленнем шукалі нечага ў яго позірку і чакалі пяшчотнасці... Ён узяў яе на рукі — наважыўся пажартаваць. Твар Паліны быў блізка-блізка, упершыню гэтак блізка. Ён пацалаваў яе ў вусны і зрабіў гэта ўжо без жартаў.

У яе вачах прамільгнуў спалох; яна ўперлася яму кулаком у грудзі і ўсё яшчэ весела сказала:

— Ты з глузду з'ехаў. Чуеш?..

Ён нічога не адказаў, асцярожна прыціснуў яе да сябе, такую гарачую раптам і лёгкую, панёс у тайгу. Ішоў таропка, разрываючы плячом густы чаромхавы параснік, часта і прагна цалаваў Паліміны вусны, быццам прыпадаў да вады чалавек, якога скруціла смага і апаліла спякота...

Галінка чаромхі балюча сцебанула Паліне па шчацэ; закрываючыся ад наступнага ўдару, Паліна прыціснулася да яго грудзей і абшчапіла рукамі гарачую і моцную шыю...

## 19

Новы метад пагрузкі самазвалаў даў добрыя вынікі. Прайшло некалькі дзён, і сярод шафёраў, якія працавалі ў кар'еры, Каваль зрабіўся вядомым чалавекам. Сёння ранкам, калі ён рабіў свой першы рэйс, Рублёў, убачыўшы яго, аж пасвятлеў.

— Мы правільна зрабілі з пагрузкай,— ён падкрэсліў гэтае «мы».— Глядзі, як пайшло. З рэдакцыі павінны прыехаць. Пісаць будуць! Можа, нам пяньчук выдраць, каб не замінаў машынам, га? Як ты думаеш? Вось гэты...

Новая клятчастая кашуля была яму трошкі цесная. «Спецыяльна надзеў сёння. А тады мяне і слухаць не хацеў!..» Каваль ужо не сердаваў на яго, адчуваў нават нейкую прыхільнасць. Ён жа мог і не паслухаць тады Каваля. І ўсё ж рыскнуў. Значыць, не ачарсцвеў чалавек, калі можа загарэцца да працы, якая не прадугледжана заданнем. «Бач ты, і пяньчук убачыў, што замінае. Ну, яго мы проста зараз звернем: тросам і за буфер!..»

Нацягваючыся, трос звінеў. Ля карча мітусіўся Рублёў, махаў рукамі, раіў:

— Пойдзе! Трошкі яшчэ — і пойдзе!..

Каваль падбавіў газу. Матор зароў. Чорны дым рвануўся з выхлапу. А далей здарылася нечаканае і імгненнае. Са звонам адарваўся буфер; трос, слізгануўшы з яго, са свістам праляцеў над карчом. Рублёў паваліўся на пясок і схапіўся за правую нагу.

Пакуль Каваль дабег да Рублёва, той ужо сядзеў на пяску і сцягваў бот. На белай назе чырванелі шырокія пісягі, што засінелі па краях. Рублёў асцярожна дакрануўся да іх, зморшчыўся ад болю, застагнаў.

У гэты час, амаль беспераданна сігналячы, у кар'ер уляцеў самазвал. На ім — Грывадзе. Закрычаў яшчэ здалёк:

— Што? Па-чэму прастой?!

Шафёры нячціва расступіліся. Грывадзе ўбачыў пам'яты буфер, заматаны тросам пяньчук і імпэтна кінуўся да Каваля; нос яго чырванеў з пагражаючай хуткасцю, і ў голасе з'явіліся хрыпоты:

— Гэньбіш калону! Газэта да нас едзе! На вадавозку пэсаджу! Пэсаджу!..

Каваль ведаў, што вінаватага шафёра Грывадзе здымаў з рэйсавай машыны і пераводзіў працаваць на вада-

ліўку — старую пабітую машыну з цыстэрнай. Ад цыстэрны ішла трубка ў дробных дзірках — своеасаблівая дажджавальная ўстаноўка. Праца на ёй нескладаная: пад'ехаў, наліў вады і цягайся ўвесь дзень, палівай вуліцы, каб пылу не было.

Грывадзе — вельмі дабрадушны чалавек — мог і не пайсці далей пагроз: такія выпадкі былі з ім. Але бяда ў той дзень ішла за Кавалём неадступна. Пазней, прыгадваючы падзеі таго дня, ён нават не мог зразумець, чаму і як усё адбылося, па якой прычыне ён застаўся жывы.

Апоўдні, едучы да кар'ера, ён сустрэў Ігнатку. Паклікаў, пасадзіў яго ў кабіну. Нашто? Гэтак ужо ў іх вялося даўно: Ігнатка чакаў яго на паваротцы. Сеўшы ў кабіну, Ігнатка, як звычайна, учапіўся за абаранак руля, і Каваль, прытрымліваючы руль локцем, палез у кішэню. Што яму там спатрэбілася? Чорт жа яго ведае. Не раз потым спрабаваў прыгадаць гэта — і не мог. Але тады нешта ўжо вельмі пільна спатрэбілася яму ў кішэні! Ён апусціў туды руку і ў той жа момант зірнуў на дарогу — ён адарваў ад яе позірк на нейкае імгненне,— зірнуў і збялеў: ля ўзбочыны поўз грэйдэр; злева, на абгон, ішоў самазвал. Дарога паварочвала ўправа. І грэйдэр і самазвал узніклі быццам з-пад зямлі. Не размінуцца! Не затармазіць! Толькі звярнуць, знікнуць з дарогі! Але куды?!. Думаць пра гэта было позна. Імгненна выключыўшы газ і да болю ўпіраючыся нагамі ў педаль тормаза, Каваль павярнуў руль... Завіскаталі тармазы. Крануўшы крылом грэйдэр, машына зляцела ў кювет...

Першае, што ўбачыў Каваль, калі расплюшчыў вочы, была нейкая шэрая трава. «Трава павінна ж быць зялёная. А гэтая быццам попелам пасыпана. А-аа, гэта пыл на ёй!..»

Шырокія сцяблінкі гойдаліся, нібы атрасаючыся. Злева ў акне сінела нябесная далеч, з белымі, амаль празрыстымі, быццам прылепленымі, кавалачкамі ваты. «Вунь яно што! Набок машына лягла...» Павварушыў рукамі. «Цэлыя». Ногі? «У парадку!» Павярнуў галаву і ўбачыў Ігнатку. Па збялелым твары ў яго цёк з-пад рудых валасоў тонкі струменьчык крыві. Перамагаючы боль у грудзях, Каваль пацягнуўся да Ігнаткі, асцярожна адвёў валасы з ілба.

— Ігнатка! Дарагі!

— Баліць... Галава баліць...

— Гэта нічога. Пачакай, я табе зараз памагу! Вылезем!..

Ад самазвала да іх ужо бег Стаеў; ён падляцеў, нахіліўся над кабінай:

— Жывы! Ці ты нармальны?

— Як быццам!..

Усмешка Каваля раззлавала Стаева, ён пачырванеў, закрычаў:

— Вар'ят! Паваротка, а ён гоніць! Лупцаваць цябе няма каму! Хлапчука яшчэ пасадзіў! Ну ты скажы!.. Чый?

— Чумакоўскі.

— Паглядзі, як лоб яму рассадзіў! На, выцірай! — Стаеў падаў Ігнатку хусцінку.— Нічога, цярпі, шафёрская справа такая...

Самазвал выцягнулі хутка. У яго былі памяты крылы, яшчэ раз скручаны і цяпер ужо зусім адарваны буфер. Каваль асцярожна ачысціў зямлю з радыятара і з палёгкай уздыхнуў: радыятар не працякаў.

— Ты мне дай малаточак, Іван Андрэевіч! Я крылы падпраўлю...

— Можа, табе і фарбы даць? — насмешліва спытаўся Стаеў.— Падфарбуеш, паедзеш!..

— І чорт з табой. Упрошваць не люблю.

— Ну, ну! Завёўся! Ды буфер жа трэба ў горне грэць. Крылы таксама...

Крыху астыўшы, Каваль і сам зразумеў гэта. Што ты зробіш тут малаточкам! Патрэбна майстэрня. Горн. Увогуле, нікуды не схаваешся. А Грывадзе даведаецца! Ён уявіў сабе чырвоны ад гневу нос свайго начальніка і адчуў пад сэрцам непрыемную пустэчу.

— Трэба начальству дакладваць,— канчаткова падсек яго Стаеў.— Ты схавацца ад адказнасці хочаш: падраўнаваць, падфарбаваць... А гэта не па-шафёрску...

— Адбяруць жа машыну,— буркнуў Каваль, толькі цяпер разумеючы, да якіх вынікаў прывядзе гэтая дурная аварыя.— Без машыны мне канец...

— Можа, і не адбяруць,— паспрабаваў супакоіць яго Стаеў і нечакана жорстка секануў: — Я асабіста б адабраў. І за крылы, і за буфер, і за хлапчука. Зразумеў?..

Што тут было разумець? Балела спіна, неяк падазрона прыліпла кашуля да правага бока! «Мусіць, рассадзіў...» Але ж не палезеш разглядаць пры Стаеве, каб

чуць новыя папрокі! Моўчкі кіўнуў галавой: «Вядома, зразумеў!»

Ён не сердаваў на Стаева. Гэта яшчэ добра, што той паспеў адвярнуць крыху на ўзбочыну і прытармазіць. А каб разгубіўся на хвіліну Стаеў?.. Не, лепш пра гэта не ўспамінаць і хутчэй забыцца. «І трэба ж было яшчэ Ігнатку пасадзіць мне...» Ігнатка перастаў плакаць, быццам зразумеў, што тут слязьмі не паможаш. І наогул лішне трывожыць свайго настаўніка!..

Ехаць у гараж Каваль не спяшаўся. Ён зусім правільна вырашыў, што трэба неяк адцягнуць развязку. Яго здымуць з машыны, дык хоць апошні дзень папрацуе! Газануць дык газануць — усё роўна ж адзін адказ!..

Але працаваць было цяжка. Ён бачыў змятыя крылы, чуў, як бразгае ў кузаве адарваны буфер, і сэрца яго ўсё больш ныла. Ігнатка сядзеў, адсунуўшыся ў куток, соп носам. І калі на развілцы дарог Каваль спыніў машыну, каб высадзіць яго, хлопец хмурна сказаў:

— Гэта я ва ўсім вінаваты. Давай пайду да начальніка і скажу пра аварыю...

— Я табе пайду! Твая справа сядзець ды маўчаць!..

Ён бразнуў дзверцамі і, калі ад'ехаўся трохі, упершыню пасля аварыі ад душы ўсміхнуўся: «Слаўны хлапчына! А на шафёра я яго абавязкова вывучу!..»

Ён вырашыў гэта цвёрда, хоць сам яшчэ не ведаў, што яго чакае наперадзе.

А наперадзе яго чакала зусім непрадбачаная сустрэча. Калі ён ужо нагрузіў свой самазвал і выязджаў з кар'ера, яго спыніў нейкі малады хлопец з блакнотам у руках.

— Вы таварыш Каваль?

— Я таварыш Каваль. А ў чым справа?

— Наша газета хоча пазнаёміць чытачоў з перадавікамі будоўлі і рацыяналізатарамі. Мне б хацелася паконт кальцавой пагрузкі, што вы зрабілі...

— Гэта не я зрабіў,— перапыніў яго Каваль.— Рублёў гэта. Ён усё і зрабіў. Я ж не чэрпаю гэты грунт. Ідзіце да Рублёва, і ён вам усё раскажа...

Памятыя крылы дрыжалі ад руху матора. Дзіўны чалавек гэты карэспандэнт! Ну, што ён пытаецца пра нейкую там рацыяналізацыю! Вось яна, пакалечаная машына, і гэтым перакрэслена ўсё добрае, што ён зрабіў ці мог зрабіць... Ён глядзеў, як асыпаецца мокры пясок пад нагамі карэспандэнта, і разумеў, што адказаў яму пра-

вільна. Так, правільна! «Схавацца ад адказнасці хочаш...» Не, Іван Андрэевіч! Каваль зрабіў памылку і будзе адказваць. І нельга ўводзіць у зман яшчэ і карэспандэнта. Рублёў чалавек харошы, вось няхай пра яго і напішуць. Ён не кінуўся адразу на прапанову па-новаму грузіць машыны, а спачатку абдумаў, што, як, а потым пагадзіўся. А Каваль ад першага поспеху паляцеў, як неразумнае дзіця. Узрадаваўся!.. І чаго, каб хто спытаў? «Добра, будзем адказваць...»

Так, Каваль, цяпер табе не даруюць. Не даруе Грывадзе. Дык што з таго? Аварыя зроблена? Машына зламана? Якое маральнае права мае цяпер ён вадзіць свой самазвал?.. Ніякага права не мае!..

Думаў так. Злосна крывіў вусны і націскаў на акселератар. І роў матор. І кідалася, як звар'яцеўшая, пыльная дарога пад рубчатыя — шэрыя ад пылу — скаты...

Пра аварыю з машынай Каваля Грывадзе даведаўся ад Стаева. Яны сустрэліся за некалькі хвілін да пасяджэння парткома, дзе стаяла справаздача дарожнага ўпраўлення. Стаеў прыйшоў раней, каб пагутарыць з начальнікам аўтакалоны і папрасіць яго не здымаць Каваля з машыны.

Ён убачыў Грывадзе здалёк. Той сядзеў пры ўваходзе на цаглінах, складзеных стосам, і нешта пісаў у тоўсты сшытак, зроблены з бухгалтарскага гросбуха. Гэты высокі, дужы грузін заўжды здзіўляў яго сваёй фенаменальнай памяццю: усе прозвішчы шафёраў і нумары машын калоны ён ведаў, як свае пяць пальцаў. Скажы нумар — назаве прозвішча шафёра, скажы прозвішча — назаве нумар машыны. У парыве гневу, які лёгка было выклікаць, Грывадзе выкрыкваў гартанным голасам грузінскія словы і вельмі здзіўляўся, калі яго не разумелі. Ведаючы натуру Грывадзе, Стаеў пачаў размову ў адкрытую:

— Ля дваццатага кар'ера разбілася машына. Чуў пра гэта?

— Вай! Яшчэ адна!

Крыху раней Грывадзе размаўляў з начальнікам будаўніцтва, які толькі што прыехаў з перамычкі. Начальнік будаўніцтва заўважыў, што, мабыць, начальнік паркавай гаспадаркі разумее «франтальнае наступленне» ў літаральным сэнсе і выпускае ў рэйс скалечаныя ма-

шыны, быццам тыя з-пад бамбёжкі вырваліся. Грывадзе адразу здагадаўся, што нехта ранкам пабіў машыну. Цяпер яшчэ адна аварыя! Трэцяя за гэты дзень. Перад пасяджэннем парткома! Яшчэ трохі, і можна звар'яцець!

— Ты, можа, чуў — чыя?

— Каваль вёў...

Мясісты нос зрабіўся маршчыністы і шэры. Грывадзе ўжо не застагнаў, а неяк прыглушана, са здзеклівай засяроджанасцю, выціснуў з сябе:

— Вай! Семдзесят пяць — чатырнаццаць. Усё ж такі дабіў. Ён уранку буфер адарваў. А цяпер угробіў машыну. Зусім?

— Не. Не зусім. Пайшла сваім ходам.

Вочы Грывадзе акругліліся, і ён, здагадваючыся, за чыю машыну «распякаў» яго начальнік будаўніцтва, з асалодай прастагнаў:

— Сваім ходам? Ён сёння ж пойдзе сваім ходам за гараж!

— Шкада. Ён добры хлопец. Машыну любіць...

— Я яму за гэтую любоў!..

— Але ж паслухай, гэта ж пры мне і было!..

Стаеў пачаў расказваць, як адбылася аварыя. Каваль зрабіў усё, што можна было: не разгубіўся, у час прытармазіў — магло быць і горш. Вядома, што пакараць трэба, бо на павароце з такой хуткасцю нельга. Але хлопца выхаваць можна; ён заслугоўвае гэтага. І асабіста ён, Стаеў, просіць аб гэтым не як член парткома, а як сябра Каваля. Гарачы хлопец, праўда, але сумленны, працавіты. Стаеў падумвае нават даць яму рэкамендацыю ў партыю. Ён ужо шкадаваў, што выказаў тое, пра што думаў сам-насам, і ўзрадаваўся, калі ўбачыў, што Грывадзе пачаў слухаць яго больш уважліва.

— Добра! Будзе на машыне! — раптам пагадзіўся Грывадзе.— Навошта нам з табой спрачацца? Ты для мяне член парткома, а не сябра Каваля. Але выхоўваць Грывадзе можа таксама. Вадавозку дам! Няхай павозіць! Паглядзім!..

Убачыўшы сакратара парткома, які з'явіўся ў дзвярах, Стаеў здагадаўся, чаму так хутка пагадзіўся Грывадзе: не жадае лішніх размоў. Перапытаў:

— Дык застаецца на машыне?

— Сказаў. А на сходзе будзем драіць,— і, хітравата прыплюшчыўшы вочы, дадаў: — Я цябе паддэржал. Мя-

не на парткоме рэзаць будуць — паддэржыш? Не забудэш?

Яны па-сяброўску пацiснулi рукi i разам увайшлi ў пакой, дзе пачыналася пасяджэнне парткома.

Каваль прачытаў загад аб пераводзе яго на вадавозку ўвечары. Прачытаў спакойна, усiм выглядам паказваючы сваю абыякавасць. Крыўда палiла сэрца. Крыўда на сваю дурасць, гарачнасць, нявытрыманасць. Цi ж не ясна было, што той пяньчук нельга было цягнуць тросам! Рублёва паслухаў. Той лухту нёс, а ён слухаў. Цяпер Рублёў працуе, а яго вадавозам зрабiлi... Добра, што Iгнатка жывы застаўся. А Палiна калi даведаецца!.. Як ёй пра ўсё скажаш? Напiцца з гора, цi што?..

Выпiў чарку, але палёгка не прыходзiла. Гарэлка затуманiла галаву, аднак у сэрцы з нечаканай яснасцю паўстала ўсё тое, што з iм адбылося. Цяпер ён лаяў сябе i за аварыю, i за ўсе жыццёвыя нелады, i нават за тое, што не можа спакойна паглядзець на свае ўчынкi, па-фiласофску ўзважыць i прааналiзаваць. «Фiласафам зрабiўся...» Горка ўсмiхнуўся, прыгадаўшы словы Рубiна.

Але што Рубiну? Таму, што нi здарыцца — напляваць. «А я так не магу!..» А з кiм параiцца? Каму вылiць горыч душы!.. У свядомасцi выразна ўсплыло прозвiшча — Стаеў! «З iм i гарэлку прыкончым i аб справе пагаворым. Стаеў чалавек разумны. Параду дасць...» Каваль рашуча схаваў бутэльку ў кiшэню i пайшоў у пасёлак.

На двары дома, дзе жыў Стаеў, як маладыя галкi, гаманiлi дзецi, узводзячы з цаглiн плацiну. На лавачцы пад дрэвамi сядзелi жанчыны.

Убачыўшы Каваля, яны змоўклi i праводзiлi яго цiкаўнымi i асуджальнымi позiркамi: ён трохi хiстаўся.

Дзверы адчынiла жонка Стаева. Святлана была басанож, па-хатняму проста апранута: зялёнае, у белыя квадраты плацце i шэры фартух рабiлi яе прывабнай i вельмi маладой.

— Вы да Ванi? — на яе твары было шчырае шкадаванне.— А ён пайшоў. Вы не сустрэлi яго? Нядаўна... Можа, што здарылася...

Хаваючыся за яе спадніцу, маленькая дзяўчынка высыркнула галоўку, утаропiла на Каваля блакiтныя, як у мацi, вочы. «З твару падобная на мацi...»

— Што, не пазнаеш мяне?

Галоўка схавалася.

— Ну чаго ты, дачушка? Гэта ж дзядзька Пятро. Памятаеш?..

Дзяўчынка маўчала. Святлана была таксама ўстрывожана, і Каваль адчуў сябе няёмка. Гэта і добра, што Стаева няма. Пры ёй не змог бы нічога ні сказаць, ні спытацца... І сорамна было за бутэльку гарэлкі, якую ўвесь час, размаўляючы са Святланай, адчуваў у кішэні. Не, не! Нічога не здарылася! Асабістая справа ў яго. Але... Другім разам.

Каваль бачыў па вачах Святланы, што яго тлумачэнне не супакоіла яе, і пайшоў, панёс у сэрцы прыкрае пачуццё да самога сябе. Так, дакаціўся ты, дарагі дружа!.. Нават дзяўчынка хаваецца ад цябе за матчыну спадніцу і не хоча прызнавацца, што ведае цябе!..

Ён ішоў па тайзе, не выбіраючы дарогі, не маючы ніякіх пэўных намераў. У гэты час ён ненавідзеў самога сябе. Бяда здарылася з ім? Так, з ім! Дык навошта ж ён уцягвае сюды і другіх, прыносіць ім клопаты і хваляванні?.. Святлана цяпер, пэўна ж, думае, што з мужам?.. Каваль жа так нечакана ўваліўся...

Рука, якую ён сунуў у кішэню, наткнулася на бутэльку. Каваль прыгадаў усе падзеі вечара... Зайшоў у краму. Потым выпіў паўшклянкі. Быў на кватэры ў Стаева. А цяпер дзе?.. Ён паглядзеў на маўклівыя шурпатыя ствалы дрэў і са злосцай радасцю адкрыў рот. Выпіў усё, размахнуўся і шпурнуў пустую бутэльку. Потым лёг на зямлю, укруціў галаву пінжаком і заснуў.

Ён не ведаў, колькі праспаў. Прачнуўся, быццам хто яго штурхнуў. Сеў. Сэрца гулка тахкала. Павёў вачамі вакол і тады зразумеў, што ўсё гэта снілася яму — і голас Паліны, і ціхі пяшчотны смех. Але абуджанае жаданне бачыць яе жыло ў душы, і ён ужо не мог змагацца з ім. Трэба ісці да яе! Смешна нават, што ён спрабуе хавацца ад яе, баіцца пайсці і расказаць усё, як было. Сорамна? Не, крыўдна, што не стрымаўся, што пайшоў спачатку не да яе, а ў краму, што піў гарэлку... І ўсё ж такі трэба! Трэба...

Было блізка ля поўначы, калі ён, стаміўшыся ад блукання па тайзе, стаў пад яе акном і пастукаў. Шыба адгукнулася пявучым гудам. І адразу ж загайдалася фіранка. «Чакала! Адразу падбегла!..»

Зрабілася лёгка на душы. Ёсць, аказваецца, месца, дзе

яго чакаюць, дзе на яго нясмелы стук адклікаюцца адразу...

— Хто гэта? Пятрусь?! Ты вельмі позна так... Чаму?..

У адчыненым акне з'явілася постаць Паліны, і ён, поўны радаснага хвалявання, хмялеючы ад блізкасці Паліны, працягнуў да яе рукі.

— Палінка!..

Яна высунулася ў акно, прыгледзелася ўважлівей, запыталася:

— А чаму гарэлкай пахне! Зноў піў?..

— Амаль не... Мне цяжка... Гэта ўвечары трошкі!..

— Трошкі? Цяпер, калі «цяжка», да мяне?

З грукатам зачынілася акно. Ён схапіўся аберуч за раму, трос яе, намагаючыся адчыніць.

— Палінка! Паслухай! Палінка!..

У акне ледзь прыкметна гайдалася фіранка. «Схавалася! Зачынілася!..» Каваль з размаху смальнуў кулаком па раме.

Кулак слізгануў, і шкло, танютка дзынкнуўшы, быццам у калысцы прачнулася дзіця, звонкімі кавалкамі пасыпалася на зямлю.

## 20

Ля водазаборнай эстакады сядзеў Ігнатка. Эстакада — доўгія трубы, пакладзеныя на высокія козлы, пад якімі некалькі машын адначасова маглі запраўляцца вадой,— была зроблена ў лесе. Ад ракі ваду гналі магутныя помпы.

Паставіўшы машыну пад запраўку, Каваль сеў на падножку і загадаў, каб Ігнатка налівах ваду ў цыстэрну. Ігнатка, які прыйшоў сюды апоўдні, як звычайна, калі рабіўся апошні перад абедам рэйс, адкрыў венціль. З шырокай трубы са свістам ірвануўся белы струмень і ўдарыў у дно цыстэрны.

Ігнатка адразу прыкмеціў, што з яго настаўнікам робіцца нешта няладнае, і, нехаця пазяхнуўшы, сказаў:

— А ўвогуле, галоўнае — практыка. Мне яе і не хапае...

— Практыкі? Гм-м...

Сын Чумака ўсё больш і больш падабаўся Кавалю. Ён, аказваецца, быў хлопец не толькі хітры, але і пранклівы. Ён першы, вядома, з выгадай для сябе, ацаніў новую працу Каваля.

— Выдатная машына,— сказаў ён, абышоўшы вадавозку з усіх бакоў і добра агледзеўшы.— Спякота гэткая, а тут душ пад бокам. А самае галоўнае... Не, а што самазвал? Гэ-ээ!.. Пылу зашмат! На гэтай лепш!..

Вядома, ён разумеў, што вадавозка — машына пяважпая, і ў душы быў згодзен з дакладнай характарыстыкай, якую даў ёй Каваль: «Стары галёш». Але яна мела адну вельмі важную якасць: яму цяпер часцей трапляў руль у рукі. І не так боязна на ёй: ціха сунецца, хоць ты побач ідзі — і не адстанеш...

Але з працай Каваль неяк, а ўсё ж прымірыўся: ведаў — віпаваты. Ён мог ганяць вадавозку, мог ганяць, урэшце, самога чорта, каб ён іспаваў і каб яму, Кавалю, загадалі. Але як прымірыцца з неакрэсленасцю свайго жыцця?.. З Палінай яны пасварыліся тады ноччу. І як жа цяпер знойдзеш дарогу да яе сэрца? Даваць слова?.. Але што слова, калі існуюць факты. І якія факты! Машыну ён разбіў. Прыпёрся ў інтэрнат п'яны. Высадзіў акно. Як давесці, што ўсё гэта не адпавядае яго сапраўдным жаданням і імкненням?.. «Можа, толькі ў Ігнаткі запытацца?» — мільганула іранічная думка.

Ігнатка не здрадзіў яму. Пасля аварыі ён прыйшоў памагчы рамантаваць машыну; Каваль двойчы праганяў яго, і ён двойчы зноў прыходзіў. Машыну ж ён ужо няблага ведае. І за рулём добра сядзіць. А далей што будзе?

Ён не хацеў думаць аб гэтым «далей» і папрасіў:

— Закрывай, Ігнат! Чую: поўны. Разальём — і ў сталоўку.

Потым, прыгадаўшы, што Чумак не запрасіў яго на наваселле, спахмурнеў:

— Бацька твой як жыве?

— А што яму? Паўдня хату малюе. Як ляльку зрабіў. Суседзі рагочуць...

— Няхай рагочуць. Табе што?

— Ды не хачу я ў размаляванай хаце жыць!

— Гэта ты правільна...

Яны зрабілі рэйс па гарадку і завяршылі яго ля сталоўкі. Паабедалі. Выйшлі на ганак і сталі.

— Новую газету павесілі. Пачытаем? — запытаўся Ігнатка, паказваючы рукой на стэнд.— Там заўжды цікавае ёсць...

— Нічога там цікавага,— сказаў Каваль.— Ты лепей у кніжку глядзі. Што табе насценка тая...

Ля стэнда было весела. Смеючыся, гаманілі рабочыя:

— Здарава, га!

— Чо-орт, а правільна!

— Сябе пазнаў?

— Час па вашаму брату стукнуць!..

Праходзячы ля стэнда, Каваль мелькам зірнуў на газету. Пачуў сваё прозвішча. Устрывожыўся. Праціснуўся наперад і аслупянеў.

Чвэртку газетнага аркуша займаў малюнак. Вялізны дзяцюк, з чырвоным носам і раскудлачанымі валасамі, махаў кулакамі ля разбітага акна. Пад малюнкам быў невялічкі вершаваны подпіс. Адрасавалася ўсё гэта Кавалю.

Ён адчуў у нагах такую слабасць, быццам прайшоў вялізны і цяжкі шлях. Зірнуў на подпіс, на валасатыя кулакі на малюнку, параўнаў са сваімі. Утрая, мабыць, большыя намаляваў мастак! І, ужо не ўсведамляючы, што робіць, кінуўся да вітрыны, абярнуў яе і ўзяўся лупіць нагамі. Яго ніхто не адцягваў, бо ён сам адразу ж, як толькі ўбачыў кавалкі фанеры і папяровыя шматкі, неяк прыцішыўся, высмаркаўся, абцёр рукі аб штаны і вылаяўся:

— Мастакі, каб вам...

Потым панура паглядзеў навокал, убачыў Ігнатку і, быццам здзіўлены тым, што ён тут стаіць, загадаў:

— Пайшлі!..

Ігнатка не крануўся з месца. Каваль закрычаў, сціскаючы кулакі, быццам збіраўся біцца:

— Ну, чаго вочы вылупіў? Пайшлі!..

Твар у яго быў такі сярдзіты і страшны, што Ігнатка, адступіўшы на некалькі крокаў, гукнуў:

— Нікуды я не пайду! Не хачу!

Потым павярнуўся і пабег па вуліцы.

Кавалю здалося, што Ігнатка заплакаў.

## 21

Цяпер яго больш нічога тут не трымала. Уцёкі Ігнаткі здымалі маральную адказнасць з Каваля — так ён думаў, бо некалі даў сабе слова вывучыць яго на шафёра. Ігнатка ўцёк і гэтым парушыў нідзе не запісаную ўмову.

Ехаць!..

Ён прыйшоў да гэтага вываду і вырашыў пакінуць будоўлю не марудзячы. Навошта чакаць? І чаго? Усё ўзважана, перадумана, і не можа быць іншых рашэнняў. Ві-

даць, такая думка наспявала даўно, але ён не мог яе пакласці ў такія роўныя і выразныя формы. А цяпер усё ясна: ехаць!

Але як? Па чыгунцы? Не, па чыгунцы ён не паедзе. Лета. Спякота. Навошта парыцца ў жалезнай скрынцы? Лепш параход. Спачатку да Іркуцка, а там відаць будзе. Ва ўсякім выпадку ён паедзе па Ангары, па той самай Ангары, па якой прыехаў сюды!.. І зноў будуць берагі, нечым падобныя на дзвінскія, і песня дзяўчат на палубе, і прыемная туга на сэрцы, і трывога чакання: а што там, наперадзе?..

Каваль узяў білет у каюту другога класа, нікому нічога не кажучы пра свой ад'езд. Навошта казаць? Пачнуцца розныя роспыты і зусім непатрэбныя ўгаворы... Не, гэтага не павінна быць! Усё, здаецца, спланавана, прадумана. Рэчаў у яго няма. Ён паедзе проста, як стаіць. Калі спатрэбіцца, можна ўсё будзе набыць у Іркуцку. Зарплата атрымана, нават з вялікай прагрэсіўкай за працу на лесаскладзе. Мікола вярнуў доўг. Усё падбіраецца як мае быць!..

Тое, што адбывалася вакол, выклікала ў яго спагадлівую ўсмешку. І таму ўвечары, напярэдадні ад'езду, ён пайшоў у кабінет намесніка інжынера правага берага з вясёлым і незалежным выглядам. Яго туды выклікалі.

У кабінеце намесніка сядзеў і сакратар парткома. Ён разглядаў дакладную запіску рэдактара насценнай газеты. Яны не лаялі яго, што дужа ўразіла яго спачатку, а папярэджвалі на будучае, параілі падумаць над сваімі паводзінамі. Сорамна, ён жа рабочы чалавек!

Ён быў удзячны ім. Харошыя людзі! І навошта, увогуле, лаяцца? Лепш яны расстануцца добрымі сябрамі. Ён не крыўдзіцца на іх, і няхай гэтая размова будзе развітальнай. На развітанне нельга быць грубым...

Гэтак ён развітаўся з начальствам. Цяпер заставаліся тайга і Ангара. Ён пайшоў да іх з той жа ласкавай ціхамірнасцю ў душы. Трывогі сэрца і думкі, якія не былі выказаны людзям, ведаюць і тайга і Ангара; з імі Каваль дзяліўся горыччу сваёй душы, з імі ён павінен і развітацца, сказаць шчырае слова падзякі, сардэчнай і цёплай падзякі...

Вузкая сцежка, амаль непрыкметная ў засені лістоўніц, вяла яго да Жураўліных Грудзей. Ціхая, колькі разоў выхаджаная сцежка! Ён ідзе па ёй, і нават ніякага следу не застаецца на пругкім, спрасаваным насце. Зверху, з

сакавітых і яркіх галін, ападае зрэдку зялёная ігліца, кладзецца на срабрыстае павуцінне, што спавіло сухое голле ля ствалоў, праколвае празрыстую тканіну, але не можа парваць яе і вісне, лёгка і ціха гойдаючыся. Адна іголка трапіла яму на руку, і ён, асцярожна ўзяўшы яе, доўга разглядаў маленькую, дбала адточаную піку.

Сцежка скончылася раптоўна, быццам адсечаная. Патыхнула рачной вільгаццю. Замест ціхага шапацення галін над галавой і шоргату пасохлай ігліцы пад нагамі Каваль адчуў гул падаючай вады. Ён спыніўся і са здзіўленнем паглядзеў па баках, нібыта бачыў упершыню і Ангару, якая ярасна вурчала ўнізе, на Падунскіх парогах, і шэрыя глыбы базальту, што павіслі над бяздоннем, і сівы мох, і маленькія бярозкі, нібыта прылепленыя да камянёў.

Вынырнуўшы з-за зялёных астравоў, Ангара злосна навальвалася на цёмныя скалы, білася аб іх, стагнала, уся ў цёмных пырсках і белай пене; спакойная, амаль люстраная паверхня быццам ламалася, правальвалася ў бездань і кіпела, віравала, і тоўстыя вадзяныя валы перакатваліся праз каменную граду і доўга пасля парогаў не маглі супакоіцца, калыхаліся, бурлілі на прыбярэжных рабрыстых дыябазах.

Прысеўшы на зачарсцвелую зямлю, Каваль слухаў, як унізе, на каменных грудзях парогаў, раве і грыміць Падун... Нешта падобнае да яго жыцця ёсць у шаленстве гэтай ракі: закруцілася яно, гэтае жыццё, збілася на няходжаныя сцежкі, і цяпер ужо цяжка зразумець, дзе і калі яны пачыналіся...

Ён сядзеў доўга, і рукі, што ўпіраліся ў цвёрдую зямлю, амярцвелі; ён сеў зручней, выцягнуў газету, але чытаць не хацелася, адклаў яе. Навошта тут газета? Тут яна не дапаможа. Выправіць шлях, відаць, нельга. Ён хацеў быць сапраўдным чалавекам, а атрымалася наадварот. Новае жыццё не наладзілася... Так, жыццё пражыць — не поле перайсці. Праўда гэта! Поле... А тут сопкі ды тайга. А над тайгою неба сіняе. І вочы ў Паліны амаль такія ж!..

Эх, Паліна! Памыліўся Каваль, зрабіў памылку. Не, не тое слова... Не памыліўся. Ты зусім іншы чалавек. Вось што! Табе з ім нецікава, сумна, і таму ты павучала яго, як малога: гэта, маўляў, не так, а тое не гэтак... І нарэшце адсекла ўсё! І правільна зрабіла. Лепш раней зрабіць, чым потым, калі пройдзе час і будзе цяжка рваць усё, што

звязвае людзей... Але і ён робіць правільна: адразу і ўсяму кладзе канец...

Каваль здзівіўся, што ўсё вырашана так проста. Гэта ж праўда! Ён паедзе адсюль, і ўсё будзе скончана. Канец розным папрокам, карыкатурам у газеце, вымовам. Усяму! Ён паедзе дамоў! Бывай, Ангара! Бывайце, сопкі! Дзякуй вам за ўсё!..

## 22

З правага берага на левы Каваль перабраўся загадзя, каб не спазніцца на параход і нейкі час пабыць у самым Брацку — старым горадзе: ён хацеў развітацца па-сяброўску і з ім.

На Падуне адразу знайшоўся крыху знаёмы шафёр, які ехаў у Брацк і асабліва не распытваў, чаго ён туды едзе. Дзень суботні, ці мала якія справы могуць быць у чалавека?..

У кузаве трохтонкі бразгалі драўляныя скрыні; Каваль увесь час адсоўваў іх, каб не так білі па нагах. Тоўсценькі чырванашчокі мужчына, не выпускаючы з левай рукі ладны напакаваны старэнькі брызентавы партфель, часта папраўляў абношаны, патрапаны капялюш і ўважліва сачыў за яго змаганнем. «Хоць бы памог»,— падумаў Каваль і знарок, але незаўважна, падштурхнуў скрыню да яго ног. Той адсунуўся і пераклаў партфель пад правую, з тоўстым пярсцёнкам на пальцы, руку. Каваля гэта зусім раззлавала. «Во лайдак! Бачыць жа, што чалавеку цяжка, а сядзіць. Бач, мурло адгадаваў!..»

На даляглядзе, над лесам, клубіўся белы дым. Вецер, разагрэты сонцам, матляў каўнер кашулі, шкуматаціў валасы. Было радасна падстаўляць яму грудзі. Грымі, дарога! Ляці, ляці, вецер! Зганяй з яе пыл. Дарога павінна быць чыстая! Каваль цяпер вольны чалавек. Рабі, што хочаш! У кішэні грошы і білет на параход. Цяпер яго нішто не палохае. Не прапаў тут — не прападзе і ў іншым месцы. Толькі там ён будзе разумнейшы!..

Дзе гэта «там», Каваль яшчэ не ведаў. Канкрэтны план яго пакуль што абмяжоўваўся Іркуцкам. Там ёсць дружбак. Каваль гасцяваў у яго, калі ехаў сюды. Дапаможа. Больш за ўсё, аднак, ён спадзяваўся на самога сябе. Брацк загартаваў яго як мае быць...

Было радасна ад гэтай упэўненасці. І толькі недзе на сэрцы, вельмі глыбока, жыла трывога. Ён дакладна ведаў,

што не жаль і не сумненне парадзілі яе, а нейкі клопат. Невядомы клопат. І невядома аб чым. Але гэты клопат жыў, існаваў, вярэдзіў нутро, і ад яго ўвесь час быў нейкі неспакой на душы.

Дзіўнае стварэнне — чалавек! Вось выбраўся ў дарогу, усё ёсць у яго, пазбавіўся таго, што замінала яму, а цяпер больш чым калі думае пра яго; думае і адчувае побач з радасцю, упэўненасцю нейкую трывогу. Дзе вытокі яе? Ён не ведаў і не імкнуўся знаходзіць іх, бо здагадваўся, што, знайшоўшы іх, возьмецца аналізаваць і дамагацца прычыны. А навошта гэта яму? Што ён, каму-небудзь вінаваты?..

Вецер прынёс пах дыму. Ён з'явіўся раптоўна, ледзь машына адолела першую сопку ў лесе. Пачуў гэты пах і чырванашчокі. Ён пакруціўся на месцы, паглядзеў вакол, пацягнуў носам, сказаў:

— Гарыць...

Што гарыць, ён не сказаў, а проста адзначыў, як нейкі факт. Каваль зларадна падумаў: «Ага, калі бяда прыйшла — закруціўся...»

— Недзе гарыць,— узрушана сказаў чырванашчокі праз некаторы час, і на яго твары адбілася сапраўдная трывога.

Каваль знарок моўчкі глядзеў наперад. Ён неўзлюбіў свайго спадарожніка з самага пачатку і цяпер плаціў яму ягонай жа нявetлівасцю. «Бач, дапякло! І дзе тая важнасць дзелася!»

Чырванашчокі пасоўгаўся, потым прыўзняўся, пакратаў Каваля за рукаў:

— Таварыш! Лес недзе гарыць!..

Каваль зразумеў гэта даўно, як толькі ўчуў гаркаваты пах гарэлай іглiцы, і здагадаўся, што той белы дым, які ён бачыў над лесам у пачатку дарогі, клубіўся над лясным пажарышчам. Трывога чырванашчокага не кранула яго. Яму б вельмі хацелася цяпер, каб пажар запыніў іх. «Во, паглядзім, як ты там закруцішся!..» Але зларадпасць гэтая хутка знікла, і ён сам адчуў хваляванне: замест сустрэчных машын над дарогай цяпер ляцелі спалоханыя птушкі.

— Так, гэта гарыць лес,— нарэшце сказаў ён.— І пажар ідзе ў наш бок. Заўважаеце, рух спыніўся...

За другім узвалам яны ўбачылі пажар. Ён пачаўся нядаўна, але паспеў ахапіць немалую плошчу. Полымя пакуль што кацілася па зямлі, з'ядаючы пасохлы багун

і ламачча. На дарозе стаялі машыны. Ля іх нікога не было.

Калі яны праехалі яшчэ трохі, з лесу на ўзбочыну выскачыў чалавек з замурзаным тварам і закрычаў:

— Рыдлёўкі ёсць? Давайце ўсе сюды!

Каваль схапіў з-пад ног рыдлёўку, скочыў на дарогу. Услед за ім, з нечаканым спрытам, рушыў чырванашчокі з партфелем. Ён бег упрытык з Кавалём і ўвесь час раіў:

— Трэба збіваць агонь. Збіваць, каб не пусціць яго ўверх, на галлё, бо тады — канец лесу!..

Агонь узнік перад імі раптоўна, быццам сама зямля спарадзіла яго. З сіняга дыму, што ахутваў груду пасохлага ламачча, вырвалася залачоная вужака. Тонкае, добра прасохлае галлё ўспыхнула, як сноп. Каваль — ён нёс пінжак у руках, зняў, каб было зручней бегчы,— ударыў полымя пінжаком. Раз. Другі!.. Потым увагнаў рыдлёўку ў зямлю і сыпануў на агонь пяску. Ага!.. Не так-то лёгка табе будзе, агонь, прабіцца!.. Ды каб жа памог чырванашчокі, а то стаіць, вочы паказеліўшы!..

— Чаго ты стаіш? — хрыпла закрычаў ён на чырванашчокага.

Той, нібыта сцебанулі яго пугай, рынуўся да агню. Шырокі партфель лёгка лётаў у яго руках. Ён лупіў ім бледныя стужкі агню, яны выгіналіся і пыхкалі сінім дымам; потым дым знікаў і ад галля адляталі тонкія белыя скруткі, быццам пара.

Прайшло некалькі хвілін, і яны запрацавалі, як добра наладжаны аўтамат. Партфель, як пранік, гучна плёхаўся па языкатае полымя, быццам уганяючы яго ў зямлю, і яно, не паспеўшы ўзняцца, гінула пад пяском, што злятаў з Кавалёвай рыдлёўкі.

— Назад! Назад пайшоў! — быццам жывому, крычаў чырванашчокі.— Ты думаеш што! Гэта табе не мясцком!..

Цяпер яго наўрад ці можна было назваць чырванашчокім: увесь твар закураны, праз лоб цягнуліся нейкія рудыя пісягі. Ён смела кідаўся ў самае пекла, з нечаканай вёрткасцю паспяваў усюды, дзе выхопліваўся агонь. Цяпер гэты чалавек падабаўся Кавалю, і ад ранейшай непрыязнасці да яго нічога не засталося.

Праз нейкую гадзіну яны мылі рукі ў невялічкім ручаі пад мосцікам. Дзіўны выпадак! Пад тым самым мосцікам, дзе раней, некалі зімой, Каваль са Стаевым мацаваў

бэльку. Тады была зіма, але цяпер, хоць масток быў наново перароблены, ён пазнаў гэтыя месцы і адчуў у душы ўсё тую ж, цяпер узмацнелую, трывогу, што запаўзла да яго ў сэрца ранкам.

— Вы з правага? — глуха і зусім нечакана запытаўся чырванашчокі. Вада ўжо падала яго шчокам ранейшы колер.— Я быццам вас сустракаў там...

Што яму мог адказаць Каваль? Ён жа цяпер ні з правага, ні з левага! Ён з ніякага! Прызнацца ў гэтым другому чалавеку было няёмка, проста нельга. Але чаму? Чаму яму зрабілася сорамна за тое, што ён цяпер вольны чалавек?.. Што нікому цяпер не падначалены, нікому і нічым не абавязаны?!

Каваль зачэрпнуў поўную жменю вады, лінуў яе сабе на твар і завурчаў:

— Уга-ааа...

Гэта можна было разумець і як адказ, і як радасць ад прыемнай свежасці ляснай вады, што крышачку пахла дымам. Але чырванашчокі неяк тут жа забыўся на сваё пытанне; ён аглядаў свой партфель, мыў яго вадой, войкаў:

— Вой-вой! Зацвярдзеў брызент, партфель як скураны зрабіўся. Ну, Адамаўна мая з мяне скуры на новы налупіць...

— Жонцы так і трэба. Яны гэта могуць,— уставіў Каваль, радуючыся, што можна перавесці гаворку на іншае.

Чырванашчокі смяяўся і з яшчэ большай старанпасцю мыў партфель вадой:

— Не, яе не гэтак трэба разумець. Яна на смех мяне ўзніме, бо я, ведаеце, даў абяцанне: не купляць новы партфель, пакуль ГЭС не збудуем... А цяпер куды дзенешся? Трэба!..

Гаворка зноў пераходзіла на тэму, ад якой хацеў схавацца Каваль. Ён адганяў думкі і пра будоўлю, і пра Стаева, і пра Паліну, намагаўся знайсці ў словах чырванашчокага і ў ім самім нешта такое, над чым можна было кпіць. Аднак не знаходзіў і цешыў сябе радасным перакананнем, што хутка ўзыдзе на борт парахода.

Так, хутка ён узыдзе на карабель! І няхай застаецца са сваім партфелем гэты радасны здаравяк! Няхай!.. Колькі ж гэта часу засталося, сапраўды?.. Зірнуў на гадзіннік. Чорная стрэлка падбіралася да лініі тры. Часта затахкала

сэрца: «Спазніўся!..» Не верачы, пацёр гадзіннік рукой. Са шкельца сцёрся гар, і Пятро ўбачыў, што памыліўся і нераблытаў стрэлкі: да адыходу парахода заставалася больш дзвюх гадзін...

Прыехаўшы ў стары Брацк, Каваль з паўгадзіны блукаў па вуліцах. Развітацца дык развітацца! Ён пабываў і ля вежаў старадаўняга астрога, і нават у той сталоўцы, дзе сутыкнуўся з гарбаносым. Выпіў пляшку гарэлкі, і калі выйшаў са сталоўкі, убачыў самазвал. Ён стаяў на тым жа месцы, дзе была зімой машына Стаева! Каваль нават хіснуўся назад ад нечаканасці. Стаеў?!. Прыгледзеўся. Не, чужая машына... І зусім незнаёмы чалавек вылазіць з кабіны...

На прыстані параход сустрэў яго доўгім гудком.

Вялікі двухпалубны прыгажун стаяў ля драўляных прычалаў у вузкай пратоцы паміж берагамі і востравам, за якім сінела Ангара. Там, за востравам, крыху лявей сігнальнай мачты, устаноўленай на камяністай касе, быў бачны плыток бакена.

Каваль пайшоў на параход не адразу. Ён стаў узбоч прычалаў, быццам не адважваючыся ўзысці на палубу. З вокнаў кают на яго прыветліва глядзелі белыя фіранкі, чырвоны сцяг весела паласкаўся на тонкай мачце; зыркі бляск ішоў ад ілюмінатараў і скакаў па вадзе. Трэба сказаць нейкія развітальныя словы?.. Так, трэба! І ён іх скажа, калі будзе ўжо на караблі... Між іншым, не! Навошта яны — развітальныя словы? Ён узыдзе на карабель, вунь на тую палубу, стане ля белых балясачак і будзе моўчкі глядзець, як адплывае і змяншаецца за кармой бераг. І ніхто з людзей не будзе ведаць, куды і дзеля чаго паплыве ён адсюль у зманлівую далеч ангарскіх туманаў, якія думкі павязе з сабой...

Мітуслівы натоўп пасажыраў гаманіў, стракацеў вопраткай, карычневымі плямамі чамаданаў. Пад нагамі грузчыкаў, якія цягалі на параход скрыні і мяхі, выгіналіся драўляныя масткі.

З гуллівым сапеннем вырваўся струмень пары побач з шырокай, апяразанай чырвонай стужкай, трубой і разлёгся працяжным сіпатым гудком. Час! Трэба ісці на параход!..

Каваль узышоў на прычал. Дошкі не рыпнулі, а глуха загулі пад яго ботамі. Матрос, што стаяў каля трапа, прызвычаена працягнуў руку:

— У якім класе едзеце?..

Каваль сунуў руку ў кішэню. Пальцы не знайшлі там нічога. Ён паспешліва абмацаў яе. Дзе ж мог падзецца білет?.. Зусім жа нядаўна, ад'язджаючы з Падуна, ён паклаў яго сюды, вось у гэтую верхнюю кішэню! Адну за другой праверыў усе кішэні. Білета няма! Ён зняў пінжак, патрос яго, быццам мог вытрасці аднекуль білет... Няма!.. Ад пінжака ішоў слабы дымны пах гарэлай хвоі. «Я згубіў яго на пажары, калі лупіў па агні пінжаком...»

Матрос выслухаў тлумачэнні Каваля няўважліва — яму трэба было падымаць трап — і сярдзіта сказаў:

— Толькі па білету!

Яго словы супалі з камандай капітана. Матросы доўгімі вяроўкамі ўсцягнулі трап на ніжнюю палубу. Вылецеў і растаў на вадзе доўгі струмень пары з раструба. Чырвоныя пліцы варухнуліся, плёхнуліся і запенілі ваду...

Параход адплываў ад прычалаў павольна, быццам намацваў сабе дарогу, а вырваўшыся на фарватар, паслаў берагу развітальны гудок.

Каваль схамянуўся. Вакол яго — хто рукой, хто хусткай — махалі людзі, і Каваль таксама замахаў рукой. Няхай ніхто не бачыць яго разгубленасці! Ён таксама прыйшоў сюды, каб праводзіць параход. Ён таксама будзе ўсміхацца! А тое, што ёсць у душы,— гэта не трэба ведаць кожнаму!..

Белы прыгожы параход выплыў ужо з-за зялёнага вострава і распорваў ваду, адкідваў у бакі белыя ўзвалы. Вунь ён абыходзіць бакен; белыя грабяні адлятаюць ад фарштэўня, і чырвоны сцяг трапечацца пад ветрам на мачце; б'юцца і лапочуць на камяністым беразе хвалі, быццам пра нешта намагаюцца расказаць...

— Бывай, карабель!..

Ён лаяў сябе за тое, што згубіў білет, што не здагадаўся прайсці да капітана і паказаць яму сваё месца ў каюце. Так, можна ж было ўсё ўладкаваць. Ніхто ж не заняў яго тое месца!..

Але ў сэрцы ўжо буяла ціхая радасць, быццам ён нікуды і не збіраўся ад'язджаць, а толькі прыйшоў сюды, каб з нечым развітацца. І ён не сказаў развітальных слоў, а проста моўчкі развітаўся. Развітаўся, і гэты белы карабель павёз тую трывогу, што вярэдзіла Кавалёва сэрца ўжо даўно.

## 23

Гарачае і запыленае, зусім не як вячэрняе, сонца плыло ў лянівай далечы. Мяккімі лапамі цягнуліся да яго лістоўніцы. Пад сонечнымі промнямі набрынялі зялёна-сінім колерам кедры. На круглым лісці асін дрыжалі трапяткія цені. Воддаль грымеў Падун.

Гул вады, звар'яцелай ад скокаў па каменных рэбрах дыябазавых пліт, далятаў і сюды, на лясную сцяжынку. Каваль ішоў па ёй, слухаў нязмоўчны гул парогаў, апавіты шапаценнем лістоўніц, і адчуваў, што радасць, завітаўшая да яго на прыстані, цяпер запоўніла ўсю яго істоту.

Гэтая радасць была падобна да радасці чалавека, які пасля хваробы ўпершыню бачыў неба і дрэвы. Усё, што адбылося з ім у апошні час, цяпер не хавалася недзе далёка ў ваганнях і сумненнях, а зрабілася ясным і зразумелым; ён быццам адолеў нейкую мяжу і з такой жа яснасцю і ўпэўненасцю прыйшоў да вываду, што ва ўсім вінаваты сам.

Так, сам! Ён лічыў сябе гарачым чалавекам, чалавекам буйнай і парывістай натуры, адкрыта ён дараваў сабе гэта, а ўпотай ганарыўся. Але гэта проста памылка. Нічога такога ў яго натуры няма! Ён быў тады проста слабы і бязвольны чалавек. І Паліна праўду казала яму тады: не хапае чалавеку вытрымкі, умення трымаць сябе ў руках. Вось ён, грымучы Падун, сляпая стыхійная сіла — што каму можа даць яна, калі не ўтаймавана і крышыць усё на сваім шляху? Быць падобным да яе і ганарыцца гэтым? Благая справа, благая... Нейкая ж тэорыя была і ў Лапціна — дзе ён цяпер, у якой Анапе?.. Пэўная лінія ёсць і ў Чумака, у Рустыны — усе яны, як тая стыхія... Грыміць Падун! Грыміць!.. Але ж мала яму засталося грымець!.. Хутка пойдзе ён у турбіны, закруціць машыны, і з дзікай сілы з'явіцца патрэбная людзям энергія. Паліна праўду казала, што жыццё можна і трэба перарабляць, што чалавек перарабляе самога сябе, што людзі самі робяць шчасце. А ён, Каваль? Ён прыйшоў да Паліны п'яны, хуліганіў, а цяпер здзіўляецца, чаму яна бразнула акном, а потым і размаўляць не захацела. Каб жа толькі гэта! Ён пакрыўдзіўся. А што, яна павінна была цалаваць яго? І ў насценнай газеце намалявалі правільна. Бачыце, зняважылі!.. А ён жа самы сапраўдны хуліган. І гэта праўда! Усё тое, што казала Паліна, праўда

таксама! І тое, што ён, як апошні баязлівец, хацеў уцячы ад цяжкасцей, ад сораму, ад нежадання працаваць на вадаліўцы, таксама праўда! А тое, што ён хацеў прыкрыць свае ўчынкі пакрыўджаным каханнем,— самая чорная здрада гэтаму каханню.

Раней ён хацеў схавацца ад гэтай праўды, сам сабе не прызнаючыся, неяк выкруціцца, усё благое ў сваім характары нечым прыкрыць ці апраўдаць. Цяпер няма апраўданняў. Ёсць факты! І ёсць вывад, які ён зрабіў з гэтых фактаў...

Праз галіны дрэў стаў відзён прычал парома. Да яго набліжаўся катэр. Управа ад прычала зіхацела панарама вялізнага горада, і Каваль, уражаны краявідам, які адкрыўся перад яго вачыма, здрыгануўся, зрабіў некалькі крокаў назад, пасля спыніўся. «Заблудзіў я, ці што?..»

Унізе, ля падножжа сопак, па-гаспадарску адсунуўшы тайгу, асеў вялікі горад. Асветлены мядзянымі промнямі вячэрняга сонца, ён стракацеў рыштаваннямі, блішчаў жалезам, шклом, каменнем і касцяной жаўцізной новых сасновых сцен. Бліжэй узвышаліся нейкія вялізныя карпусы, за імі, на чыгуначнай ветцы, стаялі чырвоныя вагоны. А за палатном — бярозавыя прысады ў два рады і жалезны купал над вялізным будынкам. Ля ўвахода ў гэты будынак — рэкламныя шчыты. «Гэта ж кінатэатр! Наш кінатэатр! Здорава, свой уласны горад не пазнаў!..»

Ён упершыню пабачыў горад будаўнікоў правага берага зводдаль і быў ашаломлены яго выглядам, асабліва ўрачыстым у нейкім дзівосным асвятленні вячэрняга сонца. Асвойтаўшыся і зразумеўшы, што не заблудзіўся, пачаў з цікавасцю разглядаць і пазнаваць усё. Велізарныя карпусы ля чыгункі — гэта бетонны завод. За высокім парканам — база галоўнага энергетыка. Далей металічныя карпусы — гэта гараж на трыста аўтамашын. Усцяж гаража — доўгая вуліца. І яшчэ адна! І другая! І трэцяя!.. Рад за радам — дамы. Вялікія, двухпавярховыя. Шырокае поле стадыёна і схаваныя соснамі дахі лесазавода. Новая агароджа ля клуба. Вялізны будынак школы і дзіцячы сад... А вось і бальніца. Ён паспрабаваў адшукаць акно палаты, дзе ляжаў тады зімой, і не мог зрабіць гэтага: вокны зліваліся ў адзін бліскучы рад, быццам сцяна была зроблена са шкла. Потым знайшоў інтэрнат, дзе жыла

Паліна. Пры ўваходзе былі бачны постаці людзей. «Можа, і яна там?..»

Падумаў пра гэта, і зрабілася крыўдна на самога сябе за сваё маладушша, за свой эгаізм. «Толькі пра сябе думаў. А што рабілася ў яе душы?.. У душы той Паліны ў брызентавых туфліках, з парэпанымі і чырвонымі ад сцюдзёнай вады пальцамі, такімі пальцамі, як у мамы... І ён хацеў збегчы ад гэтага! Здрадзіць гэтым рукам! Такім рукам!..» Ад душэўнага болю хацелася крычаць, бегчы некуды, рабіць нешта цяжкае, каб стаміць і сябе, і сваё непатрэбнае жаданне, боль і горыч зробленых памылак...

Не ведаючы навошта, ён павярнуўся. Каб ісці назад? Не, такога жадання не было. Хутчэй за ўсё яго ўвагу прыцягнуў грукат выбуху, што прагучаў за спіной і рассек аднастайны гул Падуна. Выступы скал хавалі ад яго панараму ўсёй ракі, і ён бачыў толькі верхнюю частку перамычкі, вежы кранаў, апоры бетонавознай эстакады, экскаватары і задраныя ўверх кузавы магутных самазвалаў, што вялі падсыпку каменнага банкета... «Там жа Паліна. Яна працуе ў вячэрняй змене...» Ён вылічыў гэта імгненна і з такой жа імгненнасцю падумаў, што калі б і захацеў пайсці назад, дык не змог бы, бо будоўля прайшла праз яго жыццё з такой жа няўмольнасцю, як спавітая жалезам і бетонам перамычка перасекла жывое і пругкае цела блакітнай Ангары.

Ён глядзеў на пенныя буруны, што абляталі каменны банкет, і адчуваў, як у сэрцы расце і мацнее, цяпер ужо зусім асэнсаванае, усведамленне сваіх памылак, сваёй вінаватасці перад гэтымі людзьмі, што там, унізе, і перад Палінай, і перад самім сабой. Ён узяўся рукамі за грудзі і голасна, не заўважаючы, што гаворыць самому сабе, а толькі чуючы стук свайго ўласнага сэрца, сказаў:

— Вось што, дарагі Пятрусь! Апроч усяго, ты быў эгаістам і дробным нягоднікам. Не, не, не! Пачакай! Гэта яшчэ не ўсё! Цяпер, калі ты ведаеш усё гэта, ты павінен выправіць памылкі, дабіцца права лічыць сябе сапраўдным чалавекам... А як гэта зрабіць? Нялёгка!.. Але гэта трэба зрабіць, і ты зробіш! Ты будзеш працаваць на вадавозцы, будзеш рабіць усё патрэбнае, тое, што табе даручаць. І не проста рабіць, а так, каб можна было адкрыта глядзець людзям у вочы, нават калі цябе ўвогуле знімуць з машыны і дадуць самую цяжкую і брудную

працу! Бо працы няма бруднай і няма цяжкай, а ёсць бруднае сумленне. Зразумеў? І яшчэ! Ты возьмеш Паліціны падручнікі і сядзеш за іх! А калі ты гэтага не зробіш, я сам, уласнаручна, адкручу табе галаву! Зразумеў? І добра, што зразумеў, бо яшчэ не позна... Цяпер ты сам бачыш, чаму нядобра ішло тваё жыццё!..

І ад вялікай радасці, што ён выйшаў, нарэшце, на правільны шлях, што сам, а не хто іншы, знайшоў яго, што ў яго хапіла мужнасці так бязлітасна асудзіць сябе, Каваль заспяваў. Яму здавалася, што ўспененыя хвалі ракі спяваюць разам з ім, што песні ягонай утораць мядзяныя вяршыні сопак, што вакол усё спявае і весяліцца. У яго сэрцы апроч радасці нарадзілася магутнае пачуццё ўласнай годнасці. Вялікая вера ў сваю моц бударажыла, надавала думкам узнёсласць і яснасць. Ты дужы чалавек, Пятро! Ты можаш зрабіць усё, што пажадаеш! І зробіш гэта насуперак усяму і ўсякім нягодам!..

Ён ускочыў, раскінуў рукі, узмахнуў імі, як крыллямі, быццам збіраўся паляцець, і закрычаў:

— Эгэ-эй! Падун! Грымі, Падун!..

Стаіў дыханне.

Слухаў.

З тайгі прыляцела рэха, паўторанае лясной даллю. Усміхнуўся:

— А ўсё ж ён пачуў!

Рэха ляцела да мядзяных сопак, адгукнулася там, пабегла назад, зноў ірванулася ў тайгу, заблыталася ў густым спляценні галін і, зморанае, растала ў несціханым гудзе, што ішоў ад ракі...

## 24

Доўгая рука крана лёгка і плаўна паклала шматтонную глыбу базальту ў жалезны кораб самазвала. Прарэзліва рыпнуў паміж металічным днішчам і плітой пясок. Нячутна выгнуліся рысоры, і ўвесь корпус вялізнай машыны важка і плаўна гайдануўся, нібыта сапраўдны асілак, што ўладжваў на плячах пакладзены цяжар.

Сігнальны сцяжок дыспетчара ўзляцеў уверх. Ад'язджаць! Каваль нават не чакаў гэтай каманды. За пяць гадзін, пакуль ён сядзіць у кабіне, яго вока ўлоўлівала рухі дыспетчара з такой дакладнасцю, быццам ён і дыспетчар — адзін чалавек. Ледзь крутнуўся сцяжок, а нага ўжо выціснула педаль счаплення. Цяпер — хуткасць! Бухнуў

сіняватым дымам выхлап. Зароў матор, і самазвал, апярэдзіўшы ўзмах сцяжка, выскачыў на дарогу.

Насустрач імчаліся парожнія машыны. Запыленыя, нібы, таксама як і людзі, разгарачаныя вялікім змаганнем, што ішло там, унізе, на Ангары, ля моста франтальнага перакрыцця, яны праносіліся як віхура.

Пругкае, дымнае паветра разбівалася аб пярэдняе шкло і зрэзанай, няроўнай хваляй залятала ў кабіну. Каваль моцна сціскаў абаранак руля і ўважліва сачыў за дарогай. Цяжкая машына паслухмяна выконвала ўсе яго загады, і ён, намагаючыся думаць толькі пра дарогу, міжвольна паддаваўся нейкай магутнай плыні іншых думак, што прыходзілі і знікалі, нараджаліся і зноў хвалявалі, прыносячы то лёгкі сум, то імклівую, як гэта дарога, як гэтыя запыленыя стрэчныя машыны, узнёсласць.

З таго самага імгнення, як базальтавая глыба першы раз асела на яго самазвал, Каваль зразумеў, што ў яго жыцці надышоў нейкі новы этап, новы і незвычайны. Ён быццам адолеў вяршыню, за якой іспаваў новы свет. Усё тое, што было да гэтага, не зблекла, а быццам адступіла, адышло некуды ўбок і ўспрымалася цяпер як мінулае.

Але гэтае мінулае было жывое, нядаўняе. Можна працягнуць руку і зламаць перагародку, што аддзяляе яго ад мінулага, ды ён не хоча і не мае права рабіць гэтага, бо само па сабе такое разбурэнне будзе няшчырым. Так, ён можа разбурыць ушчэнт тую перагародку, але тое, што было за ёй, нікуды не дзенецца, не знікне.

Гэта няпраўда, што чалавек можа забыць мінулае! Ці ж можна Кавалю забыць, як ён стаяў на прычале ў Брацку і глядзеў на белы параход, на якім была нікім не занятая яго каюта?.. А з чым параўнаць тую горыч, што спавіла яго істоту, калі пальцы, абмацваючы кішэню, не знайшлі там білета? Білет!.. Можа, сапраўды ён, той білет, што згарэў у тайзе, быў сапраўды шчаслівы? Можа!.. Але вось і цяпер, калі прайшло ўжо багата часу, ён памятае, як плёхнулі чырвоныя пліцы парахода, як шырэла, расла і выцягвалася паласа вады паміж гаманлівай палубай і тым месцам на прыстані, дзе ляжаў трап, на які ён так і не ўзышоў...

Пройдуць дзесяцігоддзі, а ён будзе памятаць гэта яскрава. І навошта яму закрэсліваць у памяці тое, што было? Ён жа жывы чалавек, і тое, што было,— гэта жыццё! Мінулае — гэта ягоны рост, гэта тое, над чым ён узняўся,

што перамог! Ён раптам злавіў сябе на тым, што паўтарае ў думках Палініны словы.

У той вечар, калі ён вярнуўся і спаткаў яе, яны зайшлі далёка ў тайгу.

— А я ведала: ты не паедзеш...

І гэта былі яе першыя словы.

— Не збяжыш,— паправіў ён яе, усё яшчэ сярдзіты і да жорсткасці строгі да самога сябе.

— Справа не ў тым. Я ведала!

— Адкуль?

— Сама здзіўляюся,— адказала яна.— Мабыць, таму, што верыла. Ты ведаеш: калі хто табе верыць, цяжка зрабіць такому чалавеку благое...

— І ты мне верыла?

— Увесь час!..

Убачыўшы на зямлі маленькія зялёныя парасткі, яна прысела, узялася ачышчаць іх ад старойігліцы.

— Гэта ж кедры. Сёлетнія!..

Зялёныя парасткі прабілі зляжалы пласт рудой ігліцы і ўпарта цягнуліся ўверх. Побач ляжалі бураватыя шкарлупінкі, як сцверджанне вялікага, спрадвечнага закону жыцця. Каваль часта лускаў крэпкія, быццам каменныя, кядроўкі і цяпер глядзеў са здзіўленнем на разбітыя напалам арэхі. Якая магутная сіла была схавана ў тым маленькім жаўтаватым масляністым ядзерку!..

Сіні туман вісеў над упадзінамі: ён схаваў вяршаліны дрэў, і таму здавалася, што там, унізе, няма нічога, апроч гэтай густой смугі; далёкія сопкі акрэсліваліся няясна, быццам абрысы далёкіх берагоў.

— Як мора,— сказала Паліна.— Гэта ж толькі падумаць! Сапраўднае мора будзе вось тут, ля гэтых кедраў. Яны вырастуць і будуць глядзець на мора. Вітаць караблі, слухаць песні марскога прыбою... А мы ўжо будзем далёка-далёка...

— І, можа, паплывём на караблі...

— Можа. А ты бачыў сапраўднае мора?

— Толькі марыў аб ім. Быць мараком — мая дзіцячая мара. Тады я лётаў па вуліцы ў дождж, пускаў карабельчыкі...

— І бачыш, мара спраўдзілася!

— Але ж я не стаў мараком!

— Ну дык што ж? Ты сам ствараеш цяпер мора...

Ён кратаў рукамі зялёныя шыпулькі і думаў над тым, што сказала яму Паліна. Ён думае над тым і цяпер, і, ма-

быць, будзе думаць доўга яшчэ, бо сваёй гаворкай Паліна закранула ў ім новыя струны душы, пра існаванне якіх ён нават сам не ведаў...

Яна сказала: верыла! А што гэта значыць увогуле — вера? На чым можа грунтавацца яна? На тым, што сказаў чалавек? Нешта ж павінна быць грунтам, асновай... Але што? Чаму можна раптам шчыра і проста глядзець на чалавека і адчуваць да яго павагу і радасць, якую нельга схаваць ні за строгім выразам твару, ні ў сярдзітым бляску вачэй? Адкуль прыходзіць у сэрца гэтае глыбокае перакананне, што чалавек, якому ты паверыў, не здрадзіць табе, не разбурыць твайго ўяўлення пра добрае, што ёсць у ім? Адзінства мэты? Усведамленне свайго абавязку? Мабыць, усё гэта, сабранае ў адно, ёсць тое, што дае чалавеку падставы і права сказаць другому: я веру табе!..

Раней, да таго вечара, калі Каваль пайшоў да Грывадзе, ён не ведаў усяго, як і не ведаў увогуле, што будзе казаць начальніку аўтакалоны, як не разумеў, што прымусіла яго пайсці. Ён не разважаў тады, што рухала ім. Упартасць? Жаданне славы? Не, не тое. Быў жа выпадак, калі можна было зрабіцца вядомым чалавекам, а ён узяў і сказаў карэспандэнту, што кальцавую пагрузку самазвалаў прыдумаў Рублёў. Разоў некалькі потым пра Рублёва пісалі газеты, пакуль той сам не паслаў ліст у рэдакцыю і не растлумачыў, як усё было...

Значыцца, іншае. І гэта іншае было ўсё тое, што адбывалася ў ім увесь час на будоўлі. Папрацаваўшы кароткі час на вадаліўцы, ён атрымаў новы магутны самазвал. І неяк адразу жыццё вынесла яго на такую вышыню, з якой нечакана адкрылася нязведаная далеч. А што да гэтай вышыні начальніку аўтакалоны? У яго сотні шафёраў — сапраўдных майстраў сваёй справы, пра якіх пішуць у газетах і фотаздымкі якіх вісяць на Дошцы гонару. І чаму яго, Каваля, трэба ўключаць у спіс тых, хто павядзе самазвалы на рашаючы штурм Ангары?..

Грывадзе быў раззлаваны. Каваль бачыў гэта. Бачыў ён і тое, як правая рука начальніка трэ чырвоны нос. «Нечым нездаволены!.. Вядома, я ж не першы прыйшоў да яго з такой просьбай...» Каваль ведаў гэта, як ведаў таксама, што за пяпэўнай адмовай Грывадзе схаваў пежаданне адкрыта сказаць, што не верыць яму. Вядома! Адкуль жа ў яго ёсць падставы для гэтага? Няма падстаў!

Грывадзе зусім недвухсэнсоўна сказаў, што ён заўтра

выпусціць на трасу да перамычкі толькі тых, на каго ён спадзяецца. І потым, не толькі ён тут усё вырашае! Спецыяльнае пасяджэнне бюро абласнога камітэта партыі было прысвечана гэтаму пытанню. Гэта найбольш адказны перыяд у жыцці будоўлі! Дысцыпліна там патрэбна выключная. Мост! Патрэбна чоткасць і зладжанасць! Не, павядуць машыны толькі камуністы. Правераныя людзі!..

— А вы паверце!.. Паверце і мне!..

Хто навучыў яго сказаць гэта? Ніхто. З Палініных слоў на сопцы ля маладзенькіх кедраў, з даўніх размоў Стаева, з цяжкага духоўнага змагання, з той вялікай прагнасці да сапраўднага жыцця раптам выплылі яны, і сэрца надало ім такую стрыманую сілу і непахісную ўпартасць, што Грывадзе на момант завагаўся. Машына Жавелькіна выйшла са строю. Яе не адрамантуюць да заўтра. А што, калі замест той паслаць машыну гэтага хлопца з упартым ілбом? Стаеў паручаўся тады за яго... «Пушчу ўслед за Стаевым, няхай і вядзе яго!..» І амаль нечакана для сябе Грывадзе адмовіўся ад свайго ранейшага рашэння і, хаваючы сапраўднае пачуццё за штучнай строгасцю, сказаў:

— Будзеш дзесятым у атрадзе Антохіна. Машыну пачысці. Увогуле, ён табе ўсё раскажа...

Потым паглядзеў на яго, ссунуў бровы і пагразіў тоўстым пальцам:

— Памятай, калі што-небудзь адпораш,— пацёр нос і дадаў: — Але Антохін табе там шыю сам намыліць...

Грывадзе быццам злаваўся і нечага сердаваў; але Каваль бачыў і гэтую штучную строгасць, і гэты сярдзіты бляск вачэй, і безліч цьмяных маршчынак, што ляжалі на твары ля носа, і адразу дараваў гэтаму строгаму чалавеку ўсе свае ранейшыя крыўды...

На паваротцы, ля тоўстых, прыціснутых да скалы жалезных труб пульпаправода, ранейшы лад думак быў парушаны. Па інерцыі машыну пацягнула ўніз, да адхону, дзе пенілася на каменных выступах вада. Не змяншаючы хуткасці, ён завучаным рухам вывернуў руль і даў газ.

Усё правільна! Гэтак і трэба! Адхон ёсць адхон. Небяспека ёсць небяспека. Яны існуюць паасобку, недзе там, з тым мінулым, што адступілася ад яго і падзелена на тое, што прайшло, і тое, што ёсць. А ёсць дарога. Ёсць абаранак руля. Ёсць шматтонная глыба чорнага базальту ў ку-

заве, якую ён павінен за дзесяць хвілін давезці да месца і скінуць у пенныя ангарскія буруны з франтальнага моста...

Назва моста падзялялася ў яго думках на дзве паасобныя часткі, і тады ў свядомасці яскрава акрэслівалася слова «фронт». Упершыню ён пачуў гэтае слова ў маленстве, і яно спачатку азначала для яго нешта жахлівае, што забрала ад яго бацьку і брата. Потым гэтае слова асацыіравалася ў яго з вялікай працай, у якой занята шмат людзей. І ўсё ж у новым вызначэнні слова захавала для яго нейкі трывожны сэнс, запазычаны ад таго, першага значэння. Мабыць, вось гэтак і на фронце была ў чалавека сканцэнтравана ўся воля, усе сілы і духоўная моц на адным — перамагчы!..

Трубы пульпаправода зніклі ў нішы скалы. Адсюль застаецца паўтара кіламетра да моста. Гадзіннік паказвае палову трэцяй. Значыць, з адведзеных яму на рэйс дзесяці хвілін ён сэканоміў дзве. Яшчэ дзве. Яшчэ дзве... Дакладней, пяць раз па дзве — гэта будзе дзесяць. Значыць, дадатковы рэйс! А што, калі выціснуць з машыны яшчэ адну хвілінку? Прабегчы апошні кіламетр на адну хвілінку хутчэй!..

Цяпер рабіць гэта было цяжэй, чым пяць гадзін таму назад, калі пачаўся штурм. Тады было сонца. Цяпер замест яго святло электралямп. І не ў гэтым справа! Няма ветру! Пругкі і адрывісты, як удар, ён імгненна зрываў з дарогі сіні дым, а цяпер знік некуды. Нерухомае паветра вісіць ля скалы, яго зварухне толькі бег машын...

Дарога ў сіняватым, амаль празрыстым дыме. Здрадліва маленькімі робяцца каменьчыкі, выбоіны на дарозе, і аддаляецца небяспечная блізкасць каменнага адхону. Стрэлка спідометра паўзе ўверх. Яшчэ два дзяленні... Яшчэ... Досыць! Цяпер збавіць хуткасць! Налева паварот...— на мост!..

Па роўным насціле моста колы ішлі мякка і нячутна, быццам машына плыла. Тут можна газануць, хутка падвярнуць да кантрольнай рэйкі і хвацка — аж пазайздросцяць усе! — скінуць свой груз у раку. Думкі пра гэта мільганулі і яшчэ нават не зніклі, а ён ужо адчуў, што яму не хочацца рабіць гэтага. У той строгай дакладнасці, з якой трэба было павярнуць машыну на мосце, падвесці яе да краю і разам з іншымі самазваламі, якія ішлі з другога боку, выгрузіць камень, было цудоўнае, хвалюючае

характва, нейкі зусім іншы сэнс. Кавалём валодала тое ж самае пачуццё, як і там, у кар'еры, калі кран узнімаў над горбам самазвала свой цяжкі кулак. Пятро быў уцягнуты ў агульны рытм вялікай працы і ўладарна захоплены ім. Ён не бачыў, як паўзла чорная глыба з узнятага кузава і, асепленая промнямі пражэктараў і бляскам узбунтаваных хваль, ляцела ўніз, адчуваў толькі, як дрыжыць машына і з палёгкай уздыхаюць рысоры.

Сваю працу Каваль бачыў здалёк, калі ехаў назад: яго працу рабілі другія людзі. І гэта было цікавей, чым глядзець зблізку: там ён мог бачыць толькі сваю адну машыну, а тут — усю панараму дзівоснай начной працы.

На зваротным шляху, калі машына адольвала ўздым, ён дазволіў сабе такую раскошу — адарваць позірк ад дарогі і зірнуць на перамычку. Магутныя краны ўзнімалі свае хобаты над жалезным сплячэннем арматуры, безліч электрычных агнёў і шырокія промні пражэктараў пакрамсалі ноч на светлыя, бліскучыя кавалкі, і тая ноч знікла недзе, быццам схавалася, уцякла за бліскуча чорныя скалы, туды, дзе натапырыла пікі кедраў тайга.

Густа — адна за адной — ішлі машыны да моста. Выроўніваліся, гарбы самазвалаў прыўзнімаліся, і цёмныя базальтавыя глыбы лёгка і плаўна — здавалася гэтак — клаліся на белыя буруны. Але вада прымала іх няласкава, высока ўверх пакрыўджана ўскідвала срабрыстыя слупы; яны ўзляталі і рассыпаліся ў пыл.

Ён сузіраў гэта нейкі момант і не заўважыў, адкуль і як з'явіўся на падножцы мужчына з маладым і вельмі заклапочаным тварам. Адной рукой прытрымліваючыся за адчыненае акно кабіны, ён другой размахваў саламяным капелюшом і казаў хутка, нібыта сек з кулямёта:

— Карэспандэнт.— Узмах капелюшом.— Падганіце машыну туды.— Яшчэ адзін узмах капелюшом.— Спыніце. Зараз зробім здымак. На фоне. Ведаеце. Твар — буйным планам. Далей — панарама. Вы выглядаеце ў акно. Так... Хвіліна. У нас — таксама штурм!..

Прыклаўшы да вачэй адзін, потым другі апарат, фотакарэспандэнт зноў апынуўся на падножцы, але стаў ужо не так блізка, і Каваль бачыў, што ў яго на поясе тры вялізныя скураныя футляры, а галава амаль зусім лысая.

— Вось і ўсё. Вы ведаеце, таварыш Антохін, ледзь дагнаў вас. Ну і гоніце!..

— Маё прозвішча Каваль. Вы памыліліся.

— Каваль? — Узмах капелюшом.— Значыць, перабылытаў машыны.— Зусім нечаканы жэст — пляснуў рукой па лысіне.— Ідэя! Да сустрэчы!..

Саламяны капялюш развітальна кіўнуўся ў паветры. Фотакарэспандэнт таксама раптоўна, як і з'явіўся, знік з падножкі. «Адкуль яго прынесла? Ён, бачыце, перабылытаў, а я павінен траціць аж тры хвіліны!..» Каваль вылаяўся і даў поўны газ...

Перад світаннем быў аб'яўлены кароткі перапынак. Каваль заскочыў у крыты брызентавы павільён: ён быў збудаваны на перамычцы. За столікам, пастаўленым на жоўтым пяску, сядзелі Стаеў, Антохін і яшчэ тры незнаёмыя шафёры.

— Пятро! Сюды! Ідзі да нас!..

Не ўзнімаючыся з крэсла, Антохін працягнуў руку, як кляшнёй, зачапіў другое крэсла, што стаяла непадалёку, стукнуў па ім далоняй:

— Сядай. Кавы хочаш? Вось і бяры! Хлеб з маслам. Еш!..

Каваля душыла смага. Адпіваючы са шклянкі буйнымі глыткамі ваду, ён сказаў Антохіну, што таго шукаў карэспандэнт.

— Лысая галава? З саламяным капелюшом? — У Антохіна вочы зрабіліся вострыя, быццам прыплюшчаныя павекі рэзалі іх.— Бачыў! Турнуў я яго! Во прычапіўся. Я адзін тут, ці што? Няхай другіх здымае!..

Адным узмахам рукі Антохін расхрыстаў кашулю на апошнія два гузікі і стукнуў кулаком сабе ў грудзі. Яны ажно гулі.

— А ты еш! Можа, бараніны з'ясі? Тут яна хвацкая! Леначка! — паклікаў ён афіцыянтку, не чакаючы, што адкажа Каваль: — Мацуйся і выходзь. Мы з Іванам ваяваць пойдзем. Яны нам адстаўку надумаліся даць...

— Кажуць, шафёры стаміліся, іх трэба падмяніць,— спакойна ўдакладніў Стаеў. Але твар яго незадаволена хмурыўся.

— Хто гэта стаміўся? — загрымеў Антохін і, два разы садануўшы сабе кулаком у грудзі, тыцнуў ім у бок Каваля: — Я? Ці вось гэты арол? Ну, давай спытаемся ў яго!..

— Спытай, але не крычы. Крыкам нічога не зробіш,— перапыніў яго Стаеў.

— Дык як жа не крычаць?

— Я буду да канца,— сказаў Каваль.— Хоць двое сутак. Калі спатрэбіцца, буду рыдлёўкай.— Ён узняўся, гатовы ісці за Антохіным.

— О! Гэта шафёр! Я адразу прыкмеціў: арол! Сядзі! — ён амаль сілай пасадзіў Каваля.— Еш бараніну. Мы ўдвух да начальства пойдзем. Як дэлегацыя...

Леначка прынесла талерку, на якой дыміўся ладны кавалак бараніны. Ад ружаватага мяса і добра падсмажанай бульбы ішоў такі прыемны пах, што Кавалю адразу захацелася есці. Узяўся за відэлец і адразу паспакайнеў, перастаў хвалявацца. Гэта ж трэба было! Хто Антохіна зніме з рэйсаў? Няхай паспрабуюць! Ды ён жа тут усіх ператрасе! Як добра, калі побач з табой гэткія надзейныя і мужныя сябры! Ён зайздросціў Антохіну, які гэтак упэўнена адчувае сябе ўсюды, Стаеву і, сам таго не заўважаючы, шмат чаго пераняў у іх рабоце і рабіўся ўпэўненым і смелым яшчэ больш.

Ад сытай ежы па ўсім целе пайшла прыемная цеплыня. Але санлівасці не было; хацелася хутчэй даведацца, чаго там дамогся Антохін, хутчэй сесці зноў у кабіну. Каваль быў вельмі ўзрадаваны, калі, нарэшце, да століка падышла Леначка. Аддаючы ёй грошы (яму хацелася ў гэты час гаварыць усім толькі прыемнае), паглядзеў на стомлены твар афіцыянткі і спачувальна сказаў:

— Адной цяжка. Стаміліся, пэўна?

— Не, мы ўдзвюх,— весела адказала Леначка.— Фроська штурм глядзіць. Мы па чарзе. Там цікава. А вы...

Яна не дагаварыла, хуценька паклала на стол рэшту і пабегла насустрач дзяўчыне, што з'явілася ў дзвярах. «Гэта і ёсць Фроська!» — падумаў Каваль. Вастраносенькі твар зграбнай дзяўчыны быў у захапленні. Каваль паглядзеў на яго і адчуў нечаканы прыліў радасці і гонару за сваю працу. Ён быў шчыра ўдзячны Леначцы за тое, што яна, не хаваючы свайго захаплення, казала, як па чарзе бегаюць глядзець штурм, рад таму, што крыху раней Антохін пахваліў яго, і ўвогуле ўсяму таму, што адбываецца вакол.

Ён выйшаў з брызентавага павільёна і наткнуўся на Стаева.

— Едзем?

— Ура крычы! Да поўнай перамогі будзем, Пятро! Усе

як адзін сказалі: не спаць, не адпачываць, пакуль не скончым!..

Каваль быў перакананы, што іншага быць і не можа, і не павінна быць, але, успрымаючы цяпер гэтае паведамленне як пэўную заканамернасць, да якой ужо быў падрыхтаваны, адчуваў зусім непатрэбнае хваляванне. Так, яму не трэба, нельга хвалявацца: наперадзе яшчэ столькі цяжкіх і небяспечных рэйсаў. Але як ты стрымаеш гэтае хваляванне, калі яго нельга не толькі ўтаймаваць, але параўнаць з чым-небудзь: яно большае, значна большае, чым тое, што часам прыносіла яму ў жыцці самая вялікая неспадзяванасць. І Стаеў вось стаіць — па-казачнаму вялікі ад святла пражэктараў, выпрастаўшы свае каржакаватыя плечы. Трэба падысці да яго, абняць: ён жа як бацька яму!.. А можа, гэта проста вельмі ўжо багатае ягонае ўяўленне, фантазія? Няхай... Але ж рэальная, існуе ў ім самім нейкая сіла, што поўніць усю істоту, і ўзнімае яго на нейкіх дзіўных крылах, і ён можа нават ляцець... А вось абняць Стаева не можа... Чаму?..

Белы бліскучы катэр ныраў на пенных бурунах. Дзіва! Не чуваць ні гуку матора, ні плёскату грывастых хваль аб яго барты, а толькі грукат вады, ад якога дрыжыць паветра.

Што ён робіць — катэр гэты?

Гідролагі. Вымяраюць хуткасць цячэння.

Ля моста ўжо вызначыўся перапад плыні. Рассечаная жалезнымі апорамі, вада вылятала з чорнай прорвы, пераварвалася цераз каменную граду, што нібыта вырасла са дна, плаўна прагіналася і раптам дыбілася, круцілася ў шалёных скоках, развальвалася на гнуткія, з пеннымі грабянямі хвалі.

Белыя грывы бурунаў хвасталі катэр, рассыпаліся ў дымны пыл, а ён упарта ўсё поўз і ўсё поўз наперад і наперад, рэзаў гнуткія буруны сталёвымі грудзямі, і хвалі, быццам спалоханыя, кідаліся за карму, каб там зноў падняцца і ўздыбіцца ў бяссільным шаленстве ад няўдала закончанага прыступу. А чорная прорва моста ўсё выкідвала і выкідвала на каменную граду амаль зялёныя, з грывастымі бурунамі хвалі. Але мала ўжо, зусім мала заставалася ім месца для разгону!..

— Скароная Ангара! Гэта ж толькі падумаць, Пятро! — сказаў Стаеў, гледзячы на сівыя ад пены буруны.— Зрабілі цуд!..

— Праз нейкіх пару год Падун зусім заглохне...

— Праз пару год? Слухай, слухай жа! Дзе ён?.. Няма! Гэта ўжо наш грыміць! Новы!..

Стаеў махнуў рукой у бок Жураўліных Грудзей і дадаў:

— Паглядзі, колькі народу сабралася! Гэта ўсё сведкі цудоўнай гісторыі! Так, браце, гісторыі!..

На скалістых выступах стракацелі рознакаляровыя хусткі, кашулі, плацці. Наўрад ці спаў хто ў гэтую ноч! Людзі глядзелі на раку, якая злосна змагалася за сваю свабоду, якой усё ж суджана было скарыцца розуму і магутнай сіле чалавека. А Каваль глядзеў на берагі, уверх, на скалы, дзе былі людзі, і раптам зразумеў, што Стаеў сказаў яму дужа простае і ў той жа час вельмі незвычайнае. Праўда! Ён ужо даўно не чуе гулу Падуна! Так, не чуе... Гул парогаў растаў, знік у грукаце вады, што білася на вадазліве і ля франтальнага моста.

Сціх Падун! Гэта ж толькі падумаць!.. Не, ён яшчэ не сціх, ён яшчэ грыміць там, наперадзе, у шэрым тумане, але на змену яму прыйшоў ужо новы, мацнейшы за яго, гул! І той вадазліў, што лёг на ангарскае дно, і гэтая каменная града, неадольная для раз'юшаных хваль, ствараліся і яго рукамі. Каваль з нейкім здзіўленнем паглядзеў на свае шурпатыя і бліскучыя ад масла далоні. Ён чуў, што радасць можа выклікаць у чалавека нечаканы прыліў сілы, і, адчуваючы цяпер, што такія сілы падступілі да яго, забруілі ў сардэчных глыбінях, не ведаў, як стрымаць іх...

Ноч канала ўжо. Каваль зразумеў гэта па трохі зблеклых промнях пражэктараў, што білі з высокіх пляцовак эстакады. У нейкае імгненне яго розум здолеў асэнсаваць, сабраць у адно і хваляванне сваёй душы, і давер'е сваіх сяброў, і грозны гул амаль ужо ўтаймаванай вады, што бунтавалася за перападам, і шырокія зыркія шлейфы, што сыпаў кіпеўшы пад дугамі электразваркі метал, і марудпае ваганне хобатаў кранаў, і шчырую радасць Паліны, якая верыла яму ўвесь час, і сумленнасць Антохіна, які не захацеў, каб толькі яго здымалі фотакарэспандэнты, і стрыманую радасць Стаева, і ўзрушанасць афіцыянткі Леначкі, і ўпартасць гідролагаў, якія вялі свой катэр скрозь пенныя буруны, каб змераць хуткасць цячэння вады ў праране...

А хто змерае тую радасць і вялікі гонар, што магутнай хваляй забуяў у сэрцы Каваля? Чым? Як аддзякуе гэтым людзям ён, Каваль?.. Ён хацеў зрабіць нешта вы-

ключнае, высокае, каб усе бачылі, і нічога такога не зрабіў. Ніякага подзвігу! Нават карэспандэнт здымаў яго сёння памылкова, прыняўшы за другога... Не, ён не памыліўся, гэты фотакарэспандэнт: Каваль зрабіў ужо гэты подзвіг! Так, зрабіў, бо ўдзельнічаў у той працы, у тым вялікім змаганні, да якога рыхтаваўся некалькі год шматтысячны калектыў будаўнікоў! Няхай пра яго, Петруся, не напішуць у газетах. Няхай!.. Але хто выкрасліць з яго памяці, і ўвогуле з рэчаіснасці, той факт, што да яго, Каваля, прыбег Стаеў, каб падзяліцца сваёй радасцю?..

Вялікая ўдзячнасць да людзей апанавала яго. Людзі, таварышы — чэсныя і мужныя таварышы — выратавалі яго ад душэўнага надлому і павялі за сабой на нялёгкую дарогу жыцця. Стаеў казаў, што па такіх дарогах ходзіць шчасце... Мабыць, ён казаў праўду. Так, праўду! Гэта і ёсць праўда! Каб жа можна было абняць увесь свет — ён абняў бы і яго! — каб можна было падзяліць сваю радасць і аддаць яе людзям! Так, ён бы і гэта зрабіў!.. Зрабіў бы, бо прыносіць людзям шчасце — гэта куды больш радасна, чым змагацца толькі за сваё, маленькае шчасце. Так робяць Паліна, Стаеў, Дубнік. Так робіць і Косця, і Антохін, і шмат іншых добрых людзей, якіх ён знайшоў на будоўлі. І цяпер так будзе рабіць і ён — Каваль!..

А тая невядомая сіла, што падступіла да яго, цяпер ужо бунтавала і рвалася вонкі з сардэчных глыбінь, і ён не мог утаймаваць яе. Нейкі момант Каваль глядзеў на скальныя выступы Жураўліных Грудзей, на чорны горб Пурсея, на барвовы ўжо далягляд над сопкамі, на бліскуча белы бляск электразваркі і раптам сарваў з галавы зашмальцаваную кепку, крутнуў ёй у паветры і закрычаў асіплым голасам:

— Гэ-гэээээй!

Закрычаў і, усё яшчэ цягнучы гэтую высокую асіплую ноту, пайшоў у скокі. Гэта быў нейкі дзіўны танец — першы ў жыцці! Стаптаныя кірзавыя боты лупілі з такім запалам, што ўмомант вакол яго ўжо віраваў цэлы круг. Дошкі моста стагналі. Нейківаспаваты мужчына лоўка прысвіснуў і грузна пайшоў уприсядку вакол яго: яму падсвіствалі, кахкалі, пляскалі далонямі; аднекуль з'явіўся дыспетчар, праціснуўся ў круг, ускінуў свой сцяжок і, фарсіста памахваючы ім, пайшоў, дробна пастукваючы падкутымі абцасамі.

А тая невядомая сіла, што падступіла да Каваля, па-

ранейшаму бунтавала ў яго душы. Па мокрым ад вадзяных пырскаў камені ён спусціўся да вады. Зачэрпнуў жменю, пырснуў на твар. Следам за ім спусціўся да вады Стаеў, падаспеў Антохін і, клічучы іншых шафёраў з моста, крычаў:

— Апошняя вольная вадзіца! Хлопцы! Гаючая!

Грозна білася на каменнай градзе зеленаватая ангарская вада. Вадзяныя пырскі блішчалі на тварах людзей, і ніхто з шафёраў не заўважыў, што на шчоках Каваля, які ішоў ужо да сваёй машыны, яны чамусьці самыя ярчэйшыя...

*Брацк — Полацк*
*1956—1960*

# ЗМЕСТ



**Александр Онуфриевич**
**САВИЦКИЙ**

**Избранные произведения в 2-х томах**
**Том 1**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *П. З. Шаўцоў.* Мастак *Н. Ул. Сустава.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктар *Я. А. Бебель*

ІБ № 2202

Здадзена ў набор 13.04.84. Падп. да друку 30.11.84. АТ 05788. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 24,78+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 24,89. Ул.-выд. арк. 27,82. Тыраж 9000 экз. Зак. 305. Цана 2 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.